# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ

## У ДВУХ ТАМАХ

Пад агульнай рэдакцыяй
доктара філалагічных навук
М. В. Нікалаева





# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ

Том 2

М. В. Нікалаеў,
Л. І. Доўнар, М. А. Лукоўская, Р. С. Матульскі

## Кніжнасць новай Беларусі
(XIX–XXI стст.)



Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2011

УДК 655.11(476)(091)
ББК 76.10(4Беи)
Г51

Выданне выходзіць з 2009 года

Навуковыя рэдактары тома: *В.В. Антонаў, М.В. Нікалаеў*

Выдаецца па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Г51 **Гісторыя беларускай кнігі**. У 2 т. Т. 2. Кніжнасць новай Беларусі (XIX—XXI стст.) / М.В. Нікалаеў [і інш.] ; навук. рэд.: В.В. Антонаў, М.В. Нікалаеў. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. — 436 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0599-7.

Двухтомнае выданне «Гісторыя беларускай кнігі» ахоплівае перыяд ад з'яўлення першых рукапісных кніг да пачатку XXI стагоддзя. Другі том прысвечаны беларускай кніжнай культуры ад часу ўваходжання Беларусі ў склад Расійскай імперыі да нашых дзён. Шматлікія ілюстрацыі паказваюць эвалюцыю мастацкай аздобы беларускай кнігі. Кніга будзе карыснай для студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ, гісторыкаў, філолагаў, краязнаўцаў, усіх, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі беларускай культуры.

**УДК 655.11(476)(091)**
**ББК 76.10(4Беи)**

**ISBN 978-985-11-0599-7 (т. 2)**
**ISB978-985-11-0480-8**

# ПРАДМОВА



Кніжная Рэч Паспалітая з падзеламі не знікла. У Беларусі яе існаванне працягвалася ў паэтычных зборніках мясцовых лірнікаў; у альварах, прыродазнаўчых падручніках і іншых кнігах, што выдаваліся Віленскім універсітэтам; у рэпертуары полацкай і магілёўскай друкарняў. Гандляры прапаноўвалі мясцовай публіцы варшаўскія і пазнанскія кнігі, польскія выданні з аўстрыйскіх цяпер Кракава і Львова — і публіка іх купляла. Кнігі з Расіі асаблівым попытам не карысталіся, а калі беларуская шляхта і набывала творы рускіх аўтараў, дык у польскіх перакладах. Пасля паўстанняў 1830—1831 і 1863—1864 гг. на беларускіх землях павялічылася колькасць землеўладальнікаў-расіян, якія збіралі ў сваіх новых маёнтках уласныя бібліятэкі. Польскія і лацінскія кнігі, канфіскаваныя ў дамах сасланых у Сібір паўстанцаў і ў зачыненых каталіцкіх манастырах, перадаваліся ў гімназіі і музеі Гродна, Вільні, Віцебска; самыя каштоўныя кніжныя помнікі вывозіліся ў Санкт-Пецярбург. На берагах Нявы, у Імператарскай публічнай бібліятэцы апынулася значная частка кнігазбору Сапегаў, кнігі з Полацкага іезуіцкага калегіума і Глыбоцкага кляштара кармелітаў босых; у зборы Акадэміі навук да бібліятэкі Радзівілаў, вывезенай сюды яшчэ ў 1772 г., былі далучаны кнігі Іосіфа Жабы, лепшая частка бібліятэкі і архіва Жыровіцкага манастыра (калекцыя епіскапа Паўла Дабрахотава) і шмат іншых.

Царская адміністрацыя неўзабаве ўзяла пад кантроль выдавецкую справу ў Паўночна-Заходнім краі: ва ўсіх губернскіх гарадах былі арганізаваны ўрадавыя друкарні, з варштатаў якіх сыходзілі не толькі найвышэйшыя загады, але і афіцыйныя газеты — губернскія і епархіяльныя ведамасці, памятныя кніжкі губерняў. Іх чытачамі былі не толькі чыноўнікі і вайскоўцы з Расіі, але і мясцовыя служачыя, святары, землеўладальнікі, прамыслоўцы, якія скончылі рускія паводле ідэалогіі краёвыя школы. Хаця рэпертуар мясцовых выданняў і пашыраўся, яны ўжо належалі да перыферыі, галоўны выдавецкі цэнтр перамясціўся ў сталіцу імперыі — Санкт-Пецярбург. Тут былі падрыхтаваны і выдадзены дзесяткі прысвечаных Беларусі навуковых прац — па прыродазнаўстве, фалькларыстыцы, гісторыі. Пры гэтым сталічны рэпертуар беларускай тэматыкі заўсёды быў шматмоўным — спачатку ў пераважнай меры польскім, потым рускім, а ад пачатку XX ст. у значнай ступені беларускім.

З тэхналагічнага боку развіццё кніжнасці ў XIX—XX стст. можна падзяліць на некалькі этапаў.

Першы, цесна звязаны з папярэднімі стагоддзямі, вызначаецца як «эпоха ручнога прэсу» — фармальна ён заканчваецца ў 1830-я гг. (агульнапрынятая для Еўропы і Расіі дата; для Беларусі яна крыху пазнейшая — машыны тут з'явіліся праз дзесяцігоддзе: напачатку ў Вільні, потым у іншых выдавецкіх цэнтрах). Другі

этап — масавай машыннай кнігавытворчасці — цягнецца дагэтуль, пераҗыўшы некалькі хваляў эвалюцыйнай (удасканаленне паліграфічнай тэхнікі) і рэвалюцыйнай (укараненне камп'ютэрных сродкаў падрыхтоўкі і выканання друку) мадэрнізацыі. З канца XX ст. імкліва нарастаюць адзнакі надыходу новай эпохі, якую дапасаваць да кніжнай культуры можна толькі з доляй умоўнасці: гэта час узнікнення мультымедыйнай электроннай прасторы. Яна дапускае, з аднаго боку, існаванне кнігі ў віртуальнай форме (у якасці матэрыяльных носьбітаў тэксту выступаюць аптычныя дыскі, флэш-карты і інш., што самі патрабуюць машынных сродкаў для чытання), а з другога — магчымасць інтэрактыўнага, сумеснага ўспрымання інфармацыі і нават уздзеяння на яе (у выглядзе адказаў, водгукаў, рэдагавання і г.д.).

У агульным плане гэтае двухсотгоддзе натуральным чынам рассякаецца амаль роўна напалам вялікай гістарычнай падзеяй — рэвалюцыяй 1917 г. у Расіі. Яна ўвасобіла ў сабе вышэйшую форму не толькі сацыяльнай, але і нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Таму мы маем права ў адносінах да Беларусі вылучыць асобы перыяд, для якога рэвалюцыйныя падзеі — не пераломны рубеж, а хутчэй храналагічны цэнтр, што з'явіўся кульмінацыяй папярэдняга і штуршком для наступнага развіцця, — перыяд «нацыянальнага адраджэння», ад яго першых адзнак у часы царскай імперыі (канец XIX — пачатак XX ст.) да ідэалагічнага і арганізацыйнага разгрому савецкай уладай у 1930—1938 гг.

Да пачатку XIX ст. беларуская кніга як самастойны феномен не існавала. Віленскі універсітэт з яго магутнымі выдавецкімі і інтэлектуальнымі рэсурсамі, якія распаўсюджваліся амаль на ўсю сістэму школ краіны, і разнастайныя каталіцкія, у тым ліку базыльянскія ордэнскія, друкарні выпускалі лацінкай польскамоўную кніжную прадукцыю, якая нічым не адрознівалася ад кнігі каронньай Польшчы. Віленскі бібліёграф Адам Ёхер без агаворак далучаў кніжную культуру ВКЛ і навейшую кніжнасць на яго землях да польскай традыцыі, што бачна ў назве яго грунтоўнай працы: «Бібліяграфічна-гістарычны вобраз літаратуры і навук у Польшчы ад пачатку ў ёй кнігадрукавання да 1830 года ўключна»[1].

Расійскі ўрад, усведамляючы небяспеку пашырэння ў Беларусі вызваленчага руху, які ў 1831 г. цалкам, а ў 1863 г. у пераважнай сваёй частцы прыняў формы руху нацыянальна-польскага, пачаў праводзіць натуральную ў такім выпадку двухвектарную палітыку: абмежаванне праяў польскасці і падтрымку «рускага пачатку». Прыкметы апошняга няцяжка было знайсці ў старой кніжнасці і былым справаводстве ВКЛ — іх мова і кірылічны алфавіт былі гэтаму відавочным аргументам. Беларуская кніга нечакана атрымала магчымасць адраджэння, якое заахвочвалася з двух бакоў. Русіфікатары апеліравалі да «даўніны», а значыць падтрымлівалі вывучэнне і публікацыю помнікаў старога пісьменства. З другога боку, мясцовы, істотна спольшчаны «шляхецкі народ» ужо не мог не заўважаць вялізнага непісьменнага «сялянскага народу», які жыў побач з панскім маёнткам і гаварыў па-беларуску і да якога звярталася расійская ўлада. Дзякуючы гэтаму палітычнаму аспекту павінна была з'явіцца і з'явілася пэўная плынь «легітымацыі»

беларускасці — яе праявы мы бачым ужо ў 1773 г. у Пецярбургу, калі Кацярына II засноўвае Беларускую каталіцкую епархію, і ў 1784—1795 гг. у Магілёве, дзе друкарня рыма-каталіцкага архіепіскапа выдае, хай сабе і на польскай мове, «Kalendarz białoruski…», і на пачатку наступнага стагоддзя ў Вільні, дзе выходзіць у свет «беларуская аповесць» Ганны Мастоўскай з Радзівілаў, якая пачынае расказ са знакавага вобраза злучанай Беларусі-Літвы: «Задоўга перад першым падзелам той часткі Літвы, якая завецца Белай Руссю, жыў у той правінцыі багаты шляхціц…»[2]. Але акрамя ідэалагічнага быў не менш важны аспект — эстэтычная значнасць мясцовай мовы і набыткаў народнай літаратуры. Этнографы і філолагі з абодвух бакоў літаральна накінуліся на распрацоўку гэтага амаль нечапанага «радовішча»: з рускага боку гэта былі ўраджэнцы Беларусі Іван Насовіч, Павел Шэйн, Аляксандр Сержпутоўскі, з польскага — Ян Чачот, Міхал Федароўскі і інш. Яны пісалі прадмовы да сваіх вялізных збораў адпаведна па-руску альбо па-польску, але асноўным напаўненнем гэтых тамоў былі аўтэнтычныя народныя казкі, прымаўкі, прыказкі, песні. Сама колькасць гэтых публікацый дапамагла нараджэнню магутнай плыні новай беларускай культуры, хаця Першая сусветная вайна і аслабіла сілу не да канца яшчэ падрыхтаванага зараду.

Адразу пасля рэвалюцыйных падзей 1905 г. разначынная беларуская інтэлігенцыя ў двух сталіцах — Вільні і Пецярбургу — пачала кнігавыданне на адроджанай беларускай мове (назваць яе літаратурнай доўга яшчэ не выпадала). Не дзіва, што адразу ж з'явіліся аўтарытэтныя крытыкі. Пецярбургскія знакамітасці — паляк з французскім прозвішчам і вялікім навукова-філалагічным наробкам, прафесар Іван Бадуэн дэ Куртэнэ і не менш славуты акадэмік-славіст Ізмаіл Сразнеўскі — адносна беларускай мовы паказалі аднолькавую рэакцыю: Сразнеўскі як цэнзар забараніў беларускую кніжку Аляксандра Рыпінскага, як рэдактар — «замарозіў» «Словарь белорусского наречия» Насовіча, а Бадуэн адзначыўся выразным двухмоўным запісам на падоранай яму беларускай кніжцы: «Głupstwo kapitalne!» і «Ерунда, белиберда, сапоги всмятку!»[3]. Падобныя карыфеі ў навуцы, як і ў палітыцы, сцішвалі працэс беларускага адраджэння. За акадэмічным Сразнеўскім прагледаліся фігуры значна больш прамалінейных русіфікатараў накшталт Аляксандра Мілавідава — дырэктара віленскага музея М. М. Мураўёва. Трэба сказаць, што спольшчаная шляхта з павагай прыслухоўвалася да такіх аўтарытэтаў. Мясцовая дэмакратычная інтэлігенцыя нават у пачатку XX ст. дэманструе, пры наяўнасці нейкага піетэту да «беларускасці», поўную адсутнасць хоць чагосьці, што нагадвала б нацыянальную ідэалогію. Выдадзеная ў Вільні ў 1907 г. польская кніжка з разважаннямі аб гістарычных правах розных нацый даволі нечакана заканчваецца сентыментальным беларускім вершам:

W hrudziach palić i sierce mleje
I tak markotna na duszy,
Kaliż dzianiok nam zajaśnieje
Czamu tak sierce mlejesz ty? [4]

Перамога рускай плыні над польскай была заканамернай, нягледзячы на тое, што палякі будавалі складаную сістэму інтэграцыі ў Еўропу (асабліва праз выданні эміграцыі) і каардынацыі сваіх аўстрыйскіх (Кракаў, Львоў), германскіх (Познань, Вроцлаў) і расійскіх (Варшава, Вільня) цэнтраў. Жыццё паўсюдна нараджала апазіцыю польскаму руху. Адным з месцаў нараджэння стаў пакойчык у пецярбургскім даходным доме, які ў 1840-я гг. здымалі на дваіх студэнты Маўрыкій Вольф і Уладзімір Спасовіч, яўрэй і беларус. Адзін з іх стане ў недалёкай будучыні мільянерам і расійскім кнігавыдаўцом нумар адзін, а другі — першым адвакатам сталіцы і прыхільнікам кампрамісу паміж рускімі і палякамі. Менавіта ў вучоным асяродку групуюцца сілы, спрыяльныя беларушчыне: акадэмік Афанасій Бычкоў забірае з акадэмічнай друкарні два гады не чытаную Сразнеўскім карэктуру слоўніка Насовіча і аператыўна рыхтуе яе да выдання, магчыма, па просьбе свайго даўняга сябра, прафесара-санскрытолага і рэдактара навуковых прац Імператарскай публічнай бібліятэкі беларуса Каэтана Касовіча[5].

Пачаўшы ўстойлівы рост ад «Словаря белорусского наречия», беларускамоўная кніга развівалася няўхільна ажно да канца 1929 — пачатку 1930 г., калі ва ўнутранай палітыцы савецкай улады сталінская лінія на падтрымку нацыянальнага развіцця, прыпраўленая ідэяй адказнасці РСФСР перад іншымі народамі за былыя царскія прыгнёт і эксплуатацыю, змянілася барацьбой (ініцыяванай тым жа Сталіным) з любымі праявамі мясцовай самастойнасці і асобнасці ад Масквы. Не зважаючы на абставіны, напачатку эпохі рэпрэсій (1931—1938) рэпертуар беларускамоўнай кнігі ахопліваў ужо пераважную большасць сфер карыстання гэтым прадуктам цывілізацыі, тое ж датычыць і перыядычнага друку — газет і часопісаў.

Смерць Сталіна ў 1953 г. і далейшае асуджэнне яго прыёмаў і метадаў у палітыцы дыскрэдытавалі і яе нацыянальны складальнік, а абвешчаны М. Хрушчовым у 1961 г. курс на «разгорнутае будаўніцтва камунізму» ў спалучэнні са «зблiжэннем і ўсебаковым узаемным узбагачэннем культуры савецкіх сацыялістычных нацый» садзейнічаў пэўнаму нігілізму ў адносінах да нярускіх моў і культур, што пазней адбілася ў брэжнеўскай характарыстыцы рускай мовы як «мовы міжнацыянальных зносін»[6]. Негатыў гэтай ідэалагічнай спадчыны адгукаецца беларускаму кнігавыданню і сёння.

У храналагічных рамках 1917—1939 гг. прынята больш гаварыць аб «савецкім перыядзе», што паказвае на трактаванне Беларусі як краіны з нацыянальным цэнтрам у Мінску.

Сапраўды — пасля Першай сусветнай вайны беларускае кнігавыданне найбольш развіваецца ў Мінску, на другім месцы (да эпохі рэпрэсій) знаходзіцца Масква, якая забяспечвае беларускімі кнігамі вайскоўцаў, а таксама населеныя беларусамі часткі Віцебшчыны, Смаленшчыны, Гомельскай, Бранскай і Пскоўскай абласцей у складзе РСФСР. Вільня (разам з Беластокам, Гроднам, Навагрудкам і іншымі заходнімі гарадамі з беларускім насельніцтвам) па тыражах беларускіх кніг застаецца на трэцім месцы, хаця па колькасці назваў пераўзыходзіць Маскву.

Пасля 1945 г. галоўным цэнтрам беларускага кнігавыдання ў свеце робіцца Мінск, пакідаючы іншым гарадам, як з аўтэнтычным беларускім насельніцтвам (Гродна, Віцебск, Беласток, Вільня, Гомель і інш.), так і замежным (Нью-Йорк, Масква, Варшава), вельмі малую долю нацыянальнага рэпертуару. Такая канцэнтрацыя мае як пазітыўныя, так і негатыўныя наступствы. Пасля стварэння незалежнай Рэспублікі Беларусь тэндэнцыя паступова выпраўляецца: беларускія кнігі часцей з'яўляюцца ў абласных цэнтрах. Змяняецца малюнак беларускага кнігавыдання і ў далёкім замежжы: яно альбо спыняецца, альбо пераносіцца ў Мінск, пад апеку таварыства «Бацькаўшчына».

***

Беларускую кнігу канца XVIII — пачатку XXI ст. мы можам разглядаць як з'яву ў палітычных межах (Расійскай імперыі, БССР ці Рэспублікі Беларусь) і, з іншага боку, у межах этнічных ці па-за імі — на Радзіме і ў эміграцыі. Беларускі кніжны свет, шматгалосы і стракаты, раз'яднаны і тым не менш унутрана непарыўны, — быў той глебай, на якой адраджалася і развівалася ўласна беларускамоўная кніга, фарміруючы адначасова своеасаблівую кніжную прастору, захоўваючы і адлюстроўваючы універсум нацыянальнай культуры.

Разнамоўны характар кнігавыдавецкай прадукцыі Беларусі стаў адной з прычын яе разрозненага бібліяграфавання і ўключэння ў расійскія і польскія паказальнікі і каталогі, выбарачнага ўліку і ў беларускіх бібліяграфічных працах, што на доўгі тэрмін адцягнула складанне поўнай айчыннай нацыянальнай бібліяграфіі. Кола бібліяграфічных прац, у якіх утрымліваюцца звесткі па азначанай тэме, даволі шырокае і разнастайнае як па моўнай, так і па тэрытарыяльнай, змястоўнай прыкметах, па відах выданняў і інш.

З самых ранніх па часе выхаду бібліяграфічных даследаванняў, якія маюць адносіны да кнігавыдання ў Беларусі і ўлічваюць беларускія выданні, неабходна назваць працу Андрэя Шторха і Фёдара Адэлунга «Систематическое обозрение литературы в России в течение пятилетия, с 1801 по 1806 год» (ч. 1—2. Санкт-Петербург, 1810—1811), у другой частцы якой пазначаны выданні друкарні Полацкай езуіцкай акадэміі. Аўтары агляду лічылі, што падобны бібліяграфічны ўлік літаратуры ў Расіі не можа быць абмежаваны кнігамі, напісанымі толькі на рускай мове і расійскімі аўтарамі, а павінен таксама ўключаць усе «произведения литературы сей империи и всех писателей, гражданами оной почитаемых»[7]. Адзначаючы важнасць названай працы, яшчэ расійскі даследчык Васіль Сопікаў падкрэсліваў, што гэта толькі малая частка «того сочинения, которое бы достаточно могло удовлетворить общему желанию нашей словесности»[8]. Класічная праца самога В. Сопікава «Опыт российской библиографии…» (ч. 1—5. Санкт-Петербург, 1813—1821) у 5 частках хоць і пашырае кола ўлічаных беларускіх выданняў, аднак таксама толькі часткова. Адпаведна ў ёй зафіксаваны кнігі грамадзянскага друку, якія выйшлі да 1813 г., а таксама асобныя і да 1818 г. (адно віцебскае выдан-

не, 10 гродзенскіх, 21 магілёўскае, па 2 нясвіжскія і полацкія, якія размешчаны ў храналагічным парадку). У пошуку беларускіх выданняў паводле бібліяграфічнай працы Сопікава дапамагае і «Указатель книг, печатанных в провинциальных городах и за границей», змешчаны ў складзеным Уладзімірам Рагожыным «Указателе к «Опыту российской библиографии» В.С. Сопикова» (Санкт-Петербург, 1908).

Пэўны тэарэтычны ўклад ва ўдасканаленне метадалогіі расійскай кніжнай статыстыкі зрабіў Пётр Кепэн, які паказваў у сваіх «Библиографических листах» (Санкт-Петербург, 1819, 1826, 1827) месцазнаходжанне выданняў. Аднак і яго статыстычныя табліцы, як, напрыклад, «Число сочинений, напечатанных на разных языках в отечественных типографиях в течение 1825 года», не пазбаўлены недакладнасцей і памылак адносна ўліку беларускіх выданняў і друкарняў. Так, ён паказвае толькі тры друкарні на тэрыторыі Беларусі — у Гродне, Магілёве і Полацку.

Беларускія выданні кірылічным і грамадзянскім шрыфтам у некаторай ступені атрымалі адлюстраванне і ў расійскіх каталогах савецкіх часоў, такіх як «Сводный каталог русской книги гражданской печати XVIII века (1725—1800)» (т. 1—4. М., 1962—1967), «Сводный каталог книг на иностранных языках, изданных в России в XVIII веке, 1701—1800» (т. 1—3. Ленинград, 1984—1986), «Кириллические издания старообрядческих типографий конца XVIII — начала XIX века» (Ленинград, 1991).

Першым жа вопытам стварэння нацыянальнага рэпертуару кніг і перыядычных выданняў у Беларусі стала праца, аўтарам якой быў бібліёграф, прафесар і дэкан факультэта фізічных навук Віленскага універсітэта Міхал Пелка-Паліньскі (1784—1848). На жаль, яго «Спіс кніг, выйшаўшых у Беларусі ад узнікнення кнігадрукавання да нашага часу» (1847) застаўся ў рукапісе. У ім была зроблена спроба звесці разам усё, што выдавалася на тэрыторыі Беларусі, паводле тапаграфічнай прыкметы. Нягледзячы на непаўнату ўліку, гэта бібліяграфічная праца ўяўляе значную крыніцазнаўчую каштоўнасць, бо яна адзіная, у якой зафіксаваны 217 назваў нідзе не ўлічаных беларускіх выданняў[9].

У 1840 г. у Вільні выйшаў першы том згаданай працы Адама Ёхера «Obraz bibliograficzno-historyczny literatury i nauk w Polsce…», якая стала і адной з ранніх бібліяграфічных крыніц па ўліку беларускіх польска- і лацінамоўных выданняў, некаторыя з якіх зафіксаваны толькі ў дадзеным паказальніку, як, напрыклад, два мінскія выданні, не адлюстраваныя ў іншых крыніцазнаўчых матэрыялах. Сёння карыстацца дадзенай крыніцай можна і пры дапамозе інтэрнет-рэсурсу, прадстаўленага на сайце Кракаўскага універсітэта: http://www.estreicher.uj.edu.pl/jocher/.

Важкай і каштоўнай бібліяграфічнай крыніцай з’яўляецца манументальная «Bibliografia polska» Караля Эстрайхера ў 33 тамах, аб’яднаных у 4 часткі (выходзілі пачынаючы з 1872 г.). Кніга змяшчае амаль поўны пералік польскамоўных выданняў з 1455 да 1900 г., адлюстроўваючы ў тым ліку значную колькасць беларускіх, з якіх 116 улічаны ўпершыню (таксама існуе ў электронным фармаце: http://www.estreicher.uj.edu.pl). Асноўная прыкмета, па якой аўтар адбірае кнігі, — гэта пры-

належнасць да польскай культуры, у першую чаргу па мове, незалежна ад месца выдання. Таксама ўлічаны кнігі замежных аўтараў на іншых мовах, калі яны мелі краязнаўчы характар. Галоўным недахопам дадзенай крыніцы з'яўляецца адсутнасць дапаможных паказальнікаў, таму што бібліяграфічныя запісы складзены ў алфавітным парадку. Праўда, ёсць храналагічная частка, аднак выяўленне кніг, выдадзеных на тэрыторыі Беларусі, неабходна ажыццяўляць шляхам суцэльнага прагляду. Тыя ж прынцыпы бібліяграфавання захаваны і ў працягу названай працы «Bibliografia Polska. 1901—1939», які ўзяла на сябе Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве. З 1986 да 2009 г. выйшла 11 тамоў.

Істотнай крыніцай пошуку з'яўляецца апісанне калекцыі Russica Імператарскай публічнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу[10]. Найбольш даступнай і зручнай бібліяграфіяй беларускіх выданняў на польскай і заходнееўрапейскіх мовах застаюцца паказальнікі Марыі Васілеўскай[11], у якіх прысутнічае раздзел «Издано в Белоруссии». Аднак дадзеныя бібліяграфічныя паказальнікі з'яўляюцца далёка не поўнымі.

Грунтоўнай бібліяграфічнай крыніцай аб 17 тыс. выданняў на яўрэйскіх мовах (ад пачатку друку да 1868 г., у тым ліку на тэрыторыі Беларусі) служыць «Рэпертуар яўрэйскіх друкаваных і рукапісных кніг», які выдаў Якаб Беньякоб у 1880 г. у Вільні[12]. У алфавіце назваў складзеныя каталогі збораў рукапіснай і друкаванай кнігі на яўрэйскіх мовах, якія адначасова пабудаваны на выкарыстанні матэрыялаў з названага бібліяграфічнага выдання, а таксама яго працягваюць і дапаўняюць. Гэта «Bibliotheca Friedlandiana. Catalogus librorum impressorum Hebraeorum in Museo Asiatico Imperialis Academiae Scientiarum Petropolitanae asservatorum» (т. 1—7. Petropoli, 1893—1918) і «Bibliographie der Oster-Haggadach. 1500—1900» (St. Petersburg, 1902) Самуэля Вінэра (Samuel Wiener), у якіх адлюстраваны не толькі яўрэйскамоўныя выданні з Беларусі, але і калекцыі буйнейшых збораў, напрыклад, М.Л. Фрыдланда, Д.Г. Гінцбурга, І.Д. Бампі, Л. Рабіновіча, самога С. Вінэра. Прадмовы Вінэра да каталога «Bibliotheca Friedlandiana» выконваюць ролю своеасаблівых гістарычных і бібліяграфічных аглядаў яўрэйскай кнігі. Аднак пошук менавіта беларускіх яўрэйскіх выданняў патрабуе таксама прымянення метаду суцэльнага прагляду. Праўда, магчыма выкарыстанне некаторых сучасных выданняў, як, напрыклад, «Hebrew printing from its beginning until 1948. A gazetter of printing, the first books and their dates with photographed titell-pages and bibliographical notes» (Jerusalem, 1992) М. Розенфельда (M. Rosenfeld), дзе яўрэйскія першадрукі пададзены паводле геаграфічнага прынцыпу. Адзінай бібліяграфічнай крыніцай, складзенай у Беларусі, у якую ўвайшлі і некаторыя яўрэйскія выданні, з'яўляецца праца «Летопись печати БССР. Часть 3. 1917—1924. Тетрадь 2. Издания на русском, польском, еврейских языках» (Минск, 1969) укладальнікаў Ю. Бібілы і Ф. Мерынай. Яўрэйскай тэматыцы прысвечаны паказальнікі літаратуры пецярбургскіх аўтараў Віктара Кельнера і Дзмітрыя Эльяшэвіча[13], у якіх упершыню адлюстраваны некаторыя выданні на рускай мове, не ўлічаныя ў айчыннай бібліяграфіі. Аднак

беларускія выданні на ідыш, якія ў значнай колькасці захоўваюцца ў Пецярбургу, яшчэ чакаюць свайго даследчыка, а таксама бібліяграфавання.

Невялікія тыражы мясцовых выданняў маглі стаць прычынай для залічэння іх у кола рэдкіх і нават антыкварных выданняў, таму з-пад увагі даследчыка беларускай кніжнасці не павінны выпадаць і каталогі букіністычнага гандлю[14], а таксама асобных выдавецтваў, бібліятэк і да т.п.[15]

Сярод ранейшых галіновых бібліяграфічных прац, у якіх упершыню ўлічана беларускамоўная і беларусазнаўчая літаратура, а таксама зроблены спробы выяўлення, сістэматызацыі і распрацоўкі прынцыпаў ідэнтыфікацыі помнікаў менавіта беларускага пісьменства і друку, сталі публікацыі Аляксандра Ельскага[16] і Яўхіма Карскага[17].

Найбольш поўна адлюстроўвае кніжны рэпертуар Беларусі XIX і пачатку XX ст. зводны каталог «Кніга Беларусі. 1517—1917» (Мінск, 1986; з абноўленым і дапоўненым варыянтам на кампакт-дыску 2006 г.), які ўлічвае выданні са збораў бібліятэк і музеяў Беларусі, Расіі, Літвы, Украіны, Польшчы, Германіі, Вялікабрытаніі, Швецыі, ЗША і іншых краін. Асноўнымі бібліяграфічнымі крыніцамі па друку савецкага часу выступаюць «Летапіс друку БССР», а таксама рэтраспектыўныя статыстычныя зборнікі Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі «Друк Беларускай ССР» за 1918—1980 і 1981—1990 гг. (Мінск, 1983—2002). Аднак, што датычыць выданняў як ваеннага (1941—1945), так і міжваеннага часу (1921—1939), асабліва ў Заходняй Беларусі, то і «Летапіс друку БССР. Кнігі і брашуры, выпушчаныя выдавецтвамі БССР за 1941—1945 гг.», выдадзены ў 1947 г., і асноўныя кнігазнаўча-бібліяграфічныя працы, напрыклад, «Окупационная печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны» Сяргея Жумара (Минск, 1996) ці «Беларуская кніга ў міжваеннай Польшчы 1921—1939» і «Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939—1944)» Юрыя Туронка[18], на сённяшні час патрабуюць яшчэ дапаўнення, а гэта значыць і пошукавай, і навукова-бібліяграфічнай працы. Застаецца адкрытым пытанне бібліяграфавання небеларускамоўнай кнігі савецкага перыяду. Публікацыі пазацэнзурнага друку часткова прадстаўлены каталогам «Пазацэнзурны перыядычны друк Беларусі (1971—1990)», складзеным Юрыем Лаўрыкам і Ларысай Андросік (Мінск, 1998), а таксама каталогам Расійскай нацыянальнай бібліятэкі «Без цензуры: периодика «самиздата» до и после распада СССР в фондах Российской национальной библиотеки» (Санкт-Петербург, 1999). Аднак асобныя кніжныя выданні, якія друкаваліся на тэрыторыі Беларусі ці за яе межамі, да сённяшняга дня не сталі аб'ектам бібліяграфавання.

Дзякуючы дзяржаўнаму бібліяграфічнаму ўліку праз Нацыянальную кніжную палату Беларусі і яе бібліяграфічным паказальнікам сучасныя беларускія выданні амаль поўнасцю атрымліваюць адлюстраванне і аналітыка-статыстычную характарыстыку. Тым большае значэнне ў сувязі з гэтым маюць грунтоўныя рэтраспектыўныя паказальнікі выданняў за межамі Беларусі, такія як «Беларускі друк на Захадзе: бібліяграфія» Вітаўта і Зоры Кіпеляў (Нью-Йорк; Варшава, 2006)

ці «Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: пэрыёдыка, графічныя друкі, 1945—2005» Юрыя Гарбінскага (Нью-Йорк; Варшава, 2009).

Шэраг беларускіх выданняў XVIII—XIX стст., і нават некаторых з 1-й паловы XX ст. і да нашых дзён, застаюцца зафіксаванымі толькі ў карткавых каталогах розных замежных і айчынных бібліятэчных і архіўных кнігазбораў (нават тое, што захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, не ўсё ўлічана ў каталогу «Кніга Беларусі. 1517—1917»). Шматлікія мінскія выданні XIX — пачатку XX ст. на рускай, польскай і яўрэйскай мовах[19] упершыню былі выяўлены зусім нядаўна.

Пэўныя цяжкасці рэтраспектыўнага бібліяграфавання разнамоўнай выдавецкай прадукцыі Беларусі звязаны і з тым, што шэраг выданняў захоўваецца за межамі краіны — у Расіі, Літве, Польшчы, Украіне і інш., што таксама выклікае праблемы іх выяўлення і вывучэння.

Што датычыць першых уласна беларускіх публікацый па гісторыі кнігі, якія адзначаюцца яшчэ з «нашаніўскіх часоў», то яны ў большасці сваёй толькі канспектыўнага характару, хоць з-пад увагі даследчыкаў не павінны выпадаць. Бо як асобны кірунак кнігазнаўчых даследаванняў, што вызначыўся ў 1920-я гг., дадзеная праца была звязана з нацыянальным адраджэннем, падчас якога беларуская кніга стала адным з галоўных апірышчаў у працэсе самаідэнтыфікацыі нацыі. Такія выдатныя дзеячы беларускага адраджэння, як У. Пічэта, Я. Карскі, А. Шлюбскі, Б. Эпімах-Шыпіла, М. Доўнар-Запольскі, В. Ластоўскі, М. Шчакаціхін, З. Даўгяла, С. Некрашэвіч, М. Мялешка, М. Каспяровіч, З. Жылуновіч, А. Станкевіч і інш., значную ўвагу надавалі кнігазнаўчым праблемам. У большасці сваёй іх працы акцэнтаваліся на пытаннях гісторыі беларускага пісьменства, рукапісных і старадрукаваных выданняў, што паказаў зборнік навуковых прац «Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925» (Мінск, 1926). Асобую крыніцазнаўчую каштоўнасць у сувязі з гэтым набываюць тагачасныя перыядычныя выданні: часопісы «Асьвета», «Беларуская культура», «Кніга — масам», «Крывіч», «Маладняк», «Наш край», «Полымя», «Узвышша», газеты «Беларуская доля», «Беларуская крыніца» і інш., а таксама навуковыя выданні, напрыклад, «Запіскі аддзелу гуманітарных навук» Інстытута беларускай культуры, на старонках якіх разглядаліся пытанні гісторыі кнігі, створанай як беларусамі, так і іншымі народамі Беларусі, што сведчыла аб фарміраванні ўжо ў тыя часы шырокага разумення такога феномена, як «беларуская кніга»[20].

З сярэдзіны 1950-х — пачатку 1960-х гг. адзначаецца паступовае вяртанне да спецыяльных навуковых кнігазнаўчых даследаванняў. Аднымі з першых публікацый па гісторыі кнігі ў межах вызначанага перыяду сталі артыкулы «Беларускія нелегальныя выданні ў XIX ст.» С. Варановіч (Беларусь. 1955. № 9) і «З гісторыі друкарскай справы ў Мінску» (з канца XVIII і да сярэдзіны XIX ст.) Сэндэр Палееса (Беларусь. 1957. № 9). На пачатку 1960-х гг. беларускае кнігазнаўства папаўняецца даследаваннямі Г. Галенчанкі[21], В. Зайцава[22], таксама абагульняючымі працамі, змешчанымі ў зборніках «400 лет русского книгопечатания. Русское книгопеча-

тание до 1917 года» (М., 1964) і «450 год беларускага кнігадрукавання» (Мінск, 1968).

Як найбольш плённыя ў галіне новых пачынанняў можна адзначыць 1970—1980-я гг., калі былі апублікаваны працы Лідзіі Збралевіч[23] і Яўгеніі Умецкай[24] па гісторыі кнігадрукавання ў Беларусі ў канцы XVIII і ў XIX ст., у якіх утрымліваецца значны гістарыяграфічны, крыніцазнаўчы і фактычны матэрыял. У 1970 г. у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Акадэміі навук БССР было распачата выданне першых кнігазнаўчых навуковых зборнікаў «Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии». У 1977 г. з'явілася і асобнае выданне — гістарычны нарыс «Книгоиздательское дело в Белоруссии» А. Воўка і А. Раковіча, які, нягледзячы на абмежавальныя ідэалагічныя падыходы, і сёння яшчэ служыць пэўным фактаграфічным дапаможнікам па развіцці друку ў савецкай Беларусі.

Сярод замежных выданняў гэтага часу адной з самых адметных з'яўляецца праца «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства» Аўгена Калубовіча[25], насычаная фактаграфічнымі дадзенымі па гісторыі беларускай кнігі.

З канца 1980-х гг., на хвалі пераасэнсавання сістэмы каштоўнасцей, узрасла таксама цікавасць да кнігі мінулага часу як да помніка матэрыяльнай, мастацкай і духоўнай культуры, што, у сваю чаргу, садзейнічала павелічэнню колькаснага і якаснага складу гісторыка-тэарэтычных даследаванняў па кніжнай культуры Беларусі. Новай з'явай стаў першы і адзіны альманах бібліяфілаў «Свіцязь» (Мінск, 1989), які змяшчаў як тэматычныя публікацыі, так і некалькі кнігазнаўчых даследаванняў рэгіянальнага кірунку. У 1990 г. выйшла кніга Н. Бярозкінай «Роль печати в распространении научных знаний в Белоруссии. 1861—1917», у якой даследавана роля друку Беларусі ў распаўсюджванні прыродазнаўчых і тэхнічных ведаў у вызначаны перыяд. Пазней з'явілася яшчэ адна праца дадзенага аўтара, рэкамендаваная ў якасці падручніка па гісторыі кнігадрукавання Беларусі да пачатку XX ст.[26] Аднак па-за ўвагай даследчыка засталася дзейнасць беларускіх друкарняў па выданні літаратуры на польскай, лацінскай, яўрэйскай і іншых мовах.

З 2-й паловы 1990-х гг. актывізаваўся працэс арганізацыі і правядзення міжнародных навуковых кнігазнаўчых канферэнцый, якія спрыялі пашырэнню кола кнігазнаўцаў і тэматыкі гісторыка-кніжных даследаванняў, што знайшло адлюстраванне ў адпаведных выданнях гэтых матэрыялаў[27]. Сярод сучасных распрацовак па гісторыі беларускай кнігі і кнігадрукавання як па асобных перыядах, так і паводле пэўных рэгіёнаў, тэм, дзейнасці асобных друкарняў і выдаўцоў, вызначаюцца працы Валерыя Герасімава, Алены Івановай, Юрыя Лаўрыка, Станіслава Нічыпаровіча, Таццяны Рошчынай, Тамары Самайлюк, Алены Цітавец і інш.

Неабходна адзначыць, што навука пра кнігу ў Беларусі на ўсіх этапах свайго развіцця ўключалася ў агульную праблематыку гуманітарных навук — філалогіі, гісторыі, філасофіі, мастацтвазнаўства, культуралогіі.

Беларуская кніга XVIII — пачатку XX ст. найбольш даследавана менавіта ў літаратуразнаўстве. Значны ўклад унесены такімі вучонымі, як Сцяпан

Александровіч, Ісідар Бас, Генадзь Кісялёў, Адам Мальдзіс, Уладзімір Мархель, Рыгор Семашкевіч, Язэп Янушкевіч. Іх працы, прысвечаныя кніжнай спадчыне Беларусі, служаць грунтоўнай крыніцай кнігазнаўчых ведаў, якія могуць выкарыстоўвацца ў даследаванні беларуска-польскіх і беларуска-рускіх кніжных сувязей, у зборы інфармацыі і выяўленні арыенціраў для бібліятэчна-бібліяграфічных пошукаў і далейшых даследаванняў. Шэраг публікацый першакрыніц быў зроблены менавіта беларускімі літаратуразнаўцамі, напрыклад, выданне «Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX стагоддзя» (Мінск, 1977; укладальнік Г. Кісялёў). Сярод сучасных абагульняючых літаратуразнаўчых прац асаблівую каштоўнасць уяўляе двухтомная «Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў» (Мінск, 2006—2007), дзе беларускамоўная кніга (мастацкая літаратура, літаратуразнаўства, публіцыстыка) паказана ў кантэксце развіцця грамадства, яго культуры, светапоглядаў і нацыянальнай свядомасці, змяшчае значную колькасць фактаграфічнай інфармацыі.

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францыска Скарыны ажыццяўляў правядзенне міжнародных навуковых канферэнцый, выпускаў выданні гісторыка-культуралагічнага характару. Так, у серыі «Беларусіка—Albaruthenica» (у 1993—2010 гг. выйшла 29 кніг, у асноўным пад рэдакцыяй А.В. Мальдзіса) былі апублікаваны, напрыклад, такія тэматычныя зборнікі, як «Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры» (1994, кн. 3), «480 год беларускага кнігадрукавання» (1998, кн. 9), «Скарыназнаўства, кнігазнаўства, літаратуразнаўства» (2001, кн. 20).

Фрагментарнасць і раскіданасць шэрагу звестак з апублікаваных крыніц, недасканаласць бібліяграфічных матэрыялаў даюць зразумець тое вялікае значэнне, якое маюць архіўныя зборы. Так, у фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі зберагаецца значны фактычны матэрыял аб тыпаграфскай вытворчасці ў Беларусі. У прыватнасці, звесткі аб адкрыцці, абсталяванні, фінансаванні і кадрах друкарняў у дакументах фондаў губернскіх праўленняў, канцылярый генерал-губернатараў, гарадскіх упраў, губернскіх друкарняў, асобных устаноў і таварystваў (упраўленне Лібава-Роменскай чыгункі, губернскіх статыстычных камітэтаў, таварystваў урачоў, сельскагаспадарчых, рэлігійных і інш.). Фактычным матэрыялам па тэме валодаюць Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, дзяржаўныя абласныя архівы. Разнастайныя дакументы па кніжнай справе Беларусі захоўвае Гістарычны архіў Літвы ў Вільнюсе, дзе зберагаюцца дакументы Віленскага цэнзурнага камітэта (фонд 1240), канцылярыі віленскага генерал-губернатара (фонд 378) і інш. У Расійскім дзяржаўным архіве ў Пецярбургу (фонд 772) утрымліваюцца каштоўныя звесткі па цэнзурнай практыцы кнігавыдання. Асаблівую цікавасць маюць пастановы, цыркуляры, прадпісанні, дакладныя запіскі, рапарты віленскіх цэнзараў аб прагледжаных кнігах. Пэўная частка матэрыялаў архіўных фондаў за 1795—1917 гг. знаходзіцца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве — гэта, у прыватнасці, акты органаў улады, устаноў і грамадскіх інстытутаў, сем'яў і прыватных асоб.

Даследавання і вывучэння патрабуюць фонды Нацыянальнага дзяржаўнага архіва Рэспублікі Беларусь на прадмет удакладнення і дапаўнення звестак аб савецкім кнігавыданні. Нягледзячы на раскіданасць і фрагментарнасць названых матэрыялаў, іх апрацоўка дае магчымасць дапоўніць дадзеныя, атрыманыя на аснове перагляду апублікаваных бібліяграфічных крыніц.

Асаблівую каштоўнасць для даследчыка ўяўляюць самі кнігі. Знаёмства са зместам прадмоў і непасрэдна з тэкстам дае магчымасць выявіць іх тэматыку, функцыі і г.д. Некаторыя выданні, у якіх змяшчалася інфармацыя бібліяграфічнага характару, служаць важкай крыніцай для далейшых пошукаў і знаходак.

Усе пералічаныя крыніцы ў сукупнасці складаюць значную навуковую базу, якая дазваляе паказаць стан і развіццё кнігавыдавецкай дзейнасці ў вызначаны перыяд, раскрыць тыпалагічны склад і змест кніжнага рэпертуару, вызначыць месца і ролю кнігі ў грамадстве.



Беларуская кніга
ў перыяд Расійскай імперыі
(1795—1917)



# БЕЛАРУСКАЯ КНІГА Ў ШЛЯХЕЦКАЙ «ВОПРАТЦЫ» (1795—1864)

Беларусь пасля падзелаў Рэчы Паспалітай 1772, 1793 і 1795 гг. увайшла ў склад Расійскай імперыі. Палітычнае, эканамічнае і нацыянальна-культурнае развіццё краіны аказалася пад уплывам новых абставін, звязаных як са знешнімі цывілізацыйнымі працэсамі: фарміраваннем капіталістычных адносін, зараджэннем і паступовым узмацненнем нацыянальнай свядомасці, так і са своеасаблівымі ўнутранымі працэсамі духоўных пошукаў беларусаў, якія адбываліся ў асяроддзі поліэтнічнага і поліканфесійнага грамадства. Імперыя змяніла адміністратыўны малюнак краю — новастворания губерні не адпавядалі ранейшым ваяводствам. Аднак паветы ўлады не кранулі, і шляхта прыняла змены без супраціўлення. Больш таго, паводле традыцыі папярэдняга часу з’явіліся друкаваныя ў выглядзе асобных кніжак урачыстыя прамовы, якія былі прысвечаны новаму па-дзелу. Напрыклад, полацкая друкарня выдала ў 1802 г. кнігу архікафедральнага магілёўскага каноніка Станіслава Шантыра, якая называлася: «Казанне ў дзень адкрыцця Магілёўскай губерні і выбару ўраднікаў, ласкава дазволенага найяснейшым манархам Аляксандрам І, імператарам і самаўладцам Усяе Расіі ..., найлітасцівейшага пана, прамоўленае ў Магілёўскай архікафедры дня 9 снежня 1801 г.». На беларускіх землях адкрываліся новыя дзяржаўныя ўстановы, рэгламент якіх друкаваўся мясцовымі друкарнямі (гро-дзенскай, віленскімі, полацкай, магілёўскай) паралельна рускай і польскай (альбо толькі польскай) мовамі. Прыкладам могуць быць кнігі, што выйшлі ў Гродне: «Палажэнне аб размежаванні Літоўска-Віленскай губерні, распаўсюджанае ўказам Сената і на губерню Літоўска-Гродзенскую» (кастрычнік 1811 г.) і «Публічнае адкрыццё судовай адукацыйнай камісіі для губерняў Літоўскіх, Беларускіх і Мінскай» (1808).

Высокія тэмпы росту гарадскога насельніцтва Беларусі на працягу 1795—1864 гг., якія пераўзышлі паказчыкі па Расіі, тлумачацца пераважна палітычнымі фактарамі, найперш — прымусовым высяленнем яўрэяў з вёсак і памешчыцкіх маёнткаў у гарады і мястэчкі. Статыстычныя звесткі аб канфесійным складзе гарадскога насельніцтва Мінскай губерні на канец XVIII — пачатак XIX ст. паказваюць такую карціну: іудзеі — 50,5%, праваслаўныя — 38,4%, уніяты — 5,4%, католікі — 4,8%, што было характэрна і для іншых рэгіёнаў Беларусі[28]. Надрукаваны ў 1-й палове XIX ст. даведнік «Peuples Russes» (S.l.S.d.) зафіксаваў менавіта такі склад, змясціўшы малюнкі яўрэяў як характэрных тыпаў для трох з шасці беларускіх губерняў.

У галіне асветы дзейнічалі ўстановы двух розных школьных сістэм — расійскай і польскай (засталася пасля Адукацыйнай камісіі), а таксама манастырскія уніяцкія і каталіцкія навучальныя ўстановы, у якіх можна было атрымаць адукацыю на польскай, рускай, яўрэйскай, французскай і нямецкай мовах.

У 1803—1804 гг. у Расіі пачалася рэформа ў сістэме адукацыі, якая закранула Беларусь і расцягнулася тут на многія гады. 4(16) красавіка 1803 г. імператар Аляксандр І падпісаў акт аб пераўтварэнні Галоўнай віленскай школы ў Імператарскі Віленскі універсітэт. Дзякуючы спрыяльным умовам, што забяспечваліся даходамі з паезуіцкіх маёнткаў, і апецы князя Адама Чартарыйскага універсітэт хутка развіваўся. У часы кіравання рэктара Яна Снядэцкага (1807—1814) да выкладання прыцягваецца ўсё больш мясцовых кадраў. Універсітэт становіцца цэнтрам патрыятычнага руху, узнікаюць таварыствы шубраўцаў, філаматаў і філарэтаў, большая частка якіх была закрыта з прызначэннем М. Навасільцава апекуном навучальнай акругі на месца А. Чартарыйскага ў 1824 г.[29] Сутнасць арганізаваных Навасільцавым рэформ



ПОЛОЖЕНІЕ

О РАЗМЕЖЕВАНІИ ЛИТОВСКО ВИЛЕНСКОЙ ГУБЕРНІИ

Указомъ Правительствующаго Сената Маія 29. дня 1811. года распространенное и на Литовско Гродненскую Губернію.

POSTANOWIENIE

O ROZGRANICZENIU GUBERNII LITT: - WILENSKIEY.

Ukazem Rządzącego Senatu dnia 29. Maia 1811. Ru i do Gubernii Litewsko-Grodzieńskiey rozciągnione.

z Tłumaczeniem poprawnem.

Drukowano w Grodnie dnia 20. Pazdziernika 1811. Ru

Тытульны ліст кнігі «Палажэнне аб размежаванні Літоўска-Віленскай губерні, распаўсюджанае ўказам Сената і на Літоўска-Гродзенскую губерню». Гродна, 1811 г.



PUBLICZNE OTWARCIE

Kommissyi Sądowey Edukacyyney dla Guberniy Litewskich, Białoruskich i Minskiey.



Dnia 27 Kwietnia roku bieżącego 1808 o godzinie 11 z rana w mieście Guberskiém Wilnie w sali biblioteczney Uniwersytetu Wileńskiego, było publiczne otwarcie urzędowania Kommissyi Sądowey do funduszów edukacyynych dla Guberniy Litewskich, Białoruskich i Mińskiey, Naywyższym Cesarskim Ukazem w dniu 21 Grudnia roku przeszłego 1807 Rządzącemu Senatowi wydanym postanowioney, w przytomności JJWW. Generała od Infanteryi Gubernatora Woiennego Litewskiego i Kawalera wielu Orderów Korsakowa, Stanu Konsyliarza i Wice - Gubernatora Litewsko - Wileńskiego Bahohuwuta, Taynego Konsyliarza Ohomińskiego, przeszłego Szefa Gwardyi Litt. Tyzenhauza, Konsyliarza Stanu Niemcewicza, Marszałka Słonimskiego Pusłowskiego, przeszłego Obożnego Litewskiego Pocieia, Xiążęcia Druckiego Lubeckiego, Hrabiów Kazimierza i Stanisława Platerów, i wielu innych tak z Duchowieństwa iak z Urzędników i Obywatelów na ten Akt licznie zgromadzonych, niemniey też w przytomności Rektora, Professo-

A

Тытульны ліст кнігі «Публічнае адкрыццё судовай адукацыйнай камісіі для губерняў Літоўскіх, Беларускіх і Мінскай». Гродна, 1808 г.

адукацыі зводзілася да падрыхтоўкі лаяльных да царызму спецыялістаў.

З пачатку XIX ст. царскі ўрад праводзіць рэформу друку і кнігавыдавецкай справы. Згодна з указамі ад 31 сакавіка 1801 г. і 9 лютага 1802 г. была, па сутнасці, скасавана забарона вольнага (прыватнага) друку, якая дзейнічала ў Расіі ў 1783—1796 гг., і было дазволена прыватнае кнігадрукаванне. Указ 1807 г. абавязваў губернатараў выдзяляць сродкі на заснаванне і ўтрыманне пры губернскіх праўленнях дзяржаўных губернскіх друкарняў. Цэнзура перадавалася універсітэтам вучэбных акруг, а агульнае кіраўніцтва — Міністэрству народнай асветы. Згодна з прынятым у 1804 г. статутам аб цэнзуры на цэнзурныя камітэты універсітэтаў ускладалася задача цэнзуравання кніг свецкага зместу. Паводле названага статута быў створаны Цэнзурны камітэт пры Віленскім універсітэце для прагляду твораў, якія выдаваліся універсітэтам і атрымліваліся ім з-за мяжы, а таксама ўсіх кніг, што друкаваліся ў Віленскай навучальнай акрузе. Узначальваў камітэт рэктар. Гэта быў параўнальна ліберальны цэнзурны статут, які садзейнічаў стварэнню спрыяльных умоў для развіцця прыватнага кнігадрукавання.

Наступныя цэнзурныя статуты 1826 і 1828 гг. у адносінах да зместу кнігі мелі больш жорсткі і рэакцыйны характар. У адпаведнасці з цэнзурным статутам 1826 г. Цэнзурны камітэт пры Віленскім універсітэце быў закрыты, а замест яго ў жніўні 1827 г. быў створаны Віленскі цэнзурны камітэт, які папранейшаму знаходзіўся ў падпарадкаванні апекуна Віленскай навучальнай акругі і складаўся з трох членаў, адзін з якіх быў старшынёй[30].

Згодна са статутам 1828 г. старшынёй камітэта прызначаўся апякун акругі, а цэнзарамі — прафесары і ад'юнкты універсітэта. Кнігі рэлігійнага зместу знаходзліся пад кантролем нават двайной і трайной цэнзуры. Жорсткія меры ўрада наносілі вялікія страты яўрэйскаму кнігадрукаванню і асвеце, бо ў гэты час навучанне яўрэйскіх дзяцей вялося па рэлігійных кнігах, друк якіх на тэрыторыі Беларусі быў забаронены ў 1836 г. (акрамя Вільні). Для ўзмацнення нагляду за друкам у 1848 г. у Санкт-Пецярбургу быў створаны сакрэтны камітэт, які ажыццяўляў цэнзуру, займаючыся праглядам выданняў пасля іх выхаду ў свет. Дзейнічаў камітэт да 1855 г. У 1850 г. цэнзура была канчаткова аддзелена ад універсітэтаў, а на пасады цэнзараў прызначаліся чыноўнікі Міністэрства народнай асветы. З 1863 г. цэнзура перадавалася Міністэрству ўнутраных спраў.

На дэмакратызацыю кнігавыдання ў Беларусі аказала ўплыў паўстанне 1830—1831 гг., хоць яго наступствы былі звязаны з узмацненнем русіфікатарскай палітыкі ў галіне адукацыі і рэлігіі: быў закрыты Віленскі універсітэт, ліквідавана Віленская навучальная акруга (1832); у 1839 г. ажыццёўлена




Числ. Жит. 1,000,000
Простр. 870. ква. ми
МОГИЛЕВСКАЯ
Гран. съ Губ. Витебск, Минск, Смоленск и Черниговск
Губерн. Гор. Могилевъ при рѣкѣ Днѣпрѣ подъ 53°53'49" шир. 40° долг. разст. отъ С.Пет. 779¼ отъ Москвы 560¼ верс.
Уѣзд. Гг. Бабиновичи, Бѣлицы, Климовичи, Копысъ, Мстиславль, Орша, Рогачевъ, Старый Быховъ, Сѣнно, Чаусы и Чериковъ
Безуѣзд. Гг. Толочинъ и Шкловъ.
Прим.: Мѣст. Мѣстечко Гомель по своимъ ярмаркамъ и богатству жителей
Рѣки Днѣпръ, Друцъ, Сожа, Проня и Лучос.
Почва ровная, иловатая, мѣстами глинистая и песчаная
Произв. Ленъ, Хлѣбъ, Лѣсъ, Медъ, Извѣстков. камень и Желѣзная руда
Обит. кромѣ Россіянъ, Поляки, Литовцы и Евреи
Могилевская Шляхтянка 33.







*Асноўныя звесткі пра Віцебскую і Віленскую губерні ў даведніку «Peuples Russes». 1-я пал. XIX ст.*

масавая кампанія па «пераводу» уніятаў у праваслаўе, а уніяцкія і каталіцкія вучылішчы і школы пераўтвораны ў расійскія навучальныя ўстановы; у 1840 г. было адменена дзеянне Статута ВКЛ 1588 г., а замест назвы «Беларусь» стаў ужывацца тэрмін «Паўночна-Заходні край».

Палітыка, якую царскі ўрад праводзіў пасля паўстання 1863—1864 гг., рэзка змяніла сітуацыю як у асяроддзі мясцовай інтэлігенцыі, так і ў кнігавыданні. Рэпрэсіі супраць носьбітаў ідэй вызвалення сталі рэпрэсіямі найперш супраць усяго польскага і наогул нацыянальна-адметнага. Адной з мер стала забарона польскага шрыфту ў 1864 г. Дазволенымі прызнаваліся рускі і заходнееўрапейскія. Пад строгі царскі кантроль трапілі друкарні, кнігарні і бібліятэкі. Амаль уся паліграфічная і выдавецкая база была пераарыентавана на выпуск рускамоўнай літаратуры, а кнігарні і бібліятэкі — на яе распаўсюджванне. Разам з указам аб забароне польскага друку ў Беларусі адбывалася ўвядзенне ў дзеянне з 6 красавіка 1865 г. «Часовых правіл аб цэнзуры». Паводле гэтага цэнзурнага статута паліграфічныя прадпрыемствы аддаваліся пад кантроль чыноўнікаў для асобых даручэнняў пры губернскіх уладах — інспектараў, у абавязкі якіх уваходзіла «папярэджанне і спыненне тайнага кнігадрукавання». Ад папярэдняй цэнзуры (для арыгінальных твораў менш 10, а для перакладаў — 20 друкаваных аркушаў) вызваляліся Пецярбург і Масква, але не правінцыя, дзе папярэдні нагляд ажыццяўляўся агульнай і ведамаснай цэнзурамі. Перыядычныя выданні маглі быць вызвалены ад папярэдняй цэнзуры толькі спецыяльным рашэннем міністра ўнутраных спраў і пры ўмове вялікага грашовага залогу. Друк трапіў пад строгі кантроль карнай цэнзуры, які выконвала Трэцяе аддзяленне Міністэрства ўнутраных спраў.

30 верасня 1865 г. міністр унутраных спраў царскай Расіі Валуеў спецыяльным цыркулярам загадаў губернатарам: «1. Забараніць усім уладальнікам друкарняў, літаграфій і хромалітаграфій друкаваць на прадпрыемствах, якія належаць ім, якія-небудзь выданні на літоўскім і жмудскім дыялекце лаціна-польскімі літарамі. 2. Ужыць усе сродкі, якія будуць у руках губернатара, каб забараніць перавоз, продаж і распаўсюджванне такіх выданняў. 3. Паведаміць пра гэта распараджэнне ўсім уладальнікам друкарняў, літаграфій і хромалітаграфій, а ў выпадку парушэння гэтага цыркуляра канфіскаваць забароненыя выданні»[31].

← *Асноўныя звесткі пра Магілёўскую губерню ў даведніку «Peuples Russes». 1-я пал. XIX ст.*


УСТАВЪ О ЦЕНЗУРѢ.

USTAWA CENZURY.

WILNO.
Józef Zawadzki własnym nakładem.
1827.


БУКВАРЬ
для обученія
чтенію
по Россійски и по Польски,
съ прибавленіемъ морала, анекдотовъ, собранія нужнѣйшихъ словъ, стиховъ и проч.

ELEMENTARZ
DLA UCZENIA
CZYTAĆ
po Rossyysku i po Polsku,
z dodatkiem moralności, anegdót, zbioru potrzebnieyszych wyrazów, wierszy i t. d.

Cena groszy . . . . . 15.

WILNO. W Drukarni Uniwersyteckiey
1826.

*Цэнзурны статут. Вільня, 1827 г.*

*Буквар для навучання чытанню па-руску і па-польску. Вільня, 1826 г.*

Некаторыя беларускія даследчыкі, напрыклад Л. Лыч і У. Навіцкі, гавораць пра спецыяльны царскі ўказ 1867 г., якім забаранялася друкаванне кніг на беларускай мове[32]. Аднак, як адзначаў яшчэ калісьці А. Шлюбскі[33], а ў наш час і В. Герасімаў, пацвярджэння гэтаму факту ў нарматыўных актах няма[34]. Дакументальна афармленая забарона была б адначасова фактам афіцыйнага прызнання беларускай мовы, што было на той час проста немагчыма.

У 1-й палове XIX ст. (да 1864 г.) дамінуючым тыпам культуры заставалася польскамоўнае літвінства, засвоіўшы форму якой і ўзяўшы за аснову асветніцкі кірунак, развівалася і беларуская кніжная культура. Улічваючы палітычныя рэаліі і практычную неабходнасць, друкарня універсітэта распачынае выданне двухмоўнага руска-польскага буквара: тэксты для першай дзіцячай кнігі часткова паралельныя (пры канцы рускамоўных больш), вызначаюцца талерантнасцю (фігуруюць апавяданні, дзе галоўны герой — «адзін багаты музульманін»), як кур'ёз успрымаецца падзел лічбаў на «касцельныя» і «арабскія». Беларускія (альбо літвінскія) рэаліі ў гэтым папулярным (вядома пра 15 выданняў за 1826—1854 гг.) падручніку зусім не ўлічаны.

Тым часам узаемадзеянне беларускай і польскай моўна-пісьмовых сістэм, якое адбывалася на працягу XIX ст., выпрацоўвала не толькі інерцыю стрымлівання беларускамоўнага адраджэння, але і энергію яе выхаду з анабіятычнага стану[35]. Значны польскі ўплыў на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў быў адначасова адказам на расійскую экспансію: моўную, рэлігійную, культурную.

Для гэтага часу характэрна праяўленне агульнасці творчых і ідэйных мэт мясцовай інтэлігенцыі (найперш аднаўленне Рэчы Паспалітай і ВКЛ), што выражалася ў дзейнасці такіх згуртаванняў, як Таварыства шубраўцаў (1817—1822), Таварыства філаматаў Віленскага універсітэта (1817—1823), Таварыства мыслячай моладзі (1817—1820), Віленскае літаратурнае таварыства (1819—1820), антыпрамяністыя (1820), Віленскае тыпаграфічнае таварыства, Саюз дастойных мужоў (1820), Маральнае таварыства ў Свіслачы (1819—1820), дэмакратычнае таварыства Ф.А. Савіча ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі (1836—1839), Братні саюз літоўскай моладзі (1846—1849), Саюз літоўскай моладзі (1847—1851), патрыятычны вучнёўскі саюз у Свіслацкай гімназіі (1826),


OBLĘŻENIE MIASTA

MINSKA

TRAGEDYA HISTORYCZNA

z DZIEJOW OYCZYSTYCH NAPISANA

w CZTERECH AKTACH.

PRZEZ

K. NOWIŃSKIEGO A. D. T. P.

WILNO. u Alexandra Żołkowskiego w Drukarni XX. Pijarów.

1820.

*Тытульны ліст кнігі «Аблога Мінска. Гістарычная трагедыя». Вільня, 1820 г.*

«Племя сарматаў» у Вільні (1827) і інш. Усе яны следавалі польскай культурнай традыцыі і спадзяваліся з дапамогай мастацкага слова распаўсюджваць маральнасць і асвету сярод сялян, садзейнічаць узаемаразуменню паміж панам і селянінам. У шляхецкім асяроддзі фарміраваўся і нацыянальна-вызваленчы рух (паўстанні 1830—1831, 1863—1864 гг.). Менавіта ў гэты час духоўна-культурныя запатрабаванні беларускага грамадства знаходзілі ўвасабленне ў першых спробах вяртання беларускага друкаванага слова праз польскае пасрэдніцтва, моўнае і графічнае. Віленскія перыядычныя выданні «Kurier Litewski», «Dziennik Wileński», «Tygodnik Wileński» былі месцам фарміравання і канцэнтрацыі мясцовага патрыятычнага актыву.

Ужо ў 1810—1820-я гг. у віленскім друку пачынаюць з'яўляцца творы, звязаныя ў першую чаргу з цікавасцю да «краёвай» гісторыі, чаму спрыяла асветная праца членаў Таварыства філаматаў Віленскага універсітэта, якую яны спалучалі з імкненнем асэнсаваць інтарэсы народа. Падмацоўваўся гэты кірунак і афіцыйнай пазіцыяй самога універсітэта, які ў 1816 г. вяртаецца да ідэі пашырэння краязнаўчай дзейнасці, замацаванай «Інструкцыяй да складання па гімназіях і павятовых школах запісаў для розных навук» 1812 г. (Dziennik Wileński. 1816. № 2. S. 144—162). У камітэт па запісах пры універсітэце сталі паступаць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, некаторыя з якіх знаходзілі адлюстраванне ў перыядычным друку (М. Чарноўская, К. Лях-Шырма, З. Даленга-Хадакоўскі), у лекцыях выкладчыкаў універсітэта (напрыклад, Л. Бароўскага). Беларускі фальклор і мова ўваходзяць у паэтычныя творы Яна Чачота і Адама Міцкевіча — найбольш яскравых прадстаўнікоў рамантычнага кірунку ў літаратуры Беларусі. Праўда, як вядома, «не ўсё, створанае імі на беларускай мове, трапіла ў друк. Многае, застаўшыся ў рукапісах, загінула, у тым ліку беларускамоўная спадчына А. Міцкевіча»[36]. У віленскай друкарні Юзафа Завадскага з'яўляюцца першыя выданні паэта на польскай мове: у 1822 г. «Poezja» («Паэзія»), у 1823 г. — «Ballady i romanse» («Балады і рамансы»), выдаваць якія дапамагаў Я. Чачот. У аснове твораў А. Міцкевіча — беларускі фальклор, гісторыя Літвы-Беларусі. Да беларускага фальклору ў сваіх творах звярталіся Т. Зан, А. Ходзька і іншыя «паэты-рамантыкі, якія пісалі па-польску, але сваім паходжаннем і жыццёвым лёсам лучыліся з беларускім краем, а ў гістарычных уяўленнях — з колішнім Вялікім княствам Літоўскім»[37]. Пры гэтам з'яўляліся безумоўна слабыя творы, накшталт п'есы К. Навінскага «Аблога горада Мінска. Гістарычная трагедыя», з прысвячэннем мінскаму маршалку Гілярыю Хмары, надрукаваная асобнай кніжкай «у Аляксандра Жулкоўскага ў друкарні ксянзоў піяраў» (Вільня, 1820 г.).

Шэраг беларускамоўных твораў, якія не траплялі ў друк, распаўсюджваліся ананімна ў спісах, як парадыйныя паэмы «Энеіда навыварат» В. Равінскага (1820-я гг.) і «Тарас на Парнасе» К. Вераніцына (1850-я гг.).

Першыя публікацыі беларускай песеннай творчасці звязаны з імем выпускніка наваградскай гімназіі Яна Чачота (1796—1847). Пры жыцці паэта з віленскай друкарні Юзафа Завадскага выйшлі дзве яго кнігі, якія змяшчалі беларускія тэксты. Першая (1844) называлася «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны, з дадаткам першатворных у славяна-крывіцкай мове». Невялічкую прадмову да яе аўтар скончыў бібліяграфічным аглядам выданняў, у якіх можна знайсці прыклады вырашэння эканамічных праблем большасці народа (сялян і беднай шляхты), акцэнтуючы ўвагу на «Ласкава зацьверджаных 25 верасня 1817 г. праз векапомнай памяці імператара Аляксандра I


PIOSNKI WIEŚNIACZE
Z NAD NIEMNA I DŹWINY,
z dołączeniem
PIERWOTWORNYCH
w mowie
SŁAWIANO-KREWICKIÉJ.
WILNO.
DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO.
1844.


PIOSNKI WIEŚNIACZE
Z NAD NIEMNA I DŹWINY,
niektóre
PRZYSŁOWIA
i
IDIOTYZMY,
w mowie Sławiano-Krewickiej,
s postrzeżeniami
nad nią uczynionemi.
WILNO.
DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO.
1846.

*Тытульны ліст кнігі Я. Чачота «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны, з дадаткам першатворных у славяна-крывіцкай мове». Вільня, 1844 г.*

*Тытульны ліст кнігі Я. Чачота «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны, некаторыя прыслоўі і ідыёмы ў славяна-крывіцкай мове са зробленымі над імі назіраннямі». Вільня, 1846 г.*

Палажэння і Уставы аб сялянах Курляндскай губерні, а таксама аб Уставе сялян Эстонскай губерні. Тыя паважныя справы, натхнёныя сапраўды хрысціянскімі пачуццямі, на падставе дасведчанасці і чыстага розуму, Чачот рэкамендуе ўвазе паважаных чытачоў, дзеля таго, каб яны вызваліліся ад сумнай патрэбы наракання на ўбоства і цяжкае жыццё каханых падданых-кмёткаў». Але пачынаецца прадмова разважаннямі пра духоўнасць крывіцкага народа, вось першы сказ: «Паэзія, якую называюць цяпер правінцыйна-гміннай, была праз стагоддзі для нашых продкаў агульнай: панскай, княжацкай, словам, народнай; яна павінна стаць вартай увагі нават тых, хто нічога добрага не хоча бачыць у правінцыйным і сялянскім»[38].

Другая беларуская кніга Я. Чачота выйшла праз два гады, у 1846 г., і мела назву «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны, некаторыя прыслоўі і ідыёмы ў славяна-крыўскай мове са зробленымі над імі назіраннямі». Пры тых жа фармаце (in 40) і колькасці старонак (132), што і ў першай кнізе, яна змяшчала нашмат больш матэрыялу, дзякуючы шчыльнаму набору і меншаму кеглю. Як і ў першай кнізе, тут ёсць набраныя лацінкай народныя песні, арыгінальныя вершы Я. Чачота на беларускай мове, але дададзены яшчэ прымаўкі, прыказкі і невялікі беларуска-польскі тлумачальны слоўнічак. Змешчаныя на першых 29 старонках кнігі назіранні Чачота былі не толькі першым грунтоўным нарысам асаблівасцей беларускай мовы ў параўнанні з іншымі славянскімі, найперш рускай і польскай, гэта была таксама праграма рознабаковага вывучэння «славяна-крывіцкага» народа, яго духоўнай спадчыны, матэрыяльнай і побытавай культуры: «…Варта нават зрабіць калекцыю сялянскага хлеба, які ўжываецца ў розных месцах у розныя поры году: зацікавіла б гэта нашчадкаў і больш карысная была б навука для сучаснікаў, чымсьці калекцыя каштоўных мінералаў»[39].

Да адраджэння беларускай мовы ў друку праз польскае пасрэдніцтва мелі непасрэднае дачыненне народжаныя ў Беларусі пісьменнікі А. Рыпінскі, У. Сыракомля, Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, В. Каратынскі і інш.,



XXXIV

*nie; a ktoby się podjął tej pracy, zasłużyłby sobie na wdzięczność nie tylko żyjącego pokolenia, ale i pewniejszą w przyszłości: bo jeśli radzi jesteśmy widzieć szczątki w pismach pozostałe celtyckiego, lub herulskiego języka; może kiedyś równą obudzać będzie i nie próżną ciekawość zabytek krewickiego dialektu, który, wątpić należy, aby sam został piśmiennym i kształcił się samodzielnie.*

*Polecając tę moję pracę życzliwej przychylności czytelników, czułych na los włościan serc ludzkich, i łaskawej uwadze badaczów sławiańszczyzny, błagam Ciebie* Boże, *abyś, jakeś użyczył mi czasu i możności na jej dokonanie, tak i pobłogosławić raczył!*

Pisałem r. 1845.
Kwietnia 23. w Bartnikach.

Jan Czeczot.

# PIOSNKI KREWICKIE
## Z NAD NIEMNA.

### Wielkonocna, czyli Wołoczonna.

I. *(Xiążeczki 4 piosnka I.)*

Dzień dobry dzień Panie Haspadaru!
Chrystôs waskrês Syn Boży.
Da cieràz pola da szyrôkoje,
Chrystôs *i t. d. po każdym powtarza się wierszu.*
Da cieràz mieży załaciônkije
Iszli ciekli wałaczônniczki,
Da pytali sie słàûnoho pana,
Słàûnoho pana, pana haspadara.
Da czymże jon ûsławiû sie?
I dabrôm swaim i dwarôm swaim.
Pamietajuć dwarê ûsio pawim pierôm,
Ûsio pawim pierôm, załatym (1) kryłom.
Staûlaje stały ûsio cisôwyje,

(1) Liter: j̄, ȳ braknie w Drukarni; w miejscu więc ich w dalszym ciągu użyte będą też same litery, z tem tylko, że, dla odróżnienia, w antykwie będzie kursywa, w kursywie zaś antykwa.

*Разварот кнігі Я. Чачота «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны». Вільня, 1846 г.*

творы якіх былі праявай культуры беларуска-польскага памежжа.

Для 1840—1850-х гг. для кніжнасці Беларусі характэрным тыпам кнігі з'яўляюцца зборнікі з уключэннем беларускамоўных твораў лацінскім шрыфтам і тэкстаў на польскай мове. Сярод іх (акрамя згаданых кніг Я. Чачота) выдадзеныя ў эміграцыі пасля паўстання 1830—1831 гг. творы Аляксандра Рыпінскага. У парыжскай «księgotłoczni J. Marylskiego» выйшла яго кніга «Białoruś. Kilka słów o poezji tego prostego ludu tej polskiej prowincji: o jego muzyce, śpiewach, tańcach…» (1840). Ва ўласнай друкарні, заснаванай у Лондане разам з І. Яцкоўскім, адвакатам з Наваградка, А. Рыпінскі выпусціў у 1850-я гг. аўтарскую беларускую баладу «Niaczyścik, ballada białoruska» (1853) і аповесць І. Яцкоўскага «Powieść z czasu mojego, czyli przygody litewskie» (1854), дзе быў змешчаны ў польскім перакладзе беларускі верш Паўлюка Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы». Балада «Нячысцік» акрамя Лондана выйшла таксама ў Познані (1853 г., друкарня Мерзбаха). Была спроба яе выданне і ў Санкт-Пецярбургу, але ў адпаведнасці з рэцэнзіяй на яе прафесара І. Сразнеўскага, да якога звярнуўся цэнзурны камітэт, яна не выйшла: «кніжка гэтая не можа быць ухвалена да друку рускаю цэнзурай, — па-першае, таму, што аўтар яе Аляксандр Рыпінскі вядомы як пісьменнік, адданы бунтоўным ідэям, і выказаў іх, між іншым, і ў дачыненні да Беларусі ў кніжцы «Białoruś»; па-другое, таму што яго балада «Niaczyścik» прапануецца да друку лацінскімі літарамі, тады як яна напісана па-руску на мясцовай гаворцы праваслаўных жыхароў Беларускага краю і хоць бы без шкоднай наўмыснай, але ўсё-такі не без магчымасці распаўсюджання ў народзе пісьменнасці лацінскай»[40].

У 1846 г. у Вільні ў «Друкарні Юзафа Завадскага» (як пазначана на тытуле выдання)[41] быў выдадзены і першы друкаваны твор В. Дуніна-Марцінкевіча «Sielanka» («Сялянка»), у якім разам з польскай мовай выкарыстоўвалася беларуская. У наступных чатырох выданнях В. Дунін-Марцінкевіч следуе вызначанаму кірунку і публікуе пры падтрымцы мінскага

→ *Убранне сялян з ваколіц Барысава. Гравюра з кнігі Я. Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павета...». Вільня, 1847 г.*

*Тытульны ліст кнігі Я. Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павета...». Вільня, 1847 г.*



WIEŚNIACY Z OKOLIC BORYSOWA

# OPISANIE

# POWIATU BORYSOWSKIEGO

POD WZGLĘDEM STATYSTYCZNYM, GEOGNOSTYCZNYM, HISTORYCZNYM, GOSPODARCZYM, PRZEMYSŁOWO-HANDLOWYM I LEKARSKIM.

**Z dodaniem wiadomości: o Obyczajach, Spiewach, Przysłowiach i Ubiorach Ludu, Gusłach, Zabobonach i t. d.**

Pour toute critique nous n'avons qu'un mot à répondre : *Faites mieux* et nous vous lirons avec plaisir, avec reconnaissance.
Weiss.

WILNO.
DRUKARNIA ANT. MARCINOWSKIEGO.
1847.

друкара Ёкеля Дворца паэму «Hapon. Powieść białoruska z prawdziwego zdarenia, w języku białoruskiego ludu napisana» (1855), зборнікі «Wieczarnice i obłąkany» (1855), «Ciekawyś? — Przeczytaj!» (1856) і «Dudarz białoruski, czyli wszystkiego potrosze» (1857)». На сваё шостае, буйнейшае і адзінае цалкам беларускамоўнае выданне В. Дунін-Марцінкевіч уласна арганізаваў падпіску: асноўныя сродкі былі сабраны пісьменнікам на Міншчыне (на с. 117—120 выдання змяшчаецца спіс падпісчыкаў) — гэта быў пераклад паэмы А. Міцкевіча «Pan Tadeusz» («Пан Тадэвуш»), які выйшаў у 1859 г. у віленскай друкарні Адама Сыркіна і быў адразу ж канфіскаваны[42]. У 1861 г. у Вільні ў той самай друкарні А. Сыркіна выйшла апошняя прыжыццёвая кніга пісьменніка — «Lucynka, czyli Szwedzi na Litwie». Гістарычнае апавяданне было надрукавана толькі на польскай мове. Амаль да пачатку 1890-х гг. апублікаваныя беларускамоўныя творы В. Дуніна-Марцінкевіча заставаліся найбольш значнымі праявамі нацыянальнага самасцвярджэння беларусаў[43].

Спрыяла нараджэнню беларускай нацыянальнай ідэі і пецярбургскае асяроддзе студэнтаў з былой Рэчы Паспалітай, у якім у канцы 1830-х гг. была ажыццёўлена спроба стварэння свайго друкаванага перыядычнага выдання. Такім выданнем стаў альманах «Niezabudka» («Незабудка»), а яго выдаўцом — Ян Баршчэўскі, які арганізаваў збор падпіскі на яго друк. У ліку падпісчыкаў на зборнік былі В. Дунін-Марцінкевіч, Р. Падбярэскі, А. Абрамовіч. Першы нумар альманаха выйшаў у лютым 1840 г. у пецярбургскай друкарні Караля Края. Усяго ў 1840—1844 гг. было надрукавана 5 тамоў. Першыя два рэдагаваў студэнт з Варшавы Вінцэнт Давід, наступныя — Людвік Штырмер (псеўданім — Герваза Бомба). Свае беларускамоўныя вершы Я. Баршчэўскі друкаваў і ў «Roczniku Literackim» (1843), выдаўцом якога быў Рамуальд Падбярэскі. Ён жа напачатку браўся і за выданне шматтомніка Я. Баршчэўскага «Szlachcic Zawalnia» («Шляхціц Завальня»), аднак аказаў падтрымку ў друку пецярбургскі выдавец Ян Эйнерлінг (знаёмы Я. Баршчэўскага па Полацкай езуіцкай акадэміі), а ў друкарні Караля Края ў 1844—1845 гг. выйшлі першыя тры тамы твора. Чацвёрты том быў выпушчаны ў іншай пецярбургскай друкарні — Эдварда Праца[44] ў 1845 г. «Шляхціц Завальня», напісаны на польскай мове, стаў галоўнай кнігай Я. Баршчэўскага, у якой ён закрануў усё кола пытанняў, звязаных з беларускай нацыянальнай думкай, космасам беларуса, філасофіяй і светапоглядная сістэмай народа.

Шырыліся і гісторыка-краязнаўчыя даследаванні Беларусі на польскай і рускай мовах, пацвярджэннем чаго з'яўляюцца «Piosenki gminne ludu Pińskiego» Рамуальда Зямкевіча (Коўна, 1851 г.); санкт-пецярбургскія выданні Івана Насовіча («Белорусские пословицы и поговорки», 1852 г.)[45], Паўла Шпілеўскага («Белорусские народные поверья», 1852 г.; «Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических сказках», 1853 г.; «Белорусские пословицы», 1853 г.; «Дожинки», 1857 г.; «Путешествие по Полесью и Белорусскому краю», 1858 г.) і інш. Найбольш грунтоўнай у гэтым шэрагу з'яўляецца манументальная праца графа Яўстафія Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павета: статыстычнае, геагнастычнае, гістарычнае, гаспадарчае, прамыслова-гандлёвае і лекарскае. З даданнем звестак аб звычаях, спевах, прымаўках і ўборах люду, гуслях, забабонах і гэт. дал.» (Вільня, 1847). Асноўны тэкст быў напісаны па-польску, тэксты народных песень і прыслоўяў пададзены лацінкай па-беларуску з добрым веданнем мовы.

Па загаду Міністэрства народнай асветы ў 1839 г. у друкарні Ф. Гліксберга ў Вільні выйшлі «Опыты русской словесности воспитанников гимназий Белорусского учебного округа»; пяць старонак з больш чым 500 было адведзена беларускім народным песням.

Беларуская мова ў перадачы лацінскім і кірылічным шрыфтам з'яўляецца ў 1-й палове XIX ст. і ў друку збораў гістарычных дакументаў ВКЛ. Найбольш раннія з іх выходзяць у Маскве: у 1819 і 1824 гг. у друкарні С. Селіванаўскага выйшла «Собрание государственных грамот и договоров...»; у 1843—1845 гг. ва Універсітэцкай друкарні М. Абаленскім, І. Даніловічам, М. Пагодзіным і Д. Дубенскім выдадзена «Книга посольская. Метрика Великого княжества Литовского». У1841 г. у Познані ўпершыню надрукаваны лацінскім шрыфтам на старабеларускай мове «Statut Litewski 1529». У 1854—1855 гг. Маскоўскае таварыства гісторыі і старажытнасцей публікуе кірыліцай Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг. У прадмове да выдання трэцяга Статута ўказвалася, што гэта помнік той мовы, на якой пісалі ў Заходняй Русі з XVI ст., і ў дадзеным выданні рэдакцыя часопіса «Временник» імкнулася перадаць яе па магчымасці з усёй дакладнасцю, не адступаючы ад выдання Мамонічаў. 1840—1850-я гг. сталі часам выдання грамат, актаў, помнікаў юрыдычнага характару, якія змяшчалі ўзоры



НАЙЯСНѢЙШАМУ ЯГО́ МИЛО́СЬЦИ
ГАСПАДАРУ́ ИМПЕРА́ТАРУ
АЛЕКСА́НДРУ МИКАЛА́ЯВИЧУ.
ПѢСЬНЯ ЗЪ ПАКЛО́НАМЪ
АДЪ ЛИТО́ВСКО-РУСИ́НСКАИ МУЖЫ́ЦКАИ ГРАМА́ДЫ.

Вставаймо, бра́тцы, да дзѣла, да дзѣла!
Зъ по́вначи пѣвень зало́павъ крыло́мъ.
Ну́же, кабъ жыво рабо́та паспѣла,—
Вы́слаць гасьци́пацъ жо́вцянькимъ писко́мъ.
Дру́жно, грама́до, въ серде́чнуй ахво́цѣ,
Ду́хамъ пасилки на плѐчы узьдзѣнь!
Охъ! то́лько но́чу песпо́рно въ рабо́цѣ.
Узыдзи намъ, со́вияйко! прывядзи намъ дзѣнь!

Ѣдуць къ намъ, ѣдуць дарагія Го́сьци:
Зямѐль широ́кихъ Мо́цны ГАСПАДАРЪ,
Вѣрныя Слу́жки пры Яго́ Мило́сьци,
Дабра́ и шча́сьця за Имъ до́вги ша́ръ.
Якъ хадзи́въ Панъ Богъ по зѐмскуй даро́зѣ,
Ко́жынъ славъ сьвиту да зялѐну ви́цъ.
Штожъ разасьцѣлямъ мы свае́й ВСПАМО́ЗѢ?
Узыдзи намъ, со́вияйко! скажы што рабиць!

NAJJAŚNIÉJSZAMU JAHÓ MIŁÓŚCI
HASPADARÚ IMPERÁTARU
ALEKSÁNDRU MIKAŁÁJAVICZU.
PIÉŚNIA Z PAKŁÓNAM
AD LITÓVSKO-RUSINSKAI MUŽÝCKAI HRAMÁDY.

Vstavájmo, brátcy, da dziéła, da dziéła!
Z póvnaczy piévień załópav kryłóm.
Núże, kab żývo rabóta paspiéła,—
Výsłać haściniać żóvciańkim piaskóm.
Drúżno, hramádo, v serdécznuj achvócie,
Dúcham nasiłki na pléczy uździéń!
Och! tólko nóczu niespórno v rabócie.
Uzydzi nam, sóvniajko! pryviadzi nam dzióń!

Jéduć k' nam, jéduć darahija Hóści:
Ziamiél szyrókich Mócny HASPADAR,
Viérnyja Słúżki pry Jahó Miłóści,
Dabrá i szczáścia za Im dóvhi szár.
Jak chadziv Pán Boh pa ziémskuj darózie,
Kóżyn słav śvity da zialónu vić.
Sztóż razaściélam my svajój VSPAMÓZIE?
Uzydzi nam, sóvniajko! skażý szto rabić!

3

*Верш В. Каратынскага ў альбоме «У памяць аб знаходжанні Гасудара Імператара Аляксандра II у Вільні, 6 і 7 верасня 1858 г.». Вільня, 1858 г.*

старабеларускай мовы; выдаваліся яны ў Вільні (1843), Мінску (1848), Санкт-Пецярбургу (1846—1853)[46].

У 1858 г. у друкарні Восіпа Завадскага выйшаў багата аздоблены альбом «В память пребывания Государя Императора Александра II-го в Вильне, 6 и 7 сентября 1858 г.», у які былі ўключаны прывітанні імператару на мовах народаў былога ВКЛ, а цяпер Паўночна-Заходняга краю імперыі: беларускай, літоўскай, польскай, рускай і яўрэйскай. Ад імя «літоўска-русінскай мужыцкай грамады» быў прадстаўлены беларускі верш Вінцэся Каратынскага «Вставаймо, братцы, да дзела, да дзела» (вядомы як «Песня з паклонам»). Верш быў набраны асобна лацінкай і кірыліцай. Імператар ласкава прыняў альбом, у якім, аднак, не гучала само слова «Беларусь» — беларусы да такой праявы свядомасці і самапавагі яшчэ не былі гатовы.

Найбольш раннім рэлігійным выданнем лацінскім шрыфтам з выкарыстаннем беларускай мовы былі «Krótkie zebranie nauki Chrześciańskiej. Dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania Rzymsko-katolickiego» («Кароткі збор хрысціянскай навукі. Для сялян рымска-каталіцкага вызнання, якія размаўляюць на польска-рускай мове», 1835 г.). Змест гэтай невялікай (24 старонкі 15×10 см) кнігі такі: на с. 3—15 змешчаны каталіцкі катэхізіс па-беларуску, на с. 15—18 — пацеры па-польску, на с. 19—24 — малітвы (акты веры, надзеі і любові, ахвяраванні святой імшы і песня «О мой Божа, веру табе») ізноў па-беларуску. Адразу кідаецца ў вочы, што выдавец засцярогся, напісаўшы назву па-польску, і называе мову кнігі не беларускай (як у гэты час яе называлі пісьменнікі Я. Баршчэўскі і А. Рыпінскі) і не крыўскай (паводле Я. Чачота), а польска-рускай. Бліжэйшае падабенства знойдзем хіба што ў В. Каратынскага, які карыстаўся азначэннем «літоўска-русінская». Хаця падрабязны разбор асаблівасцей лексікі выдання паказвае, што гэта чыстая беларуская мова з вельмі невялікай колькасцю рускіх, польскіх і царкоўнаславянскіх слоў. Больш таго — у беларускіх тэкстах ужываюцца рэгіяналізмы, характэрныя для віцебскіх і магілёўскіх гаворак («нетуці»). Дазвол на выданне даў 5 чэрвеня 1835 г. віленскі каталіцкі епіскап Андрэй

Народу зямлі літоўскай і беларускай. Друкаваны загад К. Каліноўскага. 1863 г.

# PRYKAZ

AD

## RĄDU POLSKAHO NAD CEŁYM KRAJEM

LITOUSKIM I BIEŁORUSKIM

DA

## Narodu ziemli Litouskoj i Biełoruskoj.

Wy peunie zaczuli szto ciepier ustanouleny Rąd Polski, szto hety Rąd Polski addaje wam bez nijakaho wykupu i czynszou tuju ziemlu, na jakoj sidzieli waszyje baćki i dziedy, szto hety Rąd Polski daje wam praudziwuju wolność, jak u Prancuzou, hdzie nichto nie śmieje kryudzić prastoho czeławieka, szto hety Rąd Polski wiernie jeszcze waszu dauniaszniu sprawiedluwuju wieru Dziedou i Pradziedou?!

Duryć was Maskal tałkujuczy wam, szto heto pany podnialisa kab pawiernuć nazad panszczynu — jon chocze wodu skałamucić kab u wadzie mutnoj pa staromu rybu ławici.— No dzieło nasze—nie dzieło panskoje, a sprawiedliwoj wolności, jakoj waszyje dziedy da baćki z daunia żdali, a jakuju maskal z krowopijcami waszymi spynici chocze!! Dzieło nasze—heto dzieło takoj wolności, jakuju sam BOH pryjszouszy na hety świet chacieu ustanawici i za jakuju proliu swoju krou światuju i cierpieu kryżowyje muczenja !

No minuła uże panszczyna, minuła wasza kryuda—i nijakaja siła jeje niepowiernie, ni moskouska, ni czortonska! Ciepier to nastau czas, szto kożnomu budzie odmiereno tak, jak jon sam sabie namieryć. Pan budzie lichi—pana pawiesim jak sabaku! Mużyk budzie kiepski—to i mużyka pawiesim, a dwory ich i sioła z dymom pojduć i budzie sprawiedliwaja wolność — bo hetoho sam Boh uże chocze i Preczystaja Maci!

Za waszuju dolu krou proliwajuć sprawiedliwyje ludzie, a wy— jak tyje Kaimy da Judy Skarioty—dobrych bratou prodawali woroham waszym!

No Rąd Polski pytaje was, jakim wy prawom śmieli pomohaci maskalu u nieczystomu dzieli ?! Hdzie u was byu rozum, hdzie u was była prauda ? czy zhadali wy na strasznyj sud Bożyj? Wy skażecie, szto heto rabili poniewoli—no my, ludzi wolnyje, niemasz u nas niewoli! a chto z was chocze niewoli mouskouskoj — tomu my damo szybienicu na halini!

Adnak sprawiedliwy Rąd Polski na Litwie i Biełorusi, bieruczy na rozum:

szto Maskal panujuczy nad wami i dzieruczy sam da pozwalajuczy kożnamu was abdziraci, nie uczyu was ni czytaci ni pisaci;

szto wy sihodnia durnyje jak awieczki:

szto nad wami niema jeszcze zmiłowannja bozkaho, bo wy adstupilisa ad Jeho praudziwoj wiery;

Dla taho sprawiedliwy Rąd Polski, niedachodzić na was ludzkoj kryudy, adno prykazuje wam:

niepamahać uże bolsz maskalu ni u czom, bo jon musić uże nie duży kali prosić waszcj pomoczy. A kali hdzie maskal byu durny da dau wam strelby, to wy ú noczy zakałouszy sałdatou maskouskich, u les uciekajcie, bó heto lepsz budzie za usio.

Milicii i karaułou pa siołach kab nijakich nihdzie nie było, bo kali złowiać kaho u karauli abo u milicii, to kali nie ciepier to pożniej, bez adhaworki powiesiać:

Czynszou, abrokou i padatkou u kaznu maskouskuju da i panam nijakich bolsz niepłacić, bo heta ziemla uże wasza a wy da Rądu Polskaho należycie i padatki adno da kazny polskoj płacici majecie.

---

Hety Prykaz maje być czytany u kożnoj cerkwi da u kożnom kościeli, po usich siołach i dworach dla wiedoma usieho narodu. A chto hetomu Prykazu spreczen budzie, taho—ci jon pop, ci ksiondz, mużyk ci pan, usiakaho danasić da Rądu Polskaho, kab można było pożniej pawiesić, abo zazwauszy Hramadu i zrabiuszy sprawiedliwy sud, bez adhaworki wieści na szybienicu! Bo chto chocze kryudy ludzkoj— toj niechaj lepsz sam marno propadaje !

Dan w mieści Wilni, u dzień Światoho Warfałomieja leta Hospodnia 1863.



Бенядзікт Клангевіч, які сам быў ураджэнцам Віцебшчыны — гэта акалічнасць дазволіла выказаць меркаванне, што ён мог быць аўтарам беларускіх тэкстаў[47]. Праз 10 гадоў пасля першага друкаванага беларускага катэхізіса выйшаў «Катэхізм... для ўжывання ў вясковых рымска-каталіцкіх школах і касцёлах» (Вільня, 1845 г.). «Была тут свядомая незалежная ініцыятыва мясцовага характару ці толькі прадбачлівае папярэджанне русіфікатарскіх крокаў з боку царскай улады і царквы, але ў любым выпадку выданні ўяўлялі паўмеру, якая звяртала ўвагу на моўна-нацыянальную праблему ў беларускім краі. У студзені 1840 г. праваслаўны архіепіскап літоўскі і віленскі І. Сямашка, які зрабіў усё магчымае для скасавання ў 1839 г. уніі, разаслаў загад обер-пракурора Сінода аб ужыванні ў парафіяльных цэрк-

вах па нядзелях і святочных днях Казанняў на простай агульназразумелай для парафіян мове і аб тлумачэнні ім на гэтай мове Катэхізіса. Гэта дазволіла Сямашку зрабіць распараджэнне наконт таго, «чтобы все священники произносили проповедь на русском языке или на белорусском наречии, а не по-польски». Усё гэта не азначала, «беларуская гаворка» афіцыйна ўводзілася на тэрыторыі Беларусі ў богаслужэнне. Яна выконвала дапаможную функцыю галоўным чынам дзеля выцяснення польскай мовы, «беларуская гаворка» спатрэбілася афіцыйным уладам і тады, калі напярэдадні паўстання 1863—1864 гг. з'явілася антыцарская агітацыйная літаратура»[48].

Так, на пачатку 1860-х гг., каб зменшыць уплыў паўстанцкіх ідэй, з'яўляецца некалькі беларускамоўных брашур на кірыліцы — гэта «Бяседа старога вольніка з новымі пра іхняе дзела» (Магілёў, 1861 г.) і «Рассказы на белорусском наречии» (Вільня, друкарня А. Сыркіна, 1863 г.). У магілёўскім выданні ішла гаворка пра Маніфест 19 лютага 1861 г.; як мяркуецца, аўтарам «Бяседы» мог быць мясцовы чыноўнік Апанас Кісель або магілёўскі святар А. Чалоўскі[49]. Наконт аўтарства «Расказаў», на жаль, нічога не вядома. Пяць невялікіх твораў, якія склалі дадзены зборнік, адлюстроўваюць розныя тэмы — ад крытыкі уніяцтва і каталіцызму, ухвалення звароту беларусаў да праваслаўнай веры да пытанняў сямейнай маралі і развіцця асветы. Аднак жыватворным зернем у «Расказах» было прызнанне беларусаў асобным, адрозным ад палякаў і велікарусаў народам: «... мы сами по себе народ особный — белорусы!»[50]. Віленскае выданне было разаслана ва ўсе школы краю і чыталася вучням і іх бацькам. Як пісаў С. Александровіч, «Расказы» прымаліся сялянамі з недаверам[51]. Як нам падаецца, гэта хутчэй была афіцыйная пазіцыя ўлад, за якой хавалася «абгрунтаванне» бессэнсоўнасці друку кніг на беларускай гаворцы, калі імі не цікавіліся.

У пачатку 1860-х гг. беларускае слова стала і адным са сродкаў агітацыйнай публіцыстыкі паўстанцаў. Вядомы як лістоўкі, брашуры, загады паўстанцаў, якія выходзілі ў нелегальным друку, так і іх разнастайныя беларускамоўныя рукапісныя варыянты. У падобных творах выкарыстоўвалася ў асноўным лацінская графіка, як у выданнях «Pieśni nabożnyja» і «Elementarz dla dobrych dzietak katolikaŭ» (выйшлі ў 1861 г., як пазначана, у Варшаве). У першым выданні, якое складалася з 8 старонак, быў змешчаны ў перакладзе на беларускую мову польскі рэвалюцыйны гімн-малітва «Божа, ты Польшчы праз доўгія векі...», названы «Марсельезай 1863 года». Пэўным прыкрыццём паўстанцкай задумы была каталіцкая малітва на беларускай мове «О наш Божа, верым Тобе...», якой пачыналася брашура[52]. «Elementarz» прызначаўся беларускім сялянам-католікам у якасці буквара і змяшчаў беларускія тэксты лацініцай. Як можна меркаваць, быў выдадзены з асветніцка-ідэйнымі мэтамі і накіраваны на сцвярджэнне адзінства польскага народа — і паноў, і сялянства ў змаганні з царызмам.

Падобным да названых выданняў была і кіеўская (як пазначана на тытуле) брашура на 16 старонках «Pieredsmiertnyj rozhowor Pustelnika Pietra, katoryj żyû u puszczy dziewiećdziesiat let, a pamior majuczy sto sorok let», якое С. Александровіч таксама датуе пачаткам 1860-х гг. Асноўная ідэя выдання заключалася ў словах: «Вы, дзеці мае мужыкі! Ідзіце за шляхтою і памагайце палякам, бо чэрэз іх только достанеце землю і вольносць во векі векоў». Крытыка царскіх парадкаў, ідэалізацыя «Польшчы-маткі» прадстаўлены яшчэ адным выданнем — «Крыўда і праўда» (Пецярбург, 1863).

Звычайным падманным ходам у адносінах да царскай цэнзуры ў друку беларускамоўных выданняў лацініцай была пазнака несапраўднага месца публікацыі, як гэта адбылося з творам «Hutarka staroha dzieda». У першым выданні «Гутаркі» месцам друку значыцца Познань (1861), у другім — Парыж (1862). «Парыжскае» выданне лепш адрэдагавана і, акрамя ўсяго, уключае беларускі верш У. Сыракомлі «Добрыя весці». Аднак, як удалося высветліць Г. Кісялёву, гэты твор быў надрукаваны ў падпольнай друкарні ў Беластоку выдаўцамі Браніславам Шварцэ (з восені 1861 г. быў кіраўніком беластоцкай рэвалюцыйнай арганізацыі), Адольфам Белакозам і Ігнатам Грынявіцкім. Мяркуецца таксама, што «Hutarka staroha dzieda» выдавалася яшчэ і літаграфічным спосабам, аднак месца яе друку застаецца неўстаноўленым.

Сёння вядома звыш 60 кніжных выданняў з уключанымі беларускамоўнымі тэкстамі лацінкай ці кірыліцай, якія выйшлі з друку ў 1-й палове XIX ст. (да 1865 г.). З'явіліся ў гэты час і першыя асобныя выданні цалкам на беларускай мове, у большасці лацінскім шрыфтам. Асноўнымі месцамі друку беларускамоўных твораў былі Санкт-Пецярбург (20 выданняў), Вільня (13), Масква (7), Лондан (6), Мінск (5), Познань (3), Кіеў, Варшава, Беласток (па 2), Магілёў, Коўна, Парыж (па адным выданні).

# КНІГІ НА «НАРЕЧИИ» І СКАРЫНАЎСКІЯ ТРАДЫЦЫІ (1865—1904)

Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. царскі ўрад пачаў ажыццяўляць, хаця і са значным спазненнем у параўнанні з самой Расіяй, шэраг буржуазных рэформ (сялянскую, судовую, земскую, гарадскую, школьную) і ў «неблаганадзейным» Паўночна-Заходнім краі. Правядзенне гэтых рэформ дало новы імпульс развіццю капіталістычных адносін. У гарадах адзначаецца далейшы рост насельніцтва. На сацыяльна-эканамічнае становішча краю значна паўплывала будаўніцтва Лібава-Роменскай і Маскоўска-Брэсцкай чыгунак (1870-я гг.), новых заводаў і фабрык (1870—1890-я гг.). На пачатку XX ст. у гарадах ствараюцца прамысловыя акцыянерныя таварыствы і сіндыкаты.

Рэзкі спад у прыватным кнігавыданні 2-й паловы 1860-х — пачатку 1870-х гг. змяняецца паступальным ростам выпуску кнігавыдавецкай прадукцыі і развіццём кнігавыдавецкай сферы. У 1869 г. былі скасаваны некаторыя надзвычайныя меры, якія дзейнічалі ў выглядзе асобных цыркуляраў генерал-губернатараў Паўночна-Заходняга краю Мураўёва і Каўфмана, і пашыраны на заходнія губерні агульныя законы аб друку Расійскай імперыі. У Вільні была ўведзена ўнутраная (для мясцовых выданняў) і знешняя (для замежнай літаратуры) цэнзура. Папярэдняй цэнзуры падлягалі ўсе рукапісы, якія прызначаліся для друку, за выключэннем выданняў духоўнага ведамства. Любыя адступленні ад афіцыйнай палітыкі прыводзілі да забароны выданняў.

Беларускае слова ў 2-й палове XIX ст., нягледзячы на свой статус «наречия», «говора» ў Расійскай імперыі, усё часцей стала з'яўляцца ў друку. У 1860—1890-я гг. былі сабраны і апублікаваны унікальныя па багацці і каштоўнасці дакументы па гісторыі ВКЛ, гістарычныя і этнаграфічныя даследаванні, зборы фальклору, апісанні звычаяў і абрадаў беларусаў, якія раскрывалі духоўную культуру беларускага народа. Насуперак прарасійскай і прапольскай грамадскай думцы, якая сцвярджала адсутнасць беларусаў як этнасу, вышукваючы доказы іх прыналежнасці да тых ці да іншых, гэтыя творы аб'ектыўна засведчылі факт існавання асобнага народа.

З аднаго боку, русіфікацыя і барацьба з «пальшчызнай», у тым ліку забарона публікацый лацінскім шрыфтам, не дазвалялі развівацца беларускаму друкаванаму слову, на якое ў той час аказвала моцны ўплыў польская культурная традыцыя, што выяўлялася найперш у прымяненні лацінкі. З другога — паступова ішоў працэс вяртання да сваіх вытокаў, скарынаўскіх традыцый у друку. Гэта засведчылі і беларускія творы, большасць якіх у 2-й палове XIX — пачатку XX ст. выйшлі ўжо на кірыліцы.

Беларуская тэматыка ў друку не толькі не знікае, а наадварот, прыкметна пашыраецца. Са стварэннем Віленскай археаграфічнай камісіі і Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства актывізуюцца даследаванні ў галіне гісторыі, этнаграфіі, фальклору. Старажытная беларуская мова з'яўлялася ў такіх выданнях, як «Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов» у 39 тамах (Вільня, 1865—1915 гг.), «Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа» у 14 тамах (Вільня, 1867—1904 гг.), «Грамоты великих князей литовских с 1390 по 1569 год» (Киев, 1868 г.), «Литовская метрика» (Санкт-Петербург, 1903 г.) і інш.

Значным дасягненнем у 1865—1890-х гг. сталі друкаваныя працы фалькларыстаў і этнографаў П. Гільтэбранта (1866), М. Дзмітрыева (1868, 1869), І. Насовіча (1866, 1868, 1874), П. Бяссонава (1871), А. Семяноўскага (1872), П. Шэйна (1874, 1887—1902), П. Быкоўскага (1878), Э. Івашкевічавай (1879), У. Дубоўскага (1881, 1886), Е. Раманава (1885, 1887, 1891, 1894, 1896, 1901), Я. Карскага (1885, 1888, 1889), Я. Карловіча (1887), М. Карпінскага (1888), М. Доўнар-Запольскага (1888, 1893, 1895), У. Вярыгі (1889), У. Дабравольскага (1891—1903), М. Нікіфароўскага (1895, 1897, 1898, 1903), М. Федароўскага (1902, 1903) і шэрагу іншых, якія выйшлі як на рускай, так і на польскай мовах.

Паглыблена даследуецца беларуская мова, што пацвярджаюць грунтоўныя працы такіх аўтараў, як І. Ярэміч (1868), І. Насовіч (1870, 1881), М. Гарбачэўскі (1874), Я. Карскі (1885, 1893, 1896, 1897, 1898—1903), Е. Раманаў (1901), В. Астапчук (1902) і інш. Значнай падзеяй стаў выхад у друкарні Расійскай акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу ў 1870 г. першай фундаментальнай працы І. Насовіча — «Словаря белорусского наречия». Выданне,

якое не страціла каштоўнасці і ў нашы дні, было вынікам карпатлівай працы, падарожжаў па Беларусі. Першыя мовазнаўчыя публікацыі І. Насовіча ў «Известиях» акадэміі з'явіліся амаль за 20 гадоў да выхаду слоўніка. Прыезд Насовіча ў Пецярбург у 1864 г., яго праца ў архіве Імператарскай публічнай бібліятэкі паскорылі выхад слоўніка, у якім, акрамя фактычнага матэрыялу, выкарыстаны ў якасці прыкладаў прыказкі, радкі з песень, этнаграфічны матэрыял. Аднак, як і ў 1-й палове XIX ст., большасць беларускамоўных тэкстаў толькі ўключаюцца ў рускамоўныя ці польскамоўныя выданні.

У губернскіх гарадах Паўночна-Заходняга краю — Вільні, Віцебску, Мінску, Гродне і Магілёве з 1860—1880-х гг. выдаюцца памятныя кніжкі, гісторыка-статыстычныя апісанні асобных паветаў, мястэчак, што дазволіла сканцэнтраваць значныя мясцовыя грамадскія сілы і развіваць краязнаўчы рух. Над падрыхтоўкай гэтых выданняў старанна працавалі выдавецтвы губернскіх статыстычных камітэтаў, Віцебскі архіў старажытных актаў, якія ў сваю чаргу таксама паспрыялі з'яўленню асобных беларускамоўных выданняў.


18.267.4.275 а

СЫГНАЛЪ,

альбо разсказъ абъ томъ,

якъ дабро перемагло зло у чалавѣка.

переложено, зъ малыми перемѣнами,

зъ разсказа

Всеволода Гаршина.

МОСКВА.
Типографія А. Гатцука, Никитскій бульв., собств. д.
1891

340/55

У. Гаршын. Сігнал. Масква, 1891 г.

У канцы 1880-х — пачатку 1890-х гг. адзначаюцца публікацыі беларускамоўных мастацкіх твораў на кірыліцы ў перыядычным друку. Так, у прыватнай газеце «Минский листок» былі змешчаны беларускамоўныя творы Я. Лучыны (1889, 1890), У. Сыракомлі (1890), К. Каганца, А. Бярозы, Р. Цягло, А. Шункевіча. Паэма «Тарас на Парнасе», якая да гэтага распаўсюджвалася ў рукапісным выглядзе, атрымала ў 1889 г. друкаванае графічнае афармленне ў той жа газеце. Пазней паэма не аднойчы перавыдавалася ў Віцебску (1896, 1898, 1904), Гродне (1896), Магілёве (1900, 1902). Асобным дадаткам да газеты з 1888 г. выходзіў «Северо-Западный календарь». У канцы 1880-х гг. у Маскве дзякуючы намаганням М. Доўнар-Запольскага пачало выходзіць падобнае выданне — «Календарь Северо-Западного края» (на 1889 г.), у якім друкаваліся і беларускамоўныя творы: народныя песні і апавяданні, артыкул М. Доўнар-Запольскага «Гапон, повесть в стихах на белорусском наречии В. Дунина-Марцинкевича (Из истории белорусской письменности)» з тэкстам паэмы. Пасля выхаду чарговага зборніка на 1890 г. выданне календара было перанесена ў Мінск, дзе пад рэдакцыяй А. І. Слупскага ў губернскай друкарні з'явіліся наступныя выпускі на 1892 і 1893 гг. У працяг традыцыі, закладзенай М. Доўнар-Запольскім, у календары значнае месца адводзіцца літаратурнаму альманаху, дзе друкаваліся папулярныя беларускамоўныя творы Я. Лучыны і У. Сыракомлі. «Аб'яднанне» такім чынам выдання ўсё ж не зрабіла яго жыццё даўгавечным. У гэты самы час у Маскве ў 1891 г. асобнай брашурай выходзіць апавяданне У. Гаршына «Сігнал», перакладзенае на беларускую мову Ядвігіным Ш. (кірыліцай). Прадмова да другога выдання апавядання (1914) сведчыць аб гісторыі яго стварэння ў маскоўскай Бутырскай турме.

З сярэдзіны 1890-х гг. беларускамоўныя кнігі кірыліцай і лацінкай у Санкт-Пецярбургу, Вільні і Віцебску легальна выдае Аляксандр Ельскі. Гэта асобныя выданні з яго ўласнымі творамі маральна-павучальнага зместу: «Сынок! Расказ з праўдзівага здарэння. Усім бацькам і дзецям для перасцярогі» (Санкт-Пецярбург, друкарня Е.А. Еўдакімава, 1895 г.), «Слова аб праклятай гарэлцы» (Санкт-Пецярбург, друкарня Г. Бернштэйна, 1900 г.), забаўляльныя: «100 прыказак, загадак,

*→ Партрэт імператрыцы Кацярыны II у кнізе «Зборнік дакументаў, якія маюць дачыненне да адміністрацыйнага падзелу Паўночна-Заходняга краю». Вільня, 1903 г.*

*Тытульны ліст кнігі «Зборнік дакументаў, якія маюць дачыненне да адміністрацыйнага падзелу Паўночна-Заходняга краю». Вільня, 1903 г.*

Б



Екатерина

Т-во Голике и Вильборгъ.



# СБОРНИКЪ

ДОКУМЕНТОВЪ,

касающихся административнаго устройства

## СѢВЕРО-ЗАПАДНАГО КРАЯ

ПРИ

## ИМПЕРАТРИЦѢ ЕКАТЕРИНѢ II.

(1792–1796).



Изданіе Виленской Комиссіи для разбора древнихъ актовъ.



ВИЛЬНА.

Типографія «Русскій Починъ», уг. Преображенской и Семеновской ул., д. Мацкевича.

1903.




Тытульны ліст кнігі А. Ельскага «100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў...». Вільня, 1908 г.




Тытульны ліст кнігі «Пра багацце і беднасць». Жэнева, 1881 г.

прыдумак і гавендаў. Для пажытку беларускага (крывіцкага) народу» (Вільня, друкарня Адмунда Навіцкага, 1908 г.), актуальна-палітычныя «Выбіраймася ў прочкі! Скарэй у Томск» (Санкт-Пецярбург, 1896 г.; Віцебск, 1896 г.), «Гутарка аб том, якая мае быць "Зямля і воля" сельскаму народу. Праўдзівы абразок, жыўцом зняты з цяперашняго жыцця вёскі на Белай Русі, даўняй Крывіччыне» (Вільня, друкарня Адмунда Навіцкага, 1906 г.). Дазволенымі да друку былі і творы віцябляніна Аляксандра Пшчолкі, прысвечаныя беларускаму жыццю (Віцебск, 1898—1910 гг.), якія, праўда, з'яўляліся зусім слабымі як у моўным, так і ў літаратурна-мастацкім плане. Тым не менш, да 1903 г. адбылося шэсць выданняў.

Наступствы падаўлення паўстання 1863—1864 гг. прывялі да перамяшчэння палітычнага друку ў эміграцыю. Так, у 1870 г. у Цюрыху выходзіць польска-літоўска-беларуска-ўкраінская газета «Zmowa — kupis susistarimas — hromadzki zhowor (ogłoszenie)»[53]. У праграме газеты было закладзена не толькі імкненне да саюзу народаў былой Рэчы Паспалітай — Польшчы, Літвы і Русі, але і прызнанне права на самавызначэнне кожнага з народаў: «хіба польскі народ [...], стаўшы сапраўдным гаспадаром свайго будучага, хіба ён захоча пярэчыць Украіне, Беларусі і Літве атрымаць такія ж правы?»[54]. Ідэі інтэрнацыянальнага адзінства, свабоды, роўнасці і братэрства, абвешчаныя ў выданні, засведчылі выхад на новы этап рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху[55]. У 1881 г. у Жэневе ў друкарні «Работніка» і «Грамады» выдаецца апавяданне С.А. Падалінскага «Пра багацтво да беднасць». Тэкст арыгінала быў не толькі перакладзены з украінскай на беларускую мову, але і дапасаваны да мясцовых рэалій і значна ўзмоцнены разнастайнымі літаратурна-мастацкімі элементамі. У выданні была змешчана прадмова ўкраінскага публіцыста і гісторыка М. П. Драгаманава. Аўтар перакладу, на жаль, застаўся невядомы.

Працягам і прыкладам падобнага ўзаемадзеяння палякаў, літоўцаў, украінцаў і беларусаў сталі ў пачатку 1892 г. тыльзіцкія выданні сацыялістычнага характару: адно на беларускай мове — «Dziadźka Anton, abo Hutarka ab ûsim czysta, szto balić, a czamu balić — nie wiedaim...» (вядомы і больш раннія выданні: кірыліцай — Слуцк, 1885 г.; лацінкай — Львоў, 1886 г.) і два на польскай — «Kilka uwag» і «Jan Skiba»[56], надрукаваныя ў літоўскай друкарні Марцінаса Янкуса (Крывіч. 1926. № 1. С. 106)[57] Мар'янам Абрамовічам. «Dziadźka Anton» быў блізкі па зместу да жэнеўскага выдання — гэта быў працяг размовы, пачатай у брашуры «Пра багацтво да беднасць». Выданне вызначалася сваім эпіграфам — беларускай

прымаўкай «Загляне сонца і ў наша аконца», а завяршалася — баявым заклікам: «А цяпер — праціў цара і яго чыноўнікаў пойдзем!».

Вядома, што да пачатку мая 1892 г. М. Абрамовіч перадаў для друку М. Янкусу яшчэ некаторыя выданнні на польскай, рускай і яўрэйскай мовах[58], а магчыма, і на беларускай, як пра гэта ўспамінаў сам літоўскі выдавец: у друкарні Шэнка за грошы, атрыманыя Абрамовічам з Мінска, былі надрукаваны 3—4 першыя брашуры лацінскім шрыфтам, у іх ліку — беларускі лемантар, і яшчэ дзве брашуры[59]. Магчыма, сярод іх была і «Skrypaczka Białaruskaja» Францішка Багушэвіча. У друкарні М. Янкуса кнігі, якія часова складзіраваліся для перапраўкі ў Польшчу, былі падчас аднаго з вобыскаў канфіскаваны, але дзякуючы намаганням Аляксандра Сулькевіча, лідэра Польскай сацыялістычнай партыі (ППС), прускія ўлады іх усё ж вярнулі. Са справаздач ППС таксама вядома, што ў 1895 г. праз пераходны пункт каля Таўрогаў (ля прускай мяжы) былі перапраўлены 332 экземпляры нейкіх беларускіх выданнняў[60].

У пачатку 1890-х гг. віленскі адвакат, колішні ўдзельнік паўстання 1863 г., Францішак Багушэвіч дзякуючы віленска-кракаўскім кнігавыдавецкім сувязям, а менавіта падтрымцы Зыгмунта Нагродскага, Яна Карловіча, Уладзіслава Анчыца, а таксама Р. Нікульскага, лацінскім шрыфтам у Кракаве выдае свае беларускамоўныя творы — «Dudka Białaruskaja» (1891, 1896), «Tralalonaczka» (1892) і «Smyk Białaruski» [Познань (?), 1894 г.]. Першае выданне «Дудкі беларускай», якое выйшла тыражом у 3000 экзэмпляраў, вельмі хутка разышлося. Вядома, што віленскі сябар Ф. Багушэвіча, уладальнік крамы сельскагаспадарчых прылад Зыгмунт Нагродскі «надзяляў «Дудкаю» сваіх сялян-пакупнікоў». Падтрымаў ён і другое выданне «Дудкі» ў 1896 г., выдзяліўшы кракаўскаму выдавецтву У. Анчыца на яго друк 100 рублёў. Супрацоўніцтва Ф. Багушэвіча з кракаўскім выдавецтвам «У. Анчыца і суполкі» прадоўжылася апублікаваннем апавядання «Тралялёначка», якое выйшла за кошт выдавецтва, праўда, ананімна. Дзякуючы намаганням С. Александровіча быў адшуканы арыгінал гэтага выдання ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве і Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве[61]. Як не захавалася аўтарскіх рукапісаў Ф. Багушэвіча, так няма ў галоўных беларускіх дзяржаўных зборах арыгіналаў і першых друкаваных беларускамоўных кніг пісьменніка. Іх можна пабачыць толькі ў копіях, якімі валодае Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Месцам захоўвання трэцяга друкаванага твора Ф. Багушэвіча «Smyk Białaruski» (1894 г., пад псеўданімам Сымон Рэўка з-пад Барысава) з'яўляюцца Нью-Йоркская публічная бібліятэка і БАН у Санкт-Пецярбургу[62]. У выхадных даных месцам выдання пазначана Познань, а выдаўцом — Р. Нікульскі. На думку А. Мальдзіса, і «Дудка», і «Смык» выйшлі з-пад аднаго і таго ж прэса ў Кракаве, бо маюць значнае падабенства ў паліграфічным выкананні з друкамі У. Анчыца. Застаецца загадкавым лёс «Скрыпачкі беларускай» (1900?) з партрэтам Багушэвіча. Яна напомніла аб сабе ў спісе запланаваных перавыданняў суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» ў 1906 г., але так і не была перавыдадзена. Згубіўся ў часе і рукапіс зборніка празаічных твораў пісьменніка «Беларускія апавяданні Бурачка» (таксама, відаць, лацінкай). Здадзены ім у Віленскую губернскую друкарню рукапіс не вярнуўся пасля накіравання яго віленскім асобым цэнзарам 16 сакавіка 1899 г. у Галоўнае ўпраўленне па справах друку...

У вядомай прадмове да «Дудкі беларускай» Ф. Багушэвіч сцвярджаў існаванне самастойнага беларускага этнасу, акрэсліваў яго гістарычныя тэрыторыі, выказваўся за роўнасць беларускай мовы з іншымі, папярэджваў свой народ аб тым, што страціўшы мову, ён як этнас загіне. Зразумела, што абуджэнне нацыянальнай свядомасці, да якой заклікаў беларускі пісьменнік, не магло імпанаваць царскаму ўраду, які падазраваў у падобных творах «тэндэнцыю акрамя «маларускай» стварыць яшчэ і «беларускую» літаратуру і такім чынам развіць і паслабіць літаратурнае і нацыянальнае адзінства, а ў выніку гэтага і палітычную магутнасць рускага народа»[63].

За межамі Расійскай імперыі, у Львове, з'явіўся і беларускамоўны пераклад паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», які ажыццявіў Аляксандр Ельскі (1892). Кніга была надрукавана лацінскім шрыфтам, як і віленскае выданне В. Дуніна-Марцінкевіча.

Адначасова ў 1870—1890-я гг., калі ў нацыянальны рух уліваюцца ўжо не столькі шляхта і духавенства, выхаваныя пад уздзеяннем польскіх традыцый, колькі разначынцы, адбываецца фарміраванне ідэйнага кірунку, які арыентуецца на поўную незалежнасць і самастойнасць. Спрыяльным асяроддзем для развіцця нацыянальнага руху літоўцаў у гэтым

кірунку аказалася Усходняя Прусія (Пруская Літва), для ўкраінцаў — Аўстрыйская Галіцыя. Пачынаюць выдавацца нацыянальныя па форме і зместу перыядычныя выданні (украінская «Грамада», літоўскія «Varpas», «Aŭszra» і «Ukinkas»). Што тычыцца традыцыі літоўскай кніжнасці, то яна не перарывалася з часоў Адраджэння, а ўжо ў 1-й трэці XIX ст., як сведчыць Л. Васілеўскі, выйшлі ў свет 70 літоўскіх выдannняў[64], што замацавалі лацінскую форму друку і яго нацыянальны змест.

Уся ж тэрыторыя Беларусі заставалася выключна ў межах Расійскай імперыі пад магутным уплывам русіфікацыі (рэлігійнай і моўнай). Сыходзіць не было куды, трэба было вяртацца з унутранай эміграцыі, што патрабавала самавызначэння ў той ці іншай форме: польска-лацінскай або рускай. Традыцыя беларускамоўнай кніжнасці аказалася, па сутнасці, перарванай, яе кірылічная спадчына залічвалася да рускай, лацінская — да польскай, што рабіла складаным выбар той ці іншай формы, а тым больш стварэнне ўласнай. Адбівалася і блізкасць беларускай і рускай моў.

Ажыўленне ў беларускім грамадскім і літаратурным руху адбылося ў 1880-я гг. Беларускія нарадавольцы, якімі ў той час быў арганізаваны падпольны друк публіцыстычнай літаратуры, у сваіх выданнях мясцовую мову не выкарыстоўвалі. Хоць нельга не згадзіцца з С. Александровічам, які залічвае да беларускіх выданні «К белорусской молодежи: Призыв» (1881), «Письмо о Белоруссии. Письмо первое» Данілы Баравіка (1882), «Послание к землякам-белорусам» Шчырага Беларуса (1883). У 1884 г. беларускія народнікі выпускаюць рускамоўную газету «*Гомон*» (Санкт-Пецярбург), а таксама выдаюць, як мяркуецца, у Вільні ў тым жа годзе «Программу» падпольнай арганізацыі «Народная Воля» (кіруючы орган — Цэнтральная група — знаходзіўся ў Вільні)[65]. Такім чынам, калі газету-лістоўку «Mužyckaja praŭda» пісалі і выдавалі беларусы-католікі польскага кірунку, то сярод беларускіх нарадавольцаў-гоманаўцаў вылучылася праваслаўная інтэлігенцыя. Калі першыя яшчэ аглядваліся на Польшчу і на традыцыі ВКЛ, то другія, ігнаруючы польска-літоўскія шляхецкія традыцыі, злучалі лёс Беларусі з Расіяй[66]. Відавочна, што свае парасткі дала расійская культурная экспансія. Аднак выкарыстанне новай формы і ўплыў рускага асяроддзя не столькі перашкаджалі захоўваць і развіваць змест нацыянальнай ідэі, колькі замацоўвалі яшчэ адзін яе варыянт, які вітаў саюз народаў Расіі.

Пад уплывам рускіх, украінскіх і польскіх вызваленчых ідэй прадаўжалася фарміраванне ўласнай беларускай моўнай формы, якой паступова вярталася яе кірылічная аснова.

Сталы ўплыў на фарміраванне нацыянальнай свядомасці пачынальнікаў беларускай выдавецкай справы аказвала асяроддзе сталічнага Пецярбурга, у якім студэнты-католікі з Беларусі таксама спрабуюць вызначыцца сваім нефармальным згуртаваннем. Першай грамадскай культурна-асветнай арганізацыяй беларускіх студэнтаў (ці, як піша Ю. Туронак, «прыватным пагадненнем людзей добрай волі, якіх яднала агульнае імкненне выдаваць і папулярызаваць беларускую кнігу») становіцца *«Круг беларускай народнай прасветы»*, створаны па ініцыятыве студэнта Тэхналагічнага інстытута Вацлава Івяноўскага «на ўзор польскага» Круга[67]. На пачатку 1902 г. на аснове беларускага студэнцкага гуртка В. Іваноўскі засноўвае нелегальную Беларускую рэвалюцыйную партыю (БРП). Для друку на ўласныя сродкі ён набывае гектограф і пры дапамозе Мечыслава Міхаловіча (дзеяч ППС) выдае адозву БРП «Да інтэлігенцыі» на польскай мове (выйшла ўвосень 1902 г.)[68], якая змяшчала накід першачарговых задач арганізацыі асветнай і выдавецкай працы па адраджэнні беларускай мовы. Гэта стала сведчаннем з'яўлення не столькі новай палітычнай сілы, колькі самой канцэпцыі беларускага нацыянальнага адраджэння.

Вацлаву Іваноўскаму належыць і ідэя нелегальнага выдання часопіса «Свабода» як органа БРП. У падрыхтоўцы да друку «Свабоды» прымалі ўдзел Іван Луцкевіч, Рамуальд Мілер (ППС), Язэп Малецкі (магчымы аўтар названай адозвы), браты Валейкі, брат В. Іваноўскага Тадэвуш. На думку Ю. Туронка, выданне было аддрукавана ў Лябёдцы (на радзіме Іваноўскіх пад Ваўкавыскам) у снежні 1902 г. накладам 200 экзэмпляраў усё на тым самым гектографе. Аб'ём першага нумара «Свабоды» складаў восем старонак, а датавалася выданне, паводле Ю. Туронка, 1903 г. Адзін экзэмпляр часопіса быў канфіскаваны паліцыяй у брата Юрыя ў Варшаве, а лябёдкаўскі тыраж з-за ўмяшальніцтва бацькі ліквідавалі, відаць, самі ж выдаўцы[69]. Вядома, што ў «Свабодзе» былі надрукаваны вершы А. Пашкевіч «Мужыцкая доля» і перапрацаваныя «Добрыя весці» У. Сыракомлі.

«Круг беларускай народнай прасветы» стаў, па сутнасці, першым беларускім выдавецтвам. У яго склад уваходзілі студэнты-беларусы, якія

атрымлівалі адукацыю ў розных навучальных установах Санкт-Пецярбурга. У 1903 г. у легальным друку з'явілася першае кніжнае выданне «Круга» — «Вязанка» Я. Лучыны, якая стала, як адзначыў Зміцер Жылуновіч, «першай цаглінай у будынак наладжанага беларускага выдавецкага дзела»[70]. Вядома, што цэнзурнаму камітэту рукапіс быў прадстаўлены як балгарскі. Яшчэ адным легальным выданнем гурткоўцаў сталі «Казкі» (1904), аўтарам якіх, па меркаванні Ю. Туронка, быў Казімір Кастравіцкі, а фінансаванне выдання ажыццявіў яго брат Амброжы (яго ініцыялы пазначаны на тытуле кнігі)[71]. Тыпаграфскія работы былі замоўлены і выкананы ў пецярбургскай друкарні К. Пянткоўскага. Акрамя названых выданняў «Круг» ажыццявіў і два нелегальныя — «Калядная пісанка» (1903) і «Велікодная пісанка» (1904), якія студэнты аддрукавалі на гектографе В. Іваноўскага. Апошняя пачынаецца кароценькай прадмовай «Да чытацялёў»: «Выдаючы нашу великодную писанку, дзякуем усим прыяцелем нашым, што памагли яе выдаць и працай сваей и грашми. Не вельмі багата и ў гэтай написана, дзякаваць добрым людзям, што больш, як у «каляднай». Усих их спатыкаем старой песьней: «Будзь багаты, як зямля, будзь здаровы, як вада». Круг беларуски у великим тыдню 1904 року». У «Велікоднай пісанцы» змешчаны таксама два вершы Цёткі пад псеўданімам Гаўрыла — «Немаш але будзе» і «Музыкант беларускі», а таксама пераклад з польскай мовы апавядання Маўрыцыя Жыха «Да свайго бога». Завяршала выданне невялічкая бібліяграфія беларускіх кніг, а таксама кніг пра Беларусь і беларускую мову. Пэўным крокам наперад было імкненне маладых выдаўцоў выпрацаваць і замацаваць нарматыўныя асновы літаратурнай мовы, якая адпавядала б не пэўнай мясцовасці, а ўсёй Беларусі.

Па даручэнні «Круга беларускай народнай прасветы» ў кракаўскай друкарні Уладзіслава Тэадарчука ў 1904 г. выйшлі яшчэ чатыры беларускамоўныя выданні: пераклады апавяданняў «Janka Muzykant» («Янка-музыкант») Генрыка Сянкевіча і «Wiedzma» («Ведзьма») невядомага аўтара — лацінкай, зборнік вершаў Ф. Багушэвіча, А. Пашкевіч, К. Кастравіцкага «Песні» і адозва «Царская гаспадарка» — кірыліцай. Да рэалізацыі выдавецкага праекта мелі дачыненне: у якасці перакладчыка — Мар'ян Фальскі (псеўданім Янка Сваяк), спонсара — Кацярына Ячыноўская, арганізатараў — Вацлаў Іваноўскі і Сцяпан Багушэўскі. Як адзначае Ю. Туронак, апошні рабіў пэўныя захады да стварэння пры Ягелонскім універсітэце гуртка пад назвай «Акадэмічнае краязнаўчае беларускае кола», якое так і не было дазволена, аднак справа паспрыяла друку названых выданняў. Галоўным месцам захоўвання беларускай друкаванай прадукцыі быў кніжны склад кракаўскай выдавецкай суполкі «Książka» («Кніга»; кіраўнікі — сацыялісты Зыгмунт Марэк, Лявон Васілеўскі, Баляслаў Енджэёўскі, члены — У. Тэадарчук, Вітаўт Наркевіч-Ёдка). На ўсіх выданнях адсутнічалі дадзеныя аб месцы друку, а на адвароце вокладкі «Песень» былі змешчаны фіктыўныя дазвол пецярбургскай цэнзуры ад 17 снежня 1903 г. і назва друкарні — «Синодальная типография», што ўвяло ў зман не толькі імперскую паліцыю, але і даследчыкаў беларускай кнігі, якія па-рознаму атрыбутавалі дадзеныя выданні[72]. Так, па сцвярджэнні С. Александровіча, друк ананімнага зборніка на кірыліцы «Песні» быў ажыццёўлены ў Лондане.

Сёння вядома, што ў канцы 1902 г. і ў студзені 1903 г. у Лондане ў друкарні ППС В. Наркевіч-Ёдка арганізаваў друк трох кірылічных беларускамоўных агітацыйных брашур, якія праз Б. Енджэёўскага былі туды дастаўлены: «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць», «Як зрабіць, каб людзям стала добра на свеце» і «Хто праўдзівы прыяцель беднага народу». Рукапісы былі падрыхтаваны гродзенскімі дзеячамі ППС у Літве (створана ў 1902 г. як партыйны аддзел беларуска-літоўскіх зямель) пры ўдзеле Беларускай рэвалюцыйнай грамады (таксама створана ў 1902 г.). У 1903 г. ППС у Літве выпусціла і адно выданне на беларускай мове лацінкай — «Do braci mużykou»[73]. Гэтыя выданні сталі вынікам прынятага ППС рашэння аб выпуску агітацыйнай літаратуры на беларускай мове, змест якой тым не менш не кранаў пытанняў нацыянальнага адраджэння беларусаў. Галоўным ворагам (паводле гэтых тэкстаў) было самадзяржаўе, але не польскія памешчыкі.

Першай беларускай палітычнай арганізацыяй, якая змагла развіць да ўзроўню светапогляду нацыянальны культурна-асветніцкі рух, выкарыстоўваючы магчымасці беларускага друкаванага слова, стала Беларуская рэвалюцыйная грамада, перайменаваная ў 1903 г. (па іншых звестках у кастрычніку 1904 г.[74]) у *Беларускую сацыялістычную грамаду* (БСГ). Ля вытокаў арганізацыі стаялі беларусы браты Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), літовец Аляксандр Бурбіс, як казаў пра яго Сцяпанас Кай-

Того-же автора имѣются въ продажѣ слѣдующія изданія:

Литвины-бѣлоруссы Черниговской губерніи. Ихъ бытъ и пѣсни . . . . . . 1 р.

На переселеньня. Ч. 1. . . . . . 10 к.

*Складъ изданій въ Черниговъ, кв. Ан. Булаковой.*

Выписывающіе не менѣе 50 экз. за пересылку не платятъ.



ПЕРЕЛОЖЕНІЕ НѢКОТОРЫХЪ БАСЕНЬ КРЫЛОВА НА БѢЛОРУССКОЕ НАРѢЧІЕ.

М. Н. Косичъ.

Цѣна 15 коп.

ЧЕРНИГОВЪ.
Типографія Губ. Земства.
1903.

*М. Косіч. Пералажэнне некаторых баек Крылова на беларускую гаворку. Чарнігаў, 1903 г.*

рыс, «летувіс з прозвішчам і беларус з перакананне»[75]. Выдавецкая дзейнасць БСГ пачынаецца з 1905 г. у Вільні, Мінску, Пецярбургу ў супрацоўніцтве з іншымі польскімі і літоўскімі сацыялістычнымі і сацыял-дэмакратычнымі партыямі.

Усяго на працягу XIX ст. і да 1904 г. было выдадзена каля 40 назваў асобных кніг і брашур на беларускай мове: каля паловы (пераважна лацінскім шрыфтам) выйшлі за межамі Расійскай імперыі (Кракаў, Лондан, Львоў, Тыльзіт, Жэнева), крыху болей — у яе межах. Асноўная тэндэнцыя ў развіцці беларускага друкаванага слова — гэта яго з'яўленне ў складзе польска- і рускамоўных выданняў, колькасць якіх паступова павялічваецца (у 2-й палове XIX ст. выйшла больш за 200 выданняў, што амаль у чатыры разы перавысіла колькасць падобных выданняў 1-й паловы стагоддзя).

# ДВАЯКІМІ ЗНАКАМІ, АДНОЙ МОВАЙ — БЕЛАРУСКАЙ (1905—1917)

Новыя змены ў кнігавыданні вызначыліся яшчэ напрыканцы 1904 г. Так, 24 лістапада гэтага года ўступілі ў дзеянне «Часовыя правілы аб друку» (адмянялі «Часовыя правілы» ад 1865 г.), а 12 снежня быў падпісаны царскі ўказ, «у якім здымаліся ранейшыя абмежаванні на выкарыстанне мясцовых моў у дзевяці заходніх губернях Расійскай імперыі — Гродзенскай, Кіеўскай, Ковенскай, Мінскай, Магілёўскай, Падольскай, Віленскай, Віцебскай і Валынскай». Як удакладняе Ю. Туронак, дадзеныя меры царызму былі пэўнай спробай зняць палітычную напружанасць у грамадстве з-за руска-японскай вайны. Аднак, толькі 1 мая 1905 г. камітэт міністраў пастанавіў «распарадзіцца адмяніць меры, якія абмяжоўваюць ужыванне мясцовых моў у Заходнім краі», нават калі забарона выкарыстання лацінскага шрыфту ў мясцовым друку і была ўжо знята. Ідучы насустрач патрэбе мясцовай інтэлігенцыі ў нацыянальным друку, тым самым улады спадзяваліся (у каторы раз гуляючы ў тую ж ідэалагічную гульню) «прыгарнуць іх сімпатыі да Расіі, а тым самым стварыць сур'ёзную процівагу польскім палітычным уплывам» (асабліва ППС). Адным з асноўных спажыўцоў кнігі была школа, якая ў «Заходнім краі» набыла магчымасць дэкляраваць сябе як беларуская толькі пасля рэвалюцыі 1917 г.[76]

Ужо ў 1905 г. у Вільні пачынаюць легальна выходзіць польскія і літоўскія перыядычныя і кніжныя выданні, засноўваюцца новыя, аднак беларускія ў гэты год яшчэ не з'явіліся[77]. Хоць яшчэ ў 1904 г. Казімір Кастравіцкі безвынікова звяртаўся да царскіх улад з прашэннем наладзіць у Мінску выданне беларускай газеты «Палессе»: «...прибегаю с покорнейшей просьбой к Вашему Сиятельству оказать нам величайшую милость, исходатайствовав право издавать литературно-хозяйственную газету на белорусском языке под названием «Полесье». Однако ж литвины, поляки, евреи имеют свои книги и газеты, а чем же белорусы хуже их (Ноябрь 28 дня 1904 года)».

У развіцці беларускай выдавецкай справы аказаліся найбольш зацікаўлены члены БСГ, аднак іх ідэалагічныя погляды стваралі складанасці ў пошуку мецэнатаў з кола прыхільных да беларускага руху землеўладальнікаў (як А. Ельскі ці Э. Вайніловіч). Да месца тут словы Э. Вайніловіча з яго «Успамінаў» (Вільня, 1931): «Прымаючы сякі-такі матэрыяльны ўдзел у беларускіх суполках, я ў рэшце рэшт з іх выходзіў, бо праца, якая напачатку вялася ў іх у кірунку самапазнання і нацыянальнага адраджэння («Лучынка», «Саха», «Загляне сонца і ў наша аконца» і да т.п.), звычайна пад канец прысвойвала сабе сацыялістычныя лозунгі і накіраванасць, якую, насуперак усім перакананням, падтрымліваць я не мог»[78].

Рэвалюцыйныя падзеі 1905 г., прыняцце закона аб свабодзе друку, а яшчэ праз паўгода — 18 сакавіка і 26 красавіка 1906 г. — указаў аб адмене агульнай і духоўнай цэнзуры значна паспрыялі легалізацыі і адраджэнню беларускага друкаванага слова, вяртанню яму этнакансалідуючай ролі. Аднак працэс самаідэнтыфікацыі беларусаў яшчэ не быў скончаны. Шляхта ў асноўным маніфеставала польскае паходжанне, на сялян значны ўплыў мела веравызнанне: каталікі — палякі, праваслаўныя — рускія, але ўсе цалкам — «тутэйшыя», усё ж не падобныя ні да палякаў, ні да рускіх, са сваёю «простай мовай». Але народу ўжо недастаткова было схавацца ў чарговы раз у сваёй «тутэйшасці»: каб выжыць, трэба было стаць беларусамі і адстойваць сваю айчыну — Беларусь. Аднак разумелі гэта вельмі нямногія і захоўвалі самасвядомасць, называючыся палякамі, літоўцамі або рускімі. Тым не менш, узор арганізацыі актыўнай польскай, літоўскай і яўрэйскай выдавецкай дзейнасці становіцца адной з важных рухаючых сіл і для беларускіх першапраходцаў у гэтай справе.

Пецярбург, Вільня і Мінск пасля рэвалюцыйных падзей 1905 г. вызначаюцца як галоўныя цэнтры беларускага нацыянальнага руху і, адпаведна, друку. Першая легальная беларуская кнігавыдавецкая суполка «*Загляне сонца і ў наша аконца*» заснавана ў маі 1906 г. у Пецярбургу. Натарыяльна пацверджаную дамову (ад 13 мая) падпісалі сем сяброў-закладчыкаў: старшыня суполкі Вацлаў Іваноўскі, сакратар выдавецтва чыноўнік Уладзіслаў Сталыгва, студэнт Горнага інстытута Вінцук Валейка, інжынер-тэхнолаг Юрый Іваноўскі, настаўнік Уладзіслаў Калашэўскі, педагог і супрацоўнік бібліятэкі Пецярбургскага універсітэта Броніслаў Эпімах-Шыпіла, Сабіна Іваноўская (жонка Вацлава). На кватэры Б.Эпімах-Шыпілы размяшчалася кантора суполкі. Таварыства, якое стала своеасаблівым працягам «Круга беларускай народнай прасветы», занялося сістэматычным і планамерным выданнем беларускіх кніг, зрабіўшы значны


21. VI. 4.409.

Karotki Katachizm

dla

pryspasablieńnia dziaciej da pieršaj Spowiedzi i Kamuńji Światoj.

PIERAROBLENY z Katachizmu Ks. R. Filachowskaho PRAZ X.

WILNIA
Drukarnia M. Kuchty, Dworcowaja, 4.
1907.

*Кароткі катэхізм для падрыхтоўкі дзяцей да першай споведзі. Вільня, 1907 г.*

ўклад у развіццё беларускага кнігавыдання[79]. Як сведчыць даследчыца дзейнасці выдавецтва Надзея Ракіцкая, за гады яго існавання было выдадзена «39 кніг літаратурнага, грамадска-палітычнага, бытавога, навукова-папулярнага зместу, агульным тыражом больш за сто тысяч экзэмпляраў». Дарэчы, у артыкуле названага аўтара, змешчаным у адзіным выпуску альманаха бібліяфілаў Беларусі «Свіцязь», прыведзены спіс кніг, выдадзеных суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу, паводле якога можна папоўніць адным выданнем зводны каталог «Кніга Беларусі, 1517—1917» (Мінск, 1986 г.) — гэта «На дарозі да новага жыцця» А. Навіны (А. І. Луцкевіча) 1912 г., а таксама атрымаць звесткі аб месцы выдання і выдавецтве ў апісанні кнігі Я. Коласа «Чарка ўсё на свеце робіць» 1916 г. — апошнім друкаваным выданні суполкі.

Для друку беларускамоўных кніг выдавецтва выкарыстоўвала два шрыфты — кірылічны і лацінскі. Выдаўцамі ўлічвалася культурная арыентацыя таго ці іншага аўтара, а таксама чытацкай аўдыторыі («польская» ці «руская»). Некаторыя выданні, як «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (1906), «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі (1906), «Маладая Беларусь» (сш. 1—3, 1912—1913 гг.) выйшлі і кірыліцай, і лацінкай.

Большасць жа выданняў (20) суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» з'явіліся на свет у кірылічным афармленні: «Гутаркі аб небі і зямлі» (1907), «Жалейка» Я. Купалы (1908), «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Я. Коласа (1909), «Сватанне. Жарцік» А.П. Чэхава, «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «У зімовы вечар» Э. Ажэшка (усе 1910), «У дому лепей» А. Новіча, «Міхалка» Далецкіх, «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага (усе 1911), «Сон на кургане» Я. Купалы, «Хам» Э. Ажэшка, «На дарозі да новага жыцця» А. Навіны (усе 1912), «Паўлінка» Я. Купалы, «Амерыканец» А. Новіча, «Як яны жаніліся» А. Валодзьскага (усе 1913), «Мядзведзь» А.П. Чэхава (1914), «Чарка ўсё на свеце робіць» Я. Коласа (1916).

Адзінаццаць выданняў выйшлі выключна на лацінцы: «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча у перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча (1907), «Гапон» (1907), «Вечарніцы» (1909), «Шчароўскія дажынкі» (1910) В. Дуніна-Марцінкевіча, «Дудка беларуская» (1907, 1914), «Смык беларускі» (1908) Ф. Багушэвіча, «Батрак» Я. Коласа, «Песні цішы» Ц. Гартнага, «Абразкі» З. Бядулі (усе 1913 г.).

Першая кніга, выдадзеная суполкай, — «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (аўтары Вацлаў Іваноўскі і Карусь Каганец), тоненькая брашурка з 30 старонак. Хоць лемантар быў адрасаваны дзецям, паводле характару прадмовы можна меркаваць, што выдаўцы мелі яшчэ і другую мэту — навучыць чытаць беларускую сялянскую масу або прывучыць пісьменных у рускай ці польскай мове да беларускага друкаванага слова. У прадмове выдаўцы так тлумачаць сваю задуму: «Ведаем мы ўсе, што меж нами, палешуками, беларусами, ци як мы сябе яшчэ называем — тутэйшыми, йосць каталики и праваслаўные, каталики больш да лацинских литэр — што йих несправядлива «польскими» називаюць, прывыкли, праваслаўные — да славянских — ци як кажуць да «руских» прывыкли». «Ци раз у нас сварка бывае: зыдуцца каталик с праваслаўным и сваруцца «ах ты, кажэ, поляк, — а ты маскаль». И абодва ня ведама, што кажуць: ани той паляк, ани гэты маскаль, абодва яны хоць рожнае веры, а народу аднаго, бо абодва вырасли на зямельцы тутэйшай палескай — беларускай і першае слова ў мови нашай бацькаўскай ад бацькоў пачули, а сваруцца тольки сабе на крыўду и на сорам... Вось и знарок выдаем лемэнтар дваякими знаками,

выбирай, што спанараўна, каб усяки пазнаў, што ци такие, ци сякие знаки, а зыки, склады и словы тые ж, мова — тая ж и людзи, што мовай адной гавораць — браты родные».

Для навучання суполка выдала яшчэ некалькі кніг, аўтарамі якіх з'яўляліся Цётка і Якуб Колас. Асноўнай жа кніжнай прадукцыяй беларускага выдавецтва былі творы мастацкай літаратуры, сярод якіх драмы і камедыі для тэатральнай сцэны, творы з беларускімі песнямі і нотна-музычным матэрыялам, пераклады з рускай, польскай і ўкраінскай моў: «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «У зімовы вечар» Э. Ажэшка, «Сватанне» А.П. Чэхава, а таксама арыгінальны беларускі твор — вадэвіль К. Каганца «Модны шляхцюк», якія выйшлі ў 1910 г. У наступныя гады былі выдадзены кнігі «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага, «Міхалка» Далецкіх (абедзве 1911), «Паўлінка» Я. Купалы, «Хам» Э. Ажэшка (абедзве 1912), «Як яны жаніліся» А. Валодзьскага, «Мядзведзь» А.П. Чэхава (абедзве 1913). Са сцэны загучала беларускае слова, нараджаўся беларускі тэатр, што стала яшчэ адным сведчаннем развіцця нацыянальнай культуры.

У 1907 г. таварыства заснавала падпісную серыю «Беларускія песняры», у якой было запланавана да выхаду восем кніг. Але атрымалася выдаць усяго шэсць: том 1 — «Дудка беларуская» Ф. Багушэвіча; том 2 — «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча; том 3 — «Гапон» В. Дуніна-Марцінкевіча (усе 1907); том 4 — «Смык беларускі» Ф. Багушэвіча (1908); том 5 — «Вечарніцы» В. Дуніна-Марцінкевіча (1909); тамы 6, 7 — «Шчароўскія дажынкі. Купала» В. Дуніна-Марцінкевіча (1910).

Восенню 1908 г. Віленскі часовы камітэт па справах друку адправіў аналагічнаму камітэту ў Пецярбургу кнігі Ф. Багушэвіча, выдадзеныя суполкай. На пасяджэннях 24 і 28 кастрычніка 1908 г. камітэт пастанавіў накласці на абедзве кнігі арышт і прыцягнуць да адказнасці выдаўцоў. Пра «Дудку беларускую» ў абвінавачанні напісана: «Брашура гэта ёсць зборнік вершаў, напісаных на тэмы з жыцця беларускага селяніна, і ставіць сваёй галоўнай мэтай паказаць беларуса, які пакутуе ад здзекаў улады і прыгнёту паноў». Толькі ў выніку доўгіх намаганняў выдаўцоў арышт быў зняты 23 лістапада 1910 г. і зборнікі паступілі ў продаж у 1911 г.

У шостай кнізе з серыі «Беларускія песняры» быў змешчаны ў якасці ўступу даволі грунтоўны артыкул «Вінцук Дунін-Марцінкевіч і яго жыццё» В. Тройцы (псеўданім Вацлава Ластоўскага) — адна з першых у беларускім літаратуразнаўстве спроб паказаць значэнне і месца В. Дуніна-Марцінкевіча ў нашай літаратуры. Суполка таксама выпусціла тры навукова-папулярныя выданні па астраноміі, ветэрынарыі, пчалаводстве і адно масава-палітычнае.

Упершыню выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца» ажыццёўлены друк беларускіх паштовак («пісулек») з беларускімі краявідамі, партрэтамі беларускіх пісьменнікаў, тыпамі беларускіх сялян і сцэнамі з іх побыту. Усяго было надрукавана больш за 20 паштовак.

Таварыства наладзіла партнёрскія стасункі з пецярбургскай друкарняй Казіміра Пянткоўскага і асноўную частку сваіх кніг выпускала на Вялікай Пад'ячаскай, 22, дзе і размяшчалася друкарня. Праўда, два выданні кірыліцай і лацінкай былі замоўлены ў віленскай друкарні Марціна Кухты («Як ратаваць уздутую жывёлу?» К. Дулембы ў перакладзе з польскай мовы А. Хатняга, 1909 г.) і адно ў пецярбургскай друкарні Юрыя Эрліха (зборнік вершаў «Шляхам гадоў» Я. Купалы, 1913 г., у выданні якога дапамог доктар Аляксандр Ярэміч). Грашовыя ахвяраванні паступалі суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца», а таксама «Нашай Ніве» ад княгіні Магдалены Радзівіл. Суполка супрацоўнічала і з іншымі выдавецкімі таварыствамі — «Мінчуком», які перадаў права выдання «Жалейкі» Я. Купалы сваім пецярбургскім калегам, і віленскім выдавецтвам «Наша хата», сумесна з якім выдадзена «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Я. Коласа. На пачатку 1909 г. выдавецтва, сутыкнуўшыся з пэўнымі фінансавымі цяжкасцямі, звязанымі з арыштам кніг Ф. Багушэвіча, вымушана было заключыць новую дамову на выдавецкую дзейнасць. Так, 30 красавіка 1909 г. адбылася перааргацізацыя таварыства: у яго ўвайшлі Антон і Юлія Трэпкі-Неканды, Антон Грыневіч, Генрых Ражноўскі, і праца была прадоўжана. Наладжваннем выдавецкай справы суполкі актыўна заняўся А. Грыневіч, якому ўдалося паспяхова завяршыць у гэты час падпісную серыю «Беларускія песняры». У 1913 г. упершыню выйшлі з друку зборнік вершаў «Песні» Ц. Гартнага і кніга прозы «Абразкі» З. Бядулі. Суполка першая з усіх беларускіх выдавецтваў паспрабавала заснаваць беларускі часопіс (альманах). Ім павінна была стаць «Маладая Беларусь» (выйшлі тры нумары ў 1912—1913 гг.).

Суполка наладжвала кніжныя сувязі і адкрывала свае контрагенцтвы ў Варшаве, Вільні, Мінску, Віцебску, Гродне, Гомелі, куды

беларускія кнігі перасылаліся з Пецярбурга. Акрамя таго, давала аб'явы ў «Нашай Ніве» пра выхад сваіх кніг і магчымасці іх набыцця з дасылкай. У 1913 г. быў нават аб'яўлены конкурс на лепшыя сцэнічныя творы для выдавецтва, за якія абяцалася грашовае ўзнагароджанне. У выдавецтве прадаваліся таксама кнігі пра Беларусь на рускай і польскай мовах. Гэта ўсё дазваляла рабіць немалыя тыражы выданняў. Напрыклад, большасць кніг з серыі «Беларускія песняры» выходзілі колькасцю 4300 экзэмпляраў.

Можна меркаваць, што ў 1916 г. выдавецтва паспрабавала аднавіць сваю дзейнасць, выпусціўшы п'есу Я. Коласа «Антось Лата» (1-ю дзею) пад назвай «Чарка ўсё на свеце робіць»; на кнізе было пазначана «Працяг будзе». Аднак на гэтым выдавецкая дзейнасць суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», перапыненая ваеннымі і рэвалюцыйнымі падзеямі, закончылася. Яшчэ ў першай друкаванай адозве суполкі 1906 г. звяртаюць на сябе ўвагу такія словы: «Маем надзею, што прыклад Пецярбурга не астанецца без адзыву. Цяпер можна легальна склікаць і злажыць разам шмат параскіданых сіл». Спадзяванні членаў суполкі спраўдзіліся. Прыклад Пецярбурга, як паказала гісторыя беларускага кнігадрукавання, не застаўся бясследным.

У Пецярбургу, акрамя калектыўнага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца», існавала прыватнае беларускае выдавецтва, дзейнасць якога звязана з імем Антона Грыневіча. Калежскі сакратар А. Грыневіч усе свае сродкі аддаваў на выданне кніг. Прыехаў у Пецярбург у 1896 г., быў актыўным членам суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». Адчуваючы высокую вартасць народнага песеннага мастацтва, у 1910 г. ён выдаў зборнік сваіх фальклорных запісаў «Biełaruskije Pieśni z notami», які вызначаецца як першы том. Другі (матэрыял быў сабраны разам з паэтам А. Зязюлем) выйшаў пазней, у 1912 г., калі ў А. Грыневіча з'явілася ўласнае прыватнае выдавецтва. У 1910 г., на пачатку самастойнай выдавецкай дзейнасці А. Грыневіча, у яго сціпла рэалізаваных выдавецкіх планах дзве кнігі Я. Купалы — драматычная паэма «Адвечная песня» і зборнік вершаў «Huślar». Найбольшы размах выдавецкая дзейнасць набыла ў 1913 г.: надрукаваны кнігі «Тоўстае палена», «Нёманаў дар», «Прапаў чалавек» Я. Коласа, «Апавяданні» У. Галубка, «Пракленашы» Л. Гвазда, «Аб чым шапацелі лісця» Таўруса. Невялічкія кнігі прозы сведчылі пра прыход у беларускую літаратуру новых сіл і паступальнае развіццё гэтага жанру. Усяго вядома 11 кніг, якія выдаў А. Грыневіч у 1910—1913 гг. Як і суполка «Загляне сонца і ў наша аконца», ён карыстаўся паслугамі друкарні К. Пянткоўскага, а часцей — А. Колінса (былой Ю. Эрліха).

У 1906—1907 гг. у Пецярбургу выйшлі агітацыйныя выданні нелегальнага таварыства «Грамада», якая выступала ў якасці арганізатара, ідэйнага і палітычнага кіраўніка беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Толькі адна кніга надрукавана паралельна кірыліцай і лацінкай — «Як мужыку палепшыць сваё жыццё» (1906), астатнія чатыры выйшлі кірыліцай.

Пецярбургскія выдавецтвы ўнеслі свой значны ўклад у станаўленне самастойнай беларускай літаратурнай мовы, граматычных і правапісных норм. Гэтаму паспрыялі шматлікія публікацыі мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры на пачатку XX ст., стварэнне перыядычных органаў друку. І хоць беларуская мова не дапускалася ў школы і афіцыйныя сферы, але працэс фарміравання літаратурнай мовы актывізаваўся, і яна склалася ў многім дзякуючы пачынальніцкай выдавецкай дзейнасці пецярбургскіх беларусаў.

Узмацненне беларускага нацыянальнага руху ў Вільні было звязана з перамяшчэннем сюды цэнтра дзейнасці Беларускай сацыялістычнай грамады. Выдавецкая дзейнасць БСГ была пачата з нелегальнага выпуску адозваў на беларускай і літоўскай мовах. За 1905 г. было выпушчана больш за 20 адозваў на беларускай мове. Ва ўспамінах А. Луцкевіча адзначаецца, што ў перакладах на літоўскую мову БСГ у Вільні аказваў дапамогу Вацлаў Біржышка, «ды і ён жа браўся і за друк»[80]. Так, у 1906 г. сумеснымі намаганнямі была выдадзена брашура на літоўскай мове «Як трэба праводзіць забастоўку», якую, відаць, друкавалі ў падпольнай тыпаграфіі Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі (у той час з'яўлялася адной з наймацнейшых палітычных груп у Вільні)[81].

Акрамя таго ў 1906 г. з'явілася ўласная падпольная друкарня БСГ у Мінску і выдавецтва «Грамада» — у Пецярбургу[82].

Дзякуючы БСГ адбылося нараджэнне першай легальнай беларускай газеты (па прапанове Івана Луцкевіча[83]), якая выйшла 1 верасня 1906 г. пад назвай «*Наша Доля*». Пасведчанне № 11532 віленскага губернатара, што давала права на выданне і рэдагаванне штотыднёвай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты «рускими и польскими

литерами», было выдадзена віленскаму жыхару Івану Адамавічу Тукеркесу[84].

Фактычна газета з'яўлялася органам нелегальнай БСГ. Ідэйнымі арганізатарамі і ўдзельнікамі выдання першых чатырох нумароў былі Фелікс Умястоўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Іван і Антон Луцкевічы, Якуб Колас, Ядвігін Ш. Газета вылучалася вострапубліцыстычнымі матэрыяламі, рэзкай крытыкай самадзяржаўя. Нярэдка размяшчала матэрыялы асветнага характару ў галіне палітыкі, культуры, адукацыі, сельскай гаспадаркі. Значнае месца адводзілася літаратурна-публіцыстычным і мастацкім творам, публікацыям матэрыялаў з іншых віленскіх перыядычных выданняў («Naujoje Gadyne», «Kurjer Litewski», «Echo», «Volkszeit», «Северо-Западный Голос», «Свободное Слово», «Страна», «Понедельник», «Смоленский Вестник», «Речь», «Товарищ» і інш.).

Пасля выхаду чацвёртага нумара адбыўся раскол у рэдакцыі (першы, трэці і чацвёрты нумары былі канфіскаваны) і было абвешчана ад імя рэдакцыі аб спыненні выдання, але рэдактар-выдавец Іван Тукеркес паспрабаваў прадоўжыць яго самастойна. У пятым і шостым нумарах «за рэдактара» выступаў ужо Адам Гедвіла. Змяніліся, не ў лепшы бок, змест тэкстаў і якасць мовы газетных публікацый (адбілася слабае веданне беларускай мовы). Асабліва пацярпеў літаратурны аддзел газеты. 1 снежня 1906 г. датуецца апошні друкаваны нумар «Нашай Долі».

«На стронках «Нашай Долі» беларуская ідэя выступала, у першую чаргу, як ідэя сацыяльнага вызвалення беларускай беднаты ад расійскага царызму і памешчыкаў. Уласна нацыянальны кампанент беларускай ідэі разглядаўся, хутчэй, як сродак сацыяльнай мабілізацыі беларускага сялянства на палітычную барацьбу. Фактычна, была зроблена спроба сфармуляваць сацыялістычны варыянт нацыянальнай ідэі»[85].

Пасля першай спробы выдання беларускай газеты была зроблена другая — з 10 (23) лістапада 1906 г. у Вільні пачаў выходзіць штотыднёвік «Наша Ніва», рэдакцыю якога склала большасць супрацоўнікаў, якія пакінулі «Нашу Долю». Газета, улічыўшы папярэдні вопыт, перайшла на больш ліберальныя пазіцыі, спадзеючыся выкарыстаць палітычныя змены, якія прынесла рэвалюцыя.

На працягу 1906—1915 гг. другі газетны праект БСГ здолеў стаць цэнтрам беларускага нацыянальнага жыцця. У адрозненне ад «Нашай Долі» праграма «Нашай Нівы» была разлічана на ўвесь беларускі народ, прызначалася ўсім беларусам і тым, хто ім спачуваў. Нашаніўцы абяцалі імкнуцца да таго, каб «усе беларусы, што ня ведаюць, хто яны ёсць, — зразумели, што яны беларусы […]»[86].

Першым рэдактарам-выдаўцом газеты быў адстаўны тытулярны саветнік, віленскі шляхціц Сігізмунт Уладзімір Юльян Францавіч Вольскі[87], а крыху пазней — Аляксандр Уласаў (з № 5 ад 8.12.1906). З № 10 ад 7 сакавіка 1914 г. «Нашу Ніву» рэдагаваў Я. Купала, а з 16 мая 1914 г. і да канца яе існавання ён быў яшчэ і выдаўцом газеты. У рэдакцыі працавалі лідэры БСГ браты Луцкевічы, У. Іваноўскі, А. Пашкевіч. Рэдактарамі аддзелаў у розны час былі Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Х. Імшаннік, Ядвігін Ш., В. Ластоўскі, С. Палуян, А. Бульба і інш. Вакол газеты групаваліся аўтары (больш за 3 тыс.) усіх рэлігійных канфесій і кірункаў, якія выступалі за культурна-нацыянальнае адраджэнне Беларусі. Рэдакцыя паслядоўна прапагандавала канцэпцыю адзінства беларускай нацыі, культурна і духоўна адрознай ад польскай і расійскай. Важнейшым кірункам у газеце заставаўся культурна-асветны, арыентаваны на папулярызацыю кніжных ведаў, стварэнне бібліятэк, школьнай адукацыі на роднай мове, узнаўленне вышэйшай адукацыі — Віленскага універсітэта, асвятленне нацыянальных пытанняў іншых народаў, развіццё беларускай літаратуры і г.д. Пастаяннымі ў газеце былі карэспандэнцкія рубрыкі «З Беларусі і Літвы», інфармацыйныя звесткі з іншых перыядычных выданнняў «З усіх старон». У артыкуле «Год выдання «Нашай Нівы» (№ 33 ад 10 лістапада 1907 г.) было вызначана крэда газеты: «Свайго не цурайся — чужому навучайся!».

Аднак на з'яўленне ў продажы газеты «Наша Ніва», як успамінае Кветка Вітан[88], віленчукі амаль не звярнулі ўвагі. Паланізаванае гарадское асяроддзе з пагардай гаварыла, што гэта «chłopska gazeta». З часам газеце ўсё ж удалося прыцягнуць да сябе ўвагу перадавой польскай і расійскай інтэлігенцыі.

«Наша Ніва» выдавалася ў друкарні Марціна Кухты, дзейнасць якой калі-нікалі прыпынялася ў сувязі з цэнзурнымі ганеннямі. Так, № 33 за 10 лістапада 1907 г. быў надрукаваны ў друкарні І. Блюмовіча.

У № 19 за 11 верасня 1908 г. «Наша Ніва» размясціла зацемку з ілюстрацыяй «Литоуские газеты»: «Як стаіць национальная справа у суседзяў и сваякоў нашых — литвиноу, видаць с таго, што яны ў сваей роднай мове выдаюць аж дзесяць газэт. Ў тым дзьве — штодзенные, шэсць выходзяць кожная раз у тыдзень, тры — раз у месяц и адна — раз у год; с-памеж их сем друкуюцца ў Вильни, дзьве — ў Коўне и

→ *Газета «Наша доля». 1906 г. 1 верасня.*

Цана асобнаго нумэру 5 кап. (10 грошэй).

№ 1. Вильня, 1 сенцября 1906 г.



# Наша Доля

Год I

першая белоруская газэта для вёсковаго и местоваго рабочаго народу.

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литерами.

Адрэс рэдакции и администрации: *Вильна, Виленская вулица 32.*

Цана: з перасылкаю и дастаукаю да хаты: на 1 год—3 руб., на 6 месяцоу—1 руб. 50 кап., на 3 мес.—75 кап., на 1 мес.—25 кап. Без дастауки и перасылки: на 1 год — 2 р. 40 к., на 6 мес.—1 р. 20 к., на 3 мэс.—60 кап., на 1 мес. — 20 кап. За границою: на 1 год—4 руб., на 6 мес.—2 р., на 3 мес.—1 руб. Перамена адрэсу—20 кап.

АБЪЯУЛЕННЯ прыймаюцця на наследняй страницы па 20 кап. за линейку пэтиту.

Рукаписы и карэспандэнции, присыланыя у Рэдакцию, мусяць быць чытэльна написаны з фамильею и адрэсомъ таго, хто яе присылае. Адрэсъ тольки для ведама Рэдакции.

## Наш палетак.

Наш палетак памиж межау,
З-за каторых цвяце збожа;
А наш скравак штось залежау;
Наш загон зысци ня можэ.
Ци то глеба да ничога?
Ци то руки у нас слабые,
Што ня маем й зерня свога,
Што мы ходзим як сляпые?
Глеба чорна, у руках сила,
Тольки нашых гаратаяу
Некасць мара усё звадзила
Гэн замежы, да выраяу...
Наш сявец не раз там кидау
Залатое зерне з жмени,
Ён не раз там плёны выдау.
А у нас расли камени.
Наш палетак негараны,
Палынами цвяце нива.
Нука, братцы, кумы, сваты,
Да работы станьма жыва!
Хто гараци добра зможэ,
Хто разоры скоро ладзиць,
Хто шчасливе сее збожа,
Хто гароды добра садзиць
Жыво, жыво за работу
Без аглядки хто што можэ.
Усе роуны без расчоту
Усих праца будзе згожа!

*Мацей Крапиука.*

## Да чытацелёу.

Прачхнууся з цяжукаго сну народ, падняуся як рэка на вясну за вяликае дзело сваботы и лепшае доли. Тольки з пад стрэхи цёмное хаты мужыка беларуса як дауней, як отни гадоу таму назад веець холадом магильнаго сну. Там нядоля, цямнота и голад, яго радауные вороги, звили сабе крэпкое гнязло, разраслися, расплодзилися. Бывали таки и гэтакіе минуты у гисторыи апошних гадоу, што прасыпауся и беларус.

Галодны и цёмны будзіуся ён з цяжкаго сну и дзивавауся, и слухау як з далёкаго свету з усих старон ляцели да яго развалившаеся хаты радосные весьци аб зямли, аб сва-

8 НАША ДОЛЯ

# ОБЪЯУЛЕННЯ:

**Магазинъ часовъ А. РЫДЛЕВСКАГО**

*Вильно, уголъ Виленской и Губернаторской ул.*

Большой выборъ играющихъ ящиковъ, стѣнныхъ и карманныхъ часовъ золотыхъ, серебряныхъ и разныхъ другихъ. Цѣны постоянныя.

*При магазинѣ мастерская* подъ личнымъ наблюденіемъ владѣльца специалиста.

**Карлъ Клейнъ**

*Вильно, Георгіевскій просп. 9.*

Постройки **МЕЛЬНИЦЪ**. Постановка и оборудованіе **ТЮРБИНЪ** разныхъ системъ.

Доставка машинъ и мельничныхъ принадлежностей.

Проэкты, сметы и наблюденіе во время работъ.

ЦИНКОГРАФІЯ ФОТОГРАФІЯ **Юрашайтиса и Антонова**

*Вильно, Георгіевскій пр. уголъ Татарской д. № 1.*

**ЖЕЛАЮ** получить мѣсто помощника бухгалтера или приказчика конторы; могу представить рекомендаціи Г-дъ гласныхъ Виленской Городской Думы. Адресъ въ редакціи „Нашае Доли".

**ЗЫГМУНД НАГРОДЗКИ**

объяуляе што у яго складзи

у ВИЛЬНИ на ЗАВАЛЬНАЙ вулицы № 11

*прадаюцца вельми добраго гатунку ГАСПАДАРСКИЕ МАШИНЫ*

**Малацилки** фабрики „Бадэня" ручные и манежные.

**Манежы** тое самой фабрыки, вельми легкие да працы.

**Сечкарни** Бенталя Бадэня и иныхъ фабрикъ.

**Арфы** (веялки) рожной вялличини амэриканской выдумки.

На жаданне **Зыгмунд Нагродзки высылае дармо книжки** у каторыхъ написана цана машин.

НОВООТКРЫТАЯ ТИПОГРАФІЯ

**„Артель Печатнаго Дѣла",**

*ВИЛЬНА, на углу Большой и Рудницкой ул., въ д. Залкинда,*

принимаетъ всевозможные заказы

**на всѣхъ европейск. языкахъ.**

*Участники артели—исключительно рабочіе-специалисты, занимавшіеся до открытія оного дѣла въ разныхъ лучшихъ типографіяхъ.*

*Заказы выполняются* скоро, изящно и аккуратно.

Иногородніе заказы высылаются наложеннымъ платежомъ.

ЛИТОУСКАЯ КНИГАРНЯ

**М. Пясэцкой-Шляпэлис**

*Вильня. Доминиканская вул., 13.*

**Продае рожные беларуские книжки, як то:** Элементар беларуски, Казки, Вязянка, Дудка Бурачка-Богушэвича, Скрыпка Беларуская, Смык Беларуски, Песни, Што такое свабода и другіе.

Тамъ жэ продаюцца усеякие **литоускіе книжки** и прымаецца падписка на газэту „Наша Доля", на усе литоускіе газэты и на польскую газэту „Эхо".

Спис книжок высылаецца на жаданне кожнаго.

Типографія «Артель Печатнаго Дѣла», Вильна, уг. Большой и Рудницкой ул., д. Залкинда.

адна — ў Сэйнах (Сувальская губ.). Изноў у Вильни нядаўно адкрылася газэта «Litwa», каторую выдаюць литвины па польску и ў каторай бароняць справы свае прад усими, хто не разумее па литоўску. На рысунку нашым ёсць усе тые газэты. Меж ими и «Наша Нива» — адна-едзиная беларуская газэцина. А тым часам нас, беларусоў, ёсць 8 ½ мільёноў чалавек; литвиноў жэ и трох мильёноў не набярэцца. За тое литвины шчыра ўзялися за свае национальнае адрадзэньне и працуюць, не пакладаючы рук»[89]. «Тагачасныя летувіска-беларускія дачыненні ў Вільні адзначала шчырая прыязнь. Маладым летувіскаму і беларускаму рухам даводзілася здабываць сабе ў разнамоўнай Вільні месца і роўныя з іншымі грамадскія правы»[90].

У «Дзённіку» Міхала Ромера, аднаго з лідэраў «краёвай ідэалогіі», прыведзена наступная характарыстыка рэдакцыі «Нашай Нівы»: «Кола супрацоўнікаў «Нашай Нівы» для мяне з'яўляецца адным з самых прыцягальных і сімпатычных у Вільні. Ёсць у іх вялікая шчырасць волі, моцная адданасць справе, якая ўспрымаецца імі не як механічная праца ці прафесійны абавязак, а як жывая творчасць, як найбольш поўнае праяўленне іх жыцця, іх энергіі, іх волі. Яны цалкам паглыблены ў сваю справу, толькі ёй і жывуць. Кожны з іх — адметная асоба, кожны мае выразную і непаўторную індывідуальнасць. Пэўная шаблоннасць думак і дзеянняў, якую часта нараджае калектыўная праца, у беларусаў цалкам адсутнічае. Яскравая індывідуальнасць кожнага з іх тлумачыцца шчырымі, добрасумленнымі адносінамі да справы. Пры энергічнай дзейнасці індывідуальнасць не нівеліруецца па пэўным шаблоне, а развіваецца, набывае выразныя контуры, што садзейнічае найбольш поўнаму выяўленню асобы».

«Высокі ўзровень талерантнасці «нашаніўскага кола», магчыма, быў абумоўлены тым, што сярод беларускай эліты паступова распаўсюдзіўся яшчэ адзін варыянт нацыянальнай ідэалогіі, з'яўленне якога было звязана з палітычнай актыўнасцю літоўскіх і беларускіх палякаў». Прадстаўлялі гэты рух Міхал Ромер, Раман і Канстанцыя Скірмунты, Баляслаў Ялавецкі. З «краёўцамі» цесна супрацоўнічалі браты Луцкевічы, якія былі «ініцыятарамі ажыццяўлення незвычайнага беларускага праекта — выдання штодзённай газеты на рускай мове і штотыднёвіка на польскай»[91]. Гэтымі выданнямі сталі з 1912 г. віленскія «Вечерняя газета» і «Kuier Krajowy», якія разглядаліся ў якасці яшчэ аднаго сродку ўмацавання пазіцый беларусаў у нацыянальна-культурным і грамадска-палітычным жыцці. Сувязі з «краёўцамі» мелі пад сабой не толькі ідэйную аснову, але былі выкліканы таксама і пэўным прагматызмам. Для падтрымкі беларускага руху, выдавецкай дзейнасці патрэбны былі матэрыяльныя сродкі. Іх пошукам займаўся ў асноўным Іван Луцкевіч, які, па сутнасці, «фінансаваў газету «Наша Ніва» ды і амаль усю беларускую справу ў Вільні». Складанасць была ў тым, што беларусы амаль не мелі сваёй гандлёва-прамысловай буржуазіі[92], багатай эліты, якая прызнавала б сябе беларускай. Толькі лічаныя беларускія палякі падтрымлівалі нацыянальны рух: Магдалена Радзівіл, Раман Скірмунт, Міхал Ромер, Тэрэза Гардзялкоўская. У справу арганізацыі друку ў Вільні Луцкевічы ўклалі ўсе свае спадчынныя зберажэнні[93]; матэрыяльную дапамогу аказвалі таксама віленскі мешчанін Аляксандр Уласаў, адзіны з «нашаніўцаў», хто меў прыбытак з уласнага фальварка, віленскі беларус Зыгмунт Нагродскі. Даўгі за выдавецкія выдаткі часта пакрываліся дзякуючы продажу антыкварных рэчаў (акрамя беларускіх, якія збіраліся І. Луцкевічам для беларускага музея).

У 1912 г. рэдакцыя газеты пасля абмеркавання пытання аб графіцы (шрыфце) выдання прымае рашэнне аб друку толькі «рускімі літарамі» (з № 43 ад 24 кастрычніка), што дало і пэўную эканомію сродкаў[94]. З часам, і асабліва ў апошнія гады існавання, «Наша Ніва» ўжо мела значную колькасць платных падпісчыкаў, а паляпшэнне матэрыяльнага становішча садзейнічала арганізацыі кнігавыдання і стварэнню новых выдавецтваў: «Саха», «Наша Хата», «Палачанін», «Беларускае выдавецкае таварыства», «Biełarus». У гэты ж час у Вільні адкрыўся і Беларускі кніжны магазін В. Ластоўскага, пры якім ён з сям'ёй жыў да 1918 г. і збіраў калекцыю беларускіх старажытнасцей[95].

За 1907—1913 гг. рэдакцыя газеты спрычынілася да выдання больш як 40 беларускіх кніг (усяго 44)[96]. С. Александровіч, падаючы звесткі пра колькасць кніжных выданняў «Нашай Нівы», вызначае лічбу 33 і адначасова прыводзіць факты, што пры ўдзеле рэдакцыі віленскай газеты выйшлі яшчэ не менш як сем кніг: «Песні-жальбы» Якуба Коласа, «Снатворны мак» Кандрата Лейкі (1910), «Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX стагоддзя» і «Адам Ганоры Кіркор» Рамуальда Зямкевіча (абедзве 1911), «Čužyk biełaruski» Галляша Леўчыка (1912), «Вянок»



БЕЛАРУСКАЯ КНІГАРНЯ

Вільня, Завальная, № 7.

Вядзе агульніцкі і дробны гандэль беларускімі кніжкамі, дастаўляе кніжкі аб Беларусі у другіх мовах, прыймае да друкаваньня рукапісы.

Кніжкі беларускіе кнігарня высылае і накладной платай. Хто выпісывае накладной платай—даплачывае ешчэ 10 кап. за накладную плату і 7 кап. за заказ.

Прыймаецца падпіска на газэты.

Гандлярам Беларуская кнігарня дае вялікую уступку.

Каталогі высылаюцця дарма.

„БЕЛАРУСКІ КАЛЕНДАР“

Выходзіць што год рускімі літэрамі і другое выданьне польскімі літэрамі. Цэна 15 кап., с перасылкай—20 к. Прадаецца на ўсіх беларускіх рэдакціях і кнігарнях.

Беларускае Выдавецкае Таварыства у Вільні.

прыступаючы да выдавецкай працы паведамляе усіх, каму дарага справа беларускаго адраджэньня, аб тым, што таварыства ставіць сабе мэту у першы чарод выпускаць у сьвет па сіле магчымасьці такіе кнігі:

Пісьмо сьвятое цэлае, Гісторыю старога і новаго закону для дзяцей у школах, Кніжку да набажэнства, Эвангелічку на сьвяты і нядзелі, Гісторыю касьцёла для школ, Граматыку беларускую, Географію, Слоўнікі, Арытмэтыку, Кнігі для навучаньня у школах, Кнігі популярные аб сельскай гаспадарцы. Выдавецтва звертаецца с просьбай да шаноўных пісьменьнікаў прысылаць як можна найхутчэй свае рукапісы вышэй азначэных кніжок.

Адрэс: Вільня, Капітановая № 5, кв. 4., Беларускае Выдавецкае Таварыства.

ТАРАС ГУШЧА

РОДНЫЕ ЗЬЯВЫ

ВІЛЬНЯ 1914
ДРУКАРНЯ МАРЦІНА КУХТЫ.

*Тытульны ліст кнігі Я. Коласа «Родныя з'явы». Вільня, 1914 г.*

Максіма Багдановіча, «Колядная пісанка, 1913 года» (абедзве 1913). Большасць з выданняў з'яўляліся паасабнымі адбіткамі артыкулаў, змешчаных у «Нашай Ніве».

Асноўная кніжная прадукцыя «Нашай Нівы» выходзіла паралельнымі выданнямі кірыліцай і лацінкай, крыху менш друкавалася толькі кірыліцай, і вядомы адзін твор Галляша Леўчыка, які выдаваўся выключна лацінскім шрыфтам. Адным з першых кнігавыдавецкіх праектаў рэдакцыі быў выпуск зборніка апавяданняў «Гэдалі» Э. Ажэшка ў 1907 г. сумесна з выдавецтвам «Мінчук». Кніжная прадукцыя «Нашай Нівы» — мастацкая літаратура і літаратуразнаўства, фальклорныя зборнікі песень і казак, сельскагаспадарчыя і медыцынскія выданні. Два выпускі «Зборніка «Нашай Нівы» за 1912 г. уяўлялі перадрук ужо апублікаваных твораў[97]. Не заставаліся па-за ўвагай і перакладныя творы: «Зямельная рэформа ў новай Зеландыі» (1907), «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» Д. Дарашэнкі (1909) — з украінскай, «Гутаркі аб гаспадарцы» Семпалаўскага (1909), «Як багацеюць чэшскія сяляне» Маліноўскага — з польскай, «Казка аб вадзе» Э. Беламі (1907) — з англійскай, «Хілібертава пакута» А. Амфітэатрава (1912) — з рускай.

У 1910—1913 гг. «Наша Ніва» наладзіла выданне штогадовых беларускіх календароў, якія мелі асаблівую карысць і культурна-асветнае значэнне для беларускага селяніна-гаспадара. Каляндар даваў разнастайную і неабходную інфармацыю аб важнейшых кірмашах, змяшчаў парады па паляводстве і садаводстве, доглядзе дзяцей, мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў, народныя прыкметы і жарты, песні.

Асноўнымі тыпаграфскімі прадпрыемствамі, у якіх атрымлівалі паліграфічнае ўвасабленне нашаніўскія выданні, былі ў 1907—1913 гг. — друкарня М. Кухты, у 1912 г. — «Прамень» і «Znicz». Паслугамі віленскай друкарні М. Кухты карысталіся таксама і іншыя беларускія выдавецтвы горада — «Наша хата», «Палачанін», «Беларускае выдавецкае таварыства». У 1914 г. у друкарні М. Кухты з'явілася выданне Мастацкага таварыства ў Вільні на рускай, польскай, літоўскай, беларускай і яўрэйскай мовах — зборнік «Дзень

→ *Газета «Наша ніва». 1906 г. 30 лістапада.*

Год 1. Вильня 17/30 листопада (ноябра) 1906 г. № 2.

# Наша Нива

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литэрами.

Адрэс рэдакціи и администрации:
Вильня, Большая Погулянка д. № 17.

Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

Цэна з перэсылкою и дастаукою да хаты: на 1 год—3 руб., на 6 месяцоу—1 руб. 50 кап., на 3 мес.—75 кап., на 1 мес.—25 кап. Без дастауки и перэсылки: на 1 год—2 р. 40 к., на 6 мес.—1 р., 20 к. на 3 мес.—60 кап., на 1 мес.—20 к. За границаю: на 1 год—4 руб., на 6 мес.—2 руб., на 3 мес.—1 руб. Перэмена адрэсу—20 кап.

Абвесткі прымаюцца на наследніяй страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукописы и корэспонденция, прысыланые у рэдакцию, мусяць быць чытэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна також падписаць прозвищэ разомъ з фамильею, кали незахочэце, каб была надрукавана ваша праудзивая фамиллия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакцыи.



Замчышчэ у Новагрудку.

Новагрудак цяпер паветовым месци Менскай губэрнии; кались сталица Новагрудскаго ваеводзтва, а ешчэ дауней—Литвы и Белой Руси. Аб гэтым Новагрудку пишуць вучоные, што князь Мэндог у 1252 году тутака каранавауся на Караля Литвы; па праудзи то няведама чы тутака, чы у Лишквовы, катори описаны у № 1 „Нашай Нивы". Для нас Новагрудок мае вяликое значэние, тут пачау учыцца вялики песьняр нашаго краю, Адам Мицкевич, каторы у сваих песьнях аписау нам вельми пекне НовагрудскоеЗамчышчэ—Цяпер з вяликаго замку князей асталося тольки тое, што тутака видаць на рысунку. Шчасны.

*Вильня 16 (29) листопада (ноября).*

Першы нумэр нашай маленькай газэтки зрабиў шмат шуму у нас на Белой Руси и у суседзтви з ёю. Да рэдакцыи пасыпались писульки, письма. З розных старон далятели крыки, што газэтка, выдаваная па беларуску, саўсим непатрэбна, што гэту газэтку лепей было - бы выдаваць, як адны кажуць—па польску, другие—па расейску, бо беларуски язык, кажуць—язык мёртвы, яго не варта падымаць з магилы.

Адказываць на гэта доўго ня будзем.—скажэм тольки, што мы хаця и магли бы выдаваць газэтку ци па польску, ци па расейску, ци па немецку або па французку,

## *Ад Рэдакции.*

У чацьвёртым нумэры „Нашай Доли“ на першым мейсцы стаиць абьяўленне, што „дзеля прычын ад рэдакции незалежных „Наша Доля“ больш выхадзиць ня будзе“. Абяўленне гэта перэдрукавали и виленские газэты, а меж ими и Сев.-Зап. Голос у № 245—30 сенцября гэтаго году. У № 261 Сев.-Зап. Г. (19 акцябра 1905 г.) рэдактор-выдаўца „Нашае Доли“ Тукеркес кажэ, што ен газэты не закрываў, зрабили гэта неякие няведамые яму людзи, а што падписка на „Нашу Долю“ прынимаецца. У № 263 (21 акцября 1906 г.) С.-З. Гол. быўшые члены рэдакции „Наша Доля“ атказали пану Тукеркесу, што „Наша Доля“ закрыта, а кали и будзе зноў выхадзиць, то яны працаваць у ей ня будуць; калиж пры выдаванню „Н. Д.“ паном Тукеркесом што—кольвек зробицца, то яны атвету за гэта на сябе не бяруць.—Пан Тукеркес падаў абьяўленне, што „Н. Д.“ скоро выйдзе и што ен прынимае падписку.—Тым часам 10 акцябра выйшоў № 1 новой газэты „Наша Нива.“ Чытацели и ўсе заинтэрэсованые, хто падписаўся на „Нашу Долю“, прыходзили да рэдакции „Нашай Нивы“ пытацца, чаму „Наша Доля“ так доўго не выходзиць, чы выйдзе яна кали и чы праўда-што пан Тукеркес памешчае ў газэтах абьяўлення аб падписцы дзеля таго, каб папрэвиць сваю кишэню, каторую падарвали частые конфискации „Нашай Доли“? Рэдакция „Н. Нивы“ на гэта атказаць не магла и ничого не атказала. Даведалась яна тольки адно, *што нихто з быўшых сатрудникоў рэдакции „Нашай Доли“ працаваць з паном Тукеркесом ня будзе;* таким парадком есць прычына думаць, што „Н. Доля кали и патрапиць выйсци, то ўжо ня будзе такая, як была раней.—У № 143 „Свабоднаго Слова“ 14 ноября 1906 г. пан Тукеркес написаў письмо, гдзе лаець рэдакию „Нашай Нивы“. Мы на гэта письмо адказываць ня будзем ничого, бо з людзьми некультурными ня хочэм мець ниякого интэрэсу. Пан Тукеркес абецуе, што ў гэтым тыдню выйдзе чародны нумэр „Нашай Доли“, и будзе яна такая, як была да гэтуль. *Кали гэта праўда,* то нехай яму Бог паможэ.

Рэдактор-Выдаўца **З. Вольски.**



Друкарня М. Кухты, Дворцовая, д. № 4.

*Вокладка кнігі М. Канапніцкай «Дым». Вільня, 1909 г.*



Год IV выданьня "НАША НІВА" 1909 год.

**Першая беларуская газэта з рысункамі.** Выходзіць рускімі і польскімі літэрамі. — Прымаецца падпіска на 1909 г. — У гэтым гаду „НАША НІВА“ выходзіць у новым выгаднейшым формаце.

**„Наша Ніва“** паставіла сабе мэту будзіць у беларусоў пачуцьце чалавека і грамадзяніна, голасно гаворыць аб яго патрэбах і правох.

**„Наша Ніва“** одзіная газэта ў краю, каторая мае карэспандэнтоў бадай з усіх мястэчэк і шмат з якіх вёсак; у гэтых карэспандэнціях, як у люстры, відаць усё жыцьцё нашых дагэтуль забытых беларусоў.

**„Наша Ніва“** ўсе новые думскіе законы, каторые датыкаюць Беларусі, разбірае і ацэнівае жывымі прыкладамі з жыцьця Беларускаго краю.

**„Наша Ніва“** тлумачыць сваім чытацелём усё, што робіцца на цэлым сьвеці і ў Расеі.

**„Наша Ніва“** друкуець практычные гутаркі аб гаспадарцы.

**„Наша Ніва“** тлумачыць, як нарыхтаваць розные культурные справы (коопэрацii, сельскіе банчкі, бібліотэкі і др.).

**„Наша Ніва“** ў „Пачтовай скрыницы“ дае атказы на ўсе пытаньня, тлумачыць законы, паказывае добрые кніжкі беларускіе, польскіе, рускіе і др.

**ЦЭНА с перасылкаю і дастаўкаю да хаты:**

На 1 год—2 руб. 50 кап., на 1/2 года—1 р. 25 к., на 3 мес.—65 кап. на 1 мес. 25 к. За граніцу на 1 год—4 р., на 1/2 года—2 руб.

*Рэдактор-Выдаўца* А. ЎЛАСОЎ.

Адрэс Рэдакціі і Канторы: *Вільня, Віленская № 20.*





искусства. Dzeń artystyczny. Mieno dziena. Дзень штукарства» (Вільня, 8 снежня 1914 г.), у які былі ўключаны творы М. Чурлёніса, В. Брусава, Л. Уземблы, К. Гжымайлы, З. Жвікаса, Я. Купалы, Ц. Гіршкана, З. Бядулі, А. Гаруна, І. Патамсіса і інш. Вядома не менш як 60 кніжных выданняў на беларускай мове, якія надрукаваў М. Кухта ў 1906—1915 гг.

У друкарні М. Кухты ў 1913 г. выйшла адзінае прыжыццёвае выданне Максіма Багдановіча «Вянок». З лістоў М. Багдановіча ў рэдакцыю «Нашай Нівы» вядома, што зборнік рыхтаваўся да друку пры непасрэдным удзеле супрацоўнікаў газеты.

Рэдакцыя газеты займалася таксама гандлем беларускамоўнымі выданнямі, уласнымі і іншых выдавецтваў, супрацоўнічаючы з рознымі віленскімі кніжнымі магазінамі: В. Макоўскага, М. Пясецкай-Шлапэліс, «Летува», Карабаснікава, «Знание»[98].

Каб задаволіць беларускую грамадскасць у кніжнай прадукцыі, неабходна было стварыць у Вільні асобнае выдавецтва, не звязанае з газетай. 15 снежня 1908 г. у Вільні створана новая выдавецкая суполка, якая атрымала назву «***Наша хата***». Яе арганізавалі В. Бонч-Асмалоўскі, Аляксандр Уласаў, Барыс Даніловіч, Іван Луцкевіч, Язэп Манькоўскі і К. Цэтэрман. Месцілася выдавецтва ў памяшканні бібліятэкі «Знание». За час існавання «Нашай хаце» ўдалося зрабіць няшмат. З 1909 да 1911 гг. выйшла шэсць кніг, дзве з якіх надрукаваны і кірыліцай, і лацінкай: «Тарас на Парнасе» (1909) і «Як рабіць добрыя рамовыя вуллі» (1910). Сумесна з выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца» ў пецярбургскай друкарні К. Пянткоўскага надрукавана «Другое чытанне для дзетак беларусаў» Я. Коласа (1909). Астатнія кнігі выдавецтва — перакладныя мастацкія творы: апавяданні «Дым» М. Канапніцкай (1909), «Архіп і Лявонка» М. Горкага (1910) і «Дзядзька Голад» С. Віткевіча (1911), якія выйшлі за кошт перакладчыцы Тэрэзы Гардзялкоўскай, а таксама адзін арыгінальны твор — апавяданне вершамі «Дзед Завала» Ядвігіна Ш. Істотная асаблівасць большасці выданняў «Нашай хаты» — іх дакладны адрасат — беларускія дзеці. Кнігі выдавецтва вызначаліся афармленнем, наяўнасцю ілюстрацый.

Значнае ажыўленне назіралася ў кнігавыдавецкай дзейнасці Вільні пасля таго, як 1 ліпеня 1913 г. пачало дзейнічаць ***Беларускае выдавецкае таварыства (БВТ)***, у склад якога



— 13 —

калі завядзецца якая вільгаць у сярэдзіне, то яна па капельцы і сцячэ праз лётку, не

Рыс. № 12. Гатовы вулей з аднаскатнай стрэшкай.

затрымываючыся ў сярэдзіне. Так сама малы нахіл вульля на перад выгаднейшы дляпчол, бо ім тады лягчэй чысьціць вулей.

*Старонка з кнігі «Як зрабіць добрыя рамовыя вуллі». Вільня, 1910 г.*

ўваходзілі Барыс Даніловіч, Іван Луцкевіч і Канстанцін Шпакоўскі. Старшынёй БВТ стаў Вацлаў Іваноўскі, а сакратаром — Янка Купала. Выдавецтва размяшчалася на кватэры В. Іваноўскага, які перадаў таксама ў распараджэнне суполкі значныя фінансавыя сродкі[99]. За час дзейнасці таварыства выдала 14 беларускіх кніг (большасць з іх была надрукавана ў 1914 г.) агульным тыражом, які не дазваляла сабе яшчэ ні адно беларускае выдавецтва таго часу, — 42 тыс. экзэмпляраў, пры тым, што гэта былі даволі аб'ёмістыя выданні. Небывалы да гэтага размах выдавецкай дзейнасці сведчыў пра стабільнасць і сур'ёзныя перспектывы. Віленскае выдавецтва было адзіным, дзе аўтары маглі атрымаць ганарар.

На пачатку дзейнасці выдавецтва адкупіла ў «Нашай Нівы» ўсю беларускамоўную кніжную прадукцыю, што была на складзе, перакупіла таксама выданне «Беларускага календара», два выпускі якога былі надрукаваны кірылічным і лацінскім шрыфтамі. БВТ толькі дзве кнігі выпусціла лацінкай — «Apawiedańnia i lehiendy wieršam roznych aŭtaraŭ» і «Kantyczka» (1914), астатнія выйшлі кірыліцай: зборнік апавяданняў «Васількі» Ядвігіна Ш., «Рунь» М. Гарэцкага, «Родныя з'явы» Я. Коласа, першы зборнік вершаў «Курганная кветка» К. Буйло, «Апавяданні» Пётры Беларуса (усе 1914 г.), «Стражнік» Сцёпкі Бірылы (1915). Адзіная перакладная кніга — перавыданне апавядання «Сігнал» У. Гаршына (1914). Адметнасць БВТ была ў тым, што яно мела эмблему (белы лебедзь), якая звычайна размяшчалася пад назвай кніг, што друкаваліся за кошт Магдалены Радзівіл. Ваенныя падзеі перапынілі выдавецкую справу віленскіх беларусаў, аднак на пачатку 1920-х гг. выдавецтва ўзнавіла дзейнасць, выпускаючы беларускія кнігі ўжо ў межах Другой Рэчы Паспалітай.

Таксама ў Вільні дзейнічала выдавецтва «***Biełarus***» (1913—1915), якое значную ўвагу аддавала выпуску рэлігійнай літаратуры. Усе выданні надрукаваны выключна лацінскім шрыфтам, сярод іх зборнікі вершаў «Z rodnaha zahonu» Андрэя Зязюлі, апавяданне «Miatawyja listoczki» (абодва 1914 г.), п'еса «Betlejka» (1915).

Вядомы два выданні віленскага таварыства «***Палачанін***» — зборнік гумарыстычных вершаў «Снапок» А. Паўловіча (1910) і паэма «Кацярына» Т. Шаўчэнкі ў перакладзе Х. Чарнышэвіча пад рэдакцыяй Я. Купалы (1911). У 1917 г. віленскай газетай «Гоман» заснавана яшчэ адна кніжная серыя (акрамя «Беларускіх песняроў» выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца») — «Беларускія легенды», у якой выйшлі два выданні твораў Я. Баршчэўскага «Начэпнасць» і «Чарнакніжнік і змяя, што вылупілася з петушынага яйца». Шматнацыянальная прастора Вільні, культурныя ўзаемаўплывы садзейнічалі выяўленню і крышталізацыі нацыянальнай самасвядомасці. Для беларусаў Вільня — месца адраджэння нацыянальнага друку, які ў сваю чаргу (асабліва перыядычны друк) стаў унікальным феноменам не толькі набілітацыі беларускай мовы, літаратуры, кнігі, культуры, але і самой беларускай нацыі.

У Мінску таксама спрабавалі не толькі наладзіць распаўсюджанне беларускіх кніг з Вільні і Пецярбурга, але і займацца самастойнай выдавецкай дзейнасцю. Выданне твораў мастацкай літаратуры стала адным з вядучых кірункаў для кніжнага таварыства «***Мінчук***», дзейнасць якога пачалася з 1 снежня 1906 г. У стварэнні таварыства пранялі ўдзел Багдан Куштэлян, Антон Шабуня, Канстанцін Шпакоўскі, Уладзімір Самойла, Сяргей Скандракоў і Вацлаў Іваноўскі. Сваёй мэтай «Мінчук» ставіў «выданне і распаўсюджванне кніг і газет, карысных і даступных беларуска-

му насельніцтву». З архіўных дакументаў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні, некаторыя з якіх захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, можна даведацца пра сумеснае з «Нашай Нівай» выданне кірыліцай і лацінкай апавядання «Гэдалі» Э. Ажэшка (1907). Лічыцца, што іншых самастойных ці сумесных выдавецкіх праектаў у «Мінчука», акрамя падрыхтоўкі да друку «Жалейкі» Я. Купалы, не было, аднак існаванне таварыства да 30 снежня 1909 г. (у артыкуле «Мінчук» у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» пададзена, што таварыства існавала ў Мінску ў снежні 1906—1907 гг.), пацверджанае В. Іваноўскім, дае падставу меркаваць, што высілкамі сяброў «Мінчука» падтрымлівалася дзейнасць «Нашай Нівы» ў Вільні. Сведчаннем гэтаму служаць і справаздачныя дакументы таварыства за 1907 г., дзе таксама паведамляецца пра павелічэнне колькасці яго ўдзельнікаў з 6 чалавек да 13, сярод якіх Пётр Юзэфовіч і князь Уладзіслаў Масальскі з Докшыц, Вікенцій Брадоўскі з Халопенічаў, Станіслаў Цюндзявіцкі з Новабарысава, Ігнат Цюндзявіцкі з Барысава, Эдвін Піятроўскі і Баляслаў Свянціцкі з Зембіна, князь Еранім Друцкі-Любецкі з Ракава. Таварыства «Мінчук» стала першай спробай стварэння ў Мінску беларускай выдавецкай арганізацыі.

«Мінчук» меў цесныя сувязі з беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу. Так, член «Мінчука» В. Іваноўскі ўзначальваў пецярбургскую суполку, Б. Куштэлян распаўсюджваў яе прадукцыю (напрыклад, «Дудку беларускую»). Пазней, у 1913 г., шляхціцы В. Іваноўскі і К. Шпакоўскі сталі аднымі з заснавальнікаў БВТ у Вільні.

Наступнымі па часе існавання ў Мінску былі выдавецтвы часопісаў «***Саха***» (1913—1915) і «***Лучынка***» (1914), стварэнне якіх ініцыявалі з Вільні А. Уласаў і А. Пашкевіч (Цётка). Дзейнасць «Сахі» і «Лучынкі» ў сувязі з ваеннымі падзеямі была непрацяглай. «Саха» выпусціла пяць навукова-папулярных сельскагаспадарчых выданняў, «Лучынка» — адзін зборнік апавяданняў для дзяцей. «Лучынкай» фактычна кіравала Цётка, фінансавую дапамогу аказвала Тэрэза Гардзялкоўская. Створаны ў 1912 г. на аснове сельскагаспадарчага аддзела газеты «Наша Ніва», віленскі часопіс «Саха» праз два гады стаў мінскім перыядычным выданнем, выдавецкі аддзел якога заняўся выпускам навукова-папулярнай літаратуры па сельскай гаспадарцы на беларускай мове. Асноўную ролю ў выданні і распаўсюджанні мінскіх кніг «Сахі» адыграў А. Уласаў, «самы цярплівы і «доўгатэрміновы» выдавец-рэдактар «Нашай Нівы», заснавальнік таксама беларускага выдавецтва «Наша хата». Яму ж і А. Пашкевіч належыць стварэнне мінскага дзіцячага часопіса «Лучынка», які адначасова з'яўляўся выдавецтвам. Дзякуючы выдавецкай дзейнасці А. Уласава ў Вільні і Мінску ўзмацняўся і пашыраўся беларускі нацыянальны рух (і ён, і Цётка былі членамі БСГ), а беларускае кнігавыданне паступова выходзіла за межы свайго гістарычнага цэнтра.

Спробай калектыўнага супрацоўніцтва была дзейнасць у Мінску выдавецтваў «***Вясёлка***» (1915), якое выпусціла адну кнігу («Беларускія жарты»), і «***Вольная Беларусь***» (1917), якое вызначылася найбольшай колькасцю выдадзенай у гэты час у горадзе літаратуры на беларускай мове (шэсць назваў). У «Вольнай Беларусі» упершыню ў Мінску надрукаваны на беларускай мове «Дзіцячая чытанка», паэма «Тарас на Парнасе». Таксама выйшлі кнігі Я. Лёсіка, Я. Коласа і інш.

Сярод выданняў часоў Першай сусветнай вайны — лістоўкі на актуальныя тэмы. Зберaглася адозва «Да грамадзян Беларусі» (вясна 1915 г.), у якой «усіх шчырых беларусаў і ўсіх праўдзівых грамадзян Беларускага краю» заклікаюць дапамагаць працай і грашамі «Беларускаму таварыству помачы пацярпеўшым ад вайны». Адозва падпісана на манер актаў ВКЛ: маршалкам Іваноўскім, намеснікамі маршалка А. Луцкевічам і В. Ластоўскім, пісарамі П. Алексюком і І. Біндзюком, а таксама членамі камітэта С. Савіцкім, Н. Клімам і И. Буйніцкім. Надрукавана гэта адозва ў друкарні М. Кухты ў Вільні. Іншая лістоўка пачыналася словамі «Пагалелым ад вайны беларусам памажыцял!», а заканчвалася фразай «За шчырую дапамогу будзіць шчыры дзякуй». У архівах захаваўся цікавы комплекс дакументаў аб дзейнасці «Беларускага таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны»: пратаколы сходаў, тэлеграмы і перапіска беларускіх арганізацый у Пецярбургу, Мінску, Вільні і Смаленску[100].

У 1905—1917 гг. убачылі свет каля 150 беларускіх кніг агульным накладам больш за 315 тыс. экзэмпляраў. Асноўную частку складалі выданні беларускіх таварystваў: у Вільні — «Наша Ніва», «Наша хата», «Палачанін», Беларускага выдавецкага таварыства, «Гоман», «Biełarus»; у Пецярбургу — «Загляне сонца і ў наша аконца», выдавецтва А. Грыневіча, «Грамада»; у Мінску — «Мінчук», «Саха», «Вя-

Год II—1913. Липень. 15-ая кніжка.



ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.

Падпісная цана на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап., за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: Вільня Віленская 29.

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы

Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.

*Часопіс «Саха». Ліпень 1913 г.*

сёлка», «Лучынка», «Вольная Беларусь». Яны дзейнічалі ў цеснай узаемасу-вязі (палітычнай, культурнай, нацыянальнай), падтрымліваючы адно аднаго ў выданні і распаўсюджванні беларускіх кніг. У гэты час назіраўся таксама значны колькасны рост кніжных выданняў, якія змяшчалі беларускія тэксты: больш за 230 назваў. Друкаваліся яны акрамя Пецярбурга, Вільні і Мінска ў Віцебску, Кіеве, Маскве, Варшаве, Харкаве, Львове, Смаленску, Полацку, Барысаве, Пінску.

З'яўленне ў поўным сэнсе нацыянальнай выдавецкай справы адыграла важнейшую ролю ў станаўленні і развіцці новай беларускай літаратурнай мовы, фарміраванні нацыянальнай свядомасці.

# ІМПЕРСКІЯ ВАРШТАТЫ: ДЗЕЙНАСЦЬ АСНОЎНЫХ ТЫПАЎ ВЫДАВЕЦКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ

## Дзяржаўныя выдавецтвы. Выдавецкая дзейнасць Віленскага універсітэта (1803—1832)

Віленскі універсітэт згодна са статутам з'уляўся навуковым і навучальным цэнтрам, а таксама органам, які кіраваў справай асветы на тэрыторыі 8 губерняў: Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Кіеўскай, Валынскай і Падольскай з насельніцтвам у 9 млн. чалавек. Віленская навучальная акруга была адной з самых моцных у Расійскай імперыі. Так, з 494 школ, якія існавалі ў 1803 г. у Расіі, у Віленскай навучальнай акрузе знаходзілася 132, а з 23 345 навучэнцаў — 11 432[101]. У 1810 г. да яе была далучана Беластоцкая навучальная акруга. Праўда, з часам некаторыя з губерняў адышлі, аднак пазіцыі Віленскай навучальнай акругі не змяніліся. Напрыклад, у 1824 г. у Маскоўскай навучальнай акрузе было 11 880 навучэнцаў, а ў Віленскай — 20 665[102].

Віленскі універсітэт акрамя таго ажыццяўляў нагляд за ўсімі друкарнямі навучальнай акругі. Паводле яго статута 1803 г. і ў адпаведнасці з цэнзурным статутам 1804 г. пры ім быў створаны Цэнзурны камітэт, у абавязкі якога ўваходзіў прагляд твораў, выдаваных самой гэтай установай і замежных, а таксама ўсіх кніг, друкаваных у Віленскай навучальнай акрузе. Гэты камітэт дзейнічаў да 1827 г., а ў жніўні 1827 г. быў заснаваны іншы — Віленскі цэнзурны камітэт, які знаходзіўся ў падпарадкаванні апекуна Віленскай навучальнай акругі. Статут 1828 г. вызначаў склад камітэта, у які ўваходзілі прафесары і ад'юнкты універсітэта. У красавіку 1829 г. адкрыўся адзіны цэнзурны камітэт у складзе чатырох членаў, які займаўся ўнутранай і замежнай цэнзурай, у штат былі ўведзены таксама дзве асобыя пасады для прагляду выданняў на яўрэйскіх мовах[103]. Аднак і пасля закрыцця Віленскага універсітэта цэнзурны камітэт узначальвалі яго прафесары, апекуны Беларускай (да 1850 г.), а затым Віленскай навучальнай акругі (1850—1863).

На 1803 г. у Вільні існавала 6 друкарняў[104], адна з якіх, універсітэцкая, з'ўлялася буйнейшай на тэрыторыі Беларусі і Літвы (пасля скасавання ордэна езуітаў друкарняй кіраваў астраном М. Пачобут-Адляніцкі, з 1804 г. — адміністратар піярскай друкарні ксёндз Р. Даніловіч). Аднак першачарговыя задачы універсітэта па масавым выпуску новых падручнікаў яна, як аказалася на той час, не змагла задаволіць, хоць кіраўніцтвам універсітэта была запланавана сума ў памеры 3000 рублёў на паляпшэнне стану друкарні, у 1803 г. набыта абсталяванне друкарні Якуба Ясінскага з Гродна[105]. Выхад быў адшуканы тады, калі універсітэцкую друкарню вырашылі перадаць у арэнду прыватнаму прадпрымальніку (ім з 24 жніўня 1805 г. стаў Юзаф Завадскі), які абавязваўся ўдасканаліць яе дзейнасць у адпаведнасці з патрэбнасцямі Віленскай навучальнай акругі. Наступным і апошнім арандатарам універсітэцкай друкарні быў Тэафіль Глюксберг, які заключыў дзесяцігадовы кантракт на яе ўтрыманне 3 снежня 1827 г.

У 1807 г. па ініцыятыве рэктара універсітэта Я. Снядэцкага быў арганізаваны часовы школьны камітэт па падрыхтоўцы падручнікаў для вучылішчаў (праіснаваў да 1822 г.). Аднак праца камітэта звялася да разгляду рукапісаў некалькіх падручнікаў, большасць з якіх па розных прычынах былі адхілены. Сярод выпушчаных былі, напрыклад, кнігі: «Pan Jan ze Świsłoczy, kramarz wędrowny» («Пан Ян са Свіслачы, вандроўны гандляр», 1821 г.) Я. Ходзькі — для ўжывання ў прыходскіх вучылішчах; польска-лацінскі слоўнік М. Баброўскага; некаторыя перавыданні ранейшых падручнікаў. Камітэтам былі таксама выдадзены дзве праграмы для складання польскай граматыкі.

Загадчык кафедры старажытных моў Годфрыд Гродэк заснаваў у 1810—1824 гг. «філалагічны семінарыум» — своеасаблівы гурток з паглыбленым вывучэннем старажытных моў і гісторыі. Адной з задач семінарыума была падрыхтоўка школьных падручнікаў па старажытнай геаграфіі, міфалогіі, антычнай гісторыі, выданне класікаў з каментарыямі (фінансаваў выданні А. Чартарыйскі). Адпаведна гэтаму ў 1815 г. быў створаны камітэт для выдання кніг, граматык і слоўнікаў для школ універсітэта, які ўзначаліў Г. Гродэк; у склад увайшлі лепшыя навучэнцы універсітэта Ш. Жукоўскі, Л. Лялевель, ад'юнкты А. Лявіцкі



1821. Nrek 263.

WIADOMOSCI BRUKOWE.

Wilno w Sobotę Dnia 17 Grudnia.

*Leci a leci.*

OBWIESZCZENIE.

Ja niżey na podpisie wyrażony, Szlachcic na łopacie, znaiomy iuż poczęści światu przez moie latanie bez skrzydeł; po odbyciu rozlicznych wypraw w różne a różne strony, powróciłem nakoniec do domu bez szwanku, i osiadam nanowo na górze Zamkowey — Pałaiąc zaś chęcią służenia Prześwietney Publiczności i nadal, a nie chcąc się w *obserwatorium* moiém oddać gnuśności, któreyem się wyrzekł, przy pierwszém wyleceniu na powietrze, iak złego ducha na chrzcie; kurs obserwacyy moich rozpoczynam nanowo i iuż nastawiam teleskopy na różne strony — A zatém ostrzegam Prześwietną Publiczność, aby się miała na baczności — Tymczasem, gdy w podróżach moich do niektórych części świata i położonych w nich kraiów, prowincyy, miast, miasteczek i wsi, nazbierałem i nakładłem to do głowy, to do torby bardzo rozmaitych rzeczy — Gdy, spuszczaiąc się, to w dzień to w nocy, przez kominy; wpadaiąc przez otwarte okna, lub wciskaiąc się przez szybki, nocuiąc często na poddaszach lub za parawanem w samychże pokoiach; napatrzyłem się rozlicznych przygód ludzkiego życia, i nasłuchałem, Bóg wié czego; a zatém zwąchałem poczęści przyrodzenie człowieka i słodkiey iego połowicy — Gdy, bawiąc czas długi w Xięztwie Żmudzkiém, i przestaiąc tam z wielu uczonymi, mianowicie w sądach i kancellaryach, wydoskonaliłem się w stroynym stylu polskim — Gdy nadto, przez kilkokrotne zwiedzenie Babilonu, nauczyłem się wielu słów nowego kroiu, które nadaią prozie i wierszom prawdziwą *szczytność* (górność) a myślom poufałym nawet, niepospolitą pękatość (nadętość) — Przeto obciążony takim zapasem światła, nauki i smaku, postanowiłem ulżyć sobie nieco, rozsypuiąc te zbiory po mieście i kraiu — To iest: stosuiąc się do ducha naszego wieku, przedsięwziąłem wydawać peryodyczne pismo — A iakież to, zapyta się kto, będzie pismo? — Oto, żebym starganych sił moich nie nadużył i czytelników nie utrudził, myślę raz w rok, około Nowego roku, wypuścić zpod prassy tomik ieden; nie wielki wprawdzie, ale ważny, ładny i bardzo uczony; o czém słowem szlacheckiém upewniam. Rozumiém..., powié może literat iaki, to będą *Roczniki!* — Bardzo przepraszam; poco mi takie koncepta? — Ja wiém, że od niepamiętnych czasów wychodziły u nas właśnie raz na rok *kalendarze*, pisma prawdziwie peryodyczne, które oycowie i dziady, babki i prababki nasze, nietylko z wielką czytały ciekawością; ale nawet zapisywały w nich rozmaite peryodyczne i nieperyodyczne zdarzenia, nigdy ich dlatego rocznikami nie nazywaiąc.

Krótko mówiąc, ia Szlachcic z łopatą, idąc za przykładem przodków moich, zamy-

*Газета «Навіны з бруку». 1821 г. 17 снежня.*

і С. Чэрскі, настаўнік старажытных моў Віленскай гімназіі С. Чэрскі.

У 1824 г. новы рэктар універсітэта, стаўленік М. Навасільцава В. Пелікан, які бачыў у падручніках галоўную крыніцу патрыятычных настрояў моладзі, паставіў сваёй мэтай змяніць сітуацыю, стварыўшы вучылішчнае аддзяленне праўлення універсітэта па падрыхтоўцы і выданні новых падручнікаў. Аднак у асноўным аддзяленне займалася рэцэнзаваннем прысланых настаўнікамі падручнікаў.

Значны ўклад у выдавецкую справу зрабілі прафесары Віленскага універсітэта, якія сталі аўтарамі шэрагу падручнікаў для студэнтаў (А. і Я. Снядэцкія, А. Доўгірд, М. Мяноўскі і інш.). Яшчэ ў 1800 г. быў створаны першы універсітэцкі падручнік па хіміі (у 2 т.) А. Снядэцкага, у 1804—1811 гг. выйшлі 2 тамы яго працы «Тэорыя арганічных істот», якая была перакладзена на нямецкую і французскую мовы. Выдатны плён мела дзейнасць прафесара медыцыны І. Франка, вучоных-грамадазнаўцаў, якія распрацоўвалі гістарычныя пытанні мінулага Вялікага Княства Літоўскага, — І. Анацэвіча, М. Бабдроўскага, І. Даніловіча, І. Лялевеля, Т. Чацкага, Ю. Ярашэвіча. У апошнія гады існавання Віленскага універсітэта з 47 прафесараў 36 былі ўраджэнцамі Беларусі і Літвы[106].

Недахоп у мясцовых падручніках запаўняўся перакладамі з іншых моў. Пэўны кірунак у выдавецкай практыцы універсітэта прысвячаўся стварэнню падручнікаў па вывучэнні рэлігіі.

У выданні падручнікаў для вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі універсітэт выступаў часта як выдавец, поўнасцю або часткова выдзяляючы фінансавыя сродкі на іх друк[107], аказваў матэрыяльную падтрымку аўтарам.

З 1805 г. універсітэт выдаваў штомесячны навукова-літаратурны часопіс «Dziennik Wileński». Выдавецкая дзейнасць універсітэта насіла не толькі афіцыйны, але і прыватны характар. У розныя часы тут існавалі грамадскія арганізацыі, якія мелі свае выданні. Так, у 1816 г. узнікла легальнае таварыства шубраўцаў, ядро якога складалі выкладчыкі універсітэта. Таварыства выдавала штотыднёвую газету «Wiadomości Brukowe» («Навіны з бруку»), рэдактарам якой быў А. Снядэцкі[108]. Газета выходзіла рознымі фарматамі, на паперы living рознага памеру, без ілюстрацый (толькі асобныя нумары мелі пры загалоўку гумарыстычную гравюру «Шляхціц на лапаце».

У 1818 г. універсітэт выступіў ініцыятарам стварэння грамадскага аб'яднання «Тыпаграфічнае таварыства ў Вільні» («Towarystwo typograficzne w Wilnie»)[109].

Адным з фактараў паспяховага наладжвання выдавецкай справы ў Віленскім універсітэце была наяўнасць развітай гравёрнай справы, неабходнай для выканання высокаякасных ілюстрацый, асабліва для кніг па геаграфіі, гісторыі, картаграфічнай прадукцыі. Так, у 1805 г. універсітэт заснаваў пры факультэце літаратуры і свабодных мастацтваў школу гравёраў, а ў 1819 г. — першую на тэрыторыі Беларусі і Літвы літаграфію. Вялікае значэнне мела і супрацоўніцтва са словалітняй З. Нахімовіча, якой універсітэт неаднаразова аказваў матэрыяльную падтрымку[110].

Асноўнымі афіцыйнымі выданнямі універсітэта з'яўляліся прамовы і навуковыя даклады публічных пасяджэнняў універсітэта, расклады лекцый (на польскай і лацінскай мовах), фінансавыя каштарысы, розныя статуты, праспекты лекцый, праграмы конкурсаў на падручнікі і інш.[111]

У канцы XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі адкрываюцца губернскія друкарні, якія сталі асноўным тыпам прадпрыемстваў дзяржаўнага характару: Мінская (1795—1917), Віцебская (1797—1917), Гродзенская (1820—1915), Магілёўская (1833—1917), Віленская (1838—1916). Падставай для стварэння ва ўсіх губернях Расійскай імперыі дзяржаўных друкарняў, якія павінны былі служыць мэтам «приказно-служителям облегчения, а паче к постоянному выполнению налагаемых по входящим документам резолюций», служыў урадавы загад ад 24 студзеня 1773 г.[112]

Ранейшай па часе заснавання з'яўляецца Мінская губернская друкарня. Пачаткам яе дзейнасці прынята лічыць 1797 г. Аднак, як сведчаць дадзеныя НГАБ у справах Мінскага губернскага праўлення за 1831 г., «за далучэннем тутэйшага Краю да расійскай дзяржавы ў 1795 г., дадзеная друкарня [ордэна базыльян, якая, як адзначаецца, дзейнічала ў Мінску з 1790 г. — Л.Д.] ўзята ў ведамства Губернскага Начальства, якім пакінута пры Губернскім Праўленні [...] у 1798 годзе зроблена пераробка з славянскіх на грамадзянскія, [...] польскіх не псаваўшыхся літар, з памнажэннем ліку такіх, і дапаўненнем другога станка, купленага ў Маскве»[113], а таксама звесткі з «Віленскага кур'ера» за 1860 г. № 71, дзе называецца выданне друкарні на польскай мове за 1796 г., даюць падставу выказаць меркаванне, што Мінская губернская друкарня была створана да 1797 г., відавочна ў 1795 г.

Друкарня дзейнічала на сродкі Мінскага губернскага праўлення, што вызначыла яе тып як дзяржаўнае прадпрыемства. Яшчэ на пачатку XX ст. вучоныя характарызуюць губернскія друкарні як «казённакамерцыйныя». Каб паменшыць выдаткі на іх утрыманне, дазвалялася прымаць прыватныя заказы на друкарскую работу. Акрамя таго, кіраванне друкарняй даручалася прыватнай асобе па заключаным з Губернскім праўленнем кантракце. Напрыклад, у 1818—1835 гг. яе утрымліваў Зымель Прэс. Такім чынам, губернская друкарня з'ўлялася па характары свайго падпарадкавання дзяржаўнай установай, а па сутнасці сваёй дзейнасці — камерцыйнай.

Першыя кнігі, друкаваныя грамадзянскім шрыфтам, першыя навуковыя і вучэбныя выданні ў Мінску — заслуга і Мінскай губернскай друкарні. «Минские губернские ведомости», «Памятные книжки Минской губернии», «Обзоры Минской губернии», якія выдаваліся тут, сёння справядліва лічацца важкімі гісторыка-краязнаўчымі крыніцамі[114].

За час дзейнасці друкарні выйшла 330 выданняў, што склала больш за 10% ад усёй кнігавыдавецкай прадукцыі Мінска за перыяд з 1795 па 1917 гг. Да 1845 г. выданні выходзілі ў асноўным на польскай мове, адзінкавыя — на латыні, а таксама з уключэннем тэкстаў на рускай мове. Пазней асноўнай кніжнай прадукцыяй (89%) сталі рускамоўныя выданні. Уздым дзейнасці друкарні прыйшоўся на пачатак XX ст. (1907—1914), калі за адзін год у свет выходзіла столькі выданняў, колькі за першае трыццацігоддзе існавання прадпрыемства. Стабільнасць у дзейнасці Мінскай губернскай друкарні можна адзначыць ужо пачынаючы з 2-й паловы 1860-х гг., што выяўлялася ў выпуску штогод ад двух да шасці выданняў. На пачатку 1890-х гг. друкарня налічвала ў сваім складзе да 30 супрацоўнікаў[115]. Па неабходнасці, пры павелічэнні заказаў на друк, павялічваўся склад наёмных рабочых[116]. Асноўны прыбытак друкарня атрымлівала менавіта дзякуючы прыватным друкарскім работам, а таксама аб'явам, якія друкавала ў «Минских губернских ведомостях»[117]. Эканамічнае развіццё Мінска садзейнічала ўдасканаленню тэхнічнага абсталявання друкарні: набываліся тыпаграфскія машыны расійскіх і замежных фабрык, якія завозіліся з Вільні, Пецярбурга і Лейпцыга.

Па дадзеных Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі Мінская губернская друкарня ў 1906 г. па даходнасці займала трэцяе месца, уступаючы толькі Пермскай і Віленскай. Менавіта з 1906 г. адзначаецца новы і даволі істотны рост аб'ёмаў кнігавыдання друкарні. Своечасовае тэхнічнае пераабсталяванне і фінансава-прыбытковая ўстойлівасць зрабілі яе канкурэнтаздольным прадпрыемствам. Рэзкі спад вытворчасці друкарні адбыўся ў 1914 г. Аб'ектыўнымі таму прычынамі сталі дзеянні Першай сусветнай вайны, якія асабліва негатыўна адбіліся менавіта на казённых выдавецтвах.

Па сваім змесце і мэтавым прызначэнні кніжная прадукцыя губернскіх друкарняў была універсальнай: мастацкая, навуковая, навукова-папулярная, навучальная, даведач-ная па разнастайных галінах ведаў. Даволі значнае месца займала афіцыйная і рэлігійная літаратура. Адначасова губернскія друкарні зрабілі значны ўклад у папаўненне рэпертуару выданняў краязнаўчай тэматыкі. Асабліва вызначаецца ў гэтым кірунку дзейнасць ***Віцебскай губернскай друкарні***, заснаванай у




Зборнік «Полацка-Віцебская даўніна». Кніга 1. Віцебск, 1911 г.




Вокладка кнігі «Віцебская гарадская дэпутацыя ў Маскве на ўрачыстасцях свяшчэннага каранавання ...». Віцебск, 1896 г.

1797 г., прадукцыя якой насіла найбольш выразны краязнаўчы характар (асабліва з 2-й паловы XIX ст.), што пацвярджаецца выпускам кніг па гісторыі, геаграфіі, культуры Беларусі М.Я. Нікіфароўскага, Е.Р. Раманава, А.П. Сапунова, У.П. Цеханавецкага, У.К. Стукаліча і інш. Першае выданне «Пахвальная песня пры ўступленні на прастол... імп. ўсёй Расіі Паўла Пятровіча Першага...» надрукавана ў 1799 г. на рускай мове грамадзянскім шрыфтам. Падчас вайны 1812 г. друкарня была знішчана. Пасля ўзнаўлення друкавала «Витебские губернские ведомости» (з 1838 г.), «Памятную книжку Витебской губернии» (з 1860 г.), «Историко-юридические материалы...» (1871—1906), «Витебскую старину» (1883, 1885, 1888). У1-й палове XIX ст. у друкарні выйшла некалькі кніг па гісторыі на польскай мове, напрыклад, «Жыццё Януша Радзівіла...» Э. Катлубая (1859). Віцебская друкарня мела дачыненне і да выпуску кніг на беларускай мове, якімі сталі 3 выданні паэмы «Тарас на Парнасе» (1896, 1898, 1904). Усяго налічваецца больш за 250 назваў кніг, якія былі выдадзены ў Віцебскай губернскай друкарні[118].

З магілёўскім перыядам дзейнсці Е.Р. Раманава (1895—1903) звязана павелічэнне колькасці выданняў краязнаўчага характару ў кніжным рэпертуары ***Магілёўскай губернскай друкарні***. Дзейнічала яна з 1833 г. пры губернскім праўленні. У 1846 г. была папоўнена тыпаграфскім абсталяваннем кансісторскай друкарні, зачыненай у 1844 г. У асноўным займалася друкам газеты «Могилевские губернские ведомости», штогадовых «Обзоров Могилевской губернии» (1879—1915), «Памятных книжек Могилевской губернии» (1861—1916), афіцыйных матэрыялаў губернскага праўлення, мясцовых устаноў і арганізацый. Першым кніжным выданнем з'яўляецца «Магілёўская флора» Р. Пабо і К. А. Чалоўскага (1853—1855)[119]. У 1900, 1902 гг. надрукавана па-беларуску кніга «Тарас на Парнасе і іншыя беларускія вершыкі». Сярод кніг краязнаўчага характару працы М. В. Фурсава, Ф. А. Жудро, М. П. Сазонава і інш. Усяго выйшла каля 217 назваў літаратурна-мастацкіх, навуковых, даведачных выданняў на рускай мове, каля 5% ад агульнай колькасці якіх складалі рэлігійныя.

Каля 150 назваў кніг на ліку ***Гродзенскай губернскай друкарні***, дзейнасць якой адзначаецца з 1820 г.[120] Акрамя афіцыйных матэрыялаў, друкаваліся газеты «Гродненские губерские ведомости» (з 1838 г.), «Адрес-

*Вокладка кнігі «Прамова ў час губернскага сейміка». Гродна, 1830 г.*




календарь и справочная книжка Гродненской губернии» (выдаваўся і пад назвай «Памятная книжка Гродненской губернии», 1858—1915 гг.), «Памятная книжка Гродненской дирекции народных училищ» (1890—1906), працы па гісторыі і краязнаўстве Беларусі і Гродзенскай губерні на рускай і польскай мовах М. А. Дзмітрыева, М. Г. Мілакоўскага, Л. С. Паеўскага, М. Дзікоўскага, М. В. Доўнар-Запольскага, А. Я. Багдановіча, Я. Ф. Арлоўскага, І. А. Раманоўскага, Л. Саланевіча, У. С. Манасеіна, Дз. М. Мілюціна і інш. Выходзілі ў друкарні і творы мастацкай літаратуры, нотна-музычныя выданні. У 1896 г. была надрукавана на беларускай мове паэма «Тарас на Парнасе». Значную частку выданняў друкарні, як і іншых губернскіх, складалі невялічкія брашуры — адбіткі з мясцовай губернскай газеты. Дзейнасць друкарні была спынена ў сувязі з акупацыяй Гродна германскімі войскамі.

Дзейнасць ***Віленскай губернскай друкарні*** гісторыкамі цалкам не распрацоўвалася і застаецца амаль не раскрытай. На пачатку сваёй дзейнасці яна называлася «Урадавая друкарня пры паліцыі». Ад 1815 г. захавалася выдадзеная тут кніжка А. Паслаўскага «Сакрэт адгадання хто каго кахае? Альбо хто аб кім думае. А таксама адкрыццё жаданняў каханкаў». Гэта кніжка-гульня змяшчала нумараваныя спісы жаночых і мужчынскіх імёнаў, а таксама магчымых жаданняў, падарункаў і да т.п. — ахвотнікі з дапамогай нумералогіі маглі «вылічыць» свайго каханка і яго жаданні.

Як адно з галоўных паліграфічна-выдавецкіх прадпрыемстваў Беларусі, Віленская губернская друкарня спрычынілася да ажыццяўлення буйнейшых праектаў па друку гісторыка-краязнаўчых і некаторых перыядычных выданняў. Будучы ў падпарадкаванні губернскага праўлення, яна была асноўным выдаўцом кніг, падрыхтаваных Віленскай археаграфічнай камісіяй, тут друкаваліся і афіцыйныя «Виленский вестник», «Виленский временник»[121]. Выдавала кнігі пераважна на польскай і рускай мовах; першым выданнем на літоўскай мове стаў маніфест аб адмене прыгоннага права (1863). Размяшчалася друкарня ў


SEKRET ZGADYWANIA

KTO KOGO KOCHA?

lub

KTO O KIM MYSLI.

A razem odkrycie życzeń kochankow.

przez

ANTONIEGO PASŁAWSKIEGO.

w WILNIE

w Drukarni Rządowey przy Policyi.

1815.

*Тытульны ліст кнігі «Забавы для каханкаў». Вільня, 1815 г.*

памяшканні рэзідэнцыі віленскага грамадзянскага губернатара.

З 1838 па 1915 гг. у Віленскай губернскай друкарні выпускаліся «Виленские губернские ведомости». Паводле зместу матэрыялаў у іх асабліва вылучаўся неафіцыйны аддзел, які асвятляў мясцовае жыццё, змяшчаў нарысы па гісторыі і этнаграфіі краю А. Кіркора, Р. І. Кулжынскага і інш. Газета выходзіла 2 разы на тыдзень. Рэдактарамі яе былі: А.І. Глінскі; з 1 студзеня 1864 г. — Л. О. Леванда; з 10 мая 1865 г. — В. П. Дабравольскі; з 1 ліпеня 1867 г. — А. М. Чысцякоў; з 2 кастрычніка 1869 г. — І. О. Горскі; з 2 сакавіка. 1871 г. — І. І. Патулаў; з 31 верасня 1874 г. — Т. Е. Лісіцын; з 10 студзеня 1883 г. — А. П. Львоў[122].

Больш за 70 гадоў — да Першай сусветнай вайны — праіснаваў «Віленскі кур'ер» («Kurier Wileński») (1841—1915). Рэдактарамі ў газеце былі А. Э. Адынец (1841—1859), А. Кіркор (1859—1865), М. дэ Пауле, П. Р. Бывалькевіч і інш. Друкаваліся ў тым ліку працы па беларускай этнаграфіі А. М. Булгакава, А. Я. Васільевай, М. А. Дзмітрыева, М. В. Доўнар-Запольскага, Я. Ф. Карскага, П. П. Дземідовіча і інш., выданні па гісторыі, эканоміцы і культуры беларускіх гарадоў і мястэчак, мастацкая літаратура. У газеце супрацоўнічалі беларускія польскамоўныя пісьменнікі У. Сыракомля, В. Каратынскі, А. Вярыга-Дарэўскі і інш. У 1841—1865 гг. афіцыйныя матэрыялы друкаваліся на рускай і польскай мовах, неафіцыйныя — пераважна на польскай. З мая 1863 г. віленскім генерал-губернатарам газета пераўтворана ў орган урадавай адміністрацыі, з 1865 г. выдавалася толькі на рускай мове[123].

У 1904—1915 гг. у друкарні Віленскага губернскага праўлення быў выдадзены зборнік навуковых прац па гісторыі, этнаграфіі, мовазнаўстве, статыстыцы Беларусі і Літвы «Виленский временник» (у 6 кн.), у 1-й кнізе якога змешчаны «Беларусы» Я. Ф. Карскага (1904), у 2-й — этнаграфічныя працы М. Я. Нікіфароўскага, А. М. Харузіна, у 3—5-й — разнастайныя гісторыка-краязнаўчыя матэрыялы і дакументы на рускай, польскай, літоўскай, французскай і нямецкай мовах, якія адносяцца да Паўночна-Заходняга краю.

Значны ўклад у развіццё дзяржаўнага кнігавыдання Беларусі ўнеслі ***губернскія статыстычныя камітэты*** (з 1860-х гг.). Яны пачалі ствараца ў 1857 г. у адпаведнасці з Палажэннем аб губернскіх і абласных камітэтах. Іх асноўнай задачай было складанне адміністрацыйных статыстычных справаздач, падрабязнае апісанне гарадоў, мясцовасцей, выданне адпаведных прац у выглядзе асобных зборнікаў, памятных кніжак, аглядаў, артыкулаў у мясцовых губернскіх ведамасцях і іншых матэрыялаў.

Трэба адзначыць, што першыя «Памятныя кніжкі» з'яўляюцца ў Мінску ў 1845 г., у Гродне ў 1847 г. З 1860 г. іх выпуск становіцца сістэматычным і амаль штогадовым і ў Віленскай, Віцебскай, а з 1861 г. — у Магілёўскай губернях. Асноўнай мэтай рэдакцый «Памятных кніжак» быў збор, апрацоўка і публікацыя статыстычных звестак і разнастайных матэрыялаў, якія маглі стаць крыніцай для вывучэння беларускіх губерняў. У друку названых выданняў быў зацікаўлены і ўрад, якому неабходна было валодаць не толькі інфармацыяй аб прадукцыйных сілах і эканамічных рэсурсах заходніх губерняў, але і трымаць толькі ў межах краязнаўства развіццё мясцовай гістарычнай навукі. Таму, як адзначаюць даследчыкі, у першую чаргу «Памятныя кніжкі» сталі асноўнымі органамі мясцовай краязнаўчай грамадскасці і адной з дакладных крыніц для гісторыка-археалагічнага вывучэння губерняў. Яны змяшчалі гісторыка-этнаграфічныя нарысы, заснаваныя на архіўных і дакументальных крыніцах, а такса-

ма арыгінальныя літаратурна-мастацкія творы. Сярод складальнікаў «Памятных кніжак Віцебскай губерні» члены статыстычнага камітэта і мясцовыя краязнаўцы С. К. Садоўскі, А. М. Семянтоўскі; «Памятных кніжак Мінскай губерні» — сакратар Мінскага статыстычнага камітэта А. П. Смародскі.

«Памятныя кніжкі», звычайна, складаліся з чатырох раздзелаў: I — адрас-каляндар з пералікам губернскіх і павятовых урадавых і грамадскіх устаноў і іх асабісты склад; II — даведачны і адміністрацыйны аддзел са шматлікімі звесткамі пра адміністрацыйнае дзяленне губерні, паштовыя і тэлеграфныя аддзяленні, шляхі зносін са спісамі станцый, фабрыкі, заводы, навучальныя ўстановы, музеі, бібліятэкі, кніжныя крамы і друкарні; III — статыстычны раздзел, які падаваўся ў выглядзе штогадовых аглядаў губерняў з табліцамі і іншымі статыстычнымі звесткамі (дэмаграфічнымі, сельскагаспадарчымі, судовымі, медыцынскімі, фабрычна-заводскімі, землеўладальніцкімі, адукацыйнымі і г.д.); IV — літаратурна-мастацкі (або гістарычны) раздзел, што змяшчаў матэрыялы па вывучэнні краю, летапісы гарадоў, артыкулы па мясцовай гісторыі, этнаграфіі, фальклоры, эканоміцы, біяграфіі мясцовых дзеячаў, мастацкія творы.

З 1879 г. пачалі друкавацца агляды губерняў, першымі з якіх былі «Агляды Магілёўскай губерні», у 1880 г. — Гродзенскай, у 1882 г. — Віленскай, Мінскай і Віцебскай. Гэта былі штогадовыя даведачныя выданні пра адміністрацыйную і гаспадарча-эканамічную дзейнасць губерні, уключаліся статыстычныя звесткі пра прамысловасць, гандаль, сельскую гаспадарку, стан народнай адукацыі, аховы здароўя і рух насельніцтва за папярэдні год. Звычайна на вокладцы аглядаў і памятных кніжак змяшчаўся герб адпаведнай губерні. Агляды з'яўляліся «адзіным у дарэвалюцыйнай Беларусі выданнем, у якім рэгулярна публікаваліся мясцовыя статыстычныя матэрыялы»[124].

Некаторыя статыстычныя камітэты публікавалі агляды, у якіх абагульняліся дадзеныя за некалькі гадоў, як «Опыт описания Могилёвской губернии в историческом, физико-географическом, этнографическом, промышленном, сельскохозяйственном, лесном, учебном, медицинском и статистическом отношениях» (Магілёў, 1882—1884). Ініцыятарам выдання і яго рэдактарам быў старшыня губернскага статыстычнага камітэта А. С. Дамбавецкі[125]. Выданне змяшчала каляндар народных звычаяў і абрадаў, каля 500 беларускіх народных песень, было добра ілюстравана фотаздымкамі Магілёва і Магілёўшчыны, картамі, статыстычнымі табліцамі.

Распаўсюджаным відам мясцовых выданняў былі гісторыка-геаграфічныя і гісторыка-статыстычныя апісанні асобных гарадоў, паветаў, мястэчак Міншчыны, Гродзеншчыны, Віцебшчыны, якія выпускаліся як асобныя выданні або ўключаліся ў "Працы" таго ці іншага губернскага статыстычнага камітэта.

Значны ўклад у кнігавыданне Беларусі ўнеслі Віленская камісія для разбору і выдання старажытных актаў (1864—1915); Віцебскі архіў старажытных актаў (1871—1906), Мінскі царкоўны гісторыка-археалагічны камітэт (1908—1915), якімі былі падрыхтаваны і выпушчаны шматтомныя зборы гістарычных дакументаў.

З 1865 г. пачынаецца друк маштабнага выдання гістарычных дакументаў — «Актаў», якія рыхтаваліся Віленскай археаграфічнай камісіяй. За перыяд 1865—1915 гг. выйшла 39 тамоў[126]. Хоць асноўнай мэтай дадзенага праекта быў збор доказных матэрыялаў на карысць «рускасці» ВКЛ, аднак адначасова яны сталі важнай крыніцай вывучэння гісторыі і культуры Беларусі. Выданне актавых кніг было заснавана на дакументах Цэнтральнага архіва для Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губерняў, дзе былі сабраны старажытныя акты (да 1799 г. уключна) з гарадоў і мястэчак гэтых губерняў. З 1871 г. пад рэдакцыяй віцебскага архіварыуса А. Сазонава пачалі выдавацца «Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской», якія сталі пэўнай з'явай у гісторыі кнігадрукавання Беларусі канца XIX — пачатку XX ст. Усяго Віцебскім архівам старажытных актаў было выдадзена 32 тамы, якія ўключалі 3921 дакумент, а агульны аб'ём выдання склаў 4021 друкаваны аркуш.

Акрамя губернскіх друкарняў, а таксама губернскіх статыстычных камітэтаў, у якасці выдаўцоў у гэты перыяд маглі выступаць гарадскія думы, губернскія ўправы па справах земскай гаспадаркі, акцызныя ўпраўленні, упраўленні чыгунак, гімназіі і некаторыя іншыя дзяржаўныя ўстановы ў галіне адукацыі, гарадской гаспадаркі, аховы здароўя.

## Царкоўныя друкарні

На пачатку XIX ст. на тэрыторыі Беларусі прадаўжалі працу дзве буйнейшыя царкоўныя друкарні. Адна з іх належала Полацкай езуіцкай акадэміі (1787—1820), другая — Рымска-каталіцкай кансісторыі ў Магілёве (была вядома пад назвай друкарні С. Богуш-Сестранцэвіча або Магілёўскай прыдворнай друкарні, 1774—1844 гг.). Абедзве друкарні мелі добрае абсталяванне і вызначаліся актыўнай кнігавыдавецкай дзейнасцю. За перыяд з 1801 па 1832 гг. імі было надрукавана 512 выданняў, або больш за палову ўсёй кнігавыдавецкай прадукцыі Беларусі 1-й трэці XIX ст.

Ордэн езуітаў, альбо «Таварыства Ісуса», стварыў на тэрыторыі Беларусі моцную выдавецкую базу; езуіцкія друкарні ў Вільні, Пінску і Полацку працавалі амаль без перапынку на працягу 245 гадоў, нават пасля скасавання ордэна ў 1773 г. Выдавецкія праграмы друкарняў поўнасцю адлюстроўвалі мэты дзейнасці езуітаў у галіне адукацыі, распаўсюджвання і ўмацавання каталіцкага веравызнання ў Беларусі. Праз выданні антычных класікаў беларускі чытач знаёміўся з ідэямі гуманізму, якія неслі веру ў свабоду чалавечай асобы, павагу годнасці і правоў чалавека. Выкладанне фізікі ў Полацку было пастаўлена на вельмі высокі ўзровень: шмат сённяшніх школ не маюць такой фізічнай лабараторыі, якую мела полацкая школа амаль два стагоддзі таму. Шматлікія падручнікі, асабліва па дакладных навуках, а таксама разнастайныя граматыкі, слоўнікі, выданні прыкладнога і даведачнага характару, творы мастацкай літаратуры з'яўляліся сродкам назапашвання інтэлектуальнага і інфармацыйнага патэнцыялу, які аб'ектыўна садзейнічаў асвеце і агульнакультурнаму развіццю беларускага народа, далучэнню моладзі да еўрапейскага ўзроўню адукаванасці.

Полацкая Акадэмія — вышэйшая школа з амбіцыямі універсітэта — мела ў гістарыяграфіі адмоўныя ацэнкі: яна супрацьстаўлялася асветніцкаму і ліберальнаму Віленскаму універсітэту, яе называлі абскуранцкай альбо іншымі малапрыемнымі азначэннямі. Гэты прычэрнены вобраз паспрабавала змяніць Ірэна Кадульская (пры гэтым польская аўтарка правакуе чытача пастаўленым у загаловак словам «крэсы» — правінцыя, не пазначыўшы, праўда, належыць Полацк да польскіх ці да расійскіх «крэсаў»[127]).

Тым часам, ***друкарня полацкіх езуітаў*** была адной з самых моцных паліграфічных устаноў канца XVIII — пачатку XIX ст. на тэрыторыі Беларусі. У 1811 г. яна мела тры друкарскія варштаты, у 1820 г. іх было ўжо чатыры, плюс два літаграфічныя станкі. У апошнія гады існавання ў друкарні была заснавана ўласная словалітня. У выніку яна атрымала магчымасць мець багаты набор шрыфтоў пяці алфавітаў — рускага, грэчаскага, яўрэйскага, нямецкага, лацінскага з дадатковымі літарамі для польскай і французскай моў. Падчас вайны 1812 г. друкарня была выратавана ад знішчэння дзякуючы таму, што езуіты далі французам мільён франкаў і выдзелілі памяшканне для пражывання французскім маршалам[128]. Месцілася друкарня ў будынку калегіума, які быў адбудаваны пасля пажару 1750 г. і прадстаўляў з сябе трохпавярховы гмах з трыма прыбудовамі, накшталт літары «Е», друкарня была ў сярэдняй прыбудове і займала 7 памяшканняў: у адным размяшчаліся друкарскія варштаты, у другім — наборны цэх (абодва памяшканні аднолькавай велічыні, з чатырма вокнамі), у трэцім (напалову меншым, з двума вокнамі) — пераплётная майстэрня, у астатніх — жылы пакой прэфекта друкарні, ліцейня, жыллё для хлопцаў і склад друкарскіх інструментаў (абодва малыя, з адным вакном)[129].

Усяго вядомы 494 выданні полацкіх езуітаў: у 1787—1800 гг. выйшла 82, а з 1801 да 1820 гг. —


ZEBRANIE
NAUK
z KTORYCH
UCZNIOWIE SZKOŁ MOHILEWSKICH
Towarzystwa Jezusowego
Dadzą dowod rocznego postępku
Roku 1816 dnia Lipca.
w POŁOCKU
w Drukarni Akademickiey.

*Вокладка кнігі «Сабранне навук, з якіх вучні Магілёўскай школы таварыства Ісуса...». Магілёў, 1816 г.*




*Тытульны ліст «Казання на смерць Ганны Храпавіцкай». Полацк, 1802 г.*

*Тытульны ліст кнігі А. Тамашэўскага «Пра неадпаведнасць язычніцкай філасофіі напярэдадні прышэсця Ісуса Хрыста. Супраць Фрэрэ» з аўтографам аўтара. Полацк, 1808 г.*

415[130]. Тэматыка і відавая разнастайнасць выдавецкай прадукцыі друкарні залежала, у першую чаргу, ад яе мэтавага прызначэння — у асноўным гэта было забеспячэнне вучэбнага працэсу ў езуіцкіх школах, калегіуме, а пазней акадэміі (з 1812 г.). Цалкам кніжная прадукцыя Полацкай друкарні была універсальнай па змесце (гісторыя, філасофія, дакладныя і натуральныя навукі, творы мастацкай літаратуры). Амаль палову выданняў складалі падручнікі па гісторыі, замежных мовах, рыторыцы, геаграфіі і матэматыцы[131]. У дапамогу навучэнцам і педагогам прызначаліся таксама разнастайныя слоўнікі, хрэстаматыі, метадычныя матэрыялы.

Шмат выданняў полацкіх езуітаў складалі пераклады на польскую мову асобных твораў антычных аўтараў, напрыклад, Марка Тулія Цыцэрона «Аб дзяржаве», «Разважанні пра старасць», «Разважанні пра сяброўства», «Разважанні аб абавязках» і інш. Мастацкая літаратура (81 назва) была прадстаўлена, у першую чаргу, класічнымі ўзорамі грэчаскай і рымскай літаратуры, а таксама творамі еўрапейскіх пісьменнікаў. Усе яны служылі як для мэт навучання, так і для чытання дзеля адпачынку. Разам з вучэбнай, навуковай, мастацкай літаратурай друкаваліся кнігі афіцыйнага і прыкладнога характару, «прынагодныя» панегірыкі. У маі 1802 г., напрыклад, былі выдадзены адразу два панегірыкі на смерць жонкі брыгадзіра расійскіх войскаў генерала Храпавіцкага — гэта былі казанні епіскапа, полацкага суфрагана і магілёўскага прэлата Кіпрыяна Адынца, а таксама архікафедральнага магілёўскага каноніка Станіслава Шантыра, прамоўленыя пад час пахавання Ганны з Лузгіных Храпавіцкай у Віцебскім касцёле езуітаў. Абедзьве брашуры надрукаваны з выкарыстаннем наборных арнаментаў і разнастайных заставак.

Значную частку рэпертуару друкарні, натуральна, утварала рэлігійная літаратура. Большасць выданняў адносілася да раздзелаў гамілетыкі, патралогіі і аскетыкі. Друкаваліся казанні П. Скаргі («Kazania przygodne…»), генералаў і правінцыялаў ордэна, рэктараў калегіума і акадэміі Т. Бжазоўскага, С. Чарневіча, Я. Дзядзеркі і інш.

Полацкія езуіты выдавалі таксама «кніжнага тыпу» календары, якія сталі папярэднікамі адрасаў-календароў і губернскіх памятных кніжак. На тытульным аркушы невялікай па памеры (кішэннага фармату) кніжачкі змяшчаўся герб Расійскай імперыі (двухгаловы арол) у лаўровым вянку, далей ішлі спісы свят дзяржаўнага і каталіцкага календара, членаў імператарскай фаміліі, іерархіі магілёўскай рыма-каталіцкай і полацкай уніяцкай архідыяцэзій, чыноўнікаў віцебскай і магілёўскай губерняў па паветах, настаўнікаў

і вучняў падпарадкаваных езуітам школ у Полацку, Санкт-Пецярбургу, Віцебску, Магілёве, Мсціславе, Оршы, Ужвальдзе, Рызе, Астрахані, Раманаве і Адэсе.

На працягу 1818 і двух месяцаў 1820 г. акадэмія выдавала літаратурна-навуковы часопіс «Полацкі штомесячнік» («Miesięcznik Połocki») на польскай мове, заснаваны філосафам В. Бучынскім. Езуіты стараліся зрабіць часопіс разнастайным і цікавым, друкуючы польскія вершы полацкага паэта Г. Шапялевіча, гістарычныя і маральна-філасофскія артыкулы, нататкі пра помнікі літаратуры і нумізматыкі. Падпіска на часопіс каштавала 2 сярэбраныя рублі (з паштовай перасылкай — 4 рублі) і прымалася ў тых паштовых экспедыцыях, якія прымалі падпіску на «Літоўскі кур'ер».

Літаратура, якую выпускалі езуіты, у асноўным была арыгінальнай, пераклады склалі ўсяго 19 назваў. Больш за палову выданняў (296 назваў з 502) — польскамоўныя, трэць (161 назва) — літаратура на латыні. На ёй выдаваліся падручнікі па арыфметыцы, алгебры, геаметрыі, трыганаметрыі, рыторыцы, творы рымскіх класікаў; дапаможнікі па лацінскай мове — класічная граматыка Э. Альвара «E Societate Jesu de Institutione Grammatika Lingvae Latinae», хрэстаматыя лацінскай літаратуры, лацінскія, лаціна-польскія, лаціна-нямецкія і лаціна-французскія слоўнікі; творы філасофскага і багаслоўскага зместу, оды, казанні, каталогі і г.д.

Выданні на заходнееўрапейскіх мовах — французскай (16), нямецкай (9), італьянскай (5) — былі прадстаўлены галоўным чынам багаслоўскай літаратурай. Чатыры назвы былі на латышскай мове (на латгальскім дыялекце), у асноўным гэта выданні катэхізічнага характару, якія прызначаліся для рэлігійнай адукацыі латышоў. Полацкая друкарня выпускала кнігі грамадзянскім шрыфтам на рускай мове, напрыклад, выйшла два выданні хрэстаматыі рускай літаратуры «Краткие выписки, собранные из некоторых писателей в пользу обучающегося юношества российскому языку» (1816 г.; тыраж першага выдання 1809 г. склаў 1000 экзэмпляраў). Невядома, ці друкавалі ў Полацку кнігі на беларускай мове, хоць езуіты пісалі на ёй сцэнарыі для тэатралізаваных прадстаўленняў, якія выконваліся выхаванцамі Полацкай акадэміі.

Арганізатарам друкарні і яе першым прэфектам быў, па ўсёй верагоднасці, Васіль Шыркевіч, які ў 1788 г. у дакументах ордэна фігуруе як кіраўнік друкарні, а ў пазнейшых — як друкар. Наступнымі прэфектамі былі:

1789—1797 — Мацей Ракеты (адначасова выконваў функцыі ордэнскага цэнзара)

1797—1805 — Тадэвуш Бжастоўскі (пазней стаў генералам ордэна)

1805—1806 — Алаізы Лянкевіч (выконваў абавязак 7 месяцаў, потым памёр)

1806—1809 — Геранім Гарабурда (першы тэрмін)

1809—1811 — Ян Заранак (адначасова цэнзар кніг, пазней рэктар калегіума ў Віцебску)

1811—1814 — Геранім Гарабурда (другі тэрмін)

1814—1818 — Ігнат Хадыкевіч (адначасова прэфект бібліятэкі)

1818—1820 — Вікенці Жолуд (адначасова прэфект школ, дэкан аддзялення моў)[132]

Пасля забароны дзейнасці езуітаў і выгнання іх за межы Расійскай імперыі ў 1820 г. полацкая друкарня была перададзена ва ўласнасць адкрытага ў 1822 г. у горадзе ***Вышэйшага вучылішча ордэна піяраў***. За сем гадоў іх дзейнасці (1824—1831) было надрукавана 32 кнігі. У выдавецкім рэпертуары полацкіх піяраў пэўнае месца займала свецкая літаратура: навучальныя праграмы, прамовы, граматыкі лацінскай мовы. У друкарні выйшла адно з першых арыгінальных даследаванняў філасофскай думкі канца 1820-х гг. прафесара Віленскага універсітэта, ураджэнца Беларусі А. Доўгірда, зборнік польскіх вершаў Я. Аноўшкі[133]. Пасля выгнання піяраў з Полацка друкарня была перададзена Кіеўскаму універсітэту.

***Друкарня Рымска-каталіцкай кансісторыі ў Магілёве*** была заснавана па хадайніцтве Станіслава Богуш-Сестранцэвіча, першапачаткова размяшчалася ў двухпавярховай прыбудове да касцёла кармелітаў, а потым — у палацы архіепіскапа за горадам, у Пячэрску. Прадукцыя мела пераважна свецкую накіраванасць. У друкарні былі тры варштаты. У 1776 г. яна атрымала дазвол на друк выданняў на рускай мове грамадзянскім шрыфтам: «Сенат слушал рапорт Генерал-губернатора Захара Григорьевича Чернышева, что Станислав Сестренцевич де Богуш, епископ Белорусских Католицких церквей и Кавалер уведомил его, что он по прежнему обычаю завел при Консистории своей Типографию, купив за свой счёт буквы для печатания элементарных книг на разных диалектах в пользу тамошнего юношества, а сверх того, дабы оному юношеству подать знание Российского языка»[134]. Паводле ўказа Кацярыны II ад 1780 г. друкарня Рымска-каталіцкай кансісторыі абавязана была

*Ода да імператрыцы Кацярыны II. Магілёў, 1789 г.*



# ODE



*Toi par qui les mortels reçoivent des lauriers*
*Et qu'ici bas j'adore le très puiſſant Bouclier,*
*De ma verve bizarre diſſipe la fureur,*
*Et soutiens en moi, que je chante les douceurs,*
*De CATHERINE Triomphante sur terre & sur l'onde;*
*Elle va donner la renaiſſance au monde.*
*Ses tourbillons d'Ennemis sont defaits, perdus,*
*Ha! sans elle que serions nous tous devenus ?*

A 2 L'

выконваць функцыі магілёўскай губернскай (урадавая была заснавана толькі ў 1833 г.). У гэтым жа годзе з нагоды прыбыцця імператрыцы ў Полацк магілёўская друкарня выдала кнігу од да гасударыні, напісаных на французскай, польскай і нямецкай мовах беларускімі манахамі-дамініканцамі. Назвы трох частак, у залежнасці ад мовы, адрозніваліся. Найкарацейшай была французская назва: «Ода, прысвечаная яе вялікасці імператрыцы і самаўладніцы ўсерасійскай etc.etc.etc. ад усяго ордэна святога Дамініка на яе прыбыццё ў Полацк 1780». Польская была «разгорнутая»: «На шчаслівае прыбыццё найяснейшай і наймагутнейшай манархіні Кацярыны II імператрыцы ўсяе Расіі etc.etc.etc. пані нашай

міласцівай у горад свой Полацк ад верных падданых прапаведніцкага ордэна святога Дамініка на праяву сваёй вернасці і ўдзячнасці за манаршую найвялікшую пратэкцыю напісаны верш году 1780»; гэтаксама і нямецкая: «Die Glücklige ankunft Der Allerdruchlautigsten und Unüberwindlichen Catharina der II. Käiserin in gantz Rossland &c.&c.&c. unser allergnädigsten herscherin in die stadt Polocka von ihro getreüen unterthanern aus dem prediger orden des h. Dominicus zum zeüchnusz wahrer treüe und danckbarkeit vor den allerhöchsten käiserlichen schutz mit wunsch verschen beschrieben».

Для патрэб каталіцкай царквы друкаваліся штогадовыя календары, дырэкторыумы, каталогі асоб каталіцкай іерархіі. На рускай мове выходзілі афіцыйныя, навучальныя выданні, а таксама календары. У 1777 г. у друкарні выйшла першая ў Беларусі кніга на рускай мове грамадзянскім шрыфтам «Учреждения для управления губерний» (або «Кацярыны II пастановы для кіравання губерняў»). За час існавання ў друкарні выпушчана 65 кніг, у тым ліку на польскай (43) і лацінскай (12) мовах. Вядомы вучэбныя выданні, такія як «Кароткая французская граматыка»; даведачныя — «Беларускія календары», «Каталогі…»; афіцыйныя — «Трактат вечнага міра і дружбы»; навуковыя і мастацкія — «Аб Заходняй Русі», «Аб паходжанні сарматаў і славян», «Гіцыя ў Таўрыдзе» С. Богуш-Сестранцэвіча, «Тры кнігі аб паэтычным мастацтве» Ф.Пракаповіча (1786) і інш. Значны працэнт выданняў — панегірыкі, большасць з якіх звернуты да Богуш-Сестранцэвіча ў дні яго імянін альбо нават з такой экзатычнай нагоды, як выезд архіепіскапа з Магілёва ў Херсон у 1783 г.

Актыўнай выдавецкай дзейнасцю сярод друкарняў манаскіх ордэнаў вызначалася і ***друкарня ордэна місіянераў*** у Вільні, створаная для патрэб Віленскай дыяцэзіі ў 1799 г. на аснове перавезенай з Гродна друкарні А. Тызенгаўза. Асноўнай задачай гэтага прадпрыемства было прадукаванне рэлігійных кніг на патрэбу каталіцкай царквы. Друкарня місіянераў на працягу першага 40-годдзя XIX ст. стала вядучым прадпрыемствам на тэрыторыі Літвы і Беларусі па выпуску каталіцкай літаратуры, якую выдавала на розных мовах (польскай, літоўскай, латышскай, беларускай). Менавіта віленскай дыяцэзіяльнай друкарні належыць першая спроба ўзнаўлення ў XIX ст. беларускага друкаванага слова ў выглядзе асобнага выдання, якім з'явіўся катэхізіс пад назвай «Krótkie zebranie nauki Chrześciańskiej. Dla wieśniaków mówiacych językiem polsko-ruskim wyznania Rzymsko-katolickiego» (1835). Большасць кніг мясцовай тэматыкі выдавалася па-польску, напрыклад, у 1811 г. надрукаванае місіянерамі «Апісанне парадку закладання Мінскім таварыствам дабрачыннасці вугольнага каменю для шпіталя міласэрнасці» з прамовамі мінскага каталіцкага епіскапа Я. Дзядзеркі, падкаморыя вілейскага павета Я. Ходзькі і экс-маршалка шляхты Мінскай губерні С. Ваньковіча. Асаблівасцю друкарні было тое, што на тытульным аркушы змяшчаўся парадкавы нумар выдання. Ордэн місіянераў быў скасаваны ў 1842 г., разам з ім зачынілася і друкарня. За перыяд з 1803 па 1842 гг. у ёй выйшла больш за 500 назваў.




*Тытульны ліст панегірыка «Верш, ахвяраваны яснавяльможнаму ягамосці ксяндзу Станіславу Сестранцэвічу-Богушу магілёўскаму архіепіскапу…». Магілёў, 1783 г.*

Працяглы час дзейнічала ***друкарня піяраў у Вільні***, якой да 1833 г. кіраваў Аляксандр Жулкоўскі, пазней саступіўшы яе Забагоньскаму. У 1816—1818 гг. тут друкаваўся часопіс «Віленскі веснік магнетызму». Сярод больш як 150 кніг, якія выйшлі з-пад яе варштатаў, шмат прынагодных выданняў, напрыклад, «Апісанне працэдуры жалобнага набажэнства за душу св. пам. Тадэвуша Касцюшкі, якое адбылося ў Мінску дня 7 сакавіка 1818 года ў кафедральным касцёле». Аўтар на тытульным аркушы не пазначаны, але можна меркаваць, што гэта быў мінскі губернскі маршалак шляхты, стацкі саветнік М. Зяновіч, ініцыяламі якога падпісана прысвячэнне графу А. Пацею — жывому на

→ *Старонкі панегірыка «Верш, ахвяраваны яснавяльможнаму ягамосці ксяндзу Станіславу Сестранцэвічу-Богушу магілёўскаму архіепіскапу…». Магілёў, 1783 г.*

- - - *revocate animos moeſtumque timorem*

*Mittite, forsan & haec olim meminiſse juvabit.*

*Virgil- Æneid: Lib: 1mo.*



Co za los, zwykły tor rzeczy odmienia?

Czy wſtecz do swego Dniepr płynie ſtrumienia?

Strumień do zrzódła? Słońce wschodząc gaśnie,

Co zwykło ósmy dzień oświecać iaśnie (*)

Pod znakiem bliźniąt; nie dobiegszy mety,

Na siodmym promień swóy zmyka: nieſtety!

Niknie w naturze, i żywość, i cera,

Omdlewa trawka, kwiatek obumiera,

Gaie, i sady, zbywszy swey ozdoby,

Widok okropney kształtuią żałoby;

Lotnych śpiewakow zamilkła muzyka,

Ni szpaczek gwarzy, ni czyżyk wykrzyka.

Peł-

(*) *Osmego Maia S. Staniſława B. i M. Dzień Jmienin JW. ARCY-BISKUPA.*


PORZĄDEK
OBCHODU CAŁODZIENNEGO
30. AUGUSTA 1811. ROKU
PRZY UROCZYSTOŚCI IMIENIN
NAYJASNIEYSZEGO IMPERATORA
ALEXANDRA I.
oraz
AKCIE OTWARCIA
MINSKIEGO TOWARZYSTWA
DOBROCZYNNOŚCI
przy zakładzie Kamienia Węgielnego
w KOSCIELE MINSKIM
SZPITALA MIŁOSIERDZIA

*Nro 431. Za wiedzą Zwierzchności.*

w WILNIE
u XX. Missyonarzów
1811.

*Тытульны ліст кнігі «Парадак дзённага абыходу 30 жніўня 1811 года пры ўрачыстасці імянін найясней-шага імператара Аляксандра І...». Вільня, 1811 г.*


OPISANIE
OBCHODU ŻAŁOBNEGO NABOŻEN-
STWA ZA DUSZĘ ś. p.
TADEUSZA KOŚCIUSZKI,
Odbytego w Mińsku dnia 7. Marca 1818.
roku w kościele Katedralnym.

w WILNIE
u Alexandra Żołkowskiego
w Drukarni XX. Pijarów
1818.

*Тытульны ліст кнігі «Апісанне працэдуры жа-лобнага набажэн-ства за душу св. памяці Тадэвуша Касцюшкі...». Вільня, 1818 г.*


TREŚĆ NAUK
NA PUBLICZNY POPIS
UCZNIOW SZKOŁY PUBLICZNEY
ZYROWICKIEY
BAZYLIANSKIEY.
*Z Nauki Chrześciańskiey, Moralney, Grammatyki języków Polskiego i Łacińskiego, Arytmetyki, Jeometryi we wszystkich częściach, Algebry, Łoiki, Ogrodnictwa, Historyi naturalney, Chemii, Fizyki, Wymowy, Poezyi, Prawa przyrodzonego, Politycznego, Narodow, Jeografii polityczney, Historyi Narodow, iako też: z języków Rossyyskiego i Francuzkiego.*
Roku 1818 w Dniu 29. Czerwca
PODANYCH.
w WILNIE
w DRUKARNI XX. BAZYLIANÓW.



*Тытульны ліст кнігі «Змест навук на публічны перапіс вучняў Жыровіцкай базыльянскай шко-лы». Вільня, 1818 г.*

той час удзельніку бітвы пад Мацяёвіцамі пад сцягамі Касцюшкі. Гэта выданне віленскіх піяраў змяшчае шмат унікальнай інфармацыі аб уганараванні Касцюшкі ў Мінску: прамовы М. Зяновіча, экс-маршалка Ігуменскага павета Л. Голак Асторпа і мулы мінскіх татар Я. Здановіча; паведамляецца пра акалічнасці ўрачыстай цырымоніі, прынамсі пра тое, што мінскі кафедральны касцёл быў упрыгожаны багатымі аксамітамі, захаванымі пасля па-хавання князя Геранімa Радзівіла ў Нясвіжы і пазычанымі з нясвіжскага парафіяльнага касцёла. Пасля 1833 г. А. Жулкоўскі стаў уладальнікам маленькай кнігарні ў Вільні, друкаваў абразкі святых і гандляваў гэтай прадукцыяй[135].

Друкарня да 1832 г. выпусціла больш за 100 кніг.

## Прыватныя кнігавыдавецтвы

Скасаванне ўказа Кацярыны II аб закрыцці вольных (прыватных) друкарняў і правядзенне паліятыўных рэформ друку і кнігавыдання ў 1801—1804 гг. спрыялі развіццю прыватных кнігавыдавецтваў, на рахунак якіх прыпадае асноўная частка выпуску кніжнай прадукцыі Беларусі 1795—1917 гг. Ужо ў 1802 г. аднавілася дзейнасць друкарні гродзенскага шляхціца Я. Ясінскага (праз год абсталяванне друкарні прададзена Віленскаму універсітэту). Новыя прыватныя выдавецтвы ствараліся ў губернскіх цэнтрах: Вільні, Гродне, Мінску, Магілёве, Віцебску, а таксама ў павятовых гарадах і мястэчках: Копысі, Шклове, Брэсце і інш.

Найбольшымі віленскімі прыватнымі выдаўцамі ў 1800—1900 гг. былі А. Ас, С. Блюмовіч, Т. Глюксберг, А. Марціноўскі, Б. Нойман, М. Оргельбрант, Ю. Азенбоўскі, І. Пшыбыльскі, Р. Рафаловіч, Ю. і А. Завадскія. Актыўнай дзейнасцю вызначыліся гродзенскія і мінскія выдаўцы А. Марціноўскі, З. Нахімовіч, І. Стафановіч, Ё. Дворац, А. Валіцкі.


NIE ZAWSZE TAK SIĘ CZYNI,

IAK SIĘ MÓWI.

POWIESC BIAŁORUSKA

PRZEZ STOLETNIĄ DAMĘ OPOWIADANA.

PRZEZ

ANNĘ zXIĄZĄT RADZIWIŁŁOW

HRABINĘ

MOSTOWSKĘ.

w WILNIE,

Nakładem i Drukiem Józefa Zawadzkiego

Uniwer. Imperator. Typografa.

1806.

Тытульны ліст кнігі Г. Мастоўскай «Не заўсёды так робіцца, як гаворыцца. Беларуская аповесць, расказаная стогадовай дамай». Вільня, 1806 г.

***Друкарня Юзафа Завадскага ў Вільні.*** Ю. Завадскі нарадзіўся ў 1781 г. у Польшчы, вучыўся ў піяраў у Рыдзыне і Калішы, набываў практычны вопыт па друкарскай справе ў Вроцлаве (друкарня Корна), Познані (друкарня Кюна), Лейпцыгу (фірма Breitkopf und Hartel). У ліпені 1803 г. Ю. Завадскі ўладкаваўся падмайстрам у кнігарні Я. Бэйца ў Вільні[136]. У 1804 г. ён заснаваў уласную друкарню, а праз год, 28 жніўня, быў прызначаны тыпографам Віленскага універсітэта. З ім на ільготных умовах быў заключаны кантракт на валоданне друкарняй тэрмінам на 10 гадоў (пазней працягнуты яшчэ на 10 гадоў). Сярод першых выдадзеных Ю. Завадскім кніг знакавы твор Ганны з Радзівілаў, графіні Мастоўскай «Не заўсёды так робіцца, як гаворыцца. Беларуская аповесць, расказаная стогадовай дамай». Ва ўступе (які называецца ***Тлумачэнне***) аўтарка без аніякага страху быць абвінавачанай у плагіяце піша, што прадстаўленая аповесць — амаль даслоўны пераклад аповесці «нямецкага» аўтара Лафантэна «Выпрабаванне», але нават тым, хто тую аповесць ужо чытаў, яна спадзяецца даставіць прыемнасць і зацікавіць сваёй працай, як творам новым, «што да даўных звычаяў нашага народу наўмысна ёсць прыстасаваны». І сапраўды, напісаная княгіняй Радзівіл аповесць пачынаецца са слоў: «Даўно, перад першым падзелам той часткі Літвы, якая завецца Белай Руссю, жыў у той правінцыі багаты шляхціц, які меў толькі адну дачку, імем Элеанора…».

Ю. Завадскі пераабсталяваў прадпрыемства, у якім стала 12 друкарскіх варштатаў; павялічыў колькасць рабочых (з 8 да 35). Атрымаўшы манапольнае права на выданне падручнікаў, календароў і рэлігійнай літаратуры, ён заснаваў філіялы ў Варшаве і пазней у Кіеве (апошні ўзначальваў яго сын Восіп, які арандаваў друкарню універсітэта св. Уладзіміра)[137]; наладжвае супрацоўніцтва па набыцці шрыфтоў з гродзенскім словалітчыкам З. Нахімовічам (друкарня якога ў Гродне некаторы час таксама з'яўлялася яго філіялам); праводзіць рэарганізацыю кіравання кніжнай крамай універсітэта (заснавана пры друкарні ў 1681 г.); арганізоўвае кнігагандлёвыя склады ў Брэсце, Віцебску, Гродне, Мінску, Нясвіжы і іншых месцах. Да 1810 г. яму ўдалося разгарнуць шырокую сетку падобных невялікіх складоў па розных гарадах Віленскай навучальнай акругі[138]. Вядома, што Ю. Завадскі ў такіх «пунктах кнігараспаўсюджання» прымаў таксама і тэксты для друку ў Вільні. Прыбытак прыносіла і створаная ім «бібліятэка-пазычальня».

*Тытульны ліст і старонка кнігі І.Э. Лахніцкага «Статыстыка Літоўска-Гродзенскай губерні». Вільня, 1817 г.*

STATYSTYKA

GUBERNII

LITEWSKO - GRODZIENSKIEY.

PRZEZ

J. E. LACHNICKIEGO

FILOZOFII DOKTORA, KAMER-JUNKRA DWORU *JEGO IMPERATORSKIEY MOŚCI.*

WILNO. NAKŁADEM I DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO, TYPOGRAFA IMPERATORSKIEGO UNIWERSYTETU.

1 8 1 7.

32

wsze trzy wyraźne i oddzielne stany, toiest: stan wzrostu, stan spoczynku i stan upadku. Nayogólnieyszy podział ludności przyięty w nauce rządowéy iest na 1) klassę *czynną* czyli *płodną* i na 2) klasę *bierną* czyli *niepłodną*. W pierwszéy umieszczaią rolników, rękodzielników i t. d.: do drugiéy odsyłaią szczególniey szlachtę, duchowieństwo, uczonych i t. d. Podział ten zasadza się na prawdzie względney, toiest: gdy za iedyne bogactwo narodu uważamy same tylko płody ziemskie i rękodzielnicze. Lecz ponieważ nie zaprzeczona iest, że siły Państwa składaią się z sił fizycznych i umysłowych, przeto niesłusznie byłoby nadawać nazwisko *klassy nieczynney* i *bierney* ludzióm, którzy przez ćwiczenie i sprawowanie władz umysłowych, wyprowadzaią prawdziwe bogactwa. Pod tém nazwaniem zaymuiemy sprawowanie urzędów publicznych i płody uczone, iakich większa część za pomocą druku, staie się istotnym handlu przedmiotem.

Dla ułatwienia sposobu opisania ludności, podzieliliśmy ią w całey gubernii 1) na szlachtę, 2) na duchowieństwo, 3) na mieszczan, 4.) na żydów, 5.) na cyganow, 6.) na tatarów, 7.) na rolników poddanych, 8) na rolników skarbowych, 9) na rolników wolnych, 10.) na rolników kolonistów.

Oto iest obraz powszechny ludności, wysczególniony przez powiaty.

*Do stronicy 32.*

*Stan ludności gubernii grodzieńskiéy.*

| P[illegible]IATY. | Szlachta. | | Duchowieństwo. | | Mieszczanie | | Żydzi. | | Cyganie. | | Tatarzy. | | Rolnicy poddani | | Rolnicy skarbowi. | | Rolnicy wolni. | | Koloniści | | Ogół | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska. | płeć męzka. | płeć żeńska |
| G[illegible]IENSKI | 2220 | 2139 | 151 | 79 | 726 | 825 | 2649 | 2807 | — | — | 77 | 70 | 24313 | 23094 | 2162 | 2193 | — | — | — | — | 32298 | 31207 |
| B[illegible]KI . . | 986 | 965 | 144 | 85 | 888 | 959 | 1982 | 1901 | — | — | — | — | 35846 | 35669 | 1509 | 1541 | 779 | 765 | — | — | 42134 | 41885 |
| S[illegible]MSKI . | 610 | 633 | 121 | 24 | 312 | 550 | 1191 | 1428 | 4 | 5 | 49 | 43 | 24930 | 24228 | 3956 | 3527 | — | — | — | — | 31193 | 30238 |
| L[illegible] . . . | 2810 | 2715 | 95 | 29 | 578 | 549 | 1469 | 1511 | 20 | 22 | 30 | 30 | 17873 | 17779 | 5930 | 5861 | 68 | 60 | 7 | 5 | 28900 | 28559 |
| NO[illegible]RODZKI | 2421 | 2520 | 142 | 32 | 199 | 242 | 1643 | 1748 | — | — | 307 | 347 | 43605 | 48165 | 506 | 545 | — | — | — | — | 48823 | 53599 |
| W[illegible]OWYSKI | 575 | 557 | 93 | 60 | 703 | 771 | 787 | 878 | — | — | 21 | 27 | 15339 | 15240 | 3720 | 3821 | 78 | 165 | — | — | 21316 | 21519 |
| KO[illegible]NSKI . | 1672 | 1450 | 195 | 140 | 677 | 651 | 1421 | 1537 | 2 | 2 | 10 | 10 | 36558 | 36118 | 181 | 101 | 34 | 40 | 5 | 4 | 40755 | 40053 |
| P[illegible]NSKI . | 156 | 149 | 59 | 24 | 202 | 213 | 708 | 706 | — | — | — | — | 15986 | 15713 | 4768 | 4666 | 28 | 10 | 45 | 51 | 21952 | 21532 |
| [illegible]ÓŁ . . | 11450 | 11126 | 1000 | 473 | 4285 | 4760 | 11850 | 12516 | 26 | 29 | 494 | 527 | 214670 | 216006 | 22752 | 22053 | 987 | 1040 | 57 | 60 | 267571 | 268592 |

*Статыстычная табліца «Стан насельніцтва Гродзенскай губерні» з кнігі І.Э. Лахніцкага «Статыстыка Літоўска-Гродзенскай губерні». Вільня, 1817 г.*




*Вокладка і тытульны ліст брашуры «Верш з прычыны перанясення і павелічэння кнігарні ў горадзе Вільні пад фірмай Юзафа Завадскага...». Вільня, 1858 г.*

У канцы 1827 г., пасля заканчэння кантракта Ю. Завадскага, званне універсітэцкага тыпографа было прысвоена друкару Т. Глюксбергу.

Кнігавыдавецкая дзейнасць Ю. Завадскага працягвалася да 1838 г., пасля сямейную справу прадоўжылі яго сыны Восіп, Адам і Фелікс, выкарыстоўваючы ў назве фірмы імя бацькі. Вядучая роля ў арганізацыі кніжнага гандлю і выдавецкай справы належала А. Завадскаму. У 1858 г. фірма «Юзаф Завадскі» павялічыла сваю кнігарню і перанесла яе на новае месца — з гэтай нагоды быў выдадзены асобнай брашурай панегірычны верш, «напісаны друкарамі», надпіс на тытуле выканалі ва ўласнай друкарні, шрыфтамі рознага памеру і рознай гарнітуры.

«Выписка из дела о книгопродавцах Завадских», змешчаная І. Карнілавым у выданні «Русское дело в Северо-Западном крае» (Санкт-Петербург, 1901 г.), сведчыць аб пільнай увазе царскай адміністацыі да «шкоднай дзейнасці» Завадскіх, якая заключалася ў іх «вялікім уплыве на распаўсюджанне польскай і лацінскай культур у краі». Пасля аднаго з вобыскаў на фірме была рэквізавана перапіска А. Завадскага, у якой змяшчаліся заказы на польскія выданні «решительно со всех точек России: Казань, Пенза, Минск, Витебск, Могилёв, Гродно… Все эти и множество уездных, заштатных городов, местечек и имений присылали в 1862 г. 625 требований на 7 с лишком тысяч названий. Сверх того, один склад Завадских в Ворнянах с конца 1859 г. по март 1863 г. вытребовал до 8 000 жмудских и польских молитвенников разных наименований и книг польско-исторических, польско-народных… и множество книг безусловно запрещённых или позволенных с исключением».

Не задавальнялі ўлады і супрацоўнікі фірмы: загадчык бухгалтэрыі П. Ляскоўскі, прускі падданы, які не ведаў рускай мовы; прыказчык кнігарні дваранін Букоўскі, выхаванец Віленскіх бернардынцаў; прыказчык па

*Тытульны ліст «Генеалогіі Сапегаў». Друкарня Ю. Завадскага. Вільня, 1872 г.*

*Тытульны ліст мемуараў С. Кавалеўскай «Мінскія абразкі: 1850—1863». Вільня, 1912 г.*



LES

SAPIEHA.

ETUDE GÉNÉALOGIQUE

WILNA

Imprimerie de Joseph Zawadzki

1872



ZOFJA KOWALEWSKA.

OBRAZKI MIŃSKIE

1850 — 1863.

NAKŁAD KSIĘGARNI JÓZEFA ZAWADZKIEGO W WILNIE.

1912.

*Тытульны ліст кнігі рэцэптаў В. Завадскай «Літоўская кухарка». 7выд. Вільня, 1885 г.*



KUCHARKA

LITEWSKA.

ZAWIERAJĄCA:

Przepisy gruntowne i jasne, własném doświadczeniem sprawdzone, sporządzania smacznych, wykwintnych, tanich i prostych rozmaitych rodzajów potraw tak mięsnych jako i postnych, oraz ciast, legumin, lodów, kremów, galaret, konfitur i innych desserowych przysmaków, tudzież rozlicznych aptecznych zapraw, konserw i rzadszych specjałów.

z przydaniem na początku książki

DOKŁADNÉJ DYSPOZYCYI STOŁU.

PRZEZ

W. A. L. Z.

Wydanie siódme poprawne.

NAKŁADEM AUTORKI.

WILNO.

Drukiem Józefa Zawadzkiego.

1885.

гандлёвых справах і даглядчык кніжных складоў аднадворац К. Даўнаровіч і г.д. Абурала і тое, што Завадскія мелі сваё камісіянерства ў Варшаве ў Гліксберга, у Лейпцыгу — у Г. Шульцэ і А. Бакгаўза[139].

Аднак актыўная і ўдалая прадпрымальніцкая дзейнасць, распачатая Ю. Завадскім, паспяхова развівалася і спрыяла росту тэмпаў кнігавыдання і кніжнага гандлю на ўсёй тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. У друкарні публікаваліся і перыядычныя выданні «Dziennik Wileński», «Pamiętnik Towarzystwa Liekarskiego Wileńskiego». Кніжная крама Ю. Завадскага была месцам сустрэч прадстаўнікоў мясцовага адукаванага грамадства: прафесараў, настаўнікаў, урачоў, літаратараў, публіцыстаў (К. Кантрым, Я. Шымкевіч, А. Марцінкоўскі, Я. Рыхтэр, М. Балінскі, Л. Платэр, І. Ходзька, В. Путкамер і інш.)[140].

З 853 кніг, надрукаваных у друкарні Ю. Завадскага, толькі каля 320 былі выкананы як тыпаграфскі заказ. Друкаваліся і «прынагодныя» (часам іх называюць «лятучыя») выданні, прыкладам можа быць некралог, датаваны 15 мая 1851 г., на скон былога маршалка шляхты Мінскай губерні Л. Ошторпа. Тэкст з трох па-

лос фармату 2⁰ паведамляе пра заслугі гэтага чалавека і асаблівасці яго смерці: «…ехаўшы з Мінска 31 сакавіка, а 5-й гадзіне папалудні, за 10 вёрст ад Дукоры, з прычыны зламання маста на рацэ Свіслач, гэты годны вечнай памяці пан на 66 годзе жыцця аддаў душу Богу… Як электрычная іскра, вестка пра гэта ў адну хвіліну абегла ўсю Літву і выклікала найсмутнейшыя ўражанні…».

Тэматыка выданняў Ю. Завадскага была універсальнай: матэматыка, прыродазнаўства, медыцына, сельская гаспадарка, грамадскія навукі, мастацкая літаратура, рэлігія. Асноўную частку кнігавыдавецкай прадукцыі па мэтавым прызначэнні складалі навуковыя (244), вучэбныя (229), літаратурна-мастацкія (127), рэлігійныя (35), даведачныя (15) выданні. Мова друкаў была таксама разнастайнай, хоць пераважала польская (376), былі выданні на латышскай (152), французскай (53), нямецкай і рускай (па 24), італьянскай і грэчаскай (па 7), літоўскай і англійскай (4)[141], яўрэйскай. Значныя прыбыткі прыносіў фірме продаж двух выданняў для жанчын: кнігі кухонных рэцэптаў «Літоўская кухарка» (з 1860 па 1890 г. выйшла 9 выданняў) і кніга карысных парад па гаспадарцы «Літоўская гаспадыня» (да 1914 г. выйшла 11 выданняў), аўтаркай якіх была В. А. Л. Завадская. Спрычынілася тыпаграфія і да друку беларускамоўных твораў: «Сялянскія песенькі» Я. Чачота (1844, 1846), «Сялянка» В. Дуніна-Марцінкевіча (1846), «Песня з паклонам» В. Каратынскага (1858). Фірма «Юзаф Завадскі» праіснавала да 1940 г.[142]

***Друкарня Антонія Марціноўскага***. А. Марціноўскі, беларус па паходжанні, нарадзіўся ў 1781 г. у Радашковічах у сям'і уніяцкага святара. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Мінску, працаваў настаўнікам у прыватных дамах. У 1804 г. паступіў на юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта, стаў сябрам Таварыства філаматаў, займаўся тэарэтычнымі пытаннямі педагогікі, прапагандаваў у Літве і Беларусі метады навучання Песталоцы, займаўся распрацоўкай удасканалення жаночай адукацыі. У 1815 г. па рэкамендацыі рэктара Віленскага універсітэта Я. Снядэцкага ён стаў рэдактарам і выдаўцом «Літоўскага кур'ера» («Kurier Litewski»). А. Марціноўскі вёў актыўнае грамадскае жыццё, удзельнічаў у рабоце разнастайных віленскіх грамадскіх таварыстваў. Ён стаў адным з заснавальнікаў «Віленскага тыпаграфічнага таварыства» (1818) і «Таварыства дапамогі бедным навучэнцам Віленскага універсітэта».

У пачатку 1818 г. А. Марціноўскі адкрыў уласную друкарню, з якой выйшла значная колькасць кніг і дзе друкаваліся перыядычныя выданні «Літоўскі кур'ер», «Віленскі дзённік», «Навіны з бруку». Першым значным прадпрыемствам новастворанай друкарні стала перавыданне Статута ВКЛ «…за шчаслівым панаваннем імператара і самаўладцы Усяе Расіі, караля польскага Аляксандра I без усялякіх змен, паводле віленскага выдання 1786». На тытульным аркушы Статута паведамлялася пра тое, што першае выданне выйшла ў 1588 г. у Кракаве, і гэта была хутчэй за ўсё наўмысная памылка — у Вільні заўсёды добра памяталі Льва Сапегу.

З выдадзеных А. Марціноўскім кніг лакальна-беларускай тэматыкі можна прыгадаць брашуры «Змест навук, што выкладаюцца ў Слуцкай гімназіі» і «Абрад урачыстага адкрыцця Слуцкага апякунскага нябогаў Камітэта Імператарскага чалавекалюбівага таварыства… у дні 23 красавіка 1822 года». Каштоўнасць апошняй кніжачкі — у

*Тытульны ліст кнігі «Змест навук, што выкладаюцца ў слуцкай гімназіі». Вільня, 1823 г.*


TREŚĆ NAUK,
DAWANYCH W CIĄGU ROKU SZKOLNEGO,
W SZKOLE POWIATOWEY
SŁUCKIEY
Przez Nauczycielów: Fizyki i Matematyki, Literatury, Wymowy i Poezyi, Prawa i Historyi, Arytmetyki, Jeografii i Nauki Moralney, Grammatyki, Nauki Chrześcijańskiey, Językow: Łacińskiego, Rossyyskiego, Niemieckiego, Francuzkiego; Charakterow i Rysunkow.
PODANA
DO PUBLICZNEGO UCZNIOW POPISU
w Dniu 29 czerwca 1823.

WILNO. W DRUKARNI A. MARCINOWSKIEGO
1823.



STATUT
WIELKIEGO KSIĘSTWA
LITEWSKIEGO,
NAPRZÓD, ZA NAYJASNIEYSZEGO HOSPODARA
ZYGMUNTA III,
w Krakowie w Roku 1588;
Drugi raz w Wilnie, w Roku 1619, z pokazaniem zgody i różnice Statutow Koronnych i W. X. L;
TRZECI RAZ, ZA NAYJASNIEYSZEGO
WŁADYSŁAWA IV,
w Warszawie, w Roku 1648, z przydaniem Konstytucyy od Roku 1550 do 1647;
CZWARTY RAZ, ZA NAYJASNIEYSZEGO
JANA TRZECIEGO,
w Wilnie w Roku 1698,
Z przyłożeniem pod Artykuły Konstytucyi Seymowych od Seymu roku 1550, aż do Seymu Roku 1690 Oboygu Narodom służących,
Textu samego w niczém nie naruszaiąc;
PIĄTY RAZ ZA NAYJAŚNIEYSZEGO
AUGUSTA TRZECIEGO;
PO DWAKROĆ ZA NAYJASNIEYSZEGO KRÓLA
STANISŁAWA AUGUSTA,
Z przydatkiem Summaryuszow, Praw i Konstytucyy od roku 1764 do roku 1786;
TERAZ ZA SZCZĘŚLIWEGO PANOWANIA NAYJASNIEYSZEGO
CESARZA I SAMOWŁADCY WSZECH ROSSYY
KRÓLA POLSKIEGO
ALEXANDRA I.
Bez żadney odmiany, podług wydania wileńskiego, roku 1786.
Nakładem Wileńskiego Towarzystwa Typograficznego przedrukowany.
W WILNIE W DRUKARNI A. MARCINOWSKIEGO.
roku pańskiego 1819.

*«Статут ВКЛ ... за шчаслівым панаваннем імператара і самаўладца Усяе Расіі, караля польскага Аляксандра I без усялякіх змен паводле віленскага выдання 1786». Вільня, 1818 г.*




*Вокладка кнігі А. Кіркора «Прагулкі па Вільні і яе ваколіцах». Вільня, 1856 г.*

дакладнай інфармацыі аб абставінах пабудовы ў Слуцку Дома міласэрнасці. У канцы выдання падаецца спіс членаў Апякунскага камітэта — лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі Слуцка: старшыня — павятовы маршалак шляхты А. Непакайчыцкі, члены — настаяцель царквы св. Юр’я С. Салаўевіч, пробашч рымакаталіцкага касцёла Шантыр, віцэ-сеньёр Беларускай акругі евангелічнай царквы П. Рэнчынскі, настаяцель царквы св. Мікалая Ян Лойка, палкоўнік літоўска-уланскага палка А. Чэчэнскі, слуцкі гараднічы барон Ф. Штэль, былы слуцкі падкаморы І. Даманскі, адстаўны палкоўнік Д. Рэйтэн, слуцкі земскі спраўнік, прэзідэнт павятовага суда і інш. (усяго 17 асоб).

Пасля смерці А. Марціноўскага ў 1855 г., яго друкарня існавала да 1862 г. За час яе дзейнасці было выпушчана каля 400 выданняў універсальнага характару. Найбольшую колькасць складала літаратура па сельскай гаспадарцы, мастацкія творы, літаратуразнаўчыя і гістарычныя працы. Асноўная частка выданняў выйшла на польскай мове (больш за 277), былі таксама выданні на лацінскай, літоўскай і рускай мовах.

***Выдавецкая дзейнасць Тэафіля Глюксберга*** першапачаткова звязана з Віленскім універсітэтам. 3 снежня 1827 г. ён заключыў дзесяцігадовы кантракт на ўтрыманне універсітэцкай друкарні. Пасля закрыцця універсітэта ў 1832 г., каб кампенсаваць страты выдаўца, ён быў прызначаны друкаром Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, а таксама ўсёй Беларускай акругі. У яго друкарні публікаваліся часопіс Ю. Крашэўскага «Atheneum» і альманах А. Кіркора «Teka Wileńska». Выдавецкая дзейнасць Т. Глюксберга адзначаецца да 1859 г., пасля чаго яго друкарню набыў Адам Кіркор. Усяго за 1827—1831 гг. ім выдадзена каля 40 назваў кніг, большую частку якіх складаюць падручнікі для школ[143].

***Выдавецкая дзейнасць Адама Кіркора.*** Вядомы беларускі і польскі гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст[144] А. Кіркор нарадзіўся ў 1818 г. у вёсцы Слівіна, што на Магілёўшчыне (цяпер Смаленская вобласць), у сям’і уніяцкага святара. Вучыўся ў Магілёўскай і Віленскай гімназіях. У пачатку 1840-х гг. стаў займацца літаратурнай і выдавецкай дзейнасцю. На польскай мове выдаў навукова-літаратурныя альманахі «Radegast» (1843) пры ўдзеле Ю. Крашэўскага і М. Грабоўскага, пазней пад псеўданімам Jan ze Śliwina — зборнік у 3


I

PODRĘCZNIK POGADANEK
Z KOBIETĄ Z LUDU.

Zbiorowa praca «Koła równouprawnienia Kobiet w Wilnie».

1910
SKŁAD GŁÓWNY W KSIĘGARNI W. MAKOWSKIEGO. WILNO MINSK.


BIAŁORUSKI
BANDURZYSTA.
ZBIOREK WĘDROWNY
WIERSZEM,
JULJANA LASKOWSKIEGO.

Nakład autora.

WILNO.
W drukarni A. H. Kirkora.
1861.

*Тытульны ліст кнігі «Падручнік размоў-пагаданак з жанчынай з народа». Вільня; Мінск, 1910 г.*

*Вокладка кнігі Ю. Ляскоўскага «Беларускі бандурыст». Вільня, 1861 г.*

кнігах «Pamiętniki umysłowe» (1845—1846). У 1850—1854 гг. А. Кіркор рэдагаваў штогадовыя «Памятные книжки Виленской губернии», у якіх публікаваліся таксама і яго артыкулы па краязнаўстве, гісторыі, этнаграфіі Беларусі і Літвы. У 1856 г. пад тым жа псеўданімам выдае ў друкарні А. Марціноўскага кнігу «Przechadzki po Wilnie i jego okolicach» («Прагулкі па Вільні і яе ваколіцах»), якая прынесла яму значную папулярнасць у мясцовым грамадстве.

З канца 1850-х гг. А. Кіркор — найбольш заўважная асоба ў культурным жыцці Вільні. Яго дом стаў своеасаблівым салонам-гуртком, дзе штотыднёва збіралася мясцовая інтэлігенцыя, паэты, музыканты, вучоныя, супрацоўнікі газеты «Kurier Wileński», якую ён рэдагаваў. Вялікую ролю ў кансалідацыі літаратурных і культурных сіл Літвы і Беларусі меў альманах «Teka Wileńska» (у 1857—1858 гг. выйшла 6 кніг). Калі ён быў забаронены, каб разлічыцца з падпісчыкамі і апублікаваць сабраныя матэрыялы, А. Кіркор друкуе дзве кнігі пад назвай «Pismo Zbiorowe Wileńskie» (1859, 1862). Гэтыя выданні змяшчалі паэзію, прозу, пераклады, навуковыя і публіцыстычныя артыкулы.

У 1859 г. А. Кіркор стаў уладальнікам друкарні і заснаваў выдавецтва, якое займалася выпускам пераважна навуковай і асветнай літаратуры на польскай, рускай, літоўскай мовах, а таксама газеты на польскай і рускай мовах «Kurier Wileński» («Виленский вестник», 1859—1865 гг.). У рэдакцыю газеты ўваходзілі У. Сыракомля, С. Манюшка, В. Каратынскі, якія на старонках выдання «радасна віталі» першыя беларускамоўныя кнігі В. Дуніна-Марцінкевіча[145]. У гэты ж час А. Кіркор і М. Акялайціс планавалі наладзіць выданне ў Вільні танных народных бібліятэчак для Літвы і Беларусі (у друкарні А. Кіркора выйшлі толькі 5 літоўскіх кніг, адрасаваных сялянству, а беларускія па невядомых прычынах не з'явіліся). Праўда, да беларускага слова ў друку А. Кіркор усё ж меў дачыненне. Як піша Р. Зямкевіч, на прыезд у Вільню ў 1858 г. Аляксандра II «Кіркор друкуе на прывітаньне альбом «В память пребывания Государя Императора Александра II-го в Вильне, 6 и 7 сентября 1858 г.». У альбоме колькі прац памешчана ў польскай і французскай мове і стацьця Кіркора па-расейску «Очерк истории города Вильни». Апроч гэтага ў канцы альбома памясціў Кіркор два вершыкі: адзін літоўскі

*→ Від Вільні з кнігі А. Кіркора «Прагулкі па Вільні і яе ваколіцах». Вільня, 1856 г.*



ВИДЪ ГОРОДА ВИЛЬНЫ. ✳ WIDOK WILNA. ✳ VUE DE VILNA.


NIEMEN
OD ŹRÓDEŁ DO UJŚCIA.

1). MONOGRAFIJA
RZEKI NIEMNA
od jego źródeł do Kowna
przez
Władysława Syrokomlę.

2). PAMIĘTNIK PODRÓŻY
żeglarza Litewską wiciną z Kowna do Królewca
zredagowany i przerobiony, przez tegoż.

WILNO.
NAKŁADEM A. ASSA.
1861.

*Тытульны ліст кнігі У. Сыракомлі «Нёман ад вытокаў да вусця». Вільня, 1861 г.*

М. Акелевіча, а другі беларускі «Песня з паклонам ад літоўска-русінскай мужыцкай грамады» Вінцука Каратынскага»[146]. Як вядома, друк альбома быў ажыццёўлены В. Завадскім, а рыхтаваў яго да выдання, як відаць, А. Кіркор.

Апошняй працай А. Кіркора, звязанай з уласнай выдавецкай дзейнасцю, стала газета «Новое время» ў Пецярбургу (у 1868—1871 гг. ён быў яе рэдактарам і адным з выдаўцоў). Потым ён пераязджае ў Кракаў. Самымі значнымі яго працамі, якія выйшлі ў гэты час, становяцца «Літоўскае Палессе» і «Беларускае Палессе», што ўвайшлі ў склад 3-га тома «Жывапіснай Расіі».

Калі да XVIII ст. тэрміны «друкар» і «выдавец» былі, за малым выключэннем, сінонімамі, то ў XIX ст. у кніжнай справе паскорыўся працэс размежавання выдавецкай і друкарскай дзейнасці. Выдаўцамі часта рабіліся дзяржаўныя ўстановы, грамадскія і царкоўныя арганізацыі, гандляры (найперш — кнігагандляры). Далёка не ўсе з іх мелі ўласныя друкарні. З другога боку, павялічвалася колькасць прыватных друкарняў, якія выконвалі заказы розных выдаўцоў. У буйнейшым кнігавыдавецкім цэнтры Беларусі, Вільні, на патрэбу насельніцтва Паўночна-Заходняга краю працавалі і некалькі невялікіх друкарняў. Напрыклад, друкарня П. Вілейшыса, якая мясцілася на Антокалі, у доме 24а, цесна супрацоўнічала з мінскім і віленскім выдаўцом і кнігагандлярам В. Макоўскім. Звярнуўшыся ў малую друкарню, можна было ўласным коштам выдаць свае крытычныя заўвагі на кнігу вядомага аўтара, што выйшла ў вялікім выдавецкім доме, як гэта зрабіў Я. Чачот, надрукаваўшы ў 1846 г. брашуру «Некаторыя заўвагі, найбольш стылістычныя, на трэцюю песню Anafielas пана Крашэўскага «Вітаўтавы баі», выдадзеную ў 1845 г. у Завадскага» (гэта праца Чачота выйшла ў Вільні «ў друкарні М. Зымелёвіча тыпографа»).

З «малых» віленскіх друкарняў выходзіла шмат «прынагодных» выданняў, якія яшчэ патрабуюць збірання і вывучэння. Прыкладамі могуць быць два недатаваныя і ненумараваныя аркушы пад назвай «Міёры», на якіх міёрскі ксёндз С. Грынеўскі выкладае праблемы рамонту касцельнага будынка (выйшлі з друкарні ксяндза А. Руткоўскага); два ненумараваныя аркушы з друкарні Э. Навіцкага, што змяшчаюць праграму арганізацыі «Круг жанчын на Літве і Белай Русі» (датаваны 12 лістапада 1906 г.); зборнік «Шомерс пінкас» — некалькі старонак на мове ідыш, што выйшлі з друкарні Розэнкранца і Шрыфтзэтцэра ў Лідскім завулку, № 1598—13, і інш.

Не заўсёды прадукцыя дробных выдаўцоў была задавальняючай па якасці, прычынай часцей за ўсё была эканомія. Аўтары з гэтым змагаліся як маглі — як прыклад можна прыгадаць кнігу У. Сыракомлі «Нёман ад вытокаў да вусця», якая выйшла ў 1861 г. накладам А. Аса ў віленскай друкарні Блюмовіча, што па вуліцы Рудніцкай. Цікавейшую манаграфію пра адну з галоўных рэк Беларусі і Літвы заканчвае «Алфавітны спіс рэк, што ўпадаюць у Нёман, і значнейшых мясцовасцей, міма якіх Нёман плыве»; да яго Сыракомля зрабіў іранічную анатацыю: «Каб замяніць неабходную тут геаграфічную карту, на якую ашчадны наш выдавец выдаткаў рабіць не схацеў, падаём агульны алфавітны рэестр мясцовасцей, што ўспамінаюцца ў кніжцы». Але гэта было не ўсё. У канцы кнігі, ніжэй зместу, надрукавана наступнае: «Увага. У манаграфіі пару разоў, гаворачы аб упадзенні рэчак у Нёман, надрукавана *з* правага боку, замест *з* левага, і наадварот. Абачны чытач лёгка можа гэта паправіць».

На вокладцы кніжкі В. Жукоўскага «Палякі і беларусы» (Вільня, 1907 г.) паведамляецца, што надрукавана яна ў друкарні Э. Навіцкага на вуліцы Палацавай, 11, а на тытульным




*Вокладка кнігі В. Жукоўскага «Палякі і беларусы». Вільня, 1907 г.*

аркушы — на вуліцы Вакзальнай, 11. Ці гэта наўмысны гумар (бо па-польску «Вакзальная» гучыць як «Дворцова», што стварае алюзію да рускага «дворец», па-польску — «палац»), ці няўвага выдаўца — цяпер цяжка сказаць.

У 1785 г. па запрашэнні А. Тызенгаўза для працы ў яго друкарні ў Гродна пераехаў з Галіцыі вядомы словалітчык Нахім, пасля смерці якога справу прадоўжыў яго сын **Зымель Нахімовіч**. Разам з лацінскімі шрыфтамі сям'я Нахімовічаў адлівала і старажытнаяўрэйскія, дзякуючы чаму ў 1787 г. у Гродне выйшлі дзве кнігі на іўрыце. Выпушчаны яны былі Нахімовічамі ці Б. Ромам — невядома. Апошні ў 1788—1792 гг. выконваў абавязкі ўпраўляючага (ці арандатара) друкарні А. Тызенгаўза. У 1791 г. ён атрымлівае ад караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага прывілей на адкрыццё друкарні, а ў 1797 г. перамяшчае сваё прадпрыемства ў Вільню. Пасля смерці заснавальніка друкарні ў 1803 г. яна пераходзіць да яго сына Манэса. Увесь час супрацоўніцтва паміж Ромамі і Нахімовічамі ў выдавецкай сферы падтрымліваецца. Так, на пачатку XIX ст. яны выступілі як кампаньёны па выданні старажытнаяўрэйскіх кніг (напрыклад, «Талдот гадфус...»), якія надрукавалі ў Азёрскай друкарні (у 15 км ад Гродна, дзе знаходзілася словалітня З. Нахімовіча)[147]. На карысць іх супрацоўніцтва сведчыць інфармацыя, змешчаная Ю. Завадскім у «Kaledarzy adresowym … na rok 1807» (Wilno, 1806. S.133), у якой упамінаецца загадчык Гродзенскай друкарні Манэс Борухавіч.

У 1803 г. З. Нахімовіч адкрывае ў Гродне сваю ўласную друкарню з правам друку на польскай, рускай і старажытнаяўрэйскай мовах, якая праіснавала ў горадзе да 1838 г.[148], калі была канфіскавана ў сувязі з забаронай яўрэйскамоўнага друку. Друкарня, абсталяваная трыма варштатамі, і адзіная словалітня на тэрыторыі Беларусі і Літвы павінны былі прынесці не толькі вядомасць, але і прыбытак яе ўладальніку. Сапраўды, майстэрства Нахімовіча, які залічваў сябе ў шэрагі мастакоў, высока ацаніў Ю. Завадскі і наладзіў з ім супрацоўніцтва. У 1808 г., каб матэрыяльна яго падтрымаць, Ю. Завадскі становіцца саўладальнікам гродзенскага прадпрыемства Нахімовіча і накіроўвае ў Гродна загадчыка сваёй друкарні А. Ланткевіча[149] — ён спрыяе распаўсюджанню шрыфтоў гродзенскага майстра, якія ні ў чым не саступалі лепшым еўрапейскім Дзідораўскім гатункам[150]. Гродзенская друкарня З. Нахімовіча выпусціла 103 кнігі, або 48% ад агульнай колькасці кніг, надрукаваных прыватнымі выдаўцамі Беларусі ў 1-й трэці XIX ст.[151] Вядома адно выданне гэтага часу, надрукаванае паралельна на рускай і польскай мовах, — «Положение о размежевании Литовско-Виленской губернии» (1811). У 1807 г. у Гродне дзейнічала «Новая друкарня Тамашэўскага і кампаньёна Гісера»[152]. «Гісер» у дадзеным выпадку хутчэй за ўсё той жа самы Зымель Нахімовіч, які пазней падпісваў свае выданні наступным чынам: «Друкавана ў Гродне ў Зымеля Шрыфт-Гісера»[153], г.зн. у «Зымеля, ліцейшчыка шрыфту». Як распаўсюджваліся выданні гродзенскай друкарні, паказвае, між іншым, пералік падпісчыкаў, змешчаны ў канцы перакладзенай М. Тамашэўскім з рускай мовы драмы В. Фёдарава «Samobójstwo czyli skutki wyniosłosci i uwiedzenia». Спіс падзелены на тры часткі і ўключае прозвішчы (часам і пасады) 64 падпісчыкаў. У канцы выдавец заўважае, што не ўсе падпісчыкі названы, бо не ўсе аплочаныя табелі вярнуліся ў друкарню, і ў такім выпадку працяг паведамлення аб падпісчыках будзе друкавацца ў наступных кніжках.

У 1820 г. пасля адкрыцця ў Гродне губернскай друкарні, З. Нахімовіч вырашае частку свайго абсталявання перавезці ў Вільню, дзе ён спадзяваўся здабыць сабе большы заробак. У 1821 г. ён атрымаў дазвол на адкрыццё

друкарні ў Вільні. Прадбачлівасць Нахімовіча апраўдалася пазней і з таго пункту гледжання, што з 1837 г. дзейнасць яўрэйскіх друкарняў на тэрыторыі Расіі забаранялася (забарона была знята ў 1862 г.[154]). Выключэнне складалі тэрыторыі Беларусі-Літвы і Украіны, дзе дазвалялася мець адпаведна па адной друкарні. Так, з красавіка 1837 г. за З. Нахімовічам і М. Ромам было замацавана права ўтрымліваць у Вільні адну з дазволеных яўрэйскіх друкарняў. Пэўныя прыцягнутыя імі ў арганізацыю друку капіталаўкладанні паспрыялі яго пашырэнню: пад друкарню быў узведзены спецыяльны будынак, куды перавезена друкарня з Азёраў (відаць, у 1837 г.). Друкарня ў Вільні была абсталявана 25 варштатамі, працавала каля 200 рабочых. Яна стала самым буйным у Беларусі і Літве прадпрыемствам. Прадукцыя, якая вывозілася ў некаторыя замежныя краіны, была універсальнага зместу: рэлігійная, мастацкая, вучэбная, навуковая, навукова-папулярная і інш., у асноўным на польскай і яўрэйскай мовах. У 1835 г. М. Ром і З. Нахімовіч ажыццявілі адзін з буйнейшых сваіх праектаў па друку Талмуда, які выйшаў у Вільні ў 30 тамах[155].

У 1851 г. памёр М. Ром, у 1854 г. — З. Нахімовіч (апошнія гады жыцця ён правёў у Гродне), а іх друкарскую справу прадоўжылі нашчадкі. Сыны Нахімовіча Хацкель і Моўша таксама працавалі ў Гродне, Азёрах (да 1837 г.) і Вільні. Друкарня Моўшы Зымелевіча дзейнічала ў Вільні да 1864 г., выконваючы толькі друкарскія заказы[156].

У 1807 г. адкрываюцца і першыя прыватныя друкарні ў Мінску. Аднак стабільнасць прыватнае кнігадрукаванне ў горадзе набыло толькі ў 1820-я гг., калі былі адкрыты прыватныя друкарні ***Зымеля Прэса*** (1818—1835) і ***Івана Стафановіча*** (1819—1850). Асноўную частку прадукцыі першых мінскіх друкарняў складалі рэлігійныя выданні: у З. Прэса — малітоўнікі, чытанкі, песеннікі; у І. Стафановіча — служэбнікі, казанні. Выступаючы ў кнігавыдавецкім працэсе ў асноўным у якасці друкароў і выканаўцаў заказаў іншых выдаўцоў (прыватных — І. Легатовіча, Я. Бернарда; дзяржаўных і грамадскіх — Мінскай гімназіі, Таварыства дабрачыннасці), яны прынялі ўдзел у выданні вучэбнай, літаратурна-мастацкай і афіцыйнай літаратуры (2 выданні на рускай мове, 17 — на польскай, 8 — на латыні). У мінскай літаграфіі ***Ф. Фалька*** былі выкананы ілюстрацыі да «Гапона» В. Дуніна-Марцінкевіча. Асноўнай заслугай літаграфіі Ф. Фалька ў кнігавыданні стаў яго ілюстраваны буквар — «Абэцадла», які выдаваўся ў Мінску на польскай, нямецкай і расійскай мовах у 1852, 1854, 1856 і 1858 гг.

У пачатку 1850 г. у Мінску пачаў кнігавыдавецкую дзейнасць віленскі тыпограф ***Ёкель Дворац***, які набыў друкарню ў І. Стафановіча. З 1851 г. Дворац (Ілья Янкель Абрамаў Дворжац) пераязджае на сталае месцажыхарства ў Мінск. Яго накладам, менавіта як выдаўца, выйшлі творы В. Дуніна-Марцінкевіча: у 1855 г.— «Вечарніцы і заваражаны», у 1857 г. — «Дудар беларускі». Сумесна з мінскімі кнігарамі братамі Бейлінымі ў тым жа годзе выдадзены «Гапон» В. Дуніна-Марціневіча і «Аб маральным удасканаленні» Герандэ. Актыўна супрацоўнічаў Ё. Дворац з аўтарамі-выдаўцамі А. Прушынскай (1852), В. Дуніным-Марцінкевічам (1859), Л. Вечарам (Шчарбовічам; у 1860 г.) М. Лойкам (1860, 1866), Ф. Чапялінскім (1861) і інш.

Выдавецка-тыпаграфская прадукцыя Ё. Двораца вызначаецца разнастайнай тэматыкай: рэлігійная, мастацкая, адукацыйна-педагагічная, мовазнаўчая, сельскагаспадарчая. Першынство належыць мастацкай літаратуры. Па словах У. Сыракомлі можна меркаваць аб стане мінскага кнігавыдання ў гэты час: «Віншуем горад Мінск з тым, што ў ім абуджаецца літаратурны рух. Браты Бейлінавы і Ё. Дворац варушацца над выданнем кніг; увогуле някепская друкарня апошняга адпавядае мясцовым літаратурным патрэбам [...]»[157].

1855—1860-я гг. у прыватным кнігавыданні адзначаны дзейнасцю мінскай друкалітаграфіі ***Эмерыка Леапольдавіча Адамовіча*** (1855—1874). Сярод яго выданняў вылучаюцца літаратурна-мастацкія («Канкурэнты: камедыя-аперэтка» М. Лапіцкага, 1861 г.), нотна-музычныя («Для Міхася і Ясі: паланез на чатыры рукі» Ф. Міладоўскага, 1860 г.) і вучэбныя («Лемантар насценны», 1862 г.). Вядома, што Э. Адамовіч займаўся вырабам глобусаў, друкам школьных геаграфічных карт, узораў каліграфічнага пісьма, партрэтаў. Супрацоўніцтва з А. Валіцкім адкрыла яшчэ адзін кірунак яго дзейнасці — нотадрукаванне.

З 2-й паловы 1850-х гг. мінская кнігарня братоў ***Г.*** і ***С. Бейліных*** вызначаецца актыўным удзелам у кнігавыданні. Першымі ўладальнікамі кніжнай крамы былі Ілья (Элья) Мардуховіч Бейлін і яго сын Сымон (Шымон), якія нават не валодалі «ўзаконенай граматай», а мелі толькі яўрэйскую. Як адзначыў «Віленскі кур'ер», менавіта дзякуючы кніжнаму гандлю, а ў мінскай кнігарні Бейліных налічвалася да 5 тыс. тамоў найноўшых твораў сучасных пісьменнікаў, Бейліны мелі цесныя






*А. Міцкевіч. Пан Тадэвуш. Вільня, 1859 г.*

выдавецкія сувязі з варшаўскімі (І. Унграм, С. Оргельбрантам), віленскімі (А. Сыркіным), мінскімі (Ё. Дворацам) друкарамі. Кнігавыдавецкая дзейнасць Бейліных была накіравана на падтрымку мясцовых аўтараў (В. Дунін-Марцінкевіч, А. Плуг, У. Сыракомля, М. Шышка). Выдаючы менавіта мастацкую літаратуру, яны спрабавалі здзейсніць адначасова як камерцыйныя, так і асветныя мэты. Выданне арыгінальных мастацкіх твораў мясцовых аўтараў садзейнічала развіццю беларускай літаратуры. Асаблівай з'явай у кнігавыданні гэтага перыяду сталі менавіта мастацкія творы на беларускай і польскай мовах, выдадзеныя ў Мінску накладам Гірша Бейліна, сярод якіх — «Гапон» В. Дуніна-Марцінкевіча (1855). Яшчэ ў 1870—1880-я гг. адзначаецца дзейнасць у Мінску кнігарні Бейліных, Ёселя і Мордуха, магчыма, сыноў тых Бейліных, якія займаліся актыўнай кнігавыдавецкай дзейнасцю ў 1850-я гг. Аднак пазнейшы перыяд у дзейнасці кнігарні быў звязаны толькі з гандлем.

Асноўным выдаўцом і накладцам нотна-музычнай літаратуры ў 1860-я гг. у Мінску быў ***Аляксандр Валіцкі*** (1859—1863), літаратар, музычны крытык, а таксама ўладальнік мінскай кнігарні. Ён падтрымліваў сувязі з такімі літаратарамі, як В. Дунін-Марцінкевіч, А. Кіркор, У. Сыракомля і кампазітарамі Д. Стафановічам, С. Манюшкам, Ф. Міладоўскім, Ю. Сікорскім і інш. Для выдання нотна-музычнай літаратуры А. Валіцкі наладзіў кантакты з тыпаграфскімі прадпрыемствамі не толькі ў Мінску (літаграфія Э. Адамовіча), але і ў Варшаве (друкарня-гравёрня Г. Гебетнера і Р. Вольфа, літаграфія У. Ота), Лейпцыгу (літаграфія і гравёрня К. Г. Родэра). Тэхніка глыбокага друку дазваляла шматразовае выкарыстанне зробленых матрыц у залежнасці ад попыту на той ці іншы музычны твор. Да адкрыцця ўласнай гравёрні кнігавыдавецкая фірма Гебетнера з Варшавы таксама друкавала свае нотныя выданні ў Лейпцыгу. У канкурэнтнай барацьбе ў галіне нотадрукавання выходзілі на першыя месцы менавіта спецыялізаваныя прадпрыемствы. Так, вядома 26 назваў нотна-музычнай літаратуры, якую А. Валіцкі выдаў сумесна з вядучымі польскімі літографамі. Гэта былі песні, у тым ліку з аперэт, танцавальная музыка такіх кампазітараў, як С. Манюшка, Ф. Міладоўскі, В. Пшыбора, А. Грунер, К. Лада, А. Бартэльс[158]. А. Валіцкі ўдзяляў значную ўвагу рэкламе сваіх выданняў, выкарыстоўваючы пры гэтым самі ж выданні. Фундаментальны твор Камілы Марцінкевіч 1861 г.

«Reve du passe» — фантазія для фартэпіяна, прысвечаная графіні Марыі Тышкевіч, быў, відаць, выдадзены менавіта А. Валіцкім, які добра ведаў сям'ю Марцінкевічаў і высока цаніў творчасць дачкі В. Дуніна-Марцінкевіча Камілы. Аддрукавана ж выданне было ў Варшаве ў літаграфіі У. Ота. Высокая дынаміка нотавыдання ў параўнанні з іншымі тыпамі літаратуры мела першапрычыну менавіта ў культурна-мастацкім развіцці Мінска, на якое значны ўплыў зрабіў і сам А. Валіцкі.

Найбольш значным і адметным сярод аўтараў-выдаўцоў 1-й паловы XIX ст. з'яўляецца ***Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч***. Яго выдавецкая дзейнасць заключалася ў зборы тыражу і грашовых сродкаў на публікацыі сваіх беларускіх і польскіх мастацкіх твораў, якія яму ўдалося ажыццявіць у Мінску і Вільні ў 1846—1861 гг. Пяць выданняў 1846, 1854—1857 гг. змяшчалі беларускія тэксты лацінкай, адно было на польскай мове. Адзінае цалкам беларускамоўнае мінска-віленскае выданне — пераклад першай часткі «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча (1859). Перакладчыкам і выдаўцом выступаў В. Дунін-Марцінкевіч, выданне ажыццёўлена ў асноўным на сродкі па падпісцы ў віленскай друкарні А. Сыркіна. На кнігу падпісалася 79 чалавек, з іх 78 замовілі па адным экзэмпляры, а мінскі суддзя Дмахоўскі — 12. Выданне меркавалася прадоўжаць, аб чым сведчыць і надпіс на тонкай папяровай вокладцы «Вокладка часовая»: пасля выхаду ўсіх частак можна было іх пераплесці пад новай, «сталай» вокладкай. Тыражы выданняў сваіх твораў у Мінску В. Дунін-Марцінкевіч атрымліваў і ад мінскага друкара Ё. Двораца (1850—1857), кнігарні братоў Бейліных (1855), постаці якіх атрымалі адлюстраванне ў вершаваных творах паэта. Усё гэта сведчыла аб разуменні ролі беларускага слова не толькі на ўзроўні вусна-рукапіснага яе існавання, але і ў друкаваным выглядзе. А гэта ў сваю чаргу з'ўлялася неад'емным фактарам фарміравання нацыянальнай свядомасці народа.

У 2-й палове XIX ст. з развіццём капіталістычных адносін ва ўсіх сферах эканомікі адбываецца далейшы рост і ўдасканаленне паліграфічнай базы Беларусі, узнікаюць новыя выдавецкія прадпрыемствы. Гэта друкарні Беркі Саламонава (234 выданні), Тасьманаў (226), Дворжацаў (звыш 90) у Мінску; Я. Падземскага (102), Ш. Фрыдланда (100) у Магілёве; М. Нэймана (88), Г. Малкіна — у Віцебску і інш.

Мінская друкалітаграфія ***Беркі Ісакавіча Саламонава*** (1874—1917) за перыяд сваёй дзейнасці надрукавала 234 выданні (да 1905 г. — 167) разнастайнай тэматыкі: сацыяльна-эканамічныя, рэлігійныя, па адукацыі і асвеце, гісторыка-краязнаўчыя, юрыдычна-прававыя, па мовазнаўстве, бібліяграфіі, медыцыне, сельскай гаспадарцы, матэматыцы, псіхалогіі, тэхніцы, гідратэхніцы, мастацкай літаратуры, мастацтва- і літаратуразнаўстве, геаграфіі, прыродазнаўстве. Асноўнае месца ў выдавецка-тыпаграфскай дзейнасці Б. І. Саламонава займае сацыяльна-эканамічная літаратура. Рост заказаў гэтай тэматыкі быў звязаны з адкрыццём і дзейнасцю ў горадзе шматлікіх грамадскіх, дзяржаўных, прыватных устаноў. Адным з найбольш актыўных друкароў, з якімі яны супрацоўнічалі, быў Б. І. Саламонаў. Кола яго кнігавыдавецкіх сувязей ахоплівала звыш 30 такіх устаноў. Асноўную частку выданняў складалі штогадовыя справаздачы аб іх дзейнасці або іншыя афіцыйныя выданні, сярод якіх можна вылучыць статуты, пратаколы, каштарысы, даклады. Значная частка выданняў Б. І. Саламонава адносілася да рэлігійнай літаратуры, сярод іх вучэбныя выданні настаўніка Закона Божага Ф. І. Міткевіча; папулярныя пропаведзі і словы епіскапа Яўгенія, А. Юрашкевіча, Я. А. Варанцова; навукова-дакументальныя матэрыялы рэлігійных дзеячаў Антонія Зубко, Віктара Садкоўскага, Георгія Каніскага. На трэцяй пазіцыі ў кнігавыдавецкай тэматыцы друкалітаграфіі — выданні па адукацыі афіцыйнага характару. Тры названыя вядучыя пазіцыі ў выдавецкай дзейнасці Б. І. Саламонава адпавядалі асноўным тэндэнцыям развіцця тагачаснага грамадства і вызначаліся як сацыяльна-эканамічным, так і рэлігійным, ідэалагічным фактарамі. На змену польскаму ўплыву прыйшла палітыка русіфікацыі, якая абапіралася на рэлігію і адукацыю, пра што яскрава сведчаць выданні Б. І. Саламонава. Пэўныя тэндэнцыі развіцця гісторыка-краязнаўчых даследаванняў адлюстравалі таксама і выданні гэтай тэматыкі менавіта ў друкалітаграфіі Б. І. Саламонава (творы А. П. Смародскага, М. І. Андэрсана, П. А. Аляксандрава, Я. І. Варанцова, М. І. Вержбаловіча, Я. А. Альбоўскага, А. І. Мілавідава і інш.). Увогуле ж тэматыка выданняў друкалітаграфіі Б. І. Саламонава была універсальнай.

Друкарня ***Равекі Мордухавай Дворжац*** (1880—1893), магчыма жонкі Ёкеля Двораца (Янкеля Дворжаца), па нашых меркаваннях, прадоўжыла сямейную справу і заставалася адным з вядучых прыватных друкалітаграфскіх прадпрыемстваў Мінска ў

1880—1890-я гг. Вядомы дазвол на пацвярджэнне дзейнасці друкалітаграфіі ўжо ад 1895 г., які атрымалі нашчадкі Дворжаца, а менавіта Зэльман-Элья Янкелеў Дворжац, які выступаў ад імя і іншых нашчадкаў. Друкалітаграфія супрацоўнічала з Мінскім таварыствам сельскай гаспадаркі, што вызначыла і замацавала адпаведную спецыялізацыю і ў далейшай працы ўжо друкарні Хаіма Якаўлевіча Дворжаца, сына Ё. Двораца, у 1894—1904 гг., яго жонкі Леі Гдалеўны Дворжац у 1904—1914 гг. На працягу сваёй дзейнасці друкарня спецыялізавалася на выпуску акрамя сельскагаспадарчай яшчэ юрыдычнай і сацыяльна-эканамічнай літаратуры.

Друкалітаграфія ***Тасьманаў*** (1878—1917) таксама дзейнічала як сямейнае прадпрыемства. Заснавана мінскім мешчанінам Ільёй Абрамам Ісакавічам Тасьманам на аснове сумеснага з мінскім купцом 2-й гільдыі Самуілам Меяровічам Фідэрфонам прадпрыемства (1878—1881). 18-гадовы стаж работы ў Мінскай губернскай друкарні, дзе І. Тасьман «друкаваў, набіраў і трымаў першую карэктуру, па ўсіх выданнях, якія друкавала Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі», а таксама тры гады сумеснай працы з Фідэрфонам дазволілі яму атрымаць дазвол на адкрыццё ўласнага прадпрыемства. Дзейнасць друкарні І. Тасьмана пачалася з набыцця друкалітаграфскіх станкоў у Коўне, Пецярбургу, Лейпцыгу, Варшаве, Берліне. Перыядычна да тыпаграфскіх работ далучаліся камерцыйныя кампаньёны Тасьмана З.-А. Д. Мейлаховіч, мастак і тыпограф з Гродна, і Ш. А. Левін, былы наборшчык Мінскай губернскай друкарні, якія ўтваралі часовыя друкарскія таварыствы. Так, у 1893 г. у наборшчыкі да І. Тасьмана і Ш. Левіна паступіла ўжо 12 чалавек, што можа быць сведчаннем арганізацыі малога тыпаграфскага прадпрыемства. Друкалітаграфія І. Тасьмана выступала і як выдавецкае прадпрыемства «Тасьман і сыны» (1893—1902), часцей — як «Друкалітаграфія І. і В. Тасьман» (1899—1917). Пашырэнне дзейнасці фірмы Тасьмана звязана з адкрыццём пры друкалітаграфіі ў 1899 г. кнігарні, праца якой, відаць, мела часовы характар і не атрымала пэўнага адлюстравання ў дакументах ці іншай літаратуры.

За гады сваёй дзейнасці друкалітаграфія выпусціла 226 выданняў, заняўшы другую пазіцыю сярод прыватных друкарняў. Да 1905 г. выйшла 85 выданняў. Як і друкалітаграфія Б. І. Саламонава, значную колькасць сваёй прадукцыі яна выпусціла сумесна з іншымі дзяржаўнымі, грамадскімі і прыватнымі выдаўцамі, якія прадстаўлены больш чым 40 установамі. Кніжную прадукцыю сямейнага прадпрыемства Тасьманаў у 1905—1917 гг. складалі ў асноўным афіцыйныя выданні (91,4%). Аднак, як і ў папярэдні перыяд, калі друкалітаграфія пачынала сваю дзейнасць, яе ўладальнікі спрабавалі захоўваць пэўны прыярытэт у выданні медыцынскай, юрыдычнай і сельскагаспадарчай літаратуры. У параўнанні з агульным аб'ёмам выданняў, якія выйшлі ў друкарні (141), аб'ём выдадзенай літаратуры названай тэматыкі здаецца зусім нязначным — 21 выданне, аднак казаць аб яе прыярытэце магчыма ўжо ў параўнанні з колькасцю аналагічных выданняў у іншых друкарнях.

У 1908—1909 гг. Вульф Ільіч Тасьман стаў адным з заснавальнікаў «Таварыства Мінчанін», якое ўзяло на сябе выданне штодзённай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты «Минское эхо». У апошні час, з 12 мая да 3 кастрычніка 1909 г., права на выданне газеты належала выключна В. І. Тасьману.

Валодаючы значнымі сродкамі (часткова прыватнымі дамамі), а таксама шырокім колам заказчыкаў, адзначаныя друкалітаграфіі Саламонава, Дворжацаў, Тасьманаў ужо ў 1904 г. мелі значную колькасць рабочых: Дворжацы — 80, Тасьманы — 61, Саламонаў — 58. Большасць уладальнікаў друкалітаграфій асабіста загадвалі сваімі прадпрыемствамі, некаторыя, як Лея Дворжац, Ілья Каплан, наймалі вопытных кіраўнікоў. Аднак удзел у кнігавыдавецкім працэсе нават буйнейшых друкалітаграфій у 1865—1904 гг. заключаўся ў рэалізацыі сумесных з іншымі ўстановамі выданняў. Выключэнне складалі асабістыя наклады друкароў (Тасьманы). Большасць друкарняў гэтага перыяду (Каплана, Нахумава, Някрасава, Форына) толькі пачыналі сваю дзейнасць, іншыя (Кліёрынай, Соськіна, Шапіры, Рубенчыка, Данцыга) знаходзіліся ў цяжкім матэрыяльным стане, былі вымушаны весці канкурэнтную барацьбу «шляхам штучнага зніжэння цэн на заказы і шукаць дзе б ні было работы, а таму, напэўна, не грэбавалі выкананнем не зусім легальных заказаў». Дзейнасць друкарняў такога кшталту была эпізадычнай і кароткачасовай. Аднак яе нельга выключыць з кнігавыдавецкага працэсу, які падпарадкоўваўся кан'юктуры капіталістычнага рынку. Тэхнічнае развіццё, удасканаленне абсталявання друкарняў спрыяла пашырэнню спектра выдавецкіх паслуг. Дзейнасць друкарняў, звычайна, пачыналася з дробных заказаў, што выконваліся на адной тыпаграфскай машыне ці ручным станку,

якія ў большасці сваёй развіваліся да друка- і электрадрукалітаграфічных прадпрыемстваў з розным спектрам тыпаграфскіх паслуг (Саламонава, Тасьмана, Някрасава, Нахумава, Форына, Каплана, Грынблата). Буйнейшыя з іх былі сямейнымі прадпрыемствамі, іншыя пераходзілі з рук у рукі (Шапіры, Мазо, Дворжац, Кліёрынай, Бляхава).

Яскравым прыкладам развіцця такога прадпрыемства з'яўляецца электрадрукалітаграфія мінскага мешчаніна ***Невaха Моўшавіча Нахумава*** (1892—1917), які пасля 12-гадовай працы наборшчыкам у І. Тасьмана (у 1883—1885 гг.), атрымаў у 1892 г. дазвол і пасведчанне аб праве «ўтрымліваць у Мінску машыну для друкавання агульнажыцейскіх і хатніх прадметаў, а таксама машыну для ціснення каўчукавых штэмпеляў». Праз год Нахумаў звярнуўся з просьбай адкрыць ужо «хуткадрукарскае прадпрыемства». З захаваных архіўных дакументаў, а менавіта з «Выпіскі з кнігі для запісу работ, якія выконваюцца ў друкарні Н. М. Нахумава за 1896 год, пранумараванай і змацаванай», можна меркаваць, што дзейнасць Нахумава насіла спачатку толькі тыпаграфскі характар. Праз два гады Нахумаў набыў яшчэ адну нямецкую машыну хуткадруку праз пасрэдніцтва славалітні Б. Эрленбаха ў Санкт-Пецярбургу і зноў звярнуўся з просьбай аб адкрыцці «тыпаграфскага прадпрыемства». Дазвол быў атрыманы ў пачатку 1899 г. Набыўшы машыны хуткадруку і іншае абсталяванне для друкарні, у 1903—1904 гг. Нахумаў здолеў нарэшце заявіць аб сабе як аб кнігадрукары, уладальніку друкалітаграфіі, у якой налічвалася 16 рабочых. З 1905 г. прадпрыемства Н. М. Нахумава стала электрадрукалітаграфіяй. Аднак найбольш актыўная кнігавытворчасць адзначаецца ў 1913—1917 гг., калі Нахумаў стаў адным з першых мінскіх друкароў, хто сумесна з такімі мінскімі выдавецтвамі, як «Саха», «Лучынка», «Вясёлка», «Вольная Беларусь», пачаў выдаваць кнігі на беларускай мове: сельскагаспадарчыя — «Гадоўля кролікаў (трусоў)» А. Вілецкага, «Найвялікшы наклад у гаспадарцы» (абедзве 1914 г.); мастацкія — «Беларускія жарты» (1915), «Дзіцячая чытанка», «Сцэнічныя творы» (абедзве 1917 г.) Я. Коласа, «Літаратурны зборнік «Вольнай Беларусі» (1917 г.); грамадска-палітычныя — «Мэморыя прадстаўнікам Беларусі на ІІІ-й канферэнцыі» ў перакладзе на беларускую мову Б. Эпімах-Шыпілы (1917), «Аўтаномія Беларусі» Я. Лёсіка (1917). Такім чынам, значную частку кнігавыдавецкай прадукцыі Н. М. Нахумава складалі літаратурна-мастацкія выданні — 23,8%; вучэбныя і выданні для вольнага часу — па 14,3%; даведачныя — 9,5%, што адрознівала прадпрыемства ад іншых мінскіх друкарняў, у якіх першыя пазіцыі ў выдавецкім рэпертуары займалі афіцыйныя выданні.

Адной з буйнейшых у Віцебску была прыватная друкарня купца 2-й гільдыі ***М. Нэймана***, якая была заснавана ў 1818 г. і праіснавала больш за стагоддзе. Аднак, як і большасць прыватных паліграфічных прадпрыемстваў, яна займалася ў асноўным друкам этыкетак, прэйскурантаў, візітовак, бланкаў, канвертаў, рэкламы, афіш і аб'яў. З канца 1870-х гг. стала называцца «друкарняй нашчадкаў М. Нэймана». Найбольш актыўнай кнігавыдавецкай дзейнасцю вызначаецца друкарня на пачатку XX ст. Ёй належала 13—14% ад усёй кнігавыдавецкай прадукцыі Віцебска[159].

Яшчэ адным сямейным прыватным прадпрыемствам у Віцебску была друкарня братоў ***Г.*** і ***П. Падземскіх***, арганізаваная ў 1870 г. Выпускам кніг пачала займацца ў асноўным з 1900 г. Некалькі дзесяткаў кніг надрукавана ў невялікай віцебскай друкарні ***Г. Малкіна*** (1871—1899), сярод іх працы А.П. Сапунова, У.К. Стукаліча, Е.Р. Раманава, 16 апошніх выпускаў «Историко-юридических материалов, извлеченных из актовых книг губерний Витебской и Могилевской».

Ажыўленне кнігавыдання ў Віцебску ў канцы 1880—1890-х гг. звязана з навуковай дзейнасцю вядомага гісторыка і краязнаўца, прафесара, правадзейнага члена Імператарскага геаграфічнага таварыства, гістарычнага таварыства пры Пецярбургскім універсітэце, члена іншых таварыстваў **Аляксандра Парфёнавіча Сапунова**. Ім было выдадзена ў Віцебску 44 кнігі і брашуры, сярод якіх тры тамы «Віцебскай даўніны» (1883, 1885, 1888), «Полацкі Сафійскі сабор» (1888), «Дзвінскія альбо Барысавы камяні» (1890), «Рака Заходняя Дзвіна» (1893) і інш. А. П. Сапуноў з'яўляўся найбольш буйным прыватным кнігавыдаўцом 2-й паловы XIX — пачатку XX ст.[160] Яго выданні вызначаліся высокім паліграфічным узроўнем, ілюстраванымі матэрыяламі. У некаторых выданнях выкарыстаны каляровы друк: «Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні» (1896), «Віцебская даўніна». Трохтомнік «Віцебская даўніна» ў паліграфічных адносінах з'яўляецца лепшым у кнігавыданні Беларусі XIX ст.: мае маляўніча аформлены тытульны аркуш, шматлікія малюнкі, партрэты, карты, факсіміле выяў рэдкіх рукапісных кніг і інш.[161]

У Гродне ў 2-й палове XIX ст. існавалі прыватныя друкарні ***О.Я. Гурвіча*** (1875—1880), ***Я.М. Памяранскага*** (працавала 4 гады), ***І.*** і ***М. Харыных***, ***Д. Мейлаховіча*** (дзейнічала 20 гадоў), якімі было выпушчана толькі 43 назвы кніг, што склала амаль пятую частку ўсёй друкаванай прадукцыі Гродна[162]. У параўнанні з іншымі губернямі друкарская справа ў Гродзенскай губерні развівалася вельмі слаба. Лічаныя друкарні ў Гродне (С. Лапіна, Э. Мейлаховіча) і Брэсце (І. Ракава, І. Кобрынца) выпусцілі 10—15 выданняў[163].

Асноўную частку кніжнай прадукцыі прыватных выдавецтваў Магілёва складала рэлігійная і афіцыйная літаратура. Выйшла некалькі кніг прыродазнаўчага характару. Найбольшую каштоўнасць уяўляюць выданні, прысвечаныя статыстычным аглядам мясцовасці, якія выйшлі ў 1880-я гг. у друкарнях ***Ш. Фрыдланда*** і ***Я. Падземскага***.

Прыватныя друкарні працавалі і ў павятовых гарадах і мястэчках: Бабруйску, Брэсце, Гомелі, Пінску. Напрыклад, пінскія прыватныя друкарні Р. Вількові ча і інжынераў Б. і А. Валераў спецыялізаваліся на выпуску навукова-тэхнічнай і навучальнай літаратуры, а таксама справаздач навучальных устаноў. Шэсць друкарняў дзейнічалі ў канцы XIX ст. у Гомелі. Найбольшую колькасць кніг выпусціла друкарня Ш. Фрыдланда (з 1887 да 1900 г. — 25 кніг), іншыя абмежаваліся выданнем 1—3 кніг[164].

З 1905 г. і да пачатку Першай сусветнай вайны (1914—1915) у Брэсце налічвалася таксама 6 дзеючых друкарняў — І. Л. Ракава, І. Кобрынца, М. Л. Глікмана, братоў Глікман, А. Гендлера (1909—1912), О. (А?) Глікмана (1912—1913), якія выпусцілі 49 назваў выданняў[165]. Мова выяўленых брэсцкіх выданняў 1905—1915 гг. — выключна руская. Аднак у гэты час у Брэсце выходзіла літаратура і на ідыш, сведчаннем чаму з'яўляецца каталог кніг яўрэйскай бібліятэкі І. Рыбацкага на ідыш і на рускай мове[166].

Развіццё прыватнага кнігавыдання ў 2-й палове XIX — пачатку XX ст. сведчыць аб яго далейшым развіцці і ўзмацненні: ад індывідуальнай прадпрымальніцкай дзейнасці да сямейных прадпрыемстваў (Завадскіх, Дворжацаў, Тасьманаў); вызначаецца тэндэнцыя ўтварэння на аснове грамадскіх выдавецкіх таварыстваў кааператыўных.

Дзякуючы прыватным кнігавыдавецтвам у Беларусі з'явіліся першыя кнігі навуковага характару па айчыннай гісторыі, медыцыне, ветэрынарыі, сельскай гаспадарцы, дамаводстве, маляванні і інш. Універсальны характар кніжнай прадукцыі прыватных друкарняў садзейнічаў пашырэнню сферы распаўсюджання кнігі і стымуляваў дзейнасць творчай інтэлігенцыі.

Усяго ў межах сучаснай Беларусі на працягу XIX — пачатку XX ст. дзейнічала каля 250 прыватных друкарняў.




*Тытульны ліст кнігі «Рака Заходняя Дзвіна». Віцебск, 1893 г.*

## Грамадскія кнігавыдавецтвы

Другая палова XIX — пачатак XX ст. характарызуюцца актыўным развіццём грамадскіх кнігавыдавецтваў. Гэта таварыствы выдаўцоў і тыпографаў; выдавецтвы палітычных арганізацый; прамысловых, спажывецкіх, крэдытных і страхавых таварыстваў; культурна-асветных і навуковых таварыстваў; таварыстваў дабрачыннасці, сацыяльнай і медыцынскай дапамогі; спартыўных і ахоўных таварыстваў; рэлігійных устаноў і таварыстваў. Аднак, дзейнасць многіх з іх была кароткачасовай або заключалася толькі ў арганізацыі друку штогадовых справаздач.

Аднымі з першых грамадскіх таварыстваў, якія пачалі займацца выдавецкай дзейнасцю яшчэ на пачатку XIX ст., былі таварыствы дабрачыннасці (у Вільні, Мінску), а таксама спецыяльныя прафесійныя таварыствы, першым з якіх было «Towarystwo typograficzne w Wilnie» («Тыпаграфічнае таварыства ў Вільні»), якое было створана ў 1818 г. з мэтай працягу выдання месячніка «Dziennik Wileński» па ініцыятыве Віленскага універсітэта. У ліку яго заснавальнікаў былі віленскія выдаўцы Ю. Завадскі і А. Марціноўскі. Прэзідэнтам таварыства быў абраны Міхал Клеафас Агінскі, які з 1812 г. падтрымліваў цесныя сувязі з культурным і інтэлігенцкім асяродзем Вільні. Асноўнай ідэяй таварыства было распаўсюджанне чытання сярод народу праз выданне кніг пры найменшым іх кошце. Таварыства, такім чынам, займалася не толькі выдавецкай дзейнасцю (фінансавала выданне месячніка), але і фарміраваннем чытацкага густу, самой патрэбы набыцця неабходных і паўсядзённых кніг для хатніх бібліятэк. Нягледзячы на пэўныя памылкі ў працы і нядоўгае існаванне, таварыства з'яўлялася першай спробай стварэння грамадскага выдавецтва, дадатным пачынам у развіцці кнігавыдавецкай справы ў Беларусі і Літве.

Шэраг грамадскіх ініцыятыў у галіне выдавецкай справы 1-й паловы XIX ст. насілі эпізадычны характар, некаторыя так і засталіся толькі ў праектах, як выдавецкія планы таварыства філаматаў па выпуску часопіса ў 1818—1820-х гг.

Адраджэнне беларускамоўнага друку звязана з узнікненнем і дзейнасцю на пачатку XX ст. шэрагу беларускіх грамадскіх кніжных таварыстваў у Санкт-Пецярбургу, Вільні, Мінску: «Круг беларускі», «Загляне сонца і ў наша аконца», «Наша Ніва», «Мінчук», Беларускае выдавецкае таварыства і інш., прая якія ішла гаворка вышэй.

## Выдавецтвы палітычных арганізацый

У канцы XIX — пачатку XX ст. у Беларусі дзейнічалі падпольныя выдавецтвы арганізацый: народнікаў «Чорны перадзел» (Мінск), Беларускай сацыялістычнай грамады (Мінск, Вільня, Пецярбург), РСДРП (Бабруйск, Барысаў, Вільня, Гомель, Гродна, Магілёў, Мінск, Орша і інш.), у якіх выпускаліся ў асноўным брашуры і лістоўкі. Адным з ранніх з'яўляецца ***выдавецтва «Чорны перадзел»*** — нелегальная друкарня народніцкай арганізацыі ў Мінску, заснаваная ў 1881 г. пасля разгрому пецярбургскай. «У выданні і распаўсюджанні нелегальнай народніцкай літаратуры значнае месца займала Беларусь і беларусы, якія вучыліся ў вышэйшых навучальных установах Пецярбурга і іншых гарадоў Расіі»[167]. У Пецярбургу выдавалася разнастайная публіцыстычная літаратура на рускай мове дзеля прапаганды ідэй народніцтва сярод насельніцтва беларускіх губерняў[168]. З выдадзеных у Пецярбургу на гектографе каля дзесятка брашур, па сведчанні С. Х. Александровіча, знойдзена тры, а таксама два нумары часопіса «Гоман». Паводле беларускіх даследчыкаў, у Мінску «Чорны перадзел» у 1881 г. выдаў дзве пракламацыі, тры нумары газеты «Чорны перадзел», чатыры нумары газеты «Зярно». Мінская падпольная арганізацыя праіснавала нядоўга. У канцы 1881 г. паліцыя арыштавала частку актыўных народнікаў, некаторыя эмігрыравалі. Дзейнасць друкарні спынілася. Абсталяванне і шрыфты ўдалося перахаваць, як сведчыць А. Я. Багдановіч, у вёсцы Сёмкаў Гарадок. Праз дзесяць гадоў яго спрабавалі выкарыстаць для друкарні «Народного права» ў Вільні, дзе А. І. Бонч-Асмалоўскі спрабаваў арганізаваць новае выдавецтва народнікаў. Аднак з-за арышту яму гэта не ўдалося[169].

Ва ўспамінах А. І. Бонч-Асмалоўскага, нарадавольца-чорнаперадзельца, зафіксавана дзейнасць у 1905 г. трох нелегальных друкарняў: у Мінску, Бабруйску, Гомелі, якія, як зазначыў Бонч-Асмалоўскі, называліся «Звёздочками»[170]. Друкарню ў Мінску арганізаваў Бонч-Асмалоўскі. «Усе 3 друкарні працавалі ў згодзе паміж сабою; некаторыя рэчы друкаваліся адначасова па частках ва ўсіх трох друкарнях. Менская друкарня была пераведзена чамусьці ў Смаленск. Да абвяшчэння кастрычніцкага маніфесту ў іх было надрукавана каля 40 пудоў нелегальнай літаратуры, большай часткай — розных пракламацый, а таксама 1-ы нумар «Зямля і воля»[171]. Па меркаванні вучоных, выданні беларускіх народнікаў спрыялі развіццю тагачаснай беларускай мастацкай публіцыстыкі.

У 1902—1906 гг. у Брэсце выдавецкай дзейнасцю займаліся арганізаваныя палітычныя партыі: БУНД, Брэсцкая арганізацыя ППС у Літве, Брэсцкая арганізацыя РСДРП, якія практыкавалі захоп прыватных друкарняў і выдавалі такім чынам лістоўкі, адозвы, пракламацыі. Не менш за 12 назваў такіх выданняў было аддрукавана на тыпаграфскіх станках брэсцкіх друкароў І. Кобрынца і І. Л. Ракава.

***Выдавецтва Мінскай арганізацыі Беларускай сацыялістычнай грамады***. З канца 1905 г. у Мінску пачала дзейнічаць падпольная друкарня БСГ. Сярод першых выданняў — лістоўка праграмы партыі, пракламацыі за ўстанаўленне ў Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі з супольным сеймам для ўсіх народаў і прадстаўленне кожнаму народу права мець свой сейм, адозвы. У снежні 1905 г. Беларуская сацыялістычная грамада выдала ў перакладзе на беларускую мову «Маніфест» Пецярбургскага Савета рабочых дэпутатаў, Галоўнага камітэта Усерасійскага сялянскага саюза, ЦК і АК РСДРП, ЦК ПСР, ЦК ППС з заклікам да фінансавага байкоту антынароднага рэжыму.

У наступныя гады выдавецкая дзейнасць БСГ была найбольш звязана з Вільняй, куды быў перамешчаны яе цэнтр, і выпускам там першых легальных газет на беларускай мове («Наша доля» і «Наша ніва»).

У Мінску выдавецкая дзейнасць Грамады была адноўлена толькі ў 1917 г., калі выйшлі праграмныя дакументы: «Чаго хоча БСГ: Праэкт праграмы», «Праграма БСГ», «Пратакол III з'езду БСГ». У канцы брашуры з праектам праграмы БСГ быді надрукаваны адрасы размяшчэння часовага ЦК партыі (Петраград, Знаменская, 36—54) і мінскай арганізацыі БСГ (Захараўскі завулак, 6). Мінскія выданні арганізацыі друкаваліся ў прыватнага друкара Я. Грынблата і ў «Типографии инвалидов». Вядомы пяць выданняў гэтага перыяду.

Найбольш актыўна дзейнічала ў 1917 г. ***выдавецтва «Звязда» пры Мінскім камітэце РСДРП***. У кнігах серыі «Бібліятэка пралетарыя», а таксама ў іншых выданнях, як грамадска-палітычных [праграма

*Праект праграмы Беларускай сацыялістычнай грамады. Мінск, 1917 г.*



# ПРАЭКТ
## праграмы Беларускай Соцыялістычнай Грамады.

[разгледжаны і прыняты Петроградскай конфэрэнцыей Бел. Соц. Гр. 4—6 чэрвеня 1917 года].

Беларуская Соцыялістычная Грамада задаецца справай увядзеньня соцыялістычнаго парадку церáз разьвіцьцё кляссавой барацьбы і соцыяльную рэволюцыю.

Тым часам Беларуская Соцыялістычная Грамада дамагаецца вось якіх рэформаў:

### (праграма-мінімум):

**У палітычным парадку.**

§ 1. Вольнасьць слова, друку, сходак, грамадаў і хаўрусаў, незачэпнасьць асобы, дому, перапіскі, права вольнаго пераезду, поўнае распараджэньня свaей асобай; адмена пашпартоў.

§ 2. Роўнае права усіх грамадзян як мужчын, так і жанок, не зважаючы на кляс, нацыю і веру, да якіх яны належуць.

§ 3. Агульнае, простае, роўнае, патаемнае і пропорцыянальнае выборчае права для кожнага дароснаго 18 гадоў грамадзяніна, мужчын і жанок, пры выбарах да Устаноўчаго Сабраньня, а так сама і да парляманту і органоў мейцоваго самоўпраўленьня.

§ 4. Учасьце самога грамадзянства у выдаваньні законаў, церáз дастаўленьне яму права законадаўчай ініцыятывы і ужываньне рэфэрэндума для рашэньня найбольш важных справаў.

§ 5. Установа у Расеі Дэмократычнай Фэдэратыўнай Рэспублікі.

# ПРОЕКТЪ
## программы Бѣлорусской Соціалистической Грамады.

(разсмотрѣнный и принятый Петроградской конференціей Бѣл. Соц. Грамады 4—6 іюня 1917 года].

Бѣлорусская Соціалистическая Грамада имѣетъ своей конечной цѣлью осуществленіе соціалистическаго строя посредствомъ развитія классовой борьбы и соціальной революціи.

Въ ближайшее время Бѣл. Соц. Грамада будетъ требовать слѣдующихъ реформъ:

### (программа-минимумъ):

**Въ политическомъ строѣ:**

§ 1. Свобода слова, печати, собраній, обществъ и союзовъ; неприкосновенность личности, жилища, переписки; полная свобода распоряженія своей личностью; отмѣна паспортовъ.

§ 2. Равноправіе всѣхъ гражданъ безъ различія пола, класса, національности и религіи.

§ 3. Всеобщее, прямое, равное, тайное и пропорціональное избирательное право для каждаго гражданина достигшаго 18 лѣтъ, безъ различія пола, при выборахъ какъ въ Учредительное Собраніе, такъ и въ парламентъ и органы мѣстнаго самоуправленія.

§ 4. Участіе самого общества въ законодательствѣ посредствомъ права законодательной инициативы и употребленія референдума для рѣшенія наиболѣе важныхъ вопросовъ.

§ 5. Установленіе въ Россіи демократической Федеративной республики.

РСДРП(б), творы У. Леніна, А. Калантай], так і літаратурна-мастацкіх (творы М. Горкага), прапагандаваліся ідэі партыі бальшавікоў. Вядомы чатыры выданні з серыі «Бібліятэка пралетарыя» (№ 6, 7, 8, 9), сярод якіх — апавяданні М. Горкага «Макар Чудра» (№ 6), «Таварышы» (№ 7), «Дружкі» (№ 9). Можна меркаваць, што брашуры выдавецтва, пазначаныя «РСДРП. № 1» (або № 2, 14, 15, 19, 21), таксама належалі да той жа серыі. Відавочныя прагалы ў апісанні астатніх нумароў серыі даюць падставу меркаваць, што іх колькасць была значна большай.

Кнігавыдавецкая дзейнасць іншых палітычных партый, як «Саюз 17 кастрычніка», «Паалей-Цыён», «Сацыял-дэмакрат» і інш., была нязначнай (вядомы адзінкавыя выданні). Рэвалюцыйныя арганізацыі, у большасці, практыкавалі часовы захоп легальных прыватных друкарняў і выданне ў іх масавым тыражом лістовак, якія былі іх асноўнай выдавецкай прадукцыяй.

***Культурна-асветныя таварыствы*** падзяляліся на рускія, польскія, яўрэйскія і беларускія. Дзейнасць *Таварыства аматараў мастацтва* ў Мінску (1898—1906) арыентавалася на даволі шырокую культурна-асветную працу, аднак выдавецкай дзейнасці было адведзена вельмі нязначнае месца. Толькі статут Мінскага музычнага таварыства (1880—1884) уключаў параграфы аб выданні «за свой кошт... лепшых музычных твораў рускіх кампазітараў», а таксама сведчыў аб намеры «выдаваць ухваленыя цэнзураю творы і кіраўніцтвы, якія тычацца музычнага мастацтва»[172]. Сціпла паказваў на выдавецкую дзейнасць статут «Таварыства аматараў мастацтва» (1898), і зусім не ўключаў яе статут «Таварыства сяброў музыкі» (1912). Можна пагадзіцца з даследчыкамі, што асноўнай прычынай гэтага быў недахоп сродкаў на выданне. Таму і дайшлі да нас толькі тры статуты адпаведных таварыстваў (1880, 1898, 1912).

У 1905 г. было створана кніжнае выдавецтва «Фэрлаг Культур» («Выдавецтва Культура») у Мінску, якое займалася выданнем яўрэйскамоўнай літаратуры. Вядомы 38 выданняў выдавецтва на ідыш і іўрыце, якія прадстаўлены арыгінальнымі і перакладнымі літаратурна-мастацкімі і масава-палітычнымі творамі. «Фэрлаг Культур» стала адным з першых выдавецкіх таварыстваў у горадзе, выконвала функцыі яўрэйскага інфармацыйна-культурнага цэнтра і мела цесныя сувязі з друкарнямі Варшавы і Кракава[173].

Выдавецкая дзейнасць польскамоўных таварыстваў «Асвета» («Oswiata», 1908) і «Агніска» («Ognisko», 1911) таксама адзначана выданнем у Мінску па адной пазіцыі адпаведна ў 1908 г. — гістарычнага апавядання Ф. Бернатовіча «Паята» і ў 1911 г. — «Каталога мастацкай выставы ў Мінскім памяшканні агульнага сходу Агніска», хаця статуты таварыстваў уключалі пункты па выданні і распаўсюджванні польскіх падручнікаў і педагагічнай літаратуры.

З 1916 г. у Мінску існавала ***Польская выдавецкая суполка***, якая займалася, акрамя ўсяго, друкаваннем падручнікаў[174]. У склад суполкі ўваходзіў віленска-мінскі кнігарвыдавец Вацлаў Макоўскі, з успамінаў якога пра дзейнасць у час Першай сусветнай вайны можна даведацца, што суполка была заснавана ў лістападзе 1916 г. У яе «ўвайшлі мясцовыя кнігары палякі — для сумеснага выдання школьных падручнікаў». Аўтар пералічвае шэсць з выдадзеных суполкай кніг[175]. Праўда, па ўспамінах Л. Жыцкай, Польская выдавецкая суполка ў Мінску са сваёй уласнай друкарняй распачала друкаванне «патрэбных падручнікаў» толькі ў 1918 г.[176].

Выдзяляецца выдавецкая дзейнасць ***Таварыства польскіх вайсковых ведаў*** (1917—1919). Яно было заснавана ў 1917 г. пад кіраўніцтвам Генрыка Багінскага як таварыства для распаўсюджвання ваенных ведаў. Пачаўшы сваю дзейнасць у Кіеве, таварыства арганізавала выданне на польскай мове штогодніка «Вайсковыя навіны» і кніг «Бібліятэкі Вайсковых навін». Летам 1917 г. рэдакцыя таварыства была перанесена ў Мінск, дзе да канца 1917 г. выйшлі 40 нумароў «БВН» і была заснавана серыя «Кніжніца польскага жаўнера імя Т. Касцюшкі». Мінскія выданні таварыства — у асноўным вучэбныя (па ваеннай справе і па радыётэхніцы); даведачныя і масава-палітычныя, гістарычнай тэматыкі.

У кнігавыданні вызначыліся і *таварыствы сельскай гаспадаркі* (Мінск, Віцебск), *таварыствы ўрачоў* (Мінск). ***Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі***, створанае ў 1876 г., у сваім статуце зафіксавала права «выдаваць свой журнал па праграме, якая павінна быць прадстаўлена папярэдне на зацвярджэнне ўраду ва ўстаноўленым парадку, або, калі знойдзе гэта зручным, у адным з існуючых выданняў Міністэрства Дзяржаўных маёмасцей» (§ 22 «Статута Мінскага Таварыства сельскай гаспадаркі». Мінск, 1876. С. 10). Рэдагаваў выдавецкую прадукцыю прэзідэнт таварыства. За перыяд 1876 — 1917 гг. Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі заняло дамінуючае становішча сярод іншых таварыстваў, што

праявілася ў актыўнай выдавецкай дзейнасці, вынікам якой стала 260 выданняў. У асноўным гэта былі «журналы» (140), «пратаколы» (58), «справаздачы» (23), «запіскі» і «паведамленні» (7) і інш., якія асвятлялі разнастайныя кірункі дзейнасці таварыства: арганізацыйныя пытанні сельскай і лясной гаспадаркі; жывёлагадоўлі, конегадоўлі, вінакурэння, садаводства, агародніцтва, пчалярства. Таварыства спрыяла развіццю і ўкараненню навуковых метадаў гаспадарання, друкуючы асобнымі выданнямі навуковыя даклады, якія чыталіся на пасяджэннях, напрыклад, Дэлінгера (1893), Я.Ф. Хрушчова (1895); «Працы» таварыства (1903, 1908, 1912); «Вынікі калектыўных доследаў...» (1915). З 1900 г. Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі заснавала фонд імя Э. Вайніловіча на навуковыя стыпендыі. На 1901 г. таварыства налічвала 675 членаў, сярод якіх былі багатыя землеўладальнікі. Уплывовасць, культурна-асветная і навуковая дзейнасць Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі падтрымліваліся ў тым ліку і яго кнігавыданнем.

Таварыствы сельскай гаспадаркі былі створаны ў Віцебску, Магілёве, Мсціслаўлі і іншых гарадах. Для іх таксама характэрна актыўная выдавецкая дзейнасць. Найбольшы ўздым у выданні сельскагаспадарчых кніг прыходзіцца на 1890-я гг. У гэты час узнікаюць як спецыялізаваныя выдавецтвы, так і кнігарні, напрыклад, кнігарня Д. Вінакура ў Бабруйску, якая спецыялізавалася на продажы кніг па садаводстве.

У выдавецкай дзейнасці ***Таварыства мінскіх урачоў***, аднаго з першых мінскіх навуковых таварystваў (1867 — 1914), можна вызначыць тры асноўныя накірункі: выданне афіцыйнай, навукова-папулярнай і навуковай літаратуры. Рэгулярнымі выданнямі таварыства былі «пратаколы» (32) і «працы» (20), у якіх абагульняліся вынікі медыка-тапаграфічнага і санітарна-статыстычнага апісання гарадоў і мястэчак Мінскай губерні. У таварыстве праводзіліся чытанні навуковых дакладаў урачоў (В. Л. Лунц, І. Ц. Офеберг, С. М. Урванцаў, Федаровіч), якія потым друкаваліся асобнымі навуковымі выданнямі. Супрацоўніцтва мінскіх прыватных друкарняў Каплана і Тасьмана з Таварыствам мінскіх урачоў уплывала на іх спецыялізацыю.

Таварыствы ўрачоў былі таксама створаны ў Магілёве, Віцебску, Гродне. Яны праводзілі навукова-асветную работу, распаўсюджвалі медыцынскія веды, сістэматычна выдавалі свае справаздачы, пратаколы, працы, а таксама кнігі, прысвечаныя асноўным кірункам іх дзейнасці.

У 1909 — 1912 гг. Віцебская вучоная архіўная камісія (гістарычнае таварыства Віцебскай губерні, створанае па ініцыятыве Е. Р. Раманава, А. П. Сапунова, В. С. Арсеньева) выпусціла каля 40 кніг: працы, тры выпускі «Полоцко-Витебской старины», каталогі музея і архіва і іншыя матэрыялы краязнаўчага характару.

# РЭПЕРТУАР КНІЖНАЙ ПРАДУКЦЫІ Ў XIX — XX СТСТ.

У XIX — пачатку XX ст. кнігавыданне ў Беларусі было прадстаўлена не менш чым у 40 гарадах і мястэчках. Пераважная большасць кніг прадукавалася ў Вільні — гістарычнай сталіцы Беларусі. Актыўнымі кнігавыдавецкімі цэнтрамі ў межах сучаснай Рэспублікі Беларусь былі Мінск (улічваючы выданні на розных мовах — 3125 назваў), Магілёў (1319 — на рускай мове), Віцебск (1007 — на рускай мове), Гродна (586 — на рускай мове). Усяго ж у зводным каталогу «Кніга Беларусі, 1517—1917» улічана 6536 назваў на рускай[177] і 579 на беларускай мовах[178], выдадзеных у XIX — пачатку XX ст. Да гэтага часу застаецца адкрытым пытанне поўнага ўліку і складання рэпертуару кнігі Беларусі на іншых мовах (польскай, лацінскай, яўрэйскіх і інш.). Толькі мінскія выданні адпаведнага перыяду ўлічаны на сённяшні дзень найбольш дакладна, з улікам іншамоўных, што паспрыяла вывядзенню зусім адрознай іх лічбы у параўнанні са зводным каталогам (паводле яго — 2308 выданняў). Нават дадзеныя вынікі і некаторыя ўдакладненні па выданнях на беларускай мове дазваляюць зрабіць выснову, што ў 1795—1917 гг. у межах сучаснай Беларусі было надрукавана не менш за 7500 кніжных выданняў на рускай, польскай, лацінскай, яўрэйскай, беларускай і іншых мовах.

Выданні свецкага зместу складалі каля 85%. Пераважала краязнаўчая тэматыка. Самых высокіх паказчыкаў кнігавыданне Беларусі дасягнула напярэдадні Першай сусветнай вайны, у 1913—1914 гг. Прыкладам можа паслужыць Мінск, дзе ў 1914 г. выйшла 224 выданні (216 — на рускай мове, 5 — на беларускай, 2 — на польскай, 1 — на ідыш і іўрыце).

Самай вялікай тэматычнай групай была мастацкая і грамадска-палітычная літаратура — 38,5% ад агульнай колькасці выданняў. Асабліва шмат было выданняў па гісторыі і археалогіі, этнаграфіі і фальклоры. Вялікую групу складала літаратура па праблемах адміністрацыйнага кіравання.

На другім месцы ў кніжным рэпертуары выдавецтваў Беларусі была рэлігійная літаратура — 15,5% (у XVIII ст. яна складала палову ўсіх выданняў). Гэта былі ў большасці сваёй матэрыялы па гісторыі царквы, узаемаадносінах каталіцызму і праваслаўя, агіяграфія, гамілетыка.

На трэцім месцы былі выданні сельскагаспадарчай тэматыкі па праблемах жывёлагадоўлі, земляробства, паляводства, лесаводства, агародніцтва, пчалаводства, аховы раслін і інш. Наступнай тэматычнай групай былі медыцынскія выданні, якія выдаваліся ў асноўным урачамі-практыкамі. Мала было выданняў па мастацтве, тэхніцы, прамысловай хіміі, будаўнічай справе, філасофіі, логіцы, этыцы.

Аўтары кніг часам самі з'яўляліся выдаўцамі сваіх твораў, аплочвалі друкарскія выдаткі і самастойна распаўсюджвалі тыраж. Аднак гэты шлях не заўсёды прыводзіў да поспеху. Прыкладам можа быць паэтычная эпапея Юльяна Крашэўскага «Witolorauda. Pieśń z podań Litwy», надрукаваная ў віленскай друкарні Ю. Завадскага коштам аўтара ў 1840 г. Па традыцыі тых часоў для выдання кнігі была аб'яўлена падпіска, у канцы тома змешчаны пералік падпісчыкаў — 144 асобы з розных частак былой Рэчы Паспалітай: Кіева, Кракава, Плоцка, Камянца-Падольскага і г.д. У заканчэнні аўтар паведамляе, што аб'ява аб падпісцы была найперш змешчана на старонках сталічнай газеты «Tygodnik Petersburgski», потым у розных газетах, прычым у варшаўскай «Gazeta Poranna» запісалася спачатку вельмі шмат падпісчыкаў, аднак пазней, даведаўшыся пра цану, большая частка альбо зусім адмовілася, альбо заплаціла толькі частку кошту білета, і аўтар ледзьве змог акупіць выдаткі на друк. Тым не менш, «Плач па Вітаўту»[179] чытачам спадабаўся, і Ю. Завадскі сваім коштам падрыхтаваў другое выданне, якое з'явілася ў 1846 г.

Асноўнай мовай выданняў у 1-й палове XIX ст. у Беларусі была польская. Пасля ўвядзення абмежаванняў на польскамоўны друк (з 1864 г.) пачынае дамінаваць руская мова. Беларускамоўная прадукцыя (улічваючы беларускія тэксты ў польскамоўных і рускамоўных выданнях, а таксама выданні, што выйшлі па-за межамі Беларусі) ад агульнай колькасці выданняў 1795—1917 гг. склала прыкладна каля 7%.

# АД «НАВІН ГРОЗНЫХ» ПАЧАТАК: З ГІСТОРЫІ ЎЗНІКНЕННЯ ПЕРЫЯДЫЧНАГА ДРУКУ БЕЛАРУСІ

Як тып выдання газета склалася ў Еўропе ў пач. XVII ст. На тэрыторыі Беларусі першыя перыядычныя выданні з'явіліся ў другой палове XVI — пачатку XVII ст. Імі былі газеты-аднадзёнкі, у якіх асвятлялася жыццё народаў ВКЛ і іншых краін Еўропы. Першымі вядомымі газетамі-аднадзёнкамі з'яўляюцца «Новіны грозныя а жалостлівые...», якія, мяркуецца, былі выдадзены С. Будным у 1562 ці 1563 г. у Нясвіжы. Газета распавядала пра паход маскоўскага цара Івана Грознага на землі ВКЛ. Сёння ў бібліятэцы Оксфардскага універсітэта ў Англіі захоўваецца 7 беларускіх старадрукаваных лістовак газетнага тыпу, сярод якіх «Новіна іста а правдіва о добыты тыраном московскім места Полоцкого» (1571), «Эдыкт з замку Полоцкого» (1597), «Эдыкт з обозу под замком нашым Велікімі Лукамі» (1580), «Эдыкт з замку Полоцкого» (1593 ці 1597?), «Новіны о взяты Смоленска» (1610), «Новіны о шчасліком поступаны на царство Московское Найясьнейшаго Владыслава, Короля Польского» (1617) і інш.[180]

На мяжы XVII—XVIII стст. на Беларусі склаліся неабходныя ўмовы для выпуску перыядычных выданняў: вопыт кнігадрукавання, кнігавыдавецкія сувязі, публіцыстычныя сілы — усё спрыяла гэтаму працэсу. Ужо падчас працяглай Паўночнай вайны (1700—1721) узнікла ідэя стварэння газеты на тэрыторыі Беларусі, а ў 1707 г. інтэлігенцыя Мінска абгрунтоўвала неабходнасць друкаваць і распаўсюджваць бясплатныя перыядычныя выданні праз пошту[181].

У 1718—1720 гг. у Караляўцы (Кёнігсберг, Прускае герцагства) лютэранскі святар Я. Рэкуць ужо выдаваў польскамоўную газету «Каралявецкая пошта» («Poczta Królewiecka»), якая была разлічана на чытачоў Караляўца і Вільні, змяшчала навіны са сталіцы і іншых гарадоў ВКЛ[182]. Дзесьці ў сярэдзіне XVIII ст. былі спробы выдаваць «***Нясвіжскую газету***»[183].

Аднак толькі езуітам удалося не толькі арганізаваць, але і падпарадкаваць сабе выданне газет у сталіцы ВКЛ. «Первая литовская газета был Литовский Курьер, начавший издаваться в 1759 г. Право издания на основании грамоты Августа III от 22 февраля 1760 г.» — гэта цытата са змешчанага ў пецярбургскім выданні «Живописная Россия» (1882) артыкула А. Кіркора. Адзначаны прывілей 1760 г. быў, як заўважаюць даследчыкі, другім, а першы прывілей на выданне газет у ВКЛ езуіты атрымалі 5 лістапада 1757 г. У рэгістры (спісе) каралеўскіх прывілеяў ёсць пераказ яго зместу: «Прывілей, у якім айцам-езуітам літоўскай правінцыі даецца права непарыўна друкаваць свецкія звесткі на польскай, італьянскай, лацінскай і любой іншай падыходзячай мове, выключаючы французскую». Гэты ж прывілей упамінаецца і ў другім прывілеі — 1760 г. Менавіта на захаваны, другі прывілей як на галоўнае дакументальнае сведчанне з'яўлення перыядычнага друку на беларускіх землях спасылаюцца многія даследчыкі. Хутчэй жа за ўсё, ужо пасля атрымання першага прывілея езуітам удалося выпусціць некалькі нумароў газеты. Магчыма, гэта былі пробныя, нерэгулярныя выпускі, якія не атрымалі шырокага рэзанансу. Такога пункту гледжання прытрымліваюцца гісторыкі Г. Смольскі, С. Чарноўскі, В. Цэхоўскі, В. Абрамавічус, якія адносяць выхад першага нумара «Літоўскага кур'ера» да 1759 г. Першыя нумары газеты не захаваліся, як не захаваўся і прывілей 1757 г. на яе выданне.

З 1760 г. «Kurier Litewski», першае рэгулярнае перыядычнае выданне ў ВКЛ, выходзіў штотыднёва па пятніцах на польскай мове. У год закрыцця (1763) выйшла толькі 34 нумары. Выдавалася газета ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Рэдактарам быў Ф. Папроцкі (1760—1762). У выданні друкаваліся ў асноўным паведамленні пра палітычныя падзеі ў краіне і за мяжой. Мела 3 дадаткі «Літаратурныя навіны» («Wiadomości literackie»), «Чужаземныя навіны» («Wiadomości cudzodzemskie»), «Дадатак да Віленскай газеты» («Supplement do gazet Wileńskich»)[184]. Выданне было спынена з-за студэнцкіх беспарадкаў, у выніку якіх рэдактары і выдаўцы пераехалі ў Коўна.

У 1764—1794 гг. замест названай газеты ў Вільні штотыднёва стала выходзіць «***Віленская газета***» («Gazety Wileńskie»), рэдактарамі якой былі А. Янушкевіч (1763—1764), К. А. Нарушэвіч (1766—1773), М. Пачобут-Адляніцкі (1773—1794), аднак яе выданне спынілася з пачаткам паўстання 1794 г.[185]

У 1776—1783 гг., магчыма, спачатку па ініцыятыве сакратара мясцовай пошты Сабалеўскага, а пазней пад кіраўніцтвам



Sekretarz, Karol Podobied.
Powiatowy Podskarbi *Sekund Major*, Jan Auer.
Dozorca Soli *Sekund Major* Adryan Muratow.

w SZLACHECKIEY OPIECE.

Prezyduie Marszałek TadeuszHayko

w NIZSZYM ZIEMSK: SĄDZIE

Ziemski Ciwun Floryan Milkiewicz.
*Assessorowie*: 1. Michał Kasza. 2 Cypryan Korkuzewicz.
*Sekretarz*, Dymitr.

w NIZSZEY ROSPRAWIE.

Rozprawny Sędzia *Sekund Major* Dymitr Jehorowicz Augustow.
*Prowincyalny Sekretarz*, Karol Kietowski.
Powiatowy Adwokat *Prowincyalny Protokolista*, Teodor Gołubkow.
Powiatowy Komornik Francesson.
w Po-

W Powinności Doktora Sztab Lekarz Jan Szmidt.

w KLIMOWICZACH.

Horodniczy *Sekund Major*, Mikołay Powało-Szwyikowski.

w POWIATOWYM SĄDZIE.

Powiatowy Sędzia, Jan Swatkowski.
*Assessorowie*. 1. Jozef Ostreyko. 2. Jacek Malinowski.
*Sekretarz*, Kozmas Kozminski.

w POWIATOWYM SĄDZIE.

Powiatowy Podskarbi *Kollegski Assessor*. Cyryllus Proszkow,
Dozorca Soli, *Kornet* Michał Krasinski.

w SZLA-

*Старонкі «Беларускага календара». Магілёў, 1785 г.*

А. Тызенгаўза ў Гродне выдавалася «Гродзенская газета» («Gazeta Grodzeńska») — першая ў межах сучаснай Беларусі. Друкавалася яна ў Каралеўскай друкарні, выходзіла 1 раз на тыдзень (у чацвер) на 2 старонках. У некаторых выпадках аб'ём мог павялічвацца ў 2 разы. Пасля выхаду першых 6 нумароў газету пачаў цэнзураваць газетны цэнзар, пасаду якога ўвёў польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Мела тыраж 300 экзэмпляраў. Гэта была таксама польскамоўная газета, якая асвятляла падзеі з жыцця Рэчы Паспалітай і ВКЛ, Расіі, краін Еўропы, часцей перадрукаваныя з «Варшаўскай газеты»[186].

У лістападзе—снежні 1792 г. у Гродне 2 разы на тыдзень выходзіў друкаваны орган Таргавіцкай канферэнцыі — газета «Гродзенскія ведамасці» («Wiadomości Grodzeńskie»), якая інфармавала пра падзеі, што адбываліся напярэдадні падзелу Рэчы Паспалітай.

У 1794 г., падчас паўстання Т. Касцюшкі выдавалася «Віленская нацыянальная газета» («Gazeta Narodowa Wileńska»), якая з'ўлялася органам Найвышэйшай Літоўскай рады — рэвалюцыйнага ўрада ВКЛ у час паўстання. Выходзіла на польскай мове 2 разы на тыдзень з 4 мая да 6 жніўня 1794 г. Рэдактарам быў прафесар Віленскай акадэміі П. Н. Галянскі, у выданні таксама ўдзельнічаў прафесар М. Ф. Карповіч[187].

Першым у Беларусі і ВКЛ інфармацыйным бюлетэнем былі «Гродзенскія весці» («Awizy Grodzeńske»), якія друкаваліся з 1678 г. да пачатку XVIII ст. Некаторыя даследчыкі лічаць іх першай газетай у ВКЛ. У Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве захаваўся толькі адзін нумар ад 13 снежня 1698 г. (фармат 13,5 × 20 см, 1 аркуш, друк двухбаковы)[188].

На пачатку XVIII ст. у ВКЛ пачынаецца актыўны друк ***календароў*** (першы каляндар надрукаваны ў Парыжы ў 1493 г.). Аднак можна адзначыць, што вытокі беларускага друкаванага календара можна знайсці яшчэ ў «Пасхаліі», заключнай частцы «Малой пада-

*Тытульныя лісты беларускіх календароў на 1910—1914 гг.*



















рожнай кніжкі» Францыска Скарыны (Вільня, каля 1522). Гэта быў першы ўсходнеславянскі друкаваны царкоўна-астранамічны каляндар на 1523—1543 гг. Ёсць звесткі, што ў Любчанскай друкарні ў 1650-я гг. некалькі разоў выходзіў «Каляндар штогодніх свят і рухаў нябесных цел» С. Фурмана (не выяўлены), у Слуцкай друкарні на пачатку 1670-х гг. таксама планаваліся да друку календары. Першы рускі друкаваны каляндар «Святцы, або Каляндар» выйшаў у Амстэрдаме ў 1702 г., а яго выдаўцом быў беларус Ілья Капіевіч[189]. Відавочна, што друкаваныя календары, што выходзілі ў Кракаве, мелі шырокае распаўсюджанне і на тэрыторыі ВКЛ, як «Рымскі і рускі каляндар» на 1690—1724 гг. Ф. Нявескага і інш.

Аднымі з найранейшых з'яўляюцца супрасльскія уніяцкія «Календары польскія і рускія» на 1714, 1717, 1722, 1732, 1734 гг. З 1737 г. да выдання календароў у Слуцку і Вільні прыступілі езуіты. У 1776—1800 гг. у Гродне і Вільні выдаваўся штогадовы «Гаспадарчы каляндар» («Kalendarż Gospodarski») на польскай мове. Яго ініцыятарам быў пісьменнік, дырэктар каралеўскай друкарні К. Маліноўскі, выдаваў Т. Дубіткоўскі[190]. Каляндар змяшчаў парады па медыцыне, сельскай гаспадарцы і карыстаўся вялікай папулярнасцю на тэрыторыі Польшчы і Беларусі. Тыраж яго дасягаў 8 тыс. экзэмпляраў. У 1783—1795 гг. у Магілёве штогод выходзіў «Беларускі каляндар» («Kalendarż Białoruski»), які выдаваўся С. Богуш-Сестранцэвічам і вызначаўся высокім паліграфічным узроўнем. У канцы XVIII ст. календары выдаваліся таксама і полацкімі езуітамі[191]. Неацэнная гістарычная каштоўнасць гэтых невялічкіх выданняў у тым, што яны адначасова выконвалі функцыю адрасоў-календароў — часта толькі адсюль можна даведацца, хто займаў невысокія чыноўныя пасады ў беларускіх павятовых гарадах.

Календары і ў 19 ст. займалі паважнае месца ў дамах адукаваных беларусаў як універсальная кніга, прыдатная, кажучы сучаснай мовай, да «інтэрактыўнага карыстання» (заўваг, дапісак



Prosimy porównać nasze ceny, nasz wyborowy materjał.

IGNATYCZE
SZKÓŁKI
róż, drzew parkowych, leśnych i owocowych
Wilhelma Jelskiego
poczta Mińsk gub.
Telegraf „Mińsk Ignatycze Szkółki".
Telefon na Mińskiej stacji centr. 122

Cennik drzew owocowych i ozdobnych oraz katalog ilustrowany, zawierający odmian 600 róż, 150 nowości, na żądanie bezpłatnie.

Zakład udziela bezpłatnie rad i wskazówek w sprawie urządzenia parków, sadów i t. p. Plany wykonywa po cenach kosztu. Poleca fachowych ogrodników i pomocników.

SKŁADY HURTOWE
Angielskiego Superfosfatu
TOMASÓWKI i innych nawozów sztucznych.
Józef Jacuński w Libawie.
Składy Hurtowe ŚLEDZI Królewskich Holenderskich i innych, Karbolineum, Franc. Terpentyny i innych towarów zagranicznych.

KALENDARZ MIŃSKI
NA ROK PRZESTĘPNY
1912
WYDAWNICTWA ROK IV.

Oszczędność i praca
Ludzi wzbogaca.

Drukarnia „Znicz" w Wilnie, Ś-to Jańska 19.
1912.

*«Мінскі каляндар на 1912 г.». Вільня, 1912 г.*

мемарыяльнага характару, гаспадарчых нататак). Добрай ілюстрацыяй гэтага служыць успамін фатографа Яна Булгака аб падарожжы ў дзяцінстве (1870-я гг.) з роднага Асташына (зараз Карэліцкі раён) у суседнюю вёску да цёткі Ідалькі, у доме якой ён сустракаў такую карціну: «На паліцах сярод кніг знаходзілася мноства календароў, састаўленых па парадку гадоў, бо цёця збірала іх старанна і захоўвала на памяць як свайго роду дамашнюю хроніку. Трэба ведаць, што ў тыя часы каляндар меў ролю значна важнейшую і шырэйшую, чым яго сучасны паслядоўнік. Ён быў дзённікам дзеянняў і падзей і ў доўгім спісе запісаў ад рукі на палях вобразна прадстаўляў жыццё двара, нягледзячы на тое, што быў напісаны па-руску... Адзінай уступкай рэлігійным пачуццям каталіцкага насельніцтва былі змешчаныя побач з тэкстам імёны святых на лаціне. Такія «западно-русскіе месяцесловы» друкаваліся ў той час для ўсяго краю ў яўрэйскіх друкарнях Сыркіна і Рома[192] з ухвалення ўраду, і толькі ў руках нашых жанчын гэтыя чужыя і прыкрыя выданні набывалі рысы сваіх. На тытульнай старонцы нязменна пісаліся пад датай года сакраментальныя словы: «Дай, Божа, шчаслівы», а ў сярэдзіне на ўсіх белых месцах запісваліся розныя дамашнія здарэнні, не выключаючы цялення кароў, стрыжкі авечак і пакрывання кабылы. Не абміналі, вядома, і метэаралагічных з'яў, асабліва ў сувязі з сяўбой, сенакосам і жнівом. Калі да гэтага старанная рука цёці Ідалькі дадавала нейкія дамашнія рэцэпты, кухонныя або лекарскія, факты з асабістага жыцця, выплаты, сустрэчы і іншыя заўвагі, гэты пануры афіцыйны «западно-русскій месяцеслов» — сродак чужой сілы і насмешкі — губляў сваю сухасць і станавіўся сапраўдным запісной кніжкай, старасвецкім «silva rerum», поўнай выразнасці, жыцця і значэння. Цёця шмат гадоў выпісвала календары і захоўвала іх на паліцы… Яна рабіла гэтыя запісы са сваёй звычайнай спакойнай разважлівасцю і няспешнай дакладнасцю, якая, зрэшты, адрознівала ўсіх тагачасных людзей, што не ведалі сучаснага бессэнсоўнага гарачкавага тэмпу».[193]

*Тытульны ліст брашуры Я. Офенберга «З гісторыі дабрачыннага таварыства». Вільня, 1906 г.*

## Перыядычны друк Беларусі ў складзе Расійскай імперыі




У 1796 г. адбылося другое нараджэнне газеты ***«Kurier Litewski»*** («Літоўскі кур'ер»), калі ў Гродне была заснавана прыватная газета з такой самай назвай. Уладальнікам і рэдактарам яе быў Тадэвуш Влодэк. У Гродне выйшла 52 нумары, а з 1 красавіка 1797 г. рэдакцыя газеты была перанесена ў Вільню і перададзена ў арэнду Галоўнай вышэйшай школе (Віленскаму універсітэту). З 1800 г. і да закрыцця універсітэта ў 1832 г. «Літоўскі кур'ер» рэдагавалі яго прафесары. Так, у 1800—1809 гг. рэдактарам газеты быў Я. Ясінскі, у 1810—1811 гг. — К. Даніловіч, у 1812—1814 гг. — Э. Славацкі, а з 1815 г. — А. Марціноўскі. На старонках газеты адлюстроўвалася ліберальная атмасфера Віленскага універсітэта і пасля паўстання 1831 г. выданне часова было спынена, аднак усё ж праз два гады ўзнавілася і было адзіным перыядычным выданнем у Вільні на польскай мове, існаванне якога не было назаўсёды перапынена мерапрыемствамі царызму[194].

У 1834 г. газета стала двухмоўнай: выдавалася на польскай і рускай мовах. Значная частка матэрыялаў перадрукоўвалася з пецярбургскіх выданняў, змяшчаліся і артыкулы беларускай тэматыкі. У 1841 г. слова «Litewski» знікае з назвы і замяняецца і ў рускім, і ў польскім варыянтах («Виленский вестник — Kurier Wileński»). Паўстанне 1863—1864 гг. адбілася і на лёсе газеты: знікла польская палова, газета паводле загаду М. М. Мураўёва стала поўнасцю рускамоўнай і ператварылася ў афіцыйны орган Паўночна-Заходняга краю. Пад назвай «Виленский вестник» яна выходзіла да 1916 г.

У лістападзе 1905 г. была адменена папярэдняя цэнзура, былі дазволены выданні на нацыянальных мовах. Праз 65 гадоў пасля выхаду апошняга нумара зноў з'явілася газета «Літоўскі кур'ер», якая выйшла на польскай мове. У 1905—1915 гг. яна стала адной з аўтарытэтных газет краю. Заснавальнік выдання І. Корвін-Мілеўскі выпусціў некалькі нумароў, а затым перадаў рэдагаванне газеты вядомаму публіцысту, крытыку і вопытнаму журналісту Ч. Янкоўскаму. Асобныя матэрыялы з газеты перадрукоўваліся ў выглядзе брашур і распаўсюджваліся як самастойныя выданні — прыкладам можа быць надрукаваная ў 1906 г. у віленскай друкарні А. Сыркіна брашура доктара Я. Офенберга «З гісторыі Мінскага дабрачыннага таварыства. (З нагоды адкрыцця новага шпіталя)», якая каштавала 25 капеек, прыбытак ішоў на карысць шпіталя. З 1908 г. рэдактарам «Літоўскага кур'ера» стаў В. Бараноўскі, а літаратурным супрацоўнікам — папулярная пісьменніца Э. Ажэшка. Дадаткам да газеты выходзіў часопіс «Ілюстраванае жыццё», для чытачоў з Мінскай і Магілёўскай губерній рыхтаваўся спецыяльны раздзел «Мінскае рэха». Газета стала органам плыні «краёвага руху» ў Літве і Беларусі. Адным з важных кніжных праектаў гэтага часу быў вялікі, на 215 старонак, «Пуцевадзіцель па Літве і Беларусі», сабраны і апрацаваны Н. Роўбам (выдавецтва «Літоўскага кур'ера», накладам Эдмунда Навіцкага ў друкарні Юзафа Завадскага, Вільня, 1909 г.), а таксама «Карта Літвы і Белай Русі». Абодва выданні прадаваліся ў рэдакцыі «Літоўскага кур'ера» на Кафедральнай плошчы, 4. «Краёвы рух» ахопліваў землі Беларусі і Літвы, адпаведна «Пуцевадзіцелю» Н. Роўбы, які зазначаў ва ўступе: «Аб даследваннях этнаграфічных зараз няма гаворкі, але бяром адміністратыўныя адзінкі: ... губерні віленская, ковенская і гродзенская, называюцца звычайна Літвой, а тры астатнія — мінская, віцебская і магілёўская — Беларуссю. Для ўсіх аднак шасці Вільня ёсць бясспрэчным асяродкам, дзе




*Н. Роўба. Даведнік па Літве і Беларусі. Вільня, 1909 г.*

злучаюцца ўсе ніці жыцця Літвы і Беларусі»[195]. У кастрычніку 1910 г. «Літоўскі кур'ер» быў перайменаваны ў «Виленский курьер», але ў 1912 г. ён быў адноўлены пад сваёй першапачатковай назвай.

Часопісы і газеты на польскай мове, якія выходзілі ў Вільні ў 1-й палове XIX ст., значна паспрыялі і актывізавалі выдавецкія працэсы у краі. Акрамя «Літоўскага кур'ера» паралельна працяглы час выходзілі штомесячны навукова-літаратурны часопіс «Dziennik Wileński» (1805—1806, 1815—1830), «Tygodnik Wileński» (1804, 1815—1822), дзе актыўна выступалі члены таварыства шубраўцаў, заснавальнікі сатырычнай штотыднёвай газеты «Навіны з бруку» («Wiadomości Brukowe», 1816—1822 гг.), скіраванай супраць невуцтва, цемрашальства, шляхецкіх нораваў і прыгонніцтва.

Не толькі для лекараў і аптэкараў, але для ўсёй чытаючай публікі горада і павета стаў цікавай з'явай часопіс «Віленскі дзённік магнетызму», першы нумар якога выйшаў у студзені 1816 г. Выдаўцы паведамлялі, што часопіс быў створаны пры ўдзеле берлінскага прафесара Вольфарта па даручэнні доктара Фрыдрыха Антона Месмера (1734—1815). Друкаваўся «Віленскі дзённік магнетызму» у Аляксандра Жолкоўскага ў друкарні ксяндзоў-піяраў[196]. Адукаваная шляхта з цікавасцю і не заўсёды разумеючы, аб чым ідзе гаворка, чытала тэарэтычныя артыкулы пра жывёльны магнетызм, астраномію, новыя фізічныя і хімічныя прыборы, хваробы і іх лячэнне. Паведамлялася пра розныя незвычайныя з'явы, напрыклад, прыжыўленне адрэзаных часцін чалавечага цела. Сярод матэрыялаў — артыкул Макара Багаткі «Звесткі аб метыарытных камянях, спадлых 29 мая ў Вільні ў 1816 г.», справаздачы аб метэаралагічных назіраннях у Свіслачы, фрагменты «магнетычнага дзённіка» клецкага фармацэўта Юрыя Конрата. Найбольшую ўвагу ў 1-м нумары 1-га тома прыцягнуў матэрыял «Асаблівы лекар ў Наваградскім павеце». Артыкул пачынаўся доўгімі развагамі пра тое, як ў адлеглых ад вялікіх гарадоў мясцовасцях у некаторых людзей праяўляюцца незвычайныя здольнасці, што могуць прыносіць як карысць (і тады могуць служыць грамадству), так і шкоду, якой трэба пазбаўляцца шляхам перакanання і асветы альбо нават «паліцыйнымі» сродкамі. Потым паведамлялася сутнасць справы: «У маёнтку пана Чаркоўскага у 6 міль ад Наваградка, а тры мілі ад Нясвіжа [літоўская міля роўная 3 вёрстам — М.Н.] зусім просты хлопец, без ніякай адукацыі, з дзяцінства пастух, званы Антосек, ад колькіх гадоў пачаў праслаўляцца каля дому лячэннем такіх хвароб, напр. рака і воднай пухліны, якія ча-

ста лекарамі былі прызнаваныя за невылечныя. Вестка аб ім разыходзілася што раз шырэй, а зараз здараюцца шматлікія пацыенты з далёкіх старон прыбываюць. Узнагароды грашовай ніякай не бярэ, сам жыве паводле свайго productsнча і паклікання, у прастаце сваёй не паказвае быстрага розуму, цьвярозы, набожны і добрых звычаяў. Мае на левым баку пляму. Калі хворы да яго прыйдзе па раду, у той час трымаецца рукой за тую пляму і адразу скажа пацыенту, ці можа быць вылечаны альбо не. У першым выпадку прыпісвае лекі з мясцовых траваў, называючы іх простымі назвамі. Здаралася, аднак, што прызначаў для ўжывання ром, мушкатны гарэх і гваздзіку: якіх рэчаў, як цьвердзіць, ніколі не бачыў і не ведаў, таму не па назвах іх называў, але па апісанні запаху, смаку і г.д. Яго эфектыўнае і дзіўнае лячэнне з'яўляецца ў тамтэйшых краях усеагульнай матэрыяй для размоў: нават да Вільны пішуць пра тое да розных асоб; а між іншымі пан граф Гінтэр атрымаў аб тым асаблівым лекары данясенне ад кіраўнікоў сваіх маёнткаў, ляжачых у тамтэйшых краях, а кс. канонік Паўлоўскі, што жыве пры акадэміцкім касцёле і ад колькіх год безвынікова лечыцца, атрымаў ліст ад знаёмага, які яму радзіў вясной пайсці да Антоська. Тыя, хто прыбывае з тамтэйшых ваколіц — абывацелі паважныя і годныя веры, упэўніваюць, што хаця звесткі паўсюль разыходзяцца, і з далёкіх старон пацыенты прыяжджаюць, але ніхто з людзей вучоных [таго феномена] не сочыў; сам нават пан Чаркоўскі ў тое не мяшаецца».

Дадаецца яшчэ такое Антоськава апавяданне: «Быў ён тры гады хворы перад тым на грудзі пасля бойкі з другім пастухом, пайшоў у лес, каб пашукаць траваў на лячэнне. Там заўважыў на дубе старца, абраслага валасамі, ад якога ўцякаўшы быў дагнаны і папярэджаны, што зёлкі, якімі хацеў лячыцца, шкодныя; але знайдзе такія і такія расліны ў садзе ў свайго пана, якія вылячаць: што і здзейснілася. Пры тым старац той ухапіў яго рукой за бок, ад чаго зрабілася пляма, якая і зараз ёсць, і ўпэўніў, што дае яму дар лячэння тым спосабам, што пра датыканні рукой тае плямы будзе ведаць, якія прыпісваць лякарствы. Тая карысная ўласцівасць, паводле слова старца, не будзе яму служыць, як толькі ў адлегласці двух міль ад месца, дзе жыве, і на працягу адзінаццаці гадоў, пасля чаго можа быць аднаўлена, калі добра будзе выконваць, яшчэ з большай моцай. Той жа старац казаў не браць вялікай грашовай узнагароды. Трымаецца Антосік паводле інструкцый старца, эфектыўна ўжывае свае здольнасці і знаходзіць такіх, хто яму верыць і пра надзейнасць яго лячэння разпавядае»[197].

У заканчэнні невядомы аўтар выказвае абурэнне дзікунствам людзей, апелірує да адукаванага грамадства і, між іншым, называе свой артыкул «данясеннем» — па сённяшніх мерках яго можна было б назваць і «даносам»: «А паколькі ва ўсім тым менш падабенства да праўды, аніжэлі ў аповесцях Шэхеразады ў «Тысячы і адной ночы», непрыстойнай за гэтым ёсць справай, каб у асвечаным павеце кружылі па дамах, нават абывацеляў, такія недарэчныя казкі: трэба спадзявацца, што нехта з тамтэйшых людзей светлых і справядлівых, тыя рэчы прыстойна разгледзіць і палічыць за вартую справу адкрыць крыніцу альбо повад фальшывых пагалосак, і праз тое пакладзе канец гэтай недарэчнасці, ахоўваючы легкаверных ад небяспекі і пагрозы стратаў і марных надзей, у такім разе намер цяперашняга нашага данясення будзе споўнены».

Артыкул не застаўся без увагі. У наступным 1817 г., у 5-м нумары 2-га тома «Віленскага дзённіка магнетызму» з'явілася інфармацыя пад загалоўкам «Урадавае паведамленне аб Антоську. (Ліст, дасланы для апублікавання ад Яго Высокасці грамадзянскага Гродзенскага губернатара Станіслава Урсына Нямцэвіча)».

Далей ішоў такі тэкст: «З прычыны апісання Антоська ў № 1 ***Віленскага весніка магнетызму***, цывільны гродзенскі Губернатар, заўважаючы, што гэта акалічнасць не мала займае ўсеагульную цікавасць, пастанавіў праз ***Веснік магнетычны*** наступныя аб тым асаблівым лекары абнародаваць падрабязнасці.

19 верасня 1816 года гродзенскі губернскі ўрад пасля данясення, што Антосько Галец, падданы В. Чаркоўскага, пражывае ў яго спадчынным маёнтку Дзерэва ў Наваградскім павеце, веку 17 гадоў, займаецца лячэннем людзей, выслаў туды камісію, складзеную з наваградскага падкаморыя Маркевіча, інспектара здароўя, калежскага саветніка Міхельсона і наваградскага земскага камісара Берга, на зрабенне ў той справе следства і высвятлення, ці пад такім апраўданнем (мнімым прыкрыццём) не ёсць аснова праекта прыбытку і ці не хаваецца ў тамтэйшых краях якая асоба, якая займаецца лячэннем хвароб? Якая камісія калі тое следства на месцы распачала і закончыла, наступнае абвяшчэнне гэтага выпадку каротка робіць:

1. Па самым блізкім разглядзе камісія нікога не знайшла, хто б таемна дапамагаў Антоську, які не мае крыніц ніякай навукі лячэння і прыпісвання лекаў хворым.

38

URZĘDOWA WIADOMOŚĆ O ANTOŚKU.

(Pismo nadesłane do umieszczenia przez JW. Cywilnego grodzieńskiego Gubernatora *Stanisława Ursina* NIEMCEWICZA.)

Z POWODU opisania *Antośka* (którego Redakcya przyłącza portret) w Nr. 1. Pamiętnika magnetycznego wileńskiego i podanych poźniey uwag do pamiętnika warszawskiego w Nr. 23, oraz przedrukowania onych w gazecie korrespondenta warszawskiego w Nr. 91. roku przeszłego; cywilny grodzieński Gubernator dostrzegaiąc, że okoliczność ta nie mało zaymuie ciekawość powszechną, postanowił przez pamiętnik magnetyczny następuiące o tym osobliwszym lekarzu ogłosić drukiem szczegóły.

Roku 1816 sierpnia 19 dnia RZĄD GRODZIENSKI GUBERNSKI po doniesieniu sobie, iż *Antośko* GOLEC poddany W. *Czarkowskiego*, w dobrach iego dziedzicznych *Derewa*, w powiecie nowogródzkim mieszkaiący, wieku lat 17, zaymuie się leczeniem ludzi, wysłał tam kommissyią złożoną z Podkomorzego nowogródzkiego *Markiewicza*, urzędnika zdrowia Inspektora Radcę kollegialnego *Michelsona*, oraz nowogródzkiego ziemskiego Kommissarza i kawalera



ANTOSIEK

czyli

*Antoni Golec ur. 1799. par. deren: Pttu Nowogr.*

*Разварот з гравіраваным партрэтам народнага лекара Антоські Гальца з часопіса «Віленскі дзённік магнетызму». 1817 г. № 5. Том 2.*

2. Камісія падала думку, абы абавязаць В. Яна Чаркоўскага патрабаваннем, каб не дазваляў падданаму свайму Антоську лячыць хворых, каторага, як і пп. Чыжа і Сухоцкага, папярэдзіць, што следчая камісія, уваходзячы ў распазнанне гэтай справы, не знайшла ў ёй слядоў аніякай карыснай зацікаўленасці, як што да іх асоб, так і да самога Антоські Гальца, якому аднак пастанавіла забараніць пад якой ні было прычынай лячэнне. Бо права краю без здачы папярэдняга экзамену на Віленскім, альбо іншым універсітэце, практыкаваць не дазваляе.

3. Засведчыў Антоська, што ані хваробаў, ані раслін не ведае: лечыць хворых угляданнем у вочы і твар, а тады інстынктам ведае, якое трэба ўжываць лякарства. Шмат хворых адпраўляе і кажа ім пазней прыехаць, гаворачы, што зараз для іх лякарстваў няма, альбо што да іх інстынкту не чуе.

4. Травы, якія ўжываў Антоська для лячэння сваіх пацыентаў, вывучаны прызначаным на гэта камісіяй наваградскім аптэкарам Крацэвічам, і не былі прызнаны шкоднымі.

5. Камісія выказвае думку, што дзеянні Антоські не ёсць ані вынікам цуду, ані ўмельства, толькі самым сляпым праяўленнем у ім веры: якім спосабам яе Антоська атрымаў, высветліць тое немагчыма; несумненна толькі тое, што такі асаблівы лекар дае повад да розных высноў, галоўным чынам паміж простымі людзьмі, і да шматлікага зграмаджэння людзей з далёкіх старон больш як з блізкіх, у Наваградскі павет да фальварка В. Чаркоўскага Дзеравы, каля якога на адлегласці двух міль бярэ Антосек людзі ў курацыю.

Гэта ёсць асноўныя высновы вызначанай камісіі, аглашаючы якія цывільны гродзенскі губернатар абвяшчае адразу, што тым, хто падае просьбы аб дазваленні лячыцца ў

*Тытульны ліст «Віленскага дзённіка магнетызму».*

*Вокладка часопіса «Ундзіна» Вып. 5. Гродна, 1846 г.*



PAMIĘTNIK
MAGNETYCZNY WILEŃSKI.

Multa hoc primum cognovimus seculo, et multa venientis aevi populus ignota nobis sciet.
SENECA.

TOM I.

WILNO. DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO TYPOGRAFA IMPERATORSKIEGO WILENSKIEGO UNIWER.
MDCCCXVI.



ONDYNA
Druskienickich źródeł
PISMO ZBIOROWE
dla zdrowych i chorych,
w czasie czteromiesięcznego u wód mineralnych pobytu.

Wydawca
K. WOLFGANG.

Cały ród ludzki prosił o jedno u Boga, o światło.

ROK 1846.

Zeszyt Piąty.

GRODNO.
w DRUKARNI RZĄDOWEJ.
Nakład Wydawcy.

Антоські, пасля прынятай пастановы, у ніякі спосаб задаволіць учыніць гэта не можа; для тых, хто адчувае вельмі вялікі давер да таго лекара, застаецца вольнай дарога да вышэйшых улад па дазвол. 1817 года дня 7 студзеня ў Гродне».

Некаторыя перыядычныя выданні мелі кароткачасовы тэрмін існавання. Так, у вайну 1812 г. у Мінску выходзіла «Gazeta Tymczasowa Mińska» («Мінская часовая газета»), якая змяшчала загады Напалеона на польскай і французскай мовах. Выходзіла 2 разы на тыдзень на 2—6 старонках. Друкавалася ў Мінскай губернскай друкарні. Палітычная платформа газеты будавалася на тым, што асобная частка мясцовай знаці прапаноўвала ідэю аднаўлення ВКЛ. Пасля выгнання напалеонаўскіх войск з тэрыторыі Беларусі і вызвалення Мінска газета была закрыта.

У 1818 і 1820 гг. у Полацку езуітамі выдаваўся «Miesęcznik Połocki» («Полацкі месячнік»). Гэта было навуковае, літаратурнае і тэалагічнае выданне, якое ставіла асветніцтва сваёй галоўнай задачай. Звяртаючыся да чытачоў, рэдакцыя лічыла магчымым стварыць такія кнігі, «якія стануць гордасцю выдаўцоў, упрыгожаннем бібліятэк, каштоўнымі для людзей, скарбонкай інфармацыі для тых, хто займаецца стварэннем навуковых прац»[198]. Часопіс вёў палеміку з «Віленскім дзённікам» і «Навінамі з бруку» аб праблемах веры і свецкага жыцця, адносін паміж каталікамі і праваслаўнымі. Вылучаўся добрым знешнім і ўнутраным афармленнем. Усяго выдадзена 14 нумароў. У часопісе было 6 раздзелаў: літаратура і свабодныя навукі, маральна-філасофскі, фізіка-матэматычны, гісторыя, крытыка, літаратурныя навіны. У 1820 г. часопіс быў закрыты, калі ордэн езуітаў быў выгнаны з Расіі, а акадэмія дэпартавана ў Аўстрыю.

У 1830-я гг., пасля падаўлення паўстання, прагал у культурным жыцці краю спрабавалі запоўніць такія віленскія штогоднікі і альманахі, як «Znicz» (1834, 1836), «Biruta» (1837, 1838), «Bojan» (1838), у якіх змяшчаліся і беларускія матэрыялы. Так, першы нумар альманаха «Баян» («Bojan»), у якім быў



*Dozwala się drukować pod tym warunkiem, aby po wydrukowaniu, nie zaczynając przedawać, złożone były w komitecie cenzury exemplarze, to iest: ieden dla tegoż Komitetu, dwa dla Departamentu Ministerium oświecenia, dwa exemplarze dla IMPERATORSKIEY publiczney Biblioteki i ieden dla IMPERATORSKIEY Akademii nauk. Połock, d. 30 Grudnia 1819 roku.*

X. Franciszek Dzierożyński. S. J.
Członek Komitetu Cenzury.

OMYŁKI w TYM NUMERZE

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Stronica | 1. | wiersz | 5. | ih-popraw | ich. |
| – – | – | – – | 16. | rewelucyi | – – rewolucyi |
| – – | 6. | – – | 3. | rozsądku | – – rozsądku |
| – – | 9. | – – | 8. | ukazoło | – – ukazało |
| – – | – | – – | 15. | zokręty | – – zakręty. |
| – – | 17. | – – | 4. | nauk | – – nauk. |
| – – | 22 | – – | 1. | Bayl | – – Bayle. |
| – – | | (2) | | d' entru | – – d' entrep- |
| – – | 61. | – – | 26. | wielka | – – wielka |

MIESIĘCZNIK

POŁOCKI.

N^er^ II.

*d. 29 Lutego 1820 roku.*

Quid verum atque decens curo & rogo, & omnis in hoc sum. *Hor. I. Ep. 1. v. 11.*

*Полацкі месячнік № 2. Люты 1820 г.*

змешчаны верш на беларускай мове «Скажы, вяльможны пане...» мінчука Ігната Легатовіча, быў канфіскаваны.

З 1838 г. Віленскае, Віцебскае, Гродзенскае, Магілёўскае, Мінскае губернскія праўленні пачалі выдаваць афіцыйныя газеты — ***«Губернские ведомости»*** («Губернскія ведамасці») на рускай мове, якія змяшчалі пастановы, распараджэнні, аб'явы, звесткі цэнтральных і мясцовых улад — у афіцыйнай частцы; мастацкія творы, фальклор, краязнаўчыя даследаванні, інфармацыю аб культурным жыцці — у неафіцыйнай.

Першай весткай ажыўлення літаратурнага руху ў 1840-я гг. стала выданне альманаха «Niezabudka» (1840—1844), арганізаванага ў Санкт-Пецярбургу Я. Баршчэўскім[199], які ўзначальваў у сталіцы гурток беларуска-польскіх пісьменнікаў. Выйшла 5 тамоў. У 1841—1851 гг. у Вільні з'яўляецца часопіс «Athenaeum», рэдактарам якога быў вядомы пісьменнік Ю.І. Крашэўскі. Затым — «Rubon» (1842—1849). Гэтыя выданні адыгралі пэўную ролю ў вывучэнні гісторыі, фальклору і этнаграфіі паўночна-ўсходняй Беларусі, змяшчалі літаратурныя і публіцыстычныя творы беларускіх і польскіх пісьменнікаў. Разам з пецярбургскімі альманахамі Р. Падбярэскага «Rocznik Literacki» (1843—1849) і «Pamiętnik Naukowo-Literacki» (1849—1850) названыя выданні аказалі моцны ўплыў на фарміраванне грамадскай думкі.

У 1844—1846 гг. у Гродзенскай губернскай друкарні выходзіў літаратурна-гістарычны і медыцынскі часопіс ліберальна-асветніцкага кірунку «Ondyna druskienickich źródeł…» (поўная назва перакладалася так: «Ундзіна Друскеніцкіх крыніц. Зборнік для здаровых і хворых у часе чатырохмесячнага побыту ля мінеральных водаў»). Выдаваў часопіс уласным коштам Ксаверый Вольфганг на польскай мове адзін раз у месяц, у час курортнага сезона. Вядомы 24 нумары. Часопіс меў раздзелы медыцынскі, гістарычны, літаратурны і «Ro-



*Першае фота Мінска ў часопісе «Фатаграфічная ілюстрацыя». № 8—9. Жнівень — верасень 1863 г.*

zmaitosci». Тут быў надрукаваны «Спіс за жнівень і верасень 1863 г. Апошні здвоены нумар (па фінансавых прычынах часопіс больш не выходзіў) быў цалкам «беларускі» — змяшчаў краязнаўчыя артыкулы пра Мінск, Смаленск і Яблачынскі манастыр. Уклееныя ў яго ілюстрацыі — фатаграфічныя здымкі Мінска і Смаленска — зараз з'яўляюцца найбольш старымі апублікаванымі фатаграфіямі гэтых гарадоў.

Галоўнымі выданнямі, вакол якіх групаваліся культурныя сілы краю, быў часопіс «Teka Wileńska» (1857—1858), а ў пачатку 1860-х гг.— газета «Kurjer Wileński», рэдактарам і выдаўцом якіх з'яўляўся А. Кіркор. Ён прыцягнуў да супрацоўніцтва вядомых вучоных, публіцыстаў, літаратараў, якія жылі ў Вільні[200]. Выданні садзейнічалі ажыўленню грамадска-культурнага руху ў краі, а рэдакцыя выданняў стала сапраўдным цэнтрам культурнай думкі Беларусі і Літвы.

Некаторыя праекты мясцовай інтэлігенцыі па стварэнні беларускіх перыядычных выданняў у гэты час не былі ажыццёўлены, напрыклад, часопіс «Вязанка» з удзелам У. Сыракомлі, С. Манюшкі, В. Дуніна-Марцінкевіча і інш. (у Вільні), часопіс «Белорусский вестник» (планаваўся ў Магілёве), штотыднёвая газета «Будильник» (у Віцебску)[201].

У 1860-я гг. у сувязі з узмацненнем нацыянальна-вызваленчага руху ў краі з'явіліся нелегальныя перыядычныя выданні, якія друкаваліся лацінкай. У Беластоку ў падпольнай друкарні Браніслава Шварцэ А. Белакозам і І. Грынявіцкім у 1861—1862 гг. выдавалася ***«Hutorka dwóch susiedoû»***. Адметнай рысай гэтай перыядычнай беларускай лістоўкі з'яўляецца тое, што яе змест падаваўся ў вершаванай форме. Асноўнымі тэмамі былі сялян-

скае жыццё, прычыны цяжкага, прыгнечанага становішча працоўнага чалавека, крытыка параформеннай палітыкі царскага ўрада. Газета адкрывала шлях распаўсюджанню дэмакратычнага друку і рэвалюцыйных ідэй.

Блізкай да «Гутаркі» была «***Mužyckaja praûda***» (1862—1863), якую выдавалі Кастусь Каліноўскі, Валерый Урублеўскі і Фелікс Ражанскі. На старонках гэтай нумараванай лістоўкі (часам беларускія даследчыкі называюць яе газетай) гучалі ідэі свабоды, аб'яднання сялянскіх мас у барацьбе з панствам і царызмам, злучэння беларускіх і літоўскіх зямель у суверэнную самастойную дзяржаву. Выйшла 7 нумароў «Мужыцкай праўды»: 6 — у 1862 г. і 1 — у 1863 г. К. Каліноўскі падпісваў лістоўку псеўданімам «Яська, гаспадар з-пад Вільні». Друкавалася «Мужыцкая праўда» на Гродзеншчыне ў некалькіх друкарнях, распаўсюджвалася нават у самых аддаленых кутках Беларусі, Літвы, Латвіі. Адначасова выходзілі дзве падпольныя газеты паўстанцаў на польскай мове, сугучныя паводле стылю і тэматыкі з «Мужыцкай праўдай»: «Chorągew Swobody» («Харугва свабоды», 1863 г.) і «Głos z Litwy» («Голас з Літвы», 1864 г.). Першую выдаваў у Вільні Літоўскі рэвалюцыйны камітэт, а другая друкавалася ў Кёнігсбергу па ініцыятыве К. Каліноўскага як неафіцыйны орган віленскага паўстанцкага цэнтра[202].

Рэвалюцыйныя ідэі К. Каліноўскага падхапілі беларускія народнікі. Паводле архіўных матэрыялаў вядома, што ў 1870—1874 гг. актыўнай рэвалюцыйнай дзейнасцю ў Беларусі займалася каля 500 народнікаў. Адной з асноўных задач народніцкіх гурткоў, якія ўзніклі ў Вільні, Віцебску, Гродне, Мінску, Магілёве і інш., было распаўсюджанне рэвалюцыйнай літаратуры. Акрамя таго кожная арганізацыя імкнулася стварыць уласныя друкаваныя органы, выдаваць лістоўкі, пракламацыі, заклікі і звароты. У 1870—1880-я гг. створаныя народніцкія падпольныя арганізацыі пачалі нелегальны друк сваіх выданняў: газет «Земля и воля», «Народная воля», «Чёрный передел». Перамяшчэнне арганізацыйнага цэнтра адной з народніцкіх груп — «Чорны перадзел» — у Мінск пасля правалу друкарні ў Пецярбургу садзейнічала выхаду ў 1881 г. наступных трох нумароў газеты «Чёрный передел», чатырох нумароў рабочай газеты «Зерно» (на рускай мове). Мінскі нумар (№ 3) «Чорнага перадзелу», які выйшаў 21 мая 1881 г. пад рэдакцыяй А. П. Буланава (рэдактара падпольнага выдавецтва) на 16 старонках, пачынаўся з артыкула Г. В. Пляханава «Заява былых выдаўцоў»: «У сучасны момант, як і паўтары гады таму, мы мяркуем, што задача «Чорнага перадзела» заключаецца ў вызначэнні задач партыі ў народзе, у агітацыі на глебе патрабаванняў народа, якія ўвасоблены ў лозунгу «Зямля і воля», і ва ўнясенні ў народны пратэст ідэй сучаснага сацыялізму». Матэрыялы для выдання рыхтаваліся ў Пецярбургу, а потым перапраўляліся ў Мінск. Наступныя нумары выйшлі 19 верасня (№ 4) і 21 снежня (№ 5) 1881 г. Выданне газеты ў Мінску адыграла значную ролю ў развіцці рэвалюцыйнай свядомасці беларускіх народнікаў, актывізавала агітацыйна-прапагандысцкую работу. Важным сведчаннем рэвалюцыйнай дзейнасці чорнаперадзельцаў з'яўляецца і выданне ў Мінскай падпольнай друкарні рабочай газеты-лістка «Зерно». Першы нумар выйшаў у снежні 1880 г. за мяжой, наступныя пяць — у Расіі, у тым ліку чатыры апошнія ў 1881 г. (№ 3, 4, 5, 6) — у Мінску. Выходзіла на 6—8 старонках.


ФОТОГРАФИЧЕСКАЯ ИЛЛЮСТРАЦІЯ

ХУДОЖЕСТВЕННО-ЛИТЕРАТУРНЫЙ

ЖУРНАЛЪ,

издаваемый

П. АРХАНГЕЛЬСКИМЪ.

1863.

АВГУСТЪ И СЕНТЯБРЬ. ТЕТРАДЬ ВОСЬМАЯ И ДЕВЯТАЯ.

ГОДЪ ПЕРВЫЙ.

МИНСКЪ.

Въ Губернской Типографіи.

*Тытульны ліст часопіса «Фатаграфічная ілюстрацыя». № 8—9. Жнівень — верасень 1863 г.*



Mateusz. Oj nie tak moj-ty susiedzie
Niemdziesiat let tomu budzie
Jak Polak, usiemu narodu
Chocieu było dać swobodu.
A moskal jak to doczuusie,
Zaraz z niemcom zhoworyusie,
Dej na Polaka napali,
I wsiu ziemlu odebrali.
Kab ludziej nie nauczyli,
I wolnymi niezrobili.
Bo nie byłob z koho draci,
I w rekruty koho braci.
A ciepier jak biedu czuje,
To i wolność dekleruje.

Józef. O ciepier to wsięko znaju,
I szto BOGA prosię maju
Prosić budu kab BOG miły,
Prohnać moskalou dau siły;
Kab bolsz Kryżou nie łamali
Nas w niewoli nie trymali.
Bo nigdy dobra nie budzie,
Póki moskal rądzió budzie.

HUTORKA

DWÓCH SUSIEDOŬ.

Józef. Niechaj będzie pochwalony
JEZUS CHRYSTUS! Jak się macie,
Czy zdorowy wsięki w chacie,
I szto czuwać z waszej strony?

Mateusz. Oj zdorowy, wsięki żywy,
Da spytajcie czy szczastliwy!...

*Перыядычнае выданне «Гутарка двух суседаў». 1861—1862 гг.*

Значную ролю ў арганізацыі выдання адыграў А. П. Буланаў, які пасля эміграцыі Г. В. Пляханава заставаўся фактычным кіраўніком чорнапераздзельцаў. У кожным нумары газеты змяшчаліся перадавіца, раздзел «Рускае жыццё», у тры апошнія ўключана апавяданне «За каго цар?» Рэдакцыя заклікала: «Спрабуйце ўсяляк пашыраць рабочы рух. Распаўсюджвайце рэвалюцыйную літаратуру. Чытайце і тлумачце тым таварышам, якія яшчэ не дасягнулі правільнага разумення ўсёй няпраўды сучаснага дзяржаўнага ўкладу і не маюць уяўлення аб новых разумных пачатках сацыялістычнага грамадства»[203].

Акрамя Вільні беларускія народнікі спрабавалі наладзіць выпуск друкаванай прадукцыі і ў Рызе, Віцебску. Аднак больш паспяховай стала выдавецкая дзейнасць у Пецярбургу, дзе ў 1881 г. было арганізавана беларускае зямляцтва, вядомае пад назвай «Гоман», якое ўзначаліў студэнт з Віцебска А. І. Марчанка. У 1884 г. яно выдавала на рускай мове часопіс «Гомон» (выйшла 2 нумары), які стаў наступным крокам у справе тэарэтычнага абгрунтавання праграмы барацьбы з царызмам за права стварэння самастойнай дзяржавы, дэкларавала развіццё нацыянальнай культуры і мовы ў саюзе з усімі народамі Расіі на аснове прынцыпу федэралізму. Друкаваўся «Гомон» на гектографе. Першы нумар меў 29 старонак, другі — 50. Хоць часопіс быў рускамоўным, аднак па сваім змесце заставаўся беларускім і зрабіў значны ўклад у развіццё рэвалюцыйнага друку[204].

У 1886—1902 гг. у Мінску выходзіла першая ў Беларусі легальная прыватная грамадска-палітычная газета «Минский листок». Выдавец — мінскі натарыус І. П. Фацінскі. Газета аб'ядноўвала шырокія колы прагрэсіўнай інтэлігенцыі, у яе ўваходзілі М. Доўнар-Запольскі, А. І. Слупскі і інш. Друкавала артыкулы філасофскага і сацыяльна-палітычнага зместу, працы па гісторыі, этнаграфіі, мастацтве, прыродазнаўстве, тэхніцы, фельетоны, агляды перыядычнага друку, творы мастацкай літаратуры і шматлікія карэспандэнцыі з месцаў. У 1889 г. у «Мінскім лістку» ўпершыню былі апублікаваны паэма «Тарас на Парнасе», верш Я. Лучыны на беларускай мове «Вясновай парой»; у 1890 г. — пераклад Я. Лучыны на беларускую мову верша У. Сыракомлі «Ямшчык».

N 1.

MUŻYCKAJA PRAUDA.

Dzieciuki!

Minało uże toje, kali zdawało sia usim, szto mużyckaja ruka zdasce tolko da sachi.—ciepier nastau taki czas, szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Bob na niebi. O, zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa swieci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolko karmić swaim chlebom, no jeszcze i uczyć swajej mużyckoj praudy.

Pytali i pytajuć usie, szto czuwaci na swieci chto nam biedym mużykam dašć wolność? No praudu skazauszy mało chto chocze skazaci tak jak sumlenie każe—pa sprawiedliwości. My mużyki, braty waszyje, my wam budziem hawaryć całuju praudu, tolko słuchajcie nas!

Maskali, czynouniki i mnoho panou, buduć pierepyniać pismo nasze da was; no najduć sia ludzie i z mużykou razumniejszyje i z panskaho rodu i z miasteczkowych, szto chocząć waszej swabody, waszaho szczaścia.—jony to wam sami heto pismo dawaci buduć, kab wy znali chto wasz pryjaciel, a chto wasz woroch.

Sześć let uże minuło, jak paczali hawaryć a swabodzie mużyckoj. Hawaryli, tałkawali i pisali mnoho, a niczoho nie zrabili. A hety manifest szto Car z Senatom i z panami dla nas napisau, to taki durny, szto czort wiedaje da czeho jon padobny.—nijakoj u nioin niema praudy, niema z jeho dla nas nijakoj karyści. Parabili Kancelaryi, zrabili sud, jakby heto nie usio rouno brać u sraku czy z sudom, czy bez suda. Parabili Pisarou, Pasrednikou, a usio za mużyckije hroszy i wielikije hroszy—czort ich wiedaje na szto; dla toho, chyba, kab zapisywali u księżki, jak mnoho napaszuć na sprakach mużyckich. A z hetaho to i widać, szto nam niczoho dobraho i nie dumali zrabici.

Prauda, abieszczali to kaliś dać nam wolność: no jak nam zdajeć sia na nasz mużycki rozum, szto choczuć aszukaci, bo kali prez sześć let niczoho nie zrabili, to czerez rok peunie nie zrobiać. Mohuć jeszcze napisaci i druhi manifest, jeszcze bolszy ad hetaho, no i z hetaho druhoho manifestu niczoho dobraho jak i z pierszaho nie budzie.

Ad maskala i panou nie ma czeho spadziewaci sia; bo jony nie wolności a błumu i zdzierstwa naszeho choczuć. No nie douho jony nas buduć abdziraci, bo my paznali hdzie siła i prauda i budziem wiedać jak rabić treba kab dastać ziemlu i swabodu. Waźmiem sia Dzieciuki za ruki i dziarżem sia razom! a kali pany schoczuć trymać z nami, tak niechaj że robiać pa świętej sprawiedliwości: bo kali inaczej—tak czort ich pabiery! Mużyk pakul zdużaje trymaci kosu i sakieru, baranić swabo patrapić i u nikoho łaski prasić nie budzie.

Hetu Mużyckuju Praudu napisau i znou pisaci budzie Jaśko haspadar z pad Wilni

Kasztuje hroszy 5



*Выданне К. Каліноўскага «Мужыцкая праўда». 1862—1863 гг.*

У канцы XIX ст. у Паўночна-Заходнім краі выдаваліся 14 газет, з якіх 3 прыватныя. Свае выданні на тэрыторыі Беларусі вельмі актыўна пашыралі пецярбургскія, маскоўскія і варшаўскія газетна-выдавецкія манаполіі А. Суворына, І. Сыціна, А. Маркса і інш.

Сярод віленскай і мінскай газетнай прадукцыі ёсць цэлы пласт газет, па-свойму вельмі выразных. Гэта аднадзёнкі — газеты, што выходзілі неперыядычна, коштам ад 5 да 15 капеек. Большасць з іх гумарыстычна-сатырычныя. Назвы самыя розныя: «Жанчына» (15 чэрвеня 1908 г.), «Кукарэку» (лістапад 1912 г.), «Kukułka» (15 мая 1908 г.), «Bicze» (лістапад 1909 г.), «Бубен» (14 лістапада 1910 г.), «Hega» (чэрвень 1911 г.), «Bicze z piasku» (кастрычнік 1909 г.). Усе газеты выходзілі ў Вільні, для адной — «Dziecko» — пазначана месца Вільня — Мінск (друкавалася ў Марціна Кухты, вул. Дварцова, 1.). Склад галоўны кнігарні В. Макоўскага. Аддадзёнка ўкладзеная праз ego sum (Karol Kuprel—Pietkiewicz).

У газеце «Бічы з пяску» ёсць раздзел «Хроніка выпадкаў будучыні» — гэта паведамленні, зробленыя ў традыцыі крымінальнай хронікі, пад рубрыкамі «Няшчасны выпадак», «На глебе рамантызму», «Нападзенне», «Дробны крадзёж» і інш. І сёння, праз 100 гадоў пасля выхаду газеты, мы цешымся футурыстычнымі жартамі:

*Неасцярожны палёт.* Учора нейкі авіятар на вышыні каля 1400 метраў, летучы з шалёнай хуткасцю, зачапіў сваім аэрапланам 80-гадовую С. Няшчасная бабулька была вытрасена з сядзення і абрынулася на зямлю. Выкліканая хуткая дапамога канстатавала смерць.

*Самазабойства.* Некалькі дзён таму мы паведамлялі аб прапаўшым без весці маладым чалавеку Д. Учора агенты нашай лётнай паліцыі выкрылі паблізу паўночнага полюса парэшткі памерлага Д. Пры ім ляжаў ліст наступнага зместу: «Пастанавіў памерці. Прашу нікога не лічыць вінаватым у маёй смерці».

*Дробныя крадзяжы.* Нядаўна з даху дома Е. скрадзены пакінуты без дагляду ўласніка аэраплан. — Учора ноччу скрадзены два аэрапланы ў пана Ф.

У сістэме перыядычнага друку Беларусі 2-й паловы XIX ст. значнае месца займаюць афіцыйныя дзяржаўна-рэлігійныя выданні рускай праваслаўнай царквы. Адным з іх

*→ Газета «Мінскі лісток». 6 студзеня 1887 г.*

з'яўляліся ***«Епархиальные ведомости»***. Старэйшай і найбольш вядомай сярод царкоўных газет былі «Литовские епархиальные ведомости», створаныя з дазволу Сввяшчэннага Сінода (выходзілі з 1863 па 1916 г. у Вільні як выданне Літоўскай праваслаўнай духоўнай кансісторыі). Выпускаліся таксама ў Мінску — «Минские епархиальные ведомости» (1869—1917), Віцебску — «Полоцкие епархиальные ведомости» (1874—1916), Магілёве — «Могилевские епархиальные ведомости» (1883—1917), Гродне — «Гродненские епархиальные ведомости» (1901—1915). Ведамасці мелі выгляд кнігі, выходзілі два разы на месяц на рускай мове. Кожны нумар утрымліваў больш за 30 старонак, парадкавая нумарацыя якіх захоўвалася на працягу кожнага года. Некаторыя рэдакцыі (у Мінску, Магілёве) мелі свае друкарні[205].

Складаліся «Епархиальные ведомости» з дзвюх частак — афіцыйнай і неафіцыйнай. Афіцыйная частка змяшчала паведамленні аб жыцці царскай сям'і, урадавыя распараджэнні і пастановы вышэйшай царкоўнай улады.У другой частцы акрамя матэрыялаў рэлігійнага характару друкаваліся артыкулы па гісторыі царквы ў Беларусі, краязнаўстве, этнаграфіі, археалогіі. Асноўнай задачай выданняў была падтрымка царскай улады ў яе дзяржаўнай палітыцы — русіфікацыі мясцовага насельніцтва. «Вымушаная лічыцца ў сваёй місіянерскай дзейнасці з палітычнымі і дзяржаўнымі патрабаваннямі, царква апынулася ў складаным становішчы ў адносінах да іншых хрысціянскіх веравызнанняў…»[206].

У пачатку XX ст. колькасць перыядычных выданняў у Беларусі павялічваецца (на мяжы 1905—1906 гг. на тэрыторыі 5 губерняў выходзіла 75 перыядычных выданняў)[207]. У многіх губернях і павятовых цэнтрах сталі з'яўляцца газеты розных палітычных кірункаў, якія друкаваліся ў асноўным на рускай мове: у Вільні — «Северо-Западное слово» (1898—1905), «Северо-Западный голос» (1905—1915), «Белорусская жизнь» (1909—1911); у Мінску — «Белорусский вестник» (1904—1905), «Голос провинции» (1906—1907), «Жизнь провинции» (1907), «Минское слово» (1906—1912), «Минское эхо» (1908—1909), «Минский голос» (1909—1918), «Минская газета-копейка» (1912—1915)[208].

Найбольш паспяховае развіццё меў сацыял-дэмакратычны, бальшавіцкі друк. На тэрыторыі Беларусі былі створаны і дзейнічалі два бальшавіцкія прапагандысцкія і выдавецкія цэнтры — Паўночна-Заходняга (у Мінску) і Палескага (у Гомелі) камітэтаў РСДРП, якія больш чым у 10 падпольных друкарнях выдавалі некаторыя свае перыядычныя выданні — «Минский летучий листок» (Мінск, 1906), «Солдатская воля» (Гродна, 1906). Некаторыя выданні выходзілі легальна — «Труд» (Гомель, 1905—1906), «Голос Белоруссии» (Мінск, 1906).

Кароткачасовы тэрмін дзейнасці шэрагу новастворанных грамадска-палітычных і літаратурных перыядычных выданняў дэмакратычнага кірунку — характэрная рыса таго часу. Такія газеты, як «Голос провинции», «Жизнь провинции», «Окраина» (Мінск, 1906 г.) і інш., з-за сваёй крытычнай і рэвалюцыйнай пазіцыі былі закрыты.

Найбольш рэакцыйнай пазіцыяй вылучаліся газеты «Минское русское слово», «Минский голос», «Минское слово», «Витебское церковно-общественное слово» і інш. Адначасова афіцыйныя перыядычныя выданні звярталіся да чытача з ліберальных пазіцый.

У гэты час кіраўнікі Беларускай сацыялістычнай грамады прымаюць рашэнне аб стварэнні ўласнай нацыянальнай газеты. Галоўнае ўпраўленне па справах друку дае дазвол на выданне газеты на беларускай мове. 1 верасня 1906 г. у Вільні выйшаў першы нумар легальнай беларускамоўнай газеты ***«Наша Доля»*** («Nasza Dolia»). Канфлікт з мясцовай палітыкай прывёў да рэпрэсій газеты, і яна была закрыта на шостым нумары, заняўшы сваё месца ў гісторыі беларускага друку як першая беларуская грамадска-палітычная газета. 10 лістапада 1906 г. у Вільні выйшла наступная легальная беларускамоўная газета ***«Наша Ніва»*** («Nasza Niwa»), якая выдавалася да 7 жніўня 1915 г. і мела асабліва важнае значэнне для развіцця беларускага нацыянальнага руху, стаўшы яго цэнтрам. У склад рэдакцыі газеты ўваходзілі А. Уласаў, А. і І. Луцкевічы, В. Ластоўскі, Я. Драздовіч, Я. Купала, Я. Манькоўскі, С. Палуян, Ядвігін Ш. і інш. Газета вяла барацьбу за беларускую нацыянальную ідэю, нацыянальнае і дзяржаўнае самавызначэнне, свабоду, займалася папулярызацыяй беларускай культуры, выступала за адкрыццё школ на роднай мове, змяшчала пераклады рускіх, украінскіх і польскіх пісьменнікаў, іншыя творы сусветнай літаратуры. З дзейнасцю «Нашай Нівы» звязана і ажыўленне беларускага кнігадрукавання.

«Наша Ніва» стала асяродкам нацыянальна-дэмакратычнай свядомасці, на падставе якой фарміруецца літаральна новая філасофія

# РАМАНТЫЧНЫ КУЛЬТ ЛІТВЫ: МАСТАЦТВА АФАРМЛЕННЯ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ XIX — ПАЧАТКУ XX СТ.

Рост сацыяльнай запатрабаванасці друкаванай кнігі разам з удасканаленнем тэхнікі яе друку адкрылі новыя магчымасці і ў фарміраванні мастацкага вобліку кніжных выданняў Беларусі XIX — пачатку XX ст., пераўтвараючы іх з прадукта мастацкага рамяства ў прадукт вытворчасці. Безумоўна, старадрукаваная кніга Беларусі папярэдняга XVIII ст., дзякуючы выкарыстанню тэхнікі металагравюры ў ілюстрацыях, гравюрах-тэзісах, або так званых «канклюзіях», стварыла свой арыгінальны, стрымана лаканічны вобраз[234]. Аднак, менавіта з XIX ст. праяўляецца новая арыентацыя кніжнай справы, накіраваная на чытача, спажыўца кнігі, што відавочна змяняла яе мастацкі твар і сацыяльную функцыю[235]. Увядзенне ж літаграфічнага спосабу друку на пачатку XIX ст. у значнай ступені паспрыяла ажыўленню выяўленчага мастацтва, асабліва кніжнай графікі, у якой большую актуальнасць набылі гравюры і літаграфіі. Металагравюра і ксілаграфія разам з літаграфіяй заклалі ў 1-й палове XIX ст. мастацкія традыцыі нацыянальнай друкаванай графікі[236].

Першынство ў распаўсюджанні літаграфіі ў Беларусі належыць Віленскаму універсітэту, дзе ў 1819 г. была заснавана першая літаграфія, у якой ілюстрацыі да навуковых і вучэбных выданняў выконвалі шэраг прадстаўнікоў мясцовай мастацкай школы (І. Вейс, В. Славецкі, Х. Главацкі, М. Пшыбыльскі, Ю. Азямблоўскі і інш.). Значным мастацка-прафесійным асяродкам была і Полацкая езуіцкая акадэмія, а яе друкарня з'ўлялася адным з буйнейшых паліграфічных прадпрыемстваў канца XVIII — пачатку XIX ст., дзе з 1820 г. таксама прымяняўся літаграфічны друк. У афармленні выданняў друкарні прымаў удзел выкладчык акадэміі, мастак Габрыэль Грубер. Асновы ведаў у галіне мастацтва ў Полацку атрымалі Валенцій Ваньковіч, Рафал Слізень, Каспар Бароўскі і інш.

Высокай эстэтычнай культурай вызначаецца выдадзеная ў Вільні коштам і друкам А. Марціноўскага кніга Станіслава Парчэўскага «Казанне над труной яснавяльможнага Станіслава Сестранцэвіча-Богуша, мітрапаліта рыма-каталіцкіх касцёлаў у Расіі, архіепіскапа Магілёўскага etc. 15 снежня 1826 года ў новапастаўленым парафіяльным касцёле ў Пецярбургу, на Каломне, пераклад з французскай, прыпісамі павялічаны». На франціспісе гэтага выдання змешчаны гравіраваны Хшчановічам партрэт С. Богуш-Сестранцэвіча, а ў канцы кнігі — гравюры з відамі пабудаваных славутым архіепіскапам-беларусам касцёлаў св. Станіслава ў Пецярбургу і Малятычах.

Асабліва вылучаліся мясцовыя мастакі-графікі распрацоўкай гістарычнай тэматыкі, ствараючы сімвалічныя вобразы ВКЛ, яго слынных герояў, велічных далягляд аў. Адметнай у гэтых адносінах з'яўляецца дзейнасць Міхала Падалінскага, аднаго з пачынальнікаў прафесійнай графікі Беларусі, медзярытамі якога былі «аздоблены многія віленскія выданні»[237] А. Мачульскага, В. Марцынскага, Я. Альбертрана, Я. Няймовіча. Талент М. Падалінскага як кніжнага графіка праявіўся ў шматлікіх жанравых ілюстрацыях, партрэтах і віньетках да літаратурных твораў. Прыклады элементаў кніжнага аздаблення, выкананыя мастаком, былі ўключаны ў друкаваны каталог гравюр з калекцыі Канстанціна Тышкевіча «Помнікі айчыннага гравёрства», надрукаваны ў Вільні ў 1858 г.

Важкую ролю ў афармленні беларускай кнігі 1-й паловы XIX ст. адыгралі і прыватныя літаграфічныя прадпрыемствы. У Вільні гэта літаграфіі М. Пшыбыльскага (дзейнічала ў 1832—1840-я гг.), Ю. Азямблоўскага (1833—1863), А. Клукоўскага (1834–1852); у Мінску — Ф. Фалька (1845—1859), Э. Адамовіча (1855—1874).

Асабліва вызначылася сваёй дзейнасцю літаграфія мастака-графіка, ураджэнца Мінска Юзафа Азямблоўскага, у якой было надрукавана да 600 літаграфій на рэлігійную і гістарычную тэматыку, партрэты і краявіды. Такія віленскія выданні, як «Зубр літоўскі» (1829), «З'яўленне крыжа ў Францыі 17 снежня 1826» (1830) былі праілюстраваны Ю. Азямблоўскім. Вядома, што ён выканаў ілюстрацыі да мастацкіх твораў Ю. Крашэўскага, Т. Нарбута, Ф. Бохвіца[238]. Літограф і мастак М. Пшыбыльскі за выданне альбома вучэбна-метадычных матэрыялаў з 26 літаграфіямі «Узоры для пачаткоўцаў, якія вучацца рысаванню» (1830) атрымаў узнагароду Віленскага універсітэта. У літаграфіі А. Клукоўскага друкаваліся ілюстрацыі да кніг Ю. Каржанеўскага, К. Тызенгаўза і інш.[239]

З адкрыццём у 1845 г. літаграфіі Ф. Фалька ў Мінску таксама з'ўляюцца ілюстраваныя гравюрамі выданні. Адным з першых

*Тытульны ліст і старонкі з кнігі С. Парчэўскага «Казанне над труной яснавяльможнага Станіслава Сестранцэвіча-Богуша...». Вільня, 1827 г.*



✝ Stanislaus Archiepiscopus

MOWA,
MIANA NAD GROBEM
JAŚNIE WIELMOŻNEGO
STANISŁAWA
SIESTRZEŃCEWICZA BOHUSZA,
METROPOLITY KOSCIOŁOW RZYMSKO-KATOLICKICH W ROSSYI, ARCY-BISKUPA MOHILEWSKIEGO etc.
15 DECEMBRA 1826 ROKU,
PRZEZ
STANISŁAWA
PARCZEWSKIEGO,
DOKTORA TEOLOGII,
W KOŚCIELE PARAFIALNYM, NOWO USTANOWIONYM W PETERSBURGU, NA KOŁOMNIE,
PRZEKŁAD Z FRANCUZKIEGO W PRZYPISACH POMNOŻONY.

*Stat magni nominis umbra.* Lucan I. 132.

w WILNIE.
NAKŁADEM I DRUKIEM A. MARCINOWSKIEGO.
1827.



*Kościoł zbudowany i poświęcony przez s.p. Metropolitew Malatyczach 29 Czer. 1791.*




*Картуш карты Мінскай губерні 1848 г. Літаграфія Ф. Фалька.*

стала «Карта Мінскай губерні» (1848), якая прынесла яе выдаўцу шырокую вядомасць. Павысіла аўтарытэт літаграфіі Ф. Фалька і «Абэцадла з гравюрамі» (азбука), — выданне, якое друкавалася на польскай, нямецкай і рускай мовах у 1852, 1854, 1856 і 1858 гг. «Таму, — як адзначаў У. Сыракомля, — мы з добрым намерам рэкамендавалі віленскім выдаўцам звяртацца да пана Фалька з рознымі патрэбамі»[240]. Нездарма і тое, што ў адным з мінскіх выданняў пісьменніка «Стэла Фарнарына» (1859) была рэклама азбукі Ф. Фалька, кошт якой без каляровых малюнкаў складаў 45 капеек і з каляровымі — 60. І гэта ўсё ў той час, калі нават віленскія выдаўцы замаўлялі каляровыя ілюстрацыі ў Францыі і Германіі.

Вызначылася літаграфія і ўдзелам у афармленні «Гапона» В. Дуніна-Марцінкевіча (Мінск, 1855 г.), да якога мінчук Карнелій Бжэскі (яго імя раскрыў Г. Кісялёў) зрабіў 4 малюнкі, адпаведныя чатыром песнямчасткам паэмы — «скокі ў карчме, бойка, сцэна прыёму рэкрутаў і, урэшце, — высакародная гуманная пані бласлаўляе шчаслівую пару — Гапона і Кацярыну. ... У малюнках адчуваецца ўплыў тагачаснага народнага лубка, свядомая арыентацыя на пэўныя ўзоры, а можа, нават, і недахоп прафесіяналізму[241]». Аднак ілюстрацыі да «Гапона», выкананыя ў тэхніцы медзярыту невядомым гравёрам Э.С., не апраўдалі давер мясцовай інтэлігенцыі да літаграфіі Ф. Фалька. «Добры малюнак сцэны скрэслены нейкімі штрыхамі, якія зрабілі агіднымі твары постацей; як нядбала выглядаюць рукі, як паламаны ногі! Нейкую карыкатуру ўяўляе сцэна набору! Чаму такая пачварная постаць пані ў апошняй сцэне? Рабіць прыгожыя рэчы, якія разыходзяцца ў межах аднаго горада, і выступаць з няўдалымі ілюстрацыямі ў кніжцы, якая разыдзецца ўсяму краю, — гэта вялікае расчараванне для выдаўцоў, абраза для мастакоў і абыякавасць да грамадскасці. Для карысці будучых выданняў, якія, вядома, з'явяцца ў Мінску, выказваем свае заўвагі літаграфіі пана Фалька, тым болей, што ён мог даручаную справу выканаць лепей»[242].

Літаграфічныя працы для кніжных выданняў у Мінску выконваў таксама і Эмерык Адамовіч, вучань Яна Дамеля, настаўнік малявання мясцовай гімназіі. Яго прадпрыемству пад сілу было выкананне высакаякасных цынкаграфічных і хромалітаграфічных прац. На нашу думку, Э. Адамовіч мог выступаць не толькі як тыпограф, але і як мастак-афарміцель такіх выданняў, як «Узоры каліграфічныя» (1860) і «Лемантар насценны» (1862), якія выйшлі ў яго друкалітаграфіі. Вядома, што літаграфія Э. Адамовіча найбольш займалася вырабам этыкетак, а друкарня — глобусамі (на польскай і рускай мовах), малюнкамі для дарослых і дзяцей. Уласнаручную прадукцыю Э. Адамовіча, у прыватнасці, глобусы, можна было набыць у мясцовых кнігарнях коштам ад 60 капеек да 16 рублёў. Вызначылася літаграфія Э.Адамовіча, у першую чаргу, якасцю афармлення нотных выданняў, якія амаль не адрозніваліся ад мінскіх А. Валіцкага, выкананых у Варшаве (літаграфія У. Ота) ці Лейпцыгу (гравёрня К. Родэра). Асноўнымі элементамі мастацкага аздаблення нотных выданняў былі вокладка і тытул, якія ўпрыгожваліся арнаментаванай рамкай, аўтар якой, у большасці сваёй, застаецца ананімным. Праўда, вядома, напрыклад, што віленскія нотна-музычныя выданні твораў С. Манюшкі аформіў мастак Эдуард Ян Ромер[243].

І ўсё ж асноўнае месца ілюстрацыя займала ў выданнях мастацкай літаратуры. Так, найбольшай папулярнасцю ў мясцовым, «цэнтральным», друку 1831—1863 гг. карысталіся творы Ю. Крашэўскага (выйшла 58 назваў) і У. Сыракомлі (32 назвы)[244], мастацкім афармленнем якіх займаліся вядомыя віленскія

→
*Ілюстрацыя з кнігі С. Парчэўскага «Казанне над труной яснавяльможнага Станіслава Сестранцэвіча-Богуша...». Вільня, 1827 г.*



METROPOLITANA ECCLESIARUM ROMANO CATHOLICARUM IN JMPERIO ROSSIACO

*Petropoli extructa dolata consecrata 7 Majii Anno 1825. per ✝ Stanislaum Archiepiscopum Mohileviensem na=tum in Litvania 3. Septembris anno 1731.*

*— Może ci nudno?— kukułka mówiła—*
*Może ci chata ojcowska niemiła?*
*I swatów wyglądasz?*
*I kochanka żądasz?—*
*— Może, kukułko,*
*Może, przyjaciółko,*
*Może to!—*





Kiedy ostatnie dośpiewała słowa,
Podniosła oczy, i znowu u źródła
Dumającego Witola ujrzała;
I znowu uciec i wracać myślała.
Sama nie wiedząc, jak poradzić sobie.
Twarz jéj rumieńcem kaliny płonęła,
Stała, a Witol ośmielać ją zaczął.
— O! nie bójże się, Romusso! zejdź śmiało.
Ja i dziś trzodę napoić pomogę.—
Pomimo woli, w milczeniu schodziła,
Nie wiedząc sama dziewczyna, co czyni.
Potém oboje napajali trzodę,
Nie śmiejąc mówić; tylko czasem wzrokiem
Ku sobie strzelą, i znów spuszczą oczy.
Tak gdy się bydło, napiwszy, wróciło,
Poszła i młoda za trzodą Romussa.
Witol, jak wczoraj, nie poszedł w gościnę,
Ale milczący na zamek powrócił.

Nazajutrz on już nie poszedł do źródła,
Lecz we śnie widział znów piękną Romussę,
I z jéj obrazem w głowie się obudził.
Znów więc się zerwał następnego ranka,
Wziął Wiżos, łuk swój przez plecy przerzucił,
I, czarodziejskim urokiem ciągniony,
Biegł ścieżką w puszczę do znanego źródła,
A biegąc, w duszy tak mówił do siebie:
— Czy Milduwniki czarownym napojem




← *Разварот кнігі «Anafielas» («Плач па Вітаўце») Ю. Крашэўскага. Вільня, 1846 г.*

*Тытульны ліст кнігі «Anafielas» («Плач па Вітаўце») Ю. Крашэўскага. Вільня, 1846 г.*

мастакі беларускага паходжання А. Залескі, У. Маераноўскі, М. Э. Андрыёлі, В. Дмахоўскі і інш. Ступень папулярнасці тых ці іншых твораў мастацкай літаратуры не ў апошнюю чаргу залежала ад мастацтва іх ілюстравання, а таксама ідэйнага адзінства пісьменніка, мастака і выдаўца. Прыкладам такога адзінства можа быць кніга балад «Плач па Вітаўту» Ю. Крашэўскага, для мастацкага аздаблення 2-га выдання якой (1846) віленскі выдавец А. Завадскі спецыяльна запрасіў Вінцэнта Смакоўскага. Для другога выдання была ўзята назва «Anafielas», што значыць «Гара вечнасці». У тэхніцы ксілаграфіі мастак выканаў 50 гравюр, а таксама ініцыялы, канцоўкі і віньеткі. У 9 дрэварытах быў выкарыстаны колер. Вобразы, створаныя В. Смакоўскім у традыцыі класіцызму, не вызначаліся аднак мясцовым каларытам і сувяззю з народнымі традыцыямі старадаўняй Літвы. Затое важкім дапаўненнем мастацкага вобраза гістарычных часоў сталі змешчаныя ў кнізе песні з нотамі (музыку напісаў кампазітар С. Манюшка).

В. Смакоўскі афармляў і іншыя творы Ю. Крашэўскага, а таксама выданні Р. Падбярэскага. Апошні ў 1843—1846 гг. выдаваў у Санкт-Пецярбургу «Рочнік літэрацкі», які ілюстравалі студэнты Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў з Беларусі — К. і Р. Жукоўскія, Б. Русецкі[245]. Дзякуючы намаганням Р. Падбярэскага «Шляхціц Завальня» Я. Баршчэўскага быў аздоблены гравюрамі Р. Жукоўскага, што перадавалі галоўныя сцэны апавядання[246].

Папулярнасць мясцовай мастацкай школы кніжнай графікі вызначалі і асобна друкаваныя літаграфічныя альбомы К. Бахматовіча, М. Кулешы, Н. Орды, якія выходзілі не толькі ў Вільні, але і ў Варшаве, Парыжы. Так, у 1848—1860-х гг. у Парыжы сістэматычна друкаваўся «Віленскі альбом», выдаўцом якога быў Я. К. Вільчынскі, знакаміты ў мастацкім свеце тым, што прыцягваў да сваіх выданняў і такіх мясцовых мастакоў, як І. Хруцкі, К. Русецкі, Я. Дамель, М. Э. Андрыёлі, А. Бартэльс, Б. Залескі, М. Падалінскі, К. Кукевіч і інш. Адметным было змяшчэнне ў «Віленскім альбоме» каляровых рэпрадукцый, тэхніка выканання якіх была яшчэ не досыць распаўсюджанай. Малюнкі з «Віленскага альбома» ўпрыгожвалі пакоі не аднаго дома тутэйшай шляхты[247].

У афармленні кніжных выданняў 1850—1860-х гг. заслугоўваюць увагі сатырычныя ілюстрацыі Артура Бартэльса (у сярэдзіне XIX ст. аднаго з самых папулярных паэтаў і мастакоў у Беларусі), што з'яўляліся ў віленскім і, магчыма, мінскім друку, а таксама Міхаіла Башылава, ураджэнца Магілёўшчыны, — у маскоўскім. У 1858 г. у Вільні выйшаў альбом А. Бартэльса «Чалавек высокага паходжання», якім мастак заангажаваў сабе месца сярод прадвеснікаў новага, надыходзячага крытычнага кірунку ў беларускай графіцы[248]. Што тычыцца М. Башылава, таксама аднаго з лепшых ілюстратараў 1860-х гг., то, як адзначаюць расійскія даследчыкі, з яго пачалася ілюстрацыя камедыі і ўпершыню ў гісторыі рускай кніжнай графікі была дадзена разгорнутая галерэя грыбаедаўскіх тыпаў (у маскоўскім выданні 1862 г. «Гора ад розуму» Грыбаедава змешчаны 24 малюнкі мастака[249]).

# У ПОШУКАХ РЭАЛІСТЫЧНЫХ ВОБРАЗАЎ ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯГА КРАЮ (ДРУГАЯ ПАЛОВА XIX — ПАЧ. XX СТ.)

Фарміраванне вобліку кнігі Беларусі 2-й паловы XIX — пачатку XX ст., што выходзіла ўжо ў асноўным на рускай мове, у значнай ступені заставалася ў залежнасці ад паліграфічных магчымасцей мясцовых друкалітаграфій, якія, паводле С. Александровіча, былі не горшыя, чым у іншых губернскіх і павятовых гарадах Расійскай імперыі[250]. Тагачасныя друкарскія прадпрыемствы імкнуліся да канкурэнтаздольнасці, своечасова набываючы паравыя і электрычныя машыны, машыны хуткадруку і іншае новае абсталяванне. Аднак дзейнасць большасці тыпаграфска-літаграфічных прадпрыемстваў Беларусі, што ўзніклі з сярэдзіны 1860-х гг., была накіравана не на кнігадрукаванне, а на выкананне заказаў прамысловых, гандлёвых, банкаўскіх і іншых устаноў. Заўважым, што выкананне друку ярлыкоў, прэйскурантаў, каштарысаў, канторскіх кніг, бланкаў, этыкетак і да т.п. было справай больш прыбытковай, чым выданне кніг ці часопісаў[251], тым больш ілюстраваных, на якія патрабавалася затраціць значныя матэрыяльныя сродкі. У гэты час найбольшая ўвага надавалася вокладцы, для афармлення якой прымяняліся разнастайныя шрыфты і наборныя рамкі (лінейныя, з падкрэсленымі накутнікамі, арнаментаваныя, раслінныя, геаметрычныя, хвалістыя, стылізаваныя пад кнігу і інш.). Тытульны аркуш звычайна выглядаў больш проста, а зрэдку паўтараў вокладку. У тэксце асноўнымі элементамі афармлення былі ініцыялы, застаўкі, канцоўкі, віньеткі. Ілюстрацыі ў выглядзе малюнкаў ці фатаграфій, асабліва каляровых, выкарыстоўваліся рэдка.

Тым не менш імкненне да пабудовы пэўнай старонкі як адзінага цэлага, што аб'ядноўвала б тэкст і клішэ, атрымлівала ўсё большае распаўсюджанне. Асаблівая ўвага ў гэтым кірунку надавалася афармленню выданняў гістарычна-краязнаўчага характару. Так, па заказу апекуна Віленскай навучальнай акругі Івана Карнілава мясцовыя мастакі і настаўнікі прыступілі да замалёвак помнікаў старажытнасцей. І ўжо ў 1868 г. у Вільні выходзяць такія зборнікі, як «Адметнасці Паўночна-Заходняга краю» і «Помнікі заходнерускай даўніны», у якіх былі змешчаны высокапрафесійныя малюнкі мастакоў І. Трутнева, І. Пятрова і настаўніка Кудраўцава. Праўда, ілюстрацыі, выраблены ў Берліне, а таксама ў Пецярбургскай друкарні А. Траншэля, выконвалі задачу сцвярджэння «правоты русского дела» ў Заходнім краі[252].

Значную цікавасць з пункту гледжання мастацкага афармлення ўяўляе і такое мясцовае выданне, як «Паўночна-Заходні каляндар», два выданні якога ў 1892 і 1893 гг. з'явіліся ў Мінску дзякуючы А. Слупскаму. На вокладцы календара пазначаны аўтар малюнка — А. Харламповіч. Якасць мастацкага аздаблення выдання адзначыў у свой час Р. Зямкевіч: «Каляндар выдадзены вельмі прыгожа: вокладка літаграфаваная з тыпам беларускага селяніна, які злажыўшы рукі і апёршыся на кіёк, курыць люльку і як бы іранічна пазірае на ворагаў яго мовы...»[253]. Гэта выданне, якое акрамя ілюстраванай вокладкі ў тэксце змяшчала застаўкі і ініцыялы, выкананыя (?) Ланавым і І. Гіянам, Р. Зямкевіч называе чыста беларускім паводле зместу і мастацкага ўвасаблення.

Багата ілюстравана была праца «Рака Заходняя Дзвіна: гісторыка-геаграфічны агляд» (Віцебск, 1893 г.) вядомага беларускага гісторыка і краязнаўца Віцебшчыны Аляксея Сапунова, якая атрымала шырокі водгук у тагачасным друку дзякуючы ў тым ліку высакаякасным ілюстрацыям, што адпаведна павялічыла каштоўнасць і цікавасць да яе[254]. У афармленні выдання выкарыстаны чырвоны колер (на тытульным аркушы), вялікая колькасць ксілаграфій і літаграфій відарысаў мясцовасці Віцебшчыны, што былі выкананы па фатаграфічных здымках (у асноўным — інжынера Шэлюты і самога А. Сапунова). Ксілаграфічныя работы зроблены ў Санкт-Пецярбургу гравёрам К. Веерманам у друкарні Е. Еўдакімава, а літаграфічныя — у Віцебску гравёрам Швейцарам у друкарні Г. Малкіна. У выданні змешчаны таксама карты і планы мясцовасці Заходняй Дзвіны, некаторыя з якіх былі запазычаны аўтарам са сваіх ранейшых выданняў. Узорам выдання высокіх эстэтычных вартасцей з'яўляецца друкаваны каталог мастацкай выстаўкі, якая адбылася ў Віцебску ў 1899 г. Кніга мае альбомны фармат, змест складаецца не толькі са спіса прадстаўленых на выстаўцы карцін, але і з мастацтвазнаўчых нарысаў, прысвечаных мастаку Ю. Пэну, калекцыі беларускіх эцюдаў прафесара Клевера і інш.



КОЛЛЕКЦІЯ

БѢЛОРУССКИХЪ ЭТЮДОВЪ

профессора Клевера.

На выставкѣ насчитывается до 180 картинъ и этюдовъ, принадлежащихъ кисти сорока художниковъ. Изъ этого числа, только четверо выставили произведенія, которыя появляются передъ публикой впервые и только что вышли изъ мастерской художниковъ. Эти произведенія составляютъ ядро выставки и, какъ новый вкладъ въ сокровищницу искусства, представляютъ интересъ не только

— 47 —

*Старонка з кнігі «На памяць пра Віцебскую мастацкую выстаўку 1899 г.». Віцебск, 1899 г.*

тэхніцы, ваеннай гісторыі, матэрыялы прыкладнога характару, якія выдаваліся як у дзяржаўных друкарнях, так і ў прыватных друкалітаграфіях.

Неабходна звярнуць таксама ўвагу на афармленне перыёдыкі, у якім прымалі актыўны ўдзел не толькі мясцовыя паліграфічныя прадпрыемствы, але і прафесійныя мастакі. У канцы XIX — пачатку XX ст. беларускія мастакі былі задзейнічаны ў выданні і афармленні некаторых польскіх і расійскіх выданняў, у якіх адлюстроўвалі жыццё і побыт мясцовага насельніцтва. Так, А. Ромер супрацоўнічаў з «Тыгоднікам Віленьскім», «Ілюстраваным Тыгоднікам», варшаўскай «Віслай». М. Мікешын рэдагаваў і выдаваў літаратурна-мастацкі рускі часопіс «Пчала», а таксама ілюстраваў творы М. Гогаля, Т. Шаўчэнкі і інш. У 1898 г. на штогадовым конкурсе часопіса «Ілюстраваны Тыгоднік» першую ўзнагароду за працу «Свіцязь» атрымаў Казімір Альхімовіч, які займаўся ілюстраваннем гераічна-рамантычных твораў Ю. Крашэўскага, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, Ю. Славацкага, Ф. Бернатовіч, Э. Ажэшкі. Пейзажысту Генрыху Вейсенгофу належаць ілюстрацыі да паляўнічых апавяданняў яго брата Юзафа Вейсенгофа, дзе мастак праявіў сябе выдатным анімалістам[255]. Відавочна, што названых мастакоў і пісьменнікаў у значнай ступені ядналі «тутэйшыя» тыпы, сюжэты і вобразы, родныя па духу жыцця і творчасці.

Шматлікую колькасць гравюр, ілюстрацый і малюнкаў для перыядычных выданняў Вільні, Варшавы, Кракава зрабіў Фердынанд Рушчыц. Дзякуючы таленавітай працы мастака друкі Ф. Завадскага ў Вільні мелі высокі мастацка-паліграфічны ўзровень. У асобных аўтарскіх графічных творах, якімі з'яўляліся застаўкі, канцоўкі для кніг, мастак шырока выкарыстоўваў матывы беларускага арнаменту, слуцкіх паясоў. Арыгінальнасцю кампазіцыйнай будовы вызначаецца афармленая ім вокладка часопіса «Журавы» («Żurawce»): «Высока над зямлёй лунае чарада жураваў. Цень іх адбіўся ў люстраной гладзі возера. Мастак падае сюжэт як бы з вышыні птушынага палёту. Таму глядач быццам сам з'яўляецца яго ўдзельнікам. Дасканалы малюнак, тонкая, дакладная штрыхоўка — характэрныя рысы гэтай работы»[256]. Пад кіраўніцтвам Ф.Рушчыца выходзілі «Дзённік Віленьскі» і «Тыгоднік Віленьскі», якія друкаваліся ў друкарні «Зніч», закладзенай А. Жукоўскім. Ёсць таксама звесткі, што Ф. Рушчыц прымаў удзел у афармленні беларускіх календароў.

Яскравы і даволі тыповы ўзор афармлення вокладкі ўяўляюць «Памятныя кніжкі» той ці іншай губерні (Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай), якія апраўляліся ў каленкоравыя пераплёты з арнаментаваным цісненнем і выкарыстаннем чырвонай, зялёнай, залатой фарбаў. Надаць кнізе ўрачысты і вытанчаны выгляд, а таксама забяспечыць яе захаванасць у канцы XIX — пачатку XX ст. у Мінску дапамагалі пераплётныя майстэрні (М. Хаськіна, С. Някрасава), цынкаграфіі і фотацынкаграфіі (Л. А. Розенберга), фотатыпіі (братоў Берманаў), гравёрныя майстэрні (Ю. Фрумкіна, С. Слабодскага, І. З. Ізакава).

Ілюстраваліся і некаторыя арыгінальныя мясцовыя выданні па сельскай гаспадарцы,

закончены, но и всѣ выдѣланы. Нѣтъ въ его этюдахъ ничего недосказаннаго. Недосказанность безсознательная, конечно, не могла случиться въ работахъ художника той величины, какъ Клеверъ. Недосказанность сознательная, ведущая къ эфектамъ, которыми, сплошь да рядомъ пользуются пейзажисты, весьма желательна и ея то нѣтъ въ этюдахъ профессора. Всѣ его этюды производятъ такое впечатлѣніе, какъ будто онъ желалъ вдолбить зрителю картины природы, не разсчитывая на то, что зритель увидитъ кое-что глазами своей души. Они поэтому лишены поэтичной меланхоліи, они не обладаютъ лиризмомъ. Между тѣмъ меланхолія и лиризмъ даются не только сюжетамъ, но и степенью выдѣлки. Я видѣлъ этюдъ „Поле мака въ солнечный день“ (№ 9), когда онъ былъ написанъ въ одинъ присѣстъ и первый планъ былъ едва набросанъ. Въ немъ былъ лиризмъ горячаго лѣтняго дня и не было ничего нарушающаго это впечатлѣніе. Посмотрите въ этомъ этюдѣ смѣло набросанную крышу деревенской постройки, лѣсъ и небо; какая это мастерская, полная солнца

— 66 —




*Старонкі з кнігі «На памяць пра Віцебскую мастацкую выстаўку 1899 г.». Віцебск, 1899 г.*

«Cóż teraz czynić? Oto uwolnić duszę jaknajwięcej z pod wszystkich ciała ucisków, a iść jedynie po świecie z tą duszą ciągle młodą, ciągle rwącą w moc i życie.»

Kochanemu Koledze
Stanisławowi Glakowskiemu
w dniu wyniesienia Go na kapłaństwo
ofiarują:
C. Kardel

A. Bajko, W. Chamiesuck, St. Kiszkis, J. Ostrejko, J. Kurtewicz, A. Lachowicz, P. Mordas

Wilno, Seminarjum,
dnia 29 maja 1921 r.




*Тытульны ліст афармленай Ф. Рушчыцам кнігі «Immortele Slowackiego» з аўтографам 1921 г. Вільня, 1910 г.*

# СІМВАЛЫ ТУТЭЙШАСЦІ І МАТЫВЫ БЕЛАРУСКАСЦІ (1905—1917 ГГ.)

У працэс адраджэння беларускага кнігадрукавання і фарміравання новага вобраза беларускай кнігі ўключыліся такія выдатныя мастакі, як С. Богуш-Сестранцэвіч, К. Каганец, Я. Драздовіч і інш., якія прынялі ўдзел у стварэнні ўзораў кніжнага мастацтва першых беларускіх выданняў пачатку XX ст. Нават загаловак «Нашай Нівы» (пачала выходзіць у 1906 г.) абвяшчаў, што гэта — «першая беларуская газета з рысункамі». Справа беларускамоўнага друку аказалася не такой простай і вымагала значных фінансавых сродкаў, таму не заўсёды выдаўцам удавалася вытрымліваць адзінства матэрыяльнага, духоўнага і мастацкага ў сваіх выданнях. Часцей за ўсё ім даводзілася ахвяраваць менавіта эстэтыкай мастацкага афармлення.

«Першай цаглінай у будынак наладжанага беларускага выдавецкага дзела» стала, як адзначыў З. Жылуновіч[257], «Вязанка» Я. Лучыны, выдадзеная пецярбургскімі студэнтамі з Беларусі ў 1903 г. Брашура ў 22 старонкі ў 16-ю долю аркуша панесла ў свет сімвалічны вобраз беларускай кніжнай культуры. «Шэрая хвароба вокладкі адбівае шэрасьць у выдавецкай справе, матэр'яльную ўбогасьць сяброў організацыі — студэнтаў і невялікі ўзровень беларускае культуры»[258]. Сапраўды, большасць беларускіх выданняў пачатку XX ст. пазбаўлены мастацкага афармлення і маюць выгляд брашур з разнароднымі шрыфтамі і даволі невысокай тэхнікай набору друку. Аднак беларускія пісьменнікі ў супрацоўніцтве з мастакамі і выдаўцамі прыкладалі ўсе намаганні, каб выправіць такое складанае становішча.

Адным з іх быў **Карусь Каганец** (Казімір Карлавіч Кастравіцкі), імя якога засталося ў гісторыі беларускай выдавецкай справы. Яго пачынальніцкая праца ў справе афармлення першых беларускіх кніжных выданняў была звязана з дзейнасцю пецярбургскай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», па прапанове якой К. Каганец прыняў удзел у падрыхтоўцы школьнай чытанкі, збіраў матэрыялы да слоўніка роднай мовы, пісаў беларускую граматыку, займаўся перакладамі. Так, у 1906 г. з'ўляецца «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» — першы вопыт беларускага падручніка. Хоць суполка наладзіла сувязі з друкарняй К. Пянткоўскага, атрымала крэдыт на свае работы і ўзбагаціла набор беларускіх шрыфтоў, «Беларускі лемантар» выйшаў без вокладкі, на газетнай паперы, праўда, на кірыліцы і лацініцы, што адначасова рабіла яго даступным для розных пластоў беларускага грамадства. На тытульным аркушы не было прозвішча аўтара, аднак паводле Ю. Туронка вядома, што гэта была сумесная праца К. Каганца і В. Іваноўскага. Што тычыцца ілюстрацыйнага матэрыялу, то ўсяго ў выданні (на кірыліцы — 30 нумараваных і 2 ненумараваныя старонкі; на лацініцы — 23 і 2 адпаведна) 21 невялікі па памерах малюнак. Хоць малюнкі таксама не вызначаюцца высокай якасцю клішэ, аднак задача даць чытачу ўяўленне пра прадмет, які вывучаецца, была дасягнута. Напрыклад, літару «Н» падтрымлівае намаляваны тын; літару «Ш» — груша; літару «Ў» — воўк; літару «Ь» — конь[259]. Можна заўважыць, што ў кірылічным варыянце ў тэксце выкарыстоўваецца літара «и» з рускай мовы. У канцы лемантара змешчаны алфавіт лацініцай і кірыліцай, даводзіцца, як яго трэба чытаць. Праз год выйшла яшчэ адно выданне — навукова-папулярная брашура «Гутаркі аб небі і зямлі» (у 16-ю долю аркуша), у якім К. Каганец ізноў выступаў у якасці перакладчыка і мастака. Даступную форму гутаркі пра астранамічныя з'явы падмацоўвалі адпаведныя малюнкі. Апынуўшыся ў мінскай турме за ўдзел у рэвалюцыйным руху, ён не пераставаў маляваць, ствараў ілюстрацыі да твораў Я. Коласа. На жаль, 12 зробленых ім у Пішчалаўскім замку малюнкаў не захаваліся. У 1910 г. К. Каганец распрацаваў вокладку для кнігі «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Я. Коласа, якую замовіла мастаку выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» яшчэ ў 1906 г. Пры ўсёй прастаце задумы малюнка, які ўяўляў зімовы краявід з засыпанымі снегам хатамі і вясковым хлапчуком з кнігай, у працы К. Каганца адчуваюцца пранікненне ў сутнасць з'явы, сімпатыя да маленькага героя, любоў да беларускага пейзажу[260]. Вядома, што К. Каганец супрацоўнічаў з «Нашай Нівай», займаўся таксама афармленнем беларускіх календароў, распрацаваў вокладку да ўласнай кнігі, выкарыстоўваючы матывы народнага ткацтва і разьбы па дрэве.

У 1907 г. пецярбургскай суполкай, з якой супрацоўнічаў К. Каганец, магчыма, не без яго ўдзелу была распачата серыя «Беларускія песняры», выданне якой, як абвяшчалася,

«будзе дваякае: дарагое на пекным паперы, быццам старасьвецкім, ці на грубым белым, на выбар, у пекнай, з беларускім узорам, вокладцы, з партрэтамі песьняроў, падклеенымі на шурпаты папер»[261]. Вокладка лепшага выдання, як занатаваў З. Жылуновіч, была аздоблена беларускім паяском у некалькі фарбаў. Кнігі можна было ўжо «ўзяць у рукі і паказаць людзям». Хоць у афармленні названай серыі і былі дасягнуты пэўныя вынікі ў следаванні аднаму стылю, што пацвярджаў і фармат выданняў, аднак да дасканаласці выдаўцам было яшчэ далёка: разнароднасць выкарыстання шрыфтоў, перагружанасць вокладкі тэкстам, недасканаласць у структуры зместу зніжалі каштоўнасць кніг.

Адным з паспяховых кнігавыдавецкіх праектаў пецярбуржцаў і мінчукоў стаў выпуск «Жалейкі» Я. Купалы (1908). Паводле звестак, якія пакінуў Б. Эпімах-Шыпіла, вокладку зборніка аформіў мастак (?) Якубоўскі. Кнігу ўдалося надрукаваць дарагім і звычайным выданнямі.

Сярод пачынальніцкіх заслуг выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» быў друк (з 1906 г.) беларускіх паштовак, якія выдаваліся «на добрай паперы, адным колерам (у чорным або карычневым адценні), але ўсё ж цана іх без маркі была адносна вялікая — пяць капеек», у той час, калі «Беларускі лемантар» і «Першае чытанне для дзетак беларусаў» каштавалі па 6 капеек.

Падобна да пецярбургскай выдавецкай суполкі беларусаў працавала і віленскае выдавецтва «Нашай Нівы», першыя кніжныя выданні якога выйшлі ў 1907 г. Сярод іх апавяданне Э. Ажэшка «Гэдалі», выпушчанае сумесна з выдавецтвам «Мінчук», яно было аздоблена малюнкамі С. Богуш-Сестранцэвіча — як на вокладцы, так і ў тэксце. Паводле мастацкага афармлення гэта была лепшая тагачасная беларуская кніга. Нямногімі скупымі штрыхамі мастак вымалёўвае характары людзей: пана Карэйбу — самазадаволенага багацея, які судзіць бедняка Гэдалі за жменьку гароху з яго поля; шляхціца Тамкевіча — лакея без уласнага погляду і чалавечага гонару. З вялікай сімпатыяй падаецца Гэдалі, вобраз якога сустракае чытача ўжо на вокладцы. Як адзначаюць мастацтвазнаўцы, ілюстрацыі С. Богуш-Сестранцэвіча зроблены ў лёгкай, нібы эскізнай манеры натуральнага малюнка ці больш дакладна, накіду. Смелым, упэўненым контурам мастак здолеў стварыць яркія сацыяльныя тыпы[262].

З восені 1908 г. з «Нашай Нівай» пачаў супрацоўнічаць яшчэ адзін беларускі мастак — гэта **Язэп Драздовіч**, які заклікаў сваіх братоў па цэху: «Рысуй народ, падай чалавека працы. Рысуй яго хату і дзяцей, раскажы пра яго мову і долю. Падымі некранутыя пласты гісторыі». У 1909 г. Я. Драздовіч выканаў вокладку для «Першага Беларускага календара «Нашай Нівы» на 1910 год». У малюнку адчуваецца імкненне да сімволікі: араты-селянін, яркае сонца, што ўздымаецца над гарызонтам. Побач сімвал варожых сіл — сава. Для ўнутранага афармлення выдання ён шырока выкарыстоўваў застаўкі, канцоўкі, віньеткі. У 1914 г. у Беларускім выдавецкім таварыстве ў Вільні ўбачыў свет зборнік вершаў К. Буйло «Курганная кветка», вокладку да якога таксама зрабіў Я. Драздовіч. Вырашана яна па-мастацку проста, лаканічна: буйным планам намалявана на ёй загадкавая сімвалічная кветка, сілуэт якой нагадвае галаву жанчыны. Мастацтвазнаўцы характарызуюць малюнак як выкананы смелай энергічнай штрыхоўкай[263].




*Г. Леўчык. Чыжык беларускі. Вільня, 1912 г.*



9-ы год выдавецтва

**„Наша Ніва“**

Першая беларуская газэта выходзіць раз у тыдзень.

**Адрэс Рэдакціі: Вільня Віленская 29.**

Падпісная цэна на 1 год—2 р. 50 к., на 6 мес —1 р. 25 к.

**„Маладая Беларусь“**

Літэратурные зборнікі. Вышоў 3-і сшытак ц. 1 р.

**Адрэс: Пецярбург Васілеўск. востраў 4-ая лінія д. 45 к. 16.**

**„Беларускі Календар“**

на 1914 год.

Вышоў рускімі літэрамі і другое выданьне польскімі літэрамі. Цэна 15 кап. с пересылкай 20 к. прадаецца ва усіх **беларускіх рэдакціях.**

**„Беларуская Кнігарня“**

у Вільні, Завальная, 7.

Прадае і высылае уселякіе беларускіе кнігі.



*Часопіс «Лучынка». 1914 г.*

Пачынаючы з 1910 г. пецярбургскія і віленскія выдавецтвы перайшлі да друку больш дасканалых у мастацкіх адносінах выданняў, у якіх таксама назіраецца імкненне да аздаблення вокладкі, прымянення калонтытулаў на старонках, падбору лепшых шрыфтоў, — гэта «Песні жальбы» Я. Коласа і «Адвечная песня» Я. Купалы. Апавяданне М. Горкага «Архіп і Лявонка» ў перакладзе Т. Гардзялкоўскай, выпушчанае ў тым жа годзе «Нашай Нівай» сумесна з выдавецтвам «Наша хата», суправаджалі малюнкі Яніслава Валакіты: мастацкія вобразы размяшчаліся на верхняй і ніжняй вокладках, змест разнастаілі 7 малюнкаў, а верхні і ніжні калонтытулы у выглядзе прамой лініі надавалі большую завершанасць выданню. Таксама ў «Нашай хаце» былі праілюстраваны кнігі апавяданняў «Дым» М. Канапніцкай (1909) і «Дзядзька Голад» С. Віткевіча (1911)[264].

Дзякуючы «Нашай Ніве» ў 1910 г. з’явілася ў друку «Кароткая гісторыя Беларусі» Власта (Вацлава Ластоўскага) з 40 малюнкамі, стылізаванай вокладкай і арнаментаваным калонтытулам. У аб’яве, змешчанай у газеце выдавецтва, даводзілася: «Кніжка вельмі харошая, у прыгожай акладцы з малюнкам, перэрысованым з старасьвецкаго акуцьця дзьвярэй і прэдстаўляючым гэрб даўнейшаго беларуска-літоўскаго княжэства. І ў сярэдзіне бачым багата пекных рысункаў, між каторымі ёсць і такіе, якіх ніхто дагэтуль не знаў» (Наша Ніва. 1910. 23 вер. №39. С.1, 6).

Вылучаюцца сваім афармленнем і тыя выданні, што друкаваліся ў М. Кухты: «Першы беларускі каляндар «Нашай Нівы» на 1910 год», у якім змешчаны шэраг канцовак, віньетак і заставак; «Калядная пісанка, 1913 год», тытул якой упрыгожаны арнаментаванай рамкай з выкарыстаннем сыгнета Францыска Скарыны; біяграфічныя нарысы Р. Зямкевіча 1911 г., прысвечаныя Я. Баршчэўскаму (уключае застаўкі, канцоўкі і гравюры паводле малюнкаў, сярод аўтараў якіх прачытваецца імя Р. Жукоўскага, літаграфаваныя партрэты Я. Баршчэўскага), а таксама А. Кіркору (у

тэксце змешчаны два партрэты, на адным з якіх подпіс: «Павялічыў-перамаляваў [з фота] Гальяш Леўчык»[265]). Імя паэта Г. Леўчыка (Ілья Ляўковіч) сустракаецца нам яшчэ раз — у мастацкім афармленні вокладкі зборніка яго вершаў «Чыжык» (1912), для якой аўтар выканаў малюнак і клішэ[266].

У 1911 г. М. Кухта надрукаваў падрыхтаваны да 50-годдзя смерці Т. Шаўчэнкі віленскім выдавецтвам «Палачанін» (пад рэдакцыяй Я. Купалы) пераклад паэмы ўкраінскага пісьменніка «Кацярына». Вокладка кнігі ўпрыгожана малюнкам слуцкага пояса, перад тэкстам змешчаны партрэт Кабзара.

Альманах «Маладая Беларусь», які выдаваўся ў 1912—1913 гг. суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца», стаў пэўным крокам наперад у галіне развіцця беларускага кніжнага друку з пункту гледжання як структуры зместу, так і знешняга выгляду. Нягледзячы на тое, што яшчэ не была пераадолена мешаніна двух шрыфтоў, выданне выглядала даволі цэласным у сваім мастацкім аздабленні. На вокладцы — прыгожая рамка ў дзве фарбы — шэра-зялёную і сінюю, скамбінаваная з узораў слуцкага пояса з калекцыі «Нашай Нівы» і малюнкаў двух каўшоў з-пад Чашнікаў з калекцыі Ю. Валатковіча. У верхніх кутках рамкі размяшчаліся фірмавыя надпісы на двух шрыфтах. Што тычыцца ўнутранага афармлення, то для зборніка Власт (Вацлаў Ластоўскі) спецыяльна намаляваў застаўкі і канцоўкі з узораў слуцкіх паясоў з уласнай і нашаніўскай калекцый. Тэкст у зборніку размяшчаўся даволі свабодна, выкарыстоўваліся пропускі нават цэлых старонак, што было абумоўлена друкам асобных адбіткаў твораў з «Маладой Беларусі». Таму атрымлівалася, што выданне складалася з асобных сшыткаў. Аўтарам вокладкі быў нехта Г. М. (пададзена лацінкай), а цынкаграфічную працу па афармленні вокладкі і заставак выканаў С. Пракудзін-Горскі.

Вызначаўся сваім мастацкім аздабленнем і ілюстраваны часопіс «Лучынка», які ў 1914 г. выдаваўся ў Мінску (выйшла 6 нумароў). Вядома, што ў афармленні некаторых кніжных выданняў рэдакцыі часопіса прымаў удзел нехта Л. Навіцкі. У прыватнасці, ён упрыгожыў вокладку невялічкага зборніка апавяданняў у перакладзе Т. Гардзялкоўскай «Што б не здарылася — вытрымаю» (Мінск, 1914 г.).

У 1914 г. была ажыццёўлена і адзіная спроба наладзіць выданне ў Вільні спецыяльнага беларускага ілюстраванага часопіса «Сябра», які павінен быў выходзіць кірыліцай і лацініцай. Э. Будзька атрымаў нават дазвол на гэта віленскага губернатара, збіраўся матэрыял, але па невядомай прычыне выданне так і не выйшла[267].

Пра арыгінальнае афармленне вокладкі пачало клапаціцца «Беларускае выдавецкае таварыства», якое займела свой адметны знак-эмблему — белага лебедзя. Стылізаваны віленскай мастачкай В. Флеры герб роду Завішаў сведчыў таксама і пра фундацыю кніг Магдаленай Радзівіл[268]. Пад знакам лебедзя на тытульным аркушы выйшла і адно з першых выданняў таварыства — «Вянок» М. Багдановіча (1913). У мастацкім афармленні вокладкі, выкананай у тэхніцы двухколернага друку, Вацлаў Ластоўскі выкарыстаў малюнак вучня Шпігаліцкай школы, які нагадваў вянок (Ластоўскі В. Мае ўспаміны аб М. Багдановічу // ЛіМ. 1989. 22 верасня).

Як можна заўважыць, афармленнем тых кніг, што рыхтаваліся да друку, даводзілася займацца самім выдаўцам, некаторыя з якіх самі спрабавалі свае сілы ў мастацтве кніжнай графікі. Да іх адносіцца і выдавец з Санкт-Пецярбурга Антон Грыневіч, які займаўся афармленнем вокладкі для «Гусляра» Я. Купалы (1910). «Зрабіў два рысункі і абодва забракаваў: каб не страціць больш часу, пусціў так, без рысунка і агледзеўся, як бачу, будзець дужа добра», — успамінаў А. Грыневіч[269]. Упрыгожанне вокладкі дасталася наступнаму выданню, складальнікам якога быў сам выдавец — «Беларускія песні з нотамі» (т. 1. 1910. Т. 2. 1912).

Не ўсім кніжным выданням пашчасціла застацца ў гісторыі з адзнакамі аўтарства іх стваральнікаў, перакладчыкаў і мастакоў. Яшчэ не раскрыты і некаторыя біяграфічныя звесткі, ініцыялы тых самаадданых працаўнікоў, дзякуючы якім з'явіўся на свет шэраг выданняў.

Такім чынам, беларуская кніга, якая выходзіла ў самастойнае жыццё, перажывала сваё сталенне. У сацыяльным працэсе яе вытворчасці яшчэ не было строгай дыферэнцыяцыі, бо не было яшчэ значнай друкаванай прадукцыі, адсюль і такая карпаратыўнасць у яе стварэнні, што вымагала не толькі супрацоўніцтва пісьменнікаў, выдаўцоў і мастакоў — нярэдка кожны з іх выступаў і тым, і другім, і трэцім. Гэта была цэхавая, супольная кніга, і ўсе стваральнікі яе належалі ў прамым сэнсе да цэху кніжнікаў — у лепшым значэнні гэтага слова.

# БІБЛІЯТЭЧНАЯ СПРАВА

Іерархічная пабудова дзяржаўных інстытутаў Расійскай імперыі не абмінала і бібліятэчнай справы. Першай па значнасці і багаццю фондаў фактычна была Імператарская публічная бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу. Яе кіраўніцтва (М. Аленін, М. Корф і інш.) сфармулявала палажэнні, паводле якіх галоўная бібліятэка краіны павінна была мець акрамя абавязковага экзэмпляра кніг, што выдаваліся ва ўсёй імперыі (гэта зацвярджалася спецыяльным царскім загадам 1810 г.), яшчэ і ўсе кнігі ў межах імперыі, што датычыліся Расіі, на замежных мовах (так званая Rossica). Таксама лічылася неабходным імкнуцца да як мага больш поўнага рэпертуару сусветнай друкаванай прадукцыі. Імператарскую бібліятэку папаўнялі ўсімі магчымымі спосабамі, уключаючы канфіскацыю з адабраных маёнткаў і зачыненых манастыроў на тэрыторыі Беларусі. Пры гэтым бібліятэка была аднолькава даступнай для ўсіх наведвальнікаў, у т.л. з Беларусі[270], тут складаліся бібліяграфічныя даведнікі, якія ахоплівалі Беларусь, сярод супрацоўнікаў былі такія вядомыя дзеячы беларускай культуры, як санскрытолаг Каэтан Касовіч, браты Віктар і Кастусь Каліноўскія. Імператарская публічная бібліятэка захоўвала незлічоную колькасць звязаных з Беларуссю дакументаў; значная частка іх была вывезена ў Польшчу пасля Рыжскага мірнага дагавору 1921 г. і пазней загінула ў Варшаве ў час Другой сусветнай вайны. Аднак і тое, што засталося — 105 кніг з бібліятэкі вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста, сотні кніг з сапегаўскіх збораў у Кодэні, Брэсце і Слоніме, тры пергаменныя Полацкія Евангеллі (XII і XIV ст.), частка бібліятэкі Полацкай іезуіцкай акадэміі, картаграфічныя, музычныя, рукапісныя матэрыялы — робяць яе фонды багацейшай крыніцай беларускіх кніжных каштоўнасцей.

Другой па велічыні сталічнай бібліятэкай была бібліятэка Акадэміі навук. Пасля паступлення сюды ў 1772 г. радзівілаўскай бібліятэкі з Нясвіжскага замка, а ў канцы XIX ст. і архіва Жыровіцкага манастыра (фонд Дабрахотава) і збору ў Славянскім фондзе беларускіх адраджэнскіх выданняў, яна стала другім важным месцам захоўвання першакрыніц беларускай культуры. Трэцім з'яўляецца Дзяржаўны гістарычны архіў Расіі, дзе поруч з вялізнай колькасцю дакументаў, што фіксуюць жыццё заходніх губерняў у часы імперыі, знаходзяцца вывезены з Беларусі архіў уніяцкіх мітрапалітаў і калекцыя рукапісных і старадрукаваных кніг беларускага паходжання.

## Спадчына папярэдняй эпохі: манастырскія бібліятэкі

На абшарах Беларусі ў канцы XVIII — 1-й палове XIX ст. працягвалі функцыяніраваць некалькі мужчынскіх і жаночых праваслаўных манастыроў, грэка-каталіцкія (уніяцкія) абіцелі св. Васіля Вялікага, кляштары ордэнаў, што прадстаўлялі ўсе віды заходніх манаскіх згуртаванняў: медыканцкія (аўгусцінцы, дамініканцы, кармеліты і францысканцы розных накірункаў), манаскія (бенедыкцінцы, цыстэрцыянцы, картэзіянцы), кананічныя (нарбертане, трынітарыі), клерыкальныя (езуіты і піяры) і інш. З жаночых каталіцкіх ордэнаў найбольшае распаўсюджанне мелі суполкі бенедыкцінак, бернардзінак і брыгітак. Арганізацыя і склад кнігазбораў праваслаўных манастыроў пакуль што застаюцца для нас terra incognita, хаця вялікія бібліятэкі ў Слуцку і Магілёве доўгі час былі бесперапынным транслятарам усходняй кніжнай традыцыі. Шматлікія базыльянскія манастырскія бібліятэкі пасля адміністрацыйных рэформ у ордэне, здзейсненых пад уплывам езуітаў, сканцэнтравалі гістарычную частку сваіх фондаў у трох буйнейшых кляштарах: Жыровіцкім, Віленскім і Супрасльскім, пакінуўшы для астатніх невялікія падручныя зборы. У нарматыўных тэкстах каталіцкіх ордэнаў арганізацыя бібліятэк абумоўлівалася спецыяльна (а езуіты выпрацавалі для гэтага асобныя правілы). На характар кнігазбораў уплывалі ордэнская адукацыя, душпастырская і адміністрацыйная праца і навуковая дзейнасць. «Monasterium sine armario est quasi castrum sine armamentario» («Манастыр без бібліятэкі — як армія без зброі») — гэта сентэнцыя дакладна адпавядае значэнню, якое надавалася чытанню манахаў. Бібліятэка часцей за ўсё прызначалася для ўжытку ўсёй манаскай супольнасці і называлася bibliotheca magna, conventii, communis («вялікая», «канвенцкая», «супольная»), і да т.п.; таксама арганізоўваліся спецыяльныя і падручныя кнігазборы: у навіцыяце, інфірмерыі, аптэцы, сакрысціі, на патрэбы капеланаў, прапаведнікаў, прафесараў, студэнтаў (напрыклад, bibliotheca praefecti, nowicjackie, libri chorale), у т.л. вылучаліся «забароненыя кнігі» – libri prohibiti. За бібліятэку адказваў «найвучонейшы» манах (armarius) альбо прэфект. У езуітаў для яго была распрацавана інструкцыя з 12 пунктаў, дзе рэгламентавалася арганізацыя памяшкання для захавання кніг, праца з забароненымі выданнямі, спосабы камплектавання і каталагізацыі бібліятэкі, вядзенне інвентара, стварэнне падручных бібліятэк і да т.п.

Уся бібліятэка як цэлае, а таксама кожная паасобку захаваная манастырская кніга, вызначаюць узровень і характар інтэлектуальнай культуры канкрэтнага кляштара, якія вынікаюць з прыналежнасці да пэўнага ордэна, адметнасці яго духоўнай традыцыі і спецыфікі размяшчэння ў межах правінцыі, да якой кляштар належаў, а таксама навуковай, адукацыйнай і харытатыўнай дзейнасці манахаў. Бібліятэкі і скрыпторыі Беларусі дакументуюць не толькі гісторыю манаскага асяроддзя, але таксама адлюстроўваюць духоўную культуру дадзенай эпохі ў цэлым, зберагаюць памяць і тоеснасць гістарычнай культуры царквы, рэгіёна і дзяржавы.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння ўсходняй часткі Беларусі да імперыі Расія не канфіскавала маёмасць каталіцкіх манастыроў (як гэта зрабілі Аўстрыя і Прусія), але сітуацыя змянілася пасля Венскага кангрэса 1819 г. У 1820 г. былі забаронены арганізацыі езуітаў. З дапамогай афіцэраў Генеральнага штаба збіраліся звесткі аб існуючых кляштарах іншых ордэнаў. Пры гэтым «танальнасць адсылаемых губернатарам карэспандэнцый была больш падобнай на зводкі рэзідэнтаў, якія працуюць у чужой краіне і збіраюць разведдадзеныя на варожай тэрыторыі»[271]. Усяго на працягу 1830—1835 гг. былі абследаваны і зачынены 132 кляштары (з улікам Брэста), што знаходзіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі, з пераходам іх маёмасці ў казну[272]. Пад касацыю не трапілі жаночыя ордэны, базыльяне, бенедыкцінцы і баніфратры, але іх лёс вызначыўся ў час наступных этапаў гэтай кампаніі, рэалізаваных у 1836—1860 гг.[273] Пасля заключэння Расіяй дамовы з папскім дваром за перыяд 1850—1856 гг. на тэрыторыі сучаснай Беларусі былі зачынены 22 кляштары[274], а пасля 1863 г. пачалася ліквідацыя тых, прадстаўнікі якіх прымалі ўдзел у паўстанні. У выніку каталіцкае манаства было ліквідавана больш як на 90%. Паколькі практычна кожны кляштар меў свой кнігазбор (бібліятэку), а часта і школу, працэс скасавання прывёў да перамяшчэння велізарнага масіву кніг. Сталічныя бібліятэкі хутка папаўняліся рарытэтамі, рэшта кніг перадавалася ў існуючыя навучальныя ўстановы і публічныя бібліятэкі, часцей за ўсё мясцовыя. Так, у 1840 г. у Гродзенскай губерні створаны камітэт па падзелах кніг з маёмасці 15 зачыненых каталіцкіх манастыроў. Духавен-

ству перададзены 3623 кнігі, школам — 2328, у т.л. 1897 атласаў і 28 карт[275]. Спецыяльны «Комитет для распределения библиотек и учебных пособий из упразднённых римско-католических монастырей» дзейнічаў у Віцебскай губерні[276]. Канфіскацыі зведалі таксама беларускія праваслаўныя храмы і манастыры. Рукапісы, кнігі, літургічныя прадметы, абразы і іншыя свяшчэнныя старажытнасці былі ўзяты з Аршанскага Куцеінскага, Магілёўскага Багаяўленскага і іншых манастыроў[277].

Рэканструяваць лёсы манастырскіх кнігазбораў магчыма дзякуючы захаваным інвентарам (вопісам маёмасці)[278]. Напрыклад, каля 60 такіх дакументаў пацвярджаюць існаванне 20 бібліятэк розных манастыроў Брэсцкай зямлі. Найбольш захавалася інвентароў базыльянскіх кляштараў: у Брэсце Літоўскім (2), Антопалі (5), Хомску (1), Кобрыне (7), Навасёлках (1), Пінску (1), а таксама кляштараў бернардзінцаў у Брэсце (4), Пінску (8) і марыян у Раснай (9). Бібліятэчныя інвентары захаваліся ад картэзіянцаў у Бярозе Картузскай (6), кармелітаў абутых у Крупчыцах (3), баніфратраў у Высокім Літоўскім (2), езуітаў у Брэсце і Кодэні (2). Па адным інвентары засталося ад бібліятэк аўгусцінцаў, дамініканцаў і трынітарыяў у Брэсце, бенедыкцінцаў у Гарадзішчы, а таксама базыльянак, францысканцаў і кармелітаў босых у Пінску[279]. Далейшыя пошукі ў архівах, бібліятэках і музеях, напэўна, павялічаць гэтыя лічбы. Колькасць кніг у інвентарных запісах паказвалася ў тамах, экзэмплярах, штуках, паслядоўнасць запісаў сведчыць аб прынцыпах расстаноўкі кніжных фондаў.

У самім Брэсце Літоўскім дзейнічалі кляштары 6 ордэнаў. Сёння вядомы інвентары і спісы кніг з бібліятэк аўгусцінцаў, базыльян, бернардзінцаў, дамініканцаў, езуітаў і трынітарыяў. Пра бібліятэку брэсцкіх аўгусцінцаў згадвае ў пратаколе візітацыі кляштара 1820 г. ксёндз Францішак Клімашэўскі — ён знайшоў спісаны ў 1794 г. рэестр бібліятэчных кніг, які ўключае 700 пазіцый. У бернардзінцаў найстарэйшым спісам быў Index librorum 1790 г., наступным — Catalogus librorum, складзены ў 1799 г. У інвентары гэтага кляштара за 1820 г. падаецца лічба 439 штук кніг, спісаных у прадметным парадку. Ксёндз Францішак Клімашэўскі візітаваў таксама кляштар дамініканцаў у Брэсце. У 1822 г. ён налічыў у іх бібліятэцы 14 назваў у 20 тамах, і тлумачыцца гэта лічба проста: «Больш бібліятэкі ніякай няма, а то з прычыны пажару ў 1801 годзе ...». Люстрацыя брэсцкага калегіума езуітаў, якая пачалася ў лістападзе 1773 г. і была скончана ў студзені наступнага года, ахапіла і бібліятэку. Знайшлося там 1732 валюмінаў. Да пратаколу люстрацыі далучаны звесткі аб 180 валюмінах, а таксама 32 творы ў 33 тамах «кніжак аптэчных значнейшых», сабраных у кодэньскай рэзідэнцыі езуітаў.

Базыльяне літоўскай правінцыі мелі на Брэстчыне 6 манастырскіх сядзіб. Спіс маёмасці царквы і манастыра архімандрыі ў Кобрыне, складзены пасля візітацыі Юстына Касовіча ў снежні 1741 г., называе 14 царкоўных кніг і 220 твораў славянскіх, лацінскіх, італьянскіх і грэчаскіх аўтараў, у вялікіх і малых фарматах, якія знаходзіліся ў бібліятэцы манастыра. У 1804 г. свяшчэннік Ян Кургановіч адзначыў у пратаколе візітацыі: «Аглядаў таксама бібліятэку, якая складаецца з каля чатырохсот кніг у значнай колькасці пісаных і мала ужытачных…». У бібліятэку пасля 1804 г. уключаны кнігазбор далучанага да манастыра ў Кобрыне «былога навасельскага базыльянскага манастыра». Апошні вядомы інвентар яго ў Кобрыне з'явіўся ў кастрычніку 1836 г. У ім запісана некалькі дзесяткаў царкоўных кніг, а таксама «Рэестр кніг, што знаходзяцца ў бібліятэцы Кобрынскага Манастыра OSBM», у якім было запісана 2070 твораў у тэматычным падзеле. Кнігазбор гэты распылены пасля ліквідацыі базыльян у 1839 г.

З базыльянскага кляштара ў Антопалі паходзіць недатаваны «Reiestr ksiąg Biblioteki Antopolskiey» канца XVIII ст., у якім у прадметным парадку запісаны 624 кнігі. У базыльян у Хомску бібліятэка ў 1805 г. мела 190 кніг, у пратаколе візітацыі занатаваны яшчэ і царкоўныя кнігі. Сёстры-базыльянкі ў Пінску карысталіся, паводле візітацыі Пасхазія Ляшчынскага 1814 г., невялічкім кнігазборам у 46 кніг.

У бібліятэчных інвентарах бернардзінцаў у Пінску занатавана некалькі соцень назваў, асобна вёўся запіс выдадзеных кніг. У зборы Віленскага універсітэта знаходзяцца каталогі бібліятэк бернардзінцаў у Брэсце, спісаныя пасля 1790 г.; пратакол візітацыі 1828 г. падае лічбу 439 кніг. У рэестры бібліятэчных кніг кляштара марыян у Раснай у 1804 г. занатавана 729 тамоў. Інфармацыя пра колькасць кніг і іх змест знаходзіцца ў інвентарах кляштара баніфратраў у Высокім Літоўскім. Пратакол візітацыі 1804 г. мае «Рэестр і апісанне Кніг, што знаходзяцца ў тым жа манастыры», у якім запісана 10 назваў у 14 тамах, а таксама «доктарскія кнігі» (42 назвы ў 60 валюмінах).

Падчас наступнай візітацыі 1820 г. ксёндз Ф. Клімашэўскі пацвердзіў, што «манастырская бібліятэка налічвае 46 твораў у 56 тамах, кнігі доктарскія — 26 назваў у 35 тамах і кнігі аптэкарскія — 2 назвы». Бібліятэка кармелітаў абутых у Крупчыцах налічвала ў 1819 г. 82 кнігі.

Усе згаданыя вышэй факты дазваляюць, абапіраючыся на захаваныя дакументы, зрабіць асцярожнае меркаванне пра тое, што ў названых манастырскіх бібліятэках у XIX ст. магло быць каля 17 тыс. кніг, якія ў выніку ліквідацыі кляштараў былі размеркаваны па некалькіх новаарганізаваных школьных, публічных і прыватных, а таксама касцельных дыяцэзіяльных бібліятэках альбо проста знішчаны.

Значным кнігазборам валодалі брэсцкія аўгусцінцы, якія напачатку мелі свой кляштар extra civitatem (за горадам). Ён згарэў падчас аблогі Брэста ў 1666 г., «адбудаваны са складак абываццеляў» і перанесены ў 1672 г. у цэнтр горада. Бібліятэка налічвала 1201 кнігу. «Бібліятэку страціў гэты манастыр праз двукротны пажар — першы раз у 1802-м, а другі раз у 1808 г.»; у 1820 г. колькасць кніг толькі дасягнула лічбы 180. Гэты невялікі кнігазбор праіснаваў да ліквідацыі кляштара. Нялёгкі лёс быў і ў дамініканскіх кнігазбораў. Пры візітацыі 1816 г. адзначалася, што бібліятэка складаецца з 18 кніг, астатнія згарэлі ў пажары 1801 г.

Цікавай уяўляецца гісторыя бернардзінскага кнігазбору. Самы стары вядомы яго каталог паходзіць з канца XVIII ст., манахі карысталіся ім яшчэ на пачатку XIX ст. Вопіс 1820 г. паведамляе, што бібліятэка складалася з 439 тамоў, згаданы таксама «кнігі розныя» ў колькасці 335. У спісе 1822 г. сітуацыя падобная: названы касцельныя кнігі (21 экзэмпляр) і пададзены спіс бібліятэкі, які ахоплівае 925 пазіцый у 24 тэматычных аддзелах. Пра тое, што ў бернардзінскім кляштары кнігі збіралі па некалькіх групах, згодна з тагачаснай манастырскай традыцыяй, сведчыць факт захавання ў бібліятэцы ў Курніку кнігі з запісам: «Pro refectorio applicat[ur] … 1777 in Conventu Brestensi sub Gvardianatu ARP Romualdi Fenikowski ejusdem Conventus Gvardiani»[280]. Варта занатаваць і іншыя захаваныя да нашага часу ў віленскай універсітэцкай бібліятэцы інкунабулы і палеатыпы з брэсцкага бернардзінскага кнігазбору: інкунабула «Epistolae familiares Piusa II», выдадзеная А. Кабергерам (1486), «Cathena» Фамы Аквінскага (1528) і эцьенаўская «Biblia» (1545). На апошняй знойдзены запіс, які сведчыць пра колішнюю фундацыю бібліятэкі для братоў меншых, менавіта: «Martinus Szyszkowskij Episcopus Plocensis pro Coenobio Brzestensi Fratrum Minorum de Observantia A° 1608 donavit»[281]. Няшмат вядома пра зборы брэсцкіх трынітарыяў: у 1816 г. яны мелі 416 кніг.

Згаданыя намі крыніцы не дазваляюць зрабіць комплексны аналіз кнігазбораў брэсцкіх канвентаў. Старэйшыя захаваныя спісы мясцовых бібліятэк досыць позція, а звесткі пра іх арганізацыю фрагментарныя. Ёсць, аднак, магчымасць вывучэння структуры фондаў, сістэматызаваных паводле зместу, адносін да забароненых выданняў, альбо карыстання кнігамі, якія акрэслены як «рускія». Захаваныя спісы інвентароў дакументуюць той факт, што звычайна манахі збіралі тыповую для свайго часу літаратуру[282].

Яшчэ ў 1648—1650 гг. з фундацыі Казіміра Льва Сапегі паўстаў адзіны ў ВКЛ кляштар картэзіянцаў у Бярозе каля Брэста. Яго насельнікі збіралі кнігі, што служаць духоўнаму жыццю, а таксама для навуковай і душпастырскай працы. У 1805 г. кляштар у Бярозе быў вельмі негатыўна ацэнены віленскім біскупам Юзэфам Касакоўскім, які крытыкаваў вялікія выдаткі картузаў на алкаголь і зусім малыя на закуп кніг, галоўным чынам календароў. У 1820 г. у «Descripto Librorum Bibliotheca Carthusiensi existentium» вылучана 10 аддзелаў, абазначаных вялікімі літарамі лацінскага алфавіту і лічбавымі шыфрамі паводле фарматаў і бягучых нумароў — summa omnium librorum склала 2177 кніг. Кнігі захоўваліся ў асобнай зале, у шафах, абазначаных літарамі; вёўся каталог. Для патрэб літургіі меліся друкаваныя службоўнікі (імшалы; 18), градуалы (10), брэвіярыі (7), Біблія, Евангелле, Новы Запавет, Liber Episcoporum Apostolorum, рымскі Матрылогій, Статут ордэна (па 1 экзэмпляры), а таксама рукапісныя псалтыры (4), антыфаналы (9) і агенды (3). У 1830 г. былі вядомы 40 рукапісаў, з якіх 2 хронікі Францішка Пасекі (XVIII ст.) зараз захоўваюцца ў Курніцкай бібліятэцы ў Польшчы. З ліквідацыяй ордэна ў 1831 г. бібліятэка была распылена. Зараз частка яе фонду знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы ў Варшаве (175 тамоў), а рэшта — у іншых кнігазборах.

У 1670 г. з фундацыі брэсцкага падкаморыя Яўстафія Тышкевіча заснавана абацтва цыстэрцыянцаў у Вістычах. Перад ліквідацыяй кляштара ў 1832 г. тутэйшая бібліятэка налічвала, паводле візітацыі Я. Курчэўскага, каля 1500 экзэмпляраў кніг. Кляштар брыгітак у Брэсце быў фундаваны ў 1621 г. Вядома, што ў

канцы 18 ст. у абіцелі было 11 літургічных кніг, у т.л. 5 святочных імшалаў, адзін з якіх «рускі». У бібліятэцы Чартарыйскіх у Кракаве да нашых дзён захоўваюцца 2 антыфанарыі, якія створаны ў гэтым кляштары. Першы, датаваны 1707 г., быў спісаны брыгіткамі Іаанай Пацей і Канстанцыяй Крупінскай. Ён вылучаецца багатай мастацкай аздобай: усе старонкі рубрыкаваны і ўпрыгожаны фігурнымі і раслiннымі ініцыяламі, бардзюрамі з раслінным арнаментам. Том пераплецены ў дошкі, абцягнутыя цiснёнай скурай, з металічнымі навугольнікамі. Падобную аздобу мае антыфанарый 1720 г., ахвяраваны настаяцельніцы Барбары Пацей і, магчыма, выкананы тымі ж капіісткамі. Паводле дадзеных 1818 г. манастырскі кнігазбор налічваў 30 тамоў.

Бенедыкцінскае абацтва ў Гарадзішчы паўстала ў 1662 г. з фундацыі полацкага ваяводы Яна Караля Копця. Згодна з regula monasteriorum (манастырскім статутам) гэты манастыр быў «школай службы Божай», а манах праводзіў жыццё на вайне дзеля Бога, для чаго павінен быў чытаць не толькі молячыся, працуючы, ядучы, але і на адпачынку. Ролю чытання ў манаскім жыцці вызначала бібліятэка. Кнігазбор паводле каталога, што складзены ў часы абата Альфонса Аранскага «Generale Summarium omnium libror[um] in bibliotheca Monasterii Castro Casinensis alias Horodiscensis Reperibilium conscriptu[m] anno Dn 1783», быў арганізаваны тэматычна, у раздзелах, пазначаных 22 літарамі лацінскага алфавіта (A – Z). Спіс 1797 г. паўтарыў гэту арганізацыю, далучыўшы 10 панегірычных тэкстаў і 100 італьянскіх, «патрэбных для набажэнства». Усяго мелася 3462 тытулы, да якіх на пачатку XIX ст. дадалося 97 тамоў. У бібліятэцы універсітэта ў Вільні захаваліся шматлікія рукапісы, што паходзяць з Гарадзішча, рознага зместу (між іншым рукапіс айца Бенядзікта Падлеўскага, гарадзішчанскага прафеса, лектара на генеральным капітуле 1774 г.). З захаваных рукапісаў вядома, што бенедыкцінцы займаліся тлумачэннем тэкстаў, капіравалі літургічныя кнігі, а абат Альфонс Аранскі «пакінуў кнігі з нотамі, уласнай рукой пісаныя».

Пяць кляштараў было ў 1804 г. у Слоніме: бернардзінскі, канонікаў рэгулярных латэранскіх, дамініканцаў, бенедыкцінак і бернардзінак. Найбольшым з іх быў бернардзінскі (Ordo Fratrum Minorum de Observantia), фундаваны ў 1630 г. Андрэем і Кацярынай Радванамі. Інфармацыя аб яго бібліятэцы захавалася ў дакументах візітацый, прынамсі, у візітацыі 1816 г. запісана: «Паводле інвентара хаця і не ў вялікай колькасці кніг [бібліятэка] застаецца ў добрым парадку, пад наглядам кс. Гіпаліта Туровіча…». У 1820 г. кнігазбор налічваў 948 назваў, пераважна казанняў і тэалагічных, філасофскіх, рытарычных і гістарычных прац. Найбольшы прырост адбыўся ў 1-й трэці XIX ст. — пры кляштары ў той час працавала школа. У 1822 г. бібліятэчны фонд дасягнуў колькасці 1766 тытулаў (плюс 17 кніг, што перахоўваліся ў сакрысціі касцёла), а ў 1830 г. — 1858 назваў. Значным папаўненнем сталі кнігі, перададзеныя з кляштара ў Брэсце (791 том), пасля чаго бібліятэка налічвала (паводле інвентара 1838 г.) 2177 тамоў. У візітацыйным акце апрача 75 кніг, што выкарыстоўваюцца непасрэдна пры выкананні літургічных абавязкаў, занатаваны вопіс бібліятэкі: сярод «кніг касцельных службовых» — антыфаналы, псалтыры, брэвіярыі, агенды, імшалы (службоўнікі), у т.л. «адзін імшал рускі». У бібліятэцы захоўваліся таксама кнігі прапаведніцкія, аскетычныя, гістарычныя, каментарыі Свяшчэннага Пісання, працы з галіны рыторыкі і граматыкі, паэзія, палітычныя творы пераважна на лацінскай, польскай і французскай мовах.

Значна меншай была бібліятэка слонімскіх дамініканцаў (Ordo Praedicatorum), якая знаходзілася ў кляштары, фундаваным у 1680 г. Крыштафам Пакрашынскім. У 1819 г. у акце візітацыі запісана: «Бібліятэка мізэрная, але ў добрым месцы размешчана. Кніг markdownрознай матэрыі ёсць агулам 255».

Невялікую бібліятэку меў і манастыр канонікаў рэгулярных латэранскіх, які быў заснаваны ў Слоніме ў 1650 г. падкаморыем ВКЛ Лявонам Казімірам Сапегам. Паводле візітацыі 1820 г. у ёй знаходзіліся 243 кнігі, у 1830 г. кнігазбор дасягнуў 400 нумароў, а ў 1836 — 779 кніг. У 1845 г. гэты кляштар быў зачынены.

Сярод жаночых манастыроў найстарэйшым у Слоніме быў канвент бернардзінак (заснаваны ў 1645 г.). Інфармацыя пра яго бібліятэку вядома з візітацыі 1820 г., дзе запісана: «Бібліятэкі гэты кляштар не мае, акрамя некаторых кніг, патрэбных для набажэнства». Поўны спіс апошніх налічвае 29 пазіцый: лацінскія брэвіярыі, казанні Пятра Скаргі, лісты Фамы Кемпійскага. У 1838 г. пасля чарговай візітацыі быў складзены спіс «ksiąg kościelnych i obrządkowych», які налічваў 37 назваў.

У заснаваным у 1669 г. кляштары бенедыкцінак (Ordo Monialium Sancti Benedicti) колькасць кніг таксама была нязначная. Візітатар у 1820 г. запісаў: «Кніг навуковых у

бібліятэцы ніякіх аўтараў няма, апрача жыцій святых і кніг для набажэнства»[283].

Некалькі значных кнігазбораў было ў кляштарах канонікаў рэгулярных. Першыя абіцелі гэтага ордэна былі заснаваны ў Быхаве вялікім гетманам ВКЛ Янам Каралем Хадкевічам у 1619 г. (пасля 1772 г. перанесена ў Азяраны) і ў Крамяніцы (недалёка ад Зэльвы) віцебскім кашталянам Мікалаем Вольскім у 1620 г. У 1650 г. падкаморы ВКЛ Лявон Казімір Сапега заклаў кляштар гэтага ордэна ў Слоніме, а ў 1668 г. віленскі ваявода Міхал Пац — у Вільні, на Антокалі (са славутым касцёлам св. Пятра і Паўла). Віленскаму кляштару належала сядзіба ў Відзах (з 1804 г.). З 26 мая 1795 г. гэтыя кляштары належалі да літоўска-рускай правінцыі ордэна (скасаваны ў 1845 г., віленскі касцёл дзейнічаў да 1864 г.). Асобныя бібліятэчкі меліся для патрэб вучняў і настаўнікаў 4 манастырскіх школ: 2 парафіяльных (у Азяранах і Слоніме) і 2 павятовых (у Слоніме і Відзах). Інфармацыя пра бібліятэку канонікаў у Быхаве захавалася толькі ў «Liber visitationum conventuum 1692—1697» М. Влашкевіча, якая знаходзіцца зараз у Кракаве[284] — на той час яна складалася з 181 назвы ў 196 тамах.

Вельмі характэрным прыкладам кнігазбору канонікаў служыць бібліятэка канвента ў Вільні: візітацыя 1820 г. падае апісанне збору, якое налічвае 2197 назваў, большасць кніг датаваны XVIII ст. Невялікі збор мелі канонікі ў Крамяніцы, перад скасаваннем кляштара (у 1832 г.) тут было 520 кніг.

Віленскім канонікам перададзена таксама бібліятэка зачыненай у 1832 г. школы ў Відзах. У 1849 г. ксёндз Ян Пагарэльскі паведамляў, што кнігі ў 1833 г. тагачасны прыёр Тамаш Камінскі аддаў прэфекту павятовай школы ў Свянцянах. Ад 1836 г. захавалася інфармацыя, што дырэктар школы ў Свянцянах адмовіўся прыняць бібліятэку з Відзаў з прычыны адсутнасці месца. Зрэшты кнігазбор свянцянскай школы ў 1873 г. паступіў у Віленскую публічную бібліятэку[285].

У 1847 г. па загаду віленскага ваеннага губернатара адбылася рэвізія манастырскіх кнігазбораў з мэтай выяўлення «палітычна забароненых» і «непрыстойных». Канфіскаваныя ў віленскіх кляштарах кнігі прадпісвалася перадаваць у Віленскую школьную камісію[286]. Калі за ўдзел манахаў у паўстанні 1863—1864 гг. кляштар быў ліквідаваны, кнігі часткова перададзены ў распараджэнне куратара Віленскай навучальнай акругі, часткова — у дыяцэзіяльную семінарыю. Кнігі канонікаў рэгулярных літоўска-рускай правінцыі сёння можна знайсці ў правінцыяльнай бібліятэцы гэтага ордэна ў Кракаве, куды яны маглі быць прывезены манахамі, а таксама трапіць як дублеты Віленскай публічнай бібліятэкі (іх лёгка ідэнтыфікаваць дзякуючы адмысловым экслібрысам). Магчыма, іх куплялі паводле друкаваных каталогаў дублетаў за 1880—1883 гг.[287]

Пасля пасяджэння сабора рускай праваслаўнай царквы ў Полацку 1839 г., які фактычна дэнансаваў рашэнні Брэсцкай уніі 1596 г. і абвясціў аб зліцці праваслаўнай і грэка-каталіцкай цэркваў, пачаўся новы этап у развіцці царкоўных і манастырскіх бібліятэк Беларусі, працэс складаны па сваім змесце і шмат у чым трагічны. Адным з аспектаў дзейнасці праваслаўнай царквы ў гэтым кірунку стала кампанія па канфіскацыі уніяцкіх богаслужэбных кніг са збораў і манастыроў. Яе ініцыятарам быў мітрапаліт Іосіф (Сямашка), а цэнтрам — Жыровіцкі манастыр, куды з усіх канцоў Беларусі сталі звозіць канфіскаваныя грэка-каталіцкія кнігі. Спачатку яны проста ляжалі без нагляду, але, калі кнігі паступова пачалі расцягваць па хатах, было прынята рашэнне аб іх поўным знішчэнні. Па афіцыйных дадзеных за перыяд з 1841 па 1857 г. было спалена больш 2 тыс. кніг, хоць сам мітрапаліт Іосіф прызнаваў, што на самай справе было знішчана нашмат больш. Да канца 1860-х гг. у Беларусі фактычна не засталося бібліятэк, не кранутых царкоўнай цэнзурай[288]. Аб трагічным лёсе кнігазбораў грэка-каталіцкай царквы сведчыць гісторыя найбуйнейшых з іх — бібліятэк Жыровіцкага, Лаўрышаўскага і Супрасльскага манастыроў.

Уціск уніятаў стаў падставай для распылення фондаў ***бібліятэкі Жыровіцкага манастыра***, створанай у XVI ст. беларускім праваслаўным магнатам Солтанам. Бібліятэка налічвала на мяжы XVIII—XIX стст. 3867 тамоў друкаваных выданняў і 537 рукапісаў. З яе фондаў, як і з фондаў іншых уніяцкіх бібліятэк, царкоўнай цэнзурай былі выключаны і затым спалены шматлікія экзэмпляры кніг. Частку рэдкіх і старажытных кніг з бібліятэкі манастыра мітрапаліт Іосіф перадаў у бібліятэку Расійскай Акадэміі навук у Пецярбургу. Пакінутая частка калекцыі пастулова прыйшла ў заняпад, кнігі з яе канфіскаваліся рознымі асобамі, у т.л. з мэтай нажывы.

У 1840-х гг. рэшткі былой бібліятэкі манастыра былі перададзены Жыровіцкай духоўнай семінарыі. У 1845 г. у сувязі з яе пераводам у Вільню, частка кніг была вывезена ў Віленскі Свята-Троіцкі манастыр,

40 царкоўнаславянскіх рукапісных кніг з іх ліку ў 1878 г. былі перададзены ў Віленскую публічную бібліятэку. Пакінутыя ў Беларусі экзэмпляры з калекцыі манастыра (каля 300) трапілі ў бібліятэку Жыровіцкага духоўнага вучылішча. Сярод іх асабліва вылучалася калекцыя падручнікаў, а таксама багаты збор энцыклапедычных і лінгвістычных слоўнікаў XVI—XVII стст. Пасля рэвалюцыйных падзей 1917 г. сляды бібліятэкі Жыровіцкага духоўнага вучылішча губляюцца.

Рознымі шляхамі кнігі з жыровіцкай бібліятэкі апынуліся ў бібліятэках Расіі, Літвы, Польшчы і Украіны. На сённяшні дзень вядомы 52 рукапісныя кнігі з 537 пазначаных у вопісе 1810 г. і больш за 100 друкаваных. Яны знаходзяцца ў бібліятэцы імя Урублеўскага АН Літвы, Санкт-Пецярбургскім філіяле Інстытута расійскай гісторыі РАН, Бібліятэцы РАН у Санкт-Пецярбургу, РГБ у Маскве, РНБ у Санкт-Пецярбургу і інш.[289].

Не менш трагічны лёс ***бібліятэкі Супрасльскага манастыра***, заснаванага ў 1498 г. навагрудскім ваяводам, маршалкам ВКЛ А.І. Хадкевічам. У яе фондах захоўваліся вельмі рэдкія выданні. У 1830-я гг. пачаўся заняпад манастыра і паступовы адток кніжных каштоўнасцей з бібліятэкі. Вядомая далёка за межамі Рэчы Паспалітай, яна прыцягвае ўвагу буйнейшых славістаў свету, што вядзе да хуткага распылення яе калекцыі. На момант поўнай перадачы рэшты кніг у Віленскую публічную бібліятэку ў 1876 г. значная частка Супрасльскага кнігазбору, самыя старажытныя і каштоўныя кнігі ўжо былі вывезены. У Вільню было перададзена толькі 1109 экзэмпляраў, пасля чаго ў бібліятэцы манастыра засталося толькі некалькі дзесяткаў царкоўнаслужэбных кніг новага друку. З 1880-х гг. бібліятэка і архіў пачалі паступова папаўняцца, і на пачатак XX ст. налічвалася ўжо 1000 адзінак захоўвання. Але і гэты збор, куды менш каштоўны, неўзабаве быў страчаны[290].

На працягу стагоддзяў складаўся кнігазбор ***бібліятэкі Лаўрышаўскага манастыра*** — аднаго са старажытнейшых на беларускіх землях. У сярэдзіне 1830-х гг., як і іншыя грэка-каталіцкія манастыры, ён быў зачынены, а маёмасць канфіскавана. Звестак аб далейшым лёсе бібліятэкі не захавалася.

Такім чынам, пасля задушэння паўстання 1830–1831 гг. і ўзмацнення рэакцыі на тэрыторыі Беларусі была спынена дзейнасць грэка-каталіцкай царквы, яе храмаў і манастыроў, навучальных устаноў і друкарняў. У выніку былі спустошаны як шматлікія бібліятэкі невялікіх храмаў, так і кніжныя калекцыі буйнейшых манастыроў Беларусі, якія фарміраваліся на працягу стагоддзяў, у т.л. Жыровіцкага, Лаўрышаўскага, Віленскага і Супрасльскага. Захаваная частка іх калекцый была распылена па свеце.

Ліквідацыя бібліятэк уніятаў і скарачэнне колькасці бібліятэк і фондаў рымска-каталіцкай царквы, якія займалі вядучае месца ў развіцці бібліятэчнай справы ў Беларусі, дазволіла царскаму ўраду значна скараціць уплыў заходніх канфесій на шырокія колы насельніцтва.

## Руская школа і руская бібліятэка

Паралельна з рэарганізацыяй канфесіянальнага ладу на тэрыторыі Беларусі будаваліся новыя навучальныя ўстановы, якія працавалі (за малым выключэннем) толькі з рускай кнігай і збіралі рускія бібліятэкі. У 1770-я гг. ў дадатак да існуючых было створана больш за 20 рускіх школ у Віцебску, Суражы, Дрысе і іншых гарадах. У 1789—1793 гг. адкрываецца яшчэ 8 галоўных чатырохкласных і малых двухкласных народных вучылішч у Магілёве, Полацку, Віцебску, Оршы, Капылі, Чэрыкаве, Чавусах і Мсціславе. Усяго ў 1-й трэці XIX ст. на тэрыторыі Беларусі былі адкрыты 6 новых гімназій і 17 павятовых вучылішч[291]. Старыя навучальныя ўстановы падвяргаліся паступовай рэарганізацыі. Так, Віцебскае піярскае, Мінскае, Жыровіцкае, Гродзенскае вучылішчы былі ператвораны ў гімназіі, а навучальныя ўстановы былой Эдукацыйнай камісіі — у вучылішчы. У свецкія школы былі таксама ператвораны навучальныя ўстановы езуітаў. У 1828 г. у Віленскай навучальнай акрузе быў прыняты новы школьны статут і скончана школьная рэформа, якая ажыццяўлялася з пачатку стагоддзя. Адным з яе вынікаў стала ператварэнне каталіцкіх навучальных устаноў у свецкія гімназіі і павятовыя вучылішчы[292].

Бібліятэкі, адкрытыя пры створаных вучылішчах, камплектаваліся ў асноўным кнігамі расійскіх аўтараў, што паступалі з Санкт-Пецярбурга. Кніжныя фонды асобных з іх — Полацкага, Віцебскага, Магілёўскага — хутка дасягаюць нават некалькіх соцень тамоў. Так, бібліятэка Полацкага чатырохкласнага вучылішча мела 425 кніг, 80% з якіх складалі выданні свецкага характару. Усяго ж з 1789 па 1794 гг. у вучылішчы Беларусі з Расіі паступіла каля 30 падручнікаў і дапаможнікаў у колькасці 17 тыс. экзэмпляраў.[293].

Павышэнне статуса вучылішч пасля ператварэння іх у гімназіі спрыяла росту фондаў бібліятэк і паляпшэнню іх утрымання. Так, кніжны фонд Віцебскай гімназіі за перыяд з 1808 па 1815 г. павялічыўся з 342 да 745 тамоў[294]. Разам з тым, рэарганізацыя навучальных устаноў каталіцкай царквы ў свецкія суправаджалася канфіскацыяй з фондаў іх бібліятэк каталіцкіх выданняў. Канфіскаваліся выданні і з бібліятэк іншых навучальных устаноў у адпаведнасці са спісамі забароненых кніг, апублікаванымі Міністэрствам духоўных спраў і народнай асветы.

Адной з самых буйных у Беларусі ў той час была бібліятэка Полацкага езуіцкага калегіума, заснаванага яшчэ ў 1580 г. У 1812 г. Аляксандр I санкцыяніраваў яго рэарганізацыю ў акадэмію з правамі універсітэта, якая да 1820 г. фактычна з'яўлялася цэнтрам новай навучальнай акругі. Выдатная бібліятэка акадэміі папаўнялася ў т.л. выданнямі Полацкай езуіцкай друкарні. У 1813 г. у фондах налічвалася каля 40 тыс. кніг, значную частку складалі выданні, вывезеныя езуітамі з зачыненых еўрапейскіх кляштараў (у Еўропе ордэн быў забаронены з 1773 г.). Пасля закрыцця Полацкай акадэміі ў 1820 г. уся яе маёмасць была перададзена ў казну: друкарня трапіла ў Кіеў, каштоўныя мастацкія творы былі вывезены ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, бібліятэка — у Пецярбургскі універсітэт (частка трапіла ў Імператарскую публічную бібліятэку). Гісторыкі часам гавораць пра 257 пудоў кніг, што былі вывезены з бібліятэкі акадэміі[295], але склад гэтага кнігазбору і яго лёс яшчэ дакладна не вывучаны.

Найбуйнейшай жа бібліятэкай з часоў ВКЛ працягвала заставацца бібліятэка Віленскага універсітэта — цэнтра асветы, навукі і культуры Беларусі і Літвы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай, калі Віленскі універсітэт апынуўся ў складзе Расійскай імперыі (дзе на той час быў толькі адзін універсітэт — Маскоўскі), новапрыдбаную ВНУ расійская ўлада захавала, назваўшы яе Галоўнай Віленскай школай. Статус універсітэта быў вернуты ў 1803 г. За перыяд з 1803 па 1832 г. фонд універсітэцкай бібліятэкі павялічыўся ў 5 разоў і дасягнуў 60 тыс. экз. Змяніўся і склад калекцыі: калі раней 80% кніг мелі тэалагічны характар, то да 1831 г. іх працэнт скараціўся да 20%. Значную частку фондаў складалі выданні па прыродазнаўчых навуках, творы гуманістаў і асветнікаў, мастацкая літаратура. Больш за трэць кніг было на французскай мове, мелася нямала кніг і на іншых заходнееўрапейскіх мовах. У гэты час у бібліятэку прыйшлі таленавітыя выпускнікі універсітэта А. Багаткевіч, Л. Сабалеўскі, З. Жукоўскі і інш., якія перабудавалі працу бібліятэкі. Была створана сістэма каталогаў (уключала алфавітны і сістэматычны), распрацаваны правілы карыстання бібліятэкай, палепшылася абслугоўванне чытачоў. Бібліятэка стала агульнадаступнай, хоць на дом літаратуру маглі браць толькі прафесары, настаўнікі гімназіі і служачыя навучальнай акругі[296].

## Бібліятэкі ў 1-й палове XIX ст.

У 1817 г. у Расіі для кіраўніцтва асветай было створана Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы, якое ўстанавіла строгі нагляд за навучальнымі ўстановамі і бібліятэкамі. Створаны пры міністэрстве Вучоны камітэт выдаваў спісы кніг, якія не дазвалялася мець у бібліятэках навучальных устаноў. Пасля прыняцця ў 1828 г. школьнага статута колькасць бібліятэк навучальных устаноў павялічылася, умацоўваліся іх фонды, паляпшалася ўтрыманне. Хваля рэакцыі, што захіснула Беларусь пасля паражэння паўстання 1830—1831 гг., пагоршыла сітуацыю. Былі зачынены брацкія школы і іншыя навучальныя ўстановы грэка-католікаў, фонды бібліятэк каталіцкіх навучальных устаноў падвяргаліся чысткам.

Найбольш адчувальныя страты былі нанесены вышэйшай адукацыі, у той час прадстаўленай адзінай для Беларусі і Літвы навучальнай установай — Віленскім універсітэтам. Да 1830-х гг. ён стаў не толькі цэнтрам асветы і культуры краю, але і цэнтрам вальнадумства і распаўсюджання дэмакратычных ідэй. Масавы ўдзел выкладчыкаў і студэнтаў у паўстанні быў прычынай закрыцця універсітэта царскімі ўладамі ў 1832 г. На яго базе былі створаны Медыка-хірургічная і Духоўная акадэміі, паміж якімі быў падзелены фонд універсітэцкай бібліятэкі; частка літаратуры перададзена Беларускай навучальнай акрузе. Неўзабаве ў 1842 г. Медыка-хірургічная акадэмія разам з бібліятэкай далучана да Кіеўскага універсітэта, а Духоўная акадэмія пераведзена ў Пецярбург[297]. Такім чынам, спыніла сваё існаванне найбуйнейшая бібліятэка, якая іграла ключавую ролю ў развіцці асветы, навукі і культуры беларускага народа.

Разам з тым узнікненне і развіццё капіталістычнай эканомікі, якая патрабавала адукаваных спецыялістаў у розных сферах дзейнасці, абумовіла неабходнасць стварэння спецыяльных навучальных устаноў і бібліятэк. Каб кампенсаваць закрыццё Віленскага універсітэта, царскі ўрад прыняў рашэнне аб заснаванні ў 1840 г. у Магілёўскай губерні Горы-Горацкай земляробчай школы, якая ў 1848 г. пераўтворана ў земляробчы інстытут.

Пры школе была адкрыта бібліятэка, якая стала першай сельскагаспадарчай бібліятэкай Беларусі. Яе першапачатковы фонд складалі 165 кніг. Пасля ператварэння школы ў інстытут бібліятэка атрымала большыя магчымасці для развіцця. Дзякуючы клопатам прафесара Міхельсона, які ўзначаліў бібліятэку, яе фонд хутка папаўняецца: у 1850 г. кнігазбор налічваў больш за 4 тыс экзэмпляраў, а ў 1860 г. вырас да 6900 тамоў. Да 1863 г. у фундаментальнай бібліятэцы інстытута і яе аддзяленнях у 3 навучальных установах — сярэднім земляробчым вучылішчы, каморніцка-таксатарскіх класах і школе фермераў — налічвалася больш за 10 тыс. тамоў навуковай, навучальнай і мастацкай літаратуры, значная колькасць перыядычных выданняў. Дзякуючы таму, што бібліятэкі вышэйшых навучальных устаноў Расіі мелі магчымасць набываць замежную кніжную прадукцыю, абыходзячы цэнзуру, у фондзе бібліятэкі пераважала літаратура на замежных мовах. Тут меліся таксама поўныя камплекты «Земляробчай газеты», «Прац Вольнага эканамічнага таварыства» і іншыя расійскія выданні. Кіраўніцтва бібліятэкай здзяйснялася адпаведнымі «Правіламі» — гэта быў першы дапаможнік для спецыяльных сельскагаспадарчых бібліятэк Расійскай імперыі[298]. Пасля паўстання 1863—1864 гг. бібліятэка разам з інстытутам была зачынена і вывезена ў Пецярбург.

Сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні, якія пачаліся ў 1-й трэці XIX ст. у Расійскай імперыі, выклікалі аб'ектыўную неабходнасць пашырэння грамадскага карыстання кнігамі. Так, паўстала ідэя «адкрыцця па губернях публічных бібліятэк для чытання», аўтарам якой з'яўляўся прэзідэнт імператарскага Вольнага эканамічнага таварыства адмірал М.С. Мардвінаў. Яго праект па стварэнні сеткі публічных бібліятэк не выходзіў за межы дзяржаўнай палітыкі ў галіне асветы. Напачатку адмірал разлічваў на дзяржаўнае фінансаванне публічных бібліятэк, якое ён лічыў галоўнай умовай паспяховай рэалізацыі сваёй ідэі. Аднак пазней Мардвінаў адмовіўся ад першапачатковай задумы. У красавіку 1830 г. ён вынес на разгляд Міністэрства ўнутраных спраў (пад апекай якога ў той час знаходзіліся бібліятэкі) прапанову аб стварэнні ў Расіі сеткі публічных бібліятэк, забеспячэнне дзейнасці якіх прапаноўвалася здзяйсняць за кошт аплаты за карыстанне імі і добраахвотных ахвяраванняў заможных мецэнатаў[299].

Прапанову М.С. Мардвінава падтрымаў міністр унутраных спраў А.А. Закрэўскі, які накіраваў губернатарам 5 ліпеня 1830 г. цыркулярны загад № 777 «Аб арганізацыі ў губернях публічных бібліятэк для чытання». Меркавалася, што акрамя «чытання кніг, якія выходзяць на рускай мове, арганізацыя падобных бібліятэк адродзіць дух грамадскасці, адкрые вялікі збыт

для добрых сачыненняў…». Прызнаючы «ў поўнай меры ісціну ідаў адмірала Мардвінава, якія вылучаюцца любоўю да айчынных выгод і імкненнем да распаўсюджвання ўсіх карысных ведаў…» — міністр асобна падкрэсліваў, што «ўстанова публічных бібліятэк у губернях, акрамя вышэйпрыведзеных добрых наступстваў, распаўсюдзіць у Расіі наогул усе звесткі і адкрыцці як у навуках і мастацтвах, так і ў коле земляробчай, мануфактурнай і гандлёвай прамысловасці і падасць кожнаму лёгкія сродкі да чытання і ўзбагачэння сябе ўсімі карыснымі звесткамі і адкрыццямі». Такім чынам, падкрэслівалася асобая — асветніцкая — місія ствараемых публічных бібліятэк, поруч з палітычнымі і эканамічнымі інтарэсамі дзяржавы.

Цыркулярам даручалася губернатарам на нарадзе з губернскім прадвадзіцелем дваранства, дырэктарамі гімназій і іншых навучальных устаноў і іншымі прыхільнікамі «карысных заняткаў з краю дваранства і купецтва» вызначыць для бібліятэкі прыстойны будынак, парадак карыстання ёй і абраць апекуноў[300].

Аднак узмацненне цэнзуры і карных мер у сувязі з паўстаннем 1830—1831 гг. затрымалі адкрыццё губернскіх публічных бібліятэк у Беларусі. Са спыненнем «гэтых неспрыяльных акалічнасцей» Міністэрствам унутраных спраў у красавіку 1832 г. губернатарам былі зноў накіраваны цыркулярныя загады аб аднаўленні дзейнасці па арганізацыі губернскіх публічных бібліятэк. Папярэднімі правіламі арганізацыі губернскай бібліятэкі, а таксама іншымі дакументамі, вызначаліся асноўныя падыходы да выдзялення памяшканняў бібліятэкам, іх фінансавання, камплектавання фондаў, арганізацыі абслугоўвання наведвальнікаў, падбору бібліятэкараў і вызначэння іх абавязкаў, а таксама складу апякунскіх саветаў[301].

У апякунскі савет губернскай публічнай бібліятэкі павінны былі ўвайсці тыя асобы, якім цыркулярам загадана ўдзельнічаць у нарадзе «аб спосабах да арганізацыі і ўладкавання бібліятэкі». Для ўдзелу ў пасяджэннях савета прапаноўвалася таксама запрашаць «дырэктара гімназіі, гарадскога главу і іншых ганаровых асоб, пераважна вядомых прыязнасцю да навук і славеснасці». Паколькі бібліятэка, «асабліва ў пачатку сваім, патрабуе няспыннай апекі», узначаліць апякунскі савет прапаноўвалася губернатару сумесна з губернскім прадвадзіцелем дваранства (маршалкам шляхты)[302].

У сувязі з тым, што «колькасць кніг, ахвяраваных для складання публічнай бібліятэкі, вельмі абмежаваная», то для размяшчэння бібліятэкі спачатку неабходна было не больш аднаго-двух пакояў, якія дзеля эканоміі сродкаў рэкамендавалася вылучаць у доме дваранскага сходу або іншым публічным будынку. У якасці асноўных крыніц фінансавання губернскіх публічных бібліятэк улада бачыла перш за ўсё добраахвотныя ахвяраванні дваран і купецтва, а таксама плату за карыстанне бібліятэкай. Выкарыстанне ж дзяржаўных сродкаў строга забаранялася, «бо сумы гэтыя маюць сваё вызначанае прызначэнне».

Абавязкі бібліятэкара да канчатковага добраўпарадкавання бібліятэкі прапаноўвалася ўскладваць на чыноўніка канцылярыі дэпутацкага сходу. Але «па мясцовым меркаванні» гэта пасада магла быць аддадзена і якому-небудзь іншаму чыноўніку, дасведчанаму ў навуках[303]. Публічныя бібліятэкі першапачаткова задумваліся як агульнадаступныя, таму іх «наведванне дазволена ўсіх класаў і абодвух палоў людзям», выключаючы асоб «у непрыстойным адзенні».

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, звязаныя з абмежаваннямі ў матэрыяльнай падтрымцы бібліятэк з боку дзяржавы, 25 кастрычніка 1833 г. у Магілёве адкрылася першая на тэрыторыі Беларусі публічная бібліятэка, якая размяшчалася ў Доме дваранскага сходу. 25 ліпеня 1834 г. Міністэрства народнай асветы дало дазвол на адкрыццё публічнай бібліятэкі ў Гродне. Дакладная дата адкрыцця губернскай публічнай бібліятэкі ў Мінску невядома; прынята лічыць, што яна была створана ў 1842 г.

Шмат гадоў абмяркоўвалася пытанне аб адкрыцці губернскай публічнай бібліятэкі ў Віцебску. Аднак, як пісалі ў 1840 г. у сваёй дакладной запісцы кіраўнікі вучылішчаў Віцебскай губерні, «нягледзячы на ўсе спосабы, якія былі дастаўлены з боку вучылішча да стварэння ў г. Віцебску губернскай бібліятэкі… дагэтуль не толькі не адкрыта яна, але, як падаецца, існаванне яе аддаляецца на нявызначаны час, бо з боку мясцовага начальства зусім не прымаецца да таго ніякіх мер»[304]. Такім чынам, з-за бюракратычнай цяганіны губернская публічная бібліятэка ў Віцебску так і не была адчынена.

Асноўнай праблемай і перашкодай у развіцці губернскіх публічных бібліятэк з моманту іх узнікнення стала адсутнасць сталых і надзейных крыніц фінансавання. Крыніца дабрачынных ахвяраванняў была не такой вялікай,

каб дазволіць публічным бібліятэкам дастойна развівацца і стаць цэнтрамі кніжнай культуры і славеснасці, як задумвалі іх стваральнікі.

Пасля вырашэння праблемы з вылучэннем памяшканняў для размяшчэння бібліятэк найбольш востра ўстала пытанне аб камплектаванні іх фондаў. У якасці крыніц паступленняў у фонды бібліятэк выступалі:

- добраахвотныя ахвяраванні «дваран… з асабістых сваіх лішніх кніг»;
- падпіска «некаторых аматараў чытання… на рускія і замежныя газеты і іншыя перыядычныя выданні», якія «пасля прачытання іх падпісчыкамі паступалі ў бібліятэку для ўсеагульнага ўжывання»;
- выданні Вольнага эканамічнага таварыства Санкт-Пецярбурга і іншых арганізацый (перадаваліся ў бібліятэкі бясплатна);
- кнігі пецярбургскага кнігагандлёўца А. Смірдзіна, які, «жадаючы садзейнічаць установе да пачатковага абзавядзення публічных бібліятэк у губернях», прапаноўваў набыць у яго 543 выданні са скідкай у 70%;
- пакупка кніг за кошт сродкаў, якія паступілі ў распараджэнне бібліятэк.

Нягледзячы на вялікую колькасць крыніц, фонды бібліятэк папаўняліся рэдка і без вызначанай сістэмы, у асноўным непапулярнымі выданнямі, і на працягу дзесяцігоддзяў заставаліся нешматлікімі і беднымі. Так, да часу адкрыцця Магілёўскай губернскай публічнай бібліятэкі яе фонд складаўся з 51 экзэмпляра кніг і перыядычных выданняў. Фонд публічнай бібліятэкі ў Гродне праз 6 гадоў пасля яе адкрыцця ў 1840 г. налічваў усяго 304 назвы кніг і перыядычных выданняў у 1161 экзэмпляры. Да 1843 г. ён павялічыўся ўсяго на 380 назваў (да 1427 экзэмпляраў). У асноўным гэта былі старыя афіцыйныя перыядычныя выданні, бясплатна перададзеныя яшчэ ў 1830-я гг. некаторымі ведамствамі і прыватнымі асобамі. У наступным дзесяцігоддзі сітуацыя засталася такой жа — у 1857 г. у бібліятэку ніякіх ахвяраванняў не паступала і кнігі не выпісваліся. Бясплатна паступіла толькі некалькі перыядычных і статыстычных часопісаў. Да 1849 г. фонд губернскай публічнай бібліятэкі ў Мінску налічваў ўсяго 758 назваў кніг (1697 экзэмпляраў)[305].

У пачатку 1850-х гг. у трох губернскіх публічных бібліятэках, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, налічвалася ўсяго каля 6 тыс. кніг[306], г.зн. прыкладна па 2 тыс. на адну бібліятэку. З такім патэнцыялам ім цяжка было прэтэндаваць на запаўненне вакууму, які стварыўся ў культурнай прасторы рэгёна пасля ліквідацыі бібліятэк Віленскага універсітэта, Полацкага калегіума, Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, якія налічвалі дзесяткі тысяч тамоў, у т.л. вельмі рэдкіх і каштоўных выданняў, якія адлюстроўвалі шматвяковыя дасягненні цывілізацыі ў сферы рэлігіі, філасофіі і навукі.

Першапачаткова меркавалася, што губернскія публічныя бібліятэкі будуць адкрыты для наведвальнікаў штодня, акрамя нядзелі і святочных дзён. Праўда, прадугледжвалася, што калі гэта зрабіць будзе немагчыма, то бібліятэкі павінны абслугоўваць наведвальнікаў «прынамсі тры або чатыры разы ў тыдзень і не меней як па чатыры гадзіны ў дзень». Такое меркаванне было больш рэалістычным і блізкім да магчымасцей мясцовых улад. Так, Магілёўская публічная бібліятэка была адчынена для наведванняў тры дні ў тыдзень (нядзеля, аўторак і чацвер) з 3 да 8 гадзін апоўдні.

Акрамя чытання ў памяшканні бібліятэкі, жадаючым «дазвалялася… браць кнігі на дом, але з забеспячэннем захаванасці іх закладам і са спагнаннем за тое некаторай колькасці грошай…». Каб узяць кнігі для чытання на дом, наведвальнікам Магілёўскай бібліятэкі неабходна было прадставіць у заклад 25 рублёў авансам, а таксама для атрымання кніг на працягу месяца заплаціць 2 рублі, за паўгода — 10, а за год — 15 рублёў.

Платнае абслугоўванне, якое перавышала рублёвы ўзнос, фактычна закрывала ўваход у бібліятэку бедным слаям насельніцтва. Акрамя таго неабходна памятаць, што мовай асветы і культуры, дзелавых зносін у Беларусі таго часу была польская, прасталюдзіны ж размаўлялі па-беларуску. Таму фонды публічных бібліятэк, сфарміраваныя з кніг на рускай мове, былі не надта прывабнымі для мясцовых жыхароў.

Плата за карыстанне кнігамі, нізкая якасць фондаў, іх неадпаведнасць патэнцыяльным запытам карыстальнікаў сталі асноўнымі фактарамі, якія стрымлівалі ператварэнне бібліятэк у масавыя ўстановы. Так, у Гродзенскай губернскай публічнай бібліятэцы ў 1857 г., г.зн. праз 23 гады пасля яе адкрыцця, налічвалася толькі 37 чытачоў, якім было выдадзена для чытання ўсяго 132 тамы. Сітуацыя ў іншых бібліятэках выглядала не лепш, за што, напрыклад, першая ў Беларусі публічная бібліятэка — Магілёўская — увайшла ў гісторыю як «бібліятэка... якая ніколі не мела чытачоў».

Бібліятэкар павінен быў «утрымліваць бібліятэку ў належным парадку, рапартаваць губернатару і камітэту аб атрымліваемых кнігах», а таксама весці рэестр наяўных

у фондзе кніг і новых паступленняў, прадстаўляць цэнзарам для праверкі каталогі бібліятэкі і інш. Разам з тым, дадатковая аплата працы бібліятэкара не прадугледжвалася: «...жалаванне бібліятэкарам павінна выплачвацца ў такім толькі выпадку, калі... магчымасці бібліятэкі гэта дазволяць». Але магчымасці, як правіла, гэта дазволіць не маглі, таму што атрымліваемых бібліятэкамі сродкаў бракавала нават для мінімальнага камплектавання фонду, не гаворачы ўжо пра выдзяленне сродкаў на зарплату бібліятэкару. Вялікі круг абавязкаў і адсутнасць аплаты працы вялі да частай змены бібліятэкараў і адсутнасці пераемнасці ў іх працы. Так, першапачаткова «прыняць на сябе званне бібліятэкара» Гродзенскай бібліятэкі пагадзіўся прэфект ксёндз Зялёнка. Аднак, як сведчаць архіўныя матэрыялы, пазней на гэтую пасаду быў прызначаны «архіварыус канцылярыі былога грамадзянскага губернатара Томаш Краскоўскі», які ў 1831 г. «збег да мяцежнікаў і без весткі знік, пакінуўшы наяўныя кнігі, часопісы і газеты, якія паступілі ў бібліятэку, у вялікай бязладзіцы і нават не ў цэласці...»[307]. Падобныя выпадкі, натуральна, таксама адмоўна адбіваліся на дзейнасці губернскіх бібліятэк.

Нягледзячы на практычна поўнае самаўхіленне ад фінансавання і матэрыяльнага забеспячэння дзейнасці бібліятэк, царскія ўлады тым не менш пакінулі за сабой права кантраляваць іх дзейнасць. Бібліятэкі разглядаліся імі як праваднікі расійскай палітыкі, мовы і культуры, інструмент барацьбы з уплывам польскіх традыцый, сродак русіфікацыі мясцовых жыхароў. Таму адразу, нават нягледзячы на малалікі склад фондаў, іх утрыманне было ўзята пад строгі кантроль. Каталогі кніг, якія паступалі ў бібліятэку і прапаноўваліся наведвальнікам для чытання, павінны былі сістэматычна прадстаўляцца ў Міністэрства ўнутраных спраў для разгляду. З мэтай больш пільнага кантролю за дзейнасцю бібліятэк і станам іх фондаў, публічныя бібліятэкі ў 1834 г. былі перападпарадкаваны Міністэрству народнай адукацыі, а дакладней, яго Галоўнаму цэнзурнаму ўпраўленню.

Такім чынам, у 1-й палове XIX ст. на тэрыторыі Беларусі ў трох губернях — Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай — былі адкрыты губернскія публічныя бібліятэкі. Яны былі закліканы стаць цэнтрамі асветы і распаўсюджання сярод жыхароў губерняў расійскай культуры, актыўна супрацьстаяць польскаму ўплыву. Аднак, не маючы матэрыяльнай падтрымкі і неабходных фінансавых сродкаў, яны ледзь трымаліся. Высокая плата за карыстанне кнігамі, беднасць фондаў, адсутнасць прыдатных памяшканняў для захоўвання кніг і арганізацыі чытальных залаў істотна абмяжоўвалі дзейнасць бібліятэк і не дазволілі ім ператварыцца ў масавыя цэнтры культуры і асветы, заняць месца спустошаных і вывезеных з тэрыторыі Беларусі кнігазбораў, якія дзейнічалі раней у буйных навучальных установах, манастырах і прыватных уладаннях і налічвалі ў сваіх калекцыях дзесяткі тысяч тамоў найкаштоўнейшых выданняў.

## Бібліятэкі Беларусі з сярэдзіны 1860-х гг. да 1917 г.

У 2-й палове XIX ст. у Беларусі з'явіліся перадумовы для больш інтэнсіўнага павелічэння колькасці бібліятэк у гарадах і ўзнікнення іх у сельскай мясцовасці. Гэта было выклікана развіццём прамысловасці, што абумовіла ўздым сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця. Разам з тым, правядзенне рэформ, у т.л. у галіне асветы, супала ў Беларусі з рэакцыяй царызму, якая наступіла пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг., што прывяло да закрыцця шэрагу бібліятэк, запаволення тэмпаў развіцця наяўных і адкрыцця новых бібліятэк. На падставе цыркуляра ад 28 сакавіка 1864 г. у Паўночна-Заходнім краі былі закрыты бібліятэкі, аснову фондаў якіх складалі польскія кнігі. Выконваючы загады цыркуляра, мясцовыя ўлады закрылі і тыя бібліятэкі, дзе польская літаратура складала толькі частку фонду. Шэраг бібліятэк быў закрыты за ўдзел іх супрацоўнікаў і апекуноў у палітычных выступленнях.

У адпаведнасці з законам аб друку 1865 г., распаўсюджаным на паўночна-заходнія губерні толькі ў 1869 г., губернатары атрымалі дазвол адкрываць кнігарні, крамы і кабінеты для чытання, для продажу і выдачы чытачам дазволенай рускай і замежнай літаратуры. Фактычна фонды бібліятэк маглі камплектавацца толькі рускамоўнымі выданнямі.

Станоўчыя змены ў развіцці бібліятэчнай справы ў Беларусі азначыліся ў 1870-я гг. У 1868 г. спынілася следства па справах удзелу ў паўстанні 1863 г., некалькі аслабілася палітыка рэпрэсій, якая праводзілася пасля яго задушэння. Пад уплывам грамадскасці ўлады змушаны былі пайсці на ўвядзенне некаторых дэмакратычных свабод. Сярод іншага дазвалялася арганізоўваць публічныя бібліятэкі. Але, каб не дапусціць распаўсюджвання дэмакратычнай літаратуры, самадзяржаўе ўсяляк абмяжоўвала іх дзейнасць.

У 1880-я гг. у сувязі з зараджэннем у Расіі сацыял-дэмакратычнага руху царскі ўрад узмацніў жорсткасць нагляду за грамадскімі арганізацыямі, у т.л. за бібліятэкамі. Выдадзеныя ў студзені 1884 г. «Часовыя правілы аб цэнзуры і друку» прадугледжвалі прызначэнне спецыяльных упаўнаважаных, адказных за адкрыццё і ўтрыманне бібліятэк. Губернатары атрымалі дазвол адхіляць ад працы загадчыка або чыноўнікаў у выпадку з'яўлення сумненняў у іх палітычнай добранадзейнасці. Міністру ўнутраных спраў было дадзена права вызначаць, якія творы друку не павінны трапляць у публічныя бібліятэкі і грамадскія чытальні, зачыняць іх у выпадку неабходнасці. Складзеныя ў адпаведнасці з гэтым «Алфавітныя спісы твораў друку, якія не павінны быць дапушчанымі да карыстання ў публічных бібліятэках і грамадскіх чытальнях» рэгламентавалі папаўненне бібліятэк. У Беларусі, дзе навуковыя бібліятэкі адсутнічалі, жорсткасць «Часовых правілаў...» была асабліва адчувальная.

У гэты перыяд царскі ўрад дазволіў таксама стварэнне бясплатных народных бібліятэк для самых бедных пластоў насельніцтва, адначасова паставіўшы іх пад строгі кантроль. На Найсвяцейшы Сінод і Вучоны камітэт Міністэрства народнай асветы ўскладваўся абавязак прагляду каталогаў бібліятэк і стварэння так званых «міністэрскіх каталогаў», якія вызначалі б склад кніжных фондаў народных бібліятэк. Першыя такія каталогі былі складзены ў 1888 г., а ў 1890 г. зацверджаны «Правілы аб бясплатных народных чытальнях і парадку нагляду за імі», у адпаведнасці з якімі за бібліятэкамі ўсталёўваўся нагляд трох ведамстваў: Міністэрства народнай асветы, Міністэрства ўнутраных спраў і духоўнага ведамства[308].

4 лютага 1888 г. найвышэйшым загадам на Асобы аддзел Вучонага камітэта Міністэрства народнай асветы быў ускладзены абавязак перагляду каталогаў бясплатных народных чытальняў (як існуючых, так і новых)[309]. Цыркулярам ад 10 сакавіка 1888 г. губернатарам прадпісвалася адсылаць каталогі гэтых бібліятэк у Міністэрства народнай асветы. На кожнае новае выданне, ужо дазволенае цэнзурай, неабходна было атрымаць дазвол Вучонага камітэта[310]. У далейшым, калі колькасць народных бібліятэк значна павялічылася, замест прагляду каталогаў Вучоны камітэт пачаў выдаваць спісы кніг, рэкамендаваных для народных бібліятэк. Хутка яны зрабіліся абавязковымі. Цыркуляр ад 9 лютага 1889 г. дазваляў бясплатным народным чытальням выдаваць карыстальнікам кнігі, дазволеныя для вучнёўскіх бібліятэк сярэдніх навучальных устаноў, а таксама надрукаваныя з дазволу Найсвяцейшага Сінода.

Пасля абнародвання Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г., які абвясціў свабоду слова, усе каталогі забароненых кніг страцілі сваю сілу. У снежні 1905 г. было скасавана рашэнне аб

абавязковым праглядзе Міністэрствам народнай асветы каталогаў народных бібліятэк. Таксама былі скасаваны выдадзеныя ў 1890 г. «Правілы аб бясплатных народных чытальнях і аб парадку нагляду над імі». У лютым 1906 г. Міністэрства народнай асветы зацвердзіла «Правілы аб народных бібліятэках пры ніжэйшых навучальных установах», паводле якіх на іх распаўсюджваліся агульныя ўказанні для публічных бібліятэк. У 1907 г. былі скасаваны алфавітныя спісы кніг, забароненых да звароту ў публічных бібліятэках і грамадскіх чытальнях. Гэта адыграла станоўчую ролю ў развіцці бібліятэк краю.

У гады спаду рэвалюцыйнага руху і разгулу рэакцыі становішча бібліятэк рэзка пагоршылася. Выдадзеныя царскай цэнзурай у 1908 і 1911 гг. спісы кніг, якія належала арыштаваць, зноў абмежавалі магчымасці папаўнення фондаў бібліятэк і прывялі да скарачэння іх колькасці. Як адзначаюць даследчыкі, «дзяржаўная палітыка ў галіне асветы ў XIX ст. была скіравана не на распаўсюджанне чытання, а на яго стрымліванне, абмежаванне даступнасці і скарачэнне кола чытання… Цэнзурнае заканадаўства вызначала не толькі тое, што нельга чытаць, але менавіта тое (і толькі тое), што можна…»[311].

Развіццё бібліятэк розных рэлігійных канфесій у дадзены перыяд зведала значныя змены. За падтрымку паўстанцаў былі закрыты рыма-каталіцкія саборы і кляштары, а іх маёмасць, як і маёмасць царкоўнаслужыцеляў, якія падтрымалі паўстанне, канфіскавана. Такім чынам, услед за скасаваннем грэка-каталіцкай царквы ў 2-й трэці XIX ст., у 1860-я гг. быў істотна скарочаны ўплыў рыма-каталіцкай царквы. Пратэстантызм да таго часу ў Беларусі не іграў істотнай ролі. Дамінуючае становішча ў духоўным жыцці грамадства, у т.л. у бібліятэчнай справе, заняла руская праваслаўная царква.

Разам з маёмасцю касцёлаў і кляштараў былі канфіскаваны і іх бібліятэкі. Некаторая іх частка трапіла ў іншыя бібліятэкі, у першую чаргу ў Віленскую публічную бібліятэку, а таксама асобныя прыватныя зборы. У той жа час актыўнае развіццё на беларускіх землях атрымліваюць храмавыя бібліятэкі рускай праваслаўнай царквы. Да канца XX ст. бібліятэка была ў кожным трэцім-чацвёртым праваслаўным храме. Абапіраючыся на наяўныя статыстычныя дадзеныя (гл. табл. 1), можна выказаць здагадку, што ў той час пры праваслаўных храмах Беларусі дзейнічала каля 1000 бібліятэк.

**Храмавыя (царкоўныя) бібліятэкі рускай праваслаўнай царквы ў Паўночна-Заходнім краі ў канцы XIX — пачатку XX ст.**[312]

*Табліца 1*

| № п/п | Назва епархіі | Колькасць цэркваў | Колькасць бібліятэк |
|---|---|---|---|
| 1. | Гродзенская епархія | 612 | 209 |
| 2. | Літоўская епархія | 411 | 160 |
| 3. | Мінская і Тураўская епархія | 1 228 | 500 |
| 4. | Магілёўская епархія | 816 | Няма звестак |
| 5. | Полацкая епархія | 546 | 297 |
| | Усяго | 3 613 | 797 |

У той жа час змяняецца становішча і роля бібліятэк навучальных устаноў на тэрыторыі краю. Змагаючыся з польскім і каталіцкім уплывам, царызм пачаў больш актыўна праводзіць русіфікатарскую палітыку. У сакавіку 1864 г. у выніку паўстання, паднятага студэнтамі і выкладчыкамі, была закрыта адзіная на той час на тэрыторыі сучаснай Беларусі вышэйшая навучальная ўстанова — Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Спыніла дзейнасць і яго бібліятэка. У тым жа годзе ўлады закрылі яшчэ шэраг сярэдніх навучальных устаноў, у якіх меліся бібліятэкі, у т.л. Маладзечанскую, Навагрудскую і Свіслацкую гімназіі[313]. Паводле «Часовых правілаў для народных вучылішчаў Паўночна-Заходняга краю» (1864) у школах забаранялася выкарыстанне польскай мовы: выкладанне і нават зносіны ў пазаўрочны час павінны былі ажыццяўляцца на рускай мове. Школы і іх бібліятэкі забяспечваліся навучальнай і рэлігійна-маральнай літаратурай, якая была накіравана на фарміраванне ў навучэнцаў вернападданства.

У пачатку XX ст. у развіцці сістэмы адукацыі назіраецца значны рост. Аднадзённы перапіс пачатковых школ, які праводзіўся ў Расійскай імперыі 18 студзеня 1911 г., зафіксаваў у Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губернях Віленскай навучальнай акругі 8384 пачатковыя школы, дзве трэці з якіх (5433) мелі настаўніцкія бібліятэкі, а ў 3495 былі зборы кніг для пазашкольнага чытання (табл. 2).

**Бібліятэкі пачатковых школ Віленскай навучальнай акругі ў 1911 г.**[314]

*Табліца 2*

| Губерня | Агульная колькасць вучылішчаў | Колькасць вучылішчаў, якія маюць | | |
|---|---|---|---|---|
| | | кнігі для пазакласнага чытання | настаўніцкія бібліятэкі | народныя бібліятэкі |
| Віленская | 1114 | 460 | 707 | 162 |
| Віцебская | 1524 | 718 | 1131 | 228 |
| Гродзенская | 1575 | 789 | 1049 | 147 |
| Ковенская | 589 | 342 | 487 | 139 |
| Мінская | 2086 | 756 | 1240 | 403 |
| Магілёўская | 2085 | 772 | 1306 | 340 |
| Усяго | 8973 | 3837 | 5920 | 1419 |

кніг у 6 тыс. тамоў, а ў вучнёўскай — 1,8 тыс. назваў у 3,2 тыс. тамоў.

Прыкладна ў той жа час у гімназіях навучальнай акругі дзейнічала 75 бібліятэк: 37 фундаментальных і 38 вучнёўскіх з сукупным аб'ёмам фонду больш за 250 тыс. экз. (табл. 4). Значная частка бібліятэк і іх фондаў (тры чвэрці) знаходзілася ў мужчынскіх гімназіях. Асноўную ролю ў сістэме сярэдняй адукацыі гралі дзяржаўныя гімназіі, у фондах жа прыватных гімназій знаходзілася меней за 1% выданняў. У сярэднім у фундаментальнай бібліятэцы гімназіі налічвалася 1,9 тыс. назваў у 4,4 тыс. тамах, а ў вучнёўскай — адпаведна 1,4 і 2,4 тыс. Разам з тым, фонды маглі значна адрозніваацца. Так, у бібліятэцы Віцебскай губернскай гімназіі яшчэ ў 1880 г. налічвалася больш за 13 тыс. экзэмпляраў кніг і перыядычных выданняў.

У сувязі з развіццём сістэмы сярэдняй адукацыі атрымалі развіццё бібліятэкі рэальных вучылішчаў і гімназій. Іх асаблівасцю з'яўляецца тое, што ў кожнай навучальнай установе дзейнічалі фундаментальная бібліятэка, прызначаная ў асноўным для выкладчыкаў, і вучнёўская бібліятэка.

У 1910 г. у рэальных вучылішчах Віленскай навучальнай акругі дзейнічала 18 бібліятэк, у т.л. 9 фундаментальных і 9 вучнёўскіх, у якіх налічвалася амаль 42 тыс. назваў кніг у 82 тыс. тамоў (табл. 3)[315]. У сярэднестатыстычнай фундаментальнай бібліятэцы рэальнага вучылішча ў той час знаходзілася прыкладна 3 тыс. назваў

**Бібліятэкі рэальных вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі ў 1911 г.**[316]

*Табліца 3*

| № п/п | Від бібліятэк | Колькасць бібліятэк | Аб'ём фонду: | |
|---|---|---|---|---|
| | | | назваў | тамоў |
| 1 | Фундаментальныя бібліятэкі | 9 | 25 914 | 52 843 |
| 2 | Вучнёўскія бібліятэкі | 9 | 16 058 | 29 194 |
| | Усяго | 18 | 41 973 | 82 037 |

У апошняй трэці XIX ст. у Беларусі пачынаюць ствараць бібліятэкі навуковых і культурных таварыстваў, якія пачалі ўзнікаць яшчэ ў пачатку стагоддзя. Пасля паўстання 1863—64 гг. цікавасць грамадскасці да гісторыі, побыту і культуры Беларусі яшчэ больш узрастае. У 60—70-я гг. XIX ст. вывучэнне Беларусі паступова становіцца справай мясцовай інтэлігенцыі, пачынаюць фарміравацца рэгіянальныя этнаграфічныя цэнтры. Даследчыкі краю аб'ядноўваліся вакол Паўночна-Заходняга аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства, Вольнага эканамічнага таварыства, а таксама іншых таварыстваў і гурткоў. Характэрнай асаблівасцю навукі Беларусі канца XIX — пачатку XX ст. становіцца стварэнне культурна-асветніцкіх навуковых устаноў, музеяў, розных таварыстваў, мэтай дзейнасці якіх было вывучэнне гісторыі, мовы, эканамічных умоў,

**Бібліятэкі мужчынскіх і жаночых гімназій Віленскай навучальнай акругі ў 1911 г.**

*Табліца 4*

| № п/п | Від бібліятэк | Колькасць бібліятэк | Аб'ём фонду | |
|---|---|---|---|---|
| | | | назваў | тамоў |
| 1 | Бібліятэкі мужчынскіх гімназій, у т.л. | 31 | 89 903 | 195 325 |
| 1.1 | урадавых, з іх | 28 | 88 027 | 192 836 |
| 1.1.1 | фундаментальныя бібліятэкі | 14 | 58 683 | 139 284 |
| 1.1.2 | вучнёўскія бібліятэкі | 14 | 29 344 | 53 552 |
| 1.2 | прыватных, з іх | 3 | 1 876 | 2 489 |
| 1.2.1 | фундаментальныя бібліятэкі | 1 | 199 | 242 |
| 1.2.2. | вучнёўскія бібліятэкі | 2 | 1 677 | 2 247 |
| 2 | Бібліятэкі жаночых гімназій, у т.л. | 44 | 32 181 | 59 827 |
| 2.1 | фундаментальныя бібліятэкі | 22 | 10 975 | 25 052 |
| 2.2 | вучнёўскія бібліятэкі | 22 | 21 206 | 34 775 |
| | Усяго: | 75 | 122 084 | 255 152 |
| | фундаментальныя бібліятэкі | 37 | 69 857 | 164 578 |
| | вучнёўскія бібліятэкі | 38 | 52 227 | 90 574 |

культуры і этнаграфіі Беларусі. У перыяд з 1900 па 1914 гг. у Беларусі былі адкрыты 54 таварыствы. З мэтай аб'яднання намаганняў навукоўцаў краю ў 1907 г. у Вільні было створана «Беларускае навуковае таварыства».

Найбольш актыўную дзейнасць у краі разгарнулі медыцынскія і сельскагаспадарчыя таварыствы. Адным з першых у Расійскай імперыі ў 1805 г. паўстала Віленскае медыцынскае таварыства, у 1862 г. было створана Магілёўскае медыцынскае таварыства, у 1867 г. — Мінскае, у 1869 г. Гродзенскае і ў 1877 г. Віцебскае. Актыўная праца членаў таварыства дазволіла ім дамагчыся значных вынікаў. Так, лекарамі Мінскага таварыства за 50 гадоў яго існавання было апублікавана больш за 500 навуковых прац і абаронена каля 30 дысертацый. Адным з найстарэйшых у Расіі з'яўлялася таксама Беларускае вольнае эканамічнае таварыства, заснаванае ў 1826 г. у Віцебску. У 1876 г. ствараецца Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі, а ў 1877 г. у Віцебску — Таварыства Віцебскіх сельскіх гаспадароў.

У галіне культуры найбольш вядомым было Мінскае таварыства аматараў прыгожых мастацтваў, якое налічвала каля 650 членаў і мела літаратурную, драматургічную, музычную і мастацкую секцыі.

Бібліятэкі, арганізаваныя пры навуковых і культурных таварыствах, абслугоўвалі, як правіла, толькі членаў таварыства і камплектаваліся, у першую чаргу працамі, якія выдаваліся таварыствам, а таксама матэрыяламі, набытымі ў кнігагандляроў у адпаведнасці з іх профілем. Асаблівая роля ў папаўненні фондаў бібліятэк навуковых таварыстваў адводзілася кнігаабмену. Так, да канца XIX ст. Віленскае Медыцынскае таварыства абменьвалася выданнямі з 91 медыцынскім таварыствам, універсітэтамі і прыватнымі асобамі. Мінскае таварыства здзяйсняла абмен з 50 таварыствамі і універсітэтамі.

Самую багатую навуковую бібліятэку ў Паўночна-Заходнім краі сфарміравала Беларускае навуковае таварыства. Да 1914 г. яна мела каля 50 тыс. кніг і перыядычных выданняў, а таксама рукапісы па гісторыі, эканоміцы і культуры Беларусі і Літвы[318].

Сярод бібліятэк навуковых таварыстваў, якія дзейнічалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, асобнае месца займае бібліятэка Віцебскай навуковай архіўнай камісіі, узніклая па ініцыятыве мясцовых краязнаўцаў разам з Камісіяй у 1908 г. з мэтаю вывучэння гісторыі Полацка-Віцебскага краю, аховы помнікаў гісторыі і культуры Віцебшчыны. Фонд бібліятэкі складалі дароўныя кнігі са збораў вядомых краязнаўцаў А. Сапунова, У. Арсеньева, У. Стукаліча, больш за 400 тамоў з бібліятэкі А. Семянтоўскага-Курылы, кнігі са збораў этнографа М. Нікіфароўскага і выданні, якія паступілі ад 103 універсітэтаў, музеяў, архіваў, статыстычных камітэтаў і

інш. арганізацый. Камісія абменьвалася сваімі выданнямі з Каліфарнійскім універсітэтам, Смітсанаўскім інстытутам у Вашынгтоне, Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкай. Сярод яе кніг былі працы вядомых краязнаўцаў і навукоўцаў: М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага, У. і Ю. Арсеньевых, Б. і У. Мадзалеўскіх і інш. Да канца 1911 г. бібліятэка налічвала ў сваіх фондах 1859 назваў кніг і перыядычных выданняў у 3726 экз.

Значнымі былі таксама бібліятэкі таварыстваў лекараў, адкрытых у канцы XIX ст. у губернскіх цэнтрах Беларусі. Так, у 1909 г. у бібліятэцы Мінскага таварыства лекараў было 7417 экз. медыцынскіх выданняў на нямецкай, французскай і інш. мовах[319]. Бібліятэкі функцыяніравалі таксама пры Віленскім, Магілёўскім, Віцебскам і Гродзенскім таварыствах лекараў.

Невялікія бібліятэкі мелі і сельскагаспадарчыя таварыствы. У 1876 г. арганізуе бібліятэку Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі. У пачатку XX ст. яе фонд склаў 1175 экз. кніг[320]. У 1878 г. адкрыла бібліятэку таварыства Віцебскіх сельскіх гаспадароў, у 1912 г. — Давыд-Гарадоцкае сельскагаспадарчае таварыства. Значнай была бібліятэка Мінскай балотнай станцыі.

Спецыяльныя бібліятэкі дзейнічалі таксама пры кожным губернскім статыстычным камітэце. Невялікія бібліятэкі былі адкрыты Гродзенскім таварыствам «Муза» (1908), Мінскім таварыствам сяброў музыкі (1913) і інш. Бібліятэкі навуковых і культурных таварыстваў у пэўнай ступені кампенсавалі адсутнасць у Беларусі дзяржаўных навуковых і універсітэцкіх бібліятэк, але, натуральна, не маглі іх цалкам замяніць.

Распаўсюджванню спецыяльных ведаў сярод насельніцтва садзейнічала таксама дзейнасць спецыяльных ведамасных бібліятэк, арганізацыя якіх пачалася ў Беларусі з канца XIX ст. на чыгунцы. Найбольшай была бібліятэка пры ўпраўленні Палескай чыгункі ў Гомелі, у фондзе якой да канца XIX ст. налічвалася 8637 кніг і 39 назваў перыядычных выданняў. Невялікія бібліятэкі былі адкрыты на сваёй лініі, у т.л. і ў Мінску Маскоўска-Брэсцкай чыгункай. Пры ўпраўленні Лібава-Роменскай чыгункі на станцыі Мінск у 1889 г. таксама адкрылася бібліятэка. У 1910 г. яна мела ў сваім фондзе 2682 кнігі і выпісвала 33 перыядычныя выданні. У 1908 г. гэтым жа ўпраўленнем была адкрыта бібліятэка для чыноўнікаў чыгуначнага вузла ў Гомелі.

Сур'ёзныя змены ў гэты перыяд адбыліся і ў развіцці публічных бібліятэк. Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. для публічных бібліятэк беларускіх губерняў наступілі цяжкія дні. У мэтах барацьбы з паланізацыяй, у якой расійскія ўлады бачылі асноўную крыніцу сваіх бед, у Беларусі было забаронена адкрыццё публічных бібліятэк. Гэта надоўга затрымала развіццё ў краі сістэмы бібліятэк гэтага віду і з'явілася адной з прычын занепаду створаных у 1830—40-я гг. губернскіх публічных бібліятэк.

Выконваючы загады цыркуляра ад 28 сакавіка 1864 г. аб закрыцці ў Паўночна-Заходнім краі бібліятэк, аснову фондаў якіх складаюць польскія кнігі, мясцовыя ўлады зачынялі і тыя бібліятэкі, дзе польская літаратура складала толькі частку іх фонду. Такім чынам, нароўні з іншымі была спынена дзейнасць і губернскіх публічных бібліятэк. Паступова асноўную адказнасць за арганізацыю іх дзейнасці ўлады пераклалі на адміністрацыю вучылішчаў. Публічныя бібліятэкі апынуліся ў вельмі складаных умовах як у тым, што датычылася памяшканняў, так і адносна сродкаў на камплектаванне фондаў. З аднаго боку, ахвяраванні на іх дзейнасць былі вельмі мізэрныя, а з іншага, дырэктары вучылішчаў не маглі і не жадалі дзяліцца сродкамі на набыццё літаратуры для публічных бібліятэк. У выніку Міністэрства народнай асветы пры разглядзе пытання аб дзейнасці губернскіх публічных бібліятэк вымушана было канстатаваць, што сфарміраваныя ў іх фонды «…мала цікавяць большасць публікі…»[321].

Не вылучаючы неабходных сродкаў на функцыяніраванне бібліятэк, царскі ўрад тым не менш цвёрда кантраляваў іх дзейнасць. Нават у адносна вольныя 1890-я гг. губернскім публічным бібліятэкам загадвалася «…аддаваць перавагу … хрысціянскаму і асабліва праваслаўнаму элементу перад яўрэйскім і каталіцкім; …не выпісваць кніг і часовых выданняў на польскай і яўрэйскай мовах». Акрамя таго, у губернскія публічныя бібліятэкі павінны былі дапускацца «…толькі яе члены і падпісчыкі…», якія ўносілі адпаведную плату за карыстанне. Доступ у бібліятэку «…бясплатных (па беднаце) і выпадковых наведвальнікаў, павінен быць выключаны…»[322].

У выніку цэнзурных абмежаванняў і пастаяннага фінансавага голаду губернскія публічныя бібліятэкі існавалі ў Беларусі ў названы перыяд хутчэй дэ-юрэ, чым дэ-факта. Так, пасля страт ад пажару ў маі 1865 г. Мінская губернская публічная бібліятэка фактычна пе-

ратварылася ў склад старых кніг і мясцовыя ўлады так і не знайшлі сродкаў на яе адкрыццё. Магілёўская губернская публічная бібліятэка, якая мела хранічны недахоп асігнаванняў, недахоп новых кніг і перыядычных выданняў, так і не аднавіла сваёй дзейнасці. Не была адкрыта губернская публічная бібліятэка і ў Віцебску. Адзінай губернскай бібліятэкай, якая працягвала фармальна існаваць, з'яўлялася публічная бібліятэка ў Гродне, але і яна ледзьве зводзіла канцы з канцамі. У сілу гэтых прычын губернскія публічныя бібліятэкі не змаглі выканаць ускладзеныя на іх надзеі і стаць цэнтрамі кніжнасці, культуры і адукацыі на беларускіх землях.

Па ініцыятыве мясцовай інтэлігенцыі ў Беларусі яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. пачалося стварэнне грамадскіх публічных бібліятэк. Першая ж «агульная таварыская бібліятэка» была арганізавана віцебскай моладдзю яшчэ ў 1840-х гг., але з-за фінансавых цяжкасцей яна праіснавала ўсяго шэсць гадоў. Ідэя стварэння грамадскіх публічных бібліятэк атрымала шырэйшае распаўсюджанне ў пачатку 1860-х гг. У гэты час адкрываецца грамадская бібліятэка ў Навагрудку, маладзёжная бібліятэка ў Ашмянах і іншых гарадах. У іх пераважалі польскія і французскія выданні, набывалася прагрэсіўная для таго часу літаратура[323]. Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. шэраг грамадскіх бібліятэк быў зачынены, у т.л. і Навагрудская грамадская бібліятэка. Аднак пад уплывам грамадскасці царскія ўлады змушаны былі ў канцы 1860-х гг. пайсці на дараванне некаторых дэмакратычных свабод, у т.л. на адкрыццё публічных бібліятэк. Але, каб не дапусціць распаўсюджвання праз бібліятэкі дэмакратычных ідэй, царскае самадзяржаўе цвёрда рэгламентавала іх дзейнасць. Асноўнай мэтай стварэння публічных бібліятэк была абвешчана асвета мясцовага насельніцтва, распаўсюджанне рускіх кніг і мовы.

Для ўсталявання за публічнымі бібліятэкамі належнага цэнзурнага і палітычнага нагляду яны ў 1867 г. зноў былі перападпарадкаваны Міністэрству ўнутраных спраў. У 1884 г. царскім урадам былі зацверджаны «Правілы адносна адкрыцця і ўтрымання публічных бібліятэк і кабінетаў для чытання», якія рэгламентавалі ўсе бакі іх дзейнасці. У адпаведнасці з правіламі кіраванне бібліятэкай здзяйснялася праз агульныя зборы, да ўдзелу ў якіх не дапускаліся асобы жаночага полу, выхаванцы навучальных устаноў, ніжнія воінскія чыны і асобы, якія падвергліся абмежаванню правоў паводле рашэння суда. Пад апошняе падпадалі ў першую чаргу ўдзельнікі сацыял-дэмакратычнага і нацыянальна-вызваленчага руху.

Асаблівая ўвага ўладамі надавалася складу кніжных збораў бібліятэк. Для кантролю за іх станам адначасова з «Часовымі правіламі аб цэнзуры і друку» 1884 г. былі выдадзены «Алфавітныя спісы твораў друку, якія не павінны быць дапушчаны ў публічныя бібліятэкі і грамадскія чытальні». Своеасаблівая мадэль фонду публічнай бібліятэкі Беларусі таго часу была выкладзена ў праекце стварэння бібліятэкі ў м. Драгічын Кобрынскага павета Гродзенскай губерні. Ствараемая «для распаўсюджвання чытання рускіх кніг...», яна павінна была ўтрымліваць «...а) некалькі лепшых агульнакарысных кніг у галіне агульнай практычнай і тэарэтычнай гаспадаркі і па розных яе галінах; б) хоць па адным экзэмпляры лепшага агульнакарыснага выкарыстання кожнай неабходнай у штодзённым жыцці навукі пераважна папулярнага выкладання, напрыклад, гісторыі, геаграфіі, фізікі, заалогіі, батанікі, народнай медыцыны, палітычнай эканоміі і інш.; в) некалькі твораў рускіх пісьменнікаў, вершапісцаў і празаікаў, прадстаўнікоў прыгожага пісьменства, якія асабліва характэрна паказваюць народнае рускае жыццё; г) некалькі апісальных твораў, якія добра знаёмяць са становішчам Рускай дзяржавы, таксама з побытам народаў розных краін, іх адукацыяй, прамысловасцю і гандлем; д) адзін або некалькі заканадаўчых зборнікаў, якія знаёмяць з галоўнымі законамі і парадкам судавытворчасці;)... па адным або па два перыядычныя выданні часопісаў і газет для больш адукаваных людзей і асобна для простых людзей»[324].

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, рух за адкрыццё публічных бібліятэк ахапіў насельніцтва Беларусі. У 1863 г. жыхары Гродна звярнуліся ў Міністэрства народнай асветы з просьбай адкрыць новую публічную бібліятэку, паколькі губернская бібліятэка абслугоўвала толькі прадстаўнікоў дваранства. Але неўзабаве пасля яе адкрыцця, у тым жа годзе, бібліятэка была аб'яднана з губернскай і далей працягвала дзейнічаць на базе агульнага новага статуту.

У 1864 г. на сродкі дабрачыннага таварыства была адкрыта гарадская публічная бібліятэка ў Віцебску, у фондзе якой праз год налічвалася ўжо 400 кніг. У наступныя гады яе кнігазбор значна павялічыўся, але неўзабаве ён быў прададзены[325]. Аднак у 1874 г. дабрачыннае таварыства зноў адкрывае ў горадзе бібліятэку, у якой праз два гады налічваецца ўжо 906 кніг

на рускай і 334 кнігі на французскай і нямецкай мовах. У 1868 г. віцебскае дваранства засноўвае сваю бібліятэку, якая да канца стагоддзя становіцца найбагацейшай бібліятэкай горада[326].

Пасля закрыцця губернскай бібліятэкі мінчане, не маючы сродкаў на адкрыццё грамадскай публічнай бібліятэкі, адкрылі ў 1869 г. у сваім горадзе бібліятэку-чытальню. У яе фондзе пераважала ў асноўным руская літаратура і перыёдыка. На жаль, неўзабаве чытальня прыйшла ў заняпад і звесткі аб ёй губляюцца. У маі 1869 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё публічнай бібліятэкі ў Магілёве, якая размясцілася ў так званым гарадскім доме. Яе аснову склалі аб'яднаныя бібліятэкі дваранскага сходу, статыстычнага камітэта і губернскага праўлення. Да канца стагоддзя ў яе фондзе меўся 4121 экз. кніг і шэраг перыядычных выданняў. Карыстанне бібліятэкай было платнае, што абмяжоўвала доступ у яе прадстаўнікоў ніжэйшых саслоўяў.

З ініцыятывай аб стварэнні публічнай бібліятэкі ў сваім горадзе ў студзені 1869 г. выступілі жыхары м. Драгічын Кобрынскага павета Гродзенскай губерні. З аналагічнымі просьбамі да ўлад звярнуліся жыхары Ваўкавыска, Глуска, Слуцка, Рэчыцы, Пружан і іншых населеных пунктаў. Сярод розных сацыяльных груп асабліва актыўнымі ў гэтым кірунку былі яўрэйскія суполкі. Клапоцячыся аб маральнасці і асвеце сваіх суграмадзян, яны хадайнічалі аб адкрыцці бібліятэк «рускіх і яўрэйскіх кніг» у сваіх гарадах. З такімі просьбамі да ўлад звярнуліся яўрэйскія суполкі Дзятлава, Беразіно, Бабруйска і інш. гарадоў[327]. Не ўсе хадайніцтвы былі падтрыманыя ўладамі, але дзякуючы высілкам і на сродкі мясцовай інтэлігенцыі і гарадскіх самаўпраўленняў у Беларусі ў апошняй трэці XIX ст. у шэрагу гарадоў былі створаны публічныя бібліятэкі.

У Беларусі, дзе, як адзначалі расійскія службоўцы, «...веданне кніжнай і правільнай гутарковай рускай мовы ў мясцовым насельніцтве вельмі нездавальняючае» стварэнне і развіццё бібліятэк, якія змяшчалі пераважна рускамоўныя кнігі, ішло няпроста. Галоўнымі фактарамі, якія стрымлівалі адкрыццё бібліятэк, былі цэнзурныя абмежаванні і адсутнасць сродкаў на іх утрыманне. Тым не менш да 1886 г. на тэрыторыі Беларусі налічвалася ўжо 35 публічных бібліятэк. У іх ліку былі грамадскія і камерцыйныя публічныя бібліятэкі і кабінеты для чытання, прышкольныя народныя бібліятэкі. Напярэдадні стогадовага юбілею з дня нараджэння А.С. Пушкіна грамадскасць шэрагу гарадоў Беларусі звярнулася з хадайніцтвам аб адкрыцці ў іх гарадах публічных бібліятэк. Не ўсе прапановы атрымалася рэалізаваць, аднак у 1900 г. гарадскія публічныя бібліятэкі імя А.С. Пушкіна былі адкрыты ў Мінску, Оршы і Бабруйску.

У перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг., царскі ўрад змушаны быў зняць некаторыя абмежаванні, усталяваныя раней на дзейнасць бібліятэк. У 1907 г. былі скасаваны «Алфавітныя спісы кніг, забароненых да выкарыстання ў публічных бібліятэках і грамадскіх чытальнях», што стварыла больш спрыяльныя ўмовы для камплектавання кніжных фондаў і, несумненна, сыграла станоўчую ролю ў дэмакратызацыі працы бібліятэк, садзейнічала павелічэнню колькасці публічных бібліятэк у губернскіх і павятовых гарадах Беларусі. З'явіліся новыя бібліятэкі ў Мінску, Оршы, Бабруйску, Віцебску, Полацку, Гомелі і іншых гарадах.

29 студзеня 1905 г. адбылося адкрыццё публічнай бібліятэкі ў Віцебску[328]. Аднак праз 6 гадоў яе заснавальнікі вымушаны былі канстатаваць, што «...яна ледзьве вядзе сваё існаванне...». Фінансавых паступленняў «...бракуе звычайна на пастаянныя расходы...». Бібліятэку ледзьве атрымліваецца «падтрымліваць ... выпіскай перыядычных выданняў, аб выпісцы ж кніг не прыходзіцца зусім і думаць. [...] Пры такім нікчэмным становішчы бібліятэкі, і так надзвычай беднай кнігамі, бо ўсяго маецца 1917 назваў у 4056 т., з якіх маса, якія не маюць ніякай цікавасці, набытых праз ахвяраванне, і лік падпісантаў не можа расці хутка...»[329].

Па ініцыятыве дэмакратычнай грамадскасці ў канцы 1911 г. у Мінску была адкрыта бібліятэка-чытальня імя Л.М. Талстога, якая ўвекавечвала памяць пісьменніка, а ў лістападзе 1912 г. адкрылася бібліятэка-чытальня ў азнаменаванне 100-годдзя вайны 1812 г. Яшчэ адна бібліятэка-чытальня была створана на ўскраіне горада, населенай беднымі пластамі насельніцтва. У 1911 г. у Гомелі адкрываецца грамадская публічная бібліятэка імя М.В. Гогаля. У тым жа годзе адкрываецца бібліятэка-чытальня ў Полацку з першапачатковым фондам у 600 экз. Працягваюць дзейнічаць публічныя бібліятэкі ў Гродне і Магілёве. Такім чынам, дзякуючы сумесным намаганням мясцовых улад і грамадскасці ў пачатку XX ст. публічныя бібліятэкі дзейнічалі ўжо ў большасці гарадоў Беларусі. Так, у 1910 г.

публічныя бібліятэкі працавалі ў 75% гарадоў Мінскай губерні, 82% — Гродзенскай[330].

Адной з найбольш буйных і прагрэсіўных публічных бібліятэк на тэрыторыі Беларусі ў пачатку XX ст. была Мінская гарадская публічная бібліятэка імя А.С. Пушкіна, адкрытая 25 снежня 1900 г. у гонар 100-годдзя з дня нараджэння паэта. Да адкрыцця бібліятэкі грамадскасць горада ахвяравала ёй каля 2 тыс. кніг, а Камітэт ушанавання 100-годдзя А.С. Пушкіна перадаў 1545 руб. У далейшым гарадская дума штогод выдзяляла 555 рублёў на ўтрыманне бібліятэкі. Да канца 1914 г. яе кніжны фонд склаў 15 тыс. экз.

Нягледзячы на шэраг арганізацыйных і фінансавых цяжкасцей, да пачатку Першай сусветнай вайны публічныя бібліятэкі былі створаны ў большасці гарадоў Беларусі, а таксама ў шэрагу сельскіх населеных пунктаў. У 1913 г. на тэрыторыі Беларусі дзейнічала 851 публічная бібліятэка з кніжным фондам 423 тыс. экз., з іх у гарадах — 83 бібліятэкі з фондам 185 тыс. экз., у сельскай мясцовасці — 768 бібліятэк з фондам 238 тыс. экз. У сілу розных прычын эфектыўнасць іх выкарыстання была невялікая — бібліятэкамі ў гарадах карысталася 30—35 тыс. чытачоў (3—3,5% насельніцтва), а на вёсцы — 15—18 тыс. (0,2—0,3%).




*Каталог мінскай бібліятэкі імя А.С. Пушкіна. Вільня, 1913 г.*

Разам з грамадскімі публічнымі бібліятэкамі ў 30—40-я гг. XIX ст. у Беларусі з'яўляюцца камерцыйныя бібліятэкі і кабінеты для чытання пры кніжных крамах і крамах, якія выконвалі ў вядомай меры функцыі публічных бібліятэк. Тут не толькі прадавалі кнігі, але і выдавалі іх для чытання за вызначаную плату. Але такія бібліятэкі тады шырокага распаўсюджання не атрымалі. Іх дзейнасць актывізавалася ў другой палове XIX ст. у сувязі з пашырэннем сферы ўплыву расійскіх кнігавыдаўцоў і кнігагандляроў.

У 1857 г. у Віцебску адкрываецца кніжная крама-чытальня Л. Мендэльсона, у 1864 г. — І. Місюры. Да канца стагоддзя ў Віцебску ўжо мелася 7 камерцыйных бібліятэк. Найбуйнейшай сярод іх была бібліятэка П. Чарвінскай — адна з першых камерцыйных бібліятэк, дзе кнігі выдаваліся на дом. У 1870-я гг. з'яўляюцца бібліятэкі і ў кнігарнях Гродзенскай губерні, а да канца стагоддзя іх налічваецца ўжо больш за 12[331]. Толькі за 1871—1897 гг. у Мінскай губерні было адкрыта каля 60 камерцыйных бібліятэк, амаль палова з іх — у Мінску і павятовых гарадах Пінску, Слуцку, Бабруйску, Мазыры, Рэчыцы. Найбуйнейшай з іх да канца стагоддзя ў Мінску стала бібліятэка Чапялінскага. Па меркаванні спецыялістаў, колькасць камерцыйных бібліятэк і кабінетаў для чытання стала расці і амаль паўсюдна аж да 1917 г. перавышала колькасць грамадскіх публічных бібліятэк. Да пачатку 1914 г. толькі ў Мінскай губерні налічвалася больш за 50 такіх бібліятэк.

Часткова функцыі публічных таксама выконвалі бібліятэкі для народнага чытання (народныя бібліятэкі), якія ствараліся пры школах. Яны разглядаліся адміністрацыяй Віленскай навучальнай акругі, у першую чаргу, у якасці баз для правядзення народных чытанняў і абслугоўвання кнігамі пісьменных сялян. Бібліятэкі для народнага чытання, як аддзелы школьнай бібліятэкі, пачалі ствараццца з 1882 г. у Магілёўскай губерні, з 1883 г. — у Віленскай і Гродзенскай, з 1892 г. — у Віцебскай і з 1893 г. — у Мінскай. Ужо праз 10 гадоў — у 1893 г. — толькі ў Гродзенскай губерні дзейнічала 135 такіх бібліятэк з сукупным кніжным фондам каля 20 тыс. экз.

Дазволіўшы стварэнне бясплатных бібліятэк для бедных пластоў насельніцтва, царскі ўрад адразу ж паставіў іх пад строгі кантроль. На Найсвяцейшы Сінод і Вучоны камітэт Міністэрства народнай асветы ўскладаўся

абавязак прагляду каталогаў бібліятэк і стварэння так званых «міністэрскіх каталогаў», якія вызначалі склад кніжных фондаў народных бібліятэк. Першыя такія каталогі былі складзены ў 1888 г., а ў 1890 г. зацверджаны «Правілы аб бясплатных народных чытальнях і парадку нагляду за імі», у адпаведнасці з якімі за бібліятэкамі ўсталёўваўся нагляд трох ведамстваў: Міністэрства народнай асветы, Міністэрства ўнутраных спраў і духоўнага ведамства. Акрамя таго, уводзілася пасада назіральніка, а бібліятэкі Віленскай навучальнай акругі знаходзіліся яшчэ і пад кантролем папячыцеля навучальнай акругі. У адпаведнасці з «Правіламі…» бібліятэкі маглі набываць толькі тыя выданні, якія былі ўхвалены Вучоным камітэтам і ўваходзілі ў «Каталог кніг і пачасовых выданняў, дапушчальных да ўжывання ў бясплатных чытальнях». Фактычна «Правілы…» абмяжоўвалі камплектаванне бібліятэк нават той літаратурай, якая афіцыйна была дазволеная цэнзурай.

У 1892 г. папячыцелем Віленскай навучальнай акругі быў выдадзены цыркуляр, у якім прапаноўвалася дырэктарам народных вучылішчаў адкрываць бібліятэкі для народнага чытання пры сельскіх вучылішчах (пачатковых школах). Да сярэдзіны 1890-х гг. на тэрыторыі Віленскай навучальнай акругі для «распаўсюджання і сцвярджэння пачаткаў рускай народнасці і праваслаўя», у асноўным на сродкі самога насельніцтва, былі адкрыты 733 такія бібліятэкі. Іх фонды былі малалікія і ўтрымлівалі ў асноўным рэлігійна-маральную літаратуру. На адну такую бібліятэку ў Гродзенскай губерні прыходзілася ў сярэднім 122 экз. кніг, у Віцебскай — 124, у Магілёўскай — 98.

Рэвалюцыйны ўздым пачатку XX ст. унёс вызначаныя карэктывы ў дзейнасць прышкольных народных бібліятэк. Адмена «Правіл аб бясплатных чытальнях і парадку нагляду за імі» 1890 г. і «Алфавітных спісаў кніг, забароненых да звароту ў публічных бібліятэках» дала магчымасць значна пашырыць асартымент набытай народнымі бібліятэкамі літаратуры. У іх фондах прыкметна скарацілася доля рэлігійна-маральнай літаратуры, а мастацкай і галіновай — узрасла. Вырасла і колькасць бібліятэк — у 1911 г. у Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губернях Віленскай навучальнай акругі народныя бібліятэкі дзейнічалі ўжо пры 1280 (або 15%) пачатковых школах (табл. 2).

Ініцыятыва стварэння народных бібліятэк у Расійскай імперыі належала земствам. Паколькі на тэрыторыі Беларусі земствы з'явіліся толькі перад пачаткам Першай сусветнай вайны, грамадскай сілаю, якая ўзялася тут за арганізацыю бібліятэк для сялян, стала мясцовая інтэлігенцыя, у першую чаргу студэнты пецярбургскіх вышэйшых навучальных устаноў і вясковыя дэмакратычна настроеныя настаўнікі.

У гэты час у Пецярбургу сваю дзейнасць па арганізацыі народных бібліятэк развівае Паўленкаўскі фонд. Паводле завяшчання вядомага рускага кнігавыдаўца Флярэнція Фёдаравіча Паўленкава на адпісаныя ім грошы яго душапрыказчыкі адкрылі ў Расіі на пачатку XX ст. больш за 2000 бясплатных народных бібліятэк-чытальняў, у тым ліку на тэрыторыі Беларусі, якія атрымалі назву паўленкаўскіх.

Ініцыятарамі стварэння бібліятэкі ў вёсцы Астрамечава Брэсцкага павета сталі студэнты Пецярбургскага універсітэта браты Сяргей і Мікалай Раманскія — сыны астрамечаўскага свяшчэнніка і два іх сябры з Брэста — Сяргей Басякоў і Яўген Жуковіч. Скарыстацца сродкамі з Паўленкаўскага фонду можна было, калі меўся дазвол губернатара на адкрыццё бібліятэкі і сведчанне з воласці або ад настаўніка, што на месцы сабралі грашыма або кнігамі не менш за 30—50 рублёў; «тады з фонду імя Паўленкава высылаюць кніжак на 150 рублёў і далей памагаюць. Так, у адкрытыя з 1905 па 1910 год бібліятэкі імя Паўленкава ў Гродзенскай губерні выслалі адразу кніг на 150 рублёў, а цяпер зноў выслалі на столькі ж і яшчэ будуць высылаць» (Наша ніва. 1910. № 52).

Афіцыйна загадчыкам Астрамечаўскай бібліятэкі губернатар назначыў мясцовага свяшчэнніка Л. Раманскага, а наглядальнікам — настаўніка народнага вучылішча Антона Зянкевіча. Па сутнасці ж свяшчэннік не меў дачынення да работы бібліятэкі. Усё ўзяў на сябе Антон Паўлавіч Зянкевіч. Ён і ўвайшоў у гісторыю як першы бібліятэкар гэтай кніжнай установы.

Кнігі збіраліся арганізатарамі са сваіх хатніх бібліятэк і часткова на ахвяраванні мясцовай інтэлігенцыі. Бібліятэка-чытальня размяшчалася ў будынку школы, у асобным пакоі. Кнігі мясціліся ў дзвюх вялікіх шафах. У 1907 г. Астрамечаўская бібліятэка мела ўжо больш за тысячу кніг. У наступным годзе яе фонд значна папоўніўся ў сувязі з наступнымі абставінамі. Гродзенская дырэкцыя народных вучылішчаў вырашыла адкрыць у Астрамечаве пры народным вучылішчы другую бібліятэку. Для гэтай мэты было адпушчана, па словах А. Зянкевіча, 400 рублёў. На гэту суму настаўнік склаў спіс літаратуры для новай бібліятэкі так, што ада-

браныя ім кнігі не ішлі насуперак ідэйнаму кірунку паўленкаўскай бібліятэкі. Юрыдычна новая бібліятэка лічылася самастойнай. На яе кнігі быў складзены асобны інвентарны вопіс, аднак гэта не мяняла сутнасці справы. Фактычна другой бібліятэкі не існавала. Была і заставалася адна бібліятэка — паўленкаўская.

У перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг. былі адменены правілы 1884 г. аб міністэрскіх каталогах і часовыя правілы ад 15 мая 1880 г. аб народных бібліятэках і парадку нагляду за імі, якія абмяжоўвалі камплектаванне фондаў публічных бібліятэк. У сувязі з гэтым бібліятэкі атрымалі магчымасць набываць літаратуру, якая мелася на кніжным рынку. Паводле сведчання А. Зянкевіча, здараліся выпадкі, калі нелегальныя кнігі і забароненыя выданні мелі агульны пераплёт з легальнымі, так што іх цяжка было выявіць.

Бібліятэка ператварылася ў сапраўдны культурны цэнтр — яе чытачамі стала амаль усё пісьменнае насельніцтва вёскі. Затым адкрываюцца бібліятэкі ў сёлах Даўгінава, Клёніках, Ступніках, Трасцянцы, Шчытах і г.д. Усяго на сродкі паўленкаўскага фонду ў Беларусі было адкрыта 13 бібліятэк[332]. Народныя паўленкаўскія бібліятэкі мелі кнігі на роднай беларускай мове, знаёмілі сваіх чытачоў з творамі Я. Коласа, Я. Купалы, Ф. Багушэвіча, Цёткі. Усё гэта стварыла ім вялікую папулярнасць сярод вясковага насельніцтва краю. У перыядычным друку таго часу ёсць паведамленне, што Астрамечаўская бібліятэка атрымала дапамогу грашыма і кнігамі ад «аднаго таварыства з Францыі, ад расейскага пісара Максіма Горкага» (Наша ніва. 1908. № 46). Дасылала сюды свае выданні беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца», бібліятэка атрымлівала таксама газеты «Наша доля» і «Наша ніва», іншыя перыядычныя выданні.

У 1911 г. тыраж «Нашай нівы» складаў каля 3000 экзэмпляраў. Яна бясплатна высылалася ў народныя бібліятэкі, у тым ліку і ў Астрамечаўскую, за што А. Зянкевіч і М. Паўлючык, добры памочнік бібліятэкі і адзін з першых яе чытачоў, падзякавалі рэдакцыі і пажадалі ёй «далейшай карыснай працы ў імя беларускага народа». Гісторыя захавала яшчэ некалькі прозвішчаў актыўных чытачоў таго часу: А. Мацвяюк, А. Данілюк, М. Місюк, П. Шыш, С. Краўчук і інш.

На старонках «Нашай нівы» неаднаразова паведамлялася пра дзейнасць Астрамечаўскай бібліятэкі. «За 1908 год бібліятэка выдала 2 тысячы 500 кніг. Найбольш кніг чытаюць позняй восенню. Чацвёртая частка чытачоў — кабеты і дзяўчаты. Карысць ад кніг вялікая. У іх напісана ўся мудрасць, да каторай дайшоў свет. Адзін чалавек, як пачаў чытаць кніжкі, дык кінуў піць гарэлку», — чытаем у адным з нумароў. Там жа надрукавана: «Астрамечаўская бібліятэка прасіла ў воласці 25 рублёў з штрафаў, каб паправіць кніжкі, што бадзяюцца па руках, падзёрліся. Воласць павінна адпусціць, бо чытаюць усе вёскі гэтай воласці» (Наша ніва. 1909. № 17).

Наведвальнікі бібліятэкі не ў апошнюю чаргу цікавіліся новымі творамі беларускіх аўтараў. «Бо ж дагэтуль, бадай, не было друкаванага беларускага слова, бадай, зусім не было пісьменнікаў. А калі і жыў адзін-другі з іх, дык моўчкі пісаў дзесь у цішы, рэдка калі выдаваў што-небудзь (дый то невялікай вартасці) і не быў нічым звязаны са сваім чытачом. Можа, праз гэта ніводзін з іх і не вырас у праўдзівага пісьменніка свайго часу, бо толькі адна глеба можа ўзгадаваць такога. Гэта глеба — чытач. У неразрыўнай еднасці, у жывых стасунках увесь час павінен знаходзіцца пісьменнік са сваім народам. А такой супольнасці не мела папярэдняя беларуская літаратура. Праз гэта і згінула яна для свайго часу, застаўшыся нам не як жывое слова, а толькі як гістарычны ўспамін» (Наша ніва. 1910. № 70). Валодаючы багатым фондам класічнай рускай і замежнай літаратуры, бібліятэка далучала насельніцтва навакольных вёсак да скарбаў сусветнай культуры.

Восенню 1912 г. А. Зянкевіч паехаў з Астрамечава ў Пецярбург вучыцца, але бібліятэка працягвала сваю плённую дзейнасць і пасля ад'езду загадчыка. Яна праіснавала да моманту акупацыі ў 1915 г. тэрыторыі Заходняй Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі[333].

Студэнты арганізавалі і іншыя бібліятэкі для жыхароў Беларусі. Так, у 1905 годзе была адкрыта бібліятэка ў мястэчку Жыровічы Слонімскага павета, а ў 1906—1907 гг. узніклі бібліятэкі ў Бельскім і Кобрынскім паветах. У 1908 г. сіламі беларускага гуртка і навучэнцаў Глухаўскага настаўніцкага інстытута была арганізавана бібліятэка, якая імкнулася дапамагчы самаадукацыі сельскага насельніцтва ў нацыянальным духу.

Аднак падобных бібліятэк было мала, дзейнасць іх была кароткачасовай. Пераважная колькасць народных бібліятэк мела абмежаваныя фонды, якія падвяргаліся пастаяннаму кантролю з боку ўлад, не дапускаўшых прагрэсіўнай і нацыянальнай літаратуры[334].

У 1911 г. у Беларусі з'яўляюцца народныя бібліятэкі Д.Д. Палубаярынава, створаныя на

## СПІСОК БЕЛАРУСКІХ КНІГ.

(Кніжкі азначэныя *біс*—выйшлі і польскімі і рускімі літэрамі; лічбы азначаюць: першая цыфра — нумэр аддзелу, апошніе—нумэр чароднi у данным аддзелі. Такім парадкам, пры заказах заместа ўсиго загалоўку кнігі, даволі написаць нумэр, а калі кніга выдана і такімі і сякімі літэрамі—прыпісаць „рускімі“ ці „лацінскімі“.

**I. Да навучаньня.** Цэна к.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 11 | біс | Беларускі лемэнтар | 6 |
| 12 | біс | Першае чытаньне, Цёткі | 6 |
| 13 | | Другое чытаньне, Коласа | 25 |
| 14 | | Karotki katechizm | 5 |

**II. Навуковые даступные для ўсіх.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 21 | | Гутаркі аб небі і зямлі з рысункамі | 15 |
| 22 | біс | Цукер, В. Тройцы | 3 |
| 23 | біс | Гутаркі аб гаспадарцы | 3 |
| 24 | біс | Як ратаваць уздутую жывёлу | 3 |
| 25 | біс | Як бараніцца ад халеры | 1 |
| 26 | біс | Як рабіць добрые рамовые вульлі | 5 |
| 27 | біс | Замельная справа у Новай Зэляндыі | 3 |
| 28 | біс | Аб гаспадарцы на хутарох і шнурох | 5 |
| 29 | біс | Кароткая гісторыя Беларусі—Власта | 60 |
| 210 | | Беларусы і іх нацiональнае адраджэньне | 5 |
| 211 | | Bł. Andrej Bobola mučynik | 5 |
| 212 | біс | Як ужываць штучны навоз | 2 |
| 213 | | Pčalina—žywiołka małaja a karyści daje mnoha | 30 |
| 214 | | Як багацеюць чэскіе селяне | 10 |
| 215 | | Як выбраць дэпутатоў у Гас. Думу | 3 |
| 216 | | На дарозі да новаго жыцьця. А. Новіны | 20 |
| 217 | | Alkahol | 2 |
| 218 | | Rady dla matak | 3 |

**III. Повесьці, апаведаньня прозай.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 31 | | Дым, Коноплiцкай | | 4 |
| 32 | | Казкі | | 6 |
| 33 | біс | Гэдалі, Э. Ожэшко | — | 6 |
| 34 | біс | Казка аб вадзе | — | 3 |
| 35 | | Архіп і Лявонка. Горкаго | — | 8 |






*Рэклама беларускіх кніг, прыдатных для народных бібліятэк, у кнізе «Калядная пісанка 1913». Вільня, 1913 г.*

сродкі, адпісаныя заможным пецярбургскім кнігавыдаўцом Міністэрству народнай асветы на адкрыццё народных бібліятэк пры двухкласных вучылішчах у губернях з праваслаўным насельніцтвам Расіі, Украіны і Беларусі. Такіх бібліятэк было адкрыта па дзве ў Віленскай, Магілёўскай, Мінскай губернях і чатыры ў Гродзенскай. Іх фонды фарміраваліся ў адпаведнасці са спецыяльна складзеным каталогам з кніг, дазволеных цэнзурай[335].

Уздым у развіцці народных бібліятэк працягваўся нядоўга. У 1912 г. былі зацверджаны новыя «Правілы аб народных бібліятэках пры ніжэйшых навучальных установах», паводле якіх яны паступалі ў поўнае распараджэнне і пад кантроль навучальных устаноў і фактычна прыраўноўваліся да школьных. Зноў устанаўлівалася забарона на набыццё дэмакратычнай літаратуры. Неабходнасць строга трымацца гэтых правіл выклікала значнае скарачэнне прышкольных бібліятэк — у 1913 г. іх было ўжо толькі 773. У Беларусі, дзе бібліятэчнае абслугоўванне вясковага насельніцтва здзяйснялі пераважна прышкольныя бібліятэкі, адмоўны ўплыў правіл 1912 г. быў асабліва адчувальны.

Развіццё і актывізацыя ў краі ў канцы XIX — пачатку XX ст. сацыял-дэмакратычнага і нацыянальна-вызваленчага руху прывялі да ўзнікнення ў Беларусі легальных і нелегальных бібліятэк розных партый, нацыянальна-культурных і грамадскіх аб'яднанняў.

Першыя з іх, нягледзячы на забароны, узніклі на тэрыторыі Беларусі яшчэ ў канцы XIX ст. У пачатку 1880-х гг. у Мінску, Вільні, Віцебску, Пінску з'явіліся першыя прапагандысцкія гурткі польскай палітычнай партыі «Пралетарыят». У гэты час узнікае некалькі працоўных гурткоў, пры якіх ствараюцца першыя бібліятэкі легальнай і нелегальнай літаратуры[336]. Нелегальныя бібліятэкі ствараліся і ў моладзевым асяроддзі. Так, яшчэ ў 1884 г. начальнік Віцебскага губернскага жандармскага ўпраўлення дакладваў свайму губернатару аб тым, што «…у асяроддзі выхаванцаў Віцебскай гімназіі і семінарыі існаваў гурток шкоднага кірунку, які меў бібліятэку забароненых выданняў…»[337].

У канцы 80-х — пачатку 90-х гг. XIX ст. у Беларусі ўзнікаюць шматлікія сацыял-дэмакратычныя гурткі. Найбольш буйныя з іх ствараюць бібліятэкі легальнай і нелегальнай літаратуры. У 1887—1888 гг. былі арганізаваны бібліятэкі працоўных арганізацый чыгуначных майстэрняў станцыі Мінск. На мяжы 80—90-х гг. XIX ст. у Мінску дзейнічала даволі

вялікая арганізацыя марксісцкага кірунку, якая мела некалькі бібліятэк. Але найбольш значная агульнадаступная бібліятэка, якая карысталася вялікай папулярнасцю сярод працоўных, існавала пры гуртку А. Амстэрдама, створана яна была ў 1892—1893 гг. Адначасова пры гуртку дзейнічала яшчэ і нелегальная бібліятэка[338]. Пры створанай у 1897 г. у Гомелі сацыял-дэмакратычнай групе існавала бібліятэка нелегальнай літаратуры ў 200 тамоў. Бібліятэка для працоўных і сялян была сабрана ў пачатку 1890-х гг. гродзенскай інтэлігенцыяй.

У гады рэвалюцыйнага ўздыму ў пачатку XX ст. дзейнасць партыйных бібліятэк значна актывізавалася. Яны дзейнічалі пры шэрагу партыйных арганізацый і аб'яднанняў у Мінску, Барысаве, Жлобіне і іншых гарадах. У гады рэакцыі, наступіўшай пасля падаўлення рэвалюцыі 1905—07 гг. царызм перайшоў у наступленне — зноў пачалася паласа рэпрэсій. У гэты час былі выяўлены і ліквідаваны шматлікія партыйныя бібліятэкі[339].

У гады новага рэвалюцыйнага ўздыму дзейнасць бібліятэк партыйных арганізацый і аб'яднанняў зноў актывізуецца. Так, у Магілёве прапагандысцкай групай была арганізавана бібліятэка, якая налічвала 1200 кніг і вялікую колькасць перыядычных выданняў. Нелегальныя бібліятэкі ствараліся нават у невялікіх мястэчках і вёсках. Так, у 1912 г. падпольная бібліятэка існавала ў вёсцы Тумілавічы Барысаўскага павета.

З актывізацыяй нацыянальна-вызваленчага руху ў пачатку XX ст. узрастае роля бібліятэк пры беларускіх грамадскіх і навукова-культурных аб'яднаннях, рэдакцыях беларускіх газет і выдавецтваў. У гэты перыяд паступова ствараюцца бібліятэкі пры «Нашай ніве», Беларускім музеі ў Вільні і іншых выдавецтвах і таварыствах. Іх фонды камплектуюцца як уласнымі выданнямі, так і творамі, якія выйшлі ў свет у іншых выдавецтвах і друкарнях. Для папаўнення фондаў ім высылалі свае кнігі Я. Карскі, і Б. Эпімах-Шыпіла, маскоўскае выдавецтва «Польза», Імператарскае таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх і інш.

Фондамі гэтых бібліятэк актыўна карысталіся не толькі члены таварыстваў і рэдакцый, але і шырокія колы розных сацыяльных пластоў беларусаў. Бібліятэкі нацыянальна-культурных аб'яднанняў і выдавецтваў выконвалі таксама функцыі цэнтраў распаўсюджання беларускай кнігі, як у Паўночна-Заходнім краі, так і за яго межамі — інфармавалі аб выхадзе беларускіх выданняў, рассылалі беларускія кнігі ў бібліятэкі і прыватным асобам. Так, члены рэдакцыі «Нашай нівы», пры якой дзейнічала бібліятэка, часта паведамлялі сваім чытачам «якія есьць сачыненьні на беларускай мове», рэкамендуючы «філалагічныя працы для азнаямленьня з беларускім пытаньнем».

Своеасаблівым элементам гарадской культуры Беларусі сталі яўрэйскія бібліятэкі, якія абслугоўвалі чытачоў не толькі беларускімі, рускімі і польскімі кнігамі, але і выданнямі на нацыянальных яўрэйскіх мовах, пераважна на ідыш[340]. Прыкладам можа быць бібліятэка І. Рыбацкага, якая мясцілася на Беластоцкай вуліцы ў Брэсце і нават мела свой друкаваны каталог (выдадзены літаграфічна ў 1911 г.). З каталога можна даведацца, што бібліятэка працавала штодня, акрамя пятніцы і суботы, з 15 да 20 гадзін, месячная плата за карыстанне абанементам каштавала 20 капеек, акрамя таго, трэба было ўнесці залог памерам 2 рублі. Фонды гэтай бібліятэкі налічвалі больш за 6 тысяч кніг[341]. Арганізатарам бібліятэк і чытальняў выступаў таксама «Саюз рускага народа» — арганізацыя, якая ўзнікла ў 1905 г. і аб'ядноўвала буйных памешчыкаў, купцоў і духавенства[342].

У час рэвалюцыі 1905—1907 гг. у Беларусі з'явіліся працоўныя бібліятэкі, арганізаваныя на сродкі прафсаюзаў. Але ў сувязі з узмоцненай рэакцыяй пасля паражэння рэвалюцыі яны не змаглі разгарнуць сваю дзейнасць. З 1907 па 1910 г. у Беларусі было закрыта больш за 40 буйных прафсаюзаў, у сувязі з чым перасталі існаваць і іх бібліятэкі.

З 1897 г. у гарадах Беларусі, а некалькі пазней і ў сельскай мясцовасці з'яўляюцца бібліятэкі-чытальні, арганізаваныя папячыцельствамі аб народнай цвярозасці. Асноўнай задачай таварыства было адцягненне насельніцтва ад злоўжывання спіртнымі напіткамі шляхам разгортвання асветнай дзейнасці. З 1898 г. да яго ад Міністэрства народнай асветы пераходзіць арганізацыя народных чытанняў. Папячыцельства стварала самастойныя бібліятэкі-чытальні, але часцей за ўсё адкрывала іх пры чайных і ніжэйшых навучальных установах. Толькі ў 1903 г. у пяці беларускіх губернях на сродкі папячыцельстваў аб народнай цвярозасці было адкрыта 385 бібліятэк і чытальняў і існавалі 44 кніжныя склады. Папаўняліся гэтыя бібліятэкі рэлігійна-манархічнай літаратурай, выданнямі камісіі народных чытанняў, кнігамі, якія ўваходзілі ў спісы Вучонага камітэта Міністэрства народнай асветы і ў каталогі папячыцельстваў аб народнай цвярозасці[343]. Пасля рэвалюцыі 1905—07 гг. іх папулярнасць катастрафічна падае, і бібліятэкі паступова знікаюць.

## Віленская публічная бібліятэка

Найпершай па сваім значэнні сярод бібліятэк, якія дзейнічалі ў краі ў канцы XIX — пачатку XX ст., была Віленская публічная бібліятэка. Імкнучыся вытруціць у мясцовых жыхароў польскі дух і вальнадумства, аслабіць уплыў нацыянальна-вызваленчых і дэмакратычных ідэй, якія пранікалі на беларускія землі з Заходняй Еўропы і Расіі, царскі ўрад да 60-х гг. XIX ст. зачыніў у Паўночна-Заходнім краі не толькі буйныя бібліятэкі, якія з'яўляюцца гонарам краю, цэнтрамі культуры і асветы, але і ліквідаваў шэраг сярэдніх і дробных бібліятэк, а з фондаў пакінутых выключыў «нядобранадзейныя» выданні.

Разам з гэтым, з мэтай распаўсюджвання ў краі рускай мовы і ідэалогіі Расійскай імперыі ўлады імкнуліся стварыць у Беларусі сваю сістэму бібліятэк і напоўніць іх расійскімі выданнямі. Аднак ствараемыя публічныя бібліятэкі і бібліятэкі навучальных устаноў былі маламоцнымі і малазапатрабаванымі мясцовым насельніцтвам. Гэта звязана ў першую чаргу з тым, што карыстанне публічнымі бібліятэкамі было платным, а значыць яны з'яўляліся практычна недаступнымі для простых людзей. Акрамя таго, рускія кнігі, якія складалі большасць фонду такіх бібліятэк, не карысталіся вялікай папулярнасцю, бо мясцовае насельніцтва дрэнна ведала рускую мову, а прадстаўнікі інтэлігенцыі аддавалі перавагу чытанню на польскай і заходнееўрапейскіх мовах. Адукаваныя людзі разумелі, што «пасля закрыцця Віленскага універсітэта, які быў цэнтрам разумовага жыцця Заходняй Расіі, Вільні патрабавалася такая ўстанова, якая ўзамен закрытай вышэйшай навучальнай установы давала б кожнаму жадаючаму сродкі і магчымасць да самастойнага разумовага развіцця. Задаволіць гэту духоўную патрэбу горада і краю магла толькі такая ўстанова, як публічная бібліятэка, якая была б даступнай для ўсякага жадаючага».

Ідэя стварэння бібліятэкі, якая сабрала б у сваіх фондах кніжныя багацці краю і адначасова стала цэнтрам «...рускай асветы і навукі ў Паўночна-Заходнім краі...», паўстала ў 1863 г. і звязана з трагічнымі падзеямі пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. Падчас канфіскацый маёмасці ўдзельнікаў паўстання царскія ўлады сутыкнуліся з нечаканай праблемай — вялізнай колькасцю канфіскаваных кніг, з якімі трэба было нешта рабіць. А. Мілавідаў так апісвае падзеі таго часу: «... у ліпені 1863 года, за ўдзел у мяцяжы, адміністрацыя стала зачыняць рыма-каталіцкія манастыры і касцёлы, маёмасць якіх паступала ў распараджэнне ўрада. У маёмасць уваходзілі значныя зборы кніг і рукапісаў. Тое ж знаходзілі ў канфіскаваных маёнтках ксяндзоў, памешчыкаў і польскіх чыноўнікаў. Па меры разбору палітычных спраў расло канфіскаванае рукапіснае і кніжнае багацце... Людзі меней дальнабачныя і якія баяліся вялікай працы ... раілі адправіць сабраныя скарбы ў Імператарскую публічную бібліятэку», але віленскі генерал-губернатар граф М.М. Мураўёў падтрымаў прапанову І.П. Карнілава аб перадачы канфіскаваных кніг у распараджэнне навучальнай акругі і арганізацыі на іх аснове Віленскай публічнай бібліятэкі. У ствараемай бібліятэцы царскія ўлады бачылі, у першую чаргу, «...лепшы сродак для мясцовай культурнай барацьбы, ... мелі намер засяродзіць пры ёй разумовую і навуковую дзейнасць усяго краю, каб супрацьпаставіць такім чынам «чыстую навуку рускую польскай»[344].

Першы транспарт з кнігамі, якія ляглі ў аснову ствараемай бібліятэкі, прыбыў з Папроцкага Бернандзінскага манастыра ў канцы 1864 г., а да лютага 1865 г. на кніжным складзе было ўжо каля 30 тыс. кніг. У далейшым фонды бібліятэкі папаўняліся не толькі канфіскаванымі калекцыямі, але і з іншых крыніц, у т.л. за кошт добраахвотных ахвяраванняў дзяржаўных устаноў і іншых арганізацый і прыватных асоб, а таксама падпіскі і куплі кніг на сродкі, вылучаемыя бібліятэцы ўрадам.

Для папаўнення фондаў Віленскай бібліятэкі ўладамі рыхтаваліся экспедыцыі ў бібліятэкі і архівы краю, якія нароўні з забароненымі канфіскавалі таксама старадрукаваныя кнігі і рукапісы і перадавалі іх у бібліятэку. Так, у 1866 г. фонды бібліятэкі папоўніліся больш чым 14 тыс. назваў кніг і рукапісаў, выключаных з Віленскага музея старажытнасцей. Гэта была адна са значных і каштоўных калекцый, якая лягла ў аснову яе фондаў[345]. У 1876 г. фонд Віленскай публічнай бібліятэкі папоўніўся кнігамі і рукапісамі з бібліятэкі зачыненага Супрасльскага манастыра — з Супрасля ў Вільню было аддадзена 1109 ацалелых да таго часу кніг і 191 рукапіс. У бібліятэку таксама перадаваліся кнігі, канфіскаваныя царскімі ўладамі з бібліятэк навучальных устаноў.

Амаль усе канфіскаваныя кнігі і рукапісы былі напісаны на заходнееўрапейскіх мовах, у першую чаргу на польскай, і адлюстроўвалі сістэму заходнееўрапейскіх каштоўнасцей.

А.П. Уладзіміраў, які займаўся арганізацыяй бібліятэкі, лічыў, што з такім фондам «...бібліятэка карысці, у сэнсе асветы, прынесці не магла, але затое магла добра сілкаваць лаціна-польскі фанатызм». Для ўхілення гэтага недахопу ўрад штогод, нават яшчэ да адкрыцця бібліятэкі, вылучаў па 8—9 тыс. рублёў на папаўненне яе фондаў расійскімі выданнямі. Рускія кнігі выпісваліся са сталічных кнігарняў і набываліся ў віленскай краме кнігапрадаўца Сянкоўскага.

Не вельмі шматлікай крыніцай папаўнення фондаў бібліятэкі, але вельмі каштоўнай, асабліва з пазіцый сучаснай нацыянальнай беларускай бібліяграфіі, з'яўляўся абавязковы рэгіянальны экзэмпляр друкаванай прадукцыі. Бачачы ў Віленскай публічнай бібліятэцы найбагацейшае кнігасховішча краю, царскія ўлады загадалі ўсім выдаўцам дастаўляць у бібліятэку «...па адным экзэмпляры ўсіх выданняў, якія выходзяць у свет у межах Паўночна-Заходняга краю».

Да студзеня 1867 г. перабудова вылучанага бібліятэцы будынка былога Віленскага універсітэта была завершана. Тут і размясцілася Віленская публічная бібліятэка, урачыстае адкрыццё якой адбылося 24 мая. Аснову яе фонду склалі кнігі і рукапісы 26 рыма-каталіцкіх манастыроў, віленскага епархіяльнага капітула, 7 праваслаўных манастыроў, 22 сярэдніх навучальных устаноў, 26 павятовых і прыходскіх вучылішчаў, 2 дырэкцый, 12 прыватных і грамадскіх бібліятэк, Віленскага музея, а таксама матэрыялы, ахвяраваныя ўрадавымі ўстановамі і прыватнымі асобамі.

Такім чынам, у канцы 60-х гг. XIX ст. у Вільні была створана бібліятэка, якая аб'яднала ў сваіх фондах кніжныя каштоўнасці, якія захаваліся да таго часу на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю (асноўную частку якога складалі этнічныя беларускія землі). Акрамя таго, яе калекцыі пачалі папаўняцца друкаванымі творамі, якія выдаваліся ў краі, і гэта дазволіла Віленскай публічнай бібліятэцы амаль адразу пасля яе заснавання атрымаць статус самай значнай з правінцыйных бібліятэк Расійскай імперыі. У 1880 г. у інвентарных кнігах бібліятэкі былі зарэгістраваны 61 652 назвы кніг у 86 768 вокладках і каля 1000 рукапісаў[346]. Аднак гэтыя лічбы не адлюстроўваюць усяго аб'ёму фондаў бібліятэкі, г.зн. да таго часу не былі яшчэ разабраны і ўлічаны ўсе матэрыялы, якія паступілі ў бібліятэку ў папярэднія дзесяцігоддзі. Праз 10 гадоў яе фонд дасягнуў ужо 100 000 экз. кніг. Акрамя таго, «...у ёй меўся прыстойны збор рукапісаў...». Да пачатку XX ст. аб'ём фондаў Віленскай публічнай бібліятэкі, па дадзеных А. Мілавідава, дасягнуў 200 тыс. тамоў (125 тыс. назваў) кніг. Да гэтага ліку, відавочна, неабходна дадаць яшчэ каля 130 тыс. рукапісных матэрыялаў.

Фонд Віленскай публічнай бібліятэкі складаўся з 4-х аддзяленняў: замежнага, рускага, рукапіснага і старадрукаванага. Як адзначае А. Мілавідаў, «рускае аддзяленне пры адкрыцці бібліятэкі ў 1867 г. было вельмі бедным: у ім было ўсяго 1252 выданні ў 1854 тамах», але да 1903 г. у ім захоўвалася ўжо больш за 23 тыс. назваў кніг у 42 910 экз. У аддзяленні меўся гістарычны аддзел, у якім даволі поўна былі сабраны выданні па гісторыі Паўночна-Заходняга краю.

У замежным аддзяленні бібліятэкі ў пачатку XX ст. знаходзілася каля 125 тыс. тамоў, прыкладна 76 тыс. назваў. Тут захоўваліся каштоўныя кнігі і рукапісы, канфіскаваныя з бібліятэк каталіцкіх манастыроў, «...рэдкія выданні святых кніг старога і новага друку на розных мовах, з каментарыямі і ілюстрацыямі».

Але найбольш каштоўныя выданні захоўваліся ў рукапісным і старадрукаваным аддзяленнях бібліятэкі. У аддзяленні рукапісаў захоўвалася больш за 130 тыс. рукапісных дакументаў, сярод якіх 329 царкоўнаславянскіх і 575 рускіх і лацінскіх пергаментных грамат, старажытныя царкоўнаславянскія рукапісы, у т.л.. Тураўскае евангелле XI ст., лацінскія рукапісы XII ст., творы заходнееўрапейскай семіяграфіі XII—XIV стст.

Аддзяленне старадрукаваных кніг падзялялася на дзве часткі: руская і замежная. У рускім аддзеле старадрукаваных кніг захоўваліся такія каштоўнасці, як першае віленскае выданне Апостала 1525 г. і іншыя выданні XVI ст., творы праваслаўных і уніяцкіх друкарняў, урывак рускай кнігі, надрукаванай у Ватыкане ў 1596 г. У замежным аддзеле налічваліся 1032 назвы ў 781 вокладцы, у т.л. творы друку еўрапейскіх друкарняў 1473 г., Радзівілаўская Біблія 1563 г. Тут захоўвалася 165 замежных інкунабулаў, надрукаваных да 1500 г., і 583 кнігі, надрукаваныя з 1500 да 1550 г.

Выконваючы ўскладзеныя на яе задачы, бібліятэка штогод папаўняла свой фонд як выданнямі мінулых гадоў, так і новымі публікацыямі, якія выйшлі ў свет на тэрыторыі краю і за яго межамі. Як сведчаць справаздачы бібліятэкі, у пачатку 20 ст. у яе фонды штогод паступала каля 2 тыс. экз. розных відаў выданняў, а ў выключных выпадках і да 8 тыс. экз. Асноўную частку сярод новых

паступленняў складалі добраахвотныя ахвяраванні арганізацый і прыватных асоб (уключаючы абавязковыя экзэмпляры друкаванай прадукцыі друкарняў краю). Сярод паступленняў у фонды бібліятэкі былі як рэдкія выданні і рукапісы мінулых стагоддзяў, так і новая прадукцыя друкарняў краю, у т.л., напрыклад, першыя выпускі беларускіх газет «Наша доля» і «Наша ніва». Кнігі, набытыя бібліятэкай за кошт уласных сродкаў, складалі ўсяго толькі 100—300 экз. у год. Бібліятэкары вымушаны былі канстатаваць, што «сціплыя сродкі, якія адпускаюцца на ўтрыманне Бібліятэкі, не даюць магчымасці набываць новыя кнігі ў жаданай колькасці». Дзякуючы хоць і недастаткова вялікай, але тым не менш стабільнай крыніцы новых паступленняў фонд бібліятэкі стала павялічваўся і да верасня 1915 г. дасягнуў 310 тыс. тамоў[347].

Вільня на працягу стагоддзяў з'яўлялася адукацыйнай і культурнай сталіцай краю, у якой былі сканцэнтраваны асноўныя навуковыя, адукацыйныя і культурныя ўстановы, дзейнічаў шэраг грамадскіх арганізацый, вучыліся і тварылі лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Усё гэта забяспечыла высокую запатрабаванасць багатых кніжных фондаў бібліятэкі. У 1907 г. колькасць падпісчыкаў бібліятэкі дасягнула 1738 чалавек. Асноўную масу сярод іх — каля 70% — складалі маладыя людзі — навучэнцы розных навучальных устаноў. На працягу года яны больш за 20 тыс. разоў наведалі бібліятэку і запатрабавалі амаль 26 тыс. кніг і іншых матэрыялаў. Усё гэта сведчыць аб вялікай папулярнасці Віленскай публічнай бібліятэкі сярод насельніцтва, што не ідзе ні ў якое параўнанне з дзейнасцю публічных бібліятэк у іншых губернскіх гарадах краю.

Неардынарнасць Віленскай публічнай бібліятэкі прызнавалася як палітыкамі[348], так і бібліятэказнаўцамі. Несучы «...вядучую культурна-гістарычную місію...», яна з'яўлялася «...найбагацейшым кнігасховішчам з шматлікімі неацэннымі самымі старажытнымі выданнямі і рукапісамі...», што дазваляла лічыць яе не толькі самай буйной бібліятэкай Паўночна-Заходняга краю, але найбуйнейшай публічнай бібліятэкай Расійскай імперыі, якая саступала па сваіх кніжных багаццях толькі Імператарскай у Пецярбургу і Румянцаўскай у Маскве[349].

У сувязі з тым, што беларуская мова падчас уваходжання беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі знаходзілася не проста пад забаронай, як, напрыклад, польская, а яе, з пункту погляду афіцыйных улад, наогул не існавала, як і Беларусі, то, адпаведна, справаздачы аб дзейнасці Віленскай бібліятэкі не ўтрымліваюць статыстычных дадзеных аб наяўнасці ў яе фондзе беларускіх выданняў. Разам з тым, інфармацыя, якая змяшчаецца ў публікацыях і архіўных дакументах, што адлюстроўваюць этапы стварэння і функцыянавання бібліятэкі, дазваляе зрабіць выснову аб тым, што значную частку фондаў бібліятэкі складалі матэрыялы, якія па месцы іх стварэння, аўтарскай прыналежнасці, мове і зместу адносяцца да Беларусі і могуць быць класіфікаваныя як нацыянальныя. Фонды бібліятэкі ўтрымлівалі таксама вялікую колькасць замежных выданняў і рукапісаў, якія працяглы час існавалі на беларускіх землях і аказалі значны ўплыў на развіццё духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў. Гэта дае падставу вызначыць Віленскую публічную бібліятэку як бібліятэку, якая ў перыяд з 1867 па 1915 г. выконвала ў дачыненні да Беларусі функцыі нацыянальнай, што дазваляе лічыць яе адной з папярэдніц сучаснай Нацыянальнай бібліятэкі краіны — НББ.

З пачаткам Першай сусветнай вайны і шэрагам рэвалюцый і войнаў, якія адбываліся пасля яе, у лёс бібліятэкі зноў умяшалася высокая палітыка — Вільня стала франтавым горадам і неаднаразова пераходзіла з рук у рукі. Са зменай статусу горада змянялася і становішча бібліятэкі. Улетку 1915 г. у сувязі з набліжэннем фронту пачалася эвакуацыя ўстановы ў глыб Расіі. У гэты час некаторыя найбольш каштоўныя рукапісы і старадрукаваныя выданні былі вывезены ў бібліятэку Румянцаўскага музея ў Маскве (сёння — РДБ). З верасня 1915 г. бібліятэкай кіравалі немцы. Пры гэтым фонд, які захаваўся ў Вільні, не папаўняўся і доступ карыстальнікаў да яго быў практычна закрыты — зборамі бібліятэкі карысталіся толькі супрацоўнікі нямецкай віленскай адміністрацыі. Адступаючы, немцы 24 снежня 1918 г. перадалі бібліятэку ў рукі часовых літоўскіх савецкіх улад[350]. З гэтага часу Вільня на працягу двух гадоў пераходзіла з рук у рукі, пакуль 9 кастрычніка 1920 г. польскія воінскія фарміраванні пад кіраўніцтвам генерала Л. Жалігоўскага не занялі Вільню і не абвясцілі яе сталіцай Сярэдняй Літвы, якая ў лютым—сакавіку 1922 г. увайшла ў склад Польшчы.

Безумоўна, гэтыя падзеі не спрыялі стабільнаму развіццю бібліятэкі, хоць спробы арганізаваць яе працу прымаліся практычна пры кожнай уладзе. Так, 1 лютага 1919 г.

рашэннем Народнага камісарыята асветы бібліятэка была названа Цэнтральным кнігасховішчам Літвы, стаўшы крыху пазней і галоўнай бібліятэкай Літоўска-Беларускай ССР. У гэты перыяд бібліятэка фактычна выконвала функцыі Нацыянальнай бібліятэкі Літвы і Беларусі.

Пасля заняцця горада польскімі войскамі бібліятэка была перададзена універсітэту, адноўленаму ў Вільні 28 жніўня 1919 года ўказам Ю. Пілсудскага, і яе фонды, сабраныя пераважна на землях Беларусі ў апошняй трэці 19 — пачатку 20 ст., ляглі ў аснову адроджанай універсітэцкай бібліятэкі.

Новы этап развіцця бібліятэкі пачаўся 8 лістапада 1920 г. пасля стварэння Сярэдняй Літвы, аднак паўнавартасная яе дзейнасць была адноўлена толькі ў 1924 г. З 1927 г. ўстанова стала называцца Публічнай універсітэцкай бібліятэкай[351]. Да 1939 г. яна, разам з іншымі буйнымі бібліятэкамі Польшчы, працягвала служыць цэнтрам збору беларускіх кніг і перыядычных выданняў, якія выходзілі ў свет на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Толькі за 1919—1929 гг. у яе фонды паступіла больш за 90 тыс. экз. кніг і часопісаў[352], сярод іх і тыя, якія выйшлі ў свет на этнічных беларускіх землях і з-пад пяра беларускіх аўтараў.

Пасля Другой сусветнай вайны бібліятэка была перайменавана ў Навуковую бібліятэку Віленскага дзяржаўнага універсітэта імя В. Капсукаса, а з набыццём Літвой у 1991 г. дзяржаўнай незалежнасці стала звацца Навуковай бібліятэкай Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. Зараз яе фонд налічвае больш за 5,5 млн. экз., сярод якіх кнігі і перыядычныя выданні, у т.л. рэдкія рукапісныя і старадрукаваныя, якія створаны і працяглы час існавалі на беларускіх землях.

Як адзначалася вышэй, частка найбольш каштоўных рукапісаў і выданняў з фондаў Віленскай публічнай бібліятэкі ў 1915 г. была вывезена ў Маскву. У 1930-я х гг. польскія ўлады вялі перагаворы аб вяртанні гэтых збораў у Вільню, аднак палітычныя рознагалоссі паміж Польшчай і Савецкім Саюзам не дазволілі ў той час вырашыць гэту праблему станоўча. Увосень 1939 г. Вільню далучылі да Літвы, а ў 1940 г. горад стаў сталіцай Літоўскай ССР — Вільнюсам. Пасля завяршэння Другой сусветнай вайны зноў пачаліся перамовы аб вяртанні вывезеных раней калекцый. Гэтым разам яны былі больш паспяховымі — у 1945—1946 гг. у Вільнюс была вернута частка калекцый былой Віленскай публічнай бібліятэкі і перададзена ў Цэнтральную бібліятэку Акадэміі навук Літоўскай ССР, заснаваную ў 1941 г. Зборы Віленскай публічнай бібліятэкі ўваходзяць цяпер у склад фондаў двух буйных бібліятэк Літвы — бібліятэкі Вільнюскага універсітэта і бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Кнігі з яе калекцый захаваліся таксама ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы.

## Развіццё прыватных бібліятэк у Беларусі ў перыяд Расійскай імперыі

У канцы XVIII — пачатку XX ст. у Беларусі працягвалі існаваць бібліятэкі, створаныя прадстаўнікамі шляхецкіх родаў у часы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Найбольш буйнымі з іх заставаліся зборы Радзівілаў, Сапегаў, Храптовічаў, Агінскіх і іншых магнацкіх родаў, але сукупная большасць кніг ужо знаходзілася ў карыстанні дробнай і сярэдняй шляхты ў маёнтках на ўсім абшары краіны. Вывучаны гэтыя бібліятэкі слаба — калі пра Гродзеншчыну і Брэстчыну яшчэ нешта вядома[353], то Магілёўшычына, Гомельшчына і Смаленшчына застаюцца terra inkognita — невядомай краінай.

## Бібліятэка Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў

У Нясвіжскім замку пасля канфіскацыі 1772 г., адным з этапаў якой быў вываз у расійскую сталіцу каля 14 тысяч радзівілаўскіх кніг, заставаліся амаль што голыя сцены. Пасля вывазу асноўнай калекцыі ў замку, як сведчыць Г.У. Іваск, засталася толькі «невялікая бібліятэка», якая працягвала папаўняцца аж да 1812 г.[354] Разам з тым, пакінутыя на апеку слуг калекцыі пачынаюць раскрадацца чэляддзю. Маюцца звесткі аб тым, што ў 1804—1810 гг. Каэтанам Квяткоўскім у бытнасць яго бібліятэкарам Нясвіжскага замка было выкрадзена шмат каштоўных кніг, якія пасля вывезлі ў Польшчу, і яны апынуліся ў зборах графа Т. Дзялыньскага і ў прыватнай бібліятэцы Рачыньскіх.

Падчас вайны паміж Францыяй і Расіяй у 1812 г. Дамінік Геранім Радзівіл выступіў на баку Напалеона, таму пасля ўступлення ў Нясвіж расійскага войска маёнтак Радзівілаў зноў быў разрабаваны — у канцы кастрычніка

1812 г. з Нясвіжскага замка ў Санкт-Пецярбург зноў была вывезена значная колькасць каштоўных кніг — астаткі былой бібліятэкі Радзівілаў[355]. Так фактычна спыніла сваё існаванне самая буйная прыватная бібліятэка Рэчы Паспалітай і самая вялікая для таго часу бібліятэка на беларускіх землях, якая магла прэтэндаваць на ролю нацыянальнай. У замку пасля 1812 г. засталася невялікая колькасць кніг, пазней да іх дадаліся разрозненыя часткі перыферыйных бібліятэк прадстаўнікоў роду Радзівілаў. У 1864 г. у бібліятэку патрапілі кнігі з закрытых у Нясвіжы касцёлаў бернардзінцаў і бенедыкцінак.

У 1813 г. перарываецца старэйшая галіна Радзівілаў і ардынацыя пераходзіць да наступнай па старшынстве лініі роду. Антон і Марыя Радзівілы — прадстаўнікі нямецкай галіны фаміліі, якія атрымалі права распараджацца Нясвіжскім замкам, прыступаюць да яго аднаўлення і ўзнаўлення бібліятэкі. У 1880 г. яны перавозяць у Нясвіж з Берліна сваю бібліятэку, якая склала аснову новай кніжнай калекцыі замка — так званай другой бібліятэкі Радзівілаў. Цікавы экземпляр Брэсцкай біблії 1563 г. з пячаткай Антона Радзівіла ў шыкоўным пераплёце берлінскай работы XIX ст. зараз знаходзіцца ў Архіве ваенна-марскога флоту Расіі ў Санкт-Пецярбургу, куды ён трапіў у складзе асабістага фонду адмірала Дубасава[356].

З гэтага часу аж да канца 1930-х гг. Нясвіжская бібліятэка рэгулярна папаўняецца новымі матэрыяламі. На жаль, пакуль няма дадзеных аб аб'ёме фондаў другой Нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў, хоць часткі калекцыі, якія дайшлі да нас, сведчаць аб багатым яе змесціве. Нават ацалелая частка бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў XIX ст. — 1939 г. па сваім складзе, храналогіі і тэматычнай структуры універсальная. Яна ахоплівае ўсе галіны ведаў як гуманітарнага, так і прыродазнаўчага навуковага характару. Кнігі з дастатковай ступенню паўнаты прадстаўляюць еўрапейскую кніжную культуру XV—XX стст., шмат матэрыялаў датычыць Беларусі[357], большасць французскіх выданняў можна смела аднесці да бібліяфільскіх: яны служылі эталонам еўрапейскага кніжнага мастацтва.

У XX ст. для Нясвіжскай бібліятэкі зноў наступае чорная паласа, якая завяршаецца яе знішчэннем. Нягледзячы на тое, што падчас Першай сусветнай вайны ў замку знаходзіўся вайсковы шпіталь, яго зборы ў той час засталіся практычна некранутымі. Пэўная частка калекцыі загінула крыху пазней — у пачатку 1919 г. — калі з адступленнем польскіх войскаў там усталявалася савецкая ўлада і замак быў разрабаваны[358].

Паводле Рыжскай мірнай дамовы 1921 г. Нясвіж апынуўся ў складзе Польшчы, і Радзівілы працягвалі валодаць ім да 1939 г. Пакінутая ў замку бібліятэка ў міжваенны перыяд працягвала папаўняцца. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР у 1939 г., маёмасць Радзівілаў была нацыяналізавана і бібліятэку разам з архівам у пачатку 1941 г. вывезлі з Нясвіжа ў Мінск і перадалі ў распараджэнне Акадэміі навук БССР. Супрацоўнікі Бібліятэкі Акадэміі навук прыступілі да апрацоўкі калекцыі — частка кніг была нават прамаркіравана штампамі Бібліятэкі, але акупацыя Мінска ў чэрвені 1941 г. нямецкімі войскамі перашкодзіла завяршыць працу. У 1944 г. нямецкія акупацыйныя ўлады, адыходзячы, вывезлі з Мінска архіў і бібліятэку Радзівілаў.

Пасля завяршэння Другой сусветнай вайны ў 1946 г. ацалелыя кнігі з другой Нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў былі вернуты ў Беларусь. Асноўную іх частку — тыя, якія мелі даваенныя пячаткі або іншыя меткі Акадэміі навук — перадалі Бібліятэцы Акадэміі навук БССР. Астатнія былі падзелены паміж Дзяржаўнай бібліятэкай БССР імя У.І. Леніна (цяпер Нацыянальная бібліятэка Беларусі) і Урадавай бібліятэкай імя М. Горкага (цяпер Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь). У 1960-я гг. некаторыя найбольш каштоўныя кнігі з Урадавай бібліятэкі ў Мінску былі забраныя ў Ленінград, у бібліятэку Акадэміі навук. Так над Нявой сустрэліся рарытэты з першай і другой бібліятэк Радзівілаў. Аднак значная частка другога радзівілаўскага кнігазбору засталася на радзіме. Зараз больш за 3,5 тыс. экз. захоўваюцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі, каля 260 экз. — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і больш за 100 экз. — у Прэзідэнцкай бібліятэцы.

Асноўная ж маса кніг з першай бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў знаходзіцца за межамі Беларусі — у бібліятэках Расіі, Польшчы, Украіны, Літвы і Фінляндыі. Большасць з іх — каля 11 тыс. адзінак захоўвання знаходзяцца цяпер у розных фондах Бібліятэкі Расійскай АН (значная колькасць страчана падчас пажару БАН 1988 г.). Каля 1500 адзінак захоўвання знаходзяцца ў Навуковай бібліятэцы Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта.

Каля 800 кніг з першай Нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў знаходзіцца цяпер у Фінляндыі ў фондах бібліятэкі Хельсінскага

→ *Вокладка кнігі Э. Катлубая «Нясвіжская галерэя партрэтаў Радзівілаў». Вільня, 1857 г.*

# GALERJA NIEŚWIEŻSKA
PORTRETÓW
# RADZIWIŁŁOWSKICH.




OPISANA HISTORYCZNIE

PRZEZ

**EDWARDA KOTŁUBAJA.**

Z DRZEWORYTAMI MICHAŁA STARKMANA.

---

**WILNO.**
1857.

універсітэта. Матэрыялы з першай бібліятэкі і архіва Радзівілаў захоўваюцца таксама ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве, Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў Вільнюсе і Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Кіеве. Нязначная частка кніг з Нясвіжскай калекцыі воляю лёсу патрапіла таксама ў іншыя бібліятэкі, архівы і музеі Расіі, Польшчы, Беларусі і іншых краін.

Аб'ём і склад фондаў Бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў зрабілі яе унікальным кніжным зборам сусветнага значэння, які ўяўляе каштоўнасць не толькі для беларускай, але і еўрапейскай культуры ў цэлым. У пасляваенны перыяд арганізацыі-трымальнікі матэрыялаў з Нясвіжскай калекцыі рабілі спробы па іх апісанні і ўпарадкаванні. Аднак актыўная праца ў гэтым кірунку пачалася толькі пасля распаду СССР і набыцця Беларуссю дзяржаўнай незалежнасці, што дазволіла пашырыць кола навуковых даследаванняў і наладзіць эфектыўнае супрацоўніцтва з замежнымі калегамі.

Бібліятэкай Расійскай акадэміі навук быў падрыхтаваны і выдадзены паказальнік, (перавыдадзены ў 2005 г. у двух выпусках), куды ўключаны апісанні 1062 экзэмпляраў з бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, якія знаходзяцца ў яе фондах[359]. Праца па апісанні кніг з фондаў Нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў вядзецца таксама бібліятэкай Маскоўскага універсітэта.

Бібліятэкай Хельсінскага універсітэта таксама выдадзены каталог калекцыі кніг, якія належалі нясвіжскай лініі роду Радзівілаў. У каталог увайшло апісанне 1119 экзэмпляраў[360].

Каталог польскіх кніг з Нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў ствараецца і ў Інстытуце польскай бібліяграфіі імя Караля Эстрайхера Ягелонскага універсітэта (г. Кракаў). У яго ў электроннай базе дадзеных «Katalog starych druków Biblioteki Ordynacji Nieświeskiej Radziwiłłów. Druki polskie XVI—XVIII w.» прадстаўлены апісанні старадрукаваных польскіх кніг з бібліятэкі РАН, Навуковай бібліятэкі Маскоўскага універсітэта, бібліятэкі Хельсінскага універсітэта, а таксама бібліятэкі Варшаўскага універсітэта[361].

ЦНБ НАН Беларусі з 2005 г. вядзе планавую навукова-даследчую працу «Бібліятэка Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў у фондах ЦНБ НАН Беларусі: вывучэнне складу і навуковае апісанне дакументаў», якая разлічана на 10 гадоў. Нацыянальная бібліятэка Беларусі яшчэ ў 1994 г. прыступіла да стварэння базы дадзеных «Radziviliana», прызначанай адлюстраваць звесткі аб складзе кніжнай калекцыі бібліятэкі Радзівілаў у яе фондах. Пазней задачы праграмы былі пашыраны і накіраваны на фарміраванне паўнатэкставай базай дадзеных. У НББ аблічбаваны выданні з Радзівілаўскай калекцыі, якія захоўваюцца ў яе фондах. З мэтай каардынацыі намаганняў бібліятэк, у чыіх фондах цяпер захоўваюцца кнігі з бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, НББ у 1997 г. ініцыіравала распрацоўку буйнога міжнароднага праекта «Radziviliana», накіраванага на рэканструкцыю і віртуальнае аднаўленне дакументальнай спадчыны Радзівілаў. У 2006 г. заяўка на рэалізацыю праекта «Radziviliana» была пададзена ў ЮНЕСКА. Удзельнікі міжнароднай канферэнцыі «Праграма ЮНЕСКА «Памяць свету»: дзейнасць бібліятэк, архіваў, музеяў па захаванні дакументальнай спадчыны», якая праходзіла ў НББ 30 лістапада — 2 снежня 2006 г., падтрымалі ідэі праекта. У адпаведнасці з рашэннямі канферэнцыі быў створаны Міжнародны Савет па распрацоўцы праекта віртуальнай рэканструкцыі дакументальнай спадчыны і бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. У яго рэалізацыі прынялі ўдзел бібліятэкі і архівы Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы і Фінляндыі. У працэсе абмеркавання рамкі праекта былі значна пашыраны, ён атрымаў назву «Дакументальная спадчына Рэчы Паспалітай» і быў ухвалены ЮНЕСКА у 2008 г. Яго мэта — выяўленне і апісанне найбуйнейшых збораў архіўных дакументаў Рэчы Паспалітай, у першую чаргу, Радзівілаў.

На другім пасяджэнні Савета, якое адбылося 12 снежня 2008 г. у Нясвіжы, было прынята рашэнне аб тым, што кожная краіна будзе самастойна ажыццяўляць увесь комплекс работ па наяўных у яе распараджэнні архіўных, бібліятэчных і музейных дакументах з Нясвіжа. Працуючы ў рамках рашэнняў Савета, самыя буйныя бібліятэкі Беларусі — Нацыянальная, Цэнтральная навуковая імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук і Прэзідэнцкая ў 2010 г. стварылі працоўную групу, дзейнасць якой накіравана на рэканструкцыю бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў.

Прызнаючы высокую значнасць для сусветнай культуры спадчыны роду Радзівілаў, ЮНЕСКА у 2009 г. сваім рашэннем уключыла дакументальную спадчыну Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў — архівы і калекцыю кніг — у Сусветны рэгістр ЮНЕСКА «Памяць свету», што значна павысіла іх статус і стварыла дадатковыя перадумовы для глыбейшага вывучэння і рэканструкцыі.

## Бібліятэка Сапегаў

Сапегі з'яўляюцца адным з найбольш вядомых магнацкіх родаў у гісторыі ВКЛ, якія аказалі значны ўплыў на развіццё айчыннай культуры. У XVI—XVIII стст. род Сапегаў меў некалькі буйных бібліятэк: у Слоніме, Ружанах, Дзярэчыне, Кодані. Кніжныя зборы Сапегаў саступалі па сваёй значнасці і багаццю толькі зборам роду Радзівілаў.

Пачатак кніжнаму збору паклала ружанская бібліятэка канцлера вялікага літоўскага Льва Сапегі, якую папоўніў яго сын Казімір Леў. У XVIII ст. ружанская калекцыя была перавезена ў Дзярэчын, дзе папаўнялася Аляксандрам, Міхалам і Францыскам Сапегамі. У 1644—1645 гг. Л. Сапега ахвяраваў вялікую колькасць кніг з асабістай бібліятэкі ў Ружанах бібліятэцы Віленскай езуіцкай акадэміі.

Бібліятэка ў Кодані вырасла дзякуючы бібліяфільству канцлера вялікага літоўскага Яна Фрэдэрыка і Аляксандра Сапегаў. У ёй найбольш поўна была прадстаўлена літаратура па юрыспрудэнцыі, гісторыі, паэзіі, мовазнаўстве, геаграфіі і тэалогіі. Акрамя кніжных збораў у бібліятэцы размяшчаліся архіў старажытных актаў і калекцыя гравюр.

Коданскую бібліятэку А. Сапега ў 1810 г. перадаў Варшаўскаму таварыству аматараў навук. Дзярэчынская бібліятэка разам з архівам пасля задушэння паўстання 1830—1831 гг. у 1834 г. была вывезена ў Санкт-Пецярбург. Зараз вялікая частка кніг з гэтай калекцыі захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы (РНБ) і Бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук (БАН), а таксама бібліятэках Вільнюскага і Варшаўскага універсітэтаў.

На жаль, бібліятэчныя зборы Сапегаў не дайшлі да нашага часу ў першапачатковым выглядзе. Зараз найбольш даследаванай іх часткай з'яўляюцца кніжныя зборы, перададзеныя

*Кніга з экслібрысам А. Сапегі.*

*→ Разварот кнігі з экслібрысам Сапегаў з бібліятэкі А. Сапегі. 1810 г.*






Cassiodorus

Ex libris Alexandri Principis Sapieha Donatis Societati Regia Varsaviensi anno 1810.

Л. Сапегам Віленскай езуіцкай акадэміі. У Бібліятэцы Вільнюскага універсітэта да нашага часу захавалася каля 300 тамоў кніг з першай бібліятэкі Сапегаў, якія дэталёва апісаны ў выдадзеным Бібліятэкай каталогу[362]. Літоўскія даследчыкі падрабязна апісалі 249 кніг, а таксама размясцілі якасны ілюстрацыйны матэрыял. У каталог таксама ўключаны досыць падрабязныя апісанні 34 старадрукаваных кніг з першай бібліятэкі Сапегаў, якія цяпер захоўваюцца ў Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы, Нацыянальным музеі ў палацы вялікіх князёў ВКЛ (Літва), Бібліятэцы Тартускага універсітэта (Эстонія), Варшаўскай універсітэцкай бібліятэцы, Бібліятэцы РАН, Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя Вярнадскага.

Паводле інвентару, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Вільнюскага універсітэта (F 3-221 — Catalogue des livres de la bibliothèque de Rozana 1797), калекцыя Францішка Сапегі ў Ружанах з 1797 г. налічвала 2221 том[363]. Яшчэ адна рыса, якая характарызавала збор — наяўнасць у калекцыі гравюр і карт. У каталозе бібліятэкі Сапегаў у Ружанах з 1797 г. атласы і геаграфічныя карты, а таксама гравюры, былі спісаны асобна, было іх адпаведна 5 і 10 экзэмпляраў[364]. Дадатковы каталог, складзены ў 1800 г., рэгіструе 8 «cartons» (тут, хутчэй за ўсё, папак) і 39 «livres d'estampes reliès» (таксама, можна меркаваць, што гэта папкі ці альбомы з гравюрамі)[365]. Аналіз складу прыватных шляхецкіх кнігазбораў сведчыць аб наяўнасці разнароднай і шматлікай літаратуры па садова-паркавым мастацтве, садаводстве і агародніцтве. Асабліва выразна выяўляецца такая зацікаўленасць сярод уладальнікаў палацава-паркавых ансамбляў. Таму не здзіўляе факт, што самымі вялікімі калекцыямі кніг па гэтай тэматыцы валодалі Сапегі ў Дзярэчыне (шматтомныя публікацыі з розных часоў і на розных мовах)[366].

Даволі падрабязна можна рэканструяваць гісторыю перадачы ў Санкт-Пецярбург бібліятэкі князя Яўстафія Сапегі — удзельніка паўстання 1830—1831 гг., які эмігрыраваў у Францыю пасля паражэння паўстанцаў. Кнігі паступілі ў снежні 1832 г. пасля канфіскацыі яго маёнтка ў Дзярэчыне Гродзенскай губерні.

Збор Я. Сапегі быў перададзены ў Імператарскую Публічную бібліятэку ў суправаджэнні рэестра, складзенага на месцы, пры вопісу канфіскаванай маёмасці. З гэтай маёмасці Гродзенская казённая палата адправіла ў Санкт-Пецярбург 25 скрынь «с картинами, эстампами, книгами и другими вещами». Паводле распараджэння Міністэрства імператарскага двара яны былі накіраваны ў Эрмітаж. Кнігі знаходзіліся ў васьмі скрынях, і Ф.І. Лабенскі, наглядчык над карцінамі і эстампамі ў Эрмітажы, які прымаў гэты груз, атрымаў прадпісанне Прыдворнай канторы перадаць скрыні з кнігамі ў ІПБ. У сваю чаргу, міністр народнай асветы князь К. Лівен аддаў загад дырэктару бібліятэкі А.М. Аленіну прыняць з Эрмітажа азначаныя кнігі[367]. Збор, паводле прыкладзенага рэестра, уключаў 1231 назву ў 2157 тамах. Ён складаўся з літаратуры на розных еўрапейскіх мовах (пераважна на французскай) і меў універсальны характар. У рэестры, сярод іншага, зафіксаваны дэфектныя экзэмпляры (274 назвы), разрозненыя нумары перыядычных выданняў, няпоўныя камплекты збораў твораў. У афіцыйных дакументах усе рэчы збору Я. Сапегі называюцца кнігамі. Аднак пры вывучэнні суправаджальнага рэестра ў ім выяўляюцца шаснаццаць рукапісаў. Яны запісаны сцісла, у агульным шэрагу з друкаванымі матэрыяламі, з паметкай «Manuscript», напрыклад, «Compendium. Manuscript», «Lexicon. Manuscript», «Manuscript wyrazow», «Zbiór różnych listow. Manuscript» і інш. Апісанне выяўленых рукапісаў зроблена зусім непрафесійна — не названы час стварэння рукапісу, яго змест, мова, характар пісьма, колькасць старонак і іншае, што дазваляе суаднесці апісанне з самым рукапісам. Запісы выданняў таксама не заўсёды маюць неабходныя звесткі для іх бібліяграфічнай ідэнтыфікацыі.

У 2010 г. пры падтрымцы ЮНЕСКА Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Расійская нацыянальная бібліятэка ў Пецярбургу прыступілі да рэалізацыі праекта «Віртуальная рэканструкцыя бібліятэкі Сапегаў», у выніку чаго створаны інфармацыйны рэсурс, які змяшчае звесткі аб гісторыі, месцазнаходжанні і стане кніжных збораў Сапегаў. Рэсурс прадстаўляе навуковае апісанне выданняў і рукапісаў, звязаных з родам Сапегаў, з фондаў бібліятэк Расіі і Беларусі; электронныя копіі найбольш каштоўных дакументаў і кніг; бібліяграфію па гісторыі роду Сапегаў; ілюстрацыйны матэрыял, звязаны з родам Сапегаў (узоры экслібрысаў, партрэты прадстаўнікоў роду і інш.).

## Бібліятэка Храптовічаў

У другой палове XVIII ст. беларускі магнат Іахім Храптовіч (1729—1812) у сваім родавым маёнтку ў Шчорсах сабраў бібліятэку. Аснову калекцыі склалі кнігі і рукапісы, набытыя І. Храптовічам падчас падарожжаў па Еўропе, у тым ліку ў рымскага кардынала І. Імперыале, польскага біскупа А. Залускага, а таксама выданні з кніжных збораў касцёлаў, закрытых у канцы XVIII — пачатку XIX ст. Пасля смерці І. Храптовіча ў 1812 г. бібліятэку атрымалі ў спадчыну яго сваякі, якія папаўнялі яе як старадрукаванымі, так і новымі выданнямі. У канцы XIX — пачатку XX ст. бібліятэка налічвала больш за 15 тыс. экзэмпляраў.

У 1913 г. браты Храптовічы перадалі найбольш каштоўныя кнігі і рукапісы на часовае захаванне ў Кіеўскі універсітэт (вясной і летам 1914 г. туды паступіла 7000 экзэмпляраў). У Шчорсах заставаліся выданні мастацка-публіцыстычных жанраў, якія загінулі падчас ваенных дзеянняў 1916 і 1939 гг.

Размовы аб перавядзенні шчорсаўскага кнігазбору ў Кіеў пачаліся яшчэ ў 1909 г. Па хадайніцтве бібліятэкі універсітэта св. Уладзіміра для перамоваў аб перадачы кніг у Шчорсы быў камандзіраваны прафесар-беларус М.В. Доўнар-Запольскі, ураджэнец Рэчыцы. У выніку ў 1913 г. з'явіўся дакумент, які прадугледжваў перадачу кнігазбору на дэпазітарнае (часовае) захоўванне на 25 гадоў[368]. Пазней трэба было разгледзець пытанне нанова: вярнуць кнігі ў Шчорсы, альбо перадаць калекцыю Віленскаму універсітэту, калі ён на той час будзе адчынены. Калі ж праз 25 гадоў становішча не зменіцца, то вярнуцца да пытання аб праве ўласнасці яшчэ праз 25 гадоў... Захаваўся напярэдні варыянт дакумента 1913 г., не падпісанага і не заверанага. Ці існуе арыгінал акта перадачы і ў якой рэдакцыі, невядома.

У 1927 г. кнігазбор перадаюць Усенароднай бібліятэцы Украіны пры Акадэміі навук (цяпер Нацыянальная бібліятэка Украіны імя У. І. Вярнадскага). Інвентарызацыя, праведзеная ў 1985 г., паказала, што значная частка калекцыі згублена. Да цяперашняга часу захавалася 112 рукапісаў (са 129 улічаных у вопісе З.Л. Пташыцкага[369]) і 2005 кніг. Маюцца 3 інкунабулы, 39 палеатыпаў, а таксама заходнееўрапейскія выданні XV—XVIII стст., прадукцыя віленскіх друкарняў XVI ст., гродзенскіх XVIII ст., полацкіх пачатку XIX ст.

З часу перадачы бібліятэкі Храптовічаў у Кіеў кіраўніцтва Беларусі, навуковая і культурная грамадскасць Беларусі дамагаліся вяртання калекцыі на радзіму. Аднак па розных прычынах кнігазбор заставаўся ў Кіеве, а ў 1995 г. Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь была атрымана афіцыйная адмова ўкраінскага боку ў вяртанні бібліятэкі Храптовічаў.

З мэтай вывучэння, віртуальнай рэканструкцыі і папулярызацыі кніжнага збору роду Храптовічаў Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Украіны імя У.І. Вярнадскага ў 2008 г. быў ініцыяваны праект «Кніжны збор роду Храптовічаў», які атрымаў падтрымку ЮНЕСКА. У выніку яго рэалізацыі быў створаны электронны рэсурс, што ўключае бібліяграфічныя апісанні і поўнатэкставыя электронныя копіі самых каштоўных выданняў, якія захаваліся[370].

Заслугоўваюць увагі таксама кніжныя зборы шляхецкага беларускага роду Агінскіх. З канца XVI ст. прадстаўнікі роду займалі важныя дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім. У сярэдзіне XVIII ст. вялікі гетман літоўскі, кампазітар і паэт Міхал Казімір Агінскі (1730—1800) заснаваў прыватную бібліятэку ў маёнтку Нябораў, якую потым перавезлі ў Слонім, дзе ім былі таксама заснаваныя друкарня, тэатр, капэла і балетная школа[371]. Кніжныя зборы назапашваліся і ў іншых уладаннях Агінскіх. Звесткі аб лёсах іх асабістых бібліятэк досыць скупыя, але несумненна, ацалелыя экзэмпляры можна выявіць у кнігасховішчах Польшчы, Літвы і Беларусі.

## Бібліятэка графоў Гутэн-Чапскіх

Вялікая бібліятэка была сабрана прадстаўнікамі старажытнага шляхецкага роду графоў Гутэн-Чапскіх у родавым маёнтку Станькава (за 10 км ад Койданава). Сядзібна-паркавы комплекс Станькава ўключаў палац і два жылыя будынкі, якія размяшчаліся ў прыгожым парку. Спецыяльна для бібліятэкі быў пабудаваны двухпавярховы квадратны павільён з вежамі — «скарбчык», які нагадвае сярэдневяковы замак у мініяцюры.

Адным з найбуйнейшых калекцыянераў сярод прадстаўнікоў гэтага роду з'яўляецца Эмерык Карлавіч (5.11.1828—23.07.1896), дзяржаўны дзеяч, нумізмат, бібліяфіл. Выпускнік Маскоўскага універсітэта, ён служыў Расійскай імперыі на высокіх пасадах наўгародскага губернатара, пецярбургскага віцэ-губернатара, дырэктара Ляснога дэпартамента Міністэрства дзяржаўных маёмасцей. Свае сувязі, падмацаваныя вялікімі грашыма, выкарыстаў для складання калекцый: найперш нумізматычнай, а таксама кніг і гравюр. Пасля выхаду ў адстаўку жыў у Станькаве ў 1879—1894 г., арганізаваў тут музей. У бібліятэцы Э. Гутэн-Чапскага налічвалася да 20 тыс. кніг, сярод якіх меліся старадрукаваныя і рэдкія выданні, у т.л. Брэсцкая Біблія 1563 г., 329 выданняў эпохі Ягелонаў, каля 270 кніг з аўтографамі, калекцыі рукапісаў А. Міцкевіча, С. Манюшкі, Ю. Нямцэвіча, А. Адзінца і інш.

У 1894 г. Эмерык Гутэн-Чапскі выхаў у Аўстра-Венгрыю. Купіўшы дом у Кракаве, ён перавёз туды вялікую частку сваіх калекцый і арганізаваў музей. На доме быў зроблены лацінскі надпіс: «monumentis patriae naufrago ereptis», што значыць «айчынным помнікам, ацалелым у буры гісторыі»[372]. Апошнія гады жыцця нястомны калекцыянер прысвяціў апісанню сваіх збораў. Пасля смерці графа яго калекцыі склалі аснову цяперашняга музея імя Чапскага, а намаганнямі яго ўдавы, Эльжбеты Меендорф, былі выданы «Спіс друкаў Ягелонскай эпохі ў зборы Эмерыка гр. Чапскага» (Кракаў, 1900) і першы том апісання гравюр яго калекцыі (толькі партрэты і толькі ў тэхніцы металагравюры, літаграфію граф не збіраў) — апісаны 2383 асобныя аркушы (Кракаў, 1901, паўторнае выданне — Варшава, 2001)[373].

Лёс жа калекцый, пакінутых у Станькаве, менш вядомы. Пасля пераезду Э. Гутэн-Чапскага ў Кракаў значная частка яго кніг, а менавіта росіка, засталася ў Станькаве ва ўласнасці сына Караля. На жаль, не захаваліся дадзеныя, якія б дазволілі ахарактарызаваць бібліятэку па колькасці і змесце кніг, але можна дапусціць, што гэта быў тыповы шматмоўны шляхецкі кнігазбор універсальнага характару. Караль Чапскі (1860—1904), тагачасны гарадскі галава г. Мінска, працягнуў традыцыі бацькі і папаўняў калекцыю кніг і гравюр, набываючы рэдкія выданні ў заходнееўрапейскіх, польскіх і расійскіх антыквараў. Частка кніжнага збору Эмерыка Чапскага адышла да яго малодшага сына Юрыя (1861—1938), які валодаў маёнткам у Прылуках і меў там значную бібліятэку.

У 1916 г. (па іншых звестках, у 1914 г.) самую каштоўную частку станькаўскіх збораў, ратуючы іх ад ваенных падзей, вывезлі ў Маскву. Але некаторыя кнігі ўсё-такі засталіся ў Станькаве. У 1920 г. яны былі вывезеныя польскім войскам і да пачатку Другой сусветнай вайны знаходзіліся ва ўладаннях Эмерыка Чапскага ў леснічоўцы ў Сынкавічах недалёка ад Слоніма. Кніжны збор, пакінуты ў маёнтку, быў разрабаваны[374]. Астаткі станькаўскай бібліятэкі, вывезенай падчас Першай сусветнай вайны ў Расію, захоўваюцца цяпер у Дзяржаўным гістарычным музеі і Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэцы Расіі ў Маскве, Дзяржаўным Рускім музеі ў Санкт-Пецярбургу[375].

Асабістая бібліятэка была створана таксама Адамам Чапскім (1819—?) камер-юнкерам расійскага імператарскага двара, які валодаў маёнткамі Навасёлкі, Жупраны, Маляты ў Віленскай губерні. У нядаўна знойдзеным у школьным музеі ў Гальшанах Ашмянскага раёна каталогу кніжнага збору з Навасёлак, зафіксавана 513 кніг. Каталог бібліятэкі сведчыць аб тым, што ў яе фондзе меліся выданні па гісторыі (хронікі, дзённікі), генеалагічныя, рэлігійныя, па эстэтыцы, а таксама лячэбнікі, вялікая колькасць белетрыстыкі. У бібліятэцы было даволі шмат кніг, звязаных з Беларуссю: прыжыццёвыя выданні А. Міцкевіча 1829 г., творы У. Сыракомлі, Э. Ажэшкі, А. Адзінца і інш. Большасць кніг на польскай мове з друкарняў Варшавы, Кракава і іншых польскіх гарадоў, а таксама кнігі, выданыя ў Львове, Кіеве, Маскве і Санкт-Пецярбургу. Але ў гэтай тыповай паводле складу хатняй бібліятэцы сустракаюцца і старадрукаваныя выданні М. Стрыйкоўскага 1582 г., П. Скаргі 1780 г., М. Кромера 1767 г. Апошні год выдання кніг, занесеных у каталог, — 1893-і, гэта дазваляе выказаць здагадку, што папаўненне бібліятэкі скончылася ў канцы 19 ст.[376]

Сем кніг, уладальнікамі якіх былі прадстаўнікі роду Чапскіх, выяўлены ў фондах НББ. Хутчэй за ўсё, гэта рэшткі кніжнага збору, рас-

цягнутыя мясцовымі жыхарамі са Станькава пасля рэвалюцыі. Не выключана, што далейшая праца па навуковым апісанні фондаў НББ і іншых бібліятэк і музеяў можа прывесці да новых знаходак кніг з бібліятэкі Чапскіх.

Вялікую бібліятэку ў сваім маёнтку ў Гомелі сабраў дзяржаўны і грамадскі дзеяч Расійскай імперыі, калекцыянер, граф Мікалай Пятровіч Румянцаў. Яго калекцыі ўключалі нумізматычныя, прыродазнаўчыя навуковыя экспанаты, прадметы этнаграфіі розных краін і народаў, археалагічныя знаходкі, творы мастацтва і інш. Але асноўным у яго збіральніцкай дзейнасці стала калекцыяніраванне рэдкіх кніг. Бібліятэка М. Румянцава налічвала больш за 28,5 тыс. выданняў і рукапісаў. Размяшчалася ў яго доме на Англійскай набярэжнай у Пецярбургу, частка знаходзілася ў Гомельскім палацы графа (тут з кнігамі працаваў заснавальнік беларускай археаграфіі, протаіерэй Іаан Грыгаровіч). Гэта быў адзін з лепшых прыватных кнігазбораў Расіі, які ўключаў шмат рукапісных кніг XIII—XIX стст. (сярод якіх некалькі выдатных беларускіх помнікаў), друкаваныя выданні па розных галінах навукі, энцыклапедыі, працы па гісторыі, творы мастацкай літаратуры, перыёдыку, старажытныя атласы. Бібліятэка М. Румянцава стала асновай цяперашняй Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве.

Добрую бібліятэку стварыў у сваім маёнтку ў Лагойску Барысаўскага павета Мінскай губерні граф Яўстафій Піевіч Тышкевіч, старшыня Віленскай археалагічнай камісіі. Акрамя друкаваных кніг, у яе фондзе знаходзіліся каштоўныя зборы рукапісаў і розных дакументаў па гісторыі краю. Частку сваёй бібліятэкі (каля 3 тыс. кніг, прысвечаных старажытнасцям, гісторыі і бібліяграфіі) граф Тышкевіч ахвяраваў Віленскай археалагічнай камісіі[377]. Разам з фондамі Археалагічнай камісіі Лагойская бібліятэка трапіла ў Віленскую публічную бібліятэку і зараз знаходзіцца ў Вільнюсе.

Вялікую калекцыю, прысвечаную гісторыі напалеонаўскіх войнаў, сабраў барысаўскі памешчык, калекцыянер і бібліяфіл канца XIX — пачатку XX ст., Іван Хрысанфавіч Каладзееў (1859—1914). Яна размяшчалася ў доме калекцыянера ў Новабарысаве (цяпер г. Барысаў, вул. 30 гадоў ВЛКСМ, д. 8) і была не толькі даступнай для даследчыкаў, але і адкрыта для экскурсій. Фактычна дом Каладзеева ператварыўся ў музей-бібліятэку. Збор І.Х. Каладзеева пачаў стварацца ў 1890-х гг., тут былі сабраны рэдкія, а часам і унікальныя выданні, што трапілі ў Новабарысаў са збораў калекцыянера П.А. Яфрэмава, пецярбургскага бібліяфіла, этнографа і археолага П.А. Закрэўскага, маскоўскага генерал-губернатара А.А. Закрэўскага, а таксама кнігі і дакументы са збораў Э.К. Гутэн-Чапскага і Я.Т. Тышкевіча. Акрамя бібліятэкі (больш за 15 тыс. тамоў на 11 мовах), збор І.Х. Каладзеева ўключаў значную калекцыю гравюр, карт, плакатаў, чарцяжоў і малюнкаў (больш за 3 тыс. экзэмпляраў), рукапісаў. У зборы таксама былі розныя віды халоднай і агнястрэльнай зброі, падборкі ордэнаў і медалёў, манеты.

У сувязі з падрыхтоўкай да адкрыцця ў Маскве музея ў памяць 1812 года, 31 ліпеня 1913 г. Каладзееў бязвыплатна перадаў музею звыш 11 тыс. тамоў кніг са сваёй бібліятэкі. Пакінутая самая каштоўная частка збору паступіла ў маскоўскі Гістарычны музей у 1915 г. — ужо пасля смерці калекцыянера. У 1926 г. частка бібліятэкі І.Х. Каладзеева (8 тыс. кніг) была вернута БССР. Кнігі трапілі ў Дзяржаўную бібліятэку БССР (зараз Нацыянальная бібліятэка Беларусі), дзе разышліся па фондах. Часткова гэтая калекцыя была згублена падчас Другой сусветнай вайны. Да цяперашняга часу ў НББ захавалася каля 3 тыс. кніг з калекцыі І. Х. Каладзеева. Частка кніг захоўваецца ў Маскве — у Дзяржаўнай публічнай гістарычнай бібліятэцы і Дзяржаўным гістарычным музеі Расійскай Федэрацыі.

Акрамя тытулаванай арыстакратыі хатнія бібліятэкі мелі прадстаўнікі шляхты, якая ў XIX стагоддзі была даволі разнастайнай па сваім маёмасным статусе. Збіралі кнігі такія заможныя сем'і, як Пуслоўскія ў Косаве (некалькі тысяч тамоў), Нямцэвічы ў Скоках (каля паўтысячы тамоў), Швыкоўскія ў Пружанах (каля 1,5 тыс. тамоў). Даволі часта фарміраванне падобных калекцый з'яўлялася вынікам карпатлівай мэтанакіраванай дзейнасці асобных заўзятых аматараў кнігі. Напрыклад, Вандалін Пуслоўскі цікавіўся гісторыяй, у першую чаргу зямель былога Вялікага Княства Літоўскага, археалогіяй, нумізматыкай, набываў перыядычныя выданні на польскай мове, старыя календары[378]. Уладзіслаў Трэмбіцкі з Лінова Пружанскага павета быў не толькі бібліяфілам, але і бібліёграфам, яго ўвагу прыцягвала польская літаратура, якой ён сабраў некалькі тысяч тамоў.

Бібліятэку, якая ўключала каля 3 тыс. кніг па гісторыі Беларусі, археалогіі, этнаграфіі і царкоўнай даўніне, сабраў у Магілёве Еўдакім Раманавіч Раманаў. Бібліятэку па гісторыі, археалогіі (пераважна Беларусі) і літаратуры аб'ёмам больш за 1000 тамоў сабраў Аляксандр Іванавіч Мілавідаў[379]. Бібліятэка генерал-маёра

Уладзіміра Іванавіча Харкевіча складала каля 900 тамоў твораў, прысвечаных вайне 1812 г. (на рускай, італьянскай і іспанскай мовах). Пасля смерці ўладальніка яна была перададзена ва ўласнасць Камітэта па будаўніцтву ў Маскве музея ў памяць 1812 года.

У назапашванні друкаванай літаратуры была зацікаўлена яшчэ адна сацыяльная праслойка — інтэлігенцыя, якая толькі пачынала фарміравацца і якая існавала за кошт разумовай працы. Пераважна гэта былі настаўнікі, чыноўнікі, дактары, што жылі і працавалі ў невялікіх населеных пунктах. У правінцыі часам жылі пісьменнікі, навукоўцы, былыя прафесары Віленскага універсітэта, як напрыклад Міхаіл Бабро̆ўскі, які пасля закрыцця гэтай установы жыў у Шарашове Пружанскага павета[380]. Кніжныя зборы інтэлігенцыі ў колькасным плане былі пераважна невялікія, але, як правіла, руплівa ўкамплектаваныя і тэматычна звязаныя з прафесіяй[381].

Крыніцы, якія змяшчаюць звесткі пра бібліятэкі мяшчанства, духавенства розных канфесій, а таксама сялян, малалікія. Таму цікавым выключэннем з'яўляюцца звесткі пра брэсцкага збіральніка кніг Самуэля Хэфта, які ўсе назапашаныя фінансавыя сродкі выкарыстоўваў на набыццё кніг па філасофіі, гісторыі, літаратуры, краязнаўстве на польскай, лацінскай, французскай, нямецкай і рускай мовах[382].

Шляхі камплектавання кніжных калекцый у XIX ст. вылучаліся разнастайнасцю. У даследуемы перыяд у беларуска-літоўскай правінцыі развітай сеткі стацыянарнага кніжнага гандлю не існавала. Прапанова кніжнай прадукцыі на мясцовых кірмашах была даволі сціплай. Вядомыя магнацкія і шляхецкія сем'і перадавалі кніжныя калекцыі ў спадчыну (як гэта, напрыклад, было ў Сапегаў), шмат літаратуры прывозілі з замежных падарожжаў. У асяроддзі заможных бібліяфілаў практыкавалася набыццё ўсяго кнігазбору ці яго часткі. Яскравай ілюстрацыяй з'яўляецца факт набыцця Трэмбіцкім бібліятэкі ад свайго суседа Міхаіла Бабро̆ўскага[383]. Некаторыя кнігі папаўнялі паліцы бібліятэк у якасці падарункаў. Вялікая частка гістарычнай і беларусазнаўчай бібліятэкі прафесара Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі Міхаіла Каяловіча перайшла ў карыстанне яго вучню, наступніку на пасадзе прафесара акадэміі і земляку Платону Жуковічу. Асобнікі з даравальнымі надпісамі захаваліся ў калекцыі Вандаліна Пуслоўскага[384]. Вядомы выпадкі, калі неабходныя, але рэдкія кнігі, з'яўляліся прадметам абмену.

Аднак большасць кніг трапляла ў прыватныя кнігазборы з мясцовых і замежных кнігарняў[385], што часам пацвярджаюць запісы на захаваных асобніках (напрыклад з калекцыі Пуслоўскага). Найбліжэйшым і самым буйным цэнтрам кніжнага гандлю была Вільня, і толькі ў сярэдзіне XIX ст. ў правінцыі пачалі з'яўляцца стацыянарныя кніжныя крамы, хоць і з абмежаванай прапановай. З гэтай прычыны ў XIX ст. актыўна практыкаваўся пісьмовы заказ на кнігі. Рассылка кніг адбывалася на падставе каталогаў буйных кнігарняў са змешчанымі ў іх цэннікамі. Кнігі дасылаліся поштай, прычым сталыя кліенты карысталіся скідкай. Некаторыя кніжныя выданні і часопісы можна было набыць шляхам падпіскі, а імянны паказальнік заказчыкаў часам друкаваўся ў канцы кніг ці часопісаў. Вельмі рэдкай, але цікавай крыніцай з'яўляюцца захаваныя падпісныя лісты. У Аддзеле рэдкіх кніг і старадрукаў Гродзенскага гістарычна-археалагічнага музея захаваўся падпісны ліст Вандаліна Пуслоўскага на працу Адама Ёхера «Obraz bibliograficzno-historyczny literatury polskiej».

Карыстаючыся дасланымі каталогамі, вядомы бібліяфіл і бібліёграф Уладзіслаў Трэмбіцкі з Лінова рэгулярна замаўляў у Завадскага ў Вільні патрэбныя кнігі, выпісваў часопісы. Часта ў лістах Трэмбіцкага да буйнейшага віленскага кнігавыдаўца сустракаюцца запыты адносна чарговых частак бібліяграфіі Ёхера, якая толькі пачала выходзіць з друку ў 1840 г. Зразумела, што найбольш Трэмбіцкага цікавілі працы па гісторыі літаратуры, якія ён збіраў у Лінове. Свой уласны кнігазбор у адным з лістоў У. Трэмбіцкі характарызуе наступным чынам: «Я валодаю цудоўнаю і багатаю на старыя друкі бібліятэкаю»[386], на падставе свайго кнігазбору ён пісаў крытычныя артыкулы з дапаўненнямі працы Ёхера для часопіса «Biblioteka Warszawska».

Дакладны колькасна-тэматычны аналіз прыватных кнігазбораў у XIX ст. можна правесці толькі на падставе аналізу захаваных фрагментаў калекцый або адшуканых інвентароў тагачасных бібліятэк. Супастаўленне зместу інвентароў з актуальным станам паасобных збораў схіляе да думкі аб тым, што аніводнай суцэльнай калекцыі кніг не збераглося. У гэтым сэнсе яскравым прыкладам з'яўляецца кнігазбор Пуслоўскіх-Красінскіх, вывучаны на падставе ўладальніцкіх знакаў (захоўваецца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі). Варта заўважыць, што і ён заслугоўвае далейшага, больш грунтоўнага разбору.

Згаданая калекцыя складаецца з дзвюх частак. Першая — гэта кнігі Вандаліна Пуслоўскага, якія першапачаткова збіраліся ў Косаўскім палацы (на кнігах захаваліся і запісы пра «бібліятэку ў Мерачоўшчыне»). Бацькоўскую калекцыю ў спадчыну атрымала дачка Марта Красінская, якая, як можна меркаваць, перавезла яе ў Свіслач, з часам папаўняючы новымі набыткамі. Пазней гэтыя каштоўныя зборы трапілі ў Гародню.

Найбольшыя прыватныя кнігазборы беларускай шляхты ў XIX ст. складаліся з некалькіх тысяч тамоў. Да такіх, бясспрэчна, належала калекцыя Вандаліна Пуслоўскага з Берасцейшчыны, якая налічвала прынамсі 8 тыс. тамоў. Акрамя згаданага збора архіўныя матэрыялы дазваляюць высветліць колькасную характарыстыку бібліятэк Валянціна Швыкоўскага ў Пружанах — 1407 тамоў канфіскавана пасля 1863 г.[387], спіс; Караля Нямцэвіча ў маёнтку Скокі — 481 том[388].

Абапіраючыся на выніковых аналагічных даследаванняў, прысвечаных Гарадзеншчыне, можна дапусціць, што і ў іншых рэгіёнах Беларусі стандартная ўзорная шляхецкая бібліятэка ў XIX ст. налічвала некалькі соцень тамоў, сярод якіх пераважалі кнігі на польскай і французскай мовах, а таксама меліся і на нямецкай і лацінскай. Такімі калекцыямі валодалі асобы адукаваныя, якія мэтанакіравана фарміравалі хатнія бібліятэкі. Не выклікае сумнення і той факт, што большасць шляхецкіх кнігазбораў характарызавалася малалікасцю і складалася з некалькіх асобнікаў ці ў лепшым выпадку некалькіх дзесяткаў кніг, якія да таго ж не належалі да літаратуры высокага ўзроўню. Найлепшым сведчаннем гэтай думкі з'яўляюцца выказванні сучаснікаў. Так, напрыклад, Браніслаў Ортык у апісанні шляхты Лідскага павета ў 70-я гг. XIX ст. занатаваў: «У доме тыповага шляхціча на стале бывае калода зашмальцаваных карт да гульні ў кікса ці мар'яж, шэраг кніжачак для набажэнства: кантычкі, жыцці святых, і рэдка калі якая свецкая кніжыца, хіба што старая хроніка, Марфей тлумачальнік сноў ці Гісторыя аб Мелузіне»[389].

А згаданы вышэй У. Трэмбіцкі пра чытацкія густы сваіх суседзяў з Пружанскага павета выказаўся наступным чынам: «Я пісаў у ваколіцы, якая не абдзелена разумнымі людзьмі [...] бо на некалькі міль навокал у саміх бібліятэках прыватных дамоў можна без цяжкасці налічыць больш за дзесятак тысяч тамоў, якія аднак амаль поўнасцю складаюцца з новых ці замежных прац. [...] Сёння хатнія кнігазборы папаўняюцца пераважна ілюстраванымі выданнямі або раманамі новай школы ці каментарамі на адну з дзесяці запаведзяў — усё ж шчыра скажу, што такія працы, як «Вобраз» Ёхера ці «Гісторыю літаратуры», сустрэць цяжка»[390].

Аналіз зместу кнігазбораў выяўляе залежнасць паміж атрыманай адукацыяй і асабістымі зацікаўленнямі ўладальніка. На змест збораў аказваў таксама ўплыў склад сям'і. Жанчыны-шляхцянкі ахвотна бавілі вольны час чытаннем, сачылі за моднымі літаратурнымі напрамкамі, таму пераважна яны заказвалі найноўшыя французскія раманы[391]. Можна меркаваць, што наяўнасць значнай колькасці падручнікаў сведчыць аб адукацыйных патрэбах сям'і. Тагачаснай бібліятэкі немагчыма сабе ўявіць без гаспадарскіх календароў, слоўнікаў, апісанняў падарожжаў, гравюр і карт. Адпаведна з пануючай модай найбольш актыўна назапашваліся «помнікі даўніны», г.зн. калекцыі даволі шырокага профілю, якія былі прысвечаны мінуламу Вялікага Княства Літоўскага. Кнігі пра помнікі гісторыі прысутнічалі ў большасці кнігазбораў мясцовай інтэлігенцыі[392].

У прыватных бібліятэках сярод старадрукаў часта можна сустрэць Статут Вялікага Княства Літоўскага, які дзейнічаў тут да 1840 г. У хатніх калекцыях захоўваліся розныя выданні Статута, напрыклад, у В. Пуслоўскага выданне 1619 г.[393], у Нямцэвіча ў Скоках — 1744 г.[394]

Да найбольш папулярных выданняў адносіліся календары. Вельмі цікава акрэсліў роль календара ў шляхецкай бібліятэцы У. Трэмбіцкі: «Каляндар ... лічыўся лекарам, дарадчыкам, астролагам, барометрам і гадзіннікам на ўвесь год для гаспадара, абавязковым прадметам хатняга ўжытку ў яго доме, усёй яго бібліятэкай і энцыклапедыяй, адлюстраваннем густу і асветніцтва народу»[395]. Друкаваныя календары прысутнічалі не толькі ў сціплым жытле незаможнага шляхціца, але і ўладальнікі багатых бібліятэк не грэбавалі такой літаратурай. У кнігазборы Швыкоўскіх у Пружанах налічвалася 49 гаспадарскіх календароў на польскай мове[396]. Шматлікі збор календароў меў В. Пуслоўскі. Захавалася 11 календароў XVIII ст. з яго калекцыі, сярод якіх львоўскі на 1741 г., гродзенскія на 1778 і 1785 гг., 6 віленскіх: на 1775, 1776, 1783, 1785 (2 адзінкі) і 1789 гг., два варшаўскія календары на 1761 і 1767 гг.[397] Пуслоўскі збіраў таксама і календары XIX ст., асабліва выдадзеныя на літоўска-беларускіх землях, у тым ліку назапасіў шмат календароў, выдадзеных у Полацку.

Аналіз зместу прыватных шляхецкіх кнігазбораў сведчыць аб наяўнасці разнароднай і

шматлікай літаратуры па садова-паркавым мастацтве, садаводстве і агародніцтве. Асабліва выразна выяўляецца такая зацікаўленасць сярод уладальнікаў палацава-паркавых ансамбляў. Таму не здзіўляе факт, што самымі вялікімі калекцыямі кніг па гэтай тэматыцы валодалі Швыкоўскія ў Пружанах (сярод іншых 51 том французскага перыядычнага выдання, прысвечанага садаводству[398]). У Валянціна Швыкоўскага мелася калекцыя гравюр на «готланскай» паперы, якія захоўваліся ў кардонных папках у кабінеце[399]. Атласы і карты ў інвентары бібліятэкі Швыкоўскага былі ўнесены ў моўныя аддзелы, таму, напрыклад, карта Германіі знаходзілася сярод кніг на нямецкай мове, а 2 атласы і 3 неапісаныя карты патрапілі ў французскі аддзел[400].

Рэканструкцыя лёсаў прыватных кнігазбораў у Беларусі падаецца магчымай дзякуючы захаваным і адшуканым крыніцам. Ратункам для некаторых прыватных калекцый заставалася перадача іх у публічныя фонды бібліятэк, архіваў і музеяў. І толькі нязначную частку калекцый удалося захаваць пасля Другой сусветнай вайны. Сістэмныя пошукі крыніц дадуць магчымасць пашырыць веды пра кніжныя багацці продкаў.

Актыўнае развіццё кнігадрукавання і ператварэнне кнігі ў агульнадаступны тавар прывяло да таго, што нароўні з прадстаўнікамі шляхецкіх і багатых родаў асабістыя бібліятэкі сталі ствараць незаможныя шляхціцы і простыя людзі — настаўнікі, лекары, прадстаўнікі іншых прафесій. Іх зборы захоўвалі як спецыяльныя выданні, так і вялікую колькасць белетрыстыкі. Разам з тым, побач з шматлікімі тыражнымі выданні, якія выйшлі ў друкарнях Расійскай імперыі, у асобных з іх захоўваліся вельмі рэдкія выданні. Так, у бібліятэцы А. Хамінскага ў маёнтку Альшэва каля Нарачы захоўваўся «Альшэўскі летапіс» (адгэтуль і яго назва) — спіс пашыранай рэдакцыі «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», перакладзенай на польскую мову. Зараз рукапіс знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы ў Варшаве. У бібліятэцы памешчыка А. Быхаўца ў 1820-я гг. была знойдзена «Хроніка Быхаўца» (Летапіс Быхаўца, Быхаўца хроніка) — трэці найбольш поўны агульнадзяржаўны летапісны збор ВКЛ, створаны, напэўна, у 1530-я гг.

Пачатак Першай сусветнай вайны перапыніў мірны этап развіцця. Наступленне нямецкіх войск у 1915 г., а затым акупацыя значнай часткі тэрыторыі Беларусі, сацыяльная нестабільнасць у рэгіёне прывялі да шматлікіх разбурэнняў і чалавечых ахвяр. Разам з іншымі ўстановамі сацыяльнай сферы пацярпелі і бібліятэкі. Патрапіўшы ў зону ваенных дзеянняў і сацыяльных канфліктаў, большасць з іх былі знішчаны і разрабаваны, а ацалелыя часткі кніжных калекцый вывезены за межы краіны. Статыстычных дадзеных аб стане бібліятэк Беларусі падчас Першай сусветнай вайны, рэвалюцый 1917 г., савецка-польскай і грамадзянскай войнаў няма, але, як сведчыць І.Б. Сіманоўскі, бібліятэчная сетка, якая сфарміравалася на тэрыторыі Беларусі да пачатку Першай сусветнай вайны, была практычна цалкам разбуранай — «… асновай для стварэння бібліятэк у савецкі перыяд у нейкай меры маглі паслужыць толькі 22 грамадскія бібліятэкі…»[401].

# Кніга ў цісках ідэалогіі
# (1917—1991)



# ДРУК — СПРАВА ПАЛІТЫЧНАЯ (1917—1921)

Першая сусветная вайна, а пазней і рэвалюцыйныя падзеі ў лютым і кастрычніку 1917 г. узмацнілі нацыянальны рух за аднаўленне дзяржаўнасці паняволеных царызмам нацый. Асноўнай характарыстыкай беларускага нацыянальнага руху ў гэты час заставаліся культурна-асветніцкая дзейнасць і культурная талерантнасць, што, як аказалася, прывяло да супярэчнасці з нацыянальнай ідэяй фарміравання дзяржаўнасці. Адсутнасць нацыянальнай дзяржавы не пакінула шанцаў стварыць дзяржаўны варыянт нацыянальнай ідэі, агульнай для палякаў, літоўцаў і беларусаў ці для беларусаў і літоўцаў. У палітычнай стратэгіі беларускага нацыянальнага руху паступова пачынае займаць перавагу прарасійская арыентацыя[402]. Шэраг палітычных дзеячаў таго часу ўскладвалі надзею на стварэнне нацыянальна-культурнай аўтаноміі для Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расійскай дзяржавы. Такім чынам, не застаўся бясследным час уваходжання Беларусі ў Расійскую імперыю, палітычнае, эканамічнае, рэлігійнае і культурнае ўздзеянне якой аказала моцны ўплыў на далейшы лёс беларусаў. Пэўны ўплыў мелі ў Беларусі і погляды бальшавіцкай партыі на культуру, у аснове якіх ляжаў прынцып інтэрнацыяналізму і адмаўленне нацыянальнай культуры. Паводле У. Леніна, інтэрнацыянальную культуру ствараў пралетарыят, а нацыянальную — буржуазія. Такая пазіцыя «непазбежна вяла да ўсталявання ўплыву сацыяльна-класавага прынцыпу на духоўнае жыццё народаў, раз'ядноўвала людзей адной і той жа нацыі»[403]. Аднак існаванне беларусаў у складзе поліэтнічных дзяржаў — ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі — ужо спрыяла ў нетрах іх культуры развіццю працэсаў інтэрнацыяналізацыі. І для Беларусі найбольш прагрэсіўнымі і надзённымі заставаліся пытанні адраджэння нацыянальнай культуры і фарміравання нацыянальнай свядомасці. Актуальнымі дадзеныя праблемы заставаліся і на працягу існавання БССР.

1917—1920-я гг. прынеслі значныя змены як у грамадска-палітычнае, адміністрацыйнае становішча Беларусі, так і ў кнігавыдавецкую палітыку, структуру кнігавыдавецтваў.

Асноўнай характэрнай рысай дадзенага часу ў Беларусі з'яўляецца змаганне за вызначэнне далейшага лёсу беларусаў, іх дзяржаўнага ладу. Найбольш паслядоўна па шляху ўтварэння самастойнай беларускай дзяржаўнасці ішла Беларуская сацыялістычная грамада. Рухаючымі сіламі палітычных змен у 1917 г. становяцца Беларускі народны камітэт у Вільні, Беларускія нацыянальныя камітэты ў Петраградзе і Маскве, Вялікая Беларуская Рада, а потым і Беларуская Народная Рэспубліка. З пашырэннем рэвалюцыйнага руху актывізуецца і дзейнасць дзяржаўных, палітычных і грамадскіх інстытутаў, якія імкнуліся ўплываць на розныя пласты грамадства. Палітычная плынь у Беларусі была шырэйшая, чым у Расіі, гэта спрыяла развіццю сеткі разнастайных перыядычных выданняў, якія з'яўляліся асноўным сродкам мацавання ідэалагічных пазіцый адпаведных палітычных партый (меншавікоў, эсэраў, бундаўцаў, кадэтаў, нацыянал-дэмакратаў, бальшавікоў і інш.)[404]. З'яўляюцца шматлікія партыйныя выданні на адным баку аркуша (улёткі) для расклейкі, напрыклад, так надрукаваны «Праект праграмы Беларускай Народнай Партыі Сацыялістаў» (Мінск, 1917 г.?), які паведамляе, між іншым, што «Арганізацыйнае бюро партыі Б.Н.П.С. да партыйнай канферэнцыі знаходзіцца ў Мінску Захарэўская вул. д. № 24 «Беларуская кнігарня». Там жа прымаецца запіс у члены і даюцца спраўкі».

Беларусь стала асноўнай зонай расійска-германскіх баявых дзеянняў Першай сусветнай вайны. Адпаведна ў гэты час узнікае акупацыйны і падпольны друк. На ўсёй працягласці вялізнага фронту ваенныя арганізоўвалі розна-



ПАВАДЫР
ПА
МЕНСКАЙ
КРАЁВАЙ ВЫСТАЎЦЫ
СТАРАСЬВЕЧЧЫНА
МАСТАЦТВО
МЕНСК
Друк і выданьне: Газэта 10-ай Арміі.

## Кніжкі, рукапісі, аправы.

149 Малітвеннік; тэкст стара баўгарскі (царкоўна славянскі) з беларускімі зваротамі мовы. Полацак. Каля 1400 года. In 8°.

150 Казаньня сьв. Феодосія архімандрыты, тлумачэньня Студыстаў. Напісаны па прыказу слугі Божага Івана Семёновіча, сэкрэтара Вялікаго Князя Александра Ягеллончыка праз сэкрэтара яго Іванчыка. Рукапіс на бомбіцыне (васкаванная папера). Фоліо. Вільня каля 1476 года, скураная аправа, сучаснае Віленскае работы з выцісканымі маленькімі зьвярамі на горбах (гіппоцэнтаўр, апокаліптычные зьверы) і медзянымі засьцёжкамі.

151 Чатыры Эвангеліі. Баўгарскі тэкст з беларускімі зваротамі мовы. З мініятюрамі. Рукапіс з Навагрудка. 15 сталецця. Фоліо.

152 Лісты Апостольскія. Царкоўна-славянскі тэкст (— стара-баўгарскі) з беларускімі зваротамі мовы. Пачатковы рукапіс быў уласнасьцю кальвінскае сям'і Бупакоў (фамільныя магілы ў Россенях на Жмудзі), пасьля моў яго Віленскі канонік Вжостоўскі. Рукопіс 1500 года. Фоліо. Старая аправа.

153 Першая друкаваная кніжка кірылоўскімі літэрамі, надрукавана па прыказу караля Казіміра Ягеллончыка праз Швайтпольта Феоля ў Кракове: Царкоўныя малітвы. У канцы кніжкі па беларуску парадак ужываньня кнігі. 1491. Фоліо. З Полацка.

154 Слуцкі Памяннік (паміж іншым тутака Вялікі Князь Ольгерд названы сваім хрысьціянскім імям Зьмітро) з бязцэннымі гецэалогічнымі ведамасьцямі. Рукапіс 1517 года. Фоліо.

155 Літоўскі Статут, надрукаваны ў Вільні па беларуску. У Мамонічоў. 1588.

156 Евангеліе, напісанное праз слуцкаго князя Юрыя Юрыевіча Олельковіча. 1592. Фоліо. На пергаміне, с залатымі мініятюрамі. Слуцак. Манастыр сьв. Тройцы.

— 10 —

*Вокладка і старонка кнігі «Павадыр по Менскай краёвай выстаўцы. Старасьвеччына. Мастацтво». Друк і выданне газеты 10-й арміі.*

га кірунку камітэты і аб'яднанні, у дзейнасці якіх важная роля адводзілася выдавецкай справе. Асабліва шырокае распаўсюджанне атрымліваюць у гэты час ваенныя газеты. Тэрыторыя Беларусі неаднаразова пераходзіць з рук у рукі немцаў, бальшавікоў, палякаў. Выразным помнікам германскага акупацыйнага друку з'яўляецца «Павадыр па менскай краёвай выстаўцы. Старасветчына. Мастацтва: выстаўка 10 арміі». Складальнік гэтага каталогу (ён-жа адзін з арганізатараў багатай і цікавай выставы), унтэр-афіцэр доктар Іпэль заклаў асновы дыялогу нямецкіх і беларускіх даследчыкаў старажытнай беларускай культуры. Каталог падрыхтаваны да друку рэдакцыяй газеты 10-й арміі, хто быў перакладчыкам на беларускую мову, не паведамляецца.

У выдавецкай галіне ў першыя гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. ў Беларусі склалася своеасаблівая сітуацыя, калі адначасова існавалі як старыя выдавецкія прадпрыемствы (у тым ліку прыватныя), так ўзнікалі і савецкія партыйныя выдавецтвы, асноўнай задачай якіх было наладжванне друку агітацыйна-прапагандысцкай, марксісцкай літаратуры і бальшавіцкіх газет. Акрамя бальшавізацыі народных мас, ставілася задача ажыццяўлення шэрагу мерапрыемстваў, накіраваных на барацьбу супраць іншага, небальшавіцкага друку. Ужо ў перыяд з кастрычніка 1917 г. па люты 1918 г. бальшавікам удалося ажыццявіць некаторыя мерапрыемствы, накіраваныя на рэалізацыю дэкрэтаў Савецкай улады па рэарганізацыі выдавецкай справы. Аднымі з першых крокаў у гэтым кірунку стала закрыццё выданняў і друкарняў іншых палітычных партый. Так, у сярэдзіне лістапада была закрыта газета мінскага камітэта эсэраў «Социал-революционер», пазней — газеты «Минская жизнь», «Минская искра», а таксама прыватная друкарня Усьмана ў Мінску. Загадам Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Заходняга фронту ад 16 лістапада 1917 г. над друкарнямі прызначаўся камісар[405], а на друк аб'яў была ўведзена дзяржаўная манаполія. Наступныя крокі бальшавікоў былі звязаны з нацыяналізацыяй друкарскіх прадпрыемстваў, першым з іх стала ў снежні 1917 г. Мінская губернская друкарня, якая пасля нацыяналізацыі была перададзена Савету народных камісараў (СНК) Заходняй вобласці і фронту. У пачатку лютага 1918 г. СНК Заходняй вобласці і фронту прыняў дэкрэт аб нацыяналізацыі кніжных і газетных кіёскаў, прыватных кантор па продажы друкаванай прадукцыі па ўсёй Заходняй вобласці.

Яшчэ ў жніўні 1917 г. пры Мінскім камітэце РСДРП(б) пачынае працу выдавецтва «Звез-



Усерасейская па справам аб выбарах
у Установуны Збор Камісʻя.

СТАТУТ
аб выбарах
у
УСТАНОЎНЫ ЗБОР.

(Пастанова Часовага Ураду аб зацьвярджэньні раздзелу I Статуту аб выбарах у Установуны Збор).

Пэратлумачыў з даручэньня Усерасейскай па справам аб выбарах у Установуны Збор камісʻі
Зьмітро ЖЫЛУНОВІЧ.

Зацьвярдзіў сябрук Асобай Парады ля загатоўкі праэкту Статуту аб выбарах у Установуны Збор
Язэп ВАРОНКА.

ПЕТРАГРАД.
1917.

*Брашура «Статут аб выбарах ва Устаноўны збор. Пастанова Часовага Ураду аб зацьвярджэнні раздзелу I статуту аб выбарах у Устаўны збор». Петраград, 1917 г.*

да», у якім масавымі тыражамі (па 5—10 тысяч) выходзяць брашуры і лістоўкі, газета «Звезда». Асноўны рэпертуар кнігавыдавецкай прадукцыі складалі творы класікаў марксізму, партыйныя дакументы, мастацкая і масавапалітычная літаратура. Толькі ў лістападзе—снежні 1917 г. выдавецтва выпусціла больш за 20 брашур, сярод якіх была значная колькасць работ У. Леніна. Да прыкладу, паводле пісьма ў Мінскі партыйны камітэт, брашура Леніна «Удержат ли большевики власть?» была распрададзена ў колькасці 100 экз. амаль за гадзіну[406]. У выдавецтве была заснавана серыя «Бібліятэка пралетарыя», у якой таксама ў асноўным друкаваліся творы У. Леніна. Займалася выдавецтва і распаўсюджваннем палітычнай літаратуры з Масквы і Петраграда, і не толькі ў Мінску, але і ў Віцебску, Полацку, Гомелі і іншых гарадах.

31 студзеня 1916 г. у Петраградзе было ўтворана «Беларускае Таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны». Першым старшынёй Камітэта таварыства абраны Л. Сеўрук, пазней старшынёй стаў Язэп Варонка, член Беларускай сацыялістычнай грамады. Членамі Камітэта былі А. Ярэміч, М. Мігай, Э. Будзька, А. Беніцэвіч, М. Дзевялтоўская-Гінтаўт, Ф. Абрантовіч, Л. Хвецька. Некаторы час у Таварыстве працавала Паўліна Мядзёлка. У сакавіку 1916 г. спецыяльны Камітэт Яе імператарскай вялікасці Вялікай княгіні Тацццяны Мікалаеўны (Раманавай) прызнаў «Камітэт беларускага таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны» як афіцыйную арганізацыю, якая аказвае практычную дапамогу бежанцам, і паведаміў аб асігнаванні ў распараджэнне беларускага Камітэта грошай на арганізацыю працы з бежанцамі, у тым ліку на выдавецкую дзейнасць.

Таварыства выдавала лістоўкі з заклікам ахвяраваць грошы для бежанцаў, з разлікам на бежанцаў-католікаў у Петраградзе пачала выдавацца [ад 1 (14) лістапада 1916 г.] лацінкай беларуская газета «Светач», якая мела выразны рэлігійны характар. Аўтары публікацый і асабліва галоўны рэдактар ксёндз Эдвард Будзька прапанавалі ідэю адраджэння Беларусі на грунце хрысціянскіх ідэалаў, прынцыпаў і каштоўнасцяў. Да 31 студзеня 1917 г. выйшлі 7 нумароў, пасля чаго выданне спынілася.

Адначасова са «Светаччу» 1 (14) лістапада 1916 г. у горадзе пачала выдавацца беларуская газета бальшавіцкага накірунку «Дзянніца». Яна друкавалася кірыліцай, галоўным рэдактарам быў Зміцер Жылуновіч (літаратурны і партыйны псеўданім — Цішка Гартны). Публіцысты газеты адводзілі прыярытэтнае месца асветніцка-культурным пытанням. Інфармавалі чытачоў аб шматлікіх беларускіх ініцыятывах не толькі ў Пецярбургу, але і ў іншых гарадах Расіі. На старонках «Дзянніцы» з'яўляліся таксама літаратурныя творы Ц. Гартнага, А. Паўловіча, Ф. Шантыра ды іншых беларускіх паэтаў і празаікаў. Супрацоўнічаў з газетай пісьменнік Максім Гарэцкі, які ў 1916 г. жыў у казармах Паўлаўскага палка на Марсавым полі. «Дзянніца», як і «Светач», спыніла сваё існаванне пасля выхаду ў свет 7-га нумара (гэта здарылася 13 студзеня 1917 г.). 14 нумароў петраградскіх беларускіх газет не згубіліся ў гісторыі: яны засведчылі пэўную сталасць беларускага грамадства, а «Дзянніца» стала рэпетыцыяй будучай бальшавіцкай газетнай справы.

У 1917 г. петраградскі Беларускі абласны камітэт пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў выдаў «Этнаграфічную карту бела-

рускага племені» Я. Карскага, арыентуючыся на якую пазней абмяркоўваліся ўсе беларускія пытанні, у тым ліку дзяржаўныя межы.

На міжпартыйнай нарадзе Беларускіх партый 8—12 студзеня 1918 г. было прынята рашэнне, а 15 лютага быў створаны Беларускі аддзел Нацыянальнага Камітэта Паўночных Камун (Белнацком). Узначаліў яго камісар Аляксандр Чарвякоў. Белнацком меў свой друкаваны орган — газету «Дзянніца», якая выдавалася ў Петраградзе, потым у Маскве (1918—1919). Белнацком структурна меў тры пададдзелы: культурна-асветны, выдавецкі і бежанскі. Загадчыкам культурна-асветнага аддзела Петраградскага аддзялення Белнацкома ў маі 1918 г. стаў выкладчык Пецярбургскага універсітэта, філолаг Браніслаў Тарашкевіч, аўтар толькі што выдадзенай у Вільні «Беларускай граматыкі для школ».

Сярод беларускіх палітычных дзеячаў у гэты час вылучыўся Яўсей Сцяпанавіч Канчар (1882—1979). Ён нарадзіўся ў вёсцы Сяўкі Рэчыцкага павета (цяпер Лоеўскі раён Гомельскай вобласці), скончыў Мар'інагорскае земляробчае вучылішча. У 1910—1914 гг. Я. Канчар вучыўся на Пецярбургскіх сельскагаспадарчых курсах, у сакавіку 1917 г. ён стаў ініцыятарам стварэння і старшынёй Беларускага абласнога камітэта пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў, як прадстаўнік Мазырскага сялянскага з'езда. Крыху пазней, у 1919 г., Я. Канчар апрацаваў статыстыку рэгістрацыі беларускіх бежанцаў у Петраградзе і зрабіў падрабязны палітычны аналіз атрыманых вынікаў[407].

Позна вечарам, 10 сакавіка 1918 г., савецкі ўрад на чале з Уладзімірам Леніным пакінуў Петраград. На працягу 7—18 сакавіка 1918 г. разам з урадам у Маскву эвакуіраваўся Белнацком. Восьмага сакавіка 1918 г. Аляксандр Чарвякоў звярнуўся да наркома па справах нацыянальнасцяў Іосіфа Сталіна з лістом, у якім абгрунтаваў неабходнасць пакінуць у Петраградзе аддзяленне Белнацкома. Просьба Чарвякова была задаволена.

Забеспячэнне беларусаў-бежанцаў беларускай літаратурай, літаратурай па беларусазнаўстве і партыйнай літаратурай было адной з форм працы Белнацкома. Такой літаратуры выдавецкі пададдзел на канец 1918 г. меў усяго тры назвы: 1) А. Вазіла «Прамова на 1-м Усебеларускім З'ездзе» з прадмовай Яўсея Канчара, 2) біяграфія Леніна з яго партрэтам аўтара пад псеўданімам «Белорусс» і 3) зборнік артыкулаў Я. Канчара «Белорусский вопрос». Каб пашырыць рэпертуар выданняў, выдавецкі аддзел звяртаўся ў лістападзе 1918 г. з лістамі да Браніслава Эпімаха-Шыпілы з просьбай падрыхтаваць матэрыял для «Зборніка прыгожага пісьменства беларускіх народных паэтаў», а таксама да суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» з просьбай выслаць беларускія кнігі; на імя акадэміка А. Шахматава быў накіраваны запыт на кнігі беларусазнаўчай тэматыкі з акадэмічнага складу і на дазвол зняць копіі з рукапісаў Марыі Косіч.

Першыя камуністы-беларусы далі пачатак з'яве, якую пазней прывезлі і ў Мінск — яны сталі пачынальнікамі нацыянальнага бальшавізму (як назваў яе вуснамі аднаго са сваіх герояў Максім Гарэцкі)[408]. Вытокі гэтай з'явы адбіліся ў піцерскіх перыядычных выданнях: газеце «Дзянніца» і часопісах «Чырвоны шлях» і «Беларуская крыніца». 1 сакавіка 1918 г. у Петраградзе ўзнавіла (пасля 1916 г.) выхад газета «Дзянніца» як орган Беларускага нацыянальнага камісарыята, а 24 лістапада 1918 г. Беларускі аддзел Камісарыята па справах нацыянальнасцяў выдаў у Петраградзе першы здвоены нумар часопіса «Беларуская крыніца», які быў прысвечаны эканамічна-гаспадарчым пытанням. Рэдакцыя размяшчалася ў будынку царскага Міністэрства народнай адукацыі, на Тэатральнай плошчы, 1—3, адказным рэдактарам прызначаны Іван Баранкевіч. У першым рэдакцыйным артыкуле Баранкевіч зазначыў: «Разабраная сілай неспрыяльных абставін на некалькі частак, якія з'яўляюцца сёння быццам бы самастойнымі дзяржаўнымі адзінкамі, маючы тэндэнцыю пры наяўнасці грамадзянскай вайны ўнутры да шэрагу новых расчляненняў, у цяперашні час Расія фактычна знаходзіцца ва ўсім яе тэрытарыяльным аб'ёме ў гарніле эканамічнага і дзяржаўнага пераўтварэння». Рэдакцыя «Беларускай крыніцы» спрабавала вызначыць месца Беларусі менавіта як часткі будучай федэратыўнай Расіі.

У Петраградзе выйшлі таксама 10 здвоеных нумароў (фактычна 5) часопіса «Чырвоны шлях» (орган мясцовага аддзялення Белнацкома). Ён друкаваў грамадска-палітычныя матэрыялы і меў аддзел мастацкай літаратуры. Рэдактарам №№ 1—2 і 3 быў Аляксандр Вазіла. Наступныя нумары (5—6, 7—8, 9—10) падпісвала рэдакцыйная калегія, фактычным рэдактарам быў Іван Баранкевіч. Адным з найбольш актыўных аўтараў быў Яўсей Канчар, былы старшыня Беларускага абласнога камітэта, які ўвайшоў у гісторыю як канкурэнт і партнёр Вялікай Беларускай Рады па скліканні Усебеларускага з'езда 1917 г. У палітычных матэрыялах гэтых аўтараў (іх тэксты напісаны на рускай мове) дэкларуецца непрыняцце бальшавіцкай

→ *Часопіс «Чырвоны шлях». Петраград. 31 снежня 1918 г. № 9—10.*

# ЧЫРВОНЫ ШЛЯХ

**№ 9—10.**

Вторник, 31 декабря 1918 г.

ПЕТРОГРАД.

Цена №
2 руб.
на стан. ж. д. и в пров. 2 р. 30 к

Адрес редакции и конторы: Петроград, Театральная, 1—3.

**Журнал посвящен политической, общественной и литературной жизни белоруссов.**
**Выходит не менее 2-х раз в месяц.**






# Отдел общественной и политической жизни.

## ГРЯДУЩЕЕ.

Волею судеб Белоруссия в продолжение ть ли не целого года была распята ерманским империализмом и молча пере- осила крестное страдание.

После трех лет дикой и жестокой чело- ческой бойни, ареной которой были розные пространства нашего края, юн- рская Германия, став победителем ре- люционно-ослабленной и хозяйственно- рушенной России, получила в виде еобразной «аннексии» истерзанную орусcию и превратила ее в сплошную Г офу.

Освобожденный революцией от много- векового рабства народ опять заковали в цепи: труд и достояние белорусского па- харя стал предметом хищнического раз- грабления немцев.

В стане ликующих «победителей» очу- тились все совы и филины, волки и ша- калы слепой и зверски ожесточенной ре- акции, слетевшиеся и сбежавшиеся под защиту германских штыков со всех кон- цов революционной России. Бесстыдно пе- решла в лагерь пришельцев и палачей Белоруссии местная, в свое время либе- рально настроенная буржуазия, когда-то кричавшая о необходимости «разгромить немецкий милитаризм». В лице этих вра- гов и предателей трудящихся классов ок- купационная германская власть в подлом деле угнетения и насилий, чинимых над народом, нашла себе верных и весьма спо- собных союзников.

И здесь же, у подножия Голгофы, перед страдальческим ликом распятого народа,на торжище гнусных истязателей-палачей, путем заискивания и подхалимства, шай- ка политических авантюристов, именовав- шая себя «Белорусской Радой», подложно пользуясь именем народа, создавала «не- залежную Белоруссию» и посылала Виль- гельму II «верноподданические» теле- граммы...

Советская Россия укрепляла свою ре- волюционную мощь. Заарканенная нем- цами Белоруссия задыхалась в мертвой петле.

Обессиленная и обескровленная трудо- вая Россия в целях спасения Великой Пролетарской Революции заключила Брестский договор и тем самым отдала на растерзание врагов трудовые массы Бело- руссии.

В темную бурную ночь, когда на дворе царили дождь, вихрь и голодные звери, Россия закрыла перед исстрадавшимся бе- лорусским пахарем дверь своей хижины и сказала ему: «тебе нет сейчас места у мо- его очага: побудь эту ночь за меня во тьме, среди волков». И когда в хижине горел огонь и было тепло, сквозь рев бу- ри слышно было, как на дворе стонал оставленный мученик-белорусс, как вози- лись звери, как хрустели на острых зу- бах человеческие кости.

Какой это был ужас! Какая это была трагедия!

Среди некоторой части белорусской ре- волюционной интеллигенции существует убеждение, что Правительство Совета На- родных Комиссаров, заключив Брестский мир, по отношению к трудовым массам Белоруссии поступило политически не- честно. Интеллигенция, находящаяся под влиянием эсеровской идеологии, в подоб- ных обвинениях Советской власти и пра- вительственной партии — большевиков— идет еще дальше, впадая частенько в дурной тон инсинуации и клеветы.

Это — ошибка, которую нужно всем осознать.

ідэалогіі і практыкі, у тым ліку разгону Усебеларускага з'езда, клопат аб будучыні Беларусі, крытыка дзеячаў БНР, погляд на Беларусь як на неад'емную частку расійскай дэмакратычнай рэспублікі. У гэтым праявілася партыйная прыналежнасць А. Вазілы (сацыял-дэмакрат-інтэрнацыяналіст) і І. Баранкевіча (меншавік). Звяртаюць на сябе ўвагу навуковыя публікацыі Яўхіма Карскага, Аляксандра Сержпутоўскага, Івана Пятровіча (таксама вядомы як пісьменнік Янка Нёманскі), Паўла Каравайчыка, Дзімітрыя і Міхаіла Сабалеўскіх. Літаратурныя і літаратурна-крытычныя творы «Чырвоны шлях» публікаваў па-беларуску.

У планах выдавецкага аддзела Белнацкома сумесна з іншымі грамадскімі арганізацыямі быў яшчэ шэраг праектаў па выпуску серыі кніг па этнаграфіі, вуснай народнай творчасці, беларускай мастацкай літаратуры, гісторыі Беларусі, сельскай гаспадарцы, а таксама вучэбнай літаратуры. Быў падрыхтаваны другі зборнік твораў беларускай мастацкай літаратуры «Жніво» і інш., але яны так і не былі ажыццёўлены.

Летам 1918 г., калі бальшавікі адступілі з цэнтральнай часткі Беларусі, 12 паветаў Магілёўскай і Віцебскай губерняў, дзе заставалася савецкая ўлада, былі далучаны да Смаленскай губерні Расіі і ўтворана так званая Заходняя камуна. Прыватныя прадпрыемствы на гэтай тэрыторыі былі нацыяналізаваны, у іх ліку дзве друкарні і склады паперы[409], якія сталі асновай для разгортвання выдавецкай дзейнасці ў Смаленску, куды было перамешчана з Мінска таксама і выдавецтва «Звязда». У гэты час яно абмяжоўвала сваю дзейнасць выпускам палітычнай літаратуры (лістовак, адозваў, агітацыйна-прапагандысцкіх брашур, газет), значнымі тыражамі выходзяць арыгінальныя творы дзеячаў Камуністычнай партыі А. Мяснікова, В. Кнорына, М. Старажэўскага і інш. Выданні на беларускай мове амаль не выходзілі, адна з прычын у тым, што сакратар Заходняга абласнога камітэта РКП(б) латыш В. Кнорыньш (Кнорын) быў перакананы: «белорусы не являются нацией, и те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты» (Звезда. 1918, 6 окт.). Таму і змагаліся кіраўнікі Заходняй вобласці яшчэ і супраць Белнацкома, які шырока выкарыстоўваў у выдавецкай дзейнасці беларускую мову, ліквідаваўшы аддзелы Белнацкома ў Смаленску і Віцебску[410].

На тэрыторыі Беларусі, акупаванай германскімі войскамі, амаль на год усталяваліся новыя парадкі. Хоць акупацыйная адміністрацыя і падтрымлівала развіццё беларускага школьніцтва, культурнае жыццё, выдавецкую дзейнасць на беларускай мове (яшчэ з 1915—1916 гг. у Вільні), аднак не праяўляла зацікаўленасці ў справе беларускай дзяржаўнасці, трактуючы Беларусь як частку Расіі. Тым не менш 25 сакавіка 1918 г. у Мінску было абвешчана аб стварэнні незалежнай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Дэкрэты савецкай улады былі адменены, рабіліся спробы будаўніцтва вольнай Беларусі, якія ішлі ў складаных палітычных умовах.

Важнай сферай практычнай дзейнасці ўлад БНР былі школьная справа і культура. Міністрам асветы БНР стаў Вацлаў Іваноўскі. У Мінску быў адноўлены Педагагічны інстытут, ішла праца па падрыхтоўцы адкрыцця беларускага універсітэта, разгортвалася сетка школьных і культурна-асветных устаноў. Беларуская мова ўпершыню стала дзяржаўнай мовай. Пры Народным сакратарыяце асветы было арганізавана бюро па апрацоўцы школьных падручнікаў, а таксама створана таварыства «Прасвета», якое занялося іх выданнем. Пад кантролем Народнага сакратарыята ў Беларусі выходзіла 14 беларускіх газет і часопісаў[411]. Акрамя дзяржаўных выдавецтваў, якімі з'яўляліся выдавецтвы Народнага сакратарыята, Міністэрства міжнародных спраў БНР, Міністэрства беларускіх спраў у Літве, у гэты час актыўна працавалі прыватныя і грамадскія выдавецтвы і друкарні: Выдавецтва Барыса Клецкіна, Выдавецтва Вацлава Ластоўскага (усе ў Вільні), друкарня Неваха Нахумава, Якава Грынблата (у Мінску); выдавецтвы «Вольная Беларусь» (Мінск), Беларускае выдавецкае таварыства, «Гоман», Беларускае культурна-асветніцкае таварыства «Бацькаўшчына» (усе ў Вільні), выдавецтва імя Ф. Скарыны (у Коўне) і інш. Большасць з іх пасля заканчэння ваенных пертурбацый прадоўжыла дзейнасць у Літве, Латвіі, Заходняй Беларусі. Вядома 247 выданняў на беларускай мове 1917—1923 гг., якія былі імі выпушчаны.

Найбольш знакавай працай стала кніга «Што трэба ведаць кожнаму Беларусу», якая выйшла як выданне газеты «Вольная Беларусь» (Менск, друкарня А. Грынблата, 1918 г.). Напачатку быў своеасаблівы катэхізіс Вацлава Ластоўскага з пытанняў і адказаў на тэму, хто такія беларусы і чаму яны размаўляюць на беларускай мове.

Апрача гэтага Катэхізіса, у выданні змешчаны артыкулы М. Міцкевіча, Я. Лёсіка, М. Багдановіча, Пётры з Арлянят (ксяндза Станкевіча) і іншых аўтараў.



# БЕЛОРУССКАЯ КРИНИЦА

№ 1—2

Воскресенье 24 ноябр. 1918 г.

ПЕТРОГРАД.

ЦЕНА №

1 руб.

Журнал посвященный экономическо-хозяйственным вопросам Белоруссии.

Адрес Редакции и Конторы: Петроград, Театральная, 1—3.

**Редакция** просит сотрудников присылать рукописи четко переписанные на одной стороне листа с точным указанием своего адреса. Все напечатанные рукописи оплачиваются по оценке Редакции построчным гонораром.

**ОГЛАВЛЕНИЕ:** **От редакции.** Солнце Белоруссии всходит.—**Клим Злобич.** Народное хозяйство Белоруссии.—**Антон Хатыня.** К вопросу о необходимости насаждения в Белоруссии сельско-хозяйственного образования.—**Д. Соболевский.** Очерки по земельному вопросу.—**Евс. Канчер...** Как мы должны строиться.—**Николай Нечкоровеч.** Беловежская пуща.—**Белорус.** Выращивание сахарной свекловицы для домашней выделки сахарного сиропа.—**Ел. Киндельский.** К нашим читателям.—**Ив. Барановеич.** Письмо из Могилевщины.—**М. П—ий.** Письмо из Виленской губернии.—**Тутэйшый.** **Распоряжения Советского Правительства. Хроника экономической жизни Советской России. Хроника экономической жизни зарубежной Белоруссии. Извещения.**

## От редакции.

Участие России в мировой войне, Февральская революция и Октябрьский переворот остро, в срочном порядке, поставили на разрешение перед всеми национальностями и окраинами бывшей централистической Империи основные вопросы социального и политическо-государственного устроения Российской Федеративной Республики.

Наиболее правильное и целесообразное разрешение этих кардинальных вопросов и планомерное практическое осуществление их определит собою будущее общеполитическое положение Республики среди культурных народов мира—с одной стороны, и с другой—предрешит степень развития всех производительных сил страны.

Расчлененная силою неблагоприятных политических обстоятельств на несколько частей, являющихся ныне, якобы, самостоятельными государственными единицами, имея тенденцию, наличием гражданской войны внутри, на ряд новых расчленений, в настоящее время Россия фактически находится во всем ее территориальном об'еме в горниле экономического и государственного перевоплощения.

Наши дни—дни пересоздания новой трудовой России, окончательно раскрепощенной от сословного и классового ига.

Этот небывалый в истории человечества революционно-творческий процесс протекает в условиях полного разрушения хозяйственно-экономического аппарата страны и не менее полного обнищания широких народных масс.

Город не имеет продуктов довольствия и, в первую очередь, хлеба; деревня не имеет необходимых фабрикатов.

Экономические последствия пагубного участия России в мировой войне являются петлей на шее Великой Российской революции, и эту петлю, в интересах Революции и великой будущности трудовых классов, следует немедленно разрубить.

Необходимо поднять производительность страны, это самая главная и безотлагательная задача переживаемого момента. Вне исполнения данного задания нет выхода, нет спасения.

Всю энергию и усилия, в первую очередь, следует направить на нашу темную и отсталую деревню.

Предстоящая здесь работа по своим размерам превышает всякие масштабы.

Нужно восстановить и интенсифицировать сельское хозяйство; следует поставить на серьезные и прочные основания организацию агрономических мероприятий; нужно реорганизовать во многих частях и углубить сельскую кооперацию; необходимо дать крестьянству повсеместную обязательную начальную школу; не менее необходимо создать мощную общегосударственную систему внешкольного образования и упорядочить сельско-хозяйственное образование; необходимо поднять на должную высоту дело медицинской помощи и санитарии.

Это—главные области, о второстепенных не приходится говорить, ибо их слишком много.

Ясно, что без самодеятельности самой деревни эту невероятно огромную по общему об'ему работу нельзя будет выполнить.

Создавшееся положение тяжелое, но не безнадежное. Приходится отметить отрадный факт повсеместного пробуждения среди крестьян подобной самодеятельности, хотя и в слабой степени.

Пробуждается народная творческая мощь и в нашей серой белорусской деревне, в силу сложившихся исторических причин самой отсталой и наиболее пострадавшей от ужасов мировой бойни.

*Часопіс «Беларуская крыніца». Петраград. 24 лістапада 1918 г. № 1—2.*

20 старонак набраны вялікім кеглем, астатнія 12 — меншым.

На пачатаку 1919 г. у Беларусі са зменай германскай улады на савецкую адбываюцца і змены не толькі ў назве дзяржавы, але і перакройванне яе тэрыторыі: 1 студзеня абвешчана БССР, урад якой узначаліў З. Жылуновіч; а ўжо 28 лютага было абʼяўлена аб абʼяднанні БССР і Літоўскай ССР у адну дзяржаву — Літбел (Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка), урад якой узначаліў В. Міцкявічус-Капсукас. Як адзначыў Я. Свярдлоў на пасяджэнні ЦБ КП(б)Б 2 лютага 1919 г., галоўнымі матывамі гэтага абʼяднання былі пагроза вайны з Польшчай, а таксама неабходнасць «засцерагчы гэтыя рэспублікі ад магчымага праяўлення ў іх нацыянальна-шавіністычных імкненняў». Ствараючы вокладку «Бюлетэня Вышэйшага Савета народнай гаспадаркі Літоўска-Беларускай ССР» (Вільня, 1919), мастак Язэп Драздовіч уводзіць у яе кампазіцыю выяву аратага — гаспадара зямлі. Я. Драздовіч спрабуе па-сучаснаму інтэрпрэтаваць стары сімвал (у 1912—1915 гг. выкананая ім фігура аратага ўпрыгожвала вокладку беларускага часопіса «Саха»), ужыць яго ў новым кантэксце: з выявай сонца — сімвалам рэвалюцыі — і дрэвамі — сімваламі жыцця[412].

За кароткі тэрмін існавання ў Літбеле кампартыя і ўрад значную ўвагу надавалі кніжнай справе. Быў створаны першы апарат кіравання і савецкага кантролю — Камісарыят над друкарнямі, асноўнымі задачамі якога былі ўлік усіх паліграфічных прадпрыемстваў і запасаў паперы, нагляд за дзейнасцю друкарняў. Па прапанове выканкама Мінскага Савета ўсе друкарні сталіцы былі перададзены калегіі Савета гарадской гаспадаркі. Пазней была ажыццёўлена нацыяналізацыя ўсіх друкарняў Мінска[413]. Планавалася арганізацыя папяровай вытворчасці. Як пісала газета «Звезда», «...Минск пока имеет запасы бумаги: его типографии довольно недурно оборудованы, электрический ток действует без перерыва, приобретены новые шрифты. Минск может стать солидным издательским центром, который будет обслуживать не только Литву и Белоруссию, но также и центральную Россию. Изданные нами книги, журналы и газеты, безусловно, смогут завоевать себе столичный рынок...»[414]. Цэнтральнае бюро Камітэта КП(б)Б приступіла нават да выдання навуковай хрэстаматы па філасофіі марксізму, стварыўшы рэдакцыйную камісію на чале з А.Ф. Мясніковым, а ўрад рэспублікі асігнаваў на гэта 200 тыс. руб.

Часам у адным выданні злучаліся некалькі выдавецкіх устаноў. Прынамсі, на тытульным аркушы кніжкі «Дзіцячая чытанка» пазначана: выданне «Вольнае Беларусі», Мінск, 1917 г., друкарня Н.М. Нахумова (старэйшаго), а на вокладцы гэтай жа кніжкі звесткі іншыя: Менск, 1918, друкарня Я.А. Грынблата. Ці сведчыць гэта аб камерцыйнай здзелцы, у выніку якой Я. Грынблат атрымаў тыраж ужо надрукаванай дзіцячай кніжкі і распаўсюджваў яе, дадаўшы сваю вокладку, ці ў тым былі іншыя прычыны, мы не ведаем. Тым часам гэтае выданне (яно складаецца з дзіцячых твораў Якуба Коласа і Ядвігіна Ш.) застаецца ўзорам эклектычна аздобленай дзіцячай кніжкі рэвалюцыйнага часу — у ёй выкарыстаны і віньеткі ў стылі мадэрн, і застаўкі з кацянятамі і мышанятамі, фотаздымкі з прыродай і выглядам кірмашу на цэнтральнай плошчы Наваградка; першыя



— 22 —

Дабраноч.

Зайшло ужо сонцо.
Скончыуся дзень.
Зарніца небо малюе
На землю ночы
Выходзе цень.
Ціша усюды пануе
Дабраноч, яснае сонцо!
Дабраноч, маці зямліца!
Дабраноч, сіняе небо,
Дабраноч, зорка-зарніца.
Дабраноч!

— 23 —

*Разварот кнігі «Дзіцячая чытанка». Мінск, 1918 г.*

4—6 сакавіка 1919 г. на аб'яднаўчым з'ездзе КП Літвы і Беларусі, дзе адзначалася, што «партыйная прэса... павінна быць люстэркам нашай партыі...», былі зацверджаны цэнтральныя органы друку. Так, да мая 1919 г. на тэрыторыі Беларусі дзейнічала Мінскае губернскае агенцтва Цэнтрадруку, а ў маі яно было рэарганізавана ў агенцтва пры Цэнтральным выканаўчым камітэце (ЦВК) Літбел, пазней — у літаратурна-выдавецкі аддзел Наркамасветы Літбела. Пры ЦВК Літбела была склікана і першая нарада працаўнікоў камуністычнага друку[415]. Было вырашана стварыць бюро друку для высылкі павятовым рэдакцыям газет гатовага палітычнага матэрыялу, усім газетам прапанавана распрацоўваць мясцовыя тэмы, а партыйным камітэтам — сур'ёзна займацца кіраўніцтвам друку.

У гэты час найбольш актыўнай выдавецкай дзейнасцю вызначалася партыйнае выдавецтва «Звезда», якое было пераўтворана ў выдавецтва ЦК КП(б) ЛіБ. Выдаваліся таксама шэсць газет: «Звезда», «Młot» (на польскай мове), «Бедняк» (на рускай), «Ды камуністышэ Штіммэ», «Дэр Штэрн» (на яўрэйскай мове), «Камуністас» (на літоўскай мове)[416]. Большасць выдавецкай прадукцыі складалі лістоўкі і адозвы на рускай, беларускай, літоўскай і польскай мовах.

Асобныя беларускія кнігі ў 1919—19120 гг. былі выдадзены ў Маскве, Вільні, Мінску, Кіеве, Берліне, Оршы, Магілёве і іншых гарадах. Так, у 1919 г. у Кіеве выйшаў зборнік «Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства», які ўключаў творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Я. Коласа, Я. Купалы і інш., а ў Берліне — «Памятка беларускім палонным з роднага краю» змяшчала вершы «Халоднай ноччу я ў шырокім цёмным полі!» М. Багдановіча, «Вера беларуская» Цёткі, «Родныя адрасы» і «Не бядуй» Я. Коласа, «А хто там ідзе?» Я. Купалы[417].

Некаторыя кнігі выдаваліся ў Оршы Паўночным аб'яднаннем каапэратываў Магілёўскай і Гомельскай губерняў, Гомельскім і Віцебскім губаддзяленнямі Цэнтрадруку. Для распаўсюджання і агітацыйна-прапагандысцкай дзейнасці Мінскае губагенцтва Цэнтрадруку арганізавала «літаратурны вагон для чырвонаармейцаў Заходняга фронту». Калектывы агітпаяздоў прымалі таксама ўдзел у выданні газет, бюлетэняў, распаўсюджвалі літаратуру[418].

Створаная рэдакцыйная калегія Наркамасветы Літбел, якая планавала шырокую праграму выдавецкай дзейнасці (вучэбнай, вучэбна-метадычнай, літаратурна-мастацкай і нават энцыклапедыі па сельскай гаспадарцы) на рускай, беларускай і яўрэйскай мовах, не змагла ажыццявіць амаль нічога, акрамя выпуску «Раскіданага гнязда» Я. Купалы, «Апошняга

спаткання» В. Галубка і чатырох падручнікаў для пачатковых беларускіх школ[419]. Адной з прычын нерэалізацыі праграмы газета «Варшавское Слово» ад 2 мая 1920 г. назвала «...преследование [у Літбеле] всего белорусского. Белорусское национальное движение было объявлено «буржуазным предрассудком», в белорусских школах был введен русский язык, все белорусское — книгоиздательство, курсы, театр, хор были национализированы и очень скоро сведены на нет».

Так ці інакш, але такое становішча ў хуткім часе змянілася ў сувязі з наступленнем вясной 1919 г. польскіх войск. 21 красавіка была захоплена Вільня — сталіца Літбела — і абвешчана адозва Юзафа Пілсудскага «Да жыхароў Вялікага Княства Літоўскага», якая падавалася як імкненне аднавіць гістарычную федэрацыю Польшчы з Літвой і Беларуссю[420]. Яшчэ на адзін год мянялася палітычная сітуацыя на тэрыторыі Беларусі, якая апынулася ўжо пад польскай акупацыяй. У гэты час пытаннямі адукацыі займалася Беларуская Цэнтральная школьная рада, якая мела сетку кнігарняў, у Мінску кнігарня размяшчалася па вул. Міцкевіча ў Беларускім доме.

Рада выдала падручнік Я. Лёсіка «Наша крыніца. Чытанне для беларускіх школ», які быў выпушчаны ў мінскай друкарні Я. Грынблата ў пачатку 1920 г. «Наша крыніца» складалася з чатырох частак у дзвюх кнігах. Падручнік адрозніваўся добра падабранымі тэкстамі, але меў вельмі сціплае паліграфічнае выкананне — мала ілюстрацый, кепская папера, на якой фотаздымкі з прыродай глядзяцца бруднымі плямамі. На адвароце вокладкі змешчаны вялікі спіс выданняў, што прадаюцца ў кнігарні па вуліцы Міцкевіча — большасць з іх — гэта дарэвалюцыйныя кнігі пецярбургскага выдавецтва «Загляне сонца ў наша ваконца» і віленскай «Нашай нівы».

У Мінску па даручэнні Савета Абароны Літбела была арганізавана падпольная друкарня, абсталяваная адной друкарскай машынай («Бастонкай»), касамі з лацінскім і крылічным шрыфтамі, яна займалася друкаваннем лістовак і зваротаў на рускай, польскай і беларускай мовах (тыраж ад 5000 і больш экз.), выпускала часопіс «Факел коммунизма». Асноўная маса прапагандысцкай літаратуры, якая друкавалася выдавецтвам ЦК КП(б) ЛіБ у Смаленску і Маскве, а таксама іншыя выданні з цэнтра Расіі перапраўляліся ў акупіраваныя раёны. У прыфрантавой паласе (Рэчыца, Полацк, Рагачоў, Крупкі, Мазыр) ствараліся спецыяльныя пункты для перапраўкі літаратуры. У Бабруйску, Дзвінску, Мінску былі абсталяваны памяшканні пад склады літаратуры. З Рэчыцы літаратура ішла ў Тарыбскую Літву, з Дзвінска — у Коўна, з Полацка — у Вільню, з Рагачова — у Бабруйск і Мінск, з Крупак — у Мінск, Вільню, Барысаў, Ігумен, з Мазыра — у Слуцк, Брэст, Мінск, Гродна, з Мінска — у Бабруйск, Барысаў і інш.[421]

Перамога Войска Польскага на тэрыторыі Беларусі ў 1919 г. спрыяла ажыўленню польскага культурнага жыцця ў краі. Хоць актывізацыя польскамоўнага друку адзначаецца яшчэ ў 1914—1915 гг., аднак хуткабежныя палітычныя змены ў большасці сваёй неспрыяльна адбіваліся на працягласці дзейнасці мясцовых выдавецтваў і асабліва перыядычных выданняў, тэрмін выпуску якіх быў у большасці кароткачасовым. У 1919 г. аднаўляюцца і ствараюцца новыя ўстановы і таварыствы, набывае шырокае распаўсюджанне польская культурна-асветніцкая дзейнасць. Значнае месца адводзіцца кніжнай справе, асабліва распаўсюджанню польскай кнігі і перыёдыкі праз бібліятэкі, чытальні і кнігарні. У 1919 г. паўстала Суполка публічнай бібліятэкі польскай чытальні ў Мінску, дзейнічалі таксама Таварыства падтрымкі перыёдыкі і чытання, Польская суполка выдаўцоў, апошняя заснавала ўласную Польскую друкарню і займалася выпускам польскамоўных падручнікаў[422]. У 1919—1920 гг. дзейнічала бібліятэка і чытальня таварыства «Sokoł»[423]. Некаторыя мясцовыя палітычныя дзеячы ўдзельнічалі і падтрымлівалі беларускі палітычны і культурна-асветніцкі рух, такія як Раман Скірмунт, Мар'ян Масоніус, Юзэфа Кодзіс[424]. Адначасова ў Беларусі ўзмацняюцца і паланізацыйныя тэндэнцыі, зачыняюцца беларускія культурна-асветныя ўстановы і арганізацыі, церпіць ганенні беларускае друкаванае слова, пра што нават адзначалі самі палякі[425].

# ГАЗЕТНАЯ СПРАВА Ў РЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ ЧАСЫ

Да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года на тэрыторыі Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў, нягледзячы на Першую сусветную вайну і блізкасць да тэрыторыі ваенных дзеянняў, дастаткова актыўна выдаваліся газеты. Ёсць звесткі аб 16 газетах, якія выдаваліся ў Мінскай губерні. Галоўным цэнтрам выдання газет быў губернскі цэнтр — Мінск. Тут выходзілі афіцыйныя «Минские губернские ведомости», земская газета («Справочный листок Отдела службы связи Комитета Западного фронта Всероссийского земского союза»), ваенная газета «Наш вестник», прыватныя газеты «Минский голос» и «Минская газета-копейка». Акрамя газет на рускай мове, выходзіў таксама «Nowy Kurier Litewski» на польскай. Штодзённая газета выдавалася ў Бабруйску («Бобруйский курьер»). Па Віцебскай губерні ёсць звесткі толькі аб газетах, якія выдаваліся ў Віцебску: афіцыйнай («Витебские губернские ведомости») і прыватных («Витебский вестник» і «Западная копейка»). У Магілёўскай губерні да 1917 г. выдавалася 5 газет: у Магілёве — афіцыйная («Могилевские губернские ведомости»), земская («Вестник Могилевского земства») і прыватная («Могилевский вестник»); па губерні — у Гомелі («Гомельская копейка») і Оршы («Оршанский вестник»). Больш складанай выглядае справа з Гродзенскай губерняй, якая ў той час была акупіравана нямецкімі войскамі, і дакладнай інфармацыі аб выпуску газет у гэты час, на жаль, няма. Своеасаблівым відам выданняў у той час з'яўляліся тэлеграмы. Гэта былі зводкі аб ваенных дзеяннях Петраградскага тэлеграфнага агенцтва, якія друкаваліся на адным баку аркуша паперы і выпускаліся практычна пры кожнай штодзённай газеце (напрыклад, тэлеграмы выпускалі газеты «Минский голос», «Витебский вестник» и «Бобруйский курьер»)[426].

Колькасць выдаваных газет рэзка ўзрасла пасля рэвалюцыі 25 лютага 1917 г., пры гэтым былі перайменаваны практычна ўсе афіцыйныя газеты. Так, у Мінскай губерні замест 16 выданняў у 1916 годзе, вядома 44 выданні ў 1917, у Віцебскай замест 4 — 25, у Магілёўскай замест 5 — 32. Дадзеныя лічбы вельмі недакладныя, бо вядзенне статыстыкі, прычым у прыфрантавой зоне, было практычна немагчыма, але нават гэтыя, хутчэй за ўсё, заніжаныя лічбы адлюстроўваюць агульную дынаміку павелічэння колькасці выданняў.

Рост колькасці назваў тлумачыўся блізкасцю фронту, вялікай колькасцю салдат і афіцэраў, а таксама агульнай напружанасцю сітуацыі ў рэгіёне. Таму ўсе палітычныя партыі актыўна вялі прапаганду сваіх ідэй, выдаючы газеты. На тэрыторыі Беларусі выходзілі сацыялістычныя газеты «Голос народа» і «Рабочая мысль» (Гомель), «Молот» (Магілёў), «Наша мысль» (Бабруйск), «Товарищ» (Мінск); газеты партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў «Земля и воля» (Быхаў), «Социалист-революционер» (Мінск), «Солдат-крестьянин» (Полацк). У арміі распаўсюджваліся ваенныя газеты: «Известия исполнительного комитета 5-й армии» (у Дзвінску), «Белорусская рада» і «Наша газета» (у Мінску), «Вестник Главного Комитета союза офицеров армии и флота», «Известия действующей армии» и «Революционная ставка» (у Магілёве), «Известия Исполнительного комитета 2-й армии» (у Нясвіжы). Сярод сельскага насельніцтва сталі выдавацца і распаўсюджвацца новыя земскія газеты: «Горецкий вестник» (у Горацкім павеце), «Земская газета» (у Невельскім).

Пачынаюць выпуск газет Саветы рабочых дэпутатаў: «Наше свободное слово» (Рагачоў), «Свободное слово» (Горкі), «Известия Минского Совета рабочих и солдатских депутатов», «Фронт» и «Советская правда» (Мінск), «Известия Мозырского Совета рабочих и солдатских депутатов», «Двинское слово» (Дзвінск), «Известия Витебского Совета солдатских и рабочих депутатов» (Віцебск), «Революционный голос» (Полацк). Гэтыя газеты былі самага разнастайнага палітычнага кірунку, у залежнасці ад таго, якая партыя аказалася ў большасці пры выбарах Саветаў дэпутатаў.

Безумоўна (улічваючы наступствы гісторыі), самымі ўстойлівымі аказаліся газеты, якія выдавала РСДРП. У сакавіку 1917 г. пачалі выходзіць «Известия Гомельского Совета рабочих и солдатск[их] депутатов» (прадвеснік газеты «Гомельская праўда»), 30 кастрычніка — «Известия Витебского революционного совета солдатских и рабочих депутатов» (у далейшым — «Віцебскі рабочы»). 27 ліпеня (9 жн.) 1917 г. у Мінску пачала выдаваца газета «Звезда», якой наканавана было стаць адной з галоўных газет Камуністычнай партыі Беларусі.

Большасць газет у 1917 г. выходзіла на рускай мове, хоць у іх змяшчаліся матэрыялы і

на беларускай. Прадаўжалі выдавацца газеты на польскай мове: «Nowy Kurier Litewski» перайменаваўся ў «Dziennik Miński», у Мінску пачалі выходзіць яшчэ дзве газеты камуністычнага кірунку — «Polska prawda» і «Żołnierz polski». Таксама з 12 мая 1917 г. пачынае выдавацца першая камуністычная газета на яўрэйскай мове — «Дэр векер» («Будзільнік»).

У канцы 1917 — пачатку 1918 г. РСДРП распачынае правядзенне палітыкі жорсткай цэнзуры, закрываючы выданні іншых партый. Выдаўцы газет, апынуўшыхся пад пагрозай, хутка ўспомнілі практыку часоў царскай рэакцыі і сталі мяняць загалоўкі. Так, мінская газета «Социалист-революционер» у снежні 1917 г. перайменавалася ў «Новый социалист-революционер», а ў пачатку 1918 г. — у «Минский рабочий».

У лютым 1918 г. амаль палова тэрыторыі Беларусі (разам з Мінскам) была акупіравана нямецкім войскам. Легальныя газеты сацыялістычнага кірунку былі закрыты. Камуністычныя газеты, у прыватнасці «Звезда», пераехалі ў Смаленск — апошні з беларускіх губернскіх гарадоў, падкантрольны савецкаму ўраду. Адтуль газеты нелегальна распаўсюджваліся па тэрыторыі Беларусі. Спецыяльна для агітацыі ў нямецкім войску тут выдавалася газета на нямецкай мове «Der Stern».

У сваю чаргу, на акупіраванай тэрыторыі таксама сталі выдавацца свае газеты. У Мінску выйшлі «Беларускі шлях», «Белорусская земля», «Новый вестник»; у Гомелі — «Гомельская жизнь», «Вестник городского самоуправления», «Вечерняя газета», «Новый путь», «Полесье»; у Бабруйску — «Бобруйский голос» и «Бобруйский день». Падпольна выдаваліся камуністычныя газеты. Так, у 1918 г. у Мінску друкавалася газета «Подпольная правда», у Гродне — «Набат».

На беларускіх тэрыторыях, кантраляваных бальшавікамі, ішла актыўная ўнутраная барацьба паміж палітычнымі партыямі, якая завяршылася перамогай бальшавікоў. У выніку закрываліся ўсе легальныя партыйныя небальшавіцкія газеты, рэарганізоўваліся газеты Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў (разам з самімі Саветамі).

Часам, каб пазбегнуць закрыцця, выдаўцы спрабавалі рэарганізаваць газету, змянялі загаловак. Так, віцебскі «Наш путь» быў закрыты 15 сакавіка 1918 г., але 17 сакавіка 1918 г. з тым самым адрасам рэдакцыі была выпушчана газета «Наша жизнь». Тым не менш такія хітрыкі не ратоўвалі ад закрыцця, і да сярэдзіны 1918 г. легальна выдаваліся толькі прабальшавіцкія газеты. У якасці выключэння з агульных правіл можна назваць беспартыйную газету «Витебский листок», якая праіснавала ў Віцебску да ліпеня 1919 г.

З верасня 1918 г. з паляпшэннем агульнай сітуацыі на фронце выданне газет пачалося з новай сілай. У Смаленску пачала выдавацца газета «Бедняк», арыентаваная на ўсю Заходнюю вобласць. Газета «Звезда» ў гэты час выконвала функцыі смаленскай гарадской партыйнай газеты. У Віцебску пачала выходзіць першая газета на яўрэйскай мове «Дэр фрайер арбайтэр» («Вольны рабочы»).

У лістападзе 1918 г. пачынае выдавацца «Полоцкая красная газета», у Магілёве — «Известия Могилевского губернского революционного комитета», у Горках — «Известия Горецкого уездного исполнительного комитета Совета рабочих, крестьянских, батрацких и красноармейских депутатов», у Лепелі — «Известия Лепельского уездного Совета крестьянских, рабочих, красноармейских и батрацких депутатов». Трэба адзначыць, што «Известия…» былі вельмі распаўсюджаным на той час загалоўкам, прычым для таго, каб загаловак памясціўся ў лагатып газеты, выдаўцы скарачалі яго як маглі, даходзячы пры гэтым да абсурду. Напрыклад, у Горках на газеце «Известия… » значылася: «Известия Горецкого уезд. исполн. к. Совета раб., крест. и красноарм. Депутатов». Выгляд гэтага загалоўка наводзіць на думку, што сапраўды важнымі былі толькі два першыя словы. Да 1919 г. большасць «Известий…» змянілі свае загалоўкі на карацейшыя. Напрыклад, «Известия Полоцкого уездного совета…» сталі называцца «Октябрьское эхо», «Известия Могилевского губернского революционного комитета» — «Соха и Молот», «Известия Совета … Оршанского уезда» — «Набат».

У снежні 1918 г. Мінск быў вызвалены. Агульны эмацыянальны пад'ём і надзённая патрэба ў агітацыі выклікалі практычна імгненны пераезд галоўных газет са Смаленска ў Мінск. Былі перавезены газеты «Бедняк» і «Звезда», прычым выхад іх практычна не спыняўся.

У Мінску пачалі выдавацца газеты і на іншых мовах. 18 снежня 1918 г. пачала выходзіць польскамоўная газета «Młot», з дапамогай якой камуністы спрабавалі агітаваць насельніцтва на ўсё яшчэ акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Таксама 27 снежня з'явілася новая газета «Дэр штэрн» («Звязда»), галоўная на той час камуністычная газета Беларусі на яўрэйскай мове.

1 студзеня 1919 г. створана БССР. Газеты, што выданы ў Мінску, атрымалі больш высокі статус. І калі ў лютым частка тэрыторыі БССР адышла да РСФСР (у прыватнасці, Віцебская губерня), а частка да новастворанай Літоўска-Беларускай ССР (з рэспубліканскім цэнтрам у Вільні), галоўнымі камуністычнымі газетамі апошняй сталі менавіта перавезеныя з Мінска ў Вільню «Звезда» (на рускай мове), «Młot» (на польскай) і «Дэр штэрн» (на яўрэйскай).

Мінск губляе статус рэспубліканскай сталіцы, але застаецца цэнтрам губерні. Замест саветаў дэпутатаў, з-за набліжанасці да фронту і нестабільнасці абстаноўкі створаны рэвалюцыйныя камітэты. Па-ранейшаму выпускаюцца газеты «Бедняк» і «Дэр векер» (на яўрэйскай мове). Пачынаюць выдавацца газеты «Белорусская коммуна» і «Минский рабочий». Сітуацыя ў рэспубліцы па-ранейшаму застаецца складанай. Напрыклад, у сакавіку 1919 г. падчас мяцяжу ў Гомелі была разбурана друкарня газеты «Известия Революционного комитета г. Гомеля и уезда». Магілёў застаецца галоўным ваенным горадам рэгіёна. У сакавіку 1919 г. тут пачынае выдавацца газета Заходняй арміі «Красноармеец».

У красавіку 1919 г. польскія войскі займаюць Вільню. Цэнтр савецкай рэспублікі пераносіцца назад у Мінск. Гэта выклікае чарговы ўсплёск у стварэнні новых выданнняў і пашырэнні існуючых. Рэдакцыі газет «Звезда», «Młot» і «Дэр штэрн» вяртаюцца ў Мінск. Тыраж «Звезды», напрыклад, у канцы красавіка склаў 25 тысяч экзэмпляраў, што па тым часе было вельмі шмат. Пачынаюць выдавацца новыя газеты. Так, у Гомелі выходзяць газеты «Рабочая жизнь» (прафсаюзнае выданне) і «Дэр ідышэр камуніст» (далей перайменаваны ў «Горепашнік» («Працаўнік»). Захоўвалася сетка газет губернскіх і павятовых органаў улады. Іх пашырэнне і рост колькасці выданняў цалкам абмяжоўваўся праблемай недахопу паперы як у Беларусі, так і ў РСФСР. Газеты друкавалі на абгортачнай або папяроснай, не прызначанай для друкарскай фарбы паперы рознага колеру і шчыльнасці. Месцамі тэкст нельга было прачытаць. Так, газета «Звезда», каб захаваць тыраж, была вымушана скараціць аб'ём да дзвюх старонак.

У жніўні 1919 г. Мінск, як да таго Вільня, быў захоплены польскімі войскамі. Рэдакцыі камуністычных газет ізноў пераносіліся або закрываліся: газета «Бедняк» была закрыта, «Звезда» і «Młot» перавезены ў Смаленск, «Дэр векер» — у Гомель, «Дэр штэрн» — у Віцебск. На тэрыторыі, занятай польскімі войскамі, пачалі выходзіць газеты на рускай (прычым у дарэвалюцыйнай арфаграфіі) і беларускай мовах, прычым некаторыя газеты на беларускай мове друкаваліся лацінскім шрыфтам. У Мінску выходзілі газеты «Беларусь», «Звон», «Незалежная думка», «Беларуская думка» на беларускай мове кірыліцай, «Zorka» на беларускай мове лацінкай, «Утро Белоруссии» і «Минский курьер» на рускай мове. Выходзіла таксама газета «Дэр мінскер векер» (на яўрэйскай мове) і «Zorza Mińska» на польскай.

У Гродне выходзілі газеты «Бацькаўшчына» і «Беларускае слова» на беларускай мове і «Белорусский народ» на рускай. У Беластоку працягвала выходзіць газета «Голос Белостока», якая з'явілася яшчэ ў 1910 г.

# ПАСЛЯ 11 ЛІПЕНЯ 1920 Г.

Летам 1920 г. у Беларусі зноў усталёўваецца савецкая ўлада. 31 ліпеня 1920 г. у Мінску была прынята «Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь» (ССРБ). Аднак пасля контрнаступлення палякаў большая частка тэрыторыі рэспублікі апынулася пад уладай Польшчы. У выніку, паводле Рыжскага мірнага дагавора ад 18 сакавіка 1921 г., Беларусь была падзелена на тры часткі: заходняя — увайшла ў склад II Рэчы Паспалітай, усходняя — заставалася ў складзе РСФСР, а 6 паветаў Мінскай губерні ў цэнтральнай частцы склалі тэрыторыю БССР.

На неакупіраванай частцы Беларусі цяжкасці з паперай і блізкасць да фронту прывялі да ўзнаўлення тыпаў газет, якія ў 1917—1918 гг. выкарыстоўваліся мала.

Па-першае, гэта аднадзённыя газеты, якія выдаваліся дакладна да якой-небудзь даты. Гэта магло быць новае савецкае «кастрычніцкае» свята (у Магілёве да 7 лістапада 1920 г. выйшлі дзве розныя газеты: «Красный Октябрь» і «Три красных года» Магілёўскай камісіі па правядзенні кастрычніцкіх урачыстасцяў), прафесійнае свята (у Віцебску ў сакавіку 1919 г. да дня тэатральных служачых была выпушчана газета «Курьер театральных служащих», у Невелі 13 верасня 1919 г. выдадзена газета «День искусства»), дабрачынныя акцыі (у Магілёве 28 лістапада 1920 г. выйшла газета «Неделя ребенка» да пачатку тыдня дзіцяці). Такая газета не патрабавала пастаяннай рэдакцыі (выходзіла адным, іншым разам некалькімі нумарамі) і значных затрат на вытворчасць[427].

Па-другое, гэта насценныя газеты. Яны прызначаліся для расклейкі на сценах і спецыяльных тумбах, таму тэкст у іх друкаваўся на адным баку аркуша. Пры параўнальна малым тыражы прачытаць такія газеты магла значная колькасць народу. Таму да рэвалюцыі так выдавалі рэкламныя афішы і тэлеграмы. З 1919 г. у Віцебску, Лепелі, Магілёве, Гомелі, Сянно і іншых гарадах Беларусі пачалі выпускацца «Насценныя газеты РОСТА». Па сутнасці сваёй гэта былі выпускі тэлеграм або апошніх вестак (абрэвіятура РОСТА абазначала «Российское телеграфное агентство») з кідкімі загалоўкамі, а калі-нікалі і з ілюстрацыямі. Прызначаліся яны для давядзення да насельніцтва афіцыйнага пункту гледжання на бягучыя падзеі. Выдаваліся такія газеты толькі на рускай мове.

У некаторых выпадках сістэма выданняў РОСТА выкарыстоўвалася для абвяшчэння аб важных мясцовых падзеях. Іншым разам гэта былі эпідэміі халеры ці тыфу, што ўзніклі праз перабоі з харчаваннем і антысанітарныя ўмовы пражывання людзей. Тады РОСТА выпускала аднадзённыя газеты, што прапагандавалі метады барацьбы з захворваннем. 28 кастрычніка 1920 г. у Магілёве выйшла «Санитарная РОСТА» да дзён прапаганды барацьбы з сыпным і зваротным тыфам. Калі-нікалі з дапамогай насценных газет РОСТА прапагандаваліся новыя ўмовы працы сялянскага насельніцтва на палях. Напрыклад, у жніўні 1920 г. у Сянно выйшла газета «Неделя крестьянина», выдадзеная павятовым аддзяленнем РОСТА. Новых рэгулярна выдаваных газет у 1919 — пачатку 1920 г. практычна не было.

У сярэдзіне 1920 г. Чырвоная Армія выцесніла польскія войскі са значнай часткі тэрыторыі Беларусі. У ліпені 1920 г. вызвалены Мінск. Да сярэдзіны жніўня ў Мінск былі перавезены галоўныя камуністычныя газеты — «Звезда», „Дэр штэрн" і «Młot». Галоўнай газетай, выдаванай Рэвалюцыйным камітэтам, стала «Савецкая Беларусь», якая была перavedзена са Смаленска. Да канца 1920 г. выходзілі таксама «Известия Военно-революционного комитета».

Вельмі хутка на занятай тэрыторыі былі закрыты выдаваныя раней газеты і на іх базе пачалі выходзіць газеты камуністычных органаў выканаўчай улады. Так, напрыклад, у Бабруйску пачаўся выпуск газеты «Коммунист», у Барысаве — «Рабоче-крестьянский путь», у Гродне — «Известия Гродненского ревкома» і «Голос пролетария», у Беластоку — «Известия Военно-революционного комитета Белостокского округа» (тэкст і паралельны загаловак газеты былі на яўрэйскай мове). З адваротным заняццем тэрыторый (у прыватнасці, Гродна і Беластока) польскімі войскамі выданне гэтых газет было спынена.

Пасле заключэння 18 сакавіка 1921 г. Рыжскага мірнага дагавора Заходняя Беларусь увайшла ў склад Польшчы. Камуністычныя газеты і газеты савецкіх органаў выканаўчай улады былі закрыты. Цэнтрам беларускага друку ў гэты час стала Вільня. У пачатку 1920-х гадоў выдаваліся таксама беларускія газеты

«Наша Бацькаўшчына» ў Навагрудку і «Сялянская воля» ў Баранавічах.

З заключэннем міру абстаноўка на тэрыторыі Беларусі стабілізавалася. У канцы 1920 г. ужо былі адменены рэвалюцыйныя камітэты, запрацавалі губернскія і павятовыя выканаўчыя камітэты і саветы. Акрамя Камуністычнай партыі Беларусі, з партый у рэспубліцы застаўся толькі «Бунд», які вёў актыўную прапаганду, выдаючы газеты як на рускай, так і на яўрэйскай мовах. У Гомелі «Бунд» выдаваў газеты «Рабочий голос» (пазней — «Голос рабочего») на рускай мове і «Гомлер векер» («Гомельскі будзільнік») з маладзёжным дадаткам «Югнт-Бунд» («Моладзевы Бунд») на яўрэйскай. Галоўнай газетай «Бунда» да красавіка 1921 г. быў «Дэр векер» («Будзільнік»), які выдаваўся ў Мінску. Пасля таго як 21 красавіка 1921 г. у гэтае выданне была ўліта галоўная партыйная газета Яўрэйскага камуністычнага саюза «Дэр штэрн», менавіта «Будзільнік» стаў галоўнай яўрэйскай камуністычнай газетай Беларусі да 1925 года. Да канца 1921 г. усе бундаўскія легальныя газеты перайшлі ў падпарадкаванне камуністычнай партыі або былі закрыты.




*Вокладка кнігі «Дзіцячая чытанка». Мінск, 1918 г.*



40 ЖУРНАЛ ВИТРОСТА

Из плаката „Против холода в атаку!".

В батальоны стройтесь дружно,
Не боясь зимы угроз!
Побороть нам Стужу нужно:
Все на белый на Мороз!

К лесу выйдем снежным полем
И пойдет от рубки — гром!
Не дрова в лесу мы колем:
Рубим троны топором!

Пусть Морозы иглы — колки,
Все звончей удар в ряд:
Троны царского осколки
Во все стороны летят!

Все мятежней в душах пламя,
Все светлей рабочих взор.
Наши Пилы — наше знамя,
Наше знамя — наш Топор!

ЖУРНАЛ ВИТРОСТА 41

РАБОТА В УЕЗДАХ

Схема работы инструкторско-иногороднего Отдела Витроста.

*Разварот «Часопіса Віцебскага аддзялення РОСТА». Віцебск. 1921 г. № 1.*

# БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ СССР (НАЙВЫШЭЙШАЯ КАШТОЎНАСЦЬ — РОДНАЕ СЛОВА. 1921—1939 ГГ.)

У снежні 1922 г. Беларусь удзельнічала ў стварэнні СССР і адразу добраахвотна ўвайшла ў яго склад. Сялянская па большасці насельніцтва рэспубліка распачынала сваю незалежную гісторыю ў складзе новай дзяржавы, якая афіцыйна называла сябе дыктатурай пралетарыяту. Статус аўтаноміі і незалежнасці (аж з правам выхаду з саюза) у шматнацыянальным СССР напачатку быў падтрымкай рэспубліканскім уладам пры культурным будаўніцтве. Новая атмасфера вольнага шматнацыянальнага жыцця адбілася ў кнігах французскага пісьменніка Анры Барбюса (пераклад якіх на беларускую мову своечасова арганізавалі камуністы) — кнігі Барбюса ўсхвалялі Сталіна і з энтузіязмам трактавалі палітыку кампартыі па нацыянальным пытанні ў СССР. Хоць не ўсе нацыянальна арыентаваныя камуністы адразу звярнулі ўвагу на прынцыповы, вынесены ў загаловак момант: СССР Барбюс называе і трактуе як Расію:

«…Гэта вялікі натоўп нацыянальнасцяў, якія, дзякуючы бязупыннаму руху, перамешваюцца паміж сабою, паасобнымі часткамі заходзяць адна ў адну… Калейдоскопічная гармонія нацыянальнасцяў, гармонія на абшары двух мільярдаў гектараў. Пры першай сустрэчы з працай нацыяналізм зьнік бясьследна. Па ўсяму контынэнту шыльды на некалькіх мовах. Маскоўскі ўрад культывуе нацыянальныя мовы. …Гэта сьведчыць аб усёй лагоднасьці і ўмеласьці нацыянальнай і аўтономнай політыкі. Калі-небудзь на падставе добраахвотнай інтэрнацыянальнай згоды і расійскую мову перакладуць на лацінскі альфабэт»[428].

Аднак быў і іншы — мінскі — погляд на праблему лацінскага алфавіта. У сярэдзіне сакавіка 1930 г., выступаючы на сходзе мінскага актыву ЛКСМБ, таварыш А. Гаруковіч, палемізуючы са штотыднёвай газетай «Беларуская крыніца», якую ў гэты час выдаваў у Вільні ксёндз Адам Станкевіч, казаў: «За плячыма «акадэмічнага» пытання пра альфабэт хаваецца твар нацыянал-дэмакратаў, нацыянал-фашыстых. Гэтае пытанне мае клясавую сутнасць. Яно орыентуе працоўныя масы на Захад. Ня ўлічваць гэтага ў сучасных абставінах, калі нацыянал-фашыстыя пад кіраўніцтвам польскага імпэрыялізму і з блаславеньня папы Пія XI рыхтуюць напад на СССР, ніякім чынам нельга. …Нам вядома, што заўзятыя прадстаўнікі папы Пія XI у Польшчы, ксяндзы выдаюць свае друкаваныя органы для «ўлаўлення душ» беларускага працоўнага насельніцтва лацінскім альфабэтам. Апроч таго, нацыянал-фашыстыя выдаюць «Крыніцу» адзін раз на гаўрыліцы а другі на лацініцы, каб з большым посьпехам выконваць ролю паслугачоў польскага фашызму і ашукваць масы працоўных»[429].

Змены ў сацыяльна-эканамічным, грамадска-палітычным, культурным жыцці БССР адбіваліся на арганізацыйнай структуры кнігавыдвецкай справы, якая працягвала будавацца як сістэма дзяржаўнага кнігавыдання, прытым сістэма кнігадрукавання шматнацыянальнага, адпаведна шматнацыянальнаму насельніцтву рэспублікі[430]. Падчас палітыкі ваеннага камунізму былі ліквідаваны прыватныя выдавецтвы. Выдавецкая справа поўнасцю станавілася партыйнай. У 1921 г. на базе аддзялення Дзяржаўнага выдавецтва РСФСР у Мінску было створана ***Дзяржаўнае выдавецтва БССР***. Гэтая ўстанова выпускала ўласныя выданні і (праз сетку сваіх кніжных магазінаў) рэгулявала выдавецкую дзейнасць у рэспубліцы. У 1921 г. у Беларусі выйшла 196 назваў кніг, брашур, лістовак, плакатаў агульным тыражом 1526 тыс. экз., у іх ліку 13 назваў мастацкай і дзіцячай літаратуры, 7 падручнікаў і 15 вучэбных дапаможнікаў на рускай і беларускай мовах — і гэта была прадукцыя Дзяржаўнага выдавецтва БССР[431]. Выпуск кніжнай прадукцыі ажыццяўляўся па заказах ЦК КП(б)Б, наркаматаў і ведамстваў рэспублікі, а таксама Дзяржаўнага выдавецтва РСФСР.

З пачатку 1922 г. у БССР у асноўным спыняецца бясплатнае распаўсюджанне друкаванай прадукцыі: кніг, газет, часопісаў, а паліграфічныя прадпрыемствы пераводзяцца на гаспадарчы разлік, што паспрыяла ажыўленню кнігавыдавецкай справы, з аднаго боку, але прынесла і значныя цяжкасці для рэгіянальнага друку (у прыватнасці, шмат якія павятовыя газеты праз недахоп матэрыяльных сродкаў перастаюць выходзіць)[432]. Аднак і бясплатныя кнігі пасля 1922 г. зусім не знікаюць, аб чым сведчыць, прыкладам, «Лемантар для сельскагаспадарчых і лясных рабочых «Наша сіла — Саюз», які выдалі ў 1926 г., — на яго вокладцы пазначана: «Для

сельскагаспадарчых і лясных рабочых — дарэмна».

Дзякуючы намаганням Зміцера Жылуновіча (Цішкі Гартнага), ЦК РКП(б) і СНК РСФСР выдзеліў Беларусі 20 млн. руб. золатам на арганізацыю выпуску кніг у Берліне[433]. У жніўні 1921 г. Беларускае аддзяленне Дзяржаўнага выдавецтва РСФСР пад кіраўніцтвам З. Жылуновіча прыступіла да выдання. Да мая 1922 г. было надрукавана 10 назваў кніг тыражом ад 7 да 55 тыс. экз. кожная. Агульны тыраж склаў 138,5 тыс. экз. Большасць выданняў — беларускамоўныя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі: хрэстаматыя, ілюстраваны буквар, граматыка, арыфметыка. Былі выпушчаны таксама зборнік апавяданняў Я. Коласа «Казкі жыцця» і кнігі Ц. Гартнага «Песні працы і змагання» і «Сокі цаліны». Па паліграфічным афармленні берлінскія выданні былі намнога вышэйшай якасці, на добрай паперы. Атрыманая прадукцыя паспрыяла арганізацыі ў БССР навучання на роднай мове, а набыты вопыт — удасканаленню выдавецкай справы ў рэспубліцы.

*А. Барбюс. Расія. Пераклад з французскай мовы К. Даўкшты. Мінск, 1931 г.*




*Вокладка падручніка А. Круталевіча «Элементарная алгебра». Берлін, 1922 г.*

*Вокладка кнігі Цішкі Гартнага «Песні працы і змагання». Берлін, 1922 г.*

*Разварот кнігі «Друкарня імя Сталіна за 15 год». Мінск, 1932 г.*

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі некалькі дробных друкарняў Мінска (прынамсі, прадпрыемствы старшыні «Союза русского народа» Някрасава і гаспадара Форына, друкарня Земскага саюза, што мясцілася на Ляхаўцы) былі далучаны да былой губернскай друкарні, утварыўшы «1-ю Савецкую друкарню». Яшчэ 5 невялікіх саматужных друкарняў, якія існавалі ў Мінску з 1919 г., у 1922 г. былі зліты ў 2-ю і 3-ю Савецкія друкарні і перададзены наваствоpанаму прадпрыемству — «Белтрэстдруку». Восем паліграфічных прадпрыемстваў «Белтрэстдруку» — тры Савецкія друкарні ў Мінску і 5 у паветах (Барысаве, Бабруйску, Ігумене, Мазыры, Слуцку) — папоўніліся абсталяваннем і шрыфтамі з-за мяжы[434]. У сталіцы працягвалася канцэнтрацыя паліграфічнай прамысловасці: у чэрвені 1924 г. 2-я і 3-я друкарні былі аб'яднаны ў адну 2-ю савецкую друкарню (былая Саламонава), а ў 1928 г. злучаныя 1-я і 2-я Савецкія друкарні ўтварылі першую дзяржаўную друкарню імя Сталіна (друкарня БДзВ), у якой пры стварэнні працавалі каля 600 рабочых, а ў 1932 г. іх было ўжо 1000 чалавек[435].




Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

ДРУКАРНЯ ІМЯ СТАЛІНА ЗА 15 ГОД

ОРГАН КОЛЕКТЫВУ КП(б)Б, ФЗК І КОЛЕКТЫВУ ЛКСМБ

15 год Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі — 15 год слаўных перамог на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва. Партыя, верная паказаньням Леніна, вяла краіну ад адной перамогі да другой. Мы можам з гонарам заявіць, што за 15 год існаваньня дыктатуры пралетарыяту мы паказалі такія тэмпы, аб якіх нават не сьмела марыць ні адна капіталістычная краіна. Мы амаль пад усе галіны нашай народнай гаспадаркі падвялі машынную базу, мы шырока разьвілі выраб сродкаў вытворчасьці і ў значнай ступені дамагліся тэхніка-эканамічнай незалежнасьці ад капіталістычных краін.

15 год дыктатуры пралетарыяту ў корані зьмянілі твар нашай прамысловасьці, нашых гарадоў, нашай сельскай гаспадаркі. Мы дамагліся рашаючых посьпехаў у выхаваньні адсталых пластоў насельніцтва і гэтым вырашана самая трудная, самая складаная задача пралетарскай рэвалюцыі. „Мы ўжо дасягнулі такога становішча, што ў сельскай гаспадарцы пануючае становішча займаюць сацыялістычныя формы, у адсталай, учора яшчэ раздробленай вёсцы будуецца зараз буйная сацыялістычная гаспадарка на аснове машыннай тэхнікі.

15 год дыктатуры пралетарыяту — 15 пераможных год, 15 год бесьперапыннага руху наперад — да пабудовы сацыялізму. Шырока разгорнутае сацспаборніцтва і ўдарніцтва, сацыялістычныя мэтады працы, неабмежаванае давер'е працоўных мас да камуністычнай партыі стварылі ўмовы для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, для пабудовы ў другой пяцігодцы бясклясавага сацыялістычнага грамадства.

15 год дыктатуры пралетарыяту. Праз гады грамадзянскай вайны на аснове чоткага і выразнага праводжаньня генэральнай лініі партыі і ленінскай нацыянальнай палітыкі, у рашучай барацьбе з правымі ўхілістамі, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з „левым" апартунізмам, з контррэвалюцыйным трацкізмам, выкрываючы малейшыя манэўры клясавага ворага, якія шляхам інтэрвэнцыі і шкодніцтва імкнуліся затрымаць наш пераможны рух наперад, партыя, узброеная тэорыяй

ЗА ПЯТНАЦЦАЦЬ ГОД 3

У 1930 г. найбуйнешыя паліграфічныя прадпрыемствы БССР далі прадукцыі на 4 млн. 9 тыс. рублёў, пры гэтым аб'ёмы размеркаваліся наступным чынам:

| Прадпрыемствы | Валавая выпрацоўка (тыс. руб.) |
|---|---|
| Друкарня БДзВ | 1900 |
| Палесдрук | 1004 |
| Віцебск | 285 |
| Магілёў | 162 |
| Барысаў | 503 |
| Бабруйск | 207 |
| Мазыр | 48 |




*Лінатыпістка за працай. Вокладка часопіса «Чырвоная Беларусь». 1930 г. № 2.*

Узрастала колькасць рабочых, занятых у друкарскай прамысловасці: калі ў 1929 г. на 7 прадпрыемствах працавалі 1144 чалавекі, то ў 1930 г. ужо 1286, а ў 1931 — 1591 чалавек. Заработная плата рабочага-друкара ў 1930 г. складала 61—105 руб. на месяц: гэта былі вялікія заробкі, на 21—22% большыя, чым сярэдняя зарплата па рэспубліцы[436].

У студзені 1924 г. паэт Алесь Александровіч напісаў верш «Друкар», дзе адлюстраваў цяжкую працу наборшчыка і радасць ад прымянення машыннай працы[437]:

ДРУКАР
І дзень і ноч дрыжыць ліхтар,
сьвінцовы пыл у вокны звоніць.
Над касай весела друкар
трымае літары ў далоні.

Кладзе ў радкі, бы мосьціць брук:
за словам слова, так артыкул
вясёлай песьняй творыць друк,
але баліць рука-матыка.

І дзень і ноч машынаў гул
цалуе горача рабочых.
Таму руку, таму нагу
прыцісьне й радасна рагоча:

— Варстат заменіць сотні рук, —
што робіш ноч, ён дасьць хвілінай…
Гэй ты, крылаты вольны друк,
цябе вітаю я, машына!

Па меры ажыццяўлення новай эканамічнай палітыкі ў БССР адзначаецца і працэс вяртання да старых тыпаў выдавецкіх прадпрыемстваў — прыватных і грамадскіх, а таксама стварэння новых — кааператыўных. Так, па ініцыятыве Інстытута беларускай культуры і на сродкі дзяржаўных, грамадскіх устаноў (Наркамасветы, Цэнтрабелсаюза, Наркамзема, НКУС, Цэнтрабелсельгаса, Беларускага дзяржаўнага тэатра) і прыватных асоб у красавіку 1922 г. было створана першае кааператыўнае выдавецтва ***«Адраджэнне»*** (з канца 1922 г. — «Савецкая Беларусь»), якое ўзначаліў З. Жылуновіч.




*Выдавецкая марка выдавецтва «Савецкая Беларусь».*

# Полымя




Студзень

№ 2

Менск – 1923

№ 15 „Сялянская Бібліятэка" № 15

# Страшны вораг




Выдавецтва „Белтрэстдрук"

Менск 1924 г.

№ 11 „Сялянская Бібліятэка" № 11

Ю. Вагнэр

# Апавяданьні аб вадзе



Выдавецтва „Белтрэстдрук"

Менск 1924 г.







← *Старонка часопіса «Полымя» (1923 г. Студзень. № 8) з выдавецкай маркай Беларускага кааперацыйна-выдавецкага таварыства «Адраджэнне».*

← *Кніга серыі «Сялянская бібліятэка». С. Рак. Страшны вораг. Мінск, 1924 г.*

← *Кніга серыі «Сялянская бібліятэка». Ю. Вагнэр. Апавяданні аб вадзе. Мінск, 1924 г.*

*Кніга серыі «Сялянская бібліятэка». Дыкштэйн. Хто чым жыве. Мінск, 1924 г.*

*Кніга серыі «Сялянская бібліятэка». А. Дзяркач. Пра папоў, пра дзякоў, пра сялян-мужыкоў. Мінск, 1925 г.*

Выдавецтва выпускала творы беларускай мастацкай літаратуры, падручнікі, навуковую літаратуру на роднай мове, а таксама агітацыйна-прапагандысцкія матэрыялы. Значную частку выданняў складалі арыгінальныя творы, а таксама падручнікі. Пасля выдання першага зборніка пад назвай «Адраджэнне», у якім былі апублікаваны артыкулы, па змесце накіраваныя супраць савецкай улады, выдавецтва было абвінавачана ў следаванні нацыянал-шавінізму, быў узмоцнены партыйны кантроль над ім, зменена назва, а замест часопіса «Адраджэнне» з снежня 1922 г. выдавецтва пачынае выпускаць літаратурна-мастацкі часопіс «Полымя». Вакол выдавецтва і рэдакцыі часопіса гуртаваліся вядомыя пісьменнікі Я. Колас, Я. Купала, З. Бядуля і інш.

У 1922 г. адкрываецца выдавецтва ***«Вперед»*** (па выпуску баявой прапагандысцкай літаратуры і аднайменнага часопіса), асноўнымі пайшчыкамі якога выступілі партыйныя арганізацыі, ячэйкі, Дзяржаўнае выдавецтва БССР і іншыя арганізацыі. Лістоўкі, брашуры, плакаты і лозунгі былі асноўнай прадукцыяй выдавецтва, якая адначасова выпускалася на рускай, беларускай і яўрэйскай мовах.

У перыяд сацыялістычнай індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў рэспубліцы праведзена цэнтралізацыя кнігавыдавецкай справы. У снежні 1922 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР з шэрагам іншых прадпрыемстваў (Контрагенцтва Цэнтральнага выканаўчага камітэта па выданні і распаўсюджанні друку, Упраўленне паліграфічнай прамысловасці СНГБ) былі аб'яднаны ў Дзяржаўны трэст выдавецкай справы і паліграфічнай прамысловасці Беларусі — ***«Белтрэстдрук»***, які мясціўся ў Мінску, па вуліцы Савецкая, 63 і знаходзіўся пад патранажам КП(б)Б (першы дырэктар — Стронгін). Да «Белтрэстдруку» перайшлі і функцыі рэгулюючага органа ў сферы кніжнай справы рэспублікі. Займалася выдавецтва ў асноўным выпускам кніг масава-палітычнага характару, якія былі канкурэнтамі выданням «Савецкай Беларусі»[438]. Найбольш папулярнай кніжнай серыяй Белтрэстдруку стала «Сялянская бібліатэка», у якой выйшлі 32 нумараваныя кніжкі з папулярнымі тэкстамі самай разнастайнай тэматыкі: сельскагаспадарчай «Гутарка аб тым, як купляць і гадаваць коней» агранома Кацаурава (№ 2), яго ж «Аб насеньні» (№ 8), «Аб плодазьмене» (№ 9), «Дагляд за пасевамі» (№ 10); медыцынскай «Парады цяжарным» доктара Цвікевіча (№ 3), яго ж «Гадаваньне грудных дзяцей» (№ 13); прыродазнаўчай «Соль і яе здабываньне» Ул. Львова (№ 6), «Апавяданне аб вадзе» Ю. Вагнера (№ 11); атэістычнай «Чыя вера праўдзівая і які бог праўдзівы» І. Сцяпанава (№ 1), яго ж «Аб таінстве сьвятога прычасьця» (№ 4) і іншыя. Кошт кніг «Сялянскай бібліатэкі» вагаўся ад 8 да 26 капеек, тыраж — ад 3000 да 5000 экзэмпляраў. Выпуск серыі рыхтаваўся загадзя, і ўсе нумары, з 1-га да 32-га, выйшлі ў адзін год — 1924.

# ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ. «МАЛАДНЯК»

З 1923 г. актывізуецца выдавецкая дзейнасць ЦК ЛКСМБ, які выпускае 4 часопісы «Юный пахарь», «Красная смена», «Юнгер арбейтэр» (на яўрэйскай мове), «Gwiazda młodzieży» (на польскай мове). Знакавай падзеяй у 1923 г. стала заснаванне часопіса ***«Маладняк»*** на беларускай мове, які таксама быў органам ЦК ЛКСМБ[439]. Кіраўніком і арганізатарам часопіса, а пазней і пісьменніцкай арганізацыі з'яўляўся Міхась Чарот. У афармленні выданняў «Маладняка» прымалі ўдзел вядомыя беларускія мастакі-кніжнікі А. Тычына, В. Дваракоўскі, А. Пузынкевіч, П. Гуткоўскі.

Створанае ў лютым 1925 г. Цэнтральнае бюро «Маладняка» вынесла пастанову аб выданні маладняко́ўскай бібліятэкі. Першапачаткова кнігі друкаваліся за сродкі арганізацыі без выплаты ганарараў[440]. Выдавецтва ЦБ «Маладняка» выпусціла першую кнігу баек і сатырычных вершаў К. Крапівы, першыя зборнікі апавяданняў: «42 дакументы і двое жвіроўскіх» Міхася Зарэцкага, «Першы паўстанак» Сымона Хурсіка і інш., выходзілі таксама і калектыўныя зборнікі, прыкладам: «Вершы» З. Бандарыны, В. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм, «Пунсовае…» Янкі Бобрыка, Алеся Звонака і Я. Туміловіча. Выдаваліся дзве серыі «Кніжніца «Маладняк» — нумараваная і ненумараваная. У маі 1925 г. у «нумараванай» серыі выйшла сем кніг: першым нумарам ішлі «Выбраныя вершы» Міхася Чарота, потым былі паэма «Там, дзе кіпарысы» Уладзіміра Дубоўкі, зборнік апавяданняў Кузьмы Чорнага «Па дарозе» і «Апавяданні» Адама Бабарэкі, вершы Язэпа Пушчы «Раніца рыкае», сатыры Кандрата Крапівы «Асцё» і юбілейны зборнік «Маладняк — Янку Купалу». Выдаўцы заклікалі купляць гэтыя зборнікі «ўва ўсіх лепшых кнігарнях і кіосках Беларусі, а таксама на галоўных станцыях чыгунак, якія праходзяць цераз БССР», а таксама абяцалі, што ў чэрвені выйдзе 7 наступных зборнікаў, а ў ліпені — 6. У першую ненумараваную серыю выданняў «Маладняка» ўвайшлі сярод іншых кнігі па тэорыі літаратуры («Тэорыя сонэту» А. Барычэўскага), а таксама творы замежных аўтараў: «Балада Рэдынгскае турмы» Оскара Уайльда, «Незвычайны адрывак» Джэка Лондана. Усяго за першыя паўтары гады выйшла 30 назваў кніг маладых пісьменнікаў агульным тыражом 40 тыс. экзэмпляраў. Для маладнякоўскай бібліятэкі былі распрацаваны два варыянты вокладкі, першы (выкарыстаны для аздобы кнігі паэзіі Язэпа Пушчы «Vita») —

*Кніга выдавецтва Цэнтральнага бюро «Маладняка». У. Дубоўка. CREDO. Мінск, 1926 г.*

*Вокладка часопіса «Маладняк». 1927 г. № 7—8.*

*Кніга выдавецтва Цэнтральнага бюро «Маладняка». Янка Купала. Магіла льва. Мінск, 1927 г.*
















*Вокладка зборніка полацкага філіяла «Маладняка» «Наддзвінне». Полацк, 1926 г.*

*Вокладка зборніка бабруйскага філіяла «Маладняка» «Уздым». Бабруйск, 1928 г.*

*Кніга выдавецтва Цэнтральнага бюро «Маладняка». М. Чарот. Ленін. Мінск, 1926 г.*

вокладка шматколерная «ў кветкі», у выглядзе слуцкага пояса, для надпісу «Маладняк» прыменены шрыфт эпохі Адраджэння, кшталтам скарынаўскага. Аднак прыжыўся іншы варыянт — белая вокладка з партрэтам аўтара і назвай (альбо толькі назвай, калі аўтараў некалькі), арнаментальнай стужкай з дубовага лісця і жалудоў наверсе, з левага боку выкананая ў стылі канструктывізму назва серыі. Аўтарам абодвух варыянтаў быў мінскі мастак Анатоль Тычына.

Творы маладнякоўцаў выходзілі і па-за межамі ўсталяваных серый, напрыклад, кніжка вершаў «Беларусь бунтарская» А. Дудара, якую выдала ДВБ у 1925 г. Як выдавецкая арганізацыя Цэнтральнае бюро «Маладняка» выпускала кнігі аўтараў, якія не былі членамі гэтага саюзу, прыкладам у 1927 г. асобнай кніжкай выйшла паэма Янкі Купалы «Магіла льва», вокладку гэтага выдання Анатоль Тычына аздобіў начным пейзажам з курганом. У тым жа 1927 г. ЦБ «Маладняка» пад рэдакцыяй А. Сянькевіча і А. Александровіча выдала зборнік «Крывавай пуцявінай» «аб белапольскіх зьдзеках над працоўнымі Беларусі», дзе надрукаваны вершы Якуба Коласа, Міхася Чарота, Алеся Дудара, Янкі Бобрыка, Алеся Звонака, Уладзіміра Дубоўкі, Алеся Александровіча і Ізраіля Плаўніка, празаічныя творы Анатоля Вольнага, Міхася Зарэцкага і Змітрака Бядулі. На вокладцы зборніка на фоне палаючай вёскі намаляваны белы коннік, які замахнуўся бізуном на чалавека з чырвоным сцягам у руках. Носьбіт сцяга страляе ў гэтага апранутага ў польскую ваенную шапку «канфедэратку» кавалерыста, па чорнай зямлі сплываюць чырвоныя крывавыя патокі, утвараючы літары назвы — плакатны малюнак мастака Паўлюка Гуткоўскага (манаграма П.Г.) здалёк паведамляе чытачу аб пафасе змешчаных у кнізе твораў.

У 1926 г. ЦБ «Маладняка» выдала паэму Міхася Чарота «Ленін», вокладку кнігі стыльна спраектаваў Анатоль Тычына. Аднак паэма, нягледзячы на «палітычную актуальнасць» і прыгожа афармленую вокладку, атрымала вельмі крытычна-адмоўную рэцэнзію ў часопісе «Узвышша»[441].

З лістапада 1926 г. часопіс «Маладняк» стаў органам маладнякоўскай арганізацыі, філіялы якой (меў 10 філіялаў, у іх уваходзіла 312 чалавек) распаўсюдзіліся па ўсёй Беларусі і таксама займаліся выпускам сваіх альманахаў і часопісаў. Так, у Клімавічах выдаваўся часопіс «Маладняк Калінінщчыны» (1924—1926), у Барысаве — «Маладняк Барысаўшчыны» (1926), у Оршы — «Аршанскі маладняк» (1925—1927), у Бабруйску — «Уздым» (1926—1928). Полацкая філія «Маладняка» ў 1926 г. выдала альманах «Наддзвінне»[442], працягам якога стаў альманах «Зарніца» (1927). Шмат працы для стварэння гэтых выданняў зрабілі паэты Уладзімір Дубоўка і Кандрат Крапіва, прыязджаючы «на месцы» і гуртуючы вакол сябе здольную моладзь[443].

# СТВАРЭННЕ БДЗВ — БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

Па рашэнні спецыяльнай камісіі ўлетку 1924 г. «Белтрэстдрук» і кааператыўнае выдавецтва «Савецкая Беларусь» былі аб'яднаны ў ***Беларускае дзяржаўнае выдавецтва*** і газетны сектар пры ім (сектар ліквідаваны ў 1925 г.). Каму будзе падпарадкоўвацца новае выдавецтва, напачатку было няясна — пра гэта сведчыць кніга (надрукаваны ў Мінску падручнік А. Круталевіча «Элементарная алгебра» 1924 г.), у якой на адвароце тытула пазначана марка «Беларускае выдавецтва «Савецкая Беларусь», а на самім тытульным лісце надпіс: «Дзяржаўнае выдавецтва: Масква—Ленінград». Аднак справа вырашылася на карысць Мінска — БДзВ стала буйнейшай выдавецкай установай рэспублікі (у адміністрацыйна-арганізацыйных адносінах падпарадкоўвалася Народнаму камісарыяту асветы БССР, у ідэалагічных — партыйным органам). На чале праўлення стаў Зміцер Жылуновіч. Выдавецтва мела сваю паліграфічную базу і кнігагандлёвую сетку. БДзВ працягвала (з № 33) серыю «Сялянская бібліятэка», у 1925 г. была заснавана новая серыя «Ленінская бібліятэка», з якой пачынаецца выпуск твораў У. Леніна на беларускай мове, а яшчэ праз год выдавецтва запланавала прыступіць да выпуску выбраных твораў У. Леніна ў 12 тамах.

Значным быў уклад выдавецтва ў выпуск твораў мастацкай літаратуры, сярод аўтараў былі А. Александровіч, Н. Базылеўскі, З. Бя-

*Выдавецкія маркі Беларускага дзяржаўнага выдавецтва і Беларускага дзяржаўнага навукова-тэхнічнага выдавецтва.*












дуля, А. Вольны, В. Галубок, Ц. Гартны, М. Гарэцкі, А. Дудар, М. Зарэцкі, Я. Колас, К. Крапіва, Я. Купала, М. Чарот, К. Чорны і інш. Упершыню пачынаецца выданне збору твораў Я. Купалы. Выходзяць таксама першыя творы беларускіх кампазітараў.

У кастрычніку 1926 г. частка маладнякоўцаў стварае літаратурнае аб'яднанне «Узвышша», якое ў 1929 г. пачало выдаваць аднайменны часопіс. Юбілейны дадатак да газеты «Звязда» (30—31 снежня 1928 г.) «10 год Савецкай Беларусі» надрукаваў рэкламу новага часопіса:

«Першы нумар часопісі «Узвышша». Лік нумароў на год павялічан з 6 да 10. Кошт зменшаны з 7 да 5 рублёў. Адрас рэдакцыі Менск, Савецкая, 63».

Вокладку для часопіса «Узвышша» спраектаваў мастак Меер Аксельрод, паэт Уладзімір Дубоўка прапанаваў выпускаць вокладку розных нумароў у рознай колеравай гаме[444]. Для найбольш актуальных тэкстаў «Узвышша» рабіліся асобныя адбіткі з тытульным лістом і самастойнай пагінацыяй. Такім чынам атрымалі дадатковыя тыражы артыкулы Уладзіміра Дубоўкі «Праект літар для гукаў «дз» і «дж» (Менск, 1928, тыраж 100 экз.) і «Лацінка ці кірыліца. Да праекту рэформы беларускага альфавіту» (Менск, 1929, тыраж 50 экз.) — адбіткі гэтыя друкаваліся на гомельскай фабрыцы «Палесдрук».

Усяго ў 1928 г. у БССР налічвалася 8 літаратурных арганізацый, пісьменнікі — прыхільнікі пралетарскай ідэалогіі былі аб'яднаны ЦК КП(б)Б у Беларускім аддзяленні Усесаюзнай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў.




*Вокладка часопіса «Узвышша». 1929 г. № 7.*




*Вокладка кнігі Якуба Коласа «Першыя крокі». Мінск, 1925 г.*



# ІНШЫЯ ВЫДАВЕЦТВЫ







*Вокладка кнігі «Дараднік вясковаму гаспадару». Смаленск; Мінск, 1926 г.*

*Кніга серыі «Гігіена — Фізкультура — Здароўе». І.Л. Арабей. Чыстата захоўвае здароўе. Мінск, 1929 г.*

Выдавецкай дзейнасцю займаліся таксама выдавецкія аддзелы пры Народным камісарыяце юстыцыі, Народным камісарыяце аховы здароўя, Дзяржплан БССР, асобныя ўстановы, ведамствы і нават прыватныя асобы. Так, рэдакцыйна-выдавецкі аддзел Цэнтральнага Савета прафесійных саюзаў Беларусі (РВА ЦСПСБ) забяспечваў выпуск літаратуры па пытаннях прафсаюзнага руху на рускай, беларускай, яўрэйскай і польскай мовах, у рэпертуары былі і выданні накшталт «Чаму і як рабочаму і служачаму патрэбна займацца фізкультураю» М. Задорына (Менск, 1929); «Дзяржпрацвыдавецтва» пры Народным камісарыяце працы БССР выдавала нарматыўныя дакументы, сярод якіх афіцыйнае выданне «Кодэкс аб працы Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі» (Менск, 1930), маленькага фармату ў каленкоравым пераплёце. Выдавецтва ЦК ЛКСМБ «Чырвоная змена» выпускала масава-палітычную літаратуру для камсамольцаў і піянераў; Дзяржаўнае выдавецтва БССР — разнастайную (універсальную) выдавецкую прадукцыю (афіцыйную, вучэбную, літаратурна-мастацкую, для дзяцей і інш.). Народны камісарыят земляробства БССР выдаваў кнігі з пазначэннем «Выданьне НКЗБ» і таксама з дапамогай іншых выдавецтваў, у прыватнасці праз «Авіявыдавецтва»: у 1926 г. тут выйшаў «Дараднік вясковаму гаспадару» — тыраж быў надрукаваны ў Смаленску (друкарня Опредснабзапа, вул. Вялікая Савецкая, 6). Аўтары гэтага «Дарадніка...» у прадмове выказалі падзяку за чытанне карэктуры выкладчыку беларусазнаўства вайскова-палітычнай школы ў Смаленску Ю.Н. Лазарэвічу. На 1928 г. НКЗБ выдаў пад сваёй маркай 35 назваў кніг, з якіх 15 — на беларускай мове і 20 — па-руску.

Адным з асноўных выдавецтваў у рэспубліцы, акрамя Беларускага дзяржаўнага выдавецтва з філіялам у Віцебску (у 1934 г. перайменавана ў Дзяржаўнае выдавецтва БССР), было ***выдавецтва Інбелкульта***. Асноўнымі яго задачамі (створана ў студзені 1926 г. на аснове рэдакцыйна-выдавецкага аддзела інстытута) быў выпуск навуковай літаратуры разнастайнага зместу: па мове і літаратуры, гісторыі і сацыялогіі, прыродзе і гаспадарцы, антрапалогіі і медыцыне.

Выходзілі таксама асобныя выданні, часопіс «Наш край», выдаваліся акадэмічная бібліятэка беларускіх пісьменнікаў, бібліятэка сцэнічных і музычных твораў, матэрыялы па беларускай геаграфіі, даведачныя выданні.

Акрамя таго, выходзілі працы польскага і яўрэйскага аддзелаў Інбелкульта і ваеннай камісіі. Пры выдавецтве з лістапада 1926 г. функцыяніравала спецыяльна абсталяваная друкарня, у якой і публікаваліся падрыхтаваныя Інбелкультам і ВНУ рэспублікі навуковыя выданні.

Якасць рэдактарскай падрыхтоўкі не заўсёды была на вышыні. Так, выдавецтва «Чырвоная змена» ў 1928 г. выпусціла кнігу аб жыцці кітайскай беднаты пад назвай «Чай», аўтар на вокладцы быў пазначаны ў мужчынскім родзе: Дзьмітрыеў, а на тытульным аркушы ў жаночым: Дзьмітрыева. Часта кнігі былі няправільна збрашураваны і чалавек, які не прагартаў выданне ў кнігарні, мог прынесці дамоў кнігу без канца, альбо з прапушчанымі старонкамі. Для барацьбы з такім бракам у друкарнях працавалі спецыяльныя правершчыкі — яны ўкладалі ў кнігу сваю візітную картачку, на якой была напісана назва друкарні і нумар правершчыка.

Паводле пастановы СНК БССР «Аб зацвярджэнні становішча аб дзяржаўных і грамадскіх выдавецтвах» (студзень 1930 г.) у Беларусі функцыяніравалі дзяржаўныя і грамадскія выдавецтвы (партыйныя, прафсаюзныя, кааператыўныя і інш.) рэспубліканскага і мясцовага значэння для выпуску кніг, брашур, часопісаў і газет. Буйнейшыя рэспубліканскія выдавецтвы знаходзіліся ў Мінску. У канцы 1930-х гг. да іх належалі перш за ўсё Белдзяржвыдат (размяшчаўся на Барысаўскім тракце, Дом друку, 4-ы паверх), газетна-часопіснае выдавецтва ЦК КП(б)Б «Звязда» (Савецкая вул., 63), газетна-часопіснае выдавецтва ЦК ЛКСМБ «Чырвоная змена» (Камсамольская вул., 25, пазней вул. Карла Маркса, 34), выдавецтва ЦК КП(б)Б — «Партвыдат» (Барысаўскі тракт, Дом друку, 3-і паверх), выдавецтва ЦСПСБ. Былі зацверджаны таксама 8 рэдакцыйна-выдавецкіх аддзелаў (АН БССР, Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, Наркамата земляробства, Навукова-даследчага інстытута імя У. Леніна, Кніжнай палаты БССР, Белахотсаюза, Каапбанка, Ветэрынарнага інстытута ў Віцебску)[445]. Хоць выдавецкай справай займаліся і іншыя арганізацыі, у прыватнасці ў 1936 г. выйшаў ілюстраваны каталог «Першамайская выстаўка архітэктуры», на якім было пазначана, што гэта «выданне Саюза савецкіх архітэктараў БССР і Белдзяржпраекта», Інстытут крыміналістыкі і навукова-судовай экспертызы НКЮ БССР выдаў дапаможнік «Сляды ног у крыміналістычнай практыцы» М. Штэйнгаўза (Менск, 1936) і да т.п.




*Вокладка каталога «Першамайская выстаўка архітэктуры». Мінск, 1936 г.*



*Выдавецкая марка Інстытута беларускай культуры.*

# БЕЛДЗЯРЖВЫДАТ СТАНОВІЦЦА МАНАПАЛІСТАМ

У кастрычніку 1929 г. у Белдзяржвыдаце былі вылучаны спецыялізаваныя рэдакцыі, прадстаўленыя ў выглядзе 4 сектараў: 1 — сацыяльна-эканамічнай, палітычнай і ваеннай літаратуры; 2 — падручнікаў, навуковай і навукова-папулярнай літаратуры; 3 — дзіцячай і юнацкай літаратуры; 4 — мастацкай літаратуры.

1. Рэдакцыя сацыяльна-эканамічнай і палітычнай літаратуры (Партмассектар) рыхтавала серыю «Класы, партыі і саюзы моладзі свету», у якой выйшла манаграфія С. Севіна «Паўднёвая Амерыка» (пераклад з рускай мовы А. Таўбэ) і кніга гэтага ж аўтара «Паўночна-Амерыканскія злучаныя штаты» (пераклад Загубанава).

Рыхтавалі ў партмассектары і арыгінальныя працы. Прыкладам, у 1932 г. выйшла манаграфія дырэктара Інстытута судовай медыцыны Наркамюста БССР, доктара Ф.В. Чарвакова «Слуцкія муміі». Угрунтаваная на гістарычным (досыць глыбокім, як для медыка-паталагаанатама) і медыцынскім даследаванні мошчаў святога Гаўрыіла Заблудаўскага…

Напісаная ў 1934 г. сакратаром Сенненскага райкома (райкомпарта) Н. Ленцнерам кніга «Ад чорнай дошкі да чырвонага сцяга» пачынаецца гістарычным экскурсам: «Сянно — стары кулацка-эсэраўскі раён. Тут у 1918 г. эсэры арганізавалі паўстанне супроць савецкай улады. Кулацкая Сенненшчына пастаўляла ў свой час гарадавых і жандараў у царскі Петраград. Сянно — бацькаўшчына Прышчэпава — кулацкага нацдэмаўскага наркома земляробства, сваёй палітыкай хутарызацыі прабаваўшага затрымаць сацыялістычную перабудову беларускай вёскі. Іменна Сенненскі раён быў той лабараторыяй, дзе Прышчэпаў пачаў свае эксперыменты па хутарызацыі вёскі. У Сянно ў 1930 г. прышчэпаўцы арганізавалі адкрытае кулацкае супраціўленне супроць савецкай улады»[446].

Пасля ліквідацыі аднаасобных гаспадарак Сенненшчына не змагла выканаць плана па нарыхтоўцы лёну і была занесена «на чорную дошку». Назва кнігі робіцца зразумелай з чытання дадатку: гэта рапарт XV з'езду кампартыі Беларусі, ёсць там такая фраза: «9 месяцаў таму назад мы абяцалі т. Гікало выйсці з адстаючых у рады перадавых. Мы працавалі дзень і ноч, кожную гадзіну павялічваючы рады ўдарнікаў, каб сёння прыйсці і сказаць тут на з'ездзе нашай партыі, нашым кіраўнікам і перш за ўсё т. Гікало: Няма больш чарнадошачнай Сенненшчыны, ёсць чырванасцяжная!». Аўтар распавядае пра спосабы змагання за лён: выкарыстанне «буксіршчыкаў» — гэта значыць рабочых перадавых калгасаў, якія адсылаюцца ў адстаючыя калгасы, каб паказваць прыклад якаснай працы; трапальшчыцы лёну з Сенненскага раёна арганізоўваюць сацыялістычнае спаборніцтва з Полацкам і Дрысай. У кніжцы надрукавана таксама «Пісьмо 1-й раённай канферэнцыі трапальшчыц сакратару ЦК КП(б)Б т. Гікало», яно паведамляе пра посьпехі ў ільнаводстве, а заканчваецца просьбамі, якія сведчаць аб стане вёскі: «Просім, т. Гікало, прысляць нам за наша стараннe пабольш шкла, і просім яшчэ мыла, ды абутку — галош, ботаў і ўсякага гатовага адзення»[447]. Акалічнасці з'яўлення кнігі Ленцнера раскрыты ў мемуарах Сымона Кандыбовіча, які ў 1930-я г. быў кіраўніком справаў Савета Народных Камісараў БССР:

«Праз нейкі час… [у студзені 1932. — *аўт.*] першым сакратаром у Беларусь Крэмль праслаў інгуша Мікалая Гікалу. ... Відаць, Крэмль надаў яму спецыяльныя і шырокія паўнамоцтвы і дырэктывы, каб упарадкаваць беларускую партыйную арганізацыю, прымусіць падпарадкоўвацца адзінаму кіраўніцтву ў асобе прысланага сакратара. … Метады для падпарадкавання Гікала ўжываў разнастайныя. Раней лічылася няёмкім, хоць бы і першаму сакратару партыі, цягнуць з сабою супрацоўнікаў. Гэты парадак Гікала парушыў. … З Масквы быў выпісаны яго добры знаёмы нехта Пасэ, які скончыў Інстытут чырвонай прафесуры. Пасэ займаў некалькі пасадаў у культурных установах. Быў лектарам у Камуністычным універсітэце, у Інстытуце журналістыкі, а таксама працаваў у Інстытуце гісторыі партыі. Пасэ добра валодаў пяром і словам і часта друкаваў свае артыкулы ў партыйных выданнях. Ён актыўна выкараняў у Беларусі нацдэмаўшчыну. … У апараце ЦК з'явіліся новыя людзі ад Гікалы. Спачатку яны займалі заўсёды вельмі сціплыя пасады. У гэтых адносінах вельмі характэрная фігура — нейкі Ленцнэр. Раней ён быў асабістым сакратаром Троцкага, як высветлілі зацікаўленыя асобы. Ленцнэр цудоўна разумеў, што з-за становішча блізкай да Троцкага асобы без падтрымкі яму цяжка выйсці на шырокую






— Што- Жывыя?!—падскочылі чэрці.—Ды як-жа ж вы сюды трапілі?

— Прышлі пазнаёміцца з вамі, паглядзець, што тут у вас робіцца, наведаць нашых.

— Вось так штука!—паскроб патыліцу лысы чорт.—Што-ж цяпер нам з імі рабіць? Дакументы ёсьць?

— 27 —

*Вокладка і старонка кнігі М. Пігулеўскага «Бальшавік. Кніга для працы і чытання пасля Лемантара».*

дарогу. Гэта ўлічваў і Гікала. Між тым дзейная натура Ленцнера прагнула ўлады, чаго жадаў і Гікала, якому падабалася настойлівасць Ленцнера, тым больш што Гікала, відаць, ведаў яго раней. Каб узброіць Ленцнера стажам нізавой партыйнай працы, дзе б ён выявіў свае здольнасці, Гікала прызначыў Ленцнера сакратаром Сенненскага раённага камітэта партыі. Ва ўмовах Беларусі гэты раён займае даволі значнае месца: вялікі па тэрыторыі, мае льнаводчы кірунак. Па выкананні планаў пасеву лёну, яго ўборкі, а, галоўнае, здачы прадукцыі дзяржаве ацэньваецца ўся праца сакратара партыі ў раёне. Ленцнер цалкам улічыў гэта. Пры дапамозе жорсткіх рэпрэсій і націску на калгасы Сенненскі раён не толькі выканаў план ільнонарыхтовак, але і перавыканаў. Падцягнуўся раён і па іншых відах шматлікіх савецкіх гаспадарчых кампаній. Пасля гэтых «перамог» Ленцнер з мэтай самарэкламы напісаў брашуру пад назвай «Из отстающих в передовые»[448]. Брашура была напісана ў духу ўсхвалення партыйнага кіраўніцтва з боку сакратара Гікалы, дзякуючы чаму Сенненскі раён стаў перадавым у выкананні нарыхтовак лёну. У працэнтах і лічбах параўноўваліся вынікі працы ранейшых гадоў з апошнім годам, калі сакратаром партыі стаў Ленцнер. Фарбаў і фальшывых супастаўленняў у брашуры было шмат. Гэтымі дзеяннямі Ленцнер даў магчымасць Гікалу… праз некалькі месяцаў працы ў раёне прапанаваць пленуму ЦК Камуністычнай партыі Беларусі прызначыць Ленцнера рэдактарам партыйнай



*Выдавецкая марка Беларускага дзяржаўнага выдавецтва.*




БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК-1928.







← *Вокладка кнігі Я. Маўра «У краіне райскай птушкі». Мінск, 1928 г.*

*Вокладка і старонка кнігі серыі «Малады прыродазнаўца».*

газеты «Звязда». Ленцнера адклікалі з раёна і прызначылі рэдактарам, а гэта пасада значная і ўплывовая, а галоўнае, вельмі патрэбная для Гікалы — каб там быў яго чалавек, адданы і паслухмяны ў выкананні яго ўказанняў. Ленцнер у сваёй новай працы пачаў цалкам капіяваць метады маскоўскай «Праўды», якая ніколі не памылялася»[449].

На пачатку 1930-х гг. на базе спецыялізаваных рэдакцый Белдзяржвыдата былі арганізаваны самастойныя выдавецтвы, што стала першай спробай стварэння сістэмы спецыялізаванага кнігавыдання ў рэспубліцы: Дзяржаўнае выдавецтва па выпуску навукова-тэхнічнай літаратуры (1931—1934), Ваеннае выдавецтва (1932—1934), Партыйнае выдавецтва ЦК КП(б)Б (1932—1938), большасць прадукцыі якіх складалася з перакладных (пераважна з рускай мовы) выданняў. Для новых выдавецтваў былі распрацаваны адмысловыя выдавецкія маркі[450].

Аднак праведзеная ва ўмовах пашырэння палітычных рэпрэсій рэарганізацыя «не прынесла дадатных вынікаў», было прынята рашэнне аб аднаўленні канцэнтрацыі кнігавыдання ў межах Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Гэта мера паспрыяла значнаму звужэнню рэпертуару беларускай кнігі — узнавіць сістэму спецыялізаваных паводле тэматыкі выдавецтваў у Беларусі патрапілі толькі ў 1960—1980-я гг.[451]

Да 1924 г. у БССР у агульнай колькасці выданняў кнігі на беларускай мове не перавышалі 20%. Так, напрыклад, па выніках кнігавыдання «Белтрэстдруку» за першую палову 1924 г. беларускамоўныя кнігі ў выдавецкім рэпертуары склалі 20%, рускамоўныя — 63,8%, яўрэйскія — 14,2%[452]. З пачаткам палітыкі беларусізацыі сітуацыя змянілася, што адбілася на складзе кніжнай прадукцыі. Паводле выдавецкага плана на 1925—1926 гг. літаратуры на беларускай мове адводзілася ўжо 68%, на яўрэйскай — 15%, на рускай — 10%, на польскай — 5%, на латышскай і літоўскай — 2%[453]. Літаратура на беларускай мове падзялялася на раздзелы: падручнікі, ленінская літаратура, папулярна-палітычная, мастацкая, камсамольская і сялянская. Так, у 1930 г. выпуск кніг на беларускай мове склаў 88,4% (1170 назваў, тыраж 7842,4 тыс. экз.), на рускай мове — 4,2% (56 назваў, тыраж 147,1 тыс. экз.), на іншых мовах — 2,4% (31 назва, тыраж 131 тыс. экз.). Найбольшай разнастайнасцю па чытацкім прызначэнні вылучалася беларускамоўная кніжная прадукцыя Дзяржаўнага выдавецтва БССР — гэта падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, слоўнікі, масава-палітычныя выданні, выданні для дзяцей і юнацтва, юрыдычная, медыцынская, вайсковая, тэхнічная літаратура. Каля 50 назваў штогод выдаваў Музсектар ДВБ: масавыя песні тыражамі 12—14 тыс. экзэмпляраў, асобныя творы беларускіх кампазітараў тыра-

жом 1 тыс. экз., падручнікі па музыцы сярэднім тыражом 2 тыс. экзэмпляраў.

Патрэбы дзяржавы ў юрыдычнай і эканамічнай літаратуры, а таксама кнігах па тэхніцы бяспекі і прамсанітарыі, медыцыне і санасвеце, палітэканоміі і эканампалітыцы СССР у значнай ступені задавальняла прадукцыя Соцэкпраўсектара ДВБ, тыражы беларускамоўных кніг гэтай тэматыкі вагаліся ад 2 да 7 тыс. паасобнікаў.

Палітыка беларусізацыі сустракала і значны супраціў, прынамсі сярод часткі запрошаных з Расіі выкладчыкаў вышэйшай школы, а таксама шэрагу іх вучняў: «Прафэсар Афанасьеў, даючы свой артыкул да надрукаваньня, казаў: «Очень прошу мою статью напечатать на русском ленинском языке». Студэнт Горацкага рабфаку ў гутарцы пра беларусізацыю заяўляе: «на белорусизации социализма не построишь, и нечего ею особенно заниматься». Адзін з дакладчыкаў рабфаку ў Горках, Цецюнкоў, на патрабаванні перайсці на выкладанне пабеларуску адпіраўся, гаворачы: «Белорусский язык искусственный, — это выдумка белорусских шовинистов. Да и сама Белоруссия есть «Белая Русь», есть Россия, и никакого особого языка она не имеет. Нужно бороться с белорусским шовинизмом»[454]. Аднак большасць насельніцтва рэспублікі падтрымлівала палітыку ўрада на развіццё нацыянальнай культуры. Адной з важных задач гэтай палітыкі было змаганне з непісьменнасцю. Навучанне грамаце дарослых было прыярытэтнай задачай Камуністычнай партыі, якая клапацілася аб павышэнні адукацыйнага ўзроўню насельніцтва і падчас гэтага працэсу адначасова вырашала задачу агітацыйную: тэксты для «Лемантароў», «Буквароў», «Першай кнігі для чытання пасля Лемантара» і да т.пад. падручнікаў складаліся пад пільным партыйным кантролем. Нацыянальнае пытанне стаяла так высока, што пры ЦВК БССР існавала Нацыянальная камісія з выдавецкімі правамі. Яна выдала, у прыватнасці, кнігу «Два гады нацыянальнай работы ў БССР (Збор прамоў, артыкулаў і рэзалюцый па нацыянальным пытанні)» (Менск, 1929), дзе змешчаны былі даклад У. Ігнатоўскага на XI з'ездзе КП(б)Б «Аб выніках нацыянальна-культурнага будаўніцтва і палітасветнай працы да 10-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі», «Пытанні нацыянальнай палітыкі [З памовы т. Гамарніка на XII з'ездзе КП(б)Б]», Даклад А.Р. Чарвякова на II Усебеларускім з'ездзе сялян-яўрэяў (студзень 1928 г.), важнейшыя пастановы па нацыянальным пытанні ў БССР за апошнія два гады (1927 і 1928 гг.) і інш.

З увядзеннем у 1930 г. усеагульнай пачатковай адукацыі патрабавалася яшчэ больш кніг для навучання, аднак ідэалагічная палітыка, паставіўшая чарговы раз пад сумненне створаныя нацыянальныя падручнікі, ізноў узводзіць праблемы недахопу вучэбных выданняў і прымае адпаведныя меры па іх вырашэнні. Асноўная нагрузка па выпуску вучэбнай літаратуры кладзецца на Белдзяржвыдат, які прымае актыўны ўдзел у пошуку і прыцягненні да напісання падручнікаў новых аўтараў [табл.1]. З 72 падручнікаў, выпушчаных у другой палове 1933/1934 навучальнага года, 47 з'яўляліся перакладамі з рускіх выданняў[455].

Тыражы падручнікаў, выдадзеных вучпедсектарам ДВБ у 1935 г., вагаліся ад 30 да 140 тыс. паасобнікаў для пачатковай і сярэдняй школы, 6—7 тыс. для ВНУ, 10—12 тыс. для педтэхнікумаў, 30 тыс. — для школ для дарослых. Дапаможнікі для настаўнікаў выдаваліся тыражамі 3—7 тыс. экзэмпляраў (у ліку такіх дапаможнікаў у 1935 г. выйшла «Барацьба з беларускім нацдэмакратызмам у пытаннях асветы і школы» Дардака), а кнігі з «Бібліятэкі школьніка» мелі тыражы ад 3 да 10 тыс. экзэмпляраў. Для патрэб маладога чытача працуе юндзетсектар ДВБ, тут разам з навукова-папулярнымі, тэхнічнымі, палітыка-асветнымі кнігамі выдаюцца творы беларускіх пісьменнікаў Я. Коласа, Я. Купалы, З. Бядулі, Я. Маўра («Сын вады», «У краіне райскай птушкі», «Палескія рабінзоны» і інш.), беларускія народныя казкі, а таксама класіка сусветнай дзіцячай літаратуры — Даніэль Дэфо, Марк Твэн, Жуль Верн, Конан Дойл.

Тэхмассектар ДВБ выдаваў «Навукова-папулярную бібліятку для ФЗВ і юнацтва», куды ўключаліся лепшыя навукова-папулярныя творы накшталт «У глыб матэрыі» Мендзялеева, «Цікавая геаметрыя», «Цікавая фізіка» і «Жывая матэматыка» Перэльмана, «Час і каляндар» Полака. Назвы ўсіх кніг, што выдаваліся мінскай Цэнтральнай дзіцячай тэхнічнай станцыяй, пачыналіся з «Як зрабіць…» (электраматор, дынама-машыну, двухлямпавы прыёмнік, аэрасані, дэтэктарны прыёмнік, глісер, вадзяную турбіну, паравую турбіну, кінаапарат і г.д.).

Для навучання маладога пакалення выпускаюцца (часта ў адмысловым мастацкім афармленні) шматлікія кніжныя серыі — ужо згаданая «Бібліятэка школьніка», а таксама «Малады прыродазнаўца», «Чырвоная змена», «Гігіена, фізкультура, здароўе», «Культура і тэхніка», «Навука і тэхніка», «Дзіцячы тэатр», для дзяцей і дарослых прызначаліся кнігі з «Бібліятэкі бязбожніка» і «Ленінскай бібліятэкі».

**Выпуск падручнікаў Белдзяржвыдатам (1929—1932)**[456] *Табліца 1*

| Гады | Колькасць назваў | Тыраж (тыс.) |
|---|---|---|
| 1929 | 89 | 944 |
| 1930 | 161 | 2180 |
| 1931 | 247 | 3234 |
| 1932 | 1119 | 4367 |

Адсутнасць на паліграфічных прадпрыемствах Мінска неабходнага рыштунку (дастатковай колькасці лацінскіх шрыфтоў, у тым ліку гатычных) вымушала Белдзяржвыдавецтва заказваць некаторыя выданні за межамі Беларусі. Так, тыраж падручніка для сямігодкі «Рабочая кніга па нямецкай мове» Г. Пэцольд і С. Залескай (Менск, 1930) быў надрукаваны ў Ленінградзе друкарняй «Камінтэрн». Арыгінальныя ілюстрацыі да гэтай кнігі выканаў манаграміст МГ, на іх прысутнічаюць віды Мінска 1920-х гг.: гарадскі аўтобус маршрута «Камароўка—Вакзал», міліцыянер-рэгуліроўшчык, сталярная майстэрня, дзе на сцяне прымацаваны «Закон аб працы», разносчык газет, у сумцы якога «Звязда» і «Савецкая Беларусь» і да т.п.

Ад пачатку 1930-х гг. у тэматычных планах выдавецтваў пачынаюць фігураваць «сацыяльна важныя» выданні. Выпуск масавых выданняў ажыццяўляўся, у асноўным, у выглядзе серый і «бібліятэк», тэматыка якіх уключала асвятленне пытанняў сацыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы альбо — як і называлася серыя — «Інтэрнацыянальнае выхаванне мас». Адна з найбольш запатрабаваных серый Белдзяржвыдавецтва — разлічаная на жанчын «Бібліятэка работніцы і сялянкі».

Планавы рост аб'ёмаў кніжнай прадукцыі выдавецтваў забяспечвалі ў гэты час 83 друкарні рэспублікі, 67 з якіх — раённыя. У 1933 г. было закончана будаўніцтва ў Мінску буйнейшага паліграфічнага прадпрыемства — Дома друку[458]. Падрыхтоўка кадраў рабочых паліграфічнай прамысловасці была адным з клопатаў прафсаюза: рэзалюцыі 4-га пленума ЦК Саюза рабочых паліграфічнай прамысловасці БССР, які прайшоў у 1936 г., паказваюць дзве галоўныя праблемы гэтага часу — вялікі лік прафесійных захворванняў і значная колькасць непісьменных рабочых[459].

**Выпуск кніг у БССР на нацыянальных мовах (1921—1940)**[457] *Табліца 2*

| Гады | На бел. мове ў % | У тым ліку на мовах (назвы) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | бел. | рус. | яўр. | пол. | літ. | розныя |
| | | 18 | 156 | | | | 22 |
| 1922 | 17,7 | 26 | 111 | | | | 10 |
| 1923 | 12,5 | 28 | 150 | | | | 6 |
| 1924 | 18,8 | 62 | 262 | | | | 6 |
| 1925 | 46,7 | 169 | 155 | | | | 38 |
| 1926 | 61,1 | 277 | 138 | | | | 38 |
| 1927 | 59,7 | 389 | 206 | | | | 57 |
| 1928 | 66,5 | 461 | 158 | 52 | 13 | 4 | 5 |
| 1929 | 72,5 | 559 | 105 | 85 | 18 | — | 3 |
| 1930 | 88,4 | 1170 | 56 | 66 | 23 | 7 | 1 |
| 1931 | 88,3 | 1301 | 38 | 112 | 14 | 8 | 1 |
| 1932 | 85,5 | 1300 | 25 | 137 | 36 | 21 | 1 |
| 1933 | 87 | 1100 | 31 | | | | 133 |
| 1934 | 82 | 995 | 78 | | | | 140 |
| 1935 | 79,3 | 800 | 120 | 66 | 41 | 28 | 89 |
| 1936 | 73,7 | 691 | 174 | | | | 73 |
| 1937 | 58,7 | 375 | 234 | | | | 21 |
| 1938 | 57,4 | 460 | 306 | | | | 35 |
| 1939 | 50,5 | 392 | 340 | | | | 43 |
| 1940 | 48,6 | 375 | 362 | | | | 35 |

→ *Разварот «Рабочай кнігі па нямецкай мове» Г. Пэцольд і С. Залескай. Мінск, 1930 г.*

*Sitzt sie? Ja, sie sitzt. Sitzen Sie?*
Sitzt sie? Ja, sie s.tzt. Sitzen Sie?

*Ja, wir sitzen.*
Ja, wir sitzen.

*Ö ö, J j, Ja, ja. Nein, nein.*
Ö ö, J j, Ja, ja. Nein, nein.

№ 9 (n e u n).

*Das Heft ist rein,*
Das Heft ist rein,

*die Feder klein.*
die Feder klein.

*Die Wand ist grau,*
Die Wand ist grau,

*das Buch ist blau.*
das Buch ist blau.

*Braun ist das Brot,*
Braun ist das Brot,

*die Fahne rot.*
die Fahne rot.



*Weiss ist der Schnee,*
Weiss ist der Schnee.

*und grün der Klee.*
und grün der Klee.

*Moskau, Leningrad.*
Moskau, Leningrad.

*Minsk, Witebsk, Homel,*
Minsk, Witebsk, Homel,

*Orscha, Polozk, Mosyr,*
Orscha, Polozk, Mosyr,

*Bobrujsk —*
Bobrujsk —

*die Kreisstädte der Bjelarussischen*
die Kreisstädte der Bjelarussischen

*Sozialistischen Sowjetrepublik.*
Sozialistischen Sowjetrepublik.

# САВЕЦКАЯ ЦЭНЗУРА НАЗЫВАЕЦЦА «ГАЛОЎЛІТ»

Арганізацыяй кантролю над друкаванай прадукцыяй бальшавікі пачалі займацца ад пачатку ўсталявання на месцах савецкай улады. Першыя кантралюючыя органы будаваліся як дэмакратычныя. Прыкладам, пасля арганізацыі ў ліпені 1920 г. Гомельскага аддзялення Дзяржвыдавецтва: «Бессістэмнае друкаванне спынілася. Ад часу арганізацыі Аддзялення ўся літаратура — кнігі, брашуры, лістоўкі — папярэдне да друкавання абмяркоўваецца рэдакцыйнай калегіяй, у рабоце якой прымаюць удзел лепшыя мясцовыя літаратурныя сілы, прадстаўнікі губкома РКП, губпалітпрасвета, губаднарадукацыі і інш. зацікаўленых ведамстваў»[460].

У выніку зацвярджэння СНК БССР 5 студзеня 1923 г. «Палажэння аб Галоўным упраўленні па справах літаратуры і выдавецтваў» у Беларусі была ўведзена цэнзура, якую стаў ажыццяўляць адзначаны Галоўліт (створаны крыху раней, у кастрычніку 1922 г., на ўзор аналагічнага ў РСФСР). Пасля змены нацыянальнай палітыкі ў 1930-я гг. гэта ўстанова стала адным з інструментаў правядзення рэпрэсій супраць беларускіх пісьменнікаў і іх твораў. Галоўліт БССР ажыццяўляў папярэдні прагляд усіх прызначаных да апублікавання або да распаўсюджвання твораў, выдаваў дазвол на права іх выдання, на заснаванне новых выдавецтваў, складаў спісы друкаваных твораў, забароненых да продажу і распаўсюджвання, распрацоўваў абавязковыя для ўсіх выдавецтваў правілы, інструкцыі і распараджэнні. На ўсіх кнігах, што выдаваліся ў рэспубліцы, друкаваўся (на адвароце тытульнага ліста альбо на апошняй старонцы) надпіс «Галоўлітбел» (альбо «Галоўліт») і трох-пяцілічбавы індывідуальны нумар цэнзара. Філіяламі рэспубліканскага «Галоўліта» былі абласныя «Гарліты», якія кантралявалі мясцовую выдавецую прадукцыю («Магакрліт» у Магілёве, «Віцліт» у Віцебску, «Калінакрлітбел» у Клімавічах і г.д.). Паводле даведніка «Уся БССР» за 1935 г. рэспубліканскі Галоўліт размяшчаўся ў Доме ўрада, мінскі Гарліт (Мінскае гарадское ўпраўленне па справах літаратуры пры Мінскім гарсавеце) знаходзіўся на вуліцы Карла Маркса, 16, гомельскі Гарліт — у гомельскім Доме Саюзаў. Цэнзуры не падлягалі выданні ЦК КП(б)Б «і ўвесь партыйны камуністычны друк, як і выданні Галоўпалітпрасвета».

Ад пачатку пры Галоўліце ў якасці дарадчага органа была створана калегія спецыялістаў па розных галінах ведаў, у якую ўваходзілі прадстаўнікі партыйных і савецкіх органаў, літаратары, навукоўцы, як А. Баліцкі, У. Ігнатоўскі, У. Пічэта, З. Жылуновіч, С. Некрашэвіч і інш.[461]

На пасяджэнні калегіі Галоўліта разглядаўся рукапіс Я. Коласа «У палескай глушы» і даваліся парады па яго выпраўленні, крытыкаваліся рэлігійныя матывы ў зборніку «Беларускія народныя казкі». У сярэдзіне 1920-х гг. па рашэнні Галоўліта трапілі пад забарону асобныя творы Я. Пушчы, Т. Кляшторнага, М. Лужаніна. У 1926 г. адразу пасля прэм'ернага спектакля была знята з паказу п'еса Я. Купалы «Тутэйшыя». Аб'ектам цэнзурнага пераследу з'яўлялася не толькі мастацкая літаратура, але і навуковыя працы, падручнікі. У 1922—1924 гг. Галоўлітам былі забаронены кнігі Я. Лёсіка «Наша крыніца», «Аўтаномія Беларусі», прызнана шкоднай праца «Асноўныя матывы ў творчасці М. Багдановіча».

У студзені 1926 г. Галоўліт паведаміў сваім акруговым аддзелам аб забароне друкаваць матэрыялы па рэвалюцыйным руху Беларусі без санкцыі Гістпарта пры ЦК КП(б)Б. Палітычнаму кантролю падлягалі перыядычны друк, дзейнасць клубаў. З арганізацыяй пры Галоўліце БССР 19 сакавіка 1929 г. Галоўнага камітэта па кантролю за рэпертуарам узмацнялася цэнзура тэатральнага і розных відаў пацышальнага мастацтва.[462]

Калі цэнзурныя абмежаванні ў 1920-я гг. былі нязначнымі (прыкладам, мінскі гарліт дазваляў выдавецтву «Савецкая Беларусь» друкаваць кнігу вершаў Я. Купалы «Жалейка і гусляр», але з умовай выкінуць, дзе магчыма, слова «Бог», а дзе немагчыма — пісаць гэта слова з маленькай літары)[463], то ў 1930-я гг. створаная Галоўлітам сістэма нагляду і спецсховаў у Беларусі набыла больш жорскі характар, чым нават у Расіі[464]. З другой паловы 1920-х гг. Галоўліт стаў падпарадкоўвацца ўжо не Наркамасветы БССР, а аддзелу друку ЦК КП(б)Б, які ажыццяўляў кантроль і забяспечваў ідэалагічную вытрыманасць тэкстаў:

Там, дзе балота скалечаных душ,
Меліяратары духу ідуць, —

напісаў У. Дубоўка ў 1927 г. у паэме «Кругі». У Дзяржаўным выдавецтве БССР былі створаны спецыяльныя групы кантролю за

палітыка-эканамічнай, мастацкай, дзіцячай, педагагічнай літаратурай і група кантролю за ўсімі выданнямі з пункту гледжання захавання ў іх дзяржаўных таямніц. Хоць прычыны абмежавання асобных выданняў і іх аўтараў маглі быць не ў раскрыцці дзяржаўнай таямніцы, а ў групавой барацьбе літаратараў. Той жа самы паэт У. Дубоўка ў канцы 1928 г. пісаў: «Пэўная група пісьменнікаў на чале з Ц. Гартным, часткова ці поўнасцю заняўшы кіраўнічыя пасады ў «Савецкай Беларусі», «Полымі», Дзяржаўным Выдавецтве, Наркамасвеце (Галоўмастацтва), атрымала магчымасць рэгуляваць крытыку адносна сваіх твораў, друкаваць іх, уціскаючы іншых пісьменнікаў, чамусьці «няўгодных» прэзэсу гэтай групы. … Прывілеяванае становішча групы Ц. Гартнага давяло яе да таго, што яна асьмелілася заяўляць, што толькі яна рэпрэзентуе беларускую літаратуру, што на Беларусі нікога больш не існуе, літаральна цкуючы няўгодных сабе»[465]. Ад гэткіх «спрэчак» недалёка было ўжо да даносаў у «кампетэнтныя органы», якія з сапраўды рэвалюцыйным энтузіязмам арганізавалі шэраг палітычных працэсаў, «дэмакратычна» залічаючы да ворагаў народу ўдзельнікаў самых розных літаратурных груповак. Колькасць забароненых твораў узрастала. Прыкладам, брашура пад назвай «Спіс № 1 — 1934 г. п'ес забароненых і дазволеных кіраўніцтвам па кантролю за рэпертуарам і відовішчамі пры НКА БССР», падпісаная начальнікам кіраўніцтва па кантролю за рэпертуарам пры НКА БССР К. Багушэвічам і надрукаваная тыражом 1700 экзэмпляраў, змяшчала звесткі аб 22 дазволеных п'есах і 86 выданнях драматычных твораў за 1910—1931 гг., якія былі забаронены.

**СПІС №1—1934 г.**

**п'ес забароненых і дазволеных кіраўніцтвам па кантролю за рэпертуарам і відовішчамі пры НКА БССР**

**ЗАБАРОНЕНЫЯ**

1. Смех і гора — П'еса ў 3-х дзеях. А. Неверава—пераклад і апрацоўка І. Г. і В. В. выд. БДВ—1927 г.
2. Бабы—П'еса ў 4-х дзеях А. Неверава—пераклад і пераапрацоўка Б. Дольскага. Выд. БДВ—1927 г.
3. Новым шляхам—П'еса ў 3-х дзеях І. Гурскага. Выд. БДВ—1928 г.
4. Варажба—П'еса ў 2-х дзеях—В. Маркава—апрац. з расійскай мовы А. Ляжневічам. Выд. БДВ—1927 г.
5. Нажыўся—Драма ў 2-х дзеях і 3-х абразкох. І. Бэн. Выд. БДВ—1927 г.
6. Упарты—П'еса ў 2-х дзеях і 3-х абразкох. І. Лебедзева пераклад і апрацоўка В. Суднік. Выд. БДВ—1928 г.
7. Таміла—Мелодрама ў 5 дзеях—па раману Ф. Дзюшэн. А Ляжневіча, паводле апрацоўкі ўкраінскаю моваю Ю. Смоліча. Выд. БДВ 1927 г.
8. Ганка—Драма ў 5-ці актах. У. Галубок. Выд. БДВ—1929 г.
9. Кулацкае сіло—сцэнічны твор у 2-х дзеях—А. Дабравольскага. Выд. Галоўпалітасветы БССР—1927 г.
10. Іржа—Жарт у 1-ой дзеі П. Нечай. Вольны пераклад-апрацоўка з расійскай мовы Нав. Б. Выд. БДВ—1930 г.
11. Гнеў—П'еса ў 4-х дзеях, 6-карцін. Адменнік для клубнай і вясковай сцэны. А. Яноўскі — пераклад і апрацоўка Н. Быvaeўскага. Выд. БДВ—1930 г.
12. Адказны рабкор—пародыя ў 5 абразкох. І. Вярхоўцаў. Выд. БДВ—1930 г.
13. Непаслухмяныя—Бытавыя малюнкі з жыцця сучаснай вёскі ў 5 актах—Івушка-Калінушка—пераклад з расійскага. Выд. БДВ—1925 г.

1

*Спіс № 1 п'ес, забароненых і дазволеных кіраўніцтвам па кантролю за рэпертуарам і відовішчамі пры НКА БССР. 1934 г.*

Цэнзура сваімі ахвярамі рабіла нават дзіцячыя кнігі. Прыкладам можа быць казка «Як пеўнік курачку ратаваў» у перакaзе Я. Коласа (ілюстрацыі мастака Воўкава). Гэту кнігу Культпроп ЦК КП(б)Б характарызаваў як контррэвалюцыйную і забараніў яе распаўсюджванне, аб чым запіскай з грыфам «сакрэтна» намеснік загадчыка культпропа паведамляў дырэктару БДВ С. Некрашэвічу 15 красавіка 1931 г.[466] Парадокс гісторыі можа быць з адценнем гумару: у 1953 г. цэнзура дазволіла выдаць народную казку з «люстэркавай» назвай «Як курачка пеўніка ратавала».

Пасля заканчэння кампаніі па «раскулачванні» вёскі (1930—1933) камуністы пачалі змаганне з вынікамі палітыкі беларусізацыі, якую арганізавалі і праводзілі іх былыя таварышы і правадыры, а цяпер рэпрэсіраваныя партыйцы. Першы жорсткі ўдар быў нанесены праз Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. У 1935 г. сектарам кнігагандлю ДВБ быў выдадзены «Зводны кантрольны спіс выданняў ДВБ, якія спісаны ў макулатуру за ўсе гады выданняў (1921—1934)». Ён выйшаў з грыфам «Толькі для кнігагандлёвай сеткі» і змяшчаў 1778 назваў кніг, календароў, нот і выданняў па выяўленчым мастацтве, якія трэба было ў абавязковым парадку перадаваць на макулатуру. Каб у работнікаў кнігагандлю не з'яўлялася спакусы абысці гэты спіс, загадвалася ў макулатураных паасобніках выдзіраць тытульныя лісты і прадстаўляць у ДБВ. Прызначаліся для здачы ў макулатуру выданні на беларускай мове (1736 назваў), яўрэйскай (30), польскай (7) і літоўскай (5). Выданняў на рускай мове ў гэтым спісе не было. «Зводны кантрольны

спіс…» павінен быў знаходзіцца ў кіраўніка кнігагандлёвай установы, перадаваць яго іншым асобам забаранялася.

Тэхналогія кнігавыдання ў 1930-я гг. не была яшчэ даведзена да безумоўнага пазбаўлення індывідуальнасці аўтара, і кніга часам магла несці знешнія праявы цэнзуры (самацэнзуры) альбо рэдактуры. Асабліва ў тым выпадку, калі аўтар займаў адну з высокіх пасад у дзяржаве. Як прыклад можна прывесці выдадзены тыражом 17 тыс. экз. «Адчот Урада БССР XI Усебеларускаму З'езду Советаў 15 студзеня 1935 г.» старшыні Савета Народных Камісараў БССР Мікалая Галадзеда[467]. Кніга выйшла ў Партвыдавецтве ЦК КП(б)Б у добрым тканінным пераплёце, на канцы ўклеены, па звычаі тых часоў, лісток, азаглаўлены: «Заўважаныя памылкі друку». Натуюцца 24 «памылкі», з якіх пад падзагалоўкам «Па віне друкарні» — толькі дзве (у адным выпадку прапушчана літара, у другім літары памяняны месцамі). Астатнія 22 памылкі — гэта дапіскі цэлых сказаў і выпраўленні некаторых слоў (замена беларускіх адпаведікаў калькамі з рускай): «выдаткі» прапануецца замяніць на «іздзержкі», «зграя» на «кліка», «знішчальная авіяцыя» на «істрэбіцельная», «багацце» на «ізабіліе» і г.д. — кіраўнік папраўляў на свой лад перакладзены беларусамі-рэферэнтамі тэкст.

Асабліва ўзмацнілася цэнзура з другой паловы 1930-х гг., павялічвалася колькасць спісаў літаратуры, якую патрабавалася ўбраць з бібліятэк. У 1935 г. Галоўліт РСФСР і Галоўлітбел выдалі тры такія спісы, у 1936 г. — шэсць, а за першую палову 1937 г. — сем. Напрыклад, 3 чэрвеня 1937 г. з'явіўся загад № 33 Галоўліта БССР — «Спіс літаратуры, якая падлягае канфіскацыі з бібліятэк грамадскага карыстання, навучальных устаноў і кнігагандлю». У ім налічвалася 421 пазіцыя, а супраць 53 прозвішчаў стаяла адзнака аб канфіскацыі ўсіх кніг аўтара[468]. Пачалася праверка выданняў, якія выйшлі да 1930 г. У выніку чаго амаль усе падручнікі па гісторыі, геаграфіі, слоўнікі, шматлікія творы мастацкай літаратуры былі канфіскаваны як контррэвалюцыйныя і «ідэалагічна няправільныя», знішчаліся кнігі, прасякнутыя «адраджэнскімі» ідэямі, неадпаведныя афіцыйнай ідэалогіі, класаваму падыходу, палітыцы бальшавіцкай партыі. Канфіскаваныя кнігі знішчаліся з дапамогай рэзальных машын у друкарнях або спальваліся. Толькі ў 1937 г. былі знішчаны або перададзены ў спецсховы 399 выданняў на беларускай і рускай мовах, якія выйшлі ў БССР, сярод іх творы Ф. Аляхновіча, Р. Астроўскага, С. Баранавых, А. Гаруна, М. Доўнар-Запольскага, У. Дубоўкі, З. Жылуновіча, У. Ігнатоўскага, В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, А. Луцкевіча, У. Пічэты, А. Смоліча і інш.

Выдавецкую палітыку кіруючая партыя ажыццяўляла, між іншым, зменай кадраў — на жаль у 1930—1938 гг. гэта была не ратацыя: зняцце з працы ў большасці выпадкаў заканчвалася высылкай у лагер альбо расстрэлам. Трагічны лёс напаткаў супрацоўнікаў Белдзяржвыдата Пятра Ільючонка, Іосіфа Плашчынскага (Язэп Пушча), Ігната Шыпілу. Ролю своеасаблівага «крызіснага менеджэра» ў часы вялікіх рэпрэсій выконваў ураджэнец Мсціслаўшчыны Павел Шастакоў: здольны журналіст, ён з 1929 г. працаваў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь» да моманту яе закрыцця 22 сакавіка 1933 г., потым узначаліў газету «Калгаснік Беларусі» да канца яе існавання (жнівень 1935 г.), потым быў прызначаны дырэктарам Беларускага дзяржаўнага выдавецтва; расстралялі Паўла Пятровіча ў 1937 г.[469]

# РЭПЕРТУАР. ЗМЕНА ПРЫЯРЫТЭТАЎ ПАСЛЯ РЭПРЭСІЙ

Табе, правадыр, мае песні і думы
І шчырыя шчырага сэрца парывы
…
Аб Сталіне песні спявай,
Спявай, беларускі народ!

*Янка Купала*[470]

Прыярытэтныя кірункі ў кніжным рэпертуары 1930-х гг. складала прадукцыя, якая спрыяла фарміраванню адпаведнага новым патрабаванням партыі светапогляду новага савецкага чалавека. Вядучае месца ў тэматыцы заняла палітычная і сацыяльна-эканамічная літаратура, адмоўны вобраз нацдэма ў мастацтве першым намаляваў паэт Андрэй Александровіч — яго паэма «Цені на сонцы» перавыдавалася асобнай кнігай тройчы: у 1930, 1931 і 1936 гг.

Палітычны працэс асуджэння нацыянал-дэмакратаў у 1930 г. моцна запаволіў кніжную справу, але адразу не змяніў тэндэнцыі. Характэрны прыклад — кніга Л. Бэндэ «Янка Купала. Крытычны нарыс». У прадмове аўтар зазначае, што амаль два гады не адважваўся выдаць асобнай кніжкай тэкст свайго даклада ў Інстытуце літаратуры БАН, які быў прачытаны 24 мая 1930 г. у час дваццаціпяцігадовага юбілею творчай дзейнасці Купалы. Каб «не адважвацца», была прычына: цэлую восень 1929 г. ішло паляванне на аб'яўленых «нацдэмамі» дзеяча беларускай культуры, у асноўным звязаных з палітычнай дзейнасцю БНР, — тых, пра каго старшыня ЦВК Чарвякоў згадаў (з пазітыўнай ацэнкай) у 1927 г. на апошняй старонцы сваёй кнігі «За савецкую Беларусь». 3—8 студзеня 1930 г. адбыўся пленум ЦК КП(б)Б, на якім разглядалася, паміж іншым, пытанне «аб пазіцыі т. Чарвякова па пытаннях барацьбы з правым ухілам і нацыянал-дэмакратызмам». Дакументы пленума былі надрукаваны ў БДзВ асобнай брашурай нечуваным дагэтуль тыражом — 100 тыс. экз. Рэзалюцыя па т. Чарвякову складалася з 12 пунктаў, апошні з якіх гучаў так: «Бюро ЦК і Прэзыдум ЦКК лічыць неабходным, каб тав. Чарвякоў тэрмінова падверг усе свае права-опортуністычныя і нацыянал-опортуністычныя ўстаноўкі простай, рашучай, бальшавіцкай самакрытыцы ў суадпаведнасці з рашэньнямі вераснёўскага пленуму ЦК КП(б)Б і лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б)». Гэта










*Вокладкі кнігі А. Александровіча «Цені на сонцы». Мінск, 1930 г., 1931 г., 1936 г.*



Жыта, авёс, бульбу,
Канаплі, капусту
Засяваюць, садзяць
На той глебе тлустай.

І сёння зайздросціць
„Мінарал“ ²) балоту:
Бо ўраджай на торфе,
А на ім пустота.

Так расце, расце ўсё
Небывалым ростам,
І здаецца з боку
Ўсё так ясна, проста.

Як-бы тут спрадвеку
Ўсё так вырастала,
Бы сама сабою
Багна полем стала.

Але так здаецца...
Ўсё зрабілі рукі,
І іх не забудуць
Патомкі-унукі.

Што зрабілі людзі
З балотных палеткаў,
Сведкай верш мой гэты,
Вясна гэта сведкай.

42

*Разварот кнігі Янкі Купалы «Над ракой Арэсай». Мінск, 1934 г.*

рэзалюцыя стала адным з ключавых выпадкаў працэсу, падчас якога кампартыя паказвала Савецкай уладзе (А. Чарвякоў — старшыня ЦВК) хто ў хаце гаспадар. Чарвякоў пакаяўся і прагаласаваў за прынятую рэзалюцыю. Пасля гэтага цкаванне не спынілася, але да апошняй кроплі — 16 чэрвеня 1937 г., калі адзін з самых адданых і аўтарытэтных будаўнікоў беларускай дзяржаўнасці застрэліўся ў рабочым кабінеце — заставалася яшчэ сем гадоў.

7 снежня 1930 г. газета «Савецкая Беларусь» надрукавала ліст папулярнага пісьменніка Змітрака Бядулі, у якім ён «прызнаваў» свае ранейшыя ідэалагічныя «памылкі» і каяўся за іх, дэкларуючы вернасць ідэалогіі дыктатуры пралетарыята. Праз тыдзень, 14 снежня 1930 г., «Звязда» надрукавала ліст Я. Купалы, якім той таксама адракаўся ад мінулых памылак і адмяжоўваўся ад людзей, што папалі пад рэпрэсіі. У кніжцы Л. Бэндэ гэты ліст падрабязна цытуецца, паказваючы, як адбылося перавыхаванне папулярнага паэта на карысць бальшавіцкай ідэалогіі.[471] Пасля такой заявы рэпрэсіі абмінулі Я. Купалу. Да сваёй трагічнай гібелі ў 1942 г. у маскоўскай гасцініцы ён яшчэ паспее шмат напісаць — і панегірыкі вялікаму Сталіну, і паэму пра калгаснае будаўніцтва «Над ракой Арэсай». Другое — ілюстраванае — выданне гэтай паэмы (Менск, 1934) стала адной з самых прыгожых даваенных беларускіх кніг. Мастак (імя на кніжцы не пазначана) здолеў стварыць ілюстрацыі з паэтычнымі вобразамі працы на зямлі машын і людзей; кніга апранута ў каленкоравую вокладку, шырокія палі і свабоднае размяшчэнне малюнкаў у тэксце паказваюць на добры густ мастака і добрае ўмельства паліграфістаў. «Пасьля «перабудаваньняў» Купала і Ясакар—Бядуля твораць на новы ідэйны лад. Тэматычна і ідэова творчасьць іх дапасоўваецца да творчасьці ўсесаюзнай у кірунку камуністычнай пролетарыяцкай ідэолёгіі. Аднак міма ідэолёгічна новай накіраванасьці, міма палітычна-агітацыйных мамэнтаў у духу камуністычнай пролетарыяцкай ідэолёгіі, творчасьць Купалы і Ясакары—Бядулі найнавейшага пэрыоду мае вялікае значэньне і для беларускай нацыянальнай культуры, прадусім з гледзішча мастацкага і з гледзішча культуры слова» — пісаў у 1935 г. віленскі часопіс «Калосьсе»[472].

У 1936 г. тыражом 10 тыс. экз. была надрукавана кніга А.І. Дзьякава «Трыццацігоддзе літаратурнай дзейнасці народнага паэта БССР Янкі Купалы: 1905—1935. Даклад на ўрачыстым юбілейным сходзе 11 снежня 1935 года ў Дзяржаўным тэатры», падрыхтаваная ў выдавецтве Беларускай акадэміі навук. Даклад






*Разварот кнігі Янкі Купалы «Песні і думы». Мінск, 1952 г.*

заканчваўся словамі: «Пажадаем-жа народнаму паэту Янку Купалу здароўя і посьпехаў, каб ён, як вялікі мастак, даў яшчэ многа мастацкіх палоцен, што адлюстроўвалі-б героіку нашых светлых і цудоўных дзён (Бурныя апладысменты)».

Пасля першай хвалі канца 1929 — пачатку 1930 г. рэпрэсіі не спыніліся, Камуністычная партыя шукала і знаходзіла новыя кнігі-ахвяры. «На працягу апошніх год, нягледзячы на праведзеную ачыстку кніжнай продукцыі ад нацдэмаўскай літаратуры, былі выданы політычна-шкодныя кнігі, дзе працягвалася трацкісцкая контрабанда і фальсіфікацыя гісторыі партыі (Валасевіч «Самая краткая история ВКП(б)», Поташ і інш.)» — гаварылася ў пастанове аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б, што адбыўся 26—28 сакавіка 1932 г. І далей: «Пленум лічыць неабходным значна палепшыць якасьць выдавецкай работы і патрабуе большай політычнай пільнасьці да зьместу выдаваных кніжак… палепшыць склад рэдактарскіх кадраў за кошт падрыхтаваных, політычна-вытрыманых работнікаў, павялічыўшы іх адказнасьць за рэцэнзаваньне і выпуск кнігі»[473].

Пачынаючы з 1933 г. адзначаецца ўстойлівая тэндэнцыя павелічэння колькасці выданняў на рускай мове, што было звязана з заўважанай яшчэ Анры Барбюсам палітыкай атаясамлення паняццяў «савецкі» і «рускі», а з другога боку — вынікам палітыкі рэпрэсій супраць «нацыянал-дэмакратаў» і «развянчання» беларусізацыі. Адпаведна змяншаецца аб'ём выдання арыгінальных твораў беларускіх аўтараў. У 1933 г. ДВБ выдала асобнай кніжкай Пастанову Савета Народных Камісараў БССР «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу», якія павінны былі наблізіць беларускую мову да рускай. Смелыя эксперыменты 1920-х гг., калі распрацоўваліся асобныя літары для адсутных у рускай мове гукаў «дж» і «дз» і сур'ёзна абмяркоўваліся перавагі лацінскага алфавіту, засталіся ў мінулым.

Татальная цэнзура рукапісаў кніг, матэрыялаў перыядычнага друку, жорсткія патрабаванні да іх ідэалагічнай вытрыманасці, рэпрэсіі не толькі супраць аўтараў, у творах якіх знаходзілі палітычныя хібы, але і супраць супрацоўнікаў выдавецтваў, стрымлівалі развіццё кнігавыдання. Па гэтых прычынах выдавецкія планы не выконваліся. Толькі страты Белдзяржвыдавецтва з-за ненадрукаваных у 1935 г. кніг склалі 771 тыс. руб., план 1936 г. быў выкананы на 77,5%, а па мастацкай, дзіцячай і літаратуры на мовах нацыянальных меншасцяў — усяго на 35—40%. Тое ж назіралася ў партыйным выдавецтве пры ЦК







*Пастанова Савета Народных Камісараў БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Мінск, 1933 г.*

*Вокладка кнігі У. Дубоўкі «Праект літар для гукаў «дз» і «дж».*

КП(б)Б, выкананне ім плана ў 1935 г. дасягнула толькі 45%, у 1936 г. — 65%. Агульная колькасць назваў выдадзеных кніг штогод скарачалася. Калі ў 1932 г. усімі выдавецтвамі рэспублікі было выпушчана 1520 найменняў рознай літаратуры, то ў 1940 г. — толькі 772[474].

У 1937 г. спыняецца выданне літаратуры на польскай мове. На пачатак 1941 г. колькасць надрукаваных рускамоўных кніг павялічваецца ў параўнанні з 1931 г. амаль у 10 разоў: з 38 да 362 назваў [табл. 2]. Па выніках за 1940 г. беларускамоўная прадукцыя склала каля 49%, у 1930 г. гэта лічба дасягала 88,4%.

Тым не менш, напярэдадні Другой сусветнай вайны ў БССР цалкам беларускамоўная кніга займала даволі значнае месца ў выдавецкім рэпертуары. У выніку мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі была створана цэнтралізаваная кнігавыдавецкая сістэма, дзейнасць якой накіроўвалася і планавалася па ўсіх кірунках партыйна-дзяржаўнымі органамі. Усяго ў БССР у 1921—1939 гг. выйшла 10 573 назвы кніжных выданняў на беларускай мове або — 71,7% ад усёй выдадзенай кніжнай прадукцыі рэспублікі [табл. 3].

Рэпертуар беларускіх даваенных выданняў складаўся, з аднаго боку, з разнастайных прафесійных выданняў рознай тэматыкі, з дру-

**Выпуск кніжнай прадукцыі ў БССР у 1921—1939 гг.**

*Табліца 3*

| Гады | Колькасць назваў | Тыраж (тыс.) |
|---|---|---|
| 1921 | 196 | 1526 |
| 1922 | 147 | 602 |
| 1923 | 184 | 461 |
| 1924 | 330 | 1182 |
| 1925 | 362 | 2183 |
| 1926 | 453 | 1846 |
| 1927 | 652 | 1785 |
| 1928 | 693 | 2246 |
| 1929 | 771 | 4346 |
| 1930 | 1323 | 8458 |
| 1931 | 1474 | 10 716 |
| 1932 | 1520 | 9758 |
| 1933 | 1264 | 10 253 |
| 1934 | 1213 | 9728 |
| 1935 | 1009 | 8437 |
| 1936 | 938 | 9097 |
| 1937 | 639 | 8833 |
| 1938 | 801 | 14 674 |
| 1939 | 775 | 11 276 |
| Усяго | 14 744 | 113 061 |




*Разварот кнігі І. Сталіна «Аб асновах ленінізма». Мінск, 1933 г.*

гога боку, з выданняў грамадска-палітычных, якія сваім зместам былі скіраваны на шырокія слаі грамадства. Грунт для развіцця розных галін культуры Беларусі ў нацыянальнай форме забяспечвала выдавецтва Інстытута беларускай культуры выданнем тэрміналагічных слоўнікаў разнастайнай тэматыкі. Колькасць гэтых выданняў з часам павялічвалася. Серыя пачалася ў 1922 г. слоўнікам «Элементарная матэматыка», у 1923 выйшлі тры выпускі («Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва», «Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назовы нябесных цел», «Тэрміналогія логікі і псіхалогіі»), у 1924 г. — два («Геалогія, мінералогія, крышталеграфія», «Батаніка агульная і спецыяльная»), у 1926 — чатыры («Музычныя тэрміны», «Слоўнік лясных тэрмінаў», «Nomina anatomica. Вып. I» і «Тэрміналогія права»), а ў 1927 г. — ажно сем («Грамадазнаўства», «Назовы жывёл», «Слоўнік матэматычнай тэрміналогіі», «Слоўнік граматычна-лінгвістычнай тэрміналогіі», «Слоўнік глебазнаўчай тэрміналогіі», «Слоўнік бугальтарскай тэрміналогіі», «Nomina anatomica. Вып. II»). Да 1930 г. выйшлі 20 выпускаў двухмоўных, а часам трохмоўных слоўнікаў. Напрыклад, слоўнік хімічных тэрмінаў з хімічнымі формуламі (Менск, 1928) быў надрукаваны як трохмоўны: беларуска-руска-ідыш.

# РЭПЕРТУАР ДАВАЕННАЙ КНІГІ

## Стварэнне корпуса нацыянальнай юрыдычнай літаратуры

Калі Статут Вялікага Княства Літоўскага яшчэ памяталі (і нават выкарыстоўвалі) юрысты Расійскай імперыі ў сярэдзіне XIX ст., то ў першай чвэрці XX стагоддзя гэты помнік права быў грунтоўна забыты. Беларусы жылі на сваіх спрадвечных землях, кіруючыся законамі новастворaных пасля Першай сусветнай вайны дзяржаў: Польшчы, РСФСР, СССР і БССР. У 1924 г. у Вільні (у друкарні С. Бэкэра) на беларускай мове выйшла Канстытуцыя Польскай Рэспублікі 20 сакавіка 1921 г. і Закон аб польскім грамадзянстве 20 студзеня 1920 г. Трэцім дакументам, уключаным у кнігу, стаў тэкст Рыжскай мірнай дамовы паміж Польшчай, Расіяй і Украінай ад 18 сакавіка 1921 г. з апісаннем лініі падзелу Беларусі. Апошні дакумент, відаць, уключаны ў выданне ў апошнюю хвіліну — на тытульным лісце кнігі ён не ўпамінаецца і названы толькі на вокладцы.

Юрыдычныя дакументы БССР распрацоўваліся на ўзор аналагічных дакументаў РСФСР. Народны камісарыят юстыцыі меў сваё выдавецтва, якое было заклікана забяспечыць патрэбы краіны ў спецыяльнай літаратуры юрыдычнага профілю. Прававыя акты і дакументы выходзілі і ў іншых выдавецтвах.

Самы галоўны юрыдычны акт дзяржавы — Канстытуцыя БССР — выйшла з друку ў 1927 г. як выданне Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР. На тытульным лісце змешчана выява новага дзяржаўнага герба Беларусі, для аздобы тытула выкарыстаны маляваныя шрыфты і каліграфічныя надпісы ў чорна-белым выкананні, вокладка надрукавана шматколерным друкам. У параўнанні з урачыста-святочным выданнем Канстытуцыі 1927 г., новая рэдакцыя Канстытуцыі, што была прынята і выдадзена ў 1938 г., надрукавана шмат больш сціпла — меншага фармату, у шэранькай вокладцы, хаця само слова «Канстытуцыя», рамка і заклік да пралетарыяў усіх краін былі надрукаваны яркай чырвонай фарбай. Гэта стала праявай новай беларускай кніжнай эстэтыкі. Услед за «Канстытуцыяй» афіцыйныя выданні змяшчалі на тытульным лісце (часам і на вокладцы) малюнак дзяржаўнага герба.

Важным дапаможнікам для стварэння беларускай юрыдычнай кнігі стаў дзесяты выпуск з серыі слоўнікаў Інбелкульта «Беларуская навуковая тэрміналогія», які быў прысвечаны тэрміналогіі права.

Акрамя тэксту асноўнага закону, у 1920—1930-я гг. былі надрукаваны асобнымі кнігамі асноўныя заканадаўчыя акты, сярод якіх: «Справіцельна-працоўны Кодэкс Беларускае Совецкае Социялістычнае Рэспублікі» (Менск, 1926), «Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы БССР у рэдакцыі, прынятай IV сэсіяй ЦВК БССР VII скліканьня з альфабэтна-прадметным паказальнікам», выданне Выдавецкага пададдзела Аддзела заканадаўчых праектаў і кадыфікацыі Народнага камісарыята юстыцыі (Менск, 1927), «Грамадзянскі працэсуальны кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі з альфабэтна-прадметным паказальнікам», выданне НКЮ БССР (Менск, 1930), «Зборнік статутаў і правіл службы ў папраўча-працоўных установах БССР», выданне Кіраўніцтва папраўча-працоўнымі ўстановамі (Менск, 1934) і іншыя прававыя акты. Звычайна гэтыя выданні былі двухмоўныя (тэксты на рускай і беларускай мовах друкавалі слупкамі), паралельна, часта выданне суправаджаў слоўнік спецыяльных тэрмінаў, дакладней два слоўнікі — рускі і беларускі. Акрамя кніг для прафесійных


КОНСТЫТУЦЫЯ
ПОЛЬСКАЙ РЭСПУБЛІКІ
20 сакавіка 1921 году.
ЗАКОН
20-га студня 1920 году аб ПОЛЬСКІМ ГРАМАДЗЯНСТВЕ
МІРАВЫ ТРАКТАТ
паміж Польшчаю, Расеяй і Украінаю падпісаны ў РЫЗЕ 18-га сакавіка 1921 году.
Друкарня С. Бакэра. Вільня, Субач 2.
1924.

*Канстытуцыя Польскай Рэспублікі 20 сакавіка 1921 г. Вільня, 1924 г.*







*Канстытуцыя (Асноўны закон) Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Мінск, 1927 г.*

*Часовы статут унутранай службы рабоча-сялянскай міліцыі БССР. Мінск, 1931 г.*

юрыстаў, выходзілі кнігі для шырокага чытача. У прыватнасці, існаваўшае ў Мінску Дзяржпраўвыдавецтва ў сваёй «Агульнадаступнай бібліятэцы па працоўнаму заканадаўству» тройчы выдала (апошні раз у 1930 г.) зборнік юрыдычных дакументаў «Унутраны парадак і дысцыпліна ў прадпрыемствах і ўстановах», сацпраўсектар БДВ выпусціў у 1936 г. кнігу «Працоўнае законадаўства СССР і БССР: зборнік важнейшых законадаўчых і ведамасных матэрыялаў на 1 снежня 1935 г.» (склалі М. Рохлін, З. Разьба, І. Гозман). Наркамюст выдаваў «Папулярную юрыдычную бібліятэку», у якой, у прыватнасці, выйшла кніга А.С. Нестарука і Р.А. Рудзінскай «Сельскія і местачковыя суды» (Менск, 1930).

Клопатам дзяржавы да насельніцтва рэспублікі своечасова даносілі пастановы з'ездаў Саветаў, пры гэтым права на надрукаванне важных дакументаў давалася і акруговым выканкомам. Для прыкладу назавём «Рэзалюцыі і пастановы V-га Усесаюзнага З'езду Саветаў (20-га мая 1929 г.) і IX-га Усебеларускага З'езду Саветаў (8—12-га мая 1929 г.)», выданне віцебскага акрвыканкома (Віцебск, 1929). Важнымі дзяржаўнымі дакументамі былі справаздачы аб дзейнасці рэспубліканскага і акруговых выканаўчых камітэтаў за некалькі гадоў працы. Прыкладам можа быць «Дзейнасць ураду БССР за 1926—27 год» — выданне кіраўніцтва спраў СНК і эканамічнай нарады БССР (336 старонак вялікага фармату з дадаткам-картай, тыражом 1000 экз.), альбо тоненькая «Справаздача аб дзейнасці Магілёўскага Акруговага Выканаўчага Камітэту Саветаў Рабочых, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх дэпутатаў за 1924—25 і 1925—26 гг.», якая выйшла пад грыфам Другога Магілёўскага акруговага з'езду саветаў і была надрукавана тыражом 700 экз. у магілёўскай друкарні-літаграфіі «Саха і молат» у 1927 г. Кніга змяшчае падрабязную статыстыку змен, што адбыліся за два гады ў Магілёўскай акрузе ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, гандлі, народнай асвеце, ахове здароўя, камунальнай гаспадарцы і іншых сферах жыцця. У табліцах між іншым прадстаўлена забеспячэнне магілёўскай міліцыі конямі і матэрыяльнае забеспячэнне міліцыянераў (старшы міліцыянер атрымліваў 28 руб., а агент крымінальнага вышуку — 44 руб. 60 кап.), рух злачыннасці і карная палітыка (злачынствы падзяляюцца на контррэвалюцыйныя, супраць парадку кіравання, службовыя, гаспадарчыя, супраць асобы, маёмасныя). Асобным раздзелам вылучана «Дапамога Чырвонай Арміі і ваенізацыя» (тут пака-







*Справаздача аб дзейнасці Магілёўскага акруговага выканаўчага камітэта Савета рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў за 1924—25 і 1925—26 гг. Магілёў, 1927 г.*

*Рэзалюцыі і пастановы V Усесаюзнага з'езда Саветаў (20 мая 1929 г.) і IX Усебеларускага з'езда Саветаў (8—12 мая 1929 г.). Віцебск, 1929 г.*




*Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы БССР у рэдакцыі, прынятай IV сесіяй ЦВК БССР VII склікання. Мінск, 1927 г.*

заны выдаткі на ўтрыманне кадравых часцей РСЧА і сталага складу часцей гарнізонаў у Магілёве, Быхаве і Чавусах). У раздзеле «Праца па ажыццяўленню нацпалітыкі» паказаны сродкі, што вылучаліся на падтрымку курсаў беларусазнаўства (у тым ліку на беларусізацыю Магілёўскай тэрытарыяльнай дывізіі — 300 руб.), раскрываецца праца сярод яўрэйскага, польскага і латышскага насельніцтва акругі. У тым жа 1927 г. Магілёўскі акруговы выканком выдаў даведнік «Магілёўшчына да дзесятае гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі», у якім паказана статыстыка развіцця рэгёну ўжо за дзесяць гадоў. Асаблівасць выдання гэтых афіцыйных справаздач у тым, што на вокладцы першай кнігі, якая выйшла ў пачатку года, надрукаваны стары герб БССР, а на тытуле другой з'яўляецца выява герба новай рэдакцыі.

Перад Другой сусветнай вайной на паліцы сталі дзяржаўныя выданні, якія ахоплівалі ўсе сферы юрыспрудэнцыі, ад «Канстытуцыі БССР» да зборніка пастаноў «Аб правах і абавязках дворнікаў (Інструкцыя Народнага Камісарыята камунальнай гаспадаркі БССР і Белжылсаюза ад 25 ліпеня 1935 года)».

## Адукацыя. Асвета. Педагогіка

Непісьменнымі ў Беларусі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. былі да 45% мужчын і больш як 72% жанчын. Выдадзеныя да рэвалюцыі ў Санкт-Пецярбургу «Лемантар» і «Чытанка» зрабіліся бібліяграфічнай рэдкасцю. Галоўным дапаможнікам для навучання грамаце пасля вызвалення часткі Беларусі ад белапалякаў быў «Беларускі лемантар» С. Некрашэвіча (Менск, 1922). Рашэнне аб друкаванні гэтага падручніка было прынята сходам літаратурна-навуковай калегіі Наркамасветы 23 мая 1921 г., у пастанове гаварылася: «Лемантар вельмі добры, багаты зместам па адозвам знаўцаў. Набыць і аддрукаваць у ліку 25 000 экз., а калі дапусціць тэхніка, то і болей»[475]. Аднак становішча з непісьменнасцю было пагражальнае. Паводле статыстыкі 1926 г. у БССР на 1000 жыхароў прыходзілася толькі 327 чалавек пісьменных, дзяцей ва ўзросце ад 8 да 11 гадоў вучылася 68%, астатнія папаўнялі шэрагі непісьменных[476]. Дзяржава прымала шмат захадаў дзеля ліквідацыі гэтай ганебнай сітуацыі, прынамсі ў 1924 г. было створана таварыства «Прэч непісьменнасць». У 1926 г. прайшоў першы рэспубліканскі з'езд таварыства, а ў кастрычніку 1928 г. — другі з'езд, на якім прысутнічалі і выступілі з прамовамі самыя высокія беларускія чыноўнікі. Матэрыялы з'езда (прамовы, тэзісы дакладаў, пастановы і Статут таварыства) былі надрукаваны асобнай брашурай тыражом 3 тыс. экз. з пазначэннем «Выданьне Ц.С. Т-ва «Прэч Няпісьменнасьць» (Менск, 1928).

БССР ліквідавала непісьменнасць пры дапамозе «культармейцаў», узброеных беларускімі букварамі-лемантарамі, чытанкамі і іншымі дапаможнікамі. Сярод дапаможнікаў вылучаўся дэкламатар. Гэта была тоўстая кніга лепшых беларускіх паэтычных твораў, надрукаваная на добрай паперы, аздобленая гравіраванымі застаўкамі, буквіцамі і партрэтамі беларускіх паэтаў, пісьменнікаў і артыстаў тэатра. Пытанне аб падрыхтоўцы дэкламатара разглядала навукова-літаратурная калегія пры Камасвеце Беларусі яшчэ ў 1921 г., на той час кніга называлася «Дудар». Для «перагляду зместу дэкламатара з боку палітычна-грамадзянскага, мастацкага і сцэнічнага», была створана камісія з трох асоб: З. Жылуновіча, К. Міцкевіча, А. Ляжневіча, якая «прымаючы пад увагу, што вельмі цяжкая праца па складанню дэкламатара была выпаўнена тэрмінова», прыняла рашэнне выплаціць за зробленую працу аўтарскі ганарар «Ляжневічу і 2 яго супрацоўнікам»[477]. Аднак «тэрмінова» складзеная кніга выйшла толькі ў 1924 г. Яна называлася «Беларускі дэкляматар Чырвоны Дудар», выдаўцом было пазначана кааператыўна-выдавецкае таварыства «Савецкая Беларусь». Дэкламатар складаўся з трох частак: дзве першыя былі прысвечаны мінуламу, яны называліся «На шляху да рэвалюцыі» і «Рэвалюцыя», трэцяя паказвала рэчаіснасць і пабудову незалежнай сацыялістычнай Беларусі. Кожная частка пачыналася адмысловай застаўкай работы мастака Паўлюка Гуткоўскага. У якасці складальнікаў на тытульным аркушы названы Янка Купала, Цішка Гартны і Алесь Ляжневіч.

Выдавалася і спецыяльная «Бібліятэчка культармейца», у якой у 1930 г. выйшла брашура «Палажэнне аб рабоце ячэек таварыства Прэч Непісьменнасьць». Гісторыяй стаў ужо ўпамінаны падручнік Язэпа Лёсіка «Наша крыніца. Чытанне для беларускіх школ», выдадзены ў 1920 г. Беларускай цэнтральнай школьнай радай у Мінску ў час польскай акупацыі, які ў 1922 г. выйшаў другім, дапоўненым і выпраўленым выданнем пад шыльдай «Выданьне навукова-літэрацкага аддзелу камісарыяту асьветы БССР». Тыраж другога выдання быў надрукаваны ў Берліне, кніга мела нашмат больш якасных ілюстрацый, як дадаткі былі прыкладзены анатамічныя табліцы будовы цела чалавека. Грашовая дапамога з Масквы рабіла няпэўным статус Дзяржаўнага Беларускага Выдавецтва, менавіта яго падпарадкаванне: рэспубліканскае альбо саюзнае. Аб гэтым ускосна сведчыць, напрыклад, выданне «Выпісы з беларускае літаратуры: частка I», укладзенае М. Гарэцкім, Ул. Дзяржынскім і П. Караваем, якое ў 1925 г. 2-я друкарня БДВ надрукавала пад грыфам Народнага камісарыята асветы БССР. У выхадных звестках на тытуле было пазначана: «Дзяржаўнае Выдавецтва. Масква—Ленінград, 1925», хоць на вокладцы было надрукавана: «Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск, 1926».

Для працы з непісьменнымі культармейцы з 1925 г. выкарыстоўвалі выдадзены Галоўнай управай палітычнай асветы Наркамасветы лемантар для дарослых «Наша сіла — ніва да машына» С. Некрашэвіча, М. Байкова і М. Багдановіча (другое выданне — 1927 г.). У 1926 г. з'явіўся «Лемантар для сельскагаспадарчых і лясных рабочых «Наша сіла — Саюз». Гэты падручнік быў створаны па заказе Галоўпалітасветы і Цэнтральнага аддзялення саюза сельскагаспадарчых і лясных рабочых БССР. Тыраж 20 тыс. экз. на добрай паперы з ілюстрацыямі Г. Змудзінскага (кніга дру-

*Разварот кнігі «Беларускі дэкламатар Чырвоны дудар». Мінск, 1924 г.*


«А-ха-ха! І-ы-ы!»
Па дарозе льюцца;
Йдуць журба з сьмехацьцём,
А людзі сьмяюцца.
От журба і крычыць:
—«Праз цябе выкпіны»!
Сьмехацьцё ж ёй ў адказ:
—«Не, асані віна!»
—«Праз цябе! Праз цябе!»
Увашлі у спрэчку,
А ў канцы пачалі
Малаціці грэчку.
Тут камар падляцеў:
«Кум з кумой дзярэцца?»
І пачаў ля журбы
Акругом вярцецца!
То у нос, то у лоб
Джыгане-уп'іецца.
От журба наўцёк,
Бо няма дзе дзецца.
Сьмехацьцё ж не бяжыць,
Даганяць ня хоча.
А з людзьмі над журбой
Над дурной рагоча.
От і усё. Калі хто
З вас журбу убача,
Дык настрашце яе
Камаровым плачам.
Уцячэ! А цяпер—
Заплаці двузлотку
І кілішачак дай
Прамачыці глотку.

*А. Гарун.*

— 280 —

А. Паўловіч

ПРАСЬЦЯРОГА.

Налёрся хлопец прасіць матку
Пусьціць з хлапцамі накупацца.
Нарэшце, матка не ўцярпела
І сіл ня стала з ім спрачацца.

«Ідзі ты, кажа, прычапіўся,
Знаць, гуза галава шукае,
Ідзі, гуляй, але пільнуйся»!
Матуля зноў асьцерагае.

„Ня лезь у рэчку, бо глыбока,
Абходзь дзе-небудзь па сухому,
Бо як утопішся, то, помні,
Лепш ня прыходзь тады да дому.

*А. Паўловіч.*

— 281 —

кавалася ў 1-й дзяржаўнай друкарні ДзВБ) аказаўся надта малы, але дыфіцыт паперы не дазваляў выдаць больш паасобнікаў. Каб павысіць «каафіцыэнт карыснага дзеяння», на адвароце вокладкі быў надрукаваны лозунг: «Пісьменны, перадай лемантар няпісьменнаму!» Змест лемантара быў разлічаны пераважна на вяскоўцаў, галоўнымі дзеючымі асобамі немудрагелістых тэкстаў былі сяляне. «Кааперацыя — найлепшы сродак сувязі горада з вёскай», «Батрацкі пачын», «Камсамол і батрак», «Што трэба знаць пастуху», «Батрацкі працоўны дагавор» — такія і падобнага зместу тэксты пераважаюць у гэтым выданні. Як адмоўныя персанажы сучаснага жыцця фігуруюць кулак, поп і пан — галоўныя ворагі працоўнага люду.

У 1929 г. вялікім тыражом быў выдадзены лемантар для дарослых «Наша сіла — саветы» (вытрымаў тры перавыданні), адначасова з'явіўся «Лемантар» для малодшых школьнікаў С. Некрашэвіча. У 1930 г. тыражом 80 тыс. экз. быў выдадзены іншы падручнік для ліквідацыі непісьменнасці: «Ударнік. Лемантар для гарадзкіх школ граматы», які навукова-метадалагічным камітэтам НКА БССР быў рэкамендаваны ў якасці падручніка для гарадскіх школ граматы. У кнізе часткова выкарыстаны ілюстрацыі Г. Змудзінскага з лемантара 1926 г. Аўтары кнігі А. Маклюк і П. Пруднік між іншым гавораць у прадмове: «Адсутнасць спецыяльнага лемантара для гарадскіх школ граматы ва ўмовах БССР не давала магчымасці пабудаваць працэс навучання грамаце на блізкім і даступным для гарадскога рабочага матэрыяле. Гэты недахоп мы і імкнуліся ліквідаваць, складаючы лемантар «Ударнік»...

Складаючы лемантар, мы мелі на ўвазе не толькі зусім непісьменных, але і так званыя групы «вострa» малапісьменных. Гэтым тлумачыцца досыць вялікі аб'ём лемантара, а таксама і падбор матэрыялу для чытання, часам не зусім даступнага для непісьменнага».

Адначасова з лемантаром «Ударнік» была выдадзена «Праграма для заняткаў з дарослымі ў школах граматы і метадычны дапаможнік да лемантара «Ударнік» (Менск, 1930), гэтых жа аўтараў.

Лемантар «Ударнік» як падручнік атрымаўся ўдалы і ў наступным 1931 г. выйшла другое выданне гэтай кнігі. Яно было пашырана да 306 старонак (першае мела 221) і дапоўнена новымі тэкстамі, пераважна тэхнічнага зместу: «як пабудаваны і працуе электрычны рухавік», «вучым паравоз», «як працуе рухавік унутранага згарання» і да т.п., з'явіліся новыя

ілюстрацыі — малюнкі і схемы. Тыраж другога выдання — 40 тыс. экз.

«Кніга для працы і чытання пасля букваря» называлася «Бальшавік». Разлічаны на школьнікаў, «Бальшавік» уключаў адпаведныя тэксты: кароткія, лёгка зразумелыя і ідэалагічна выверыныя. Падручнік не толькі называў ворагаў: папа, кулака ды буржуя, але і вучыў малодшых школьнікаў іх біць — напачатку ў працэсе «вясёлай гульні».

«Чытанка для 2-й групы школ пераросткаў», складзеная П. Пруднікам, называлася «У бой за пяцігодку» (Вып.1. Менск, 1931 г.), была яшчэ чытанка «Юныя калгаснікі» (складальнікі П. Пруднік, А. Саладуха і В. Шчансновіч, Вып. 1—2. Менск, 1931—1932 гг.), была складзеная І. Самковічам і І. Пратасевічам чытанка «Наш сьцяг» для 4 года навучання і «Родныя шляхі» для 5 класа беларускай працоўнай сямігодкі (часткі 1—2, чатыры стэрэатыпныя выданні ў 1925—1928 гг.) гэтых жа аўтараў і гэта далёка не ўсё… Для замацавання ведаў па асноўных прадметах выдавалася «Рабочая кніга» (па прыродазнаўстве, беларускай мове, матэматыцы і г.д.). Існавала шмат выдаваных наркамасветы БССР метадычных дапаможнікаў, якія часам мелі вельмі экзатычныя назвы, напрыклад пад шыльдай «Народны Камісарыят Асьветы БССР. Навукова-мэтадалёгічны камітэт» у 1927 г. выйшла кніга з надпісам на вокладцы «Дэталізацыя праграмы па прыродазнаўству для 5-ай клясы сямёхгадовай працоўнай школы», якая на тытуле мае назву з двух толькі слоў: «Заданьні па прыродазнаўству».

Для развіцця прыродазнаўчых ведаў і мыслення школьнікаў неацэнным укладам была выдадзеная ў 1932 г. юндзетсектарам БДВ кніга ленінградскага вучонага Я.І. Перэльмана «Цікавая мэханіка», перакладзеная Г. Шапіра і адрэдагаваная Янкам Маўрам. Практычныя навыкі па рабоце з хімічным абсталяваннем можна было атрымаць, пакарыстаўшыся кнігай «Працы ў лабараторыі хіміка-аматара» (Менск, 1931 г.), выдадзенай БДВ у серыі «Навукова-папулярная бібліятэка». І такіх кніг выдаваліся дзесяткі. Дапаможным выданнем для настаўнікаў быў часопіс «Працаўнік асветы» (дадатак да газеты «Савецкая Беларусь», выходзіў у 1928—1929 гг.), перад тым два гады (1926—1927) выходзіў часопіс «Пытанні самаадукацыі».

Для заняткаў астраноміяй БДВ у 1928 г. выдала кнігу А. Міцкевіча і А. Круталевіча «Асновы сьветабудовы: падручнік для тэхнікумаў і самаадукацыі». Кніга выйшла тыражом 3000 экз. на добрай паперы, з мноствам ілюстрацый (схем, фотаздымкаў, формул). Наступныя выданне гэтай тэматыкі — «Сусвет навакол нас» — папулярная манаграфія Джэймса Джынса, выдадзеная Дзяржаўным навукова-тэхнічным выдавецтвам у 1933 г.

Калі ў 1920-я г. справа была ў пісьменнасці/непісьменнасці, то ў 1932 г. вырашаліся іншыя задачы — стварэнне метадычнай літаратуры для выхавання дзяцей. Да ўдалых спробаў належыць кніга «Работа дашкольных летніх пляцовак» М. Мінкінай, А. Савёнак, Д. Явно (Вучпедсектар ДзВБ, тэксты на ідыш і беларускай мовах). Кніга дапамагае работнікам дашкольных установаў у штодзённай рабоце. Практыкаванні па лічэнні, гульні, спевы, маляванне, лепка і інш. праводзяцца паміж працоўнымі працэсамі. Рэкамендуюцца іншыя дапаможнікі: Фрыдман — «Арганізацыя і праца дашкольных установаў», Мінкіна «Работа дашкольных установаў у калгасе», праграмы для «нулявой» і старэйшай груп дзіцячага сада і інш.

Акрамя падручнікаў для навучання дзяцей і непісьменных дарослых, у БССР да 1930 г. былі падрыхтаваны беларускамоўныя падручнікі для розных катэгорый навучэнцаў сярэдняй і вышэйшай школы — па медыцыне, біялогіі, сельскай гаспадарцы, грамадскім дысцыплінам.

Каб беларускія настаўнікі «не адставалі» ад ідэалагічных спрэчак іх калегаў у РСФСР, зрэдку рабіліся выданні такіх кніг, як апрацаваная Ісакам Прэзентам стэнаграма даклада на канферэнцыі педагогаў-прыродазнаўцаў г. Ленінграда[478]. У гэтай кнізе аўтар крытыкуе і выкрывае: Акадэміка Вярнадскага за абаснаванне бяскласавасці навукі; прафесара В. Любіменка за кнігу «Индивидуум и общество в растительном мире»; прафесара В. Савіча за кнігу «Основы поведения человека»; прафесара Ю.А. Філіпчанку за артыкул «Интеллигенция и таланты» і інш. вучоных-прыродазнаўцаў і педагогаў.

## Сельскагаспадарчая кніга

Беларусь да Другой сусветнай вайны заставалася краінай пераважна аграрнай, таму сельскагаспадарчая кніга займала адно з найбольш важных месцаў у рэпертуары ледзь не ўсіх выдавецтваў рэспублікі. Акрамя асноўнага пастаўшчыка літаратуры гэтай тэматыкі — плённа працаваўшага сельгассектара БДзВ багата біялагічнай і сельгаслітаратуры выходзіла ў Наркамземе, Горацкай сельгасакадэміі, Мінакрзе (Мінскім акруговым зямельным аддзеле). Акадэмія навук выдавала «Запіскі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі», шматтомныя «Матэрыялы для вывучэння флёры і фаўны Беларусі» і інш. літаратуру.

У 1924 г. пачалося выданне газеты «Беларуская вёска», якая рэгулярна выдавала «Беларускі сялянскі настольны каляндар».

Калі будаўніцтва калгасаў і МТС (машынна-трактарных станцый) стала галоўным накірункам сельскагаспадарчай палітыкі кампартыі, да выдання кніг па адпаведнай тэматыцы падключылася Партыйнае выдавецтва: тут былі надрукаваны «Прыкладны дагавор машына-трактарнай станцыі з калгасамі» (Менск, 1934 г.), «Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі» (Менск, 1935 г.). Тым часам кнігі, якія прысвечаны развіццю асобных індывідуальных гаспадарак, як выдадзеная Інстытутам беларускай культуры ў 1927 г. манаграфія А. Смоліча «Арганізацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі», у 1930-я гг. сталі палітычна шкоднымі і гэтай прадукцыяй займалася ўжо цэнзура, выдаляючы яе з бібліятэк і кнігагандлю.

У пачатку 1930-х гг. дзейнічала «Каапэрацыйнае выдавецтва студэнтаў Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі» ў Горках, якое выдавала лекцыі прафесараў акадэміі: надрукавала курс І. Макаро «Вапнаваньне глебы — магутны сродак да павышэння ўраджайнасьці» (Горкі, 1931 г.), А. Лапо «Працы па селекцыі канюшыны» (Горкі, 1930 г.) і інш.; у друкарні Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі ў 1929 г. выйшла «Схэма складаньня арганізацыйнага пляну калгасу» В. Пудава. Мінскі акруговы зямельны аддзел НКЗБ выдаў у 1928 г. грунтоўную кнігу акруговага культуртэхніка Г.В. Пятроўскага «Становішча мэліарацыйных і тарпяных таварystw», у якой падводзіліся вынікі і раскрываліся спосабы барацьбы з балотамі (асушка) і эксплуатацыі атрыманых у выніку асушкі зямельных плошчаў у Мінскай акрузе.

У 1928 г. у выдавецтве Наркамзему (якое мясцілася ў той час у Мінску, на Савецкай вул., 41) выйшла кніга «Дзень Лесу: сьвята працоўных» — яна дала пачатак сьвяту, якое пазней праводзілася рэгулярна. Змест кнігі вельмі разнастайны: акрамя лозунгаў-заклікаў, надрукаваных на вокладцы, прысутнічаюць артыкулы розных аўтараў і рознай тэматыкі: 1. Што павінен ведаць селянін аб лесе; 2. Дзень лесу і камсамол; 3. Лес у жыцці селяніна; 4. Лес у гісторыі чалавецтва; 5. Лясы Беларусі; 6. Чаму трэба весці ў лясох правільную гаспадарку; 7. Як жыве лес; 8. Лясныя пажары і барацьба з імі; 9. Як даглядаць лес; 10 Лес — харaство прыроды. і інш. Тут жа змешчана рэклама часопіса «Плуг», які выдаваўся Наркамземам.

Пасля змены ў 1929—1930 гг. парадыгмы гаспадарчага будаўніцтва краіны з падтрымкі моцных аднаасобных гаспадарак да суцэльнай калектывізацыі з'явілася літаратура па тлумачэнні новай палітыкі і агітацыйныя выданні адпаведнай накіраванасці. Выдавецтва сельгасакадэміі да абвяшчэння масавай партыйнай кампаніі па стварэнні калгасаў падрыхтавала кнігу «Схема складання арганізацыйнага плану калгасу» (Горкі, 1929 г.), прыкладам грунтоўнага і адначасова папулярнага даведніка па арганізацыі і функцыянаванню калгасаў можа быць выпушчаная БДзВ у серыі «Бібліятэка калгасніка» 10-тысячным тыражом кніга «200 пытанняў і адказаў па калгасным будаўніцтве» (1931 г.). Матэрыял у ёй размеркаваны на 21 главу, кожная абагульняе пытанні-адказы адпаведнай тэматыкі: Калгасная сістэма, Арцель — асноўнае звяно калгаснага руху, Арганізацыя калгасу, Склад калгасу, Органы кіраўніцтва калгасу, Сродкі калгасу, План у гаспадарцы калгасу, Арганізацыя працы ў калгасах, Расцэнкі працы ў калгасе, Размеркаванне даходаў калгасу і г.д. Адразу за новастворанымі калгасамі з'явілася літаратура па прапагандзе іх дасягненняў. Адна з першых такіх кніг — «Дэкада ўдарнай работы», расказала пра вопыт працы калгасаў Бацвінаўскага і Касцюшкаўскага сельсаветаў Крычаўскага раёна (выданне партмассектара БДзВ 1932 г.). Жыва напісаны (аўтары А. Джэлюк і Р. Сімховіч) інфарматыўны тэкст быў дапоўнены «карцінкамі» з жыцця.

Сельгассектар БДзВ акрамя падручнікаў для сельгастэхнікумаў і дапаможнікаў для сельскагаспадарчых ВНУ, падручнікаў для раённых калгасных школ і тэматычных плакатаў і лістовак выдаваў 24 серыі-бібліятэкі: Бібліятэка конюха (сярэдні тыраж 5—10 тыс. экз.), Бібліятэка для брыгадзіра-палявода (5—15 тыс.), Бібліятэка брыгадзіра МТФ (3—16 тыс.), Бібліятэка гародніка (3—10 тыс.), Бібліятэка пастуха (4 тыс.), Бібліятэка свінара (10 тыс.),







*Беларускі сялянскі настольны каляндар на 1928 год. Выданне газеты «Беларуская вёска».*

*Вокладка кнігі «Дзень лесу — свята працоўных». Мінск, 1928 г.*

Бібліятэка птушкавода (4—3 тыс.), Бібліятэка даяркі-скотніцы (5 тыс.), Бібліятэка цялятніцы (5 тыс.), Бібліятэка па аўцагадоўлі (5—10 тыс.), Бібліятэка па механізацыі сельскай гаспадаркі (3—5 тыс.), Бібліятэка для аграгурткоў (7—10 тыс.), Бібліятэка для заатэхгурткоў (7—15 тыс.), Бібліятэка калгаснага і саўгаснага актыва (4—25 тыс.), Бібліятэка для хат-лабараторый (5—6 тыс.), Бібліятэка для калгасніка і рабочага саўгаса (3—13 тыс.), Бібліятэка агранома (3—6 тыс.), Бібліятэка заатэхніка (5—6 тыс.), Бібліятэка па ветэрынарыі (5—12 тыс.), Бібліятэка пчаляра (2—3 тыс.), Бібліятэка садавода (3—5 тыс.), Бібліятэка для даследчыкаў (2 тыс.), Бібліятэка лесавода (2—3 тыс.), Бібліятэка трусавода (2 тыс.).

Аўтары, якія пісалі на тэму сельскай гаспадаркі, не заўсёды вылучаліся высокай кваліфікацыяй, часам кніжкі паведамлялі шмат тэорыі, але былі непрыдатнымі для практыкаў. Прыкладам, у 1929 г. як № 112 «Сялянскай бібліятэкі» Белдзяржвыдавецтва выдала кнігу А. Седашова «Пасьба скаціны ў лесе». Як аўтар трактуе тэму відаць са «Зьместу», які складаецца аж з 24 главаў, заключэння і спісу крыніц. Вось пачатак: 1. Лес у даўнія часы. 2. Лясная гаспадарка. 3. Нацыяналізацыя лясоў. 4. Пабочныя карыстанні лесам. 5. Погляд на пасьбу скаціны ў лесе даўней і цяпер. 6. Якая шкода лесу ад пасьбы скаціны. 7. Якія дрэвы найбольш псуе скаціна. 8. Якая скаціна больш шкодзіць лесу і якая меньш. 9. Шкода лесу ад пасьбы скаціны ў залежнасці ад колькасці травы ў лесе. 10. Рэгуляванне лясной пасьбы скаціны і г.д.

Сельскагаспадарчая кніга эвалюцыяніравала разам з грамадствам, якое яе стварала і спажывала. Калі выдадзеная ў 1930 г. Белдзяржвыдавецтвам кніга вучонага-агранома Н.А. Дарожкіна «Галаўня (Сажа) сельскагаспадарчых раслін і спосабы змаганьня з ёю» была добрым, з малюнкамі і фотаздымкамі, даведнікам і практычным дапаможнікам для сялян, то кніга таго ж аўтара, што выйшла ў 1936 г. пад грыфам Інстытута біялогіі АН БССР нагадвае хутчэй агітацыйнае выданне партмассектара БДзВ (з лозунгам «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!» на авантытуле), чым працу, падрыхтаваную ў акадэмічнай установе[479]. Агітацыйныя выданні сельгастэматыкі былі накіраваны на барацьбу з любымі спробамі мацаваць аднаасобныя гаспадаркі альбо крытыкаваць калгасы. Любы супраціў расцэньваўся як варожыя дзеянні супраць савецкай дзяржавы, праява варожай буржуазнай ідэалогіі, аб чым спяшаліся паведаміць на вокладцы, як напрыклад у брашуры Я.Нікуліхіна, выдадзенай сельгассектарам БДзВ: «Буржуазныя тэорыі




*Вокладка кнігі Н.А. Дарожкіна «Спосабы змагання з хваробамі гародных і садовых культур». Мінск, 1932 г.*

*Кніга серы «Сялянская біблiятэка». М. Кацаураў. Дагляд за пасевамі. Мінск, 1924 г.*

*Кніга серы «Сялянская біблiятэка». М. Кацаураў. Аб насенні. Мінск, 1924 г.*

і шкодніцтва ў асваенні новай с-г тэхнікі» (Менск, 1934 г.).

Пасля стварэння ў БССР буйных калектыўных гаспадарак — калгасаў з аб'ёмамі вытворчасці на парадак большымі, чым у аднаасобных гаспадарках, актуальнай стала задача забеспячэння калгасаў машынамі. Рознага кшталту даведнікі, дапаможнікі і падручнікі для трактарыстаў-машыністаў робяцца пастаянна запатрабаваным відам сельгаслітаратуры.

Добрым дапаможнікам для трактарыстаў пачатку 1930-х г. была кніга І. Антонава «За правільнае скарыстоўванне сельскагаспадарчых машын» (Менск, 1933 г.). Аўтар дае парады па абслугоўванні трактара і прычапной тэхнікі, рэкамендацыі па ворыву, інструкцыі па тэхніцы бяспекі. У сельскай гаспадарцы машын было няшмат, але па эксплуатацыі асноўных з іх машын меліся спецыяльныя кнігі-дапаможнікі, напрыклад, «За поўнае скарыстанне ільнацерабілкі «Камсамолка» І. Антонава і Ф. Платнера — выданне Беларускай занальнай ільняной станцыі (Менск, 1933 г.).

Не ўсе «сельскагаспадарчыя» выданні 1920-х гг. зберагліся, і да нашага часу некаторыя з іх з'яўляюцца загадкавымі. Як, напрыклад, упамянутая ў «Спісе выданняў Наркамзему» 1928 г. (надрукаваны на адваротным баку вокладкі кнігі «Дзень Лесу: сьвята працоўных») брашура: Проф. И. Кулагин. Красный Белорусский скот. 1923 г.

Прафесара І. Кулагіна гісторыя навукі не ведае. Праўда, у бібліяграфічным спісе магла быць памылка ў ініцыяле, і меўся на ўвазе вядомы прафесар маскоўскай Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі Мікалай Міхайлавіч Кулагін, які яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы займаўся даследаваннем пчолаў, шкодных насякомых, а таксама вывучаў зуброў Белавежскай пушчы — у 1938 г. ён быў рэдактарам першага акадэмічнага тома «Фаўны БССР». Шмат пазней, у 1934 г., Горацкая занальная даследчая станцыя буйной рагатай жывёлы выдала кнігу А. Сяргеева і М. Крыштаповіча «Чырвона-беларуская парода буйной рагатай жывёлы».

Вялікім попытам карысталіся кнігі па ветэрынарыі. Доктар В.А. Аляксандраў у прадмове да кнігі «Першая дапамога буйной рагатай жывёле і коням у няшчасных выпадках пры раптоўных захворваннях і родах» (Менск, 1933 г.) гаворыць: «Гэтая кніжка напісана мной для колгасаў, саўгасаў і аднаасобных працоўных сялянскіх гаспадарак. ... З тэй прычыны, што вэтэрынарных пунктаў у нас у БССР пакуль што яшчэ мала, то ў няшчасных выпадках і пры раптоўных захворваннях хатніх жывёл часьцей за ўсё звяртаюцца за дапамогай да асоб накшталт знахароў, бабак і г.д., якія ня толькі не дапамагаюць, але часта губяць хворых жывёл... Першае выданне маёй брошуры не гледзячы на вялікі тыраж — 18 тыс. экзэмпляраў, разышлося на працягу году. Гэта — дапоўненае па зместу, дададзены тры малюнкі». Другое выданне гэтай кнігі мела тыраж 10 тыс. экз., надрукаваны ў Бабруйскай друкарні Белпаліграфтрэста.

## Навукова-тэхнічная і прыродазнаўчая кніга

Імкненне пераадолець сельскагаспадарчую скіраванасць гаспадаркі рэспублікі ў перадваенныя гады заўважна і па рэпертуары выдаваных кніг. Тыражы выданняў тэхсектара (часам называецца тэхмассектарам) Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі былі меншыя за тыражы кніг сельскагаспадарчай тэматыкі (у сярэднім 1—5 тыс. экз.), аднак тэхнічная кніга таксама групавалася ў адмысловыя «бібліятэкі», кожная з якіх за за год прыбывала на 2—3 назвы. Гэта былі:

«Бібліятэка радыёлюбіцеля», «Бібліятэка пажарніка», «Бібліятэка рабочага-дрэваапрацоўшчыка», «Бібліятэка тарфяніка», «Бібліятэка трактарыста», «Бібліятэка лесасплаўшчыка», «Бібліятэка лесасека», «Бібліятэка аўтадораўца», «Бібліятэка рабочага швейніка», «Бібліятэка рабочага-масладзела і сыравара па тэхмінімуму», «Бібліятэка рабочага-харчавіка па тэхмінімуму», «Бібліятэка рабочага будаўнічай прамысловасці па тэхмінімуму», «Бібліятэка рабочага-металіста па тэхмінімуму».

Рыхталіся дапаможнікі для рабочых высокай кваліфікацыі — прыкладам «Як карыстацца гранічнымі калібрамі» І. Малыгіна і І. Пятрова (Менск, 1934 г.) альбо «Мэханічныя кавальскія молаты» Э. Прэгера (Менск, 1931 г.), і для інжынераў, прыкладам «Ультракароткія хвалі» Е. Анцэліёвіча — грунтоўны выклад тэорыі па перадавой на той час галіне радыётэхнікі (Менск, 1933 г.).

Апроч гэтага выдаваліся і навукова-практычныя кнігі, прыкладам можа быць «Вытворчасць сьпірытусу» М. Крэйніна (Менск, БДзВ, 1930). Акрамя падрабязнага апісання аб вытворчасці гарэлкі — ад хіміі працэсаў да канструктыўных асаблівасцей перагонных апаратаў, аўтар паведамляе чытачу, што на год выдання кнігі на тэрыторыі БССР працуе 60 бровараў, з якіх 39 знаходзяцца ў саўгасах, а 21 — у калгасах. Магутнасць гэтых бровараў складае каля 553 500 гекалітраў (4,5 млн. вёдзер) на $40^0$, для якіх патрэбна каля 185 000 т (11,25 млн. пудоў) бульбы. Паводле пяцігадовага плана вызначана павесці колькасць бровараў да 68 з магутнасцю ў 740 000 гекалітраў (6 млн. вёдзер) на 40° і перапрацоўкай бульбы 246 000 т (15 млн. пудоў). Яшчэ адной задачай пяцігодкі М. Крэйнін называе змаганне за зніжэнне сабекошту гарэлкі амаль напалову: са 180,06 капейкі за вядро да 91,0 капейкі за вядро.[480]

«Сотням тысяч аўтамабіляў, якія ў бліжэйшы час зыйдуць з канвеераў савецкіх заводаў, патрэбны сотні тысяч умелых кіраўнікоў і механікаў, якія дасканала ведаюць аўтамабіль і любяць машыну. ... Добрых падручнікаў па аўтасправе ў нас да гэтага часу было вельмі мала. З-за адсутнасці аўтараў, якія-б умелі падыйсці да аўтадораўца-нізавіка, прыходзілася абмяжоўвацца часта падручнікамі вельмі няпэўнай вартасці. Цяпер гэты прабел запоўнены. Элементарны курс па аўтасправе, складзены адным з лепшых актывістаў нашага таварыства праф. Е.А. Чудаковым, задавальвае, на наш погляд, патрабаванні аўтадораўскай грамадскасці», — гэта прадмова з кнігі прафесара Е.А. Чудакова «Пабудова аўтамобіля. Элементарны курс» (пераклад з рускай мовы Э. Маеўскага, літпраўка Л. Савёнак. НКЛП БССР, Дзяржаўнае навукова-тэхнічнае выдавецтва. Менск. 1933 г.). Кніга напісана як падручнік з пытаннямі ў канцы кожнай з 23 главаў для замацавання матэрыялу, а таксама малюнкамі, схемамі і чарцяжамі (іх у кнізе 265), якія дапамагаюць зразумець працу асобных вузлоў і механізмаў аўтамабіля. Пераплёт тканевы з залатым цісненнем (назва кнігі і малюнак аўтамабіля), што вызначыла яго вялікі кошт: цана 4 руб., у тым ліку пераплёт 1 руб.

Гомельскі гарадскі тэхнічны кабінет наркаммясцпрома выдаў у 1937 г. цікавы «Тэмнік для рацыяналізатарскіх прапаноў і вынаходак па прадпрыемствах: завод «Пролетарый» імя С.М.Кірава, завод «Рухавік Рэволюцыі» і ложкавая фабрыка». Тэмы былі сфармуляваны вельмі канкрэтна і практычна, для кожнага прадпрыемства асобна; для завода «Рухавік Рэвалюцыі», напрыклад, такія: 1. Як механізіраваць афарбоўку маслёнак і запасных частак? 2. Вынайсці спецыяльнае прыстасаванне для механічнай нарэзкі гаек. Зараз нарэзка робіцца на такарных станках, якія неабходна вызваліць ад гэтай работы. 3. Якой недыфіцытнай сыравінай можна замяніць кардонныя пракладкі ў кандэнсацыйных гаршках, альбо якім чынам дабіцца эканоміі кардону? ... 7. Як лепш і рацыянальней размясціць абсталяванне і варштаты ў цэхах? і г.д.

Выдавецтва Інбелкульта (а пазней яго пераемніцы, Акадэміі навук), якое з канца 1920-х гг. мясцілася ў Мінску на Ленінскай вуліцы, дом 2/35, выдавала «Матар'ялы да Географіі і Статыстыкі Беларусі» і «Матар'ялы да геолёгічнага і глебазнаўчага вывучэння Беларусі», тут у 1926 г. асобным выданнем выйшлі «Працы 1-е Усебеларускае глебазнаўчай канферэнцыі 1924 г.».

*Разварот кнігі М. Крэйніна «Вытворчасць спірытусу». Мінск, 1930 г.*

**Звычайны бесьперапынна-дзейны перагонны апарат.**

Бесьперапынна-дзейны брага-перагонны апарат сыстэмы Саваля (мал. 32) складаецца з наступных галоўных састаўных частак: 1) бражнай калёны—*A*, 2) рэктыфікацыйнай калёны—*B*, 3) кондэнсатара—*C*, 4) халадзільніка—*Д*, 5) бражнага рэгулятара—*E*.

На малюнку паказана, што бражная калёна складаецца з 12 камор. Як паказала практыка апошняга часу, пажадана колькасьць камор павялічваць да 17 для больш пэўнага выдаленьня алькоголю з бражкі. Кожная камора зьверху і зьнізу адлучана горызонтальнымі перагародкамі, або проста талеркамі. Талеркі маюць дзьве дзіркі: адну вялікую—пасярэдзіне, з загнутымі дагары берагамі, а другую меншую—з боку. Над сярэдняй дзіркай зьмяшчаецца каўпак у выглядзе перавернутай міскі. Праз дзірку ўстаўлена трубачка, адкрытая з абодвух бакоў. Трубачка гэта называецца „*зьліўной*“. Ніжняя камора амаль у два разы вышэй за іншыя каморы. У ёй знаходзіцца адкрыты канец бражнай трубы, па якой адыходзіць брага ў бражны рэгулятар. У той самай каморы зьмяшчаецца і „барбатэр“, праз які ў апарат уваходзіць пара.

Над бражнай калёнай знаходзіцца *рэктыфікацыйная* калёна, якая, як відаць з малюнку, складаецца з 15 камор. У даным выпадку каморы аддзелены сіткавымі талеркамі. Сярэдняя вялікая дзірка ў гэтых талерках непатрэбна, толькі з берагу у іх ёсьць па адной зьліўной трубцы. З самай вяршыні верхняй каморы выходзіць труба *d*, якая адводзіць сьпіртусовую пару, а з боку гэтай-жа каморы ўпадае „*пагонная*“ труба—*C*.

*Кондэнсатар*, ці як называюць яго, *дэфлегматар* складае вельмі важную частку перагоннага апарату. Ен становіць сабой цыліндрычную пасудзіну, у сярэдзіне якой знаходзіцца яшчэ адзін цыліндар з падвойнымі сьценкамі і падвойным дном. У кольцавым месцы паміж двума ўнутранымі цыліндрамі ўстаноўлены медзяны зьмеявік, які, у залежнасьці ад велічыні перагоннага апарату, мае 10—15 зваротаў. Ніжні канец трубы зьмеявіка—*S*, злучаны з помпай для брагі, а верхні з трубой—*S*, якая перадае гэту бражку ў верхнюю камору бражнай калёны. Колцавае месца злучана яшчэ трубой—*D* з вяршыняй рэктыфікацыйнай калёны, а трубой—*E*—з халадзільнікам. Апрача таго, з ніжняй часткі

86



Мал. 32. Брага-перагонны апарат сыстэмы Саваля.

Да Другой сусветнай вайны ў АН БССР дзейнічала Камісія Заходняй Беларусі, якая выдавала свае працы ў выдавецтве АН. Як прыклад можна прывесці кнігу Я. Шнэйдэра «Абнішчанне сялянства Заходняй Беларусі і шлях да заможнага жыцця ў БССР» (Менск, 1934): у ёй змешчаны статыстычныя матэрыялы, якія паказваюць становішча сялян Заходняй Беларусі, выкрываюцца беларускія палітычныя дзеячы, якія супрацоўнічаюць з польскім урадам, апавядаецца пра змаганне з кулакамі ў БССР і пра поспехі калгаснага будаўніцтва. Выходзіў у Мінску і адмысловы часопіс — «Заходняя Беларусь».

Літаратура па геаграфіі замежных краін зьяўлялася ад выпадку да выпадку, часта дапаможнікамі ў гэтай галіне былі выданні экпраўсектра ДВБ, напрыклад, «Японія ў Манчжурыі» С. Дашынскага, якая пачынаецца главой «Што ўяўляе сабой Японія як імпэрыялістычная дзяржава» (а заканчваецца, да слова, главой «Мірная палітыка Савецкага Саюзу»), альбо «Літва» В. Міцкевіча-Капсукаса, выдадзеная ў серыі партмассектара ДВБ «Нашы суседзі».

Сусвет заўсёды вабіў чалавека, беларусы тут не сталі выключэннем. «…Бацьком маім, — Нарцызу, што пры жыцці сваім любіў гутаркі а планэтах і матцы Юзэфе, ад каторай ніраз даводзілася чуць: «Вучыся і пазнай нябесныя бегі», — гэта словы прысвячэння з тытульнага ліста кнігі Язэпа Драздовіча «Нябесныя бегі». Кніга выйшла ў 1931 г. у Вільні з ілюстрацыямі (лінарытамі) аўтара і яго коштам для спажывання «афярнапрацуючых дзеля навук». У Савецкай Беларусі падручнікі і папулярныя кнігі па астраноміі заўсёды ў полі зроку выдаўцоў хаця б і таму, што яны спрыялі фарміраванню атэістычнага погляду на сусвет. Для кніг па астраноміі нават у эканамічна цяжкай сітуацыі 1920-х гг. знаходзілася папера лепшага гатунку. У якасці прыкладу можна ўспомніць мінскія падручнікі па астраноміі, віленскія выданні з аўтарскімі літаграфіямі Я. Драздовіча і пераклад фантастычнай аповесці К. Цыялкоўскага «На Месяцы» з прадмовай вядомага папулярызатара навукі Я. Перэльмана.

## Медыцынская кніга

Папулярныя кніжкі з асновамі медыцынскіх і санітарна-гігіенічных ведаў былі пастаяннай часткай рэпертуару беларускіх выдавецтваў. Ужо згаданая серыя Белтрэстдруку «Сялянская бібліятэка» ўключала ў сябе «Парады цяжарным» доктара Цьвікевіча (№ 3), і яго ж «Гадаваньне грудных дзяцей» (№ 13). Рэгулярна выдаваліся кнігі па ваенна-санітарнай справе, напрыклад, «Як захаваць сілы на паходзе» Львова, «Як зберагчы здароўе ў час паходу» С. Бязукладнікава, «Як папярэдзіць намульванне ног» Кофмана, «Гігіена чырвонага байца. Папулярныя гутаркі для чырвонаармейцаў» М. Сандамірскага, «Тэхніка дапамогі раненым і атручаным» Энціна і інш.

У даваенны перыяд беларускія аўтары ў шэрагу выпадкаў стварылі выдатныя дапаможнікі, аналагу якім не было ў СССР. Гэта датычыць вялікага (538 старонак) падручніка для ўрачоў і студэнтаў «Дзіцячая хірургія» (Менск, 1933 г.). Яго аўтар — дацэнт А.Е. Мангейм, выкладчык курсу дзіцячай хірургіі Беларускага медыцынскага інстытута — першы сказ прадмовы зрабіў палітычна актуальным: «Новыя формы работы на падставе шасьці гістарычных умоў т. Сталіна, другая надыходзячая пяцігодка нашага соцыялістычнага будаўніцтва высоўваюць перад намі ўсё новыя і новыя, больш шырокія магчымасці і задачы і прыводзяць нас да новых перамог на профіляктычным фронце па ахове здароўя нашага маладога пакаленьня — будаўнікоў новага соцыялістычнага грамадства...» Але на гэтым палітыка заканчваецца і далей чытач карыстаецца навуковай, прытым напісанай добрай мовай (перакладчык не ўпамінаецца, аўтар напісаў свой тэкст адразу па-беларуску), грунтоўнай манаграфіяй, якая мае 170 ілюстрацый: схематычных малюнкаў і фотаздымкаў. А. Мангейм зазначае, што «рысункі часткаю ўзяты з маёй практыкі, часткаю — з іншых падручнікаў». Заканчваецца кніга «Памяткай дзіцячага хірурга», якая складаецца са 105 каротка сфармуляваных парад на розныя клінічныя выпадкі. Для зручнасці карыстання маецца алфавітны паказальнік, а ў канцы дададзена вялікая спецыяльная бібліяграфія. Аўтар адзначае ў прадмове: «Прабачэннем магчымых недахопаў майго падручніка павінна служыць тое, што гэты падручнік з'яўляецца першай кніжкай па дзіцячай хірургіі ў СССР». Праз два гады ў Мінску пад рэдакцыяй і з прадмовай прафесара М. Сакалоўскага выйшла яшчэ адна беларуская кніга па хірургіі: «Падручнік па хірургіі для медтэхнікумаў» (Вучпедсектар ДВБ). Стваральнік гэтага падручніка — доктар Г.І. Сегаль, старшы асістэнт 2-й хірургічнай клінікі Беларускага дзяржаўнага медыцынскага інстытута ўжо быў вядомы як аўтар некалькіх друкаваных прац, у прыватнасці кнігі «Язва і рак страўніка» (вучпедсектар ДВБ, Менск, 1933 г.). З году ў год ДВБ выдавала папулярныя медыцынскія кніжкі, якія павінны былі павышаць агульны культурны ўзровень насельніцтва і дапамагаць прафілактыцы небяспечных хваробаў: «Тубэркулёз, сыфіліс і алкоголь — вось самыя частныя дастаўнікі сьляпых, вось нашыя самыя злыя ворагі... з 100 дзяцей, акія асьлеплі ў раньнія дзіцячыя гады, 58 асьлепла ад трыпэрнага запаленьня», — гаворыць дацэнт М.А. Дворжац у кніжцы «З чаго сьлепнуць малыя дзеці» (Менск, БДзВ, 1930 г., тыраж 5000 экз.).

Дапаможнікамі па хірургіі, як і масавапапулярнымі выданнямі медыцынскай тэматыкі беларуская медыцынская кніга не абмяжоўвалася. Значнай падзеяй у галіне сацыяльнай медыцыны і прафілактыкі стала манаграфія, падрыхтаваная і выдадзеная Клінікай прафесійных захворванняў Народнага камісарыята аховы здароўя БССР пад рэдакцыяй дырэктара інстытута аховы працы С. Дзіхцяра і дырэктара клінікі прафесійных захворванняў С. Ефім'ява: «Рабочыя дражджавікі гораду Менску: сацыяльна-гігіенічная характарыстыка» (Менск, 1930 г.). Пачынаецца манаграфія главамі з кароткімі звесткамі аб дражджавой прамысловасці і аб прыродзе дражджэй, апісання працэсу вырабу дражджэй «па старому правераному спосабу з зерня», санітарнага апісання дражджавых заводаў і санітарных характарыстык прафесій квасільніка, сепаратарніка, саладзільніка, вальцавальніка і інш. Далей ідуць главы з агульнымі звесткамі аб рабочых дражджавіках горада Мінска, іх сацыяльна-бытавых умовах, іх біяметрыя і апісанні асноўных захворванняў — ад хірургічных да нервова-псіхічных.

Сярод іншых медыцынскіх кніжак звернем увагу на выдадзеную ў 1933 г. (без пазначэння выдавецтва) працу прафесара В. Чэрвакова і доктара М. Мурашкі «Характарыстыка стрэлу і паранненяў з дробнакалібернай зброі» з паралельным тытулам і рэзюмэ на французскай мове.

## Палітычная кніга

Кнігі з біяграфіяй Карла Маркса і творамі Леніна выйшлі ў Мінску яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны. Пасля ўтварэння БССР і заканчэння савецка-польскай вайны найбольшыя колькасныя паказчыкі па тыражах і назвах у Беларусі былі за выданнямі твораў К. Маркса, Ф. Энгельса, У. Леніна, І. Сталіна. Калі ў 1924—1933 гг. было выдадзена 66 назваў іх твораў агульным тыражом 571 тыс. экз., то за 1933—1937 гг. — 137 назваў тыражом каля 3 млн. экз. Толькі ў перадваенныя гады ў БССР выйшла 225 назваў кніг У. Леніна агульным тыражом 2 млн. 290 тыс. экз.[481] Значную лічбу складалі выданні твораў і прамоў партыйных і савецкіх дзеячаў, напрыклад, у Мікалая Бухарына па-беларуску выйшла 6 кніг, у Міхаіла Калініна — 25, у Клімента Варашылава — 27, з якіх 8 перавыданняў кнігі «Сталін і Чырвоная армія» (1930—1941).

Тыражы твораў класікаў марксізму-ленінізму перавышалі тыражы ўсіх іншых відаў літаратуры. Напрыклад, тыраж твораў класікаў беларускай мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР у 1937—1939 гг. склаў 1234 тыс. экз., а класікаў марксізму-ленінізму толькі на беларускай мове — 1668 тыс. экз.[482] Шмат выдавалася літаратуры па прапагандзе вучэння класікаў марксізму, вывучэнню іх біяграфій, методыцы працы з іх творамі. Асаблівым попытам карысталіся кнігі пра У. Леніна, прыдатныя для сістэмы палітвучобы ўсіх узроўняў — ад дзіцячага садка да вайсковай часці, рабочай і сялянскай партячэйкі.

Выданні, прысвечаныя правадырам СССР, часта выдаваліся ў палепшаным паліграфічным выкананні. Чырвоны тканевы пераплёт, вялікія палі, двухколерны друк, малюнкі лепшых мастакоў (Н. Пашкевіча, В. Мурашова, Н. Гусева і А. Волкава) на кожнай старонцы — адна з самых прыгожых кніг, што выйшлі ў 1936 г. у ДВБ, называлася «Вялікаму Сталіну ад беларускага народу» (датавана 11 ліпеня 1936 г.). Гэта кніга альбомнага фармату не мае традыцыйнага тытульнага ліста (на двух паралельных тытулах толькі назва, не пазначаны ні год ні месца выдання), у канцы вершаванага тэксту паведамляецца, што пісьмо падпісалі 2 мільёны працоўных Савецкай Беларусі, а ў вершах пераказалі беларускія паэты Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка і Ізі Харык. Подпісы паэтаў надрукаваны факсімільна. Паралельна з арыгінальным беларускім тэкстам надрукаваны пераклад на рускую мову, выкананы паэтамі Аляксандрам Безыменскім, Міхаілам Галодным, Міхаілам Ісакоўскім і Аляксеем Сурковым. Альбом быў здадзены ў мінскую друкарню імя Сталіна 20 лістапада 1936 г., а ўжо 22 лістапада падпісаны да друку. У наступным, 1937 г., выданне было паўторана, але на гэты раз без вялікай спешкі: здадзена ў друкарню 17 студзеня, а падпісана да друку 4 красавіка. Другое выданне было аднамоўным (толькі беларускі тэкст), адпаведна мела ўдвая меншую колькасць старонак і меншую колькасць ілюстрацый, меншы фармат і ў шэсць разоў большы тыраж — 20 120 экз. (першае выданне — 3185 паасобнікаў).

У 1936 г., напярэдадні арганізаванага Сталіным і Камуністычнай партыяй «вялікага тэрору» калектыўных песнапенняў беларускіх паэтаў да маскоўскіх кіраўнікоў выйшла аж два. Першае было надрукавана выдавецтвам ЦК КП(б)Б у верасні і называлася па-былiннаму шырока: «Дванаццаць песень пра нашу непераможную Чырвоную Армію, пра яе тварца і натхніцеля вялікага Сталіна, пра яе палкаводца Клімента Варашылава, пра гераічныя паходы і бітвы, пра мужнасць сыноў беларускай зямлі, пра надзейную варту совецкіх граніц, пра еднасць народу і арміі, пра нашых шчаслівых і смелых дзяцей, пра нашу сталінскую радасную моладзь. Прысвячаецца слаўнай рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі і яе правадыру — першаму маршалу краіны соцыялізма Кліменту Ефрэмавічу Варашылаву». Аўтарамі былі Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка і Пятро Глебка. Кнігу склалі дванаццаць вершаў апавядання пра цяжкі лёс беларусаў за часамі цара і паноў, пра мужных і магутных палкаводцаў Варашылава і Аржанікідзе, пра моц Чырвонай Арміі сёння і пра жаданне народу падтрымаць армію. Асновай дзесятай песні быў знакаміты верш Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык»: ён заканчваўся радкамі, якія ў хрушчоўскія і пазнейшыя часы цэнзура паслядоўна выкідала з усіх (нават акадэмічных) выданняў:

…

На моры зірнуць хоць раз вокам,
Як ходзяць па іх караблі.
Ляцеці далёка, высока,
Ды так пабываць у Крэмлі.

І там, з-пад нябеснае далі,
Гукнуць над зямлёй і людзьмі:
— Дзень добры, таварыш наш Сталін!
— Паклон з самалёта прымі!

Прамову тваю, правадыр наш, мы помнім
Пра ўзняты вялікі стаханаўскі рух.
Мы кожнае слова прачулі, і сёння—
Адзін вырабляе, што некалі ўдвух.



Рушко і Гунько, і Арэстаў, і Зубаў,
І Гладышаў, Мельнікава і Харнас—
І многа іх лепшых, настаўнік наш любы,
Твае гэта вучні—героі між нас.



Таварыш Вілетнікава і Слесарова,
Еўсюціна, Розенберг, Туфар, Скабло—
Паэты ім дораць гарачае слова.
Ім славаю яснае сонца ўзышло.

Стаханаўскім стала жыццё маладое,
Стаханаўцы—дочкі твае і сыны.
Растуць з камсамольскага племя героі,
Растуць з піонерскіх атрадаў яны.



24

Растуць нашы сілы за працаю плённай,
Не вырве ў нас вораг наш сталінскі руль.
І неба ў нас крэпасць сваёй абароны,
І ў небе ў нас ходзіць крылаты патруль.

Адважны і пільны ўзлятае высока,
Краіну сваю аглядае штодня—
І цешыцца сэрца, і цешыцца вока:
Якое раздолле, прастор, шырыня!



25

*Разварот кнігі «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа». Мінск, 1937 г.*

Тыраж першага выдання «Дванаццаці песень» быў 15 тыс. паасобнікаў. У 1940 г. кнігу перавыдалі (у чырвонай каленкоравай вокладцы, крыху меншым за першае выданне фарматам) у рэдакцыі мастацкай літаратуры Белдзяржвыдата тыражом 5 тыс. экз. Тэкст застаўся нязменным, але змянілася напісанне партыйнага дэвізу на авантытуле: калі ў выданні 1936 г. дэвіз гучаў «Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!», то ў выданні 1940 г. крыху іначай: «Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!». І ў першым, і ў другім выданні «Дванаццаць песень» заканчваюцца трыма здравіцамі-тостамі:

Падымем-жа чаркі сям'ёю народаў
За армію нашу, за грозную сілу,
За маршала нашых геройскіх паходаў, —
Хай доўгія годы жыве Варашылаў!

Падымем-жа чаркі за партыю нашу,
Што нас прывяла да здабыткаў вялізных,
За мудры ЦК, баявы і бясстрашны, —
Хай славіцца Ленінскі штаб большэвізма!

Падымем-жа самыя поўныя чаркі
За вобраз, раскрыўшы нам светлыя далі,
За слаўнае імя, за геній наш яркі, —
Хай славіцца Сталін!

Кіруючая ў БССР камуністычная партыя стварыла такі парадак, пры якім прынагодная палітычная кніга падмацоўвала ўсе палітычныя кампаніі ўлады і пры гэтым з'яўлялася вельмі аператыўна. Адразу ж пасля другой усебеларускай канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэвалюцыі (МОПР) Цэнтральны камітэт МОПРа Беларусі ў 1925 г. выдаў на чатырох мовах (беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай) брашуру «Дзейнасць МОПР'у ў Беларусі», якая была справаздачай за першы год працы гэтай арганізацыі ў рэспубліцы, а таксама змяшчала тэкст прамовы Р. Зіноўева на 1-м Усесаюзным З'ездзе МОПРа ў Маскве 15 мая 1925 г. (Белы тэрор і задачы МОПРу), ліст «Да палітычных зняволеных Беластоцкай турмы», склад ЦК МОПРа Беларусі, абранага на 2-й Усебеларускай канферэнцыі МОПРа і іншыя матэрыялы. Партмассектар ДБВ рэгулярна рыхтаваў актуальныя выданні на міжнародныя тэмы накшталт «Пуанкарэ прагне вайны», альбо «Нэгры пад пыгнётам імпэрыялізму» (абедзве Мінск, 1931). Тэмы міжнародных адносін і жыцця ў замежных краінах апрача кніг пастаянна былі ў сферы ўвагі беларускай перыёдыкі. Палітычна актуальныя матэрыялы на тэмы міжнароднага жыцця змяшчалі нават дзіцячыя газеты і часопісы.




*Вокладка кнігі «Дзейнасць МОПРа ў Беларусі». Мінск, 1925 г.*




*Вокладка кнігі Д. Падмора «Негры пад прыгнётам імперыялізму». Мінск, 1931 г.*

Выходзілі аітацыйныя кнігі і ў абласных цэнтрах. Напрыклад, у 1936 г. Гомельскі гарком КП(б)Б у серыі «У дапамогу партработніку» выдаў асобнай кніжачкай (тыражом 3000 экз.) перакладзены на беларускую мову артыкул з цэнтральнай газеты «Правда»: «Прыём у партыю і лёгкадумная кампанейшчына».

Пабудова сацыялістычнай дзяржаўнасці патрабавала ад кіраўніцтва БССР новых святаў. Частка з іх былі агульнасавецкія (1 мая, 7 лістапада), да такіх святаў выдаваліся адпаведныя кнігі. Праца С. Баркоўскага «1 мая на Беларусі» была так запатрабавана, што яе перавыдалі двойчы: у Галоўпалітасвеце ў 1927 г., а потым — выпраўленую і дапоўненую — пад грыфам Беларускай акадэміі навук у 1932 г. А для дзяцей аб тым, як святкавалася 1-е мая да Кастрычніцкай рэвалюцыі апавядалася ў перакладзенай з рускай мовы кнізе М. Алейнікава «Дзіўнае свята».

Пачалі адзначаць і мясцовыя беларускасавецкія памятныя падзеі. Да іх належаў свой «Чырвоны Кастрычнік», кульмінацыяй якога стала вызваленне ад белапалякаў. Абгрунтаванне гэтага свята зрабіў старшыня ЦВК БССР А. Чарвякоў на старонках кнігі, якая была выдадзена ў 1925 г. у Клімавічах: «5 гадоў з часу вызвалення Беларусі ад белапалякаў: 11/VII 1920 г. — 11/VII 1925 г.». «Савецкая Беларусь лічыць «Чырвоным Кастрычнікам» час, пачынаючы з кастрычніка 1917 года й канчаючы 1920 годам», — гаворыць ён на першай старонцы гэтай кнігі, у артыкуле «Свята «Чырвонага Кастрычніка» на Беларусі». Далей канспектыўна паведамляюцца факты скончанай пяць год назад вайны, якую сам Чарвякоў прайшоў на пасадзе начальніка палітаддзела Гомельскага ўмацаванага раёна Заходняга фронту Чырвонай Арміі. Вось апошнія фразы артыкула:

«…Прайшоўшы 600 вёрст наперад, Чырвоная армія прымушана была адыйсці на 400 вёрст назад.

Але 200 вёрст засталося за рэвалюцыяй.

Менск стаў свабодным, чырвоным цэнтрам свабоднай Савецкай Беларусі.

Акрамя таго, у гэтай выдадзенай Клімавіцкім акругкомам КП(б)Б кніжцы змешчаны артыкул прафесара У. Ігнатоўскага «З гісторыі Беларусі. Польская окупацыя 8/VIII 1919 — 11/VII 1920», успаміны ўдзельнікаў вайны і літаратурныя творы, сярод якіх «Ад веку мы спалі» (беларуская Марсельеза) на яўрэйскай мове, а таксама песьня «Аружжам на сонцы блішчэўшы». Апошняя мае словы, якія неаднназначна паказваюць нязгоду з вынікамі прайгранай вайны:



Прадмова

Акругком КПБ выдаючы гэты зборнік ставіў сабе заданьнем даць матар'ялы нашым вясковым працаўнікам якія поўнасьцю ахопнівалі-бы ўсе пытаньні зьвязаныя з правядзеньнем сьвята пяцёхгодзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

У зборніку апрача кіруючага палітычнага матар'ялу, які можа быць дапамогай дакладчыкам, зьмешчаны і ўспаміны удзельнікаў вызваленьня; літаратурныя творы прысьвечаныя да сьвята і сцэнічны абразок, які можа быць дапасованы для пастаноўкі ў кожнай нашай вёсцы.

Рэдакцыя спадзяецца, што мэты пастаўленыя Акругкомам КПБ выдаючы гэты зборнік будуць ажыцьцяўлены.

*Рэдколегія.*

Сьвята „Чырвонага Кастрычніка" на Беларусі.

Савецкая Беларусь лічыць «Чырвоным Кастрычнікам» час, начынаючы з кастрычніка 1917 года й канчаючы 1920 годам.

Адваяваньне Менску Чырвонай арміяй у ліпені 1920 г. завяршыла сабою тую барацьбу супроць буржуазіі, якую пачалі рабочыя й сяляне Беларусі ў 1917 годзе й якая дзякуючы цэламу шэрагу своеобразных асаблівасьцяў Беларусі мела надта зацягнуты характар.

Лёс Менску на гэты раз адчыніў сабою лёс рэвалюцыі на Беларусі.

Вось галоўныя моманты барацьбы на Беларусі і роля Менску ў гэтай барацьбе.

Кастрычнікаўскі пераварот у Менску ў 1917 годзе захапачаў сабою захват штабу Заходняга фронта, папярэдзіў магчымасьць

*Разварот кнігі «5 гадоў з часу вызвалення Беларусі ад белапалякаў». Клімавічы, 1925 г.*

...
І ўсе, калі дружна зьбяромся,
І станем дружна ўсе, як адзін,
Дык тады ад паноў адаб'ёмся
І панам Беларусь не дадзім!

К Чарвякову нашы словы
Мы чакаем твой загад —
У заходняй Беларусі
Мусіш наш прымаць парад!

Кнігамі адзначалі юбілейныя (і не толькі) даты Беларускай Савецкай Рэспублікі. У 1924 г. пад грыфам Цэнтральнага аддзела работніц і сялянак ЦК КП(б)Б у Мінску была выдадзена брашура з прамовай старшыні ЦВК СССР і БССР Аляксандра Чарвякова «Сем гадоў улады рабочых і сялян», яе вокладка ўпрыгожана графічным партрэтам нядаўна памёрлага У. Леніна. Тэкст з апісаннем дасягненняў савецкай улады напісаны ў форме звароту да працоўных жанчын. У лістападзе таго ж 1924 г. пачалося выданне на беларускай мове часопіса для жанчын, які быў названы «Беларуская работніца і сялянка». «Беларуская жанчына захавала некранутай беларускую мову, і цяпер яшчэ той, хто хоча навучыцца, якой мовай трэба гаварыць з народам, з селянінам, дык няхай часьцей заглядвае на вёску і вучыцца прыгожай, мілагучнай, жывой беларускай мове ў беларускай жанчыны», — пісаў А.Р. Чарвякоў[483].

Напярэдадні дзесяцігадовага юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі, у 1926 г., сакратарыят ЦВК БССР выдаў кнігу Я.А. Пятровіча (Янкі Нёманскага) «Аднаўленая Беларусь», дзе на падставе статыстыкі паказваліся рэальныя дасягненні рэспублікі і называліся перспектывы яе далейшага развіцця.

Праз год увесь СССР адзначаў першую круглую дату Кастрычніцкай рэвалюцыі — 10-гадовы юбілей. З гэтай нагоды ў Мінску была створана Цэнтральная камісія ЦВК БССР па адзначэнні 10-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая разам з Інстытутам гісторыі партыі ЦК КП(б)Б праз Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выдала з гэтай нагоды дзве кнігі А. Чарвякова. Адна з іх называлася «За Савецкую Беларусь» і выйшла пад шыльдай гістпартаддзела ЦК КП(б)Б і Цэнтральнай камісіі ЦВК БССР па адзначэнні 10-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. У прадмове аўтар абвяшчае, што гэта праца «ёсць спроба даць кароткі, канспектыўны агляд галоўных этапаў барацьбы за Савецкую Беларусь…», а таксама заклікае, каб «кожны чытач, прагледзеўшы кнігу, запаліўся б жаданнем паправіць яе, палепшыць, дзеля чаго напісаў бы мне зусім шчыра і адкрыта аб усіх добрых і дрэнных




*Вокладка кнігі А. Чарвякова «Сем гадоў улады рабочых і сялян». Мінск, 1924 г.*

баках кнігі… Разам з рабочымі і сялянамі, разам з працоўнай інтэлігенцыяй мы творым новае сацыялістычнае жыццё, разам трэба пісаць і кнігу нашага жыцця». У прадмове ёсць падзякі тым, хто дапамагаў збіраць матэрыял (Ю. Ігнаценку і У. Каліноўскаму), а таксама Самуілу Агурскаму[484] і Стэфану Гельтману[485] за заўвагі, якія аўтар улічыў і ўнёс у тэкст да надрукавання.

Кніга «беларускай палітычнай сучаснасьці», як вызначыў яе сам аўтар, пачынаецца главой «На перагібе гісторыі», з агульна-тэарэтычнымі заўвагамі наконт развіцця грамадства і гісторыі, у канцы якой выснова: «Чалавечае грамадства ў бягучы момант знаходзіцца на перагібе сваёй гісторыі, у паласе сусьветнай Кастрычнікавай рэвалюцыі, пачатак якой палажыла Кастрычнікавая рэвалюцыя ў былой Расіі». Другая глава — «Беларусь перад Кастрычнікавай рэвалюцыяй» — гэта спроба разабраць вытокі і прычыны нацыянальна-вызваленчага руху Беларусі як рэгіёна сутыкнення расійскіх і польскіх эканамічных і дзяржаўных інтарэсаў, а таксама супярэчнасцяў каталіцызму і праваслаўя. Агаворваецца цяжкае эканамічнае становішча Беларусі ў перыяд царскай Расіі, слабае развіццё культуры (у 1914 г. на 1000 чалавек насельніцтва 327 пісьменных, а на вёсцы 276 разам з тымі, хто вучыцца), у той час як на Украіне 416, у еўрапейскай Расіі 434, а ў заходнееўрапейскіх краінах непісьменных ужо няма, або ёсць вельмі мала. З гэтага становішча вынікаюць прычыны рабочага руху ў гарадах Беларусі: аўтар успамінае забастоўкі ў Мінску, Віцебску, Вільні, Беластоку, Брэст-Літоўску, Горадні, Гомелі.

Трэцяя глава названа «Кастрычнік на Беларусі». Гаворка ідзе пра стан рэчаў паміж Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыямі са спасылкамі на кнігу В. Кнорына «1917 год в Белоруссии и на Западном фронте». Чарвякоў апісвае стварэнне 25 сакавіка 1917 г. у Мінску Беларускага Нацыянальнага Камітэта, які высунуў лозунг нацыянальна-культурнай аўтаноміі, і ўтварэнне 25 сакавіка 1918 г., у часы нямецкай акупацыі, незалежнай «Беларускай Народнай Рэспублікі» і хадайніцтва перад нямецкім кайзерам Вільгельмам аб прыняцці Беларусі пад сваю высокую руку. Чарвякоў даводзіць бальшавісцкае тлумачэнне падзей і спрачаецца з Я. Варонкам аб тым, які ж быў Усебеларускі Кангрэс 1917 года, ці ёсць праўдай тое, што хоць Кангрэс стаяў на савецкай платформе, але Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту разагнаў яго, абапіраючыся на латышскія і кітайскія атрады.

Гаворачы аб Беларусі — дзяржаве саветаў, яе кіраўнік прадстаўляе чытачу статыстычную інфармацыю: колькі ў якія саветы каго абрана (рабочых, сялян, саматужнікаў, інтэлігенцыі, чырвонаармейцаў і да т.п.). Пятая глава апавядае пра сацыялістычнае будаўніцтва Савецкай Беларусі. Самай значнай палітычнай падзеяй пасля савецка-польскай вайны стала павелічэнне тэрыторыі рэспублікі ў красавіку 1924 г. за кошт паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерань: «Частка задачы па аб'яднанні беларускіх тэрыторый у складзе БССР такім чынам ужо выканана. Гэта дае ўпэўненасць, што будзе выканана і далейшае аб'яднанне ў складзе БССР тых тэрыторый, што часова, з прычыны неспрыяльных палітычных умоў, дагэтуль падпарадкаваны суседнім дзяржавам» (С. 59—60). Кіраўнік дзяржавы дае аналіз прамысловасці, сельскай гаспадаркі, банкаўскай справы, нацыянальнага складу краіны, паведамляе статыстыку адчыненых школ, хат-чытальняў, бібліятэк, з гонарам гаворыць пра 4 ВНУ рэспублікі: БДУ і Камуністычны універсітэт у Мінску, Віцебскі ветэрынарны інстытут і Горы-Горацкую сельгасакадэмію. Па справе правядзення такой важнай для БССР палітыкі беларусізацыі А. Чарвякоў паведамляе, што з

1 кастрычніка 1922 г. па 1 кастрычніка 1926 г. выдадзена на беларускай мове 306 назваў кніг тыражом 2 700 000 экз. Працэнт беларусізацыі дзяржаўных устаноў выглядае наступным чынам: апарат ЦВК — 100%, Савет Народных Камісараў — 100%, Наркамасветы — 100%, Наркамзем — 50%, Наркамам унутр. спраў — 30%, Наркамам сац. забеспячэння — 30%. Прафсаюзы: асветы — 100%, зямлі і лесу — 75%, сав. і гандлёвых служачых — 50% і г.д. Яшчэ адна важная на гэты раз гаспадарчая задача — вырашэнне зямельнага пытання ў Савецкай Беларусі, якое адбываецца праз забеспячэнне сялян зямлёй, меліярацыя дае магчымасць асвойваць новыя землі.

Асобная глава ў кнізе кіраўніка Савецкай Беларусі прысвечана беларускаму пытанню па-за межамі Саюза Савецкіх Рэспублік. А. Чарвякоў паказвае выдатную дасведчанасць наконт сітуацыі ў Заходняй Беларусі (забяспечанасць сялян зямлёй, удзел КПЗБ у сацыяльнай барацьбе мас, роля Беларускай сялянска-работніцкай грамады, створанай у маі 1925 г., на выбарах у польскі парламент (сойм). Кніга «беларускай палітычнай сучаснасьці» паведамляе чытачу пра Таварыства беларускай школы, зарэгістраванае МУС Польшы ў 1926 г., пра тое, што партыя Беларускі сялянскі саюз выдае газету «Сялянская ніва», лідэр Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ксёнз Адам Станкевіч выдае ў Вільні лацінкай газету «Беларуская крыніца», у Латвіі выходзіць газета «Голас беларуса» і там дзейнічаюць беларускія таварыствы «Рунь» і «Беларуская хата».

Асобны падраздзел «Беларуская палітычная эміграцыя» расказвае пра гісторыю Урада БНР аж да 2-й палітычнай беларускай нарады 15 кастрычніка ў Берліне і падпісанне пастаноў А. Цвікевічам, К. Езавітавым, І. Пракулевічам, А. Галавінскім і Л. Зайцам. Чарвякоў крытыкуе беларускіх дзеячаў В. Ластоўскага і К. Душэўскага, а заканчвае главу (а з ёй і ўсю кнігу) сказам: «Шэраг былых удзельнікаў Ураду БНР цяпер добра і шчыра працуе ў Савецкай Беларусі» (С. 135).

Сапраўды, кіраўнік БССР, ён жа аўтар кнігі «За Савецкую Беларусь», А. Чарвякоў выглядае як нацыянальны лідар, які дэманструе дасведчанасць і клопат пра беларускія справы.

З нагоды 15-й гадавіны вызвалення БССР ад белапалякаў і дня ўручэння ордэна Леніна аддзел культуры і прапаганды ленінізму ЦК КП(б)Б падрыхтаваў брашуру «БССР — ордэнаносная (Менск, 1935 г.)», тэксты якой вельмі значна адрозніваліся ад тэкстаў папярэдніх юбілейных выданняў. 11 ліпеня, гэтую радасную шчаслівую дату ў гісторыі нашай Рэспублікі, рабочыя, сяляне, усе працоўныя БССР з года ў год адзначаюць як найвялікшае свята, — гаварылася на пачатку тэксту. — А ў гэтым годзе ў гэты ж дзень урадам Савецкага саюза будзе ўручан БССР ордэн Леніна — вышэйшая ўзнагарода ў Савецкім саюзе — за выдатныя поспехі, дасягнутыя ёю на працягу раду гадоў... Далей распісаны дасягненні: «Развілася ў нас і выдавецкая справа. У БССР штогод у сярэднім выходзіць больш тысячы назваў кніг з агульным тыражом да 10 000 000 экзэмпляраў. І ўсё ж кніг не хапае, бо расце цяга працоўных да кнігі, да ведаў, да навукі, да мастацкай літаратуры. За 1928—1934 гады ў БССР выпушчана 1450 назваў адной мастацкай літаратуры з тыражом 4 472 000 экзэмпляраў. За гэты ж час творы беларускіх пісьменнікаў разышліся ў дзесятках тысяч экзэмпляраў: творы пісьменніка Лынькова ў колькасці 71 000 экз., Коласа — 63 000 экз., Купалы — 56 000 экз., Александровіча — 50 000 экз. Агромны попыт на мастацкую літаратуру прад'ўляе калгасная вёска»[486]. Насельніцтву рэспублікі таксама паведамлялася, што «ў 1929—1930 гадах КП(б)Б выкрыла і разграміла контррэвалюцыйную арганізацыю беларускіх нацдэмаў, члены якой (Ігнатоўскі, Прышчэпаў, Баліцкі і інш.) пралезлі ў партыю... У далейшым



*Вокладка кнігі А. Чарвякова «За Савецкую Беларусь». Мінск, 1927 г.*

КП(б)Б выкрыла новую контррэвалюцыйную арганізацыю, якой кіраваў так званы «Беларускі нацыянальны цэнтр» — партыя рухалася ў бок абсалютнай улады правадыра, профіль якога фігураваў на вокладцы побач з профілем Ул. Леніна[487].

Сярод агітацыйнай літаратуры былі малатыражныя эксклюзіўныя выданні, напрыклад, кніга: «Комсамольскі сьпеўнік. Дэлегату васьмога ўсебеларускага зьезду ленінскага камсамолу ад ячэйкі Л.К.С.М.Б. і Профтэхшколы Полігр. Вытворчасьці Беларусі» (Менск, 1926 г.). У спеўніку тэксты песень (без нот) падзелены на тры раздзелы: рэвалюцыйныя, камсамольскія, народныя.

Рэвалюцыйных песень няшмат. Гэта «На смерць Чарнышэўскага» з заўвагай: «Песьня, якую любіў Ільліч», «Варшавянка», «Па пыльнай дарозе», «Пахаронны марш» і папулярныя аж да распаду СССР «Кавалі»:

Мы — кавалі з юнацкім духам,
Куём мы будучыні дні —
Наш цяжкі молат узлятае пухам
І ў сталь магутную зьвініць.

З «камсамольскіх» беларускай моладзі прапанаваны папулярны «Марак»:

Ты, марак, прыгожы сам сабою,
Дваццаць год табе цяпер якраз;
Палюбі мяне, марак, душою,
Што ты скажаш у адказ?
Па марам, па марам,
Сёньня тут, заўтра там.
Па марам, марам, марам,
Сёньня тут, а заўтра там, —

а таксама жартоўная песня «Чумчары» з палітычна актуальнымі словамі:

Аб чым талкуе нам эс-эр —
чумчары чурара.
Не прызнаю Эс-Эс-Эр
Ку-ку, ха-ха.
Аб чым нам кажа Мілюкоў? —
чумчары чурара.
Не прызнаю бальшавікоў.
ку-ку, ха-ха…

і г.д.

Да юбілейных выданняў належыць «10 год Савецкай Беларусі» — дадатак да № 301 газеты «Зьвязда» (30—31 снежня 1928 г.) — 32 старонкі на газетнай паперы з артыкуламі пра беларускую гаспадарку за 10 гадоў: асвятляюцца прамысловасць, кааперацыя, гандаль, савецкія і калектыўныя гаспадаркі, кінафікацыя.

У 1934 г. у Партыйным выдавецтве выйшла кніга «XIV год вызвалення БССР ад белапалякаў (матэрыялы для дакладчыкаў і агітатараў)» С. Анціпенкі і А. Джэлюка (тыраж 10 тыс. экз.). Будова гэтай кніжкі ў нечым тыповая, складаецца з трох раздзелаў: 1. Белапольская акупацыя. 2. Сацыялістычнае будаўніцтва ў БССР. 3. Міжнароднае становішча.

Як прыклад актуальнай партыйнай кнігі можна прыгадаць «Міжнароднае становішча і нашы задачы»[488]. У ёй надрукавана Урадавае паведамленне (Масква, Крэмль, 8-га чэрвеня 1927 г.) аб тым, што ў Варшаве забіты паўнамоцны пасол СССР у Польскай Рэспубліцы тав. Войкаў, а таксама аб шэрагу здзейсненых і прадухіленых варожых тэрактаў у Маскве, Ленінградзе і іншых месцах СССР. Адзін з названых тэрактаў — чыгуначная катастрофа паміж станцыямі Ждановічы і Менск, у выніку якой загінуў намеснік паўнамоцнага прадстаўніка АДПУ па Беларускай ваеннай акрузе тав. Апанскі, які вёз на дрызіне толькі што арыштаванага польскага шпіёна. Разам з Апанскім забіты шафёр і цяжка паранены два супрацоўнікі. «Урад заяўляе, што абапіраючыся на шырокія працоўныя масы і на іх бязьмежны гераізм, ён ачысьціць краіну ад яе ворагаў і здолее абараніць будаўніцтва сацыялізму ад усякіх замахаў», — гаварылася ва Урадавым паведамленні. Асаблівасці бягучай сітуацыі раскрыты ў дакладах т. Кнорына ў Мінску (6 чэрвеня) і Гомелі (12 чэрвеня) — кіраўнік беларускіх камуністаў асвятліў няпростую для СССР міжнародную сітуацыю. Кнорын закляйміў Троцкага і Зіноўева як асоб, якія дапамагаюць Чэмберлену і ідуць супроць Камінтэрна… Працяг аналізу палітычнай сітуацыі і новыя канкрэтныя факты чытач можа знайсці ў гэтай жа кнізе, у стэнаграме даклада т. Галадзеда на пашыраным пленуме Мінскага савета 13 чэрвеня 1927 г. Мікалай Галадзед палічыў патрэбным расказаць біяграфію забойцы Войкава — беларускага хлопца Барыса Кавэрды, які вучыўся ў беларускай гімназіі, быў актыўным членам партыі Беларуская Грамада, а потым быў прыняты ў рэдакцыю газеты «Беларускае слова». Галадзед выкрывае забойцу як агента дэфензівы, а шматлікія падрабязнасці ў яго дакладзе сведчаць пра тое, што ў Мінску вельмі добра ведалі пра віленскія беларускія справы. Ужо самі загалоўкі асобных частак прамовы М. Галадзе-







Вокладка кнігі Б. Вансоўскага і Г. Рудаміно «Куды вядзе Пілсудскі Польшчу». Мінск, 1927 г.

Вокладка кнігі «Камсамольскі спеўнік». Мінск, 1926 г.

да вымалёўваюць логіку аўтара: «Адказнасць Польшчы за забойства тав. Войкава», «Ніякіх прынцыповых зьмен у правадзімай да гэтага часу палітыцы ня будзе», «Ці магчыма вайна?», «Цяжкасьці нашага будаўніцтва», «Бліжэйшыя задачы Менскага Гарсавету», «Трэба рашуча праводзіць беларусізацыю і абслугоўваньне нацменьшасцяў».

Палітычна-актуальныя кнігі выходзілі як у сталіцы, так і «на месцах». Напрыклад, у 1933 г. гомельскі гарком КП(б)Б выдаў агітацыйную брашуру, прысвечаную чыстцы партыі, у якой былі надрукаваны партыйныя рашэнні і рэкамендацыі па правядзенні «чысткі».

Нацыянальна-культурнае развіццё Беларусі партыя будавала на адмаўленні хрысціянскіх (як і іншых рэлігійных) каштоўнасцей, грунтуючыся на ленінскай выснове пра тое, што «рэлігія з'яўляецца адной з самых гнюсных рэчаў, якія толькі ёсць на свеце»[489]. Гэты пастулат вызначаў скіраванасць масавай антырэлігійнай літаратуры, якую Белдзяржвыдат выпускаў пераважна ў серыі «Бібліотэка бязбожніка». У 1929 г. у ёй выйшла кніга А. Святлова «Рабселькоры супраць папоўства і рэлігіі», пабудаваная, як паведамляе аўтар, на матэрыялах кнігі Е. Яраслаўскага «Мысли Ленина о религии», а таксама артыкулах з саюзных часопісаў «Лицом к деревне», «Безбожник у станка» і газет. Для атэістычнай працы аўтар рэкамендуе рабкорам змяшчаць у насценгазеты антырэлігійныя прыпеўкі: прыпеўкі варта даваць тыя, якія спяваюць на рабочай ускраіне, на вёсцы.

Атэістычна-антырэлігійная прапаганда выкарыстоўвала дасягненні сучаснага прыродазнаўства: навуковыя аргументы знайшлі адлюстраванне ў кніжцы Гурава «Дарвінізм і атэізм», а таксама выдадзенай «да свята» ў 1930 г. кнізе «Антывелікодны зборнік». У гэтым жа годзе серыя «Бібліятэка бязбожніка» ДВБ папоўнілася цалкам агітацыйнай брашурай В. Дзьмітрыева «Цемра і забабоны» (у перакладзе з рускай мовы М. Сеўрука) — тыраж гэтая кніжачка мела нашмат большы, чым сярэдні тыраж паасобніка «Сялянскай бібліятэкі», — 7 тыс. экз. У 1935 г. палічка з атэістычнай літаратурай папоўнілася перакладзеным з рускай мовы «Антырэлігійным падручнікам» пад рэдакцыяй А. Лукачэўскага, які пад грыфам Цэнтральнага Савета Саюза Ваяўнічых Бязбожнікаў выдаў агітмассектар ДВБ.




*Вокладка кнігі В. Язвіцкага «Богі і д'яблы». Мінск, 1931 г.*

*Антырэлігійныя выданні «Беларускага дзяржаўнага выдавецтва». 1920-я гг.*

Для адукацыі жанчын у дадатак да аднайменнага часопіса ДБВ выдавала «Бібліятэку работніцы і сялянкі». У 1920-я гг. у ёй з'явіліся шматлікія кнігі на мовах народаў БССР, напісаныя спецыяльна для жанчын: «Што павінна ведаць работніца і сялянка аб падатках» Грундфэста (па-беларуску), «Што трэба ведаць работніцы аб прафсаюзах» Н. Танаеўцавай (па-беларуску, па-руску і паяўрэйску), «Як работніца і сялянка кіруюць у СССР» Сташэўскага (па-беларуску і папольску), «Правы работніц і сялянак у СССР» А. Калыгінай (па-беларуску і па-яўрэйску), «Сельская гаспадарка і сялянка» Э. Прышчэпава (па-беларуску) і інш.

Дзеля замены старога новым распрацоўваліся новыя схемы культурнага адпачынку з тэатрам, камсамольскімі вечарынамі. Увасабленнем такой распрацоўкі з'яўляецца кніга «Чырвоная сялянская вечарынка», выдадзеная ў 1927 г. пад грыфам Галоўпалітасветы БССР (складальнікі П. Капаевіч, М. Сяўрук і С. Баркоўскі).

Да агітацыйнай антыкулацкай літаратуры належыць брашура М. Шміта «Справа № 9» (Мінск, 1930). Мяккая вокладка кнігі аформлена ў выглядзе папкі крымінальнай справы: пазначаны нумар справы, даты, калі справа пачата і калі скончана. Слова «Справа» на вокладцы набрана друкаваным шрыфтам, астатняя частка загалоўка, як гэта практыкавалася ў рэальным крымінальным справаводстве, напісана нібыта ад рукі: «Арыштантская крымінальная СПРАВА па абвінавачванні кулакоў хут. «Садкі» Зянкевічаў Міхася і Міхася Міхасёва па 139[в] арт. К.К. Пачата 24 студзеня 1930, скончана 4 сакавіка 1930». У самой кніжцы апавядаецца гісторыя не менш арыгінальная, чым вокладка гэтага выдання. Аўтар паведамляе, што ў Мінску ў 1919 г. апынуўся французскі салдат Марцэль Бак, які «перайшоў на наш бок», нейкі час ён працаваў кашаварам на кухні, а потым пайшоў блукаць, шукаючы хлеба. Праз некалькі дзён галодны Марцэль Бак апынуўся на хутары Садкі, які належаў сям'і Зянкевічаў. Карыстаючыся тым, што французскі падданы быў без усялякіх дакументаў і не ведаў мясцовай мовы, кулакі Зянкевічы «ашукалі яго і прымусілі за адзін толькі тытунь працаваць». Працаваў ён і падчас польскай акупацыі, і пасля таго, як усталявалася савецкая ўлада. Прайшло 11 гадоў, каб легалізаваць саракатрохгадовага Марцэля Бака, мясцовы сельсавет усынавіў яго да Зянкевічаў. Але тут раптам узнік «у мінулым батрак, а зараз райпажарінструктар і актыўны селькор т. Казюра, які па справах РВК прыехаў у сельсавет, заўважыў француза Марцэля Бака і выкрыў справу». У выніку «пралетарскі суд жорстка пакараў эксплуататараў Зянкевічаў — сына і бацьку — і тых «савецкіх» працаўнікоў, якім была даручана справа аховы інтарэсаў батрацтва». А «Марцэль Бак зараз працуе ў

саўгасе. Зусім за кароткі тэрмін вызвалення ад кулацкай эксплуатацыі ён стаў другім. Ён стаў падобным да чалавека. За некалькі дзён працы ў саўгасе ён упэўніўся, што ў саўгасе ляпей» (С. 9).

У 1930-я гг. шэраг агітацыйных выданняў ажыццявіў сектар ваеннай літаратуры ДБВ. Напрыклад, кніга, складзеная А. Джэлюком, А. Лебедзевым, пад агульнай рэдакцыяй Н. Стэрніна «За славу радзімы» (Менск, 1936 г.). Тут быў змешчаны расказ аб пешым пераходзе «стаханаўцаў абароны» — работнікаў і работніц мінскай фабрыкі «Кастрычнік» і віцебскай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» з Мінска ў Маскву. Стаханаўцы прайшлі 820 км за 140 ходавых гадзін з 27 студзеня па 2 сакавіка 1936 г. Асаблівасцю пераходу было тое, што ішлі яны ў процівагазах і проціiпрытнай вопратцы (супрацьхімічных касцюмах). У кнізе надрукаваны рапарт удзельнікаў таварышам Сталіну, Калініну, Чубару, Гікалу, Чарвякову і Галадзеду, дзе паведамляецца, што «Задачай пераходу» з'яўлялася:

а) праверка вынослівасці людзей і іх здольнасці доўга знаходзіцца ў проціпрытнай вопратцы ў розныя поры года;

б) выпрабаванне сродкаў аховы ў розных атмасферных умовах.

Доўгі шлях ад заходніх граніц з капіталістычным светам да цэнтра нашай сацыялістычнай радзімы пройдзен намі ў цяжкіх кліматычных умовах: пры марозах, якія дасягалі 30 градусаў, пры ветры да 9 балаў, пры снежных заносах і ў зусім своеасаблівых геаграфічных умовах». Рапарт напоўнены жыццёвым аптымізмам: «Мы адчуваем сябе бязмежна здаровымі, моцнымі, дужымі, дзякуючы нашаму шчасліваму і радаснаму жыццю…», і зваротамі да кіраўніка камуністычнай партыі — «правадыр народаў — геніяльны Сталін» альбо «наш родны і любімы вялікі Сталін». Што выпрабаванне сродкаў хімічнай абароны ў выглядзе агітпаходу рыхтавалася загадзя на самым высокім узроўні, сведчыць той факт, што праз дзень пасля заканчэння паходу (4 красавіка) была гатова пастанова ЦВК СССР аб узнагароджанні 8 удзельнікаў ордэнам, а іншых 8 — граматай ЦВК СССР, а кніга ў цвёрдым каленкоравым пераплёце была здадзена ў друкарню 25-га, а падпісана да друку 27 красавіка. Такая спешка прывяла да нядбайства ў рэдагаванні: у біяграфічных даведках пра ўдзельнікаў паходу не ў кожнага прыведзена поўнае імя, часам толькі ініцыялы.

«Бальшавікі не дазваляюць ніякіх папулярызацый (нават калі яны адпавядаюць гістарычнай рэальнасці) іншых партый і яе членаў, апрача партыі бальшавікоў. Характэрны ў гэтых адносінах яшчэ адзін прыклад. Дзяржаўнае выдавецтва выпусціла шэраг біяграфій з серыі «Жыццё выдатных людзей», у тым ліку і кнігу пра жыццё і дзейнасць вядомага народавольца Жалябава. Праз пэўны час пасля выдання кнігі ў савецкім друку з'явілася рэцэнзія на кнігу пра Жалябава. У выніку яна была знята з ужытку таму, што там ідэалізуецца асоба Жалябава-народніка, негледзячы на тое, што Ленін у свой час не пагаджаўся з тактыкай народавольцаў, але назваў нарадавольніцтва «гераічнай эпохай»[490].

Асобны раздзел — кнігі з закляйменнем нацыяналізму і партыйных «ухілаў».




*Вокладка кнігі «Чырвоная сялянская вечарынка». Мінск, 1927 г.*

## Гуманітарная кніга

Значнае месца ў складзе кніжнай прадукцыі ад пачатку беларускага кнігавыдання займае мастацкая літаратура. Пасля стварэння БССР за кнігавыданнем сачылі вышэйшыя кіраўнікі краіны, Дзяржаўнае выдавецтва БССР узначальваў акадэмік Зміцер Жылуновіч, які адначасова сам быў пісьменнікам (Цішка Гартны). Ужо ў 1920-я гг. актыўна друкуецца класіка беларускага мастацкага слова: выйшлі падрыхтаванае Інбелкультам акадэмічнае выданне поўнага збору твораў Максіма Багдановіча (Менск, 1927—1928), а таксама кнігі Я. Купалы «Спадчына» (1922), Я. Коласа «Казкі жыцця» (1926), Ц. Гартнага «Сокі цаліны» (1926), М. Гарэцкага «У чым яго крыўда» (1926), К. Чорнага «Апавяданні» (1925), З. Бядулі «Апавяданні» (1926), А. Гаруна «Матчын дар» (1929), Я. Маўра «Палескія рабінзоны» (1930), «Па беларускім бруку» А. Александровіча (1925). Нацыянальную культуру дзеячы Савецкай Беларусі будавалі ў спалучэнні з культурай сусветнай, таму важнае значэнне надавалася перакладам рускай класічнай і заходнееўрапейскай літаратуры, музычным выданням. У 1928 г. з'явіўся першы на Беларусі зборнік перакладаў замежнай паэзіі «Кветкі з чужых палёў».

Для папулярызацыі твораў мастацкай літаратуры была створана серыя «Мастацкае слова — масам» (вокладку ў стылі канструктывізму спраектаваў мастак манаграміст «МБ». Сярод іншых у 1929 г. у гэтай серыі выйшла кніга Іларыёна Барашкі «Рыгор Галота», у 1930 г. — зборнік А. Александровіча «Устаноўка», а таксама дзве кнігі Я. Купалы: зборнік вершаў «Адцьвітанне» тыражом 5 тыс. экз. і зборнік паэм «За што» тыражом 7 тыс. экз. Адносна двух апошніх крытык Л. Бэндэ пісаў з затоенай пагрозай: «Чытаючы гэтыя зборнічкі вершаў Янкі Купалы, большасць якіх напісана ў мінулыя часы, чытач павінен мець на ўвазе, што ня ўсе яны зьяўляюцца сугучнымі нашай эпосе бурнага соцыялістычнага будаўніцтва, эпосе шпаркага бегу гісторыі. Ня ўсе гэтыя вершы даюць нам непасрэдны творчы запал на сённешні і на заўтрашні дзень сацыялістычнага будаўніцтва», — але заканчваў свае развагі аптымістычна: «Большасьць іх — мінулае, і нашы адносіны да іх павінны быць адносінамі да багатай спадчыны, якую нам пакінулі нашы папярэднікі»[491].

У выданнях серыі «Мастацкае слова — масам» упершыню ў канцы кніжкі друкаваўся апытальнік для чытачоў, адказы прапаноўвалася дасылаць на адрас Белдзяржвыдавецтва: Менск, вул. Савецкая, 63. Вось поўны спіс пытанняў:

1. Аўтар. 2. Назва твору. 3. Ці падабаецца твор і што ўласна? 4. Ці патрэбны гэты твор у нашыя часы сацыялістычнага будаўніцтва (ці адпавядае эпосе, ці організуе волю для ўпартае творчае працы і г.д.? 5. Ці зразумела напісаны (мова, тэматыка, выкладанне)? Што ў ім не зразумелі? 6. Якія словы і фразы не зразумелі? 7. Ці няма фальшы ў абмалёўцы тыпаў і апісаных у творы падзей? Калі ёсць, дык у чым яна? 8. Якія думкі ўзніклі ў вас пры чытанні твору? 9. Што яшчэ можаце сказаць аб творы? 10. Якога характару творы вы хацелі б чытаць? 11. Ваша сацыяльнае становішча? 12. У горадзе, мястэчку ці ў вёсцы вы жывяце? 13. Колькі ў месяц выдаткуеце на кнігу і газэту, калі можаце, дык вылічце проц. (калі ня можаце, пакажэце ваш заработак і суму выдаткаў на кнігу і газэту)? 14. Ваш узрост? 15. Род (пол).

На жаль, мы не ведаем, ці былі апрацаваны адказы на гэтыя анкеты і якія высновы зрабіла выдавецтва пасля вывучэння чытацкага попыту і чытацкіх запатрабаванняў.

Пра тое, што будаўнікі беларускай нацыянальнай кніжнай культуры дамагліся сур'ёзных поспехаў, сведчыць, напрыклад, тэматычны план аднаго толькі сектара мастацкай літаратуры ДВБ на 1935 г.: было падрыхтавана 80 назваў кніг агульным аб'ёмам 930 аркушаў і агульным тыражом 343 тыс. экз., якія тэматычна размеркаваліся наступным чынам:

Паэзія — 12 кніг, з іх тры тыражом 10 тыс. (Алесь Александровіч, Якуб Колас, Янка Купала), дзве тыражом 5 тыс. (П. Броўка, П. Глебка), астатнія тыражом 3 тыс. Усяго 11 выданняў на беларускай мове, адно на рускай: Крючкин «Утро в разведке».

Проза — 17 кніг, з іх адна (К. Чорны «Трэцяе пакаленне») — тыражом 10 тыс. экз., 10 кніг тыражом 5 тыс. экз., 6 кніг тыражом 3 тыс. экз. Усяго 16 кніг на беларускай мове і адна на рускай: Крючкин «Комвзвод Шиханов».

Перавыданні — 6 назваў, тры тыражом 6 тыс. экз. (Колас, Купала, Лынькоў) і тры — 5 тыс. экз. (М. Зарэцкі, К. Крапіва, Э. Самуйлёнак).

Перакладная літаратура — 18 назваў, тыражы 3—5 тыс. экз., а Анры Барбюса «Кніга аб Сталіне» выйшла тыражом 6 тыс. экз.

Класікі — 10 назваў: М. Горкі, Ё. Гётэ, А. Бальзак, І. Тургенеў, Л. Талстой, А. Пушкін,



Беларускі Дзяржаўны Музычны Тэхвікум.
1827 1927
У СЕРАДУ 30 САКАВІКА
Ў вялікай залі Клюбу КАРЛА МАРКСА
прысьвечаны творам Людвіга ван-Бэтховэна
Камэрны концэрт
сіламі выкладчыкаў Музтэхнікуму.

1. Кварт. тв. 59 № 2 E-moll
1) Allegro
2) Molto adagio
3) Allegretto
4) Finale Presto
Вык. А. БЯСЬСЬМЕРТНЫ (1 скр.). С. Л. ЖЫЎ (2-я скр.) І. ФІДЛОН (альт) і Б. Я. ФІДЛОН (віолёнчэль).

2. а) In duesta tomba
б) Шотляндзкая песьня
в) Песьня Мэфістофэля пра блыху
вык. В. А. Сэлях.

1. а) Міньона.
б) Грымяць барабаны Музык. да драмы Гэтэ „Эгмонт".
в) Шотляндзкая песьня вык. В. Несьцярэнка.
2. Сэптэт. тв. 20 Es dur
1) Adagio Allegro con brio.
2) Adagio cantabile.
3) Menuetto
4) The con varjazionii
5) Scherzo
6) Finale Andante con moto alla marcia. Presto.
Выкан.: А. Л. Бясьсьмертны (скр.), Я. Фідлон (альт) Б. Я. фідлон (віолёнчэля) Я. Л. Цымбал (контробас) Г. А. Эльтэрман (клярнэт). Б. Еўзераў (фагот). Я. Сьцягэнны (вальторна).

У ЧАЦЬВЕР 31 САКАВІКА
Ў ПАМЯШКАНЬНІ МУЗТЭХНІКУМУ адчыненьне концэртнае залі імя Людвіга ван-Бэтховэна
КОНЦЭРТ з твораў Бэтховэна, сіламі студэнтаў Музтэхнікуму.

1. Кварт № 5, твор. 18. A-dur
1) Allegro ◆ 2) Menuetto
3) Andante cantabile
4) Allegro
Вык. Гух. Р. (1 скр.) ТУХ Д. (2 я скр.) Шабат (альт), Фрайман (віолёнч.) Клясу камэрн. ансамблю А. Л. БЯСЬСЬМЕРТНАГА
2) Арыя. Рокко з оперы Фідэліо
Вык. Цюрэннаў. Клясы праф. В. А. Цьвяткова
3) Концэрт C-dur 1 ч. для фортэп'яна Вык. Дзінор пры другой роялі наст. В. А. Самашка
4) Квартэт я оп. Фідэліо Вык. Шалагурава, Куніцкая Казулін і Цюрэннаў Клясы пр. В. Цьвяткова.
5) 32 Варыяцыі. Выкан. Бэргэр. Клясы наст. Жыва.

1) Концэрт C—moll 1-я ч. твор. 37 для фортэп'яна з оркестрай вык. Беленькі. Клясы наст. Г. С. Бах.
2) Концерт D dur ч. 1 я, твор. 61 для скрыпкі з оркестрай Вык. Тух Р. Клясы наст. А. Л. Бясьсьмертнага
3) Уверцюра „Леонора № 2", Сымфоніч. оркестра вучняў Белмузтэхнікуму пад кіраўніцтвам Макса Купэра.

УСТУПНАЕ СЛОВА СКАЖА Ю. М. ДРЭЙЗІН.



Сто год ад часу сьмерці 100
Людвіга ван-Бэтховэна
(1827—1927 г.).
БЕЛАРУСКІ ПЕРШЫ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭАТР
У АЎТОРАК 29 САКАВІКА 1927 г.
прысьвечаны творам Людвіга ван-Бэтховэна.
ВЯЛІКІ СЫМФОНІЧНЫ Концэрт
пад кіраўніцтвам дырыжэра Беларускага Першага Дзяржаўнага Тэатру
Макса Купэра
пры ўдзеле
Артысткі опэры В. М. Несьцярэнкі, Арт. Белар. 1-га Дзярж. тэатру М. М. Мартавай, С. Л. Жыва, К. І. Мацэлевіча, В. А. Сэляха.
Павялічанае оркестры Дзяржаўных Тэатраў і Студыйнага Хору Галоўнае Управы Палітычнай Асьветы

1) Уверцюра „ЛЕОНОРА № 3", тв. 72 а) адна з чатырох уверцюр да опэры „ФІДЭЛІО".
2) 3 опэры „ФІДЭЛІО", тв. 72 в), арыю Пізарро, выкан. В. А. СЭЛЯХ.
3. Концэрт для скрыпкі з оркестрай, D dur тв. 61, выкан. С. Л. ЖЫЎ.
I. Allegro ma non troppo. II. Larghetto. III. Rondo-Allegro
IV. 3 опэры „ФІДЭЛІО" твор. 72 в) арыю Леоноры (Фідэлі) выкан. В. М. НЕСЬЦЯРЭНКА
II. ДЗЕВЯТАЯ СЫМФОНІЯ тв. 125.
выканаюць: аркестра, хор, В. М. НЕСЬЦЯРЭНКА, М. М. МАРТАВА, К. І. МАЦЭЛЕВІЧ і В. А. СЭЛЯХ.
I. Allegro ma non troppo. ◆ II. Molto vivaec ◆ III. Allegro.
IV. Finale: Presto. Allegro ma non troppo. Vivace. Adagio cantabile. Allegro. Allegro assai.

*Старонкі брашуры «Людвіг ван Бетховэн. Жыццё і творчасць». Мінск, 1927 г.*

Бамаршэ, Шэкспір, Гогаль, Гамер і інш., тыраж усіх па 5 тыс. экз.

Крытыка — 6 назваў, тыражы 3 альбо 5 тыс. экз. (у тым ліку манаграфія аб Купалу Л. Бэндэ — 5 тыс.).

Альманахі — тры назвы: «Ударнік» і «Атака» — тыражом па 3 тыс. кожны, Анталогія рускай савецкай паэзіі — 5 тыс. экз.

П'есы — 5 назваў, тыраж кожнай 3—5 тыс. экз.

Адначасова побач з класічнай літаратурай друкуюцца «актуальныя» пераклады з рускай нікому невядомых «таварышаў», напрыклад, ДВБ выпусціла ў 1937 г. тыражом 7120 экз. кнігу, на вокладцы якой было пазначана: «Аб некаторых каварных прыёмах вярбовачнай работы замежных разведак: зборнік артыкулаў тт. Уранава і Маёрава».

Нацменсектар Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі выдаваў кнігі на яўрэйскай, польскай і літоўскай мовах па раздзелах: мастацкая літаратура, кнігі для дзяцей і юнацтва, палітмасавая, розная. Тыражы яўрэйскіх і польскіх кніг вагаліся ад 1 да 3 тыс. паасобнікаў, літоўскіх — ад 700 да 1000. Яўрэйскі рэпертуар дапаўнялі выданні Яўсектара Акадэміі навук Беларусі [Zeitschrift. Т. 1—3 (1926—1928), Rote Blater (1929), Gold-Faden A. (1926)] і інш. Змаганню за савецкую ўладу ў занятай пілсудчыкамі Вільні прысвечана перакладзеная з яўрэйскай мовы кніга М. Даніэля «Юліс» (ЛіМ ДВБ, 1932, пераклад А. Цырульнікавай). Важнай падзеяй стала выданне ў 1939 г. рэдакцыяй мастацкай літаратуры ДВБ кнігі класіка яўрэйскай літаратуры Шолам-Алейхема «Запіскі камівояжора: апавяданні ў вагоне чыгункі» ў перакладзе Змітрака Бядулі (тыраж — 6000 экз.).

У БССР уважліва сачылі за літаратурным жыццём Смаленшчыны, пераклады твораў мясцовых паэтаў, якія пісалі на рускай мове, былі ў 1935 г. выдадзены асобным зборнікам пад назвай «Паэты Заходняй вобласці». «У інтарэсах стварэння пэўнай тэматычнай цэльнасці гэтага зборніка, у ім прадстаўлены вершы групы паэтаў, аб'яднаныя калгаснай тэматыкай, — асноўнай і вядучай для паэзіі Заходняй вобласці», — гаворыцца ў выдавецкай анатацыі. Аляксандра Твардоўскага пераклаў С. Дарожны, Мікалая Рыленкова — Ю. Лявонны, Міхаіла Ісакоўскага — М. Хведаровіч. Гэты зборнік — адзін з дакументаў сацыялістычнага спаборніцтва савецкіх пісьменнікаў Беларусі з пісьменнікамі Заходняй вобласці. Адначасова ў Смаленскім аддзяленні Дзяржаўнага выдавецтва выйшаў зборнік вершаў беларускіх паэтаў на рускай мове.

Напярэдадні Другой сусветнай вайны Белдзяржвыдат пазнаёміў беларускага чытача з творчасцю Праспера Мерымэ — у 1939 г. тыра-


THE ACADEMY OF SCIENCES OF THE WHITE RUSSIAN SOVIET SOCIALIST REPUBLIC

INSTITUTE OF HISTORY

HISTORY OF WHITE RUSSIA IN DOCUMENTS AND MATERIALS

VOLUME I

IX—XVIII cent.

*

By Academician V. K. SCHERBAKOV, Assistant Professor K. I. KERNAZHITSKY and Scientific Archeograph D. I. DOVGIALO.

*

THE PUBLISHING HOUSE OF THE ACADEMY OF SCIENCES OF THE W.R.S.S.R.

MINSK — 1936

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР

Інстытут гісторыі

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў ДАКУМЕНТАХ І МАТЭРЫЯЛАХ

ТОМ I

IX—XVIII ст.

*

Склалі: акадэмік В. К. ШЧАРБАКОЎ, дацэнт К. І. КЕРНАЖЫЦКІ і вучоны археограф Д. І. ДАЎГЯЛА

*

ВЫДАВЕЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БССР

МЕНСК — 1936

*Тытульны ліст кнігі «Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах». Мінск, 1936 г.*

жом 5 тыс. экз. выйшла яго «Варфаламееўская ноч: Хроніка часоў Карла IX».

Нагодай для шырокага знаёмства беларускага чытача з творчасцю рускага паэта Аляксандра Пушкіна стала 100-я гадавіна з дня яго смерці. БДВ вялікімі тыражамі выдала 10 кніг з творамі паэта, акадэмічнае выдавецтва выпусціла манаграфію акадэміка І. Замоціна «А.С. Пушкін: нарыс жыцця і творчасці». Па рэдакцыі літаратуры і мастацтва ДБВ у 1937 г. выйшлі кнігі: «Бахчысарайскі фантан», «Каўказскі нявольнік», «Домік у Каломне», «Цыганы», кнігі ў серыі «Пушкінская бібліятэка» працягвалі выходзіць і ў наступныя гады, прынамсі ў 1938 г. у перакладзе Янкі Купалы выйшла паэма «Медны коннік».

Ад сярэдзіны 1920-х гг. у беларускіх выдавецтвах выходзяць і карыстаюцца нязменным попытам чытачоў папулярныя гістарычныя кніжкі: «Змаганне за агонь» Роні Старэйшага, «Як жылі людзі ў даўнія часы» праф. Кудраўскага, «Вынаходка агню» праф. Анучына, «Першыя людзі на зямлі» М. Грэмяцкага і інш. Да развіваючай кнігі належыць і выдадзеная ў 1926 г. у двух выпусках праца Раманоўскага «Пісьмо і кніга. Кніжка другая: Як людзі навучыліся друкаваць кнігі».

Кніжная рэклама БССР на першыя пазіцыі па раздзелу гуманітарных навук выводзіла гістарычныя выданні Інстытута беларускай культуры, а пазней Беларускай акадэміі навук: Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук, у якія ўваходзілі «Гістарычна-Археолёгічны Зборнік» 1927 г., «Працы» класаў гісторыі і філалогіі, кафедраў археалогіі і этнаграфіі, камісіі гісторыі мастацтва (усе пяць — Менск, 1928), «Працы Катэдры Сучаснага Права» (Менск, 1929 г.) і інш. Дасягненнямі гістарычнай навукі сталі два тамы актаў XV—XVII стст. «Беларускі архіў» (Менск, 1927—1928), першы том «Нарысаў па гісторыі беларускага мастацтва» Міколы Шчакаціхіна (Менск, 1928), юбілейны зборнік «Чатырохсотлецце Беларускага друку (1525—1925)» (Менск, 1926) шэраг бібліяграфічных даведнікаў па археалогіі і этнаграфіі. Акрамя «акадэмічнай» гісторыі Акадэмія навук развівала краязнаўчы накірунак, першымі публікацыямі ў гэтай галіне вызначыўся часопіс «Наш Край» (выходзіў з 1925 да 1930 гг.), у выдавецтве БАН выйшлі падрыхтаваныя Цэнтральным Бюро краязнаўства кнігі «Асіпавіцкі раён Бабруйскае акругі. Вып. 1—2» (Менск, 1928 г.) і інш.

Значна адрозніваюцца паміж сабой гістарычныя кнігі, якія выходзілі ў Інбелкульце

і потым у Інстытуце гісторыі імя М.М. Пакроўскага Беларускай АН да і пасля першай хвалі рэпрэсій (змаганне партыйных органаў супраць «Саюза вызвалення Беларусі»). Мяжу абазначылі супрацоўнік Акадэміі навук, былы балтыйскі матрос Іван Шпілеўскі і яго сааўтар Л.А. Бабровіч у манаграфіі «Беларуская Акадэмія Навук на парозе другой пяцігодкі»[492], дзе яны падрабязна апісваюць рэарганізацыю АН (ачышчэнне ад нацдэмаў і апартуністаў). Рэарганізацыя пачалася з двух артыкулаў маскоўскай газеты «Комсомольская правда» ў ліпені 1929 г. пад назвай «З камнем за пазухай». Аўтары горача асуджаюць выключаных у жніўні 1930 г. з АН акадэмікаў Некрашэвіча (член Прэзідыума, загадчык Аддзела гуманітарных навук), Лёсіка (старшыня тэрміналагічнай камісіі) і Ластоўскага (загадчык кафедры этнаграфіі), яны не проста крытыкуюць — ганяць працы М. Доўнар-Запольскага, Цвікевіча, Мялешкі і Ігнатоўскага. Гэтыя ж два аўтары ў 1929 г. выдалі добрую краязнаўчую кніжку «Мястэчка Койданава» (адбітак з часопіса «Наш Край» за 1929 г. № 2, 3, 4) тыражом 100 экз.




*Кароткі нарыс гісторыі міліцыі Беларусі. 1917—1927. Мінск, 1927 г.*

З кніг па найноўшай гісторыі прыкметнае месца займае «Кароткі нарыс гісторыі міліцыі Беларусі. 1917—1927». Яе выданне падрыхтавана да 10-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі і пачынаецца ўступнымі словамі Старшыні ЦВК СССР і БССР А.Р. Чарвякова, старшыні СНК БССР М.М. Галадзеда і намесніка народнага камісара ўнутраных спраў, начальніка Адміністрацыйнай управы НКУС, начальніка міліцыі і крымінальнага вышуку рэспублікі Я.М. Кроля, перад кожнай прадмовай змешчана фота аўтара. Асноўны пафас кнігі вызначаюць словы А. Чарвякова, якія ў яго прадмове вылучаны тлустым шрыфтам: «Уся міліцыя знізу да верху, ад радавога міліцыянэра да начальніка, заслужыла таго, каб Савецкая ўлада ў 10-цігодкі Кастрычнікавае Рэвалюцыі сказала ёй шчырае дзякуй. За часы свайго існавання міліцыя страціла шэраг лепшых прадстаўнікоў, загінуўшых у барацьбе за рэвалюцыю. Вечная памяць загінуўшым барацьбітам!». Тысячны тыраж кнігі якасна, як на свой час, надрукаваны ў Мінску ў друкарні Заходняй чыгункі. Народны камісар унутраных спраў БССР А. Сташэўскі ва ўступным артукуле патлумачыў асаблівасці працы аўтараў (І. Крэйніна, В. Власава, В. Потэса), якія не з'яўляліся прафесійнымі гісторыкамі: «Непасрэдны і просты абавязак і права пісаць гісторыю належыць, вядома, сталаму гісторыку. Гэта добра ведаюць усе таварышы, якія праявілі карысную ініцыятыву ў напісанні кароткага нарысу гісторыі міліцыі і крымінальнага вышуку БССР. Больш таго, карыстаючыся часткова ўспамінамі замест дакументаў, нашы працаўнікі часам супыняліся і разважалі — пісаць ці не, маючы на ўвазе «святасць і правідловасць» толькі пісьмовых дакументаў у вачох гісторыкаў. Тым ня менш мы ўпэўнены, што калі апошнія за нашу працу з часам не застануцца ўдзячнымі нам, то ва ўсякім выпадку не асьмяюць; яны павінны ведаць, што гэтым нарысам закранаюцца такія вялікай гісторыка-рэвалюцыйнай вартасці моманты, аб якіх немагчыма было захаваць цалкам дакументаў і сталых матэрыялаў, асабліва ў час белапольскай акупацыі»[493]. І сапраўды «Кароткі нарыс гісторыі міліцыі» даносіць сённешняму чытачу рытм часу, жывую рэакцыю абаронцаў маладой Беларускай Рэспублікі на ўсякія варожыя праявы. Біяграфічныя матэрыялы пра выдатнікаў міліцэйскай службы і аб загінуўшых пры выкананні свайго абавязку міліцыянерах робяць гэту кнігу выдатнай нарatыўнай крыніцай, а мемуары і шматлікія фатаграфіі — выдатнай крыніцый для вывучэння паўсядзённай гісторыі адпаведнага перыяду.

## Дзіцячая кніга

Кніжка, выданнем якой пачалася пасля-кастрычніцкая гісторыя беларускай дзіцячай літаратуры, называлася «Дзіцячая Чытанка» (выданне «Вольнае Беларусі», Мінск, 1917 г.), — яе дадрукоўвала ў 1918 г. мінская друкарня Я.А. Грынблата. Гэта невялікае па фармату і аб'ёму выданне складалася з твораў Якуба Коласа і Ядвігіна Ш. і было ўпрыгожана віньеткамі ў стылі мадэрн, застаўкамі з кацянятамі і мышанятамі, фотаздымкамі прыроды і відам кірмашу на цэнтральнай плошчы Навагрудка.

Разбураныя савецка-польскай вайной паліграфічныя і выдавецкія прадпрыемствы доўга не дазвалялі распачаць на Беларусі выпуск дзіцячай літаратуры — справа зрушылася толькі ў канцы 1920-х гг. У 1928 г. з'явілася адразу некалькі кніг для дзяцей рознага ўзросту. На самых маленькіх была разлічана кніга А. Савёнак «Разам лепей» (Менск, 1928) з малюнкамі Н. Ясінскай. Гэта апавяданне пра тое, як прыйшоўшы ў дзіцячы сад (новая рэалія Савецкай Беларусі!) дзеці спачатку ўзялі кожны сабе цацку, але потым зразумелі, што склаўшы ўсе цацкі разам, цікавей будзе гуляць (выхаванне калектывізму — таксама новая рэалія). Кніга якасна надрукавана ў 2-й друкарні-літаграфіі БДВ тыражом 3 тыс. экз. Тады ж зроблена спроба арганізаваць дзіцячы часопіс «Зоркі», які праіснаваў нядоўга.

«Што шпарчэй» паводле Спрэг Мітчэль у пераказе той самай А. Савёнак (Менск, 1928) развівала ў дзяцей кругагляд, знаёміла з аўтамабілем, караблём і самалётам. Гэтаму ў немалой ступені спрыялі выдатныя малюнкі А. Тычыны.

У 1928 г. выйшлі некалькі дзіцячых кніжак адмысловых вялікіх фарматаў, у прыватнасці беларуская народная казка «Два марозы», у апрацоўцы Якуба Коласа з малюнкамі Янкі Кашкеля і «Зьвяры нашых лясоў» Зімёнкі з ілюстрацыямі Г. Змудзінскага. На апошняй ні год выдання, ні выдавецтва не пазначаны (год выдання мы вызначылі па даце адсылкі абавязковага экзэмпляра). Малюнкі гэтай кнігі паказваюць дванаццаць самых распаўсюджаных ў Беларусі звяроў — зубра, лася, дзіка, ваўка, рысі, бабра, казулі, выдры, вавёркі, ліса, ласкі, тхара. Кожнаму зверу прысвечаны чатырохрадковы вершык кшталту: «Зьвер, якога вельмі мала: каля рэчак і азёр будаваўся ён бывала. А завуць яго — БАБЁР».

Па колькасці выданняў для дзяцей на першым месцы знаходзілася Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва, дзе дзіцячыя кніжкі рыхтавалі юндзетсектар і нацыянальныя сектары. Прыкладам прадукцыі апошніх можа быць кніга «Наша чыгунка» (аўтары Чарнова і Дрот), якую ў вершаваным перакладзе з украінскай мовы Змітрака Бядулі БДзВ выдала ў 1928 г. тыражом 5 тыс. экз. на беларускай і 3,5 тыс. экз. на яўрэйскай (ідыш) мовах.




У 1928 г. выйшла невялікага фармату кніжка з тэкстам Зімёнкі і ілюстрацыямі Паўлюка Гуткоўскага «Працавітая дзяўчынка», якая была аздоблена ў стылі фотарэалізму — ілюстрацыі складаліся з фотаздымкаў не намаляванай, а рэальнай маленькай дзяўчынкі і яе брацікa.

Яшчэ адным эксперыментам мінскіх выдаўцоў стала кніжка-раскладка на кардоне для самых маленькіх — яна складалася з двух апавяданняў А. Александровіча, ілюстраваных мастаком Барысам Малкіным: «Хлопчык і певень» і «Калыханка», кожнае на іншым баку раскладкі, кожнае мела асобны тытул (Менск, 1930).

У перакладных кніг часта запазычваліся і малюнкі, пры гэтым імя мастака называлася не заўсёды (а ў выпадку з кнігай К. Чукоўскага «Мыйдадзір» (Менск, 1935) прозвішча аўтара малюнкаў надрукавана на вокладцы з памылкай «Ю. Аменкаў» замест «Ю. Аненкаў».

Папулярным аўтарам дзіцячых кніг была жонка акадэміка Максіма Гарэцкага, пісьменніца Леаніла Чарняўская. У 1920-я гг.







← *«Два марозы». Беларуская народная казка ў апрацоўцы Якуба Коласа. Мінск, 1928 г.*

*Разварот кнігі «Звяры нашых лясоў». Мінск, 1928 г.*

асобнымі кніжкамі выйшлі яе апавяданні «Варка», «Кот знайдзён» і «Валуй». Аднак гэта творчая праца спынілася ў 1931 г., калі разам з рэпрэсаваным Максімам Гарэцкім Л. Чарняўская выехала ў Вятку, а пасля растрэлу мужа пераехала ў Ленінград. Наступная дзіцячая кніга пісьменніцы выйшла толькі ў 1979 г., яна называлася «Казёл Мэка і Кудла».

У даваенныя гады большасць дзіцячых кніг выдаваліся серыямі. Для юных натуралістаў была прызначана серыя з адмысловай вокладкай «Малады прыродазнаўца». У ёй выходзілі кнігі як беларускіх аўтараў, так і пераклады з замежных моў: «Лепш смерць чым няволя», «Апошні бізон», «Усе сабакі» і інш.

Мастацкія тэксты друкавала «Бібліотэка школьніка» (адзначым кнігі «Андрэйка» Л. Чарняўскай і «Лэйбка «Бэрлінчык» М. Даніэля).

Практычнымі даведнікамі для школьнікаў рабіліся кнігі серый «Бібліотэка піонэра» і «Бібліотэка піонэрскага атраду». У серыі БДВ «Бібліотэка піонэрскага атраду» выйшла ў 1930 г. кніжка Г. Дзітрыха «Ваенізацыя ў піонэратрадзе» (на вокладцы назва серыі напісана іначай: «Бібліотэка піонэра»). На першых жа старонках аўтар дэкларуе, што «Дапамога піонэраў будзе патрэбнай галоўным чынам у тылавой рабоце. Вось чаму трэба даваць ваеннае выхаваньне піонэрам. Ніводзін піонэр не павінен унікаць ваеннай работы». Далей на 80 старонках (выданне мае тыраж 7 тыс. экз.) распісаны формы фізкультурных і санітарных заняткаў, вывучэння тапаграфіі, абароны ад хімічнага нападу, стралковай справы, авіямадэлізму.

У дзіцячым рэпертуары пастаянна прысутнічалі выданні для рукадзелля. Напрыклад, малодшым дзецям адрасавана кніга «Цацкі з карабкоў ад запалак» А. Радзішчава, якая вучыла складваць з падручнага, даступнага практычна ўсім матэрыялу прасторавыя мадэлі: хату, паравоз, трамвай, жырафу. Іншае выданне такога кшталту — «Як цацкі дома рабіць самому» А. Александровіча, з вокладкай Ю. Ізмайлава. (Менск, 1930). Малюнкі (Ю. Ізмайлава і Корфа) з гэтай кніжкі вучаць як з шышак і жалудоў рабіць пеўня, малпу, куранят, папугая…

Вялікай папулярнасцю сярод старэйшых школьнікаў карысталася бібліятэчка «Для здатных рук». Некалькі кніжак з яе належалі здольнаму маскоўскаму папулярызатару П. Албычову. У адной з іх, якая называлася «Гадзіньнік», асобныя главы апавядалі аб гадавым руху Зямлі, аб прынцыпах будовы і працы сонечнага і вадзяного гадзіннікаў, а таксама апісаны прынцып працы гадзінніка з маятнікам і дадзены чарцяжы і парады па вырабе гадзінніка з дрэва. У заканчэнні аўтар звяртаецца да сваіх маленькіх чытачоў: «З гэтага прыкладу мы бачым, што няма паасобных навук, як фізіка, матэматыка, геаграфія, і нельга вывучыць ніводнай з іх, не карыстаючыся ў той жа час другой. Развязванне пытанняў у аднэй

галіне чалавечых ведаў цягне за сабой зусім нечаканыя ў другой, якая, на першы погляд, нічога супольнага не мае з першай. Нездарма старажытную скарбніцу чалавечых ведаў раўнавалі з крыніцай, з якой чым больш п'еш, тым больш піць хочацца[494]. Акрамя кніжкі пра гадзіннік у бібліятэчцы выйшлі «Фотаапарат з аркушу кардону і работа з ім» К. Ягадоўскага і П. Куроўскага, «Абсталяванне самадзельнай хэмічнай лабараторыі» П. Албычова і іншыя кнігі.

Дзіцячую літаратуру выдавалі пераважна ў Мінску, але не толькі. У 1926 г. спецыяльная бібліятэчка «Як працаваць піонэру» выйшла па ініцыятыве Калінінскага акругкома КП(б)Б у Клімавічах — кожная кніжка мела тыраж 4 тыс. экз. Бібліятэчку склалі 15 кніг рознай тэматыкі, перакладзеных з рускай мовы А. Валошкам і С. Музыкам. Змест досыць разнастайны: «Савет атраду і яго праца», «Піонэр, на барацьбу з беспрытульнасьцю», «Піонэр, будзь здаровым», «Піонэр, памятай аб 3-м законе» (інтэрнацыянальнае выхаванне), «Насьценная газета і дзіцячыя корэспондэнты», «У паход за ведамі» і г. д. Адна з кніжак навучала працаваць з кнігай, яна так і называлася: «Як чытаць кніжку». У рэцэнзіі на гэту бібліятэчку пісьменнік Іларыён Барашка заўважыў недахопы перакладу з рускай мовы без адаптацыі тэксту да ўмоваў Беларусі: «Можна наладзіць супольную экскурсію ў бліжэйшыя кішлакі (узьбэкскія вёскі) і аулы (каўкаскія вёскі) — наўрад ці беларускія піонэры змогуць наладзіць гэткія экскурсіі!»[495].

Для пазакласнай працы школьнікаў прызначалася вельмі практычная кніга В. Касперовіча і А. Пальчэўскага «За культурны і вясёлы адпачынак» (Менск, Юндзетсектар ДВБ, 1934). Галоўны герой кнігі — Зацейнік — дапамагаў стварыць клуб здагадлівых, вучыў арганізацыі пазашкольных мерапрыемстваў: вечароў адпачынку, ранішнікаў і да т.п.

Ідэалагічныя матывы прысутнічаюць у кніжках, разлічаных на дзяцей рознага ўзросту. Для самых маленькіх у бабруйскай друкарні надрукавана кніжка-размалёўка (без тэксту, без выхадных дадзеных) з мілітарнымі сюжэтамі: пехацінцамі на стральбе, гарматамі, кавалерыстамі, парадам Чырвонай Арміі. Для старэйшых чытачоў — кнігі, якія прапагандуюць авіяцыю, камуністычныя святы, механізацыю сельскай гаспадаркі. Сярод такіх «На самалёт» А. Александровіча з малюнкамі і інш. Перавагі калгаснай механізацыі паказваюць дзецям З. Астапенкі і мастак А. Тычына ў кніжцы «Трактар» (1933). Кніга А. Дылы «Торф» з малюнкамі І. Ахрэмчыка, якая расказала маленькім чытачам пра здабычу гэтага карыснага выкапня, з'явілася акурат у той час, калі ў БССР будавалася першая электрастанцыя на торфе (1932).

→
*Вокладка кнігі «Пчала і шэршань». Мінск, 1929 г.*

Акрамя гэтага кожны год выдаюцца традыцыйныя дзіцячыя кніжкі з народнымі казкамі і творамі сучасных аўтараў. Класічнымі сталі кнігі-казкі ў апрацоўцы Якуба Коласа, якія мелі вялікі, набліжаны да квадрата, фармат: «Леў і воўк» з малюнкамі Г. Змудзінскага (1928) і «Пчала і шэршань» з малюнкамі А. Пузынкевіча (1929), а таксама «Як жабы бараніліся ад бусла» з малюнкамі М. Філіповіча. Дзіцячыя творы А. Александровіча маюць больш сацыяльнага падтэксту, у адной з яго вершаваных казак для маленькіх фігуруе пан, які здзекуецца са звяроў і прымушае на сябе працаваць — да таго часу, пакуль звяры не падымаюць бунт супраць гэтага жываглота. Казка выйшла асобнай кніжкай з ілюстрацыямі А. Волкава («Пан-жываглот», Менск, 1935), а ў наступным годзе яна была ўключана ў выдадзеную вялікім фарматам кнігу паэта «Падарунак дзеткам-малалеткам» (Мінск, 1936) з малюнкамі М. Жытніцкага. А вось кніжка «Птушыная сталоўка» (мастак А. Тычына, пераклад з неназванай мовы А. Савёнак) — суцэльная пастараль: дзеці зімой кормяць верабейчыкаў, гілёў-снегіроў і сінічак.

У другой палове 1930-х гг. праз Юндзетсектар БДВ выходзіла шмат дзіцячых кніг замежных аўтараў у перакладзе на беларускую мову. Часткова гэта тлумачыцца тым, што большасць беларускіх пісьменнікаў была рэпрэсіравана і на перакладную літаратуру выдзяляліся большыя ліміты паперы, чым на арыгінальныя творы адсутных мясцовых аўтараў. У год памяці Аляксандра Пушкіна (1937 г.) былі падрыхтаваны «Казка пра папа і пра парабка яго Балду», «Казка пра рыбака і рыбку», «Казка аб залатым пеўніку», «Казка аб цару Салтане», «Казка аб спячай царэўне і сямі багатырах», «Руслан і Людміла». Пераклады выканалі лепшыя беларускія паэты (Янка Купала, Аркадзь Куляшоў, Алесь Якімовіч; некаторыя кнігі выйшлі без пазначэння перакладчыка); пры выданні былі выкарыстаны класічныя ілюстрацыі расійскіх мастакоў. Высокая якасць выканання была дасягнута сектарам дзіцячай літаратуры БДВ пры выданні «Падарожжа ў некаторыя аддаленыя краіны свету Лемюэля Гулівера, спачатку хірурга, а пасля капітана некалькіх караблёў» Дж. Свіфта ў 1939 г. Тыраж гэтай кнігі — 10 тыс. экз. — быў надрукаваны на гомельскай фабрыцы «Палесдрук», усе паасобнікі мелі пераплёт з

# ПЧАЛА





# І ШЭРШАНЬ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК




*Малюнкі А. Тычыны ў кнізе З. Астапенкі «Трактар». Мінск, 1933 г.*

цісненнем. Беларускі чытач атрымаў у гэтым выпадку класічны твор сусветнай літаратуры разам з класічнымі ілюстрацыямі да яго Жана Гранвіля, хаця імя мастака выдавецтва ні на адвароце тытула ні ў выхадных звестках не пазначыла.

Апрача таго выйшла багата іншых класічных твораў сусветнай дзіцячай літаратуры: «Брыдкае качанё» Г. Андэрсена з малюнкамі І. Давідовіча (1936 г., тыраж 8185 экз.), «Трое парасятак» Уолта (Вальтэра) Дыснея з арыгінальнымі малюнкамі (1938 г., тыраж 2000 экз.), «Як узяць да ладу што добра што блага?» Уладзімера Маякоўскага з малюнкамі І. Давідовіча (S.l.S.d.), «Браток трусік і яго трусяняты» Джоэля Харыса і інш.

У 1938 г. выйшла пазнавальная кніга Е. Данько «Кітайскі сакрэт» пра фарфор у Кітаі, Еўропе і ў Расіі (сектар дзіцячай літаратуры БДВ, тыраж 12 тыс. экз.) з цікавымі малюнкамі. Увогуле, кніг «усходняй» тэматыкі ў даваеннай Беларусі выходзіла дастаткова шмат.

Рэдактарская культура ў даваеннай Беларусі, нават у такім вялікім выдавецтве, як ДВБ не заўсёды была на належным узроўні. Напрыклад, на вокладцы дзіцячай кніжкі назва: «Птушыная сталоўка» на адвароце названа толькі імя перакладчыка на беларускую мову, імя аўтара не пазначана, няма паведамлення з якой мовы перакладзена гэта кніжка. З другой кнігай — іншая праблема: не пазначана дата выдання. Кніга называецца «Прыгоды васьмінога», вокладка і малюнкі Д. Дваракоўскага (2-я друкарня-літаграфія Белдзяржвыдавецтва. Тыраж 5000. Праўда, на паасобніку РНБ у Пецярбургу стаіць штамп аб паступленні кнігі ў бібліятэку па абавязковым экзэмпляры ў 1928 г. — арыенцір для хаця б умоўнага датавання гэтага прыгожага выдання. Некалькі асобных выданняў вытрымаў верш Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык» з ілюстрацыямі розных мастакоў. Тэму прапаганды авіяцыі сярод падрастаючага пакалення ўдала раскрыў мастак В. Лапін у ілюстрацыях да кнігі А. Александровіча «Як дзеці памагалі будаваць самалёт».

Штомесячным носьбітам вершаў, апавяданняў, гульняў і ідэалагічных артыкулаў з'яўляліся беларускія дзіцячыя часопісы «Іскры Ільіча» (для малодшых школьнікаў) і «Беларускі піонэр» — для старэйшых.

## Ваенная кніга ў даваеннай БССР

Пойдзем мы з чырвоным сьцягам
Па ўсім свеце з краю ў край;
Альбо мёртвымі паляжам,
Альбо ўсюды зробім рай.

*(Камсамольская частушка
з Лемантара 1926 г.)*

Паводле саюзнага дагавора аб утварэнні СССР, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка не мела асобнай арміі. Згодна Канстытуцыі СССР 1924 г., арганізацыя і кіраўніцтва Узброенымі Сіламі Саюза СССР стала прэрагатывай СССР, для непасрэднага кіраўніцтва гэтай справай быў утвораны Народны камісарыят па ваенных і марскіх справах. Народны камісар па вайсковых і марскіх справах быў адначасова Старшынёй Рэўваенсавета СССР. Каб чырвонаармейцы ў БССР ведалі сваё кіраўніцтва, у 1926 г., па заказе Дзяржаўнага вайсковага выдавецтва, Маскоўскае Акцыянерные выдавецкае тавараства выдала па-беларуску жыццяпісы (з партрэтамі) членаў Рэўваенсавета таварышаў М. Фрунзе, Я. Уншліхта, А. Бубнава, К. Варашылава, С. Каменева[496]. Пад час «вялікіх рэпрэсій» 1930-х гг. кіруючы склад арміі змяняўся шмат разоў і выдаўцы ўжо не спрабавалі паспець за зменамі з новымі біяграфічнымі кнігамі (тым больш, што хапала іншага клопату — трэба было вымаць з ваенных бібліятэк кнігі з партрэтамі і біяграфіямі «ворагаў народу»).

Паводле савецкай ваеннай дактрыны, амаль да Другой сусветнай вайны на тэрыторыі рэспублікі знаходзіліся два віды вайсковых падраздзяленняў: кадравыя часці Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі (РСЧА) і тэрытарыяльныя вайсковыя часці.

Тэрытарыяльная (міліцыйная) армія была створана дэкрэтам Савета Народных Камісараў СССР 8 жніўня 1923 г. і праіснавала да 1938 г. Афіцэры тэрытарыяльных частак былі кадравыя, а ў якасці радавых тут служылі хлопцы з блізляжачых населеных пунктаў — пераменнікі. Тэрмін службы складаў 5 гадоў, але пераменнікаў адрывалі дзеля вайсковай вучобы толькі на 1—2 месяцы на год (першы год — тры месяцы), астатні час яны працавалі на сваёй гаспадарцы. Для лепшага авалодання вайсковымі навыкамі і ведамі літаратура для тэрармейцаў выдавалася на іх роднай мове.

Пераменнікамі-беларусамі была ўкамплектавана 2-я Беларуская стралковая дывізія, якая ўваходзіла ў 16-ы Беларускі стралковы корпус. У складзе гэтай дывізіі знаходзіліся 4-ы чырвонаштандарны стралковы полк, 5-ы стралковы полк, 6-ы стралковы полк, 2-гі артылерыйскі полк, сапёрная рота, рота сувязі і асобны кавэскадрон. Для падрыхтоўкі байцоў палітаддзел дывізіі выдаў «Памятку чырвонаармейцу тэрыторыяльнай часьці» — кніга выйшла тыражом 15 тыс. экз. без пазначэння года. На першай старонцы, аформленай як бланк перадачы кніжкі канкрэтнаму чырвонаармейцу (пакінута месца, каб упісаць прозвішча), месцам уручэння кніжкі камандзірам і вайсковым камісарам пазначаны гор. Менск, а для даты пазначана 192... г., значыць такія кніжкі раздаваліся з сярэдзіны 1920-х гадоў. Змест складае Чырвоная прысяга (урачыстае абяцанне чырвонаармейца з шасці пунктаў), наказ чырвонаармейцу-пераменніку з 16 пунктаў, далей ідуць тэксты «Чаму Савецкая ўлада ўтварыла тэрытарыяльныя часці» і «Выняткі з дэкрэтаў ЦВК і СНК СССР аб арганізацыі тэрытарыяльных часцей ад 8 жніўня 1923 г.», дапоўненыя пунктам «Льготы пераменнікам і дапрызыўнікам згодна пастановы ЦВК СССР ад 28/X—1924 г.». Потым апісана «Гісторыя 2-й Беларускай стралковай дывізіі» (у раздзеле, які прысвечаны гісторыі 5-га стралковага палка, паведамляецца, што «ў памяць выдатнага бою ўзяцця польскае цьвярдыні — крэпасці Брэст-Літоўску, полк штогодна сьвяткуе сваё баявое сьвята — 1 жніўня»), пасля змешчаны разгорнуты дыдактычны тэкст «Што ты павінен рабіць да збораў і ў час паміж зборамі». Тэрармеец павінен быў: 1. вывучаць вайсковую справу, 2. стаць пісьменным, 3. трымаць сувязь са сваёй часцю, 4. насіць сваё званне з гонарам, 5. выхоўваць любасць да Чырвонай арміі сярод жыхарства, 6. дапамагаць будаваць Авіяхім, 7. не забывацца вузьнікаў капіталу, 8. умацоўваць гаспадарку і Савецкую ўладу і 9. быць гатовым па першаму клічу вярнуцца ў сваю часць. На заканчэнні «Памяткі…» надрукаваны тэксты 4-х песень («Інтэрнацыянал», «Адвеку мы спалі», «Ну, таварышы, ў паход!», «Узьніміся, сьцяг чырвоны!») і «Чырвонаармейскі каляндар», у якім пазначаны падзеі савецкай ваеннай гісторыі за 1917—1923 гг.

Нашмат менш канкрэтнага матэрыялу ў іншай, разлічанай на байцоў тэрытарыяльных часцей кнізе Н. Ліноўскага «Тэрыторыяльнік на вёсцы», якая выйшла тыражом 10 тыс. экз. у Беларускім дзяржаўным выдавецтве ў




*Вокладка кнігі Н. Ліноўскага «Тэрытарыяльнік на вёсцы». Мінск, 1929 г.*

1929 г. Гэта выданне мела цану (8 кап.), што сведчыць пра магчымасць яго продажу праз кнігагандлёвую сетку, вокладка выдатна аздобленая мастаком Г. Змудзінскім.

Адной з праблем РЧСА 1920-х гг. быў вялікі працэнт непісьменнасці чырвонаармейцаў-прызыўнікоў — службу ў арміі стараліся арганізаваць так, каб навучыць грамаце непісьменных. Дзеля гэтага па замове 2-й Беларускай стралковай дывізіі ў 1926 г. выдадзены складзены Ю. Пушкевічам «Лемантар дзеля ўзрослых. Апрацаваны для карыстання ў беларускіх часьцях Раб.-Сял. Чырв. Арміі па лемантары С. Баляснага». Як месца выдання пазначана Масква, на адвароце вокладкі надрукавана: «Букварь Красноармейца» исполнен на белорусском языке по заказу Государственного Военного Издательства Московским Акционерным Издательским Обществом». «Лемантар дзеля ўзрослых» быў адрэдагаваны ў палітычным аддзеле Беларускай дывізіі і меў шмат дасціпнага ваеннага гумару. Вось дзеля прыкладу кавалак з апавядання «Дзясятыняроўны»:

Ідуць заняткі па статуце.

— Таварыш Вялізны, што Вы носам дзяўбёце?..

Скажэце, што такое палявы каравул? — пытаецца ў яго камандзір роты.

Вялізны ўскаквае і прадзірае вочы:

— Палявы каравул, таварыш камандзір, гэта парасійску, а панашаму — гвалт… Гэта, напрыклад, калі ў полі наскочыць вораг, дык хто крычыць «Каравул!», а хто — «Ратуй!» ці «Гвалт!..» А дзеля таго, што гэта крычаць у полі, дык яно і завецца «Палявы каравул» ці «Палявы гвалт».

Адважны ваяка, няма чаго казаць! — усьміхнуўся камандзір: — А скажэце нам, якія абавязкі мае вартавы і падвартавы?

Вартавы і падвартавы, таварыш камандзір, гэта ўсё роўна, што пастух і падпасак.

Хлопцы аж кладуцца ад сьмеху.

Лемантар, акрамя агітацыйных тэкстаў і кавалкаў з ваеннай прысягі, змяшчаў тэксты агульнаадукацыйныя, накшталт «Гутарка Пахома — старога агранома», верш «Ціт заводзіць новы быт», «Восем палосак на полі — хлеба і корму даволі» (з рэкламай шматпольнага севазвароту), пра гэта і яшчэ адзін тэкст: «Якое шматпольле завялі ў сябе валакалацкія ся-

ляне (вёска Валакалакі Дубровенскага раёну Аршанскай акругі)», «Вэтэрынар Бронскі пра склад конскі (10 наказаў)» і інш. Чырвонаармеец мог знайсці ў тэксце і такія вершаваныя парады:

Кніжку ўзяў, дык глядзі,
На цыгаркі не дзяры,
Яе й сам прачытай,
И сябром сваім дай!

Для тых чырвонаармейцаў, якія пераўзышлі ўзровень Лемантара ў 1927 г., у БДВ пад рэдакцыяй П. Валаснова і М. Якубовіча выйшла «Чытанка для чырвонаармейца». Кніга вялікага фармату, тыраж 5 тыс. экз. — яна была вызначана як падручнік першага года двухгадовай праграмы палітзаняткаў чарвонаармейцаў і ўключала сем раздзелаў, у якіх сабраныя разнастайныя тэксты пра арганізацыю Чырвонай арміі, вайсковае і цывільнае кіраўніцтва СССР і БССР, пра Камінтэрн і міжнародную палітыку. Чытанка давала непісьменным і малапісьменным байцам веды з гісторыі і геаграфіі, вучыла разумець вайсковую стратэгію і захоўваць ваенную тайну. Навучанне адбывалася не толькі ў лозунгава-дыдактычнай форме, але і гумарыстычнай — «Зьмітрок-чырвонец» расказваў розныя павучальныя гісторыі. Прыкладам, на с. 22 побач з набраным тлустым шрыфтам заклікам «Будзь асьцярожным — вораг сочыць за кожным тваім словам» змешчаны абразок:

Вось гэта адказаў!

*«Балбатун — той жа шпег».*

— Дазвольце спытацца аб адрасе вашае часьці?

— Адрас просты: паміж небам і зямлёй, супраць месяца, пад мастом, — хады 33 вярсты з хвастом.

— Гі-гі-гі-сь. А ці шмат у вас у палку байцоў?

— Падлічы: столькі-сь гарустаў наярвае, ды яшчэ столькі ж палявы ўварвае…

— А ў супе ў вас, пэўна, адны косці.

— Наконт супу не скажу… А ў байцоў па штату косьці ў языку павінны быць. Ёсьць, канечна, хлопцы, у якіх язык яшчэ без касьцей… Ды не на такога натрапілі…

Праз год палітычнае кіраўніцтва Беларускай ваеннай акругі падрыхтавала кнігу «Чырвонаармейская чытанка» (Менск, 1928 г.). Новая чытанка змяшчае партрэты кіраўнікоў Чырвонай Арміі і СССР, а таксама папулярныя ваенныя апавяданні расійскіх і беларускіх аўтараў, лозунгі ваеннай тэматыкі. Кніга ілюстравана шматлікімі фотаздымкамі самай сучаснай на той перыяд ваеннай тэхнікі і ўзбраенняў, уключаючы хімічныя.

Для падрыхтоўкі камандзіраў ніжэйшага і сярэдняга звяна РСЧА у Мінску выдавалася вайсковая літаратура разнастайнай тэматыкі. Яна датычыла канкрэтных пытанняў службы ў розных відах узброеных сілаў, нават такіх далёкіх ад беларускай рэчаіснасці, як ваенна-марскі флот, спрыяла атрыманню тэхнічных ведаў. Часцей за ўсё гэта былі пераклады адпаведных расійскіх кніг, хаця часам рыхтаваліся і арыгінальныя тэксты. Рэдакцыяй перакладу займалася Вайсковая Камісія пры Інстытуце беларускае культуры, аб чым выдаўцы часам паведамлялі на тытульных лістах. Паколькі беларуская вайсковая тэрміналогія толькі ўсталёўвалася, у розных выданнях сустракаюцца розначытанні назваў і тэрмінаў, напрыклад: «Асовіяхэм» і «ТСАавіяхім», «кулямётнік» і «кулямётчык», «бамбавальнік» і «бамбардзіроўшчык» і інш. Пасля трасфармацыі Інбелкульта ў Беларускую акадэмію навук у Інстытуце мовазнаўства была створана ваенна-тэрміналагічная камісія. Важным вынікам яе працы стаў «Ваенны руска-беларускі слоўнік» (Менск, 1933), адказным рэдактарам якога быў Я. Мацюкевіч, а ўкладальнікамі Кобленц, Калента, Карвоўскі, Мацюкевіч, Пятроў, Юргілевіч, Якубовіч, Яноўскі і Саломенік. У Прадмове адзначана, што «пры складанні слоўніка ваенна-тэрміналагічная камісія зыходзіла з наступных прынцыпаў: 1) даць у невялікім слоўніку максімум тых тэрмінаў, якія зараз укараняюцца ў арміі ў сувязі з насычэннем яе новай тэхнікай, матарызацыяй і механізацыяй; 2) даць такі слоўнік, які быў бы пазбаўлены архаізмаў, паланізмаў, што імкнуліся ўкараняць у армію нацдэмы, выходзячы з класавых буржуазна-рэстаўратарскіх тэндэнцый, сваім «Практычным беларускім вайсковым слоўнікам»[497].

Кнігі вайсковай (абароннай) тэматыкі выдавалі некалькі арганізацый. У 1920-я гг. кнігавыданнем займаліся Аб'ядная Беларуская Вайсковая Школа і Палітычная Управа Беларускай Вайсковай Акругі. Прыкладам можа быць выдадзеная Палітуправай БВА у 1929 г. у перакладзе з рускай мовы «Памятка вайсковаму карэспандэнту: як і аб чым пісаць у газэту» А. Парнішчава, кніжка вельмі добра адпрацавана з гледзішча беларускай мовы, што тлумачыцца на тытуле: «Пераклад апрацаваны Вайсковай Камісіяй пры Беларускай Акадэміі Навук».

У канцы 1930-х гг. кампендыумам ваенных ведаў павінна была стаць запланаваная

*Вокладка «Чырвонаармейскай чытанкі». Мінск, 1928 г.*

*Вокладка кнігі К. Варашылава «Сталін і Чырвоная Армія». Мінск, 1930 г.*







да выдання Беларуская Савецкая Энцыклапедыя ў 10 тамах, якая рыхтавалася пры Беларускай акадэміі навук. Быў выдадзены праект слоўніка, 19-ы выпуск называўся «Ваенная справа» (Менск, 1935). Ён уключыў спіс назваў больш за 800 спецыяльных артыкулаў з пазначэннем колькасці знакаў на кожны. Аднак на гэтым справа спынілася.

У пачатку 1930-х гг. выданнем вайсковай літаратуры займалася Дзяржаўнае Ваеннае Выдавецтва БССР. Вядомыя кнігі, якія выйшлі пад гэтай фірмай у 1932 і 1933 гг. У гэтыя ж гады ДВВ выдавала тыражом 6 тыс. экз. ваенна-абарончы літаратурна-мастацкі часопіс «Напагатове». У рэдкалегію часопіса ўвайшлі А. Александровіч, Л. Бэндэ, Ф. Гольдман, К. Крапіва, В. Шапавалаў, адказным рэдактарам стаў член Рэўваенсавета Беларускай ваеннай акругі Л. Аронштам. Часопіс анансаваўся як штомесячны, але выйшла ўсяго шэсць нумароў (тры ў 1932 і тры ў 1933 г.). Ваеннае выдавецтва мела сваю марку, якая складалася з выяваў зоркі, сярпа і молата і раскрытай кнігі.

У 1934 г. з'яўляюцца кнігі, што выйшлі ў «Выдавецтве Беларускай ваеннай акругі».

З пачатку 1930-х гг. ваенную літаратуру выдае Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі (ДВБ), у якім быў створаны «Сектар ваеннай літаратуры» (часам называўся «Сектар вайсковай літаратуры»), прынамсі ў 1932 г. ён ужо існуе пад назвай «войсковы сэктар». Вайсковы сектар ДВБ выдаваў серыі «Бібліятэка камандзіра», «Бібліятэка чырвонаармейца», «Масавая ваенна-тэхнічная бібліятэка». Выдавецтва імкнулася, каб рэпертуар кожнай серыі быў разнастайным. Вось як выглядаў, напрыклад, спіс 8 кніг для «Бібліятэкі чырвонаармейца» на 1931 г.: Усачоў «Каравул і вартавы»; Максіменка «Барацьба з авіяцыяй»; Рудаміна «Шпіянаж і ваенная тайна»; Анісімаў «Як зрабіцца адменным стралком»; Хаванскі «Пяхоце пра конніцу»; Максіменка «Галубы на вайсковай службе»; Пігін «Дзеянні стралковага аддзялення ноччу»; Бін «Баец у выведцы».

Распаўсюджваннем ваеннай кнігі займаўся сектар кнігагандлю Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі. У лютым 1933 г. у якасці дадатку да «Дэкадніка кнігагандлю ДВБ», які рыхтаваўся ў сектары кнігагандлю, выйшаў «Кароткі тэматычны кнігаспіс ваенна-абароннай літаратуры: Чырвоная армія і абарона СССР». Даведнік уключыў 320 назваў ваенных кніг на беларускай, 12 — на яўрэйскай, 3 — на польскай і 1 — на літоўскай мовах.

У выніку перад Другой сусветнай вайной была створана вялікая і разнастайная ваенная літаратура на беларускай мове, якая

ахоплівала вельмі розныя бакі тагачаснай вайсковай справы.

Найбольш важнымі дакументамі, якія рэгламентавалі жыццё і ваенную службу чырвонаармейцаў і тэрытарыяльнікаў, былі афіцыйныя выданні статутаў і настаўленняў. Да пачатку 1930-х гг. Беларусь ужо мела гэтыя асноўныя дакументы надрукаванымі на дзяржаўнай беларускай мове. Гэта Баявы статут пяхоты РСЧА, Баявы статут артылерыі, Палявы статут РСЧА, Статут каравульнай службы РСЧА, Настаўленне па стралковай справе РСЧА, Настаўленне артылерыі РСЧА, Настаўленне па вайсковай інжынернай справе для пяхоты, Настаўленне РСЧА па тактычных вучэннях і манеўрах, Настаўленне па вайсковым маскаванні РСЧА, Настаўленне для санітараў па падачы першай дапамогі і па пераносцы і перавозцы пацярпелых у баі, Кіраўніцтва па навучанні войска карыстанню супрацьгазамі і інш. Увесь даваенны перыяд перавыдаецца кніга маршала К. Варашылава «Сталін і Чырвоная Армія» — з 1930 да 1941 гг. яна мела 8 выданняў, пасля вайны двойчы выйшла кніга гэтага ж аўтара пра І. Сталіна пад назвай «Геніяльны палкаводзец Вялікай Айчыннай Вайны».




*Вокладка кнігі «Лінкор «Парыжская камуна». Мінск, 1935 г.*

### Кнігі пра ваенна-марскі флот

Папулярнымі расказамі пра ваенна-марскі флот для беларускага чытача сталі кнігі В. Паморцава «Пад чырвоным вымпелам», выдадзеная БДВ у 1931 г. і «Братва: запіскі матроса» Івана Шпілеўскага (вокладка М. Гусева). Апошняя кніга — расказ пра ўласную ваенна-марскую службу, якая перарывалася ў рэвалюцыйныя гады сухапутнымі паходамі дзеля абароны рэвалюцыі. Заканчваецца аповед тым часам, калі на флоце «…праводзілася чыстка яго ад наносаў, ад усялякіх шкурнікаў, паступіўшых на флёт толькі дзеля таго, каб насіць штаны з 78-сантымэтравым клёшам і шліфаваць панэлі. Усе «іванморы» і «жоржыкі», увесь гэты нагар быў выкінуты, і флёт праводзіў першую генэральную прыборку пасьля прыходу з Гельсінгфорсу і Рэвелю, як пасьля вугальнай пагрузкі. Пачаў залечваць свае раны і паступова ўзмацняцца»[498].

Дваццаць пятай гадавіне паўстання матросаў на Чарнаморскім флоце была прысвечана кніга В. Дробата «Аповесць пра герояў крэйсэра «Очаков» (Менск, БДВ, 1931 г.). Аднак найбольшую ўвагу ў рэспубліцы прыцягваў асобны карабель — адзін з самых вялікіх лінкораў (альбо па-старому дрэдноутаў) расійскага флоту, на гісторыі якога варта коратка спыніцца.

У 1909—1914 гг. на Балтыйскім заводзе ў Санкт-Пецярбургу быў пабудаваны і ўведзены ў склад расійскага ваенна-марскога флоту лінкор «Севастопаль». У 1918 г. карабель перайшоў з Гельсінгфорса ў Кранштат, у 1919 г. удзельнічаў агнём галоўнага калібру ў абароне Петраграда ад войскаў Юдзеніча. У сакавіку 1921 г. 1500 маракоў з «Севастопаля» разам з экіпажам аднатыпнага лінкора «Петрапаўлаўск» узначалілі паўстанне ў Кранштаце, якое бальшавікі назвалі «мяцяжом», а Ленін палічыў яго больш небяспечным, чым увесь белы рух, і заклікаў дэлегатаў X з'езда РКП(б) асабіста ўзначаліць штурм Кранштацкай крэпасці.

Пасля задушэння паўстання на «Севастополь» з Петраграда прыслалі новы экіпаж. Сярод задач, пастаўленых перад чырвонымі камандзірамі (іх тады называлі «краскомы»), на першае месца выйшла ўзмоцненая ідэалагічная апрацоўка маракоў. Пачалі з таго, што «зняслаўленую» ўдзелам у паўстанні назву лінкора вырашылі замяніць на новую, «рэвалюцыйную». 31 сакавіка 1921 г. «Севастополь» пастаноўлена перайменаваць у «Парыжскую камуну», амаль адразу пасля гэтага карабель быў залічаны ў рэзерв (пры гэтым спынілася

забеспячэнне вугалем). Толькі ў лістападзе 1924 г. занядбаны карабель паставілі каля Балтыйскага завода для капітальнага рамонту, і тады ж абавязалі камсамол Беларусі ўзяць над ім «шэфства», г. зн. частку выдаткаў на ўтрыманне.

У 1927 г. аб падшэфным камсамолу Беларусі лінкоры выдавецтва «Чырвоная зьмена» ў серыі «Бібліотэка «Чырвоная зьмена» выпусціла кнігу, якая называлася «Парыская камуна»: лінейны карабель Балтыцкага флёту, падшэфны комсамолу Беларусі», з прадмовай сакратара ЦК ЛКСМБ А. Бараннікава і ілюстрацыямі Г. Змудзінскага. Кніга расказвала аб баявой падрыхтоўцы і адпачынку маракоў-балтыйцаў, замоўчваючы непрыемныя для кіруючай партыі эпізоды гісторыі карабля, мела ў якасці дадатку даволі вялікі беларускі тлумачальны слоўнік марскіх тэрмінаў, які ўключыў, між іншым, і выразы «марскога» жаргону. «...Разнастайныя артыкулы ахопліваюць усе бакі жыцця карабля, добрыя малюнкі дазваляюць лёгка вывучыць і сам карабель, увайсці ў курс гэтай, адухатваронай камсамолам, плывучай крэпасці, заўсёды падрыхтаванай да абароны Савецкага Саюза», — пісала рэцэнзент часопіса «Чырвоны сейбіт» Сара Маршак[499].

У канцы 1929 г. «Парыжская камуна» пачала паход па маршруце Кранштат — Італія — Кранштат, але ў Біскайскім заліве трапіла ў моцны шторм, атрымала значныя пашкоджанні і ў выніку ў 1930 г была накіравана ў Севастопаль і ўключана ў склад Чарнаморскага флоту. Праз 5 гадоў пасля пераходу з Балтыйскага ў Чорнае мора дзеля падшэфнага карабля ў Мінску была выпушчана яшчэ адна кніга, на гэты раз у выдавецтве Беларускай ваеннай акругі, пад назвай «Лінкор «Парыжская комуна». Аўтарскі калектыў (11 чалавек) працаваў пад рэдакцыяй ваеннага камісара лінкора Д. Бакуліна, вокладку выканаў мастак Г. Кіпніс. На пачатку кнігі надрукавана пастанова ЦВК і СНК БССР ад 25 кастрычніка 1933 г. «Па дакладу ваенкома падшэфнага ўраду Беларусі лінкора «Парыжская комуна» аб выніках баявой і палітычнай падрыхтоўкі». Гэта пастанова, падпісаная старшынёй ЦВК БССР А. Чарвяковым, старшынёй СНК БССР М. Галадзедам і сакратаром ЦВК БССР М.Ляўковым, паказвае, колькі каштаваў для рэспублікі падшэфны карабель у той год, які застаўся ў гісторыі як год голаду ў Паволжы і Казахстане і галадамору на Украіне:

Выдзеліць з рэсурсаў БССР і адгрузіць 500 тон бульбы для патрэб асабовага саставу для паляпшэння харчавання. Адгрузку робіць камсамол Беларусі.

Не пазней 1-га квартала 1934 г. выдзеліць караблю адну легкавую машыну.

Выдзеліць у распараджэнне камандавання 10 тыс. рублёў для прэміравання ў 16-ю гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі лепшых ударнікаў-чырванафлотцаў і камандзіраў за ўзорныя поспехі баявой работы ў 1933 г.

Адпусціць для абсталявання казармаў, клуба і ленкуткоў 20 тысяч рублёў, адзін вагон фанеры і 2 вагоны лясных матэрыялаў.

Для азнаямлення працоўных Беларусі з жыццём, бытам і вучобай падшэфнага лінкора абавязаць Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі разам з ЦК ЛКСМБ выпусціць да гадавіны Беларусі папулярную кнігу аб падшэфным караблі.

Кніга, якая выйшла ў выніку выканання пастановы, пачынаецца агульным артыкулам «Класы ваенных караблёў і прызначэнне лінкора», у наступнай главе расказана істотна адрэдагаваная гісторыя лінкора (выключаны эпізод з Кранштацкім паўстаннем), найбольш таленавіта напісана глава «З Балтыкі ў Чорнае мора вакол Еўропы», якая апавядае пра змаганне са штормам у Біскайскім заліве, рэшта тэкстаў — агітацыйныя матэрыялы пра карыснасць шэфства, «герояў башні Гамарніка» і культурны адпачынак маракоў. На жаль, тэксты не маюць ніводнага ўспаміну пра службу афіцэраў-беларусаў альбо прызваных з Беларусі матросаў. У гады Другой сусветнай вайны лінкор «Парыжская камуна» ўдзельнічаў у абароне Севастопаля, падтрымліваў агнём дэсант у Судаку, абстрэльваў нямецкія пазіцыі пад Феадосіяй. У маі 1943 г. караблю была вернута яго першая назва — «Севастопаль»; у 1956 г. ён быў выключаны са спісаў флоту і разабраны на металалом.

З кніг ваенна-марской тэматыкі можна яшчэ адзначыць працу «Падводныя лодкі і барацьба з імі» аўтара, схаванага за ініцыяламі А.Т., «Як працуюць вадалазы» В. Селітраньнікава, мастацкую кнігу В. Якаўлева «Салют крэйсера «Комінтэрн» і «Новыя задачы шэфства над флётам» Гальянава і Янава.

### **Авіяцыя і проціпаветраная абарона** (ППА)

«Пагроза вайны сусветнай буржуазіі супраць Савецкага Саюзу патрабуе ўзмацнення баявой падрыхтоўкі Чырвонай арміі. Аднэй з галоўных задач гэтай падрыхтоўкі зьяўляецца шырокае знаёмства нашай арміі з тэхнікай і са спосабамі барацьбы з ёю» — з такой анатацыі пачыналася кніга П.Я. Максіменкі «Барацьба з







*Вокладка кнігі І. Шпілеўскага «Братва: запіскі матроса». Мінск, 1931 г.*

*Вокладка кнігі Б. Леонцьева «Моладзь на самалёты». Мінск, 1936 г.*

авіяцыяй» (з 28 малюнкамі ў тэксце і табліцаю знакаў) (Менск, 1931. БДВ, 5 тыс. экз. 56 с. (перакладчык не пазначаны). Аўтар даступна расказаў аб авіяцыі як аб адным з магутных сродкаў тэхнічнай барацьбы ў будучай вайне, а таксама аб сродках і спосабах барацьбы з паветраным ворагам. Задача кнігі — дапамагчы байцу і малодшаму камандзіру разабрацца ў пытаннях моцных і слабых бакоў паветранага праціўніка і правільнай барацьбы з гэтым праціўнікам у розных умовах баявых абставін. У канцы кнігі — 6 высноў («чаму павінен навучыцца баец») і 58 пытанняў для замацавання атрыманых ведаў. Кніжка карысталася папулярнасцю ў войсках, аб чым сведчыць з'яўленне ў 1933 г. другога перапрацаванага выдання, якое выйшла таксама тыражом 5 тыс. экз. з 26 малюнкамі і было метадычна дапрацавана — пытанні для замацавання зместу даюцца ў канцы кожнага раздзела.

Ваенна-авіяцыйную тэму раскрывалі для чырвонаармейцаў і іншыя выданні: «Памятка чырвонаармейцу аб авіяцыі. Ухвалена Управай вайскова-паветраных сіл РСЧА» Л. Стрыеўскага, «Як пабудаван самалёт і як ён лятае» А. Жабрава, «Авіяцыя і пяхота» М. Смірнова, «Наш паветраны флёт» В. Хрыпіна і інш.

На іншую, больш дасведчаную ваенную аўдыторыю разлічана кніга М. Аляксеева і П. Маліноўскага «Кароткія звесткі па арганізацыі ваенна-паветраных сіл», якую выдала Дзяржаўнае ваеннае выдавецтва БССР у 1933 г. тыражом 4 тыс. экз. Апавяданне тут пачынаецца з паведамлення агульных звестак пра паветра і атмасферныя з'явы, асновы тэорыі штучнага палёту, будову самалётаў і баявое ўжыванне паветранага флоту, тут жа апісаны распазнавальныя прыкметы і спосабы распазнавання самалётаў у паветры, друкуюцца сілуэты самалётаў розных тыпаў. Другая частка змяшчае параўнальныя характарыстыкі авіязлучэнняў і часцей ваенна-паветраных сіл «іншакраінных дзяржаў» (Эстоніі, Літвы, Польшчы, ЗША, Англіі, Францыі, Японіі, Румыніі, Чэхаславакіі, Італіі, Фінляндыі — але няма Германіі, якой, паводле Версальскага міра, было забаронена мець ваенную авіяцыю), трэцяя частка ўтрымлівае параўнальныя характарыстыкі тэхнічна-тактычных дадзеных і ўзбраення аднатыпных самалётаў (знішчальнікаў, бамбардзіроўшчыкаў, разведчыкаў, штурмавікоў, самалётаў сувязі, транспартных, санітарных і марскіх самалётаў розных дзяржаў, у тым ліку і германскай вытворчасці). Апошняя глава паведамляе колькасны састаў ваенных паветраных сіл замежных дзяржаў і вытворчыя магчымасці авіябудаўніцтва. Перакладчык на беларускую мову П. Кісель змог дасягнуць выраз-

скорасьць каля зямлі ў 450 *км* у гадзіну, павялічэньне столі да 7 000—8 000 *м* (адпаведна з павялічэньнем столі цяжкіх бамбавальнікаў); павялічэньне працягласьці палёту да нормы цяжкіх бамбавальнікаў і ўзмацненьне ўзбраеньня.



Рыс. 58. Марскі бамбавальнік Фокер Т IV (Францыя).

4. Тарпэда-бамбардыровачныя самалёты. У галіне будаўніцтва цяжкіх бамбавальнікаў першае месца належыць Італіі.

Найбольш магутны самалёт гэтага тыпу—„Капроні Са—90 РВ" мае магутнасьць матораў агульнай складанасьцю ў 6 000 *к. с*; поўная нагрузка 35 *т*; скорасьць 210 *км* у гадзіну; столь 4 500 *м*.



Рыс. 59. Звараджэньне тарпэданосца.

Экіпаж 11 чалавек; мае вельмі моцнае ўзбраеньне, якое складаецца з 7 кулямётаў і аднэй пушкі. Самалёт бярэ 10 *т* бомб, што дазваляе яму несьці бомбы калёсальнай зруйнавальнай сілы. Самалёт такога тыпу відавочна прызначаецца для зруйнаваньня буйных прамысловых цэнтраў.

146

На другім месцы па праву павінна стаяць Германія. Фірмаю „Юнкерс" сканструяван самалёт, які мае меншую грузапад'ёмнасьць, чым „Капроні Са—90 РВ", але вызначаецца лепшымі лётна-тактычнымі якасьцямі.



Рыс. 60. Тарпэданосец перад палётам з замацаванай тарпэдай.

Гэты самалёт „Юнкерс Г—38", уступаючы, як сказана, італьянскаму ў грузапад'ёмнасьці, пераважае апошні як у скорасьці палёту, так і па гранічнасьці столі і ўзбраеньняў.



Рыс 61. Тарпэданосец у палёце.

Крэйсэрская скорасьць Юнкерс Г—38—да 266 *км* у гадзіну, столь 7 000 *м*, працягласьць палёту 18—20 гадзін, узбраеньне—11 кулямётаў і 1 пушка.

Пазбаўленая права ўтрымліваць баявую авіяцыю, Германія, вырабляючы падобныя самалёты, у патрэбны момант здолее мець іх дастатковую колькасьць. У сучасны-ж момант ліцэнзія на пабудову самалётаў гэтага тыпу прададзена Японіі, якая і прыступіла да іх сэрыйнага вырабу.

147

*Разварот кнігі М. Аляксеева і П. Маліноўскага «Кароткія звесткі па арганізацыі ваенна-паветраных сіл». Мінск, 1933 г.*

най чытэльнасці тэксту, як тэрміналагічную асаблівасць перакладу заўважым выкарыстанне слова «гелікаптэр» для абазначэння верталёта.

На афіцэраў агульнавайсковых спецыяльнасцей разлічана таксама кніга В. Хрыпіна «Паветраны флёт. Ваенна-палітычны агляд арганізацыі, узбраення і ўжывання» (Менск, 1932 г.), з 31 малюнкамі і чарцяжамі ў тэксце. Тэма супрацьпаветранай абароны раскрывалася ў кнігах «Пражэктары і гукаспаймальнікі» Н. Ігнатава (Менск, 1932 г.), «Проціпаветраная абарона ў войску» Н. Вінаградава (Менск, 1932 г.) і «Проціпаветраная абарона населеных пунктаў» А. Лінніка і І. Хаміліса (Менск, 1933 г.).

Футуралагічны кірунак мела выдадзеная Беларускім ваенным выдавецтвам ў 1932 г. кніга Гельдэрса «Паветраная вайна 1936 г. (зруйнаванне Парыжу)». Гельдэрс, як выяўляецца з яго рамана, гарачы прыхільнік тых аперацыйна-тэхнічных поглядаў, што авіяпаветраны флот павінен з'яўляцца зусім самастойным, незалежным ад іншых родаў войск — такія высновы рабіў пасля прачытання гэтай кнігі беларускі рэцэнзент[500].

Адной з формаў прапаганды авіяцыі і падрыхтоўкі лётчыкаў быў планерызм. Каб прапагандаваць планерызм на Беларусі, Сацэксектар ДВБ выдаў у 1935 г. кнігу вядомых савецкіх планерыстаў С. Анохіна, Н. Сіманава і В. Барадзіна «Лунаючы палёт». Шматлікія фатаграфіі і схемы паказваюць партрэты планерыстаў і фігуры пілатажу, апавядаецца аб двухузроўневай сістэме падрыхтоўкі пілотаў: першым узроўнем быў пілот-планерыст, а другім — пілот-лунальнік. У наступным 1936 г. тэму папулярызацыі авіяцыі працягнула кніга Б. Лявонцьева «Моладзь, на самалёты!» у перакладзе на беларускую мову Івана Туміловіча.

Авіяцыя як сродак дастаўкі атрутных рэчываў (альбо АМ — атручваючых матэрыялаў, як

пісалі ў пачатку 1930-х гг.) выклікала занепакоенасць вайскоўцаў. Супрацьстаянню гэтай пагрозе прысвечаны выдадзеная ў Мінску ў 1931 г. і разлічаная на масавую аўдыторыю кніга В. Верычава «Сродкі і спосабы паветрана-хэмічнага нападу і абароны» (дапаможнік для заняткаў гурткоў і каманд ТДАвіяхіму) і «Барацьба з паветрана-хэмічнай небясьпекай» (Менск, 1932 г.). У 1933 г. у Дзяржаўным ваенным выдавецтве БССР выйшла кніга А. Лінніка «Ахова жывёлы ад хімічных сродкаў паветранага нападу». «Удасканаленне авіяцыі і хімічных сродкаў вайны па сутнасці разбівае самае ўяўленне аб фронце і тыле ў старым разуменні гэтага слова. Авіяцыя праціўніка ў многіх выпадках можа прарвацца ў тыл краіны і атакаваць эканамічныя і палітычныя цэнтры і тым дэзарганізаваць работу. … Ва ўмовах паветранага нападу побач з чалавекам і прадметамі вытворчага і бытавога ўжытку будзе атручвацца АМ і хатняя жывёла», — гаворыць аўтар у прадмове. Далей падаюцца спосабы, як ратаваць свойскую жывёлу: ад эвакуацыі да выкарыстання індывідуальных сродкаў абароны, такіх як супрацьгаз (процівагаз) для коней і сабак, панчохі для коней. Тыраж кнігі — 10 тыс. экз. Масавым тыражом выйшла кніга «Куляй па самалёце» В. Аляксеева і І. Хорыкава (Менск, 1932 г.). Яна вучыла байца не баяцца паветранага нападу і расказвала аб магчымым супраціве (яшчэ рэальным пры тым узроўні развіцця авіяцыі).

Кнігі, прысвечаныя авіяцыі і флоту, складалі параўнальна невялікі працэнт ад усёй ваеннай літаратуры на беларускай мове. Масавы чытач-чырвонаармеец больш працаваў з выданнямі, прысвечанымі сухапутным войскам. На беларускай кніжнай паліцы ў даваенны перыяд назапасілася значная колькасць літаратуры па актуальных праблемах стралковай справы. Гэта афіцыйнае «Настаўленне па стралковай справе РСЧА. Методыка стралковай падрыхтоўкі і курсы стрэльб», «Кароткія звесткі аб асновах стральбы» Філатава, «Работа на агнявой пазіцыі і на камандным пункце» Р. Пятроўскага, «Падрыхтоўка кулямётніка-дзехцяроўца» В. Аляксеева і І. Хорыкава, «Бой станковага кулямёту і работа кулямётчыкаў» І. Інцяпіна; «Стральба з кулямёту «Максіма» непрамою наводкаю без прыбораў» Р. Пяроўскага. Сюды ж можна залічыць кнігі для вывучэння матэрыяльнай часткі зброі: афіцыйныя «Настаўленні па стралковай справе РСЧА» (асобныя выпускі прысвечаны рэвальверу «Наган» узору 1895 г., вінтоўцы ўзору 1891 г., станковаму кулямёту «Максім» узору 1910 г., стрэльбавым і ручным гранатам, а таксама дадатковая літаратура: «Вінтоўка і догляд яе» С. Бялова і «Памятка чырвонаармейцу аб зберажэнні вінтоўкі» А. Палякова, «Ружэйны гранатамёт Дзьяконава» Прунцова, «Наган. Узаемадзеянне частак, чыстка і захоўванне» А. Херсонскага.

Дастаткова былі забяспечаны спецыяльнай літаратурай байцы, якія абслугоўвалі два галоўныя на той час тыпы кулямётаў: існавала «Памятка наводчыку па доглядзе і зберажэнні ручнога кулямёта Дзегцярова» А. Палякова, а таксама яго ж «Памятка наводчыку па доглядзе і захаванні кулямёта «Максіма», «Кулямёт-машына (Гутаркі аб кулямёце «Максіма»)» І. Хорыкава і В. Аляксеева, «Памятка і практычныя парады кулямётніку-максімісту» Інцяпіна. Тыражы вагаюцца ад 3 тыс. экз. (настаўленні па рэвальверы і кулямёце — да 7—10 тыс. экз. (настаўленні па вінтоўцы).




*Вокладка кнігі В. Аляксеева і П. Кузняцова «Гутарка выдатнага наводчыка ручнога кулямёта». Мінск, 1933 г.*






3. Падыходзячы да кулямёта, не падымай каля яго пылу, які, пападаючы ў рухомыя часткі, выклікае затрымкі і зношанасьць частак.

Рыс. 13. Сьпешка і гарачка непатрэбны пры перавозцы кулямёта. Кепскі кулямётнік рые надульнікам пясок.

4. Ня здымай каўпачка надульніка з зараджанага кулямёта. Здымаючы каўпачок, ня рві ланцужкоў.

5. Пакуль замок кулямёта не адкінуты, нельга хадзіць перад дулам кулямёта.

6. Ня кідай замка „з ходу"—гэта псуе замок, забівае рэбры кораба і рамы. Уклад-

45

*Вокладка і старонка кнігі А. Палякова «Памятка кулямётніку па даглядзе і захаванні кулямёта Максіма». Мінск, 1932 г.*

Спецыяльныя кніжкі-памяткі былі прысвечаны самым розным момантам у стралковай падрыхтоўцы чырвонаармейца. Назвы гавораць самі за сябе: «Памятка стралку-назіральніку ў баі» Б. Львова і В. Макерава, «Памятка байцу-стралку аб конніцы» П. Максіменкі, «Памятка стралку па пераправачнай справе» М. Багданава.

Кнігі для артылерыстаў (альбо, як пісалі ў 1930-я гг., «артылерыстых») прадстаўлены таксама ў шырокім рэпертуары, іх тыражы вагаюцца ад 2 тыс. да 4 тыс. экз. Акрамя «Настаўлення Артылерыі РСЧА. Служба разьдзелаў кіравання батарэй і дывізіёнаў», сюды можна залічыць «Памятку чырвонаармейцу аб артылерыі» і «Памятку выведніку-артылерысту (Ухвалена Інспекцыяй Артылерыі РСЧА)» А. Разынко, «Дзействы асобнай палкавой гарматы» С. Гейнрыха і «Памятку аб зберажэнні і чыстцы гармат (Ухвалена Тэхнічным штабам Начальніка ўзбраенняў РСЧА)» М. Барэйшы, «Як пабудаваны гарматы» Ф. Салаўёва, «Баявая работа гарматы і аддзялення» Сямёнава, «Артылерыйскія прыборы і карыстанне імі» С. Гейнрыха і «Памятку аб захаванні прыбораў для стральбы і назіранняў» М. Барэйшы.

Для навучання артылерыстаў прызначана і папулярна напісаная кніга А. Ляснога «Тарас-артылерысты», якую БДВ выдала ў серыі «Бібліотэка чырвонаармейца» ў 1930 г. Галоўны герой кніжкі — Тарас Галушка — з першых дзён службы ў арміі знаёміцца з працай абслугі гарматы, фармулёўкамі камандаў на беларускай мове, вось прыклад:

«У гэты час прагучала каманда:

— Па наступаючай коньніцы! Шрапнэльлю! Лявей 30! Ровень нуль-нуль! Прыцэльнік 15! Трубка 15! Адзін патрон шпаркі!..»

Тарас Галушка служыць старанна, пераадольвае няўдачы і ўрэшце становіцца чырвоным камандзірам, апошняя глава так і называецца: «З парабкаў — у камандзіры».

«Кніжка гэта ў форме апавядання апісвае работу штату гарматы цалкам і абавязкі кожнага нумара паасобку. Праз гэта на яе нельга глядзець як на лёгкую чытанку, а, пачытаўшы кожны раздзел, трэба падумаць над тымі пытаннямі, якія напісаны ў канцы яе. Кніжка прызначана для чырвонаармейца-артылерыстага першага году службы, але ўжо знаёмага з матэрыяльнай часткай 76-мм гарматы», — гаворыцца ў выдавецкай анатацыі да «Тараса-артылерыстага».

На малодшых камандзіраў і чырвонаармейцаў-артылерыстаў была разлічана кніга М. Барэйшы і С. Прыходзькі «Сучасная артылерыйская гармата» (Менск, выдавецтва Беларускай ваеннай акругі, 1935). У ёй апавядаецца аб агульных асновах будовы артылерыйскай гарматы і аб важнейшых удасканаленнях і


Нумары пры гармаце ў баі.

*Малюнак з кнігі серыі «Бібліятэка чырвонаармейца». А. Лясной. Тарас-артылерысты. Мінск, 1930 г.*

новаўвядзеннях, якімі адрозніваліся новыя ўзоры амерыканскай, французскай, чэхаславацкай вытворчасці.

Механізацыя і матарызацыя войск была адлюстравана перш за ўсё і галоўным чынам кнігамі, што прысвечаны танкам і барацьбе з імі. Тэорыя пытання выкладзена ў працы К. Каліноўскага «Праблема матарызацыі і механізацыі сучасных армій (Даклад на паседжанні ваеннай секцыі пры Комакадэміі 29 лістапада 1930 г.)», якая тыражом 3 тыс. экз. выдадзена ў Мінску ў 1932 г. Тактыка-тэхнічныя характарыстыкі танкаў, прымяненне танкаў у баі і асаблівасці ўзаемадзеяння пяхоты і танкаў раскрыты ў кнігах «Танкі ў баі» С. Амосава і «Танкі» Хайгля. Тэма змагання з танкамі раскрыта ў працы Манько «Схватка агнявікоў з маторам. Барацьба артылерыі з мотамехчасьцямі», Тарасевіча «Процітанкавая абарона», Калеснікава і Чудноўскага «Барацьба аддзялення з танкамі», «Танкі і барацьба з імі» У. Яўціхеева. Практычныя функцыі выконвалі «Пабудова і ўжыванне танкеткі» Герасімава і бязаўтарская «Інструкцыя па навучанню ваджэнню малага танку».

Адной з галоўных дысцыплін ваеннага навучання з'яўляецца тактыка. Беларуская кніга па гэтым прадмеце з'явілася ў сярэдзіне 1920-х гг., тыражамі ў 3—5 тыс. экз. кожная. Сярод іх «Тэхніка першай выведкі аддзяленнем, узводам і ротай» В. Арцэза, «Навучанне байца і аддзялення ў полі» С. Гурава, «Бой стралковага аддзялення ў прыкладах» П. Максіменкі, «Каравульная служба» М. Марчанкі і «Служба палявога каравулу» І. Пігіна, «Служба загародкаў» М. Марчанкі, «Фарсаванне рэк» І. Ткачова, «Служба назірання» Сіманоўскага. Як дапаможнік для малодшага і сярэдняга начскладу РСЧА і інструктараў Асавіяхіму была выдадзена кніга А. Маезіта «Агульная методыка баявой падрыхтоўкі байца і дробных падраздзяленняў». Даступнай і добрай мовай была напісана «Памятка чырвонаармейцу на манеўрах», аднак пасля таго, як у 1937 г. быў расстраляны яе аўтар — смаленскі беларус і чырвоны маршал Міхаіл Тухачэўскі, — кніга надоўга трапіла ў спецсховішча.

У курсе тактыкі важную ролю адыгрывае ваенная тапаграфія. У гэтай тэматычнай групе з'явіўся падручнік «Вайсковая топографія» А. Казачкова (Менск, 1927), цана на кнізе не пазначана, тыраж — 3 тыс. экз. Пра грунтоўнасць падыходу да выдання гэтай кнігі сведчыць той факт, што зроблены пераклад не толькі тэксту, але і надпісаў на ілюстрацыях — картах і планах. У 1931 г. выйшаў падручнік В. Свянціцкага «Вайсковая тапаграфія. Падручнік па вышэйшай дапрызыўнай падрыхтоўцы для ўсіх ухілаў», а ў 1932 г. быў выдадзены дапаможнік

*Старонка кнігі М. Барэйшы і С. Прыходзькі «Сучасная артылерыйская гармата». Мінск, 1935 г.*










**Рыс. 55. 75-*мм* амерыканская універсальная пушка Т-3.**

74

Ф. Каржаневіча «Як карыстацца картамі і планамі».

Для тактычнай падрыхтоўкі чырвонаармейца добрым дапаможнікам стала перакладзеная з расійскай мовы Корсікам кніга В. Лявонцьева «Падрыхтоўка паасобнага байца» з 20 малюнкамі ў тэксце, планамі мясцовасці з подпісамі па-беларуску. Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выдала яе ў 1931 г. у серыі «Бібліотэка чырвонаармейца» тыражом у 3 тыс. экз.

Выдавецкая анатацыя паведамляла: «Кніжка гэта напісана па заданні прэзідыуму Асовіяхіму стралкова-трактарных курсаў удасканалення камскладу РСЧА і прызначаецца для малодшага камандзіра Чырвонай Арміі. Але кожнаму чырвонаармейцу яе карысна прачытаць таму, што кожны чырвонаармеец — аддзяльком у будучым. Кніжка, вядома, не дае парад і паказанняў па ўсіх пытаннях работы аддзяленнага камандзіра і ня можа служыць падручнікам, але ўсё галоўнае, без чаго ніяк нельга абыйсціся пры штодзённай рабоце, у ёй адзначана, прычым галоўная яе мэта — даць параду малодшаму камандзіру, як іменна праводзіць заняткі, каб яны не раздрабляліся на дробязі, не ператвараліся ў «размовы». Адносна ж зместу заняткаў і паглыбленых ведаў па тых ці іншых пытаннях, якія ўваходзяць у круг гэтых заняткаў, добра прачытаць рад адпаведных кніжак з серыі «Бібліятэка чырвонаармейца», якая ў масе сваёй разлічана на аддзяленнага камандзіра, курсанта нармальных школ, стараслужачага чырвонаармейца».

Вопыт Першай сусветнай вайны, у якой сотні тысяч людзей загінулі ад атрутных рэчываў, прымушаў вайскоўцаў вельмі сур'ёзна ставіцца да гэтай пагрозы. Таму сярод беларускіх ваенных кніг выданні па ваенна-хімічнай справе з'яўляюцца досыць рэгулярна і складаюць істотны працэнт. Два выданні (у 1931 і 1933 гг.) вытрымала вялікая кніга В. Верычава «Хэмічны напад і абарона», масавым тыражом быў выдадзены дапаможнік Цюцюнава-Орскага «Супроцьгазы і дапаможныя сродкі супроцьхэмічнай абароны», у войску і ваенных навучальных установах карысталіся кнігамі В. Верычава «Байцу пра вайсковую хэмію» і яго ж «Кароткімі зьвесткамі па баявым ужыванні ўзрыўных, атрутных, дымаўтваральных і запальных матэрый», В. Фёдарава «Дэгазацыя і як яе рабіць», А. Бубнава «Памятка чырвонаармейцу аб ваенна-хімічнай маёмасці», А. Доліны «Чырвонаармейцу аб хэмічнай выведцы» і «Памятка хімвыведчыку» С. Азар'ева. Тыповым прыкладам можа быць «Баявая служба чырвонаармейца хіміка (БСЧХ)» С. Азар'ева і Н. Балашова (Менск, 1936). На тытульным лісце паведамляецца: «Зацьверджан Камісіяй па падручніках пры НКА СССР у якасці падручніка для падрыхтоўкі чырвонаармейцаў палкавых хімузводаў і стралковых часцей. Тыраж 3185. Друкарня Палесдрук. Гомель, Савецкая, 1». На адваротным баку пераплёту кнігі ўказаны цана кнігі — 1 р. 35 к. і асобна кошт пераплёту — 25 кап. Выданне вылучаецца высокай якасцю рэдактарскай падрыхтоўкі, перакладзены надпісы на картах, схемах, малюнках.




*Вокладка кнігі П. Варварына і С. Крэвера «Коўка каня». Мінск, 1936 г.*

Для падрыхтоўкі сухапутных сілаў пастаянна выкарыстоўваліся (а значыць рыхтаваліся і выдаваліся) кнігі па ваенна-інжынернай справе і сувязі ў войску. Беларускія выданні гэтай тэматыкі прадстаўлены «Памяткай па вайскова-інжэнернай справе для малодшага каманднага саставу артылерыі» С. Гнедзіча,

*Вокладка кнігі С. Амосава «Танкі ў баі». Мінск, 1932 г.*

*Вокладка кнігі С. Амосава «10 год Чырвонай Арміі». Мінск, 1928 г.*







кнігай «Вайскова-інжынерная справа для пяхоты» М. Спірынга і кніжкай з такой самай назвай аўтара Бураўцова, выдадзенага пад грыфам Ваенна-інжынернага кіраўніцтва РСЧА дапаможніка «Тэхнічныя сродкі маскіроўкі пяхоты». Вялікі аб'ёмам і змястоўны навучальны дапаможнік Ю. Грэгорыо «Служба і сродкі сувязі» быў галоўным кіраўніцтвам для сувязістаў, з дапаможнай літаратуры гэтага профілю можна назваць «Радыётэлеграф як сродак выведкі» М. Стэжынскага, «Палявы тэлефон, яго будова і захаванне» М. Чорных, «Сувязь самалёта з наземнымі войскамі» В. Цімафеева. Кнігамі для сувязістаў можна назваць і такія выданні, як «Памятка першаму пасыльнаму (зьвязному)» А. Новікава, «Памятка сыгнальшчыку паста ПНАС» М. Чорных. Кніга-падручнік П. Варварына і С. Крэвера «Коўка каня» (Менск, 1936 г.) прызначалася для вучэбных кузняў вайсковых часцей РЧСА.

Асобны тэматычны шэраг складаўся з практычных парад для захавання здароўя, напрыклад, «Як зберагчы здароўе ў час паходу» С. Бязукладнікава, «Як папярэдзіць намульванне ног» Кофмана, «Як захаваць сілы на паходзе» Львова, «Гігіена чырвонага байца. Папулярныя гутаркі для чырвонаармейцаў» М. Сандамірскага, а таксама з кніг па аказанні першай медыцынскай дапамогі параненым: «Хімічная вайна і першая дапамога пры паражэнні атрутнымі матэрыяламі» З. Шміта, «Тэхніка дапамогі раненым і атручаным» Энціна, «Памятка чырвонаармейцу аб мерах санітарнай абароны ад АМ» Б. Прадцечанскага і інш.

Пабудова арміі ў СССР праходзіла пад пільным наглядам і кантролем Камуністычнай партыі. Гэта стала прычынай з'яўлення шматлікіх беларускіх дапаможнікаў для палітработы ў РСЧА. Асобнымі выпускамі сектар вайсковай літаратуры ДВБ выдаваў «Чырвонаармейскі палітпадручнік» пад агульнай рэдакцыяй А. Геронімуса. Кніга адпавядала праграме палітычных заняткаў ПУРа РСЧА. Акрамя таго, для выкарыстання на палітзаняттках выйшлі кнігі «Палітзабеспячэнне атрадных вучэнняў» М. Карэліна, «Аб новай мэтодыцы палітзаняткаў» В. Бэрліна, «Соц. спаборніцтва і ўдарніцтва ў Чырвонай Арміі» Е. Еўдакімава, «Самакрытыка і чырвонаармеец» І. Анурава, зборнік «Палітработа ў баі», і гэта далёка не ўсё. На патрэбу палітработнікаў выдаваліся кніжкі гістарычнага і прапагандысцкага зместу, напрыклад у 1932 г. выйшла праца М.І. Ахуна і В.А. Пятрова «Бальшавікі і армія ў часе імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны». У 1931 г. быў падрыхтаваны зборнік «Як робіцца вайна» (літаратурная праўка і карэкту-

ра М. Багуна), назву якога вызначыў змешчаны тут аднайменны артыкул Карла Радэка, сярод матэрыялаў — публікацыі з саюзных газет «Известия» (Рабочыя і колгасьнікі, помніце вайну! Не забывайцеся на 1-е жніўня 1914 году), «Красная звезда» (Небяспека інтэрвенцыі і небяспека для інтэрвентаў), а таксама аўтарскія артыкулы, подпісы пад якімі — хутчэй за ўсё псеўданімы: Індэкс, Пятроў, Сінева.

У 1930 г. у выдавецкай серыі БДВ «На варце СССР», акрамя згаданай ужо кнігі «Тэрытарыяльнік на вёсцы» выйшлі таксама «Наладжванне ціру для стралковых гурткоў» А.Дзёміна (Менск, 1930 г.), Г. Штэрна «Апавяданне старшыны Вахненкі пра політразведку» (Менск, 1930 г.). Апошняя пабудавана як аповеды бывалага старшыны-разведчыка пра дзеянні армейскай разведкі ў зоне баявых дзеянняў з белапалякамі на Беларусі і з бандытамі на Украіне. Заканчваецца кніжачка главой «Палітразведка патрэбна і ў мірны час». Адной з форм палітработы было азнаямленне радавых байцоў з судовай сістэмай Чырвонай Арміі, дзеля чаго вайсковы сектар ДВБ у 1932 г. выдаў кніжку В. Даліцкага «За што судзіць ваенны трыбунал».

Шэраг кніг, якія выдала Палітычная ўправа Беларускай вайсковай акругі, быў прысвечаны арміям верагоднага праціўніка. Прыкладам можа быць «Польскі салдат» Н. Краснапольскага (Менск, 1928 г.). На 70 старонках гэтай кніжачкі зроблены аналіз радавога складу Войска Польскага: апавядаецца аб раскладзе дня салдата, яго ўзбраенні, дысцыпліне, адносінах з афіцэрамі, правах салдата, даецца інфармацыя пра паёк, грашовую пенсію, гігіену ў казармах, баявую падрыхтоўку і г. д. Аўтар часта спасылаецца на спецыяльныя польскія армейскія выданні, паказвае добрае веданне прадмета — няма сумнення, што тэкст пісаў супрацоўнік вайсковай разведкі. Контрпрапагандысцкі характар падачы матэрыялу (падкрэсленне перавагаў Чырвонай Арміі, выкрыццё хлусні польскай прапаганды, фармуляванне задачы ў выпадку ўзброенага канфлікту павярнуць штыкі супраць паноў) дае магчымасць меркаваць, што частку тыражу кнігі маглі выкарыстаць для работы сярод беларусаў — салдат польскага войска. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны актывізавалася выдавецкая дзейнасць Палітычнага Упраўлення Беларускага фронту. Яно выдала, прынамсі, разлічанае на заходнебеларускае сялянства брашуру «Шлях да першынства» (без выхадных звестак). На прыкладзе Боркавіцкай МТС тут расказвалася аб жыцці ў Савецкай Беларусі. У тэксце згадваецца калгас «Ільіч», палі якога ляглі «ля самай граніцы з Польшчай на беразе Заходняй Дзвіны» (с. 12), а заканчваецца брашура такім тэкстам: «— У 1940 годзе кожны работнік МТС павінен быць удзельнікам Усесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўкі! — Такі лозунг выставілі трактарысты-стаханаўцы. За ажыццяўленне гэтага лозунга разгортвае барацьбу Боркавіцкая МТС з вясны 1939 года». Да вераснёўскага паходу Чырвонай Арміі супраць Польшчы заставаліся лічаныя дні…

Ваенізацыя савецкага грамадства, якая адбывалася напярэдадні Другой сусветнай вайны, прывяла да з'яўлення цэлага накірунку кнігавыдавецкай дзейнасці, які забяспечваў літаратурай Таварыства садзеяння авіяцыі і хімізацыі (ТСАавіяхім), масавую ваенную работу сярод насельніцтва і вывучэнне ваеннай справе ў школе. Сюды ж большай часткай можна аднесці і спартыўную кнігу. Назвы тут самыя пярэстыя — гэта і практычнае кіраўніцтва «Процігаз «БН» В. Верычава, і «Інструкцыя ячэйкам ТСА аб правядзенні Усесаюзнай Лётэрэі ТСАавіяхіму», падручнік для ВНУ па праграме вышэйшай дапрызыўнай падрыхтоўкі «Ваенная падрыхтоўка» В. Арцэза і А. Новікава, падручнік Н. Урбановіча «Службовы сабака. Як яго разводзіць, навучаць і выкарыстоўваць», «Становішча і задачы Чырвонакрыжных арганізацый БССР» А. Хацкевіча, «Стралковы спорт» Алкаева, «Сусветная спартакіяда — сьвята перамогі пяцігодкі» Н. Анціпава і шмат падобных. Тыражы тут вагаюцца ад 20 да 3 тыс. экз. Не застаўся па-за ваеннай тэматыкай і яўрэйскі сектар ДзВБ: у 1932 г. тут быў выдадзены зборнік «Ройтэ армей», які меў раздзелы «11-га ліпеня — дванаццацігоддзе», «Чырвоная армія сёння», «Грамадзянская вайна», «Абароназдольнасць краіны»[501].

Да ваенных належыць і пэўная колькасць музычных выданняў. Так, музычныя творы Самуіла Палонскага ў 1935 г. выйшлі ў Выдавецтве Беларускай Ваеннай Акругі (зборнік «Дзесяць чырвонаармейскіх песень» з нотамі і тэкстамі на беларускай, рускай, яўрэйскай і польскай мовах — друкаваўся на фабрыцы «Палесдрук» у Гомелі, тыраж 10 тыс. экз.) і ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі: («Песня пра Шчорса» з нотамі і тэкстамі на беларускай і рускай мовах — надрукавана ў школе ФЗВ друкарні імя Сталіна тыражом 5 тыс. экз.). «Дзесяць чырвонаармейскіх песень» складзены на вершы Дубасава, А. Шарапава, С. Гусева, І. Васілеўскага, А. Каўсмана, Стаканава, М. Кручкіна і Ізі Харыка, перакладзеныя з




*Вокладка кнігі Н. Краснапольскага «Польскі салдат». Мінск, 1928 г.*

рускай і яўрэйскай моў Тодарам Кляшторным, адна песня — «Чырвоны пагранічнік» — напісана на арыгінальны беларускі верш Петруся Броўкі.

Сярод нотных выданняў адзначым таксама «Чырвонаармейская паходная: «Ціха, таварышы!» М. Аладава, «У паход!» А. Туранкова на словы Ю. Лявоннага, «Сьмела ўперад!» (Чырвонаармейская песня на два галасы для сольнага і масавага выканання) В. Яфімава на словы Андрэя Александровіча.

Значную частку літаратуры вайсковай тэматыкі спажывала Аб'яднаная Беларуская Вайсковая Школа імя ЦВК БССР, якая рыхтавала кадры сярэдняга каманднага саставу для тэрытарыяльных і кадравых фарміраванняў РСЧА з 1924 да 1937 гг. Выкладанне большасці прадметаў тут адбывалася на беларускай мове, адпаведна існаваў сталы попыт на беларускія кнігі. Акрамя гэтай вучэльні пэўны час беларускія падручнікі выкарыстоўвалі курсанты і выкладчыкі Вайскова-палітычнай школы ў Смаленску.

У афармленні гэтых кніг выкарыстаны простыя чарцяжы і планы, якія павінен быў навучыцца чытаць малодшы камандны састаў РСЧА, вокладкі ж часта маюць арыгінальнае мастацкае рашэнне (хаця і не заўсёды ўдалае), чаго не было ў пазнейшы перыяд існавання ваеннай кнігі.

Выпускнікамі Аб'яднанай Беларускай Вайсковай Школы імя ЦВК БССР — былі тыя афіцэры-беларусы, якія неслі на сабе цяжар змагання з фашысцкім войскам ў гады Другой сусветнай вайны. Найбольш знакамітыя сярод іх — выпускнік 1934 г. Іван Якубоўскі, родам з вёскі Зайцава Горацкага раёна Магілёўскай вобл., які стаў маршалам Савецкага Саюза, а таксама генералы арміі Васіль Маргелаў (стваральнік ваенна-дэсантных войскаў СССР, выпускнік 1931 г.) і Валянцін Пянькоўскі (выпускнік 1927 г., пазней камандуючы Беларускай ваеннай акругай і намеснік Міністра абароны СССР).

# БЕЛАРУСКАЕ КНІГАВЫДАННЕ ПА-ЗА МІНСКАМ

Дзеля ўпарадкавання выдавецкай справы ў Гомельскай і Віцебскай губернях, якія знаходзіліся ў складзе РСФСР, у гэтых рэгіёнах былі створаны аддзяленні Дзяржаўнага выдавецтва РСФСР: Гомельскае аддзяленне — у ліпені 1920 г., а Віцебскае — у лютым 1921 г. Да гэтага актуальная для рэгіёна літаратура выдавалася ў Маскве, напрыклад брашура Л.Д. Троцкага «Советская Россия и Польша. Речь на митинге в Гомеле 10 мая 1920 г.» (Москва, 1920). У справаздачы за першыя паўгода існавання гомельскага аддзялення адзначаліся цяжкасці, якія тармазілі яго працу: «першабытны стан спосабаў работы (кручэнне кола машыны чалавечай сілай), адсутнасць дастатковай колькасці шрыфта і зношанасці таго, што ёсць». Аднак у гэтай жа справаздачы падкрэслена, што «ад моманту арганізацыі аддзялення мы змаглі паставіць у нармальныя рамкі выдавецкую справу, спыніць безатказнае друкаванне рознай «літаратуры», паставілі на добры лад перыядычную прэсу, даўшы ёй магчымасць, за кошт дробных, не адпавядаўшых свайму прызначэнню газетак, палепшыць якасць і павялічыць тыраж наяўных губернскіх перыядычных органаў. …Наша дзейнасць не абмяжоўвалася толькі выкананнем заданняў мясцовых агітацыйна-прапагандысцкіх органаў. Мы за справаздачны час выканалі і цэлы шэраг заданняў Цэнтральнага Упраўлення Дзяржаўнага Выдавецтва, прымаючы, такім чынам, на сябе выкананне часткі работы цэнтра. Наш партфель усё папаўняецца заказамі Цэнтральнага Упраўлення…»[502]. У канцы 1920 г. пры Гомельскім аддзяленні пачалася арганізацыя музея друку, які меўся збіраць усю паліграфічную прадукцыю, што з'явілася пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Паводле справаздачы Віцебскага аддзялення Дзяржвыдата, яго прадукцыя ад 20 лютага да 20 мая 1921 г. складалася пераважна з агітацыйных матэрыялаў вытворчых і санітарна-асветных публікацый. Выключэннем сталі толькі 16-старонкавая брашура «Сборник памяти писателя Переца» і наяўныя, як зазначыў першы дырэктар аддзялення Ез. Кусільман, у рэдакцыйным партфелі «Каталог калекцый Віцебскага Губернскага Мастацка-Археалагічнага музея па мінералогіі», стэнаграфічная справаздача «Суд над хедэрам» ды сатырычная аперэтка М. Пустыніна «Савецкая рэпка»[503].

Гомельскае аддзяленне, якое абслугоўвала друкаванай прадукцыяй усе партыйна-палітычныя кампаніі губерні, за 1921 г. выпусціла 344 назвы кніг, брашур, часопісаў, газет, лістовак, плакатаў, агульны тыраж якіх склаў каля 7,5 млн. экз. У яго друкаванай справаздачы, у адрозненне ад справаздачы Віцебскага аддзялення, падаюцца не толькі тэматыка надрукаваных матэрыялаў, але і тэксты лістовак і лозунгаў, што перадае каларыт эпохі і з'яўляецца каштоўнай гістарычнай крыніцай, сведчаннем аб змесце большай часткай не захаванага матэрыялу. Напрыклад: «Добровольцы, на польский фронт!» (1920 г., 80, 26×18, 1 стар., РСФСР) альбо «В один вагон, если даже сидеть на крыше и буферах, помещается не более 100 человек мешочников».

У перыяд нэпа выдавецкая справа, перыядычны друк і паліграфічныя прадпрыемствы Гомельскай і Віцебскай губерняў пацярпелі рэарганізацыю. У сакавіку 1922 г., пасля аб'яднання 5 друкарняў у Гомелі, Магілёве, Клінцах, Навазыбкаве і Рэчыцы, было створана Упраўленне паліграфічнай прамысловасці Гомельскай губерні — «Гомдрук», а таксама новае аб'яднанне па перыядычным друку губерні — «Гомгазета»[504], якія і стварылі больш буйное аб'яднанне «Палесдрук». Гомельскае аддзяленне Дзяржаўнага выдавецтва РСФСР, пераўтворанае ў кааператыўнае выдавецтва «Гомельскі рабочы», праз год было аб'яднана з «Палесдрукам» і набыло статус кнігагандлёвага прадпрыемства. У 1924 г. у аб'яднанні выйшла 23 кнігі тыражом 130 тыс. экз. (сацыяльна-палітычная, антырэлігійная, прыродазнаўчая і мастацкая літаратура).

Выконваючы пастановы XII з'езда РКП(б), дзе было падкрэслена, што друк — самая магутная зброя (красавік 1923 г.), для распаўсюджання кніг у найбуйнейшых паветах пры партыйных і рабочых клубах адкрыліся аддзяленні «Гомельскага рабочага» ў выглядзе магазінаў і кніжных шафаў. Каб забяспечыць бібліятэкі кнігамі, у Віцебскай губерні, напрыклад, летам 1923 г. быў праведзены тыдзень кнігі, у выніку якога было сабрана 2500 руб. золатам і толькі ў Віцебску — 6797 кніг, брашур і часопісаў. У 1923 г. Віцебскім губкомам было апублікавана 12 брашур тыражом каля 30 тыс. экз. Аднак Дзяржвыдат РСФСР выданняў на беларускай мове на тэрыторыі Віцебскай і Гомельскай губерняў не дазваляў,

беларускамоўныя выданні сюды паступалі з Масквы.

У 1924 г. Віцебская губерня была далучана да БССР. У канцы 1926 г. далучаны Гомель і Рэчыцкі павет Гомельскай губерні. Кніжная справа гэтых частак Беларусі стала часткай кніжнай справы БССР.

У 1920-я і 1930-я гг., пакуль цэнтралізацыя кіраўніцтва рэспублікі яшчэ не зрабіла выключнай дамінантай сталічны Менск, абласныя, акруговыя, раённыя і гарадскія арганізацыі КП(б)Б выдавалі рэзалюцыі канферэнцый, «наказы» дэпутатам, пастановы пленумаў акругкомаў, гарадскіх партыйных канферэнцый і даклады на гэтых мерапрыемствах на месцы. Цэнтрамі мясцовага кнігавыдання былі Віцебск, Орша, Бабруйск, Барысаў, Гомель, Магілёў і Мазыр. Поруч з цэнтрамі, якія мелі друкарні яшчэ да рэвалюцыі (Мінск, Віцебск, Магілёў), вылучыліся Клімавічы — цэнтр Калінінскай акругі. У сярэдзіне 1920-х гг. тут выходзілі самыя разнастайныя кнігі: для маленькіх дзяцей, для піянераў, да юбілею вызвалення ад белапалякаў і інш. На адвароце тытула кніжкі М. Чарота надрукавана такая кароткая прадмова: «На мясцох адчуваецца вялікі недахоп дзіцячых п'ес, ведаючы гэта, Калінінскі Акрпалітасьветы выпушчае дзьве дзіцячыя п'ескі «Пастушкі» і «Данілка і Алеська», лічыць, што яны хоць часткай задаволяць мясцовыя запатрабаваньні. *Акрпалітасьветы.*» (Клімавічы, 1925 г.).

Тыражы партыйных выданняў былі невялікія, на кнігах і брашурах часам друкаваліся надпісы аб абмежаваным распаўсюджанні, накшталт «толькі для дэлегатаў канферэнцыі», як у выпадку выдання «Пастанова па справаздачнаму дакладу Віцебскага гаркома КП(б)Б.

| № | Назва матэрыялу | Тэматыка | Колькасць | Тыраж (экз.) |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Адозвы | Да дня работніц | 1 | 16 000 |
| | | Да сялян (аб арганізацыі пасеўкомаў, аб бранціроўцы сямян, аб замене развёрсткі падаткам) | 3 | 36 000 |
| | | Рабочым сельскагаспадарчых заводаў | 1 | 5000 |
| | | Аб зборы металаў | 1 | 10 000 |
| | | Паліўная кампанія | 4 | 15 300 |
| | | Выбары ў Гарсавет | 1 | 3000 |
| | | Да 3-годдзя Чырвонай Арміі, да чырвонаармейцаў, якія змагаюцца з бандытамі | 2 | 13 000 |
| | | Адозва Кантрольнай камісіі Губкома Р.К.П. | 1 | 300 |
| 2 | Лозунгі | Да дня работніц | 4 | 4000 |
| | | Тыдзень профруху | 9 | 5000 |
| | | Да дня 50-годдзя Парыжскай Камуны | 8 | 4000 |
| | | Аб пасяўной кампаніі | 8 | 40 000 |
| | | Пра збор металаў | 5 | 5000 |
| | | Да агароднай кампаніі | 6 | 12 000 |
| | | Да 1-га мая | 6 | 6000 |
| | | Да 1-га мая на яўрэйскай мове | 12 | 2400 |
| | | Да 1-га мая на латышскай мове | 3 | 300 |
| | | Па санітарнай асвеце | 5 | 50 000 |
| | | Па доўгатэрміновых адпусках | 8 | 8000 |
| 3 | Лістоўкі | Да пасяўной | 5 | 45 000 |
| | | Па санітарнай асвеце | 1 | 5000 |
| | | Тэзісы ЦК РКП аб продпадатку | 1 | 300 |
| 4 | Брашуры | Дапаможнікі для агітатараў (11), санітарна-асветныя (3), аб прыёмах лепшай арганізацыі зямлі (1), для дапрызыўнікоў (1) Зборнік «Памяти писателя Переца» (1) | 17 | 53 000 |







*Вокладка кнігі С. Ракіты, В. Палескага, Р. Казака «Разгон. Кніжка вершаў». Гомель, 1930 г.*

*Вокладка кнігі вершаў С. Ракіты «Агітую за пяцігодку». Гомель, 1921 г.*

Праект» (Віцебск, друкарня «Комінтэрн», 1934 г.). Ізноў-такі вылучыліся Клімавічы: тут быў выдадзены «Курс гісторыі кампартыі Беларусі», напісаны В. Кнорыным.

Вынікам працы гомельскіх пісьменнікаў сталі альманах «Літаратурны Гомель», калектыўны паэтычны зборнік «Разгон», аўтарамі якога былі Сяргей Ракіта, Вячаслаў Палескі і Рыгор Казак (Гомель, 1930, выданне Гомельскай філіі Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў), а таксама паэтычны зборнік Сяргея Ракіты «Я агітую за пяцігодку» (Гомель, 1931), які атрымаў авангардную вокладку работы мастака Р. Балашова. Адзін з вершаў С. Ракіты прысвечаны «Законнікаву Васілю, любаму бацьку». Вершы, напісаныя паэтам у Хойніках і Гомелі ў 1930 г., — актуальныя заклікі. Галоўная тэма гучыць рэфрэнам у вершы «Ударная песьня»:

Зъяднаем шчыльней
баявыя рады!
Даеш пяцігодку ў чатыры гады!

Напісаная для гэтай кніжкі прадмова Р. Разэнблюма, якая называецца «Замест прадмовы», пачынаецца словамі: «Сучасная вайна патрабуе ўжывання самых разнастайных відаў зброі і сродкаў барацьбы». Потым ідуць разважанні пра абвастрэнне класавых супярэчнасцей і барацьбу буржуазнай і пралетарскай культуры. «Няма агульнанацыянальнай культуры і літаратуры», — піша Р. Разэнблюм. І далей цытуе Леніна: «У кожнай нацыянальнай культуры ёсць дзьве нацыянальныя культуры». Як зброю беларускай пралетарскай культуры трактуе аўтар прадмовы вершы Сяргея Ракіты. Аднак тэарэтычныя разважанні Р. Разэнблюма не ўратавалі паэзію С. Ракіты ад спецхоўвішча, а яе аўтара — ад беспадстаўных рэпрэсій.

Звычайна кнігавыдавецкая дзейнасць у абласных і акруговых цэнтрах ажыццяўлялася пры дапамозе рэдакцыі мясцовай газеты і на яе базе. Аршанская акруговая камісія па ўшанаванні 20-годдзя рэвалюцыі 1905 г. пры Выканаўчым Камітэце Саветаў Аршанскае Акругі БССР выдала кнігу «1904 год на Аршаншчыне» (Ворша, выдавецтва газеты «Комуністычны шлях», 1926 г.).

У Гомелі рэдкалегія, складзеная з супрацоўнікаў газеты «Палеская праўда» (Рабіновіч, Матузаў і Сабаленка), падрыхтавала асобную кнігу матэрыялаў да выязнога пасяджэння конкурснай камісіі маскоўскай (цэнтральнай) газеты «Правда». Аўтарамі тэкстаў сталі «ўдарнікі друку» — рабоча-сялянскія карэспандэнты: працаўнікі завода «Сельмаш», калгаса «Пралетар», саўгаса «Брылёў», калгаса «Перамога» — усяго 25 чалавек. Кніга называлася «За сцяг «Правды»! З вопыту Гомельшчыны ў правядзенні конкурсу нізавога саўгасна-калгаснага друку на лепшую работу







*Вокладка зборніка твораў членаў «Маладняка» «Дняпроўскія ўсплёскі». Магілёў, 1930-я гг.*

*Брашура Гомельскага гарадскога савета Асаавіяхіма «Кожнаму камсамольцу мінімум ваенна-тэхнічных ведаў».*

па арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў» (Гомель, 1932).

Цікавым фактам мясцовага кнігавыдання «вытворчай» тэматыкі стаў «Тэмнік для рацыяналізатарскіх прапаноў і вынаходак па прадпрыемствах: завод «Пролетарый» імя С.М. Кірава, завод «Рухавік Рэволюцыі» і ложкавая фабрыка», падрыхтаваны Гомельскім гарадскім тэхнічным кабінетам наркаммясцпрома і выдадзены ў 1937 г.

Шмат «мясцовай» беларускай кнігі з’явілася дзякуючы дзейнасці літаратараў «Маладняка» — гэта і вытанчана аздоблены полацкі літаратурны альманах «Наддзвінне» (1926) з вокладкай мастака А. Тычыны (у авальным медальёне сілуэт Полацка праз Дзвіну, контуры горада з неразбуранымі яшчэ дамінантамі храмаў), і літаратурны зборнік бабруйскай філіі «Маладняка» «Уздым» (1928) з індустрыяльным гарадскім (заводы ў левай частцы малюнка) і індустрыяльным вясковым (апрацоўка зямлі трактарам) пейзажамі новай Беларусі, новай Бабруйшчыны на вокладцы (малюнак мастака Гусева), і «Магілёўскія ўсплёскі» з раслінным арнаментам на вокладцы работы мастака І. Хобатава, і сціплы «Маладняк Калініншчыны» — без аздобы, толькі з наборным загалоўкам.

Шырокі спектр тэматыкі беларускіх кніг Магілёва: ад «Магілеўшчына да 10 гадавіны Кастрычнікавае рэвалюцыі», выдадзенай Магілёўскім акруговым выканкомам, да брашуры магілёўскага райпрафсавета «За перастройку работы грамадскага харчавання».

## Беларуская кніга ў Маскве

Асяродкам беларускага кнігавыдання Масква стала яшчэ ў 19 стагоддзі (варта прыпомніць кнігу У. Гаршына «Сыгналъ, альбо расказъ аб томъ, як дабро перамагло зло у чалавека», надрукаваную ў друкарні А. Гатцука на Нікіцкім бульвары ў 1891 г.[505]). Стаўшы сталіцай РСФСР і СССР, Масква да канца Другой сусветнай вайны была адным са значных цэнтраў выдання беларускіх кніг.

У красавіку 1918 г. газета «Дзянніца» — орган Беларускага нацыянальнага камісарыята — пераехала разам з савецкім урадам з Петраграда ў Маскву і са снежня выходзіла тут 4 разы на месяц як веснік Белнацкому і беларускіх секцый РКП(б). Рэдактарам гэтага выдання быў Зміцер Жылуновіч (пісьменнік Цішка Гартны), ён з 11 да 5 гадзін прымаў наведвальнікаў у памяшканні Камісарыта па адрасе: Масква, Гранатны зав., 24.

Публікацыі «Дзянніцы» звяртаюць на сябе ўвагу ў першую чаргу лаянкай, з якой аўтары накінуліся на сваіх былых сяброў — дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі (была абвешчана ў Мінску ў сакавіку 1918 г.). Тым не менш газета друкавала дакументы, прысвечаныя палітычнай і культурна-асветніцкай дзейнасці БНР, у тым ліку Устаўную грамату ад 25 сакавіка, якая абвясціла незалежнасць Беларусі, паведамляла аб дзейнасці Белнацкома і беларускіх секцый РКП(б), іншых беларускіх арганізацый ў Расіі. Разнастайнай была публіцыстыка «Дзянніцы». Газета змяшчала матэрыялы з беларускай літаратурнай і культурнай праблематыкай, а таксама шырока займалася палітычнымі падзеямі ў рэвалюцыйнай Расіі, у акупіраванай немцамі, а пасля і палякамі Беларусі. «Дзянніца» рашуча падтрымлівала ідэю стварэння Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі, спалучанай у адной дзяржаве з рэвалюцыйнай Расіяй. Пры гэ-

*Вокладка кнігі У. Гаршына «Сігнал». Масква, 1891 г.*

СЫГНАЛЪ,
АЛЬБО РАЗСКАЗЪ АБЪ ТОМЪ,
ЯКЪ ДАБРО ПЕРЕМАГЛО ЗЛО У ЧАЛАВѢКА.
ПЕРЕЛОЖЕНО, ЗЪ МАЛЫМИ ПЕРЕМѢНАМИ,
ЗЪ РАЗСКАЗА
*Всеволода Гаршина.*
МОСКВА.
Типографія А. Гатцука, Никитскій бульв., собств. д.
1891.



Біарэцца плата уперад на усе тэрміны 1919 году ля высыланьня ЕДЗІНАЙ у Расеі беларускай газеты

„ДЗЯННІЦА"

ВЕСТКА БЕЛАРУСКАГО НАЦЫЯНАЛЬНАГО КАМІСАРЫЯТУ,

якая выходзіць ня меняй чатырох разоу у месяц.

Падпісвацца можна у хаця Камісарыяту (Масква, Гранатный, 24).

Рукапісы, якія прысылаюцца ля друку, павінны быць чытэльна напісаны па адным боку паперы.

Няпрынятыя рукапісы звертаюцца аутарам, калі ля перасылкі будзя прыслана марка. Малыя рукапісы ня варочаюцца зусім.

Радактар прымая сд 11 да 5 гад.

Радакцыя і Адміністрацыя: Масква, Паварская, Гранатны, 24. тэл. 2-98-77.

Газэта есць у многіх газетчыкау і на станцыях чугунак.

Асобны № усюды каштуя 35 к.

Перамена адрысу 50 кап.

Радактуя: Выдавецкі Атдзел Камісарыяту.

Выдавец: Беларускі Нацыянальны Камісарыят.

Лібкнехт Васіль.

Павукі і Мухі.

Пераклад Л. Жорсткаго.

2 выданьня.

Цана 30 кап.

Выданьня Беларускаго Нацыянальнаго Камісарыяту.
Масква 1918 году.

*Тытульны ліст кнігі В. Лібкнехта «Павукі і мухі». Масква, 1918 г.*

тым яна досыць шырока асвятляла спрэчкі, што ўзнікалі... 

тым яна досыць шырока асвятляла спрэчкі, што вяліся паміж маскоўскім рэвалюцыйным цэнтрам, які падтрымліваў ідэю стварэння БССР, і прадстаўнікамі Заходняга фронту В. Кнорыным і А. Мясніковым — заўзятымі праціўнікамі беларускай савецкай дзяржаўнасці. Паводле іх, Беларусь павінна была стацца арганічнай часткай рэвалюцыйнай Расіі[506].

Усяго ў Маскве выйшла 49 нумароў газеты, якая стойка змагалася за камуністычныя ідэалы, не прадбачачы, што менавіта камуністы давядуць да заўчаснай прымусовай смерці тысячы ні ў чым не вінаватых, у тым ліку і галоўнага рэдактара і ідэолага «Дзянніцы» — Цішку Гартнага. Апошні маскоўскі нумар выйшаў 2 лютага 1919 г. У ім паведамлялася:

«Стварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі на мяжы паміж сацыялістычным Усходам і буржуазным Захадам патрабуе ад нас канцэнтрацыі ўсіх нашых сілаў для камуністычнай працы ў нашай роднай Беларусі. Таму наша газета спыняецца, і гэты нумар з'яўляецца развітальным. Замест яе будзе арганізавана камуністычная газета на беларускай мове ў адным з цэнтраў Беларускай Савецкай Рэспублікі: у Мінску альбо ў Вільні».

Акрамя газеты, маскоўскае аддзяленне Белнацкома выдавала кнігі, часопісы, брашуры, лістоўкі, адозвы і пракламацыі, адрасаваныя беларускім сялянам, рабочым і салдатам. Два выданні вытрымала брашура Васіля(!) Лібкнехта «Павукі і мухі», былі падрыхтаваны тры брашуры Яўсевія Канчара на рускай мове: «Территория Белоруссии; классовый состав», «Религиозное движение и борьба христианских церквей: национальная и экономическая борьба», «Политические партии и национальные организации Белоруссии (Пратаколы Усерасійскага з'езду бежанцаў з Беларусі)». У снежні 1918 г. выйшаў зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў «Зажынкі» (збор твораў беларускіх пісароў і песняроў з народу), у якім змешчаны творы Я. Купалы, Я. Коласа, К. Буйло, А. Гурло, Ц. Гартнага і інш. Акрамя мастацкай літаратуры, яшчэ больш значнае месца ў кнігавыдавецкім рэпертуары займала літаратура палітычнай і марксісцкай тэматыкі, напрыклад, «Навукова-сацыялістычная бі-

бліятэка пад агульнаю рэдакцыяй А.В. Луначарскаго», дзе пад № 9 выйшла (пад псеўданімам «КіЙ») кніга Паўла Пятніцкага «Радавая распубліка. С перадмовамі А.В. Луначарскаго» і кніга таго ж аўтара «Што такоя сацыялізм» (абедзве Масква, 1918). Пераклады палітычнай літаратуры рабілі рэвалюцыянеры, якія выступалі пад псеўданімамі Нёманскі, Жорсткі, Шэляг, Зьмітро Капылянін. Адным з найважнейшых накірункаў у працы Белнацкома была дыскрэдытацыя БНР і агітацыя за адзінства з рускім народам[507]. Пададдзелы выдавецтва існавалі ў Петраградзе, Смаленску і Віцебску[508]. У пададдзелах Белнацкома можна было купіць «Кароткі Руска-Беларускі слоўнік» М. і Г. Гарэцкіх, кнігі Я. Карскага «Белорусская речь» і «Этнографическая Карта Белоруссии с объяснениями», «Основные моменты истории Белоруссии» М. Любаўскага і інш.

У 1918—1920 гг. у Маскве адкрываецца беларускае навукова-культурнае таварыства, а таксама Беларускі народны універсітэт з курсамі па гісторыі, геаграфіі, эканоміцы, мове і літаратуры. Пасля 1924 г. у Маскву, якая стала сталіцай Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, час ад часу прыязджаюць рабіць справаздачу кіраўнікі Беларусі. Ладзіліся прынагодныя выставы дасягненняў, на якіх кіраўнікоў СССР знаёмілі ў тым ліку з развіццём у рэспубліцы кніжнай справы. Вось паведамленне аб адным з такіх мерапрыемстваў: «14 лютага 1927 г., пад час III сесіі Саюзнага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, што прайшла ў старой частцы Масквы, абведзенай высокай сцяною, у былым царскім палацы Крамля, першым пытаннем стаяў даклад Ураду БССР… У фае дасягненні рэспублікі былі паказаны ў Крамлі адмысловай кніжнай выставай. Дэпутаты і прадстаўнікі ўлады цікавіліся, як гэта Беларусь адбудоўвае і паляпшае сваю гаспадарку, якія друкуюцца кніжкі і г.д. … Некаторыя куплялі беларускія кнігі»[509]. Для патрэбы шматлікіх студэнтаў-беларусаў, якія навучаліся ў Маскве (больш як тысяча чалавек), у 1925 пачалося выданне адмысловага часопіса — органа Цэнтральнага бюро пралетарскага студэнцтва і Цэнтральнага кіраўніцтва зямляцтваў г. Масквы. Называўся часопіс «Чырвоны сьцяг». Намаганнямі студэнцкага актыву выдадзены літаратурна-навуковыя зборнікі «Маладая Беларусь» (1922) і «Змаганне» (1924).




*Вокладка часопіса «Чырвоны сцяг». Масква, 1925 г. № 1.*

Маскоўскія выдаўцы дапамаглі беларусам стварыць ваенную кнігу на нацыянальнай мове. Каб чырвонаармейцы ў БССР ведалі сваё кіраўніцтва, у 1926 г., па заказе Дзяржаўнага вайсковага выдавецтва, Маскоўскае акцыянернае выдавецкае таварыства выдала па-беларуску жыццяпісы (з партрэтамі) членаў Рэўваенсавета таварышаў М. Фрунзе, Я. Уншліхта, А. Бубнава, К. Варашылава, С. Каменева[510] і «Лемантар дзеля ўзрослых, апрацаваны для карыстання ў беларускіх часьцях Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі па лемантары С. Баляснага».

**Цэнтрвыдат**

Найбольшую колькасць беларускіх кніг у Маскве выдала Цэнтральнае выдавецтва народаў СССР (мясцілася на Нікольскай вул., 10). Цэнтрвыдат (альбо Цэнтрасаўнацмен) быў створаны пры ЦВК СССР 13 чэрвеня 1924 г. шляхам зліцця ўтвораных у 1922 і 1923 гг. Усходняга і Заходняга выдавецтваў. За першыя пяць гадоў свайго існавання тут выйшла 2752 назвы кніг агульным тыражом 11 669 850 экз. на 52 мовах, у тым ліку на мовах розных этнічных груп: цюркска-татарскіх, угра-фінскіх, заходніх, мангола-маньчжурскіх, іранскіх і шэрага каўказскіх[511]. На беларускай мове Цэнтрвыдат пачаў выпуск кнігі толькі ў 1927 г., выдаўшы за год 4 назвы аб'ёмам 21 друкаваны аркуш і агульным лікам 6 тыс. экз. Асноўным спажыўцом гэтай прадукцыі былі беларусы Смаленшчыны, Браншчыны і Невельшчыны: «Па ўсёй тэрыторыі нашага Саюза разкідана некалькі дзясяткаў мільёнаў нацыяналаў, якія жывуць па-за сваімі тэрытарыяльнымі ўтварэннямі (армяне, башкіры, беларусы, казахі, калмыкі, карэлы, комі, кіргізы, немцы і інш.), якія не могуць быць абслужаны адпаведнымі нацыянальнымі выдавецтвамі з прычыны значнай разнастайнасці краёвых, эканамічных і побытавых умоваў. Нацыянальныя меншасці — немцы на Украіне, татары ў Данбасе, украінцы і беларусы ў РСФСР і ўвогуле нацыянальнасці, якія не з'яўляюцца асноўнымі ў тых ці іншых дзяржаўный утварэннях, — застаюцца па-за сферай абслугоўвання нацыянальных выдавецтваў, бо апошнія выдаюць, галоўным чынам, літаратуру для асноўнай нацыянальнасці дадзенага дзяржаўнага ўтварэння. Абслугоўванне друкаваным словам на роднай мове гэтых нацыянальнасцяў з'яўляецца адной з асноўных задачаў Цэнтрвыдата»[512]. Для падрыхтоўкі беларускіх кніг у Цэнтрвыдаце была створана асобная Белсекцыя. У 1927 г. тут выйшаў паэтычны зборнік У. Дубоўкі «Наля». Цэнтрвыдат меў шмат адукаваных наборшчыкаў, але і яны блыталіся ў 52 мовах. У выніку на вокладцы беларускай кнігі пры напісанні прозвішча аўтара былі выкарыстаны адсутныя ў беларускім алфавіце літары, выглядала гэта так: УЛӒДЗИМЕ́Р ДУБОУКӒ. Друкаваліся падрыхтаваныя Цэнтрвыдатам беларускія кніжкі ў маскоўскай друкарні гэтага выдавецтва (на Шлюзавай набярэжнай, 10), альбо ў Краснадары, альбо ў ленінградскай друкарні «Коминтерн» (на Краснай вул., 1).

Тут выходзілі кнігі самай рознай тэматыкі, найперш падручнікі для беларускіх школ РСФСР і дзіцячая літаратура. У 1927 г. выйшла кніга «Казка-быль пра Ігната-кулака, Міхея-батрака, папа-клапа для вясковых дзяцей склаў дзед Аўдзей». Яе тыраж (1500 экз.) быў надрукаваны ў друкарні выдавецтва на Шлюзавай набярэжнай у Маскве, як і 3-тысячны тыраж дзіцячай беларускай кніжкі «Гадзіньнік» А.Палонскай (М., 1930 г., Галоўліт № А 77682).

На 1931 г. у Цэнтрвыдаце народаў СССР выйшлі з друку школьны лемантар «Маленькія ўдарнікі» К. Гарабурды, Ф. Бутомы і П. Капаевіча, а таксама «Маленькія ўдарнікі» — кніга пасля лемантара — гэтых жа аўтараў, «Рабочая кніга па беларускай мове для IV году навучаньня ў беларускай школе РСФСР I ступ.», лемантар для дарослых «Перамога» М. Улашчыка і Г. Сапуна, комплексная кніга для 2-га года навучання «Новым шляхам» А. Ціхаміравай і А. Канавалюк,




← *Старонка з кнігі «5 гадоў Цэнтрвыдата». Масква, 1928 г.*

*Вокладка лемантара «Маленькія ўдарнікі», Масква, 1931 г.*

\- 66 -

пазьней 10-11-й гадзіны. Настаўнікі школы павінны блізка стаяць да ўсяе гэтае справы і ўмешвацца даваць парады, дзе гэта неабходна па пэдагагічным поглядам. Калі пэдагог бачыць, што ўсей школе на сьвяце быць нельга, дык магчыма выдзяліць прадстаўнікоў ад кожнай групы школы. Там, дзе настаўнікі знайдуць, што першагрупнікі надта малыя для сходаў і вечару уврослых, мэтазгодней будзе іх не браць на гэты сход. Ня варта сьвята дзяцей у школе і сьвята уврослых у клюбе ці хаце-чытальне утвараць у адзін дзень.

Вучот вынікаў сьвяткаваньня Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

Пасьля скончэньня Кастрычнікавых урачыстасьцяў неабходна ў кожнай школе правесьці вучот вынікаў сьвяткаваньня. Лепшым паказацелям тае ці іншае пастаноўкі справы будуць служыць адносіны арганізаванага і неарганізаванага насельніцтва да зробленага, а таксама каштоўным паказацелям у данная галіне будзе той ці іншы характар адносін да свае працы з боку саміх вучняў.

Абодва гэтыя моманты і трэба ў першую чаргу мець на увазе пры правядзеньні падрахункаў сьвят-

\- 67 -

каваньня 10-й гадавіны Кастрычніку.

Чарговы надзвычайна важны момант - падлічыць тые вынікі сьвяткаваньня, якія выявіліся у конкрэтных мерапрыемствах у памяць 10-годзьдзя Кастрычнікавай Рэвалюцыі. Пасьля гэтага патрэбна падвесьці падрахункі і ў справе арганізацыі і правядзеньня Кастрычнікавых урачыстасьцяў: дасягненьні, недахопы, пажаданьні і прапановы на будучычас. У парадку правядзеньня падрахункаў можа быць утвораны агульнашкольны сход на тэму: "Дасягненьні і недахопы у правядзеньні Кастрычнікавага сьвята ў беларускае школе".

Увесь вучотны матар"ял неабходна сыстэматызаваць, апрацаваць і товарышам патрэбна падзяліцца з савецкай грамадзскасьцю праз перыодычны друк і справаздачные даклады.

Стеклография КУНМЗ"а. Тираж - 200 экз.30/IX-27 г.

*Разварот метадычнай распрацоўкі «Дзесятая гадавіна Кастрычніка ва ўстановах сацвыху». Масква, 1927 г.*

комплексная кніга для 4-га класа «Ударнікі» Н. Мяньkоўскага, П. Каляды і С. Яновіч, чытанка для малапісьменных «Калгасьнік» і іншая літаратура. Усе падручнікі былі надрукаваны ленінградскай друкарняй «Камінтэрн» тыражом у 2—3 тыс. экз. Выключэнне склаў толькі лемантар «Маленькія ўдарнікі», які друкавалі на кніжнай фабрыцы Цэнтрвыдата ў Маскве, на Шлюзавай набярэжнай, 10, тыражом 7 тыс. экз.

Акрамя падручнікаў, пад агульнай рэдакцыяй прыродазнаўчага аддзела навукова-педагагічнага інстытута метадаў школьнай работы выдавалася нумараваная «Рабочая бібліятэка школьніка 1-й ступені», як № 4 гэтай бібліятэкі была кніга «Малады вясковы гаспадар: поле, гарод, сад» (пераклад з пераапрацоўкай А. Казлова і М. Мышко, Масква, 1930 г.). Выходзіла і цэнтрывыдатаўская «Бібліятэка за політэхнізм у школе», у 1931 г. у ёй тыражом 1500 экз. была надрукавана брашура Н.К. Крупскай «Рэканструкцыя народнай гаспадаркі і палітэхнічнае навучаньне» (пераклад М. Маркевіча).

Пераважная большасць беларускіх выданняў Цэнтрвыдата — кнігі, перакладзеныя з рускай мовы. Для паскарэння перакладу ствараліся брыгады, часам іх склад паведамляўся на адвароце вокладкі. Так, выдадзеную ў 1931 г. кнігу Н. Крупскай «Барацьба за якасць школьнае работы» перакладала брыгада ў складзе чатырох чалавек (Бабцоў, Ласкоўскі, Вір і Гарын).

Цэнтрвыдат праіснаваў да канца 1931 г., пасля чаго, па рашэнні ЦВК СССР, увайшоў у склад Аб'яднання дзяржаўных кніжна-часопісных выдавецтваў РСФСР (ОГИЗ). Новае аб'яднанне наладзіла супрацоўніцтва з Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі, прынамсі 1-я Узорная друкарня ОГИЗа РСФСР у Маскве (Масква, Валавая, 28) надрукавала 7-тысячны тыраж кнігі А. Александровіча «Казка пра пана-жываглота» з ілюстрацыямі мастака Анатоля Волкава, што быў падрыхтаваны Юндзетсектарам ДВБ у 1935 г.

**Беларускія выданні Народнага камісарыята асветы РСФСР** былі нешматлікія. На матэрыялах Беларускага народнага універсітэта Наркамасветы РСФСР у 1920 г. выдаў «Курс беларусазнаўства», потым — гістарычны нарыс нацыянальнага і рэвалюцыйнага руху беларусаў Ф. Турука з дадаткам літаратурных і дакументальных крыніц, а таксама этнаграфічнай карты беларускага племені, складзенай акадэмікам Я.Ф. Карскім[513]. У кастрычніку 1927 г. пад шыльдай Наркамасветы выйшла метадычная распрацоўка для настаўнікаў «Дзясятая гадавіна Кастрычніка ў установах сацвыху» ў перакладзе Пецюкевіча. Надрукавана яна была тыражом 200 экз. у шклаграфіі КУНМЗа. Падобных малатыражных выданняў, верагодна, было больш, але выяўленне іх патрабуе спецыяльных пошукаў.

Значнай з'явай стаў «Пэдагагічны зборнік № 1», які Наркамасветы выдаў пад рэдакцыяй П. Каляды, П. Вянцкоўскага, З. Градзіцкага (надрукаваны тыражом 1 тыс. экз. у друкарні Кубпаліграфа ў г. Краснадар у жніўні 1929 г.). Разлічаны на школьных настаўнікаў, «Пэдагагічны зборнік» змяшчаў праграму па роднай мове для беларускіх школ РСФСР, праграму «Расійская мова ў беларускай школе РСФСР», а таксама метадычныя артыкулы «Да пытаньня аб пабудове курсу гісторыі беларускае літаратуры» З. Градзіцкага і яго ж «У палескай глушы» Тараса Гушчы, «Праца ў школе I ступені» П.В. Вянцкоўскага, «Летняя работа хаты-чытальні» Ф. Смятаніна, «Аб перападрыхтоўцы настаўнікаў беларускіх школ у Смаленшчыне» С.В. Яновіча і інш.

У кнізе Н. Аўчыннікава «Сельская хата-чытальня і яе праца» (пераклад з рускай мовы Салава, М., 1928 г.) на тытуле, акрамя аўтара і назвы (па-беларуску), пададзена назва выдавецтва па-ўкраінску: Видавництво Центроtargetнацмену наркомосвіти РСФРР. Надрукавана гэтая кніга ў Краснадары тыражом 2 тыс. экз.

**Маскоўскі Цэнтральны навукова-даследчы інстытут аховы мацярынства і дзяцінства** ў 1938 г. выдаў серыю беларускіх паштовак, якія прапагандавалі выкананне санітарных норм. Малюнак на вонкавым баку паштоўкі паказваў правільныя з пункту гледжання гігіены дзеянні, у тым ліку ў доглядзе дзяцей, і надпіс (часам вершаваны) накшталт (побач з выявай маладой жанчыны з радасным немаўляткам): «Вось мая малютка, Якое моцнае дзіцятка! Паноса ён не ведае, Рахітам не пакутуе, і гэта таму — давала грудзі яму». На адваротным баку змяшчаўся невялікі тэкст, які больш падрабязна раскрываў асноўнае палажэнне — у дадзеным прыкладзе паведамляў аб карысных уласцівасцях жаночага малака для немаўлят.




*Вокладка кнігі «Казка-быль пра Ігната-кулака, Міхея-батрака, папа-клапа ды вясковых дзяцей». Масква, 1927 г.*

Яшчэ адной маскоўскай установай, што выдавала кнігі па-беларуску, было агульнасаюзнае выдавецтва **«Профиздат»**. У 1940 г. тут выйшлі «Палажэнне аб камісіі заработнай платы» і «Палажэнне аб жыллёва-бытавой камісіі фабрычна-заводскага і мясцовага камітэта», а таксама «Палажэнне аб рэгістрацыі і ўчоце няшчасных выпадкаў, звязаных з вытворчасцю. Зацверджана ВЦСПС 8/XI 1939 г.». Адказным за пераклад і выпуск апошняга выдання названы С. Шуб, цэнзарам быў упаўнаважаны Масаблгарліта № Б-670, надрукавана кніга ў друкарні «Известий Советов депутатов трудящихся СССР» тыражом 2 тыс. экз.

**Выдавецтва «Власть Советов» пры Прэзідыуме ЦВК РСФСР** абслугоўвала друкаванай прадукцыяй маскоўскія «Завочныя курсы савецкага будаўніцтва», якія мелі тры аддзяленні (адміністрацыйна-арганізацыйнае, бюджэтна-гаспадарчае і культурна-сацыяль-

*Друкаваная прадукцыя маскоўскіх курсаў савецкага будаўніцтва. Масква, 1920-я гг.*

нае) і, паводле свайго навучальнага плана, выпускалі ў выглядзе асобных брашур лекцыі, у тым ліку на беларускай мове. Можна было падпісацца на поўны камплект лекцый (каштаваў 20 рублёў з кансультацыяй і 15 рублёў без кансультацыі) альбо на лекцыі па адным-двух аддзяленнях. Да 1929 г. былі надрукаваны: *Асновы канстытуцыі СССР, РСФСР і БССР у сувязі з вучэннем Леніна пра дзяржаву і дыктатуру пралетарыяту (разам з арганізацыяй мясцовага савецкага апарату)* — 16 лекцый у 7-і выпусках і *Дзелаводства РВК і сельсавета* — 2 лекцыі. Рыхтаваліся да друку 8 лекцый па тэме «*Савецкі аппарат і работа на сяле*» і 4 лекцыі «*Рахункаводства РВК і сельсавету*». Заказы на гэтыя выданні выдаўцы прымалі ў Галоўнай канторы, якая мясцілася па адрасе: Масква, Цэнтр, Няглінная вул., 21.

Існавала і адваротная сувязь выдавецтваў Мінска і Масквы. Дзяржвыдавецтва РФ мела свой філіял у Мінску, аб чым сведчыць, напрыклад, рэклама ў газеце «Звязда» за снежань 1928 г.:

«Дзяржвыдавецтва РСФСР (Беларускае аддзяленне). Кніжная база і кантора: Савецкая вул., 41. Аддзел падпісных і перыядычных выданняў: Савецкая, 54., Ваенны аддзел, нотны аддзел і гуртова-раздробны магазын — Савецкая вул., 71».

Некаторыя кнігі выходзілі ў Мінску пад грыфам маскоўскіх устаноў, напрыклад, «Планаванне працы ў калгасах» і «Тэхнічнае забеспячэнне калгасаў» (абедзве падрыхтаваныя сельгассектарам БДВ у 1932 г.), выйшлі пад шыльдай маскоўскага Навукова-даследчага калгаснага інстытута. Белдзяржвыдат друкаваў у Маскве шматтысячныя тыражы папулярных у насельніцтва адрыўных календароў.

У гады Другой сусветнай вайны ў Маскве не перапынялася дзейнасць, накіраваная на падтрымку беларускага народа, які апынуўся на акупіраваных фашыстамі тэрыторыях. Тут дзейнічаў Цэнтральны штаб партызанскага руху, працавалі ЦК КП(б)Б, СНК БССР і Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, Дзяржвыдат БССР, выдаваліся газета «Савецкая Беларусь» і сатырычны часопіс «Раздавім фашысцкую гадзіну»[514].

## Перыядычны друк БССР

Пасля ўсталявання міру ў Беларусі пачынае ствараецца сістэма забеспячэння грамадзян перыёдыкай, першы этап гэтага працэсу прыпадае на перыяд з 1920 па 1924 г. Поруч з галоўнай рэспубліканскай газетай «Савецкая Беларусь» (пачала выходзіць 1 лютага 1920 г. у Смаленску, пазней перанесена ў Мінск) ствараюцца перыядычныя выданні, якія арыентуюцца ўжо на доўгачасовае выданне і давядзенне да насельніцтва мірнай інфармацыі. Адсутнасць крытычнага дэфіцыту паперы дазволіла пашыраць выданні.

Расце фармат газет, некаторыя з іх павялічваюць колькасць старонак. Апрача палітычнай агітацыі, на старонках газет і часопісаў з'яўляецца і хроніка гарадскога і сельскага жыцця. Пачынаецца выбарачны падыход да чытацкай аўдыторыі, што знаходзіць сваё адлюстраванне ў выданнях: выпускаюцца літаратурна-мастацкія і грамадска-палітычныя дадаткі да ўжо існуючых газет, а затым і асобныя газеты, арыентаваныя на інтарэсы сялян, рабочых ці моладзі. Прычым яны ўзнікаюць адразу на беларускай, польскай і яўрэйскай мовах[515].

Для моладзевай аўдыторыі пры газеце «Савецкая Беларусь» быў створаны дадатак «Малады араты», які з 1922 г. вылучыўся ў самастойную газету, а ў 1925 г. ператвораны ў двухтыднёвы часопіс сялянскай моладзі з такой самай назвай — «Малады араты». Тыраж яго ў 1925—1926 гг. быў невялікі, 1000—1500 экз., у часопісе часта змяняліся рэдактары. За два гады на гэтай пасадзе пабылі пяць чалавек (А. Гаруновіч — А. Александровіч — А. Самахвалаў — І. Барашка — Д. Ратнер), што ў рэшце рэшт паспрыяла яго закрыццю (тыраж апошняга нумара — 900 экз.). Аднак «Малады араты» ўвайшоў у гісторыю беларускай выдавецкай справы як часопіс, які выпрацаваў вельмі стыльнае афармленне. На яго вокладцы з'яўляліся партрэты кіраўнікоў СССР і БССР, у т.л. Сталіна, Зіноўева, Кнорына, Бухарына, Фрунзе, Чарвякова, а таксама часта змяшчаліся працы лепшых мастакоў кнігі Мінска свайго часу — А. Тычыны, Г. Змудзінскага, Ахола-Вало, Я. Кашкеля.

Пасля аддзялення «Маладога аратага» рэдакцыя газеты «Савецкая Беларусь» зрабіла спробу выдаваць двухтыднёвыя дадаткі: літаратурна-мастацкі «Радавая рунь» і грамадска-палітычны «Чырвоная краіна», аднак яны праіснавалі нядоўга.

З 21 красавіка 1921 г. узнікае газета «Красная смена» на рускай мове; з 1 снежня 1922 г. пачала выпускацца моладзевая польская газета «Gwiazda młodzeży»; з верасня 1922 г. — «Дэр юнгер арбэйтэр» («Малады рабочы») на яўрэйскай мове. Адначасова ў Гомелі з 1922 г. выходзіць газета-часопіс «Набат молодёжи» на рускай мове, у Магілёве пры газеце «Со-

*Вокладкі часопіса «Малады араты». Мінск, 1925, 1926 гг.*

→ *Газета «Савецкая Беларусь». 12 сакавіка 1924 г.*











ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ВІЦЕБСКІ ПРОЛЕТАРЫЙ

ЧАЦВЕР 7 ЛІСТАПАД

„Са сцягам Леніна перамаглі мы ў баях за Окцябрскую рэволюцыю.

Са сцягам Леніна дабіліся мы рашаючых поспехаў у барацьбе за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва.

З гэтым-жа сцягам пераможам у пролетарскай рэволюцыі ва ўсім свеце.

Няхай жыве ленінізм!" (І. Сталін).

НЯХАЙ ЖЫВЕ XVIII ГАДАВІНА ВЯЛІКАЙ ПРОЛЕТАРСКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ У СССР!
НЯХАЙ ЖЫВЕ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ ВА УСІМ СВЕЦЕ!

18 ГОД.

Змяніўся твар Совецкай Беларусі.



ЗАГАД

*Газета «Віцебскі пралетарый». 7 лістапада 1935 г.*

ха и молот» у 1920—1921 гг. выходзіў дадатак «Красная молодёжь», у 1924 г. — «Зарницы», у 1925 г. — «Комсомолия»; бабруйская газета «Бедняк» мела дадатак «Страничка красной молодёжи».

Беларусь заўсёды была крінай, дзе вялікую ролю адыгрывала сельская гаспадарка. Таму следам за моладзевымі пачалі ўзнікаць газеты для сялянства. У 1921 г. у якасці дадатку да газеты «Звезда» пачала выпускацца «Беларуская вёска», якая з сакавіка 1924 г. стала асобнай газетай (у 1926—1928 гг. яна выдавала двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак «Чырвоны сейбіт»). У Гомелі з 1920 г. выходзіла газета «Новая деревня», у Полацку газета «Чырвоная Полаччына» друкавала тэматычныя старонкі «Вясковая камсамолія». У 1924 г. пачалі выходзіць «Витебская крестьянская газета» і ў Магілёве — «Вясковы будаўнік».

Прафсаюзныя газеты і газеты для рабочых у гэты час толькі пачалі з'яўляцца. Так, у Барысаве ў 1920—1921 гг. выйшла газета «Коммунистический труд», у Гомелі — «Рабочая жизнь», у Магілёве ў газеце «Соха и молот» былі старонкі «Профессиональный двухнедельник», у Віцебску «Известия Витебского окркома КП(б) Белоруссии и окрисполкома» выпускалі дадатак «Профессиональная мысль». У Мінску прамысловасць знаходзілася ў стадыі ўзнаўлення і прафсаюзныя газеты з'явіліся пазней, чым у астатніх рэгіёнах Беларусі. Першай буйной асобнай прафесійнай газетай у Мінску стаў «Рабочий», пачаўшы сваё выданне ў 1927 годзе.

Да канца 1924 г. па ўсіх рэгіёнах Беларусі мелася сетка грамадска-палітычных газет, якія прапагандавалі сярод розных катэгорый насельніцтва камуністычныя ідэі і проста паведамлялі насельніцтву свежыя навіны. Акрамя грамадска-палітычных выданняў, пачынаюць выходзіць і спецыяльныя.

Практыку насценных газет РОСТА (закончылі сваё выданне разам з заканчэннем Грамадзянскай вайны) падхапілі вытворчыя насценныя газеты — кампартыя ўдзяляла павышаную ўвагу стварэнню сеткі «нізавога» друку. Намаляваныя іншым разам ад рукі або друкаваныя на даступных прадпрыемству сродках, насценныя газеты даводзілі да калектываў работнікаў пастаўленыя партыйнай арганізацыяй задачы. Тыраж такой газеты рэдка перавышаў 20 экз., колькасць іх расла ў геаметрычнай прагрэсіі. У снежні 1924 г. прафсаюзы Беларусі выпусцілі 164 насценныя газеты, у 1931 г. іх ужо было 6 тыс., а ў 1932 — 13,5 тыс. Насценныя газеты паслужылі пачаткам фабрычна-заводскага друку і руху рабоча-сялянскіх карэспандэнтаў (рабселькораў). Для вучобы і павышэння культуры работнікаў раённых газет і працы з рабселькорамі ЦК КП(б) Б выдаваў праз выдавецтва «Звязда» ў 1934—1936 гг. часопіс «Большэвіцкі друк» (адказны рэдактар А. Джэлюк). На старонках часопіса друкаваліся датычныя прэсы ўрадавыя пастановы, артыкулы розных аўтараў — ад старшыні ЦВК СССР і БССР А.Р. Чарвякова і загадчыка аддзела культуры і прапаганды ленінізму ЦК КП(б)Б тав. Д.Ю. Коніка да простых селькораў, накшталт Сцяпана Шаіркі, рэдактара насценгазеты калгаса «Бязбожнік» Лёзненскага раёна. Пад рубрыкай «Ініцыятыва, практыка, вопыт» часопіс змяшчаў хроніку і агляды жыцця раённых газет, часам у сувязі з патрэбамі дня, накшталт: «25-га сакавіка 1935 г. бабруйская раённая газета «Комуніст» — адна з старэйшых раённых газет БССР — адзначае свой юбілей — выхад 3000-га нумара. У сувязі з юбілеем ра-

ённай газеты ў радзе калгасаў пачаўся паход за чыстату калгасных хат і двароў. Калгасніца калгаса «Усход» Худавец Марыя, актыўны чытач раённай газеты, пабяліла і атынкавала сваю хату, купіла шафу, самавар. Ляпёшкіна Марыя набывае поўны камплект пасуды, «каб сям'я не ела з адной міскі». Нізавыя газеты і рабселькоры Бабруйшчыны сустракаюць юбілей сваёй раённай газеты ўзмацненнем работы па падрыхтоўцы веснавой сяўбы»[516].

Асобным відам выданняў сталі бюлетэні гандлёвых біржаў, якія ўзнавілі сваю працу з усталяваннем новай эканамічнай палітыкі. З 1923 па 1927 гг. такія бюлетэні выходзілі ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Магілёве і Смаленску.

Працягвалі выдавацца і аднадзённыя газеты, але тэматыка іх крыху змянілася. Акрамя святочных выпускаў, з'явіліся літаратурныя газеты да гадавін («Jednodniowka Literacka» (1929) і «Литературная газета» (1931) у Мінску, «За пралетарскі тэатр» (Гомель, 1931), «За культуру» (Віцебск, 1928), газеты жыллёва-камунальнай гаспадаркі да суботнікаў («На штурм бездарожжа» (Мінск, 1931), атэістычныя газеты да рэлігійных свят («На барацьбу з рэлігійным дурманам» (Барысаў, 1929) і г. д. Аднадзённыя газеты выпускалі да дзён здачы нарматываў ГТО, да дзён АСАВІАХІМа, вучэнняў грамадзянскай абароны («Призывник», Барысаў, 1925; «Камсамолец на самалёт», Віцебск, 1931) і да т.п.

У 1925—1927 гг. адбываецца рэарганізацыя найбуйнейшых беларускіх газет. Многія з тых, што выпускаліся па-руску, сталі выходзіць на беларускай мове: «Звезда» — у 1927 г., «Белорусская деревня» і «Красная смена» — у 1926 г. Пачынае выходзіць новая газета на рускай мове — «Рабочий». «Młot» і «Gwiazda młodzeży» перасталі выдавацца, узамен распачата выданне газеты «Orka». «Дэр векер» («Будзільнік») пераўтвораны ў «Октябер» («Кастрычнік»). Пачата выданне газеты на літоўскай мове «Raudonasis artojas» («Чырвоны араты») для работы з літоўскамоўным насельніцтвам Беларусі.

З'яўляецца новы від прэсы — «акруговыя» газеты. Тэрмін заснаваны на тым, што выдаўцамі такіх газет былі акруговыя камітэты партыі. У Беларусі ў 1926 г. акруговымі газетамі лічыліся: у Віцебску — «Віцебскі пралетары» (які ў 1931 г. зрабіў спробу выдаваць штомесячны літаратурна-мастацкі дадатак «Штурм», але выйшаў толькі адзін нумар), «Заря Запада» (былыя «Известия…») і «Витебская крестьянская газета» (доля беларускага тэксту ў двух апошніх выданнях няўхільна расце); у Гомелі — «Полесская правда» (доля беларускага тэксту таксама няўхільна расце). У Бабруйску з 1924 г. выходзіць на беларускай мове газета «Комуніст», якая ў 1928—1931 гг. выдае штомесячны дадатак «Вясна» (апошнія чатыры нумары гэтага дадатку выйшлі пад назвай «Ударнік», але перайменаванне не дапамагло, і дадатак быў закрыты). У Магілёве, замест «Сохи и молота», з канца 1924 г. выдаецца газета «Камунар Магілёўшчыны»; у Мазыры — «Савецкая вёска»; у Полацку — «Чырвоная Полаччына»; у Оршы — «Комуністычны шлях»; у Клімавічах — «Наш працаўнік» (у 1926—1927 гг. мела літаратурна-мастацкі дадатак «Сьвітанне» і ў 1925—1926 гг. штотыднёвы грамадска-палітычны дадатак «Малады камуніст», праіснаваў «Наш працаўнік» толькі да 1927 г.). Па замове ўлад акруговыя газеты выдавалі неабходныя кнігі і дакументы, напрыклад «Арыентыровачныя прыкладныя нормы выпрацоўкі і зьдзельныя расцэнкі работ для калгасаў БССР на 1933 год. Выданне газэ-

Пралетары ўсіх краў, злучайцеся!

ЧЫРВОНАЯ БРАКАМОЛКА

Орган рабочых і служачых фабрыкі „Герой Працы"

№ 19 Чацьвер, 6 лістапада 1930 г. № 19

НЯХАЙ ЖЫВЕ XIII ГАДАВІНА КАСТРЫЧНІКАВАЙ РЭВАЛЮЦЫІ!

Чырвонастандарцы, ударныці батальёнамі — на штурм ганебнага прарыву

Ліквідацыя прарыву лепшы адказ імпэрыялістым, якія рыхтуюць напад на СССР.

УЗМАЦНЯЙ АБАРОНАЗДОЛЬНАСЬЦЬ КРАІНЫ

13

XIII год сацбудаўніцтва

Усе сілы на штурм правалу

ЗВОДКА

*Газета «Чырвоная бракамолка». 6 лістапада 1930 г.*




*Часопіс «Іскры Ільіча» № 10. 1930 г.*

ты «Віцебскага Пралетарыя». Разавы тыраж акруговых газет дасягаў 36 290 экз. Нашмат меншыя тыражы мелі газеты ў малых раённых гарадах: тут рэдакцыі змагаліся за павелічэнне колькасці падпісчыкаў, але бедны горад і малапісьменная вёска не спяшаліся спрыяць гэтаму працэсу. Найбольш прадпрымальныя журналісты арганізоўвалі пастаянную рэкламу і цэлыя PR-кампаніі. Так, рэдакцыя бабруйскай газеты «Комуніст» летам 1928 г. абвясціла конкурс на лепшага зборшчыка падпіскі. Для пераможцаў былі прызначаны 20 прэмій, у тым ліку 1-я прэмія — суконны касцюм (ці 43 руб. грашамі), 2-я прэмія — скураная куртка (ці 25 руб.), 3-я прэмія — ружжо бярданка (ці 20 руб.), акрамя таго, у ліку прэмій — суконныя штаны, кашулі, гадзіннікі-ходзікі і іншыя рэчы. Кожны падпісчык газеты «Комуніст» атрымліваў штомесячна два бясплатныя дадаткі да газеты (літаратурны — «Вясна» (яго рэдагаваў Міхась Лынькоў) — і кааператыўны — «За калектыў»). Трохмесячныя падпісчыкі, акрамя таго, атрымлівалі яшчэ і прэміі-карціны ці партрэты. Падпіска на месяц каштавала 25 кап., на тры месяцы — 75 кап. Прыняць удзел у конкурсе меў права той, хто сабраў не менш як 30 трохмесячных падпісчыкаў.

У 1924 г. на XIII з'ездзе ВКП(б) было прынята рашэнне садзейнічаць развіццю сеткі карэспандэнтаў на месцах. Так узнік гэтак званы рабселькораўскі рух («рабселькор» утворана ад слоў «рабочы і сельскі карэспандэнт»), з цягам часу рух набыў па-сапраўднаму масавы характар. Некаторы час спатрэбіўся на падрыхтоўку кадраў, нават самую першапачатковую. Рабселькоры выдавалі насценныя газеты, удзельнічалі ў выпуску аднадзённых газет, але самае галоўнае — яны пачалі збіраць матэрыял для газет свайго прадпрыемства, навучальнай установы, воінскай часці. Менавіта рабселькораўскі рух стаяў ля вытокаў гэтак званых «шматтыражных» і калгасных газет. Дзеля выхавання рабселькораў выдаваліся спецыяльныя ўрадавыя пастановы[517].

Пачалі выдаваць газеты прадпрыемствы і парткомы, дзе была паліграфічная база для выдання і быў дастаткова шматлікі калектыў адукаваных людзей. Першай фабрычна-заводскай газетай стаў «Факел печатника» (Віцебск, 1924, з 1928 г. асноўная мова — беларуская, частка тэксту на рускай і яўрэйскай мовах), затым «Рабочее око» (газета мінскага завода «Бальшавік», выдавалася з 1927 г., спачатку на рускай, затым на беларускай, рускай і яўрэйскай мовах). Да 1929 г. выпуск шматтыражных газет набыў самыя масавыя маштабы. Газеты выдавалі адукацыйныя ўстановы (газета Беларускага дзяржаўнага універсітэта «Ленінскім шляхам», Мінск, з 1929 г.), друкарні, арганізацыі жыллёва-камунальнай гаспадаркі («За аздараўленне працы і быту», Гомель), упраўленне дарогамі («Штурмавік бездарожжа», Віцебск), турмы («Мысль заключенного», Віцебск), ваенныя часці («Броневой гудок», Віцебск). Невысокі прафесійны ўзровень калектыву рэдакцыі такой газеты часта знаходзіў адлюстраванне ў назвах: жаданне ўвязаць мясцовую спецыфіку з тыповым загалоўкам іншым разам даходзіла да абсурду. Н-ская кавдывізія, напрыклад, выпускала газету «Кавалерыст-ударнік», Віцебскі лесазавод № 13 — «Вернем краіне лясны доўг», мінскі вагонарамонтны завод — «За здаровы вагон», Добрушская фабрыка «Герой працы» — «Чырвоная бракамолка», гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта — «За бальшавіцкую гісторыю».




*Газета «Беларускі піянер» № 17. Верасень 1928 г.*

З калгаснымі газетамі справа выглядала яшчэ горш, калі ўлічыць агульны нізкі ўзровень пісьменнасці на вёсцы. У многіх саўгасах выпускаліся газеты пад адным і тым жа загалоўкам. Напрыклад, газету з назвай «За сацыялістычную свінагадоўлю» выдавалі ў пас. Банонь (Віцебская вобласць), у саўгасе «Халоўе» пад Оршай, саўгасе «Вейна» пад Магілёвам, саўгасе «Блонь» пад Пухавічамі (Мінская вобл.), саўгасе імя Кірава пад Слуцкам і г. д.

Тым не менш да 1932 г. ў Беларусі выходзіла 106 толькі фабрычна-заводскіх газет.

Беларуская перыёдыка для самых маленькіх існавала ад 1914 г., калі выходзілі часопісы «Раніца» і «Лучынка». У Савецкай Беларусі для гэтай аўдыторыі напачатку прызначаны былі часопіс «Зоркі» (1921—1922 гг., выйшла 10 нумароў) і двухтыднёвік «Беларускі піонэр» (1924 г. — верасень 1929 г.). У Гомелі з 1924 г. выдавалася газета «Искры Ильича», але яе выпуск быў спынены ў 1927 г.

У 1929 г. стала зразумела, што адзіная партыйная арганізацыя, якая не мае ўласнай газеты, — гэта піянеры. У кастрычніку 1929 г. у Мінску з'явіліся адразу дзве рэспубліканскія піянерскія газеты — «Піянер Беларусі» на беларускай мове і «Юнгер ленінец» — на яўрэйскай. Апрача таго, у Мінску ў кастрычніку 1929 г. пачаў выходзіць штомесячны часопіс для вучняў малодшых класаў «Іскры Ільіча». Часопіс дажыў да пачатку вайны, апошнія чатыры нумары выйшлі ў студзені—красавіку 1941 г. Ад заснавання ён друкаваўся ў чатыры фарбы, першыя выпускі мелі тыраж 5 тыс. экз. У 1940 г. тыраж большасці нумароў «Іскраў Ільіча» складаў 20 тыс. экз., асобныя нумары выходзілі тыражом 26 тыс. экз.

Распаўсюджаннем газет займалася пошта, у вялікіх гарадах (Мінск, Віцебск) існавала прафесія прадаўца газет (газетчыка). Вобраз газетчыка намаляваў у 1927 г. паэт Андрэй Александровіч (верш увайшоў у зборнік «Угрунь»):

Газэтчык

Ад самай раніцы, застыўшы ўвесь ад сьцюжы,
Стаіць з газэтамі ля крамы на рагу.
Па бруку носіцца, мяцеліцаю кружыць
Грукат гораду, звычайны грукат-гул…

Вецер і мароз — ну проста дух займаюць,
А ён крычыць, схапіўшы бляск навін:
— Чан Кай-шы — нам здрадзіў у Кітаі.
— Кат Пілсудскі топіцца ў крыві.

— Троцкі з Сталіным ня хоча пагадзіцца…
— У Менску хутка ўжо залязгае трамвай!
І так ад раніцы навіны б'юць крыніцай,
І так за дзень — рубель, а можа, два…

Над белым горадам зазьзяюць ясна зоркі,
На вуліцах дрыжыць вітрын электра-сьвет…
З «апошніх вестак» скруціць ён махоркі —
і дамоў з астаткамі газэт.

На печцы цёплай ён журналы разглядае,
У вочы сонныя залазіць чорны дым —
І скроні мёрзлыя спакойна зачыняе:
Заўецца сон вяночкам залатым.

А раніцаю зноў — няхай мароз, завея,
Няхай трашчыць старая галава —
У горад сунецца, і сэрца ледзянее,
І зноў за дзень — рубель, а можа, два…

У 1930 г. адміністрацыйныя акругі былі ўзбуйнены і з'явіліся раёны. Да 1933 г. канчаткова ўсталяваўся тэрмін «раённая» газета — г. зн. газета, якая выпускалася раённым камітэтам Камуністычнай партыі. На тэрыторыі Беларусі ў той час было каля 100 раёнаў. Не кожны з райкомаў выдаваў газету, таксама выходзілі газеты на некалькі раёнаў адначасова, і ўсё ж такі колькасць раённых газет стала на той час даволі значнай.

Літаратурна-мастацкае жыццё рэспублікі напачатку канцэнтравалася вакол спецыяльных часопісаў. Найважнейшымі былі «Полымя» (1922—1941), «Узвышша» (1927—1931) і «Маладняк». Некаторым выданням не дадзена было жыць доўга: выйшла толькі два нумары часопіса літаратуры, мастацтва і крытыкі «Росквіт» (Менск, 1927—1928), чатыры нумары штомесячнага літаратурна-мастацкага часопіса ССП БССР «Заклік» (1931), восем нумароў штомесячнага літаратурна-мастацкага часопіса Аб'яднання пралетарска-калгасных пісьменнікаў «Беларусь калгасная» (1932), двухтыднёвы орган цэнтральнага праўлення Саюза работнікаў мастацтва Беларусі і Белдзяржкіно «Трыбуна мастацтва» жыў толькі ў лютым—чэрвені 1925 г. (выйшла 14 нумароў). Важнай падзеяй стала арганізацыя спецыяльнай газеты «Літаратура і мастацтва», якая дажыла да нашых дзён — першы нумар з'явіўся 26 лютага 1932 г. Да таго ж да найбуйнейшых газет выпускаліся літаратурныя дадаткі, а да самых буйных падзей у свеце літаратуры — аднадзённыя газеты. Асноўная доля матэрыялу ў «Літаратуры і мастацтве» была на беларускай мове, але на яе старонках можна было ўбачыць і рускую, і польскую, і яўрэйскую мовы.

Кніжная палата БССР наладзіла статыстыку выхаду газет на тэрыторыі рэспублікі. У 1932 г. агульная колькасць выданняў склала 209, з іх на беларускай мове выходзіла 160. Штодзённых газет было ўсяго 9: «Звязда», «Чырвоная змена», «Октябер», «Савецкая Беларусь», «Рабочий», «Віцебскі рабочы», «Палеская праўда», «Камунар Магілёўшчыны», «Чырвоная Полаччына».

Эпоха палітычных рэпрэсій істотна змяніла сітуацыю. У 1933 г. была закрыта газета «Савецкая Беларусь», у 1935 г. — «Калгаснік Беларусі», у 1937 г. — галоўны эканамічны часопіс рэспублікі «Сацыялістычнае будаўніцтва» (1924—1937), што выдавалі Дзяржплан, Наргасулік, ЦВК і Саўнарком БССР. З 1937 г. у галоўнае афіцыйнае выданне пераўтворана газета «Рабочий», якая стала называцца «Советская Белоруссия», у 1938 г. пачала выдавацца газета «Сталинская молодежь» (пазней перайменаваная ў «Знамя юности») на рускай мове. У астатнім да 1941 г. сістэма цэнтральных газет Беларусі заставалася нязменнай: «Звязда», «Літаратура і мастацтва», «Піянер Беларусі», «Чырвоная змена», «Рабочий» (далей «Советская Белоруссия») і «Сталинская молодежь» (з 1938 г.). Заставаліся жыць часопісы «Бальшавік Беларусі» (1927—1941, 1945 гг. — да нашых дзён), «Полымя», «Работніца і сялянка» (1924—1941, 1946 гг. — да нашых дзён).

Пік выдання газет у Беларусі ў гэты час прыпаў на 1934 г. Статыстыка Кніжнай палаты БССР адзначала значны рост агульнай колькасці выданняў — 209 у 1932 г., 293 у 1933 г. і 349 у 1934 г. Таксама расла і колькасць выданняў на беларускай мове: у 1932 — 160, у 1933 — 241, у 1934 — 292. У асноўным гэта адбывалася за кошт гэтак званага нізавога друку, у які ўключыліся фабрычна-заводскія газеты, саўгасныя, газеты машынна-трактарных станцый (МТС), транспартныя газеты і газеты навучальных устаноў. У 1933 г. іх было 203, у

→ *Газета «За газетныя кадры». 6 сакавіка 1936 г.*


Газэтнае Бюро
БЕЛАРУСКАГА
КІРАЎНІЦТВА СУВЯЗІ
г. Менск, Ленінская 34, тэл. 249, 533.

КАТАЛЕГ
НА ВЫДАНЬНІ ВЫХОДЗЯЧЫЕ па БССР.
на 1930 год.

Галоўлітбел № 1292 т. 8000.
з. 1844 „Чырвоны Друкар“ Менск.

*Каталог падпіскі на 1930 г.*

1934 — 262. Вырас тыраж цэнтральных газет. Калі ў 1931 г. «Звязда» выходзіла ў колькасці 33 102 экз., то ў 1934 г. фактычны разавы тыраж узрос да 83 827 экз.[518]

У 1935 г. адзначыўся некаторы спад колькасці выданняў. Гэта было звязана з пачаткам кадравых перамяшчэнняў і рэпрэсій сярод рэдактараў газет, журналістаў і кіраўніцтва калектываў, якія выпускалі газеты.

Так, у 1934 г. у Беларусі было 349 газет, у 1935 г. — 335; на беларускай мове ў 1934 г. — 292, у 1935 г. — 276; нізавых у 1934 г. — 262, у 1935 г. — 226. У 1936 г. Кніжная палата БССР перастала даваць пагадовую статыстыку, што красамоўна сведчыць аб скарачэнні колькасці выданняў.

Тая самая карціна складвалася і з газетамі на іншых мовах. Калі ў 1933—1935 гг. у Беларусі было 2 польскія газеты («Orka» і «Szturmowiec Dzierżyńszczyzny»), 1 газета на літоўскай мове («Raudonasis artojas»), 2 газеты на яўрэйскай мове («Октябер» и «Юнгер ленінец»), 20 газет з доляй яўрэйскага тэксту (напрыклад, «Віцебскі рабочы») і 7 газет з доляй руска-беларускага тэксту, то на 1937 г. былі ўжо закрыты абедзве польскія газеты і літоўская, а таксама са старонак беларускіх газет знікае яўрэйская мова (прынамсі, на асобных старонках). У 1938 г. закрыта газета «Юнгер ленінец», і з іншамоўных газет амаль тры гады існавала толькі газета «Октябер».

«Пад час яжоўшчыны асабліва ганебную ролю выконваў беларускі камуністычны друк. Так званыя газетныя карэспандэнты ў савецкіх установах шукалі розны абвінаваўчы матэрыял… Назбіраўшы такога-сякога матэрыялу, газета, і асабліва орган камуністычнай партыі «Звязда», рыхтавала абвінаваўчы матэрыял, у якім імкнулася як мага больш ачарніць прызначаную ахвяру. Факты перакручваліся, у бальшыні выпадкаў былі выдуманыя, фальшывыя. Усё станоўчае ў лепшым выпадку замоўчвалася або паказвалася як контррэвалюцыйныя ўчынкі, як інтрыгі ворагаў народа. Звычайна абвінаваўчы матэрыял заканчваўся «абурэннем», што такі закаранелы вораг народа сядзіць, замаскіраваўшыся, у савецкай установе. Пасля такой падрыхтоўкі ў той самы дзень зганьбаваная ахвяра знікала ў скляпеннях НКУС»[519].

У 1938 г. з раёнаў рэспублікі ўтвораны 5 абласцей: Віцебская, Гомельская, Мінская, Магілёўская, Палеская. Адпаведна, акрамя раённых, з'яўляецца тэрмін «абласныя» газеты. Як правіла, яны рэарганізаваны з былых акруговых: Віцебская вобласць — «Віцебскі рабочы», Гомельская вобласць — «Палеская праўда» (з 1939 г. стала называцца «Гомельскай праўдай»), Мінская вобласць — «Звязда» і «Советская Белоруссия» (сумяшчалі статус абласной і цэнтральнай газеты), Магілёўская вобласць — «Камунар Магілёўшчыны», Палеская вобласць — «Большэвік Полесся» (з цэнтрам вобласці ў Мазыры).

1939 г. азнаменаваўся шматлікімі падзеямі як у сусветнай гісторыі, так і ў гісторыі Беларусі. У выніку падзелу Польшчы да тэрыторыі БССР далучылі значную частку Заходняй Беларусі, страчанай пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы ў сакавіку 1921 г. Адразу ж спатрэбіліся газеты, якія б прапагандавалі новы лад сярод мясцовага насельніцтва.

Асноўнымі мовамі газет на тэрыторыі Заходняй Беларусі перад Другой сусветнай вайной былі польская і яўрэйская. Так, у Баранавічах выдавалася «Барановічэр Курьер» на яўрэйскай, у Брэсце — «Polesie» на польскай, у Беластоку — «Dziennik Białystocki» і «Dzień Dobry» (таксама на польскай), у Слоніме — «Слонімер Ворт» на яўрэйскай.

З устанаўленнем на гэтай тэрыторыі савецкай улады асноўнай мовай стала беларуская. У выданні савецкіх газет выкарыстоўваліся шрыфты раней выдаваных польскіх. Так, шрыфты газеты «Dzień Dobry» ў Беластоку відавочна выкарыстоўваліся пры выданні газеты «Wolna praca».

З далучанай тэрыторыі было створана 5 абласцей: Баранавіцкая вобласць мела абласную газету «Чырвоная звязда»; Беластоцкая вобласць мела газеты на ўсіх чатырох мовах: «Вольная праца» на беларускай[520], «Wolna praca» на польскай, «Освобождённый Белосток» на рускай і «Бялістокер штэрн» на яўрэйскай; Брэсцкая вобласць — газету «Зара»; Вілейская вобласць — «Вілейскую праўду» і «Сялянскую газету»; Пінская вобласць — «Палескую праўду».

Галоўным цэнтрам выдання газет Заходняй Беларусі быў Беласток. У яго чатырох абласных газетах (тры з іх былі штодзённымі) публікаваліся хроніка ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі, а не толькі інфармацыя, якая адносілася да Беластока.

Далучэнне Заходняй Беларусі да БССР мела для газетнай справы яшчэ адно наступства — у Мінску з'явіліся 2 новыя штодзённыя газеты. Па-першае, з перамяшчэннем мяжы СССР з Беларускай асобай ваеннай акругі з цэнтрам ў Смаленску была выдзелена Заходняя асобая ваенная акруга з цэнтрам у Мінску. Адпаведна са Смаленска была перамешчана газета гэтай акругі — «Красноармейская правда». З кастрычніка 1939 г. яна выходзіла ў Мінску. Па-другое, рэзкі рост колькасці польскамоўнага насельніцтва выклікаў неабходнасць узнаўлення цэнтральнай штодзённай газеты на польскай мове. І з 10 кастрычніка 1940 г. у Мінску выходзіць газета «Sztandar wolnośći». Менавіта з такой сістэмай газет Беларусь і ўступіла ў Вялікую Айчынную вайну.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

№ 9 Жнівень 1937 г. Год II



З працы

# КНІЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ Ў СКЛАДЗЕ ДРУГОЙ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ: АД БРЭСТА ДА ВІЛЬНІ І АД БЕЛАСТОКА ДА НАВАГРУДКА

Кнігавыдавецкая прадукцыя, якая распаўсюджвалася на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай, была прадстаўлена ў асноўным польскамоўнымі выданнямі[521]. У 1924 г. яны складалі 80,7%, у 1925 г. — 84,8%. Беларускамоўным выданням адпаведна належала 0,5% і 0,2% ад агульнай колькасці назваў надрукаваных кніг краіны. «У сярэдзіне 1920-х гг. на беларускім кніжным рынку Заходняй Беларусі была даволі шырока прадстаўлена і прадукцыя замежных выдавецтваў. Напрыклад, у рэкламным каталогу Беларускага выдавецкага таварыства, выдадзеным, верагодна, напрыканцы 1924 г., з 183 прадстаўленых кніг — 83 (амаль 45%!) былі прадукцыяй выдавецтваў БССР і Літоўскай Рэспублікі. Яшчэ цікавейшая сітуацыя была з часопісамі: з 14 анансаваных тытулаў толькі 5 мелі заходнебеларускае паходжанне»[522]. Праз увесь час існавання Другой Рэчы Паспалітай трывалым стрыжнем і нязменнай трыбунай беларускай Вільні і ўсёй Заходняй Беларусі заставалася штотыднёвая газета «Крыніца» (з 1925 да 1937 г. яна называлася «Беларуская крыніца»). Сімвалічна, што яе выданне пачалося ў сталіцы былой імперыі Петраградзе (1917), потым было перанесена ў Беларусь: спачатку ў Мінск (№ 3 за 1918 г.), а з лістапада 1919 г. — у Вільню, і тут парацягвалася да 1940 г. Польскія ўлады тройчы закрывалі газету, было канфіскавана 58 асобных нумароў, аднак выданне не спынялася. Частка тыражу друкавалася лацінскім алфавітам, частка — кірыліцай. Газета ўважліва сачыла за надзённымі палітычнымі падзеямі, даючы ім ацэнку з пункту гледжання хрысціянскай дэмакратыі, а таксама актывізавала гістарычную памяць беларусаў, друкуючы матэрыялы пра сучасных (Янку Купалу, Якуба Коласа і інш.) і гістарычных (Ф. Скарыну, К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча) дзеячаў культуры. Нязменным рупліўцам гэтага выдання быў яго першы рэдактар ксёнз Адам Станкевіч, які служыў у віленскім касцёле св. Мікалая. Гэты ж святар у 1924—1926 гг. узначальваў Таварыства беларускай школы, якое выдавала свой перыядычны часопіс «Веснік ТБШ».

Вільня з'яўлялася асноўным выдавецкім цэнтрам беларускага друку ў ІІ Рэчы Паспалітай: тут з'явілася 98% ад усёй выдадзенай кніжнай прадукцыі[523]. Беларускамоўны друк у Заходняй Беларусі ажыццяўлялі каля 100 выдавецтваў і выдаўцоў (96), у іх ліку:

— 44 арганізацыі і таварыствы (выдавецкія, грамадска-палітычныя, рэлігійныя і інш.), на ліку якіх 261 выданне;

— 21 рэдакцыя перыядычных выданняў, на ліку якіх 117 выданняў;

— 31 прыватная асоба (сярод іх 16 аўтараў-выдаўцоў), на ліку якіх 50 выданняў[524].

У 1923 г. у віленскай беларускай газеце «Наша Будучына» быў змешчаны артыкул маладога беларускага філосафа Ігната Канчэўскага — сябра Беларускага навуковага таварыства, супрацоўніка шэрагу беларускіх газет у Вільні — «Закладвайма народныя выдавецтвы!»[525], у якім аўтар прапаноўваў ствараць выдавецкія кааператывы, каб шырыць нацыянальныя выданні: «Грамадой ідзіце запісвацца ў гэты кааператыў, каб супольнымі сіламі замацаваць фундаменты нашай адроджанай культуры»[526]. Асноўную частку беларускіх выданняў выпусцілі ў свет у межах ІІ Рэчы Паспалітай менавіта супольныя арганізацыі і таварыствы, бо, як адзначаў І. Канчэўскі, не было ў нас нацыянальна свядомых багатых людзей, якія б маглі заснаваць трывалыя кнігавыдавецкія прадпрыемствы.

Усяго, паводле зафіксаваных на сёння бібліяграфічных дадзеных аб беларускіх выданнях у ІІ Рэчы Паспалітай, налічваецца 495 назваў кніг і брашур на беларускай мове. Як адзначае Ю. Туронак, якому ўдалося выявіць 466 пазіцый, гэта лічба была амаль у 23 разы меншай, чым у БССР. Каля паловы выдаўцоў (47) змаглі выпусціць толькі па адным выданні, а сем — больш за дзесяць. Найбольш актыўнай была дзейнасць наступных арганізацый і таварыстваў: Беларускага Выдавецкага Таварыства (51 выданне), Віленскага Выдавецтва Б. [Барыса] Клецкіна (32), Выдавецтва У. [Уладзіслава] Знамяроўскага (21), Выданні Яна Станкевіча (16), Выдавецтва Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры (15), рэдакцый перыядычных выданняў «Białaruskaja Krynica» (38), «Chryścianskaja Dumka» (33), «Белпрэс» (6), «Голас Беларуса» (6), «Калосьсе» (6) і прыватных асоб — Рыгора Шырмы (6), кс. Станіслава Глякоўскага і Язэпа Найдзюка (5), Максіма Гарэцкага (4), Фабіяна Ярэміча (3), Сяргея Паўловіча (3).

← *Часопіс Таварыства беларускай школы «Беларускі летапіс» № 9. Вільня, 1937 г.*




*Тытульны ліст кнігі «Расійска-польскі баль і беларускае пахмелле». Пінск, 1921 г.*

Вядучыя пазіцыі ў віленскім беларускамоўным кнігавыданні займаў ***Антон Луцкевіч***, які ў 1921 г. узначаліў Беларускі Нацыянальны Камітэт, выкладаў літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі, а таксама кіраваў Беларускім Выдавецкім Таварыствам (дзейнічала да 1932 г.), заснаванай ім Беларускай Школьнай Радай, Таварыствам Беларускай Школы, а з 1923 г. — Беларускім Навуковым Таварыствам — усе разам складалі «свайго роду выдавецкі холдынг Луцкевіча». Дзякуючы арганізацыйнай і фінансавай падтрымцы А. Луцкевіча, у 1921—1925 гг. выйшла каля 80 назваў кніг, або 70% ад усёй беларускамоўнай прадукцыі таго часу. Аднак у 1929 г. у выдавецкай дзейнасці групы Луцкевіча наступае заняпад. Адбыўся разгром Грамады (у 1927 г.), А. Луцкевіч пазбаўлены кіравання БВТ, выключаны з Таварыства Беларускай Школы, звольнены з Віленскай беларускай гімназіі. Апошнімі яго выданнямі сталі ў 1933 г. брашуры-адбіткі артыкулаў штогадовіка Беларускага Навуковага Таварыства[527].

У 1935 г. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ў Вільні распачаў выданне тоўстага літаратурна-навуковага часопіса «Калосьсе». Першая яго кніжка праз некалькі тыдняў пасля выхаду ў свет была канфіскавана адміністрацыйнымі ўладамі за вершы Міхася Машары і верш Адама Гурыновіча «Перш душылі паны, што шляхтай зваліся». Аднак Акружны Суд у Вільні не знайшоў у гэтых творах супярчнасці з правам, і забраныя экзэмпляры былі вернуты выдаўцам. «Калосьсе» выходзіла да верасня 1939 г. — часопіс стаў трыбунай навуковай грамадскасці Вільні і ўсёй Беларусі. Прынамсі, у раздзеле «Культурная хроніка» рэгулярна (часопіс выходзіў раз у тры месяцы) асвятляліся падзеі літаратурнага, навуковага і мастацкага жыцця не толькі Заходняй, але і Савецкай Беларусі. Шэраг надрукаваных «Калосьсем» матэрыялаў быў прысвечаны гісторыі беларускага кнігадрукавання ў старажытнасці («Да справы веравызнання Фр. Скарыны» Ул. Талочкі, «Доктар Францішак Скарына і яго культурная праца» А. Станкевіча, рэцэнзія на кнігу Ф. Ільяшэвіча «Drukarnia Domu Maminiczów w Wilnie: 1575—1622») і ў новы час («Стагоддзе новага беларускага друку» В. Гадлеўскага), у раздзеле «Кнігапіс» рэцэнзаваліся найноўшыя беларускія кнігі. Адказным рэдактарам «Калосься» быў Я. Шутовіч, у склад рэдкалегіі ўваходзілі нястомныя М. Шкялёнак, А. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка.

У 1926—1940 гг. на вядучыя пазіцыі ў друку кніг на беларускай мове ў Заходняй Беларусі выйшла ***Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны*** ў Вільні (уладальнік, выдавец і рэдактар ксёндз Адам Станкевіч). Размяшчалася друкарня на вуліцы Людвісарскай, 1, для яе была закуплена плоская друкарская машына і шрыфты з друкарні «Люкс» Людвіка Хаміньскага[528]. Сярод стваральнікаў друкарні, акрамя Адама Станкевіча, былі ксёнз Вінцэнт Гадлеўскі, пробашч кляштара айцоў марыянаў у Друі ксёнз Андрэй Цікота і віцэ-старшыня Беларускага Сялянскага Саюза, Фабіян Ярэміч, якія прадстаўлялі яшчэ адзін ідэйны беларускі рух у Польшчы — Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю (БХД засноўвалася на хрысціянскай і нацыянальнай ідэалогіі). Як адзначае Ю. Туронак, у склад нефармальнай выдавецкай групы БХД уваходзілі Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры (1926—1936), Беларускае Каталіцкае Выдавецтва (1930—1939), кнігарня «Пагоня» (1927—1937), Беларускі Нацыянальны Камітэт (1930—1933), канвент айцоў марыянаў у Друі (1932), рэдакцыі часопісаў «Biełaruskaja Krynica» («Krynica»), «Chryścijanskaja Dumka» (1928—1939), «Шлях Моладзі» (1929—1939), ксяндзы Станіслаў Глякоўскі, Ян Семашкевіч, Язэп Найдзюк, Язэп Малецкі, Ян Багдановіч і інш.







*Вокладка кнігі А. Станкевіча «Кастусь Каліноўскі. «Мужыцкая праўда» і ідэя незалежнасці Беларусі». Вільня, 1933 г.*

*Вокладка кнігі Янкі Купалы «Паўлінка». Вільня, 1927 г.*

Друкарня імя Ф. Скарыны з'яўлялася адзінай беларускай друкарняй у Вільні і дзейнічала як камерцыйнае прадпрыемства, выконваючы замовы розных беларускіх, польскіх і рускіх арганізацый. У Беларускай друкарні імя Францішка Скарыны выйшла больш за 160 беларускіх арыгінальных і перакладных выданняў рэлігійнай і свецкай тэматыкі, у іх ліку творы Ф. Багушэвіча, Я. Коласа, У. Неміровіча-Данчанкі, В. Адважнага, А. Станкевіча і іншых, фальклор, песеннікі, календары. Кнігі выходзілі лацінскім (у асноўным) і кірылічным шрыфтамі. Тут друкаваліся газеты «Biełaruskaja Krynica», «Сялянская Ніва», «Зорка», часопісы «Калосьсе», «Chryścijanskaja Dumka», «Шлях моладзі», а таксама кніжныя выданні Беларускага Выдавецкага Таварыства, Беларускага Каталіцкага Выдавецтва, Беларускага Навуковага Таварыства, Таварыства Беларускай Школы, Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры. Друкарняй кіраваў напачатку Альбін Стэповіч, а з чэрвеня 1927 г. да вясны 1941 г. — Язэп Найдзюк[529]. Акрамя таго, у ёй працавалі Альфонс Шутовіч, Ізабэла Тумаш, Уладзіслаў Тарасевіч, Янка Багдановіч, Мар'ян Пецюкевіч. Двое апошніх пакінулі ўспаміны, як часам маладыя друкары «спалі на зямлі, на падлозе, на саламяных матрацах. Было холадна і голадна, але верылі, што ў будучыні будзе лепш жыць і працаваць»[530].

Актыўнай выдавецкай дзейнасці БХД садзейнічалі як творчы патэнцыял аўтараў, іх ідэйная пазіцыя, так і фінансавая падтрымка беларускага каталіцкага духавенства. Гэта давала магчымасць выпуску менавіта кніг, а не толькі прэсы ці ўлётак, на якія была скіравана выдавецкая дзейнасць, напрыклад, Грамады. Выкарыстоўваўся для друку лацінскі і кірылічны шрыфты (як для католікаў, так і для праваслаўных). Акрамя ўласнай друкарні, існавала таксама ў БХД кнігарня, а пры дапамозе сеткі гурткоў Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры выдавецкая прадукцыя распаўсюджвалася ў розных рэгёнах Заходняй Беларусі.

Яшчэ адну групу выдаўцоў складалі беларускія арганізацыі, якія атрымлівалі субсідыі ад адміністрацыйных улад, за што атрымалі назву паланафільскіх. Аднак яны ўсё ж не выклікалі даверу з боку ўлад, таму і была іх выдавецкая дзейнасць кароткачасовай[531]. Так, у верасні 1930 г. быў створаны Цэнтральны Саюз Беларускіх Культурных і Гаспадарчых арганізацый («Цэнтрасаюз»), які планаваўся як своеасаблівы «холдынг», што супрацьстаяў бы БХД. У яго ўваходзілі Радаслаў Астроўскі (узначальваў), Антон Луцкевіч, Фабіян Акінчыц. Вядомы 4 выданні







*Вокладка кнігі М. Танка «Журавінавы цвет». Вільня, 1937 г.*

*Вокладка кнігі М. Васілька «З сялянскіх ніў». Вільня, 1937 г.*

«Цэнтрасаюза», сярод якіх адно з заснаванай «Сельскагаспадарчай Бібліятэчкі» — «Матыльковыя расьліны» С. Бусла (1932), тры брашуры А. Русаковіча з крытыкай сацыяльнай і эканамічнай палітыкі ў БССР. У 1932—1934 гг. польскія ўлады спрабавалі падтрымліваць і такую серыю, як «Беларуская Народная Бібліятэка» (выйшла 5 брашур з крытыкай БССР і прапагандай эканамічнай палітыкі Польшчы). Усяго налічваецца каля 30 падобных, падтрыманых уладамі выданняў.

Акрамя таго, беларускамоўную прадукцыю выпускалі і незалежныя, палітычна не заангажаваныя арганізацыі і ўстановы, як Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім універсітэце, Дзяржаўнае Выдавецтва Школьных Кніжак у Львове, польскія грамадскія арганізацыі ў Навагрудку, некаторыя рэлігійныя (праваслаўныя, уніяты, езуіты, баптысты) — у Варшаве, Лодзі, Альбярціне і інш., а таксама прыватныя асобы (Ян Станкевіч).

У тэматычнай структуры кніжных выданняў Заходняй Беларусі вылучаюцца наступныя прыярытэтныя групы: 1 — мастацкая, рэпертуарная літаратура і спеўнікі (117 і 80 назваў); 2 — рэлігійная (у тым ліку падручнікі) і грамадска-палітычная літаратура (па 70 назваў); 3 — літаратура па асвеце, педагогіцы, культуры (у тым ліку падручнікі) і філалогіі (68 і 36) [табл. 4].

Развіццё нацыянальнай кніжнай культуры непазбежна прывяло да выдання на жывой беларускай мове перакладаў Святога Пісання. Пасля Першай сусветнай вайны на гэтай ніве пачаў працаваць баптысцкі святар Л. Дзекуць-Малей, які жыў у Брэсце. Ён пераклаў на беларускую мову Евангелле, звярнуўшыся па парады і папраўкі да аўтарытэтнага беларусіста, віленчука Антона Луцкевіча. У 1927—1928 гг. баптысцкае выдавецтва «Компас» у Лодзі надрукавала на беларускай мове тры паасобныя Евангеллі (Марка, Мацея і Іаана), перакладзеныя Л. Дзекуць-Малеем. Антон Луцкевіч тым часам пераклаў цэлы Новы Запавет з Псальмамі, які быў надрукаваны з дапамогай Брытанскага біблійнага таварыства ў 1931 г. у г. Хельсінкі (Гэльсінгфорсе). Напярэдадні Другой сусветнай вайны выйшлі з друку Чатыры Эвангеліі і Апостальскія Дзеі ў перакладзе ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага (Вільня, 1939 г., перавыданне: Гродна, 1998 г.).

Пераважную колькасць беларускамоўных выданняў 1921—1939 гг. складалі арыгінальныя творы мясцовых аўтараў, выдадзеныя ўпершыню, у большасці рэлігійнай і грамадска-палітычнай тэматыкі; рэштку — перавыданні кніг, надрукаваных да 1921 г., і пераклады з іншых моў, у асноўным з рускай.

Найбольш прыкметнымі выданнямі заходнебеларускіх выдавецтваў сталі кнігі

Л. Родзевіча «Беларусь» (друкарня «Друк», 1922 г.), У. Жылкі «На ростані», К. Сваяка «Мая ліра» (Беларускае выдавецкае таварыства, 1924 г.), Н. Арсенневай «Пад сінім небам» (выдавецтва Клецкіна, 1927 г.), М. Васілька «Шум баровы» (выданне Н. Ільяшэвіч, 1929 г.) і «З сялянскіх ніў» (выданне Р. Шырмы, 1937 г.), М. Танка «Журавінавы цвет» (выданне Ф. Стацкевіча і Р. Шырмы, 1937 г.), «Рунь веснаходу: Зборнік твораў паэтаў і пісьменнікаў Заходняй Беларусі» (Беларускае Выдавецкае Таварыства, 1928 г.).

Распаўсюджаннем беларускіх кніг займаліся ў асноўным віленскія беларускія кнігарні: Цэнтральная беларуская кнігарня Выдавецкага Таварыства (Вільня, Вастрабрамская, 1), кнігарня Станіслава Станкевіча, кнігарня «Пагоня». Кнігарні, а таксама некаторыя віленскія выдавецтвы заключалі дамовы з кнігарнямі ў Маладзечне, Валожыне, Лідзе, Ашмянах, Навагрудку, Слоніме, Гародні і іншых месцах на продаж беларускіх выданняў. Значную працу па распаўсюджанні кніг у рэгіёнах Беларусі (да канца 1936 г.) выконвалі і аддзяленні (суполкі) такіх віленскіх грамадска-культурных арганізацый, як Таварыства Беларускай Школы, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, якія нярэдка давалі крэдыты і рабілі зніжэнні кошту выданняў для рэгіянальных суполак. «Беларуская кніга з другой Рэчы Паспалітай таксама мела даволі шырокі распаўсюд на тэрыторыі Латвійскай Рэспублікі. ... Прадукцыя беларускіх выдавецтваў Латвіі адносна бесперашкодна трапляла ў Заходнюю Беларусь»[532].

Як адзначае Ю. Туронак, попыт на беларускую кнігу ў Заходняй Беларусі «захоўваўся на вельмі нізкім узроўні і ў прынцыпе абмяжоўваўся вузкімі коламі інтэлігенцыі»[533]. Так, сярод 363 пазіцый, прапанаваных на продаж у каталогу кнігарні «Пагоня» ў 1937 г., 43% складалі выданні, якія выйшлі да 1927 г., 17 з іх былі надрукаваны да 1917 г.[534]

Недахоп сродкаў і ўсталяванне паліцэйскай цэнзуры, узмацненне паланізацыі (асабліва ў 1934—1937 гг.) сталі асноўнымі прычынамі згортвання дзейнасці беларускіх кнігавыдавецтваў у Заходняй Беларусі ў асноўным з канца 1936 г.: Таварыства Беларускай Школы, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры; на пачатку 1938 г. (студзень) — Беларускі Нацыянальны Камітэт і інш. Да 1939 г. працягвалася кнігавыдавецкая праца ў Беларускім Каталіцкім Выдавецтве па выпуску рэлігійных кніг для беларусаў-католікаў.

Большая частка дзеячаў выдавецкай справы, якія добраахвотна пераехалі ў БССР, загінула ў савецкіх турмах і лагерах. У 1938—1939 гг. польскімі ўладамі ў Вільні таксама праводзілася рэпрэсійная палітыка ў адносінах да беларускіх дзеячаў: высылка з горада (у тым ліку Адама Станкевіча); арышты і пакаранні ў лагеры Бярозы-Картузскай (супрацоўнікі друкарні імя Францішка Скарыны Язэп Найдзюк і Альфонс Шутовіч).

Што тычыцца канфіскацыі беларускіх выданняў (у асноўным віленскім гарадскім стараствам), то, як адзначае Ю. Туронак, яна была адносна рэдкай з'явай[535]. Даследчыкам выяўлена і прыводзіцца 11 падобных беларускіх кніг[536], выпушчаных у 1923—1937 гг., сярод якіх не толькі грамадска-палітычная літаратура, але і мастацкія творы, напрыклад, Я. Быліны «Na pokuci» (1934), М. Машары «З-пад стрэх саламяных» (1937), М. Танка «На этапах» (1936); падручнікі — С. Паўловіча «Zasieŭki» (1937).

Пасля падзення II Рэчы Паспалітай і стварэння Літоўскай Савецкай Рэспублікі са сталіцай у Вільні (у 1940 г.) спрабаваў аднавіць выдавецкую дзейнасць у горадзе Адам Станкевіч. З прыходам савецкай улады рэпрэсіі супраць удзельнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння прадоўжыліся. Некаторыя з прозвішчаў арыштаваных і загінуўшых беларускіх аўтараў і выдаўцоў прыводзіць Ю. Туронак у сваёй працы «Беларуская кніга ў міжваеннай Польшчы, 1921—1939»[537], у рукапісе захаваўся складзены Адольфам Клімовічам біяграфічны слоўнік беларускіх дзеячаў міжваеннай пары[538], які патрабуе дадатковага вывучэння. У названай працы Ю. Туронка прыведзены каштоўны дадатак у выглядзе храналагічна-алфавітнага спісу кнігавыдавецкай прадукцыі за 1921—1939 гг. Аднак нават з улікам і іншых дапаўненняў, напрыклад, Андраніка Антаняна ў часопісе «Arche» (2005, № 5), у якім дадаюцца яшчэ 27 назваў, спіс беларускіх кніг за дадзены час застаецца далёка не поўным[539]. Пэўную частку выданняў, якія не былі ўлічаны, складаюць каталогі беларускіх кнігарняў і выдавецтваў [напрыклад, «Каталёг Беларускае Кнігарні (Беларускага Выдавецкага Таварыства)]. Выданьні 1922—1924». Вільня, б. г. 15 с.), вучэбна-метадычная і грамадска-палітычная літаратура, а таксама штогоднікі, календары, лістоўкі, унутраныя выданні грамадскіх арганізацый і інш.

«Усё ж варта прызнаць, што ў 1920-я — 1930-я гг. у Заходняй Беларусі асноўным і адзіным рэгулярным каналам пашырэння беларускага слова служыў перыядычны друк, а роля кнігі была і трактавалася сучаснікамі як дапаможная»[540].







*Першы беларускі гумарыстычны каляндар на 1930 г.*

*Беларускі сялянскі каляндар. 1939 г.*

**Выпуск кніжнай прадукцыі ў Заходняй Беларусі ў 1921—1939 гг.**[541]

Заўвага. Пад лічбамі пазначаны:

1 — мастацкая літаратура; 2 — рэпертуарная літаратура і спеўнікі; 3 — рэлігійная літаратура; 4 — грамадска-палітычная, сацыяльна-эканамічная літаратура; 5 — школьныя падручнікі і педагагічная літаратура; 6 — мовазнаўства, літаратуразнаўства, асвета і культура; 7 — іншая літаратура[542] .

*Табліца 4*

| Год | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1921 | 2 | 5 | 2 | 5 | 12 | 5 | 8 | 39 |
| 1922 | 2 | 5 | 1 | 2 | 6 | - | - | 16 |
| 1923 | 9 | 3 | - | 4 | 7 | 1 | 2 | 26 |
| 1924 | 4 | 4 | - | 2 | 7 | 4 | 5 | 26 |
| 1925 | - | 2 | 4 | 2 | 3 | 1 | 1 | 13 |
| 1926 | 8 | 5 | 6 | 6 | 4 | 1 | 4 | 34 |
| 1927 | 16 | 15 | 7 | 1 | 6 | 1 | 3 | 49 |
| 1928 | 17 | 8 | 8 | 4 | - | 3 | 6 | 46 |
| 1929 | 13 | 6 | 5 | 7 | 7 | 3 | 2 | 43 |
| 1930 | 8 | 1 | 5 | 3 | 2 | 1 | 2 | 22 |
| 1931 | 6 | 1 | 2 | 6 | 3 | 1 | 1 | 20 |
| 1932 | 3 | 1 | 5 | 6 | 2 | 1 | 4 | 22 |
| 1933 | 5 | 4 | 4 | 9 | - | 5 | - | 27 |
| 1934 | 6 | 1 | 4 | 3 | - | - | - | 14 |
| 1935 | 6 | 3 | 5 | 2 | 2 | 1 | 4 | 22 |
| 1936 | 3 | 4 | 3 | 2 | 4 | 3 | 1 | 20 |
| 1937 | 5 | 10 | 2 | 2 | 2 | 2 | 5 | 28 |
| 1938 | 1 | 2 | 4 | 2 | - | 1 | 3 | 13 |
| 1939 | 3 | - | 3 | 2 | - | 1 | 5 | 14 |
| Усяго | 117 | 80 | 70 | 70 | 68 | 36 | 56 | 495 |

# МАСТАЦТВА ДАВАЕННАЙ КНІГІ

У перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі кніжнае мастацтва Беларусі перажыло некалькі хваль развіцця. Самая першая — кароткая і рэвалюцыйная — была звязана з віцебскім мастацкім аб'яднаннем «УНОВИС» («Сцвярджальнікі новага мастацтва»), удзельнікі якога стварылі прынцыпова новы — авангардны — вобраз кніжнага афармлення. Класічнымі ўзорамі кніжнага авангардызму сталі выдадзеныя ў Віцебску ў 1920 г. тэарэтычная брашура з тэкстам і малюнкамі Казіміра Малевіча «Супрематизм. 34 рисунка», афармлены І. Чашнікам і Л. Хідэкелям літаграфаваны зборнік артыкулаў «АЭРО» і альманах «УНОВИС №1» з дызайнам Эля Лісіцкага (псеўданім Лазара Лісіцкага)[543]. У рэвалюцыйныя і галодныя 1920-я гг. авангардысты рушылі з заклікам маладога савецкага чыноўніка і малавядомага на той час мастака, упаўнаважанага па справах мастацтва Віцебскай губерні Марка Шагала. Заклік быў надрукаваны 16 студзеня 1919 г. у газеце «Витебский листок»: «Шырэй дарогу ўсяму рэвалюцыйнаму, рашуча ламайце ўсё старое і на абломках старога стварайце грандыёзны будынак новага!».

Асноўнай друкарскай прадукцыяй у гады Першай сусветнай і польска-савецкай войнаў разам з газетамі былі ілюстраваныя лістоўкі — плакаты, якія выходзілі як самастойныя выданні (першы беларускі савецкі плакат «Цар, поп і кулак» выйшаў у Маскве ў 1918 г.), так і серыяльна, пад агульнай назвай «Вокны Расійскага тэлеграфнага агенцтва» (РОСТА). У Магілёве плакаты выпускаў палітаддзел 16-й арміі, у Смаленску — выдавецтва Заходняй ваеннай акругі, шмат плакатнай прадукцыі выйшла ў Віцебску, дзе над ёй працавалі мастацка-вытворчыя майстэрні пад кіраўніцтвам выдатнага графіка С. Юдовіна. У Гомелі плакаты выдавалі ГомельРОСТА, плакатная майстэрня прафсаюза работнікаў мастацтва і інш.[544] У 1920 г. у Віцебску плакатныя ілюстрацыі на лінолеуме пачалі прымяняць для ілюстравання газет — апавяданне пра тое, як з'явілася гэта тэхнічная навіна, надрукаваў першы нумар часопіса віцебскага аддзялення РОСТА:

«Гісторыя аднаго клішэ.

Віцебскае аддзяленне Роста, паспрабаваўшы ўсе віды клішэ, спынілася на лінолеумным, як найбольш падатлівым і эластычным. Адзін час мы карысталіся паслугамі мясцовых гравёраў, якія рабілі нам надзвычай тапорныя і цяжкія клішэ з волава альбо цынка, аднак гэтыя клішэ па-першае, толькі здалёк нагадвалі патрэбны нам малюнак, зкаверканы і спрошчаны да немагчымасці, а, па-другое, «знаходзіліся ў рабоце» не меньш дзесяці дзён…

Нашмат скарэй, ледзь не за два дні, рабіліся драўляныя клішэ, якія перадавалі заказаны малюнак амаль дакладна. Аднак лепш за ўсё — клішэ, што выразана на лінолеуме.

Яно па хуткасці вырабу пераўзыходзіць цынкавыя клішэ, вырабленыя ў «сапраўднай цынкаграфіі». Гадзіны, а часам і паўгадзіны патрэбна на тое, каб дадзены вамі малюнак быў пераведзены на лінолеум.

Спачатку мы баяліся даверыцца далікатнаму і «жаночаму» лінолеуму, ставячы яго толькі ў плакат, які друкаваўся ў невялікай колькасці паасобнікаў. Калі мы ўпершыню адважыліся паставіць лінолеумнае клішэ ў паласу газеты з тыражом пяць тысяч экзэмпляраў, то, на ўсялякі выпадак, запасліся яшчэ трыма паўторнымі клішэ, каб у выпадку паломкі мець магчымасць адразу ж замяніць «адпрацаваны» малюнак запасным. Аднак нашы страхі не падцьвердзіліся. «Паралельныя» клішэ засталіся нявыкарыстаныя. Гэты вопыт акрыліў нас, і зараз мы не толькі ставім лінолеумнае клішэ ў газеты, але і пасылаем яго, пасля выкарыстання, у нашы павятовыя аддзяленні.

Змешчанае тут клішэ мае багатае мінулае: яно было заказана для плаката «Апошняя прамова тав. Леніна», надрукаванага ў пяці тысячах экзэмплярах; праз месяц яно з'явілася ў насценнай газеце Роста, тыраж якой — 1000 экзэмпляраў, а за гэтым — у выдадзеным Вітроста аднадзённым часопісе, прысвечаным «Тыдню Селяніна» і надрукаваным у 8000 экзэмплярах; гэтае ж клішэ чэсна саслужыла службу газеце «Факел» (Сенна) і газеце «Молот» (Невель), куды яно было выслана па патрабаванню рэдактараў.

Мытарствы гэтага клішэ на гэтым не скончыліся. Прыбыўшы «на месца» ў Віцебск, яно ўпрыгожвае сабой адозву «Да рабочых і сялян» і, нарэшце, трапляе, як узорнае, у часопіс Вітроста.

Такім чынам гэта сціплае клішэ вытрымала каля трыццаці тысяч экзэмпляраў розных выданняў, і думаецца, што гэтым не скончыцца яго бурлівае, поўнае нечаканасцяў і багатае на прыгоды жыццё»[545].




*Вокладка кнігі Я. Купалы «Шляхам жыцця». Вільня, 1923 г.*




*Часопіс «Беларуская работніца і сялянка» № 1. 1924 г.*

Апроч Віцебска ў стылі авангардызму працавалі мастакі: у Гомелі — А. Быхоўскі, у Мінску — А. Ахола-Вало, П. Гуткоўскі, Ю. Ізмайлава, Б. Малкін, Я. Тарас. Выданне плакатаў у Савецкай Беларусі спынілася пасля пастановы ЦК КП(б)Б ад 1931 г. аб перадачы правоў на гэты від прапагандысцкай прадукцыі выдавецтву «ОГИЗ — ИЗОГИЗ», якое дзейнічала ў Маскве і Ленінградзе. Адзін з апошніх перадваенных беларускіх плакатаў «Аздараўленне мас ёсць верныя вытокі для сапраўднага і вельмі прыгожага жыцця» (1938—1939) выканаў Павел Гуткоўскі.

Для мінскіх мастакоў кнігі буйнейшым заказчыкам стала Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. У 1921—1929 гг. яго прадукцыя аздаблялася па мінімуму: малявалася кідкая вокладка-плакат і на гэтым досыць. Вокладка магла быць выканана і ў авангардысцкім, і ў рэалістычным стылях, з'явіліся варыянты спалучэння на ёй тэхнічных магчымасцей фатаграфіі і рознага малюнка шрыфтоў. Звычайнай практыкай было выкананне вокладкі кнігі адным мастаком, а ілюстрацый да яе тэксту — іншым. Багата аздобленыя выданні, з ілюстрацыямі па тэксце, напрыклад, «Дэкламатар Чырвоны Дудар», з'яўляліся вельмі рэдка, аднак існавала выключэнне — кнігі для дзяцей беларускія выдаўцы імкнуліся заўсёды рабіць з малюнкамі, а для самых маленькіх — пераважна са шматколернымі ілюстрацыямі і мастацкімі вокладкамі.

Вакол Белдзяржвыдавецтва паступова склалася кола прафесіяналаў, пераважна графікаў, са спецыялізацыяй у афармленні кнігі. Плённа працавалі А. Ахола-Вало, П. Гуткоўскі, Г. Змудзінскі, А. Тычына, М. Філіповіч, В. Літко. Здаралася, што кнігі аздаблялі мастакі іншых жанраў — гэта мог быць, прыкладам, скульптар З. Азгур, альбо жывапісец І. Ахрэмчык. Адным з найбольш таленавітых быў ураджэнец Мінска Валяр'ян Дваракоўскі (1904—1979). Вокладкі для кніг Белдзяржвыдавецтва ён пачынаў рабіць яшчэ ў 1925 г., найбольш раннія з іх — да кнігі «Два» А. Вольнага (1925), «Выбраных апавяданняў» (1926) і «У глыбі Палесься» (1927) Я. Коласа. Адначасова Валяр'ян супрацоўнічаў з мінскімі часопісамі, вучыўся ў Ленінградзе на графічным факультэце Вхутемаса (1924—1929). Атрымаўшы прафесійную адукацыю пад кіраўніцтвам З. Мітрохіна і У. Канашэвіча, В. Дваракоўскі прынёс у беларускую кнігу настроі і вобразнасць мастацкай групоўкі «Мир искусства» — гэта праявілася ў аздобе кніг «Прыгоды Васьмінога» (1928), «У віры жыцця» М. Зарэцкага (1929), «Сымон-музыка» Я. Коласа (1928). Віртуозна авалодаўшы ўсімі сродкамі кніжнай графікі, надзелены багатай фантазіяй і бездакорным адчуваннем стылю,

В. Дваракоўскі хутка набыў рэпутацыю майстра і стаў першым галоўным мастаком Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Ён стварыў шэраг класічных прац, у якіх выявілася новае разуменне ансамбля кнігі, плакат В. Дваракоўскага «Падпісвайцеся на перыядычныя выданні БССР» (сярэдзіна 1920-х гг., тыраж 10 000 экз.) застаецца класічнай працай рэкламнага жанру. Пасля распачатых у Мінску палітычных рэпрэсій В. Дваракоўскі пераехаў ў Ленінград, дзе стварыў ілюстрацыі да «Казак» Ш. Перро (1936), зборніка «Гусі-лебедзі» (1937), «Выбраных сачыненняў» У. Шэкспіра (1938), «Навел» Л. Фейхтвангера (1938) і інш. У гады Другой сусветнай вайны мастак працягваў працаваць у блакадным горадзе, выканаў ілюстрацыі да «Вечароў на хутары блізка Дзіканькі» М. Гогаля (1943) і «Выбранага» Г. Ахматавай (1945, не выдадзена), а таксама да «Запісак пра Шэрлака Холмса» А. Конан Дойла (1946), у якіх ён змог апярэдзіць будучыя стылістычныя шуканні мастакоў кнігі 1950—60-х гг. Аднак цяжкая душэўная хвароба, якая пачалася яшчэ ў гады вайны, перарвала яго творчасць.

Апрача традыцыйнай ілюстрацыі ў канцы 1920-х гг. мастакі кнігі пачынаюць прымяняць для вокладкі фотаілюстрацыю. Сімвалічна пачынае гэту лінію фотаздымак дарогі на вокладцы віленскага выдання кнігі Янкі Купалы «Шляхам жыцця» (беларускі аддзел «Віленскага выдавецтва» Б.А. Клецкіна, 1923 г.).

У Мінску прыклад падаў Павел Гуткоўскі, які выкарыстаў фотамантаж для вокладкі часопіса «Беларуская работніца і сялянка» (№ 14 за 1925 г.): 30 партрэтаў жанчын-сялянак былі ўманціраваны ў малюнак серпа. Пазней ён аздобіў фотаздымкамі дзіцячую кніжку А. Зіміонкі «Працавітая дзяўчынка» (1928), якая была надрукавана ў прафтэхшколе Беларускага дзяржаўнага выдавецтва тыражом 5 тысяч экзэмпляраў. Аздабленне фатаграфіяй і фотамантажом дзіцячай кнігі ў сярэдзіне 1920-х гг. толькі ўваходзіла ў моду ў выдавецтвах Савецкага Саюза[546].

Спалучэнне фотаздымкаў і малюнкаў прымяніў В. Дваракоўскі для афармлення кнігі Іларыёна Барашкі «Асінстан» (1931). Выданне прысвечана будаўніцтву электрастанцыі ў вёсцы Арэшкі, на поўнач ад Оршы (зараз рабочы пасёлак Асінторф Дубровенскага раёна Віцебскай вобл.). Асінстан (пабудова электрастанцыі пачалася тут у 1927 г.) стаў для Беларусі сімвалам прагрэсу і тэхналагічнай навіны. Гэта будоўля ішла паралельна з пабудовай ва Украіне Днепрагэсу — буйнейшай электрастанцыі Савецкага Саюза, аднаго з галоўных аб'ектаў плана ГОЭЛРО (пачалося ў 1927 г., першы агрэгат запушчаны ў 1932 г.). Вёска Арэшкі згубілася паміж балотаў — мясцовае радовішча торфу павінна было даць паліва для электрастанцыі. Аўтар апавядае, як людзі пераўтвараюць вёску, што стаяла на багне, будуюць магутную электрастанцыю і сучасны пасёлак энергетыкаў з двухпавярховымі (!) дамамі. У ілюстрацыях кнігі старое — ад развaленай хаты — перадаецца малюнкам, а новабудоўля і балота — фатаграфіяй. Набраныя розным шрыфтам вершаваныя лозунгі дадаюць пафасу, чаго, у рэшце, і дамагаўся мастак.

Працягам тэмы электрыфікацыі была дзіцячая кніжка Белдзяржвыдавецтва з перакладам верша С. Маршака «Вайна з Дняпром» (1934) з малюнкамі А. Заборава[547], а пачынала гэту




*Вокладка часопіса «Чырвоная краіна» з фотамантажом.*




Мастацкая
апрацоўка
Якуба
Коласа
аўталітаграфія
мастака Г. Змудзінскага
вокладка
М. Ізраільскага

*Малюнкі Г. Змудзінскага да кнігі «Леў і воўк». Мінск, 1928 г.*

тэму ў 1929 г. кніга з аўтарскай казкай таго ж І. Барашкі «Залатыя арэхі» — малюнак Асінбуда (чырвонай фарбай) і чырвонай электралямпы выразна кантрастуе на яе вокладцы з відам чорнай вёскі на балоце.

У 1930-я гг. ужыванне фатаграфіі стала модай — фотамантаж выкарыстоўваюць В. Дваракоўскі ў вокладках кніг «Чырвонаштандарная» С. Івы (1930), «Гарэлка — атрута беднаты» І. Страшуна (1930), Яфім Тарас — «Прыгожае жыццё» А. Курэлы (1931), Б. Малкін у вокладцы часопіса «Чырвоная Беларусь» (1930) і іншыя мастакі. Фотаздымкі прысутнічаюць на вокладках кніг, каб паказаць пафас сацыялістычнага будаўніцтва — мантаж лініі электраперадачы (Аркадзь Лясны «Вялікае нараджэнне») альбо засваенне паветранай прасторы — механік пры прапелеры магутнага самалёта (Ф. Князеў «Камсамол на самалёт!») і інш.

Адносна выкарыстання фатаграфіі выказваліся і крытычныя заўвагі: «…на нашых вокладках самалёты ня імкнуць наперад, а вісяць у паветры, машына не працуе, а толькі існуе і ўдарнік не жывы, сапраўдны ўдарнік, бо фатаграфіі статычных форм не па сіле перадаць дынаміку, — пісала ў 1932 г. маладая супрацоўніца Дзяржаўнай бібліятэкі Ніна Ватацы. — Возьмем, напрыклад, вокладку мастака Тараса для зборніка Лужаніна «Аднагалосна». Намаляваны ўзьнятыя ў гару рукі. Думка зусім правільная, але з тае прычыны, што рукі намаляваны абязьлічаныя, усе як адна і бяз усякай дынамікі, вокладка ня робіць на нас таго ўражання, якое яна павінна была рабіць. Замест дынамічна ўзнятых угару працоўных рук, намалёваны зусім статычныя пасьці рук, зьмешчаныя адна пры аднэй»[548].

Аздоба кнігі ў першай чвэрці XX ст. была полем смелых эксперыментаў шмат каго з беларускіх мастакоў як у Савецкай, так і ў Заходняй Беларусі. Выразным прыкладам з'яўляецца афармленне Б. Малкіным кнігі Янкі Маўра «Пекла» (Менск, Белдзяржвыдавецтва, 1929 г.). Антырэлігійная аповесць, у якой два піянеры назіраюць за тым, што адбываецца ў пекле, ілюстравана гумарыстычна-сур'ёзнымі выявамі рознага калібру д'яблаў, розных

の性質を有つてゐる。ミンスクの文化的に解放されたのは革命後の事で、革命前には白ロシヤの言語さへも公用語としては許されなかつた位であつた。それゆゑ革命前までの農村生活と、革命後のそれとの間には非常な變化が起つてゐるに相違ないと私は想像した。私の農村訪問の意味はその點にあつた。

三時近くに私の宿つてゐるホテル・ヨオロプの前に大きな二頭引きの客橇が來た。スネシコ君は雪が深く自動車がきかないので橇にしたのだと辯解してゐたが、私にはこの見慣れない大きな橇の方が一層うれしかつた――。「レフ」のシュカイラ君が「ヌ、パ、パ、パイチヨーム！」(さあ、ゆかう！)と、叱りながらいつて私を抱きかゝへるやうにして橇に乘つた。スネシコ君は私の左に座を占めた。「パスカレー」とシュカイラ君がよぶと、むちが上つて二頭の馬がミンスクの大通りを走りだした。通行人は立ちどまつて不思議さうにこの大橇を見てゐた――シュカイラ君は途中で自分の家から長い上靴をとりだして私の靴の上へはめてくれた。



白ロシヤの農村

七四

ソウエートの農村生活

馬はミンスクの郊外へ出る時に盛んにうしろから發砲して旅に出る事を知らせてくれた。私達は冷めたい鼻をつまみながら幾度もうなづいた。橇の響の上を走る感じは二十幾年間も私は忘れてゐた。明るい眞ッ白い廣野が私達の周圍にひろがつて來た。馬蹄の響につれてその形をした雪片が私の頰片を打つ。三露里も來たと思ふ頃に、道の前方左手に美しい大並木の走つてゐるのが見えた。シュカイラ君は、その並木はイカテリナ二世の時に植ゑたものだと教へてくれた――私は札幌のポプラの並木を思ひだして見たが、觀念に少しも類似點を見出す事ができなかつた――スネシコ君はあの並木のかげにも立派な模範村があるとつけ加へた。

私達の橇は大きな坂を下りてちいさな小川の橋を渡つた。川の前方には大きなスロープがある。この




白ロシヤの組織された婦人

七五

*Малюнкі Г. Змудзінскага ў кнізе японскага пісьменніка Удзяко Акіты «Расія маладая». Токіа, 1929 г.*

праяў «тагасветна-сацыяльнага» жыцця. Мастак змяшчае ў «пякельныя» краявіды лозунгі-заклікі, кшталтам: «Пакінь надзею!», «Досыць!», што можна трактаваць і як з'едлівы здзек над лозунгамі сучаснасці. А выява ўсмешкі Люцыфера на вокладцы кнігі адразу робіць чытача наведвальнікам гэтага музея чарцей. Гратэскнае адлюстраванне вобраза рэчаіснасці прысутнічае і на вокладцы кнігі аўтара, схаванага за ініцыяламі МР «Палажэнне спажыўца» (Вільня, 1927 г.). Кампазіцыя прадстаўляе з сябе распрацоўку сюжэта пра эксплуатацыю чалавека (магчыма гэта вясковец, магчыма — гарадскі пралетарый), абутага ў чаравік з атадраным абцасам. Чалавек, сціснуўшы зубы і ледзьве трываючы, ляжыць пад пірамідай эксплуататараў: агента, крамніка, гуртоўніка і спекулянта. Усе фігуры падпісаны, а лента рэменя, на якой зроблены надпісы, заканчваецца звычайнай спражкай звычайнага бручнага рэменя — быццам бы намёкам на тое, што час скінуць гэту піраміду дармаедаў, апранутых тым лепш, чым вышэй сядзіць кожная буржуйская асоба, і, скінуўшы, яшчэ добра ўрэзаць кожнаму з іх рэменем. Імя мастака не названа.

Да сярэдзіны 1930-х гг. плённа працаваў для беларускай кнігі Генадзь Змудзінскі (1897—1938), які быў выдатным рысавальшчыкам. Яго малюнкі да дзіцячых кніг «Звяры нашых лясоў» А. Зіміёнкі і казкі «Леў і воўк» у апрацоўцы Якуба Коласа (абедзве не датаваныя, верагодна, 1928 г.) можна смела называць шэдэўрамі анімалістычнага жанру свайго часу. Г. Змудзінскі аздабляў самыя розныя выданні Белдзяржвыдавецтва і Галоўпалітасветы — кнігі серыі «Сялянская бібліятэка» і ваенную літаратуру, мастацкія творы беларускіх і замежных пісьменнікаў і лемантары (буквары) для непісьменных. Большасць яго прац падпісаны ініцыяламі «Г.З.» альбо поўным прозвішчам: «Г. Змудзінскі». Японскі пісьменнік Удзяко Акіта, які наведаў Мінск у 1928 г., выкарыстаў малюнкі Г. Змудзінскага ў прысвечаных Беларусі главах сваёй кнігі «Расія маладая» (Токіа, 1929 г.).

Асноўным прафесійным заняткам мінчука Міхася Філіповіча (1896—1947) заставаўся




*Вокладка часопіса «Нізавы партработнік» № 2. 1933 г.*

жывапіс, але выданні, якія ён аформіў, сталі знакавымі для беларускага кніжнага мастацтва 1920-х гг.[549] Найперш гэта паэма Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы», што выйшла ў мінскім кааператыўным выдавецтве «Адраджэнне» (1922) — першая ілюстраваная кніга, надрукаваная ў Мінску пасля выгнання з горада белапалякаў. Дзесяць пастаронкавых ілюстрацый вельмі неаднародныя і не заўсёды прафесійныя (малады мастак у гэты час вучыцца яшчэ толькі на першым курсе Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрняў у Маскве). Аднак лепшыя з гэтых зробленых пяром малюнкаў не толькі добра адпавядаюць зместу ілюстраванага тэксту, але і маюць уласную эмацыянальную моц. А ілюстрацыі дзіцячай казкі «Як жабы абараніліся ад бусла» (1928) паказваюць ужо сталага майстра — у 1927 г. М. Філіповіч быў удзельнікам савецкага павільёна міжнароднай кніжнай выстаўкі «Мастацтва кнігі» ў Германіі.

Сярод мастакоў, якія плённа супрацоўнічалі з Белдзяржвыдавецтвам у перадваенныя гады Яфім Тарас (1910—1981), Барыс Малкін (1908—1972), Валянцін Ціхановіч (1909—1978), Анатоль Тычына (1897—1986), Анатоль Волкаў (1908—1985). Кожны з іх пакінуў немалую спадчыну не толькі ў выглядзе афармлення кніг, якія зараз для многіх з'яўляюцца прадметам калекцыяніравання, але і малюнкаў у газетах і часопісах, плакатаў, станковай гравюры, жывапісу альбо, як Б. Малкін, у выглядзе афармлення тэатральных пастановак[550]. Многія мастакі спрычыніліся да адраджэння традыцыі беларускага экслібрыса[551]. На спецыяльнай выстаўцы кніжнай графікі ў Мінску ў 1934 г. экспанаваліся творы больш як сарака беларускіх мастакоў-кніжнікаў. Ёсць шэраг мастакоў, творчая біяграфія якіх не даследавана, але ад якіх засталіся таленавітыя творы. Да гэтага шэрага можна аднесці А.К. Пузынкевіча, аўтара ілюстрацый (каляровая літаграфія) да беларускай народнай казкі «Пчала» ў мастацкай апрацоўцы Якуба Коласа (Менск, 1929) і Янку Кашкеля, аўтара ілюстрацый да казкі «Два Марозы» (Мінск, 1928?) і інш.

З развіццём перыядычнага друку беларускія мастакі прымалі ўдзел у афармленні грамадска-палітычных, гаспадарчых, літаратурных і дзіцячых часопісаў, вокладкі і старонкі якіх кожны месяц (ці нават часцей, у залежнасці ад перыядычнасці выдання) выконвалі ролю і рэкламнай тумбы, і творчай палітры, і выстаўкі адной працы. Партыйныя часопісы трымаліся строгага стылю, хаця таксама мянялі афармленне. Наколькі праца мастака змяняла выгляд партыйнага выдання ў лепшы бок відаць на прыкладзе органа ЦК КП(б)Б, часопіса «Бальшавік Беларусі», заснаванага ў 1927 г. Першыя тры нумары гэтага часопіса выйшлі з наборнай назвай на вокладцы, а пачынаючы з № 4 — з надпісамі, зробленымі спецыяльна шрыфтам, распрацаваным мастаком Паўлам Гуткоўскім.

Аднастайнасць і невыразнасць партыйных часопісаў «Большэвіцкі друк», «За ленінскую вучобу», «Ленінская вучоба» і інш., парушае хіба што плакатнае аблічча вокладкі органа гомельскага гарадскога камітэта КП(б)Б, часопіса «Нізавы партработнік»: верхнюю частку яе прасторы займае чырвоны сцяг з профілямі творцаў камуністычнай ідэалогіі — К. Маркса, Ф. Энгельса, У. Леніна і І. Сталіна.

Масавыя ілюстраваныя часопісы распрацоўвалі сваё мастацкае афармленне ў іншым ключы. Кожны наступны нумар — новая, прывабная і кідкая вокладка — такі быў

тэмп для часопісаў «Малады араты», «Чырвоная Беларусь», «Беларуская работніца і сялянка», «Іскры Ільліча», «Беларускі піонэр». Асаблівае аблічча часопісу сялянскай моладзі «Малады араты» надавалі працы Аляксандра Ахола-Вало (1900—1997) — фіна па паходжанню, які вучыўся мастацтву ў Петраградзе, Віцебску і Адэсе. Створаныя ім вобразы — вясковага гарманіста, ці дзяўчат, якія спяваюць, ідучы з дажынак, — вельмі рамантычныя і вельмі своеасаблівыя, падобныя на фінскія. Таленавіты мастак, А. Ахола-Вало для часопіса «Беларускі піонэр» не толькі маляваў вокладкі, але змясціў там сваё напісанае па-беларуску апавяданне «Пастушок-мастак. З жыцця дзяцей у Заходняй Беларусі» з уласнымі ілюстрацыямі. Вядома таксама пяць кніг, афармленых гэтым майстрам да яго ад'езду ў Фінляндыю ў 1931 г. (творы К. Чорнага, П. Труса, Я. Коласа, А. Александровіча, А. Вольнага)[552].

Палітыка розных рэдакцый беларускіх міжваенных часопісаў адносна выгляду выдання была неаднолькавая. «Іскры Ільліча», «Беларускі піонэр», «Наш край», «Маладняк», «Чырвоная Беларусь» часта мянялі вокладку, павольна эвалюцыяніравала (змяніўшыся некалькі разоў напрацягу гісторыі часопіса) афармленне «Полымя», а вось часопісы «Узвышша», «Шляхі калактывізацыі», «Плуг», «Чырвоны сьцяг» распрацавалі модуль афармлення і існавалі, трымаючыся дасягнутага. Прыкладам, «Плуг» змяняў колер вокладкі, пакідаючы нязменным малюнак плуга на ёй, а «Шляхі каляктывізацыі», пакідаючы нязменным малюнак назвы, змянялі колер вокладкі і тэму фотаздымка на ёй. Часта выданне не паспявала знайсці сваё аблічча: альманах «Росквіт» шукаў сябе і спыніўся ў 1928 г. на другім нумары.

Беларускае грамадства чакала новыя кніжныя выданні, пасля іх выхаду амаль заўсёды зяўляліся рэцэнзіі, у якіх часам некалькі слоў было прысвечана мастацкаму афармленню кнігі. Напрыклад: пра кнігу А. Дылы «Фабрыка Акцябр» (расказ для дзяцей пра швейную фабрыку, Мінск, 1933 г., мастак у выданні не названы) рэцэнзент напісаў: «Вялікую прымітыўнасць гэтай кніжкі яшчэ больш паглыбляюць тыя неахайныя грубыя малюнкі, якія зроблены невядомай рукой нейкага невядомага мастака»[553]. «Пытаньне пра вокладку вельмі сур'ёзнае і насьпелае. Зьмяшчаючы артыкул т. Н.В. пра вокладку выданьняў ДзВБ, рэдакцыя чакае водгуку нашых чытачоў у выглядзе як агульных артыкулаў, так і рэцэнзій на паасобныя вокладкі» — зазначана ў майскім нумары часопіса «Кніга — масам» за 1932 г. ва ўступе да артыкула супрацоўніцы Дзяржаўнай бібліятэкі Беларусі Ніны Ватацы. У артыкуле, між іншым, зазначана: «У апошні час з'явілася шмат вокладак з малюнкамі трактароў, заводаў, дэталямі машын і г.д., адпаведных зместу літаратуры. Але гэтыя вокладкі не робяць на нас ніякага ўражання з прычыны сваe немастацкасці. Мы добра ведаем, што ні сухі чырцёжны рысунак, ні дакладная копія

*Вокладкі часопіса «Шлях калектывізацыі».*





*Малюнак мастака Абрамава ў кнізе З. Бядулі «Вясной». Мінск, 1928 г.*




*Вокладка часопіса «Трыбуна мастацтва» № 1. 1925 г.*

(фатаграфаванне) не дасягаюць мэты, бо не даюць вобразу. А мастакі Бел. Дзярж. Выдавецтва якраз робяць гэту памылку. Большасць з іх у тых выпадках, калі малююць вытворчасць, імкнецца зрабіць копію з натуры і атрымліваюцца слабыя, нявыразныя, без падкрэсленае думкі абязлічаныя малюнкі. Яны горшыя за здымкі, бо мастак — не фотаапарат, і не мастацкія, бо мастак фатаграфаваў. Такія малюнкі абсалютна не выяўляюць аблічча кнігі. Калі мы, напрыклад, малюнак з вокладкі Дудзіна да кнігі Садоўскага «Рукамі ўдарнікаў» заменім малюнкам з вокладкі Паўлоўскага да кнігі Журскага «Малады трактарысты», дык нічога ня страцім, бо абедзьве вокладкі ня маюць яскравага аблічча, хоць творы якраз маюць яго»[554].

Нельга не пагадзіцца з мастацтвазнаўцам М. Баразной, які са шкадаваннем адзначыў: «На вялікі жаль, шмат са спадчыны кніжнага мастацтва першай палавіны XX стагоддзя, а гэта найперш унікальныя выданні невялікага тыражу, загінулі падчас Вялікай Айчыннай вайны»[555]. Аднак гэта выснова — толькі частка праўды. Другая сусветная вайна знішчыла ў Беларусі толькі частку таго, што стварылі кніжнікі. Шматлікія «унікальныя выданні невялікага тыражу» яшчэ да вайны былі выключаны з продажу і з фондаў бібліятэк, а часам узяты адразу з-пад друкарскага варштату і знішчаны савецкай цэнзурай. Тое, што заставалася ў прыватных кнігазборах, гаспадары знішчалі самі, баючыся рэпрэсій за захаванне забароненых кніг рэпрэсіраваных аўтараў, рэпрэсіраваных мастакоў, рэпрэсіраваных выдаўцоў… Аднак знішчыць кнігі не змаглі ні цэнзура ні вайна. Выратавальнай стала сістэма абавязковага экзэмпляра, якая ахоплівала ўсе бібліятэкі СССР. У выніку, напрыклад, захаваны ў Азербайджанскай цэнтральнай дзяржаўнай бібліятэцы ў Баку экзэмпляр кнігі Змітрака Бядулі «Вясной» з малюнкамі мастака Абрамава пасля Другой сусветнай вайны быў перададзены на радзіму — ва Урадавую бібліятэку БССР; у фондах Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Пецярбургу і Дзяржаўнай бібліятэкі Расіі ў Маскве засталіся шматлікія выданні з тых, што ў Мінску былі рупліва вынішчаны і адсутнічаюць дасёння.

Акрамя масавай кніжнай прадукцыі і малатыражных спецыяльных выданняў у канцы 1920-х гг. з'явіліся першыя беларускія бібліяфільскія выданні. У лепшых традыцыях кніжнай культуры выканана выданне нарыса І.П. Фурмана «Віцебскія мастакі граверы» (1928), якое аздобіў Яфім Мінін. Брашура выйшла тыражом 60 экзэмпляраў, усе гравюры зроблены з арыгінальных дошак. Тэкст прысвечаны тром вядучым віцебскім гравёрам гэтага часу: Зіновію Гарбаўцу, Яфіму Мініну і Саламону Юдовіну. Надрукаваны лепшыя гравюры кожнага з іх. Гэта бездакорнае вы-










*Старонкі брашуры І.П. Фурмана «Віцебскія мастакі-гравёры». Віцебск, 1928 г.*

данне — помнік таленту і густу віцебскіх майстроў. У раздзеле, прысвечаным Я. Мініну, аўтар паведамляе, што мастак толькі ў 1926 г. заняўся гравюрай, але ўжо дамогся значных поспехаў: яго працы (выкананыя ў тэхніцы дрэварыту) дэманстраваліся ў 1927 г. на выстаўках у Ленінградзе, Маскве, Мінску, Лос-Анжэлесе і Віцебску, а ў 1928 г. — у Кіеве. Падкрэслена прыхільнасць Я. Мініна да віцебскіх краявідаў і яго піянерская роля ў стварэнні нацыянальнага беларускага экслібрыса (кніжныя знакі для А. Шлюбскага, М. Мялешкі, М. Каспяровіча). Зусім іншымі словамі і інтанацыямі ахарактарызавана творчасць Я. Мініна ў першым (здвоеным) нумары мінскага часопіса «Мастацтва і рэвалюцыя» за 1933 г. Рэдактар часопіса В. Вольскі, здавалася б, усяго-толькі акцэнтаваў увагу на адной няўдалай (на яго думку) працы мастака, якая была выстаўлена на 5-й усебеларускай мастацкай выставе. Аднак назва артыкула «Аб рэцыдывах нацыянал-дэмакратызму ў творчасці мастака Мініна» і разважанні пра «актывізацыю класава-варожых тэндэнцый» і пра «пэўныя рэцыдывы нацыянал-дэмакратычных канцэпцый» і прысутнасць у працы Мініна (гравіраваным экслібрысе для бібліятэкі Віцебскага краязнаўчага музея) «атрыбутаў нацдэмаўскай сымболікі» не пакідалі ў чытача сумненняў адносна палітычнай шкоднасці прац Я. Мініна. У фігуры сядзячага рыцара В. Вольскі ўбачыў намёк на «Пагоню» і апяванне «залатога веку», сілуэты архітэктурных помнікаў Віцебска палохалі яго, а прысутныя на экслібрысе профілі Леніна і Пушкіна былі таксама пастаўлены ў віну аўтару (за меншыя, адносна рыцара, памеры). Заканчваўся артыкул высновай: «…Мінін працягвае карыстацца ў сваёй творчасці нацдэмаўскай рэцэптурай. Сваёй працай Мінін … дапамагае спробам апошніх рэшткаў разбітых і разгромленых нацыянал-дэмакратычных элементаў аднавіць пад фальшыва-нацыянальным сцягам сваю антысавецкую работу і шкодзіць нацыянальна-культурнаму будаўніцтву». Выкладчык Віцебскага мастацкага вучылішча Яўхім (Яфім) Сямёнавіч Мінін быў абылганы і дыскрэдытаваны былым дырэктарам гэтага вучылішча Віталем Вольскім-Зэйдэлем. Расстралялі Яфіма Мініна 29.12.1937 г. Пасля Другой сусветнай вайны Віталь Вольскі стаў вядомым пісьменнікам, яго кнігі афармлялі іншыя мастакі.

За міжваенны перыяд у Беларусі так і не ўдалося стварыць стабільны мастацкі часопіс. Кожны з двух спецыяльных часопісаў па мастацтву, што выходзілі ў 1925 г. («Трыбуна мастацтва») і ў 1932—1933 гг. («Мастацтва і рэвалюцыя») праіснаваў нядоўга і не пакінуў прыкметнага следу. Рупарам і трыбунай творчай інтэлігенцыі заставалася заснаваная ў 1932 г. спецыяльная газета «Літаратура і мастацтва» (выдаецца дасёння).

# ПА РОЗНЫЯ БАКІ ФРАНТОЎ: БЕЛАРУСКАЯ КНІГА Ў ЧАС ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ (1939—1944 ГГ.)




*П. Бакач. Падручнік нямецкай мовы для беларусаў. Берлін, 1941 г.*

Паводле пазіцый сучасных даследчыкаў гісторыі кнігі, у прыватнасці Ю. Туронка[556], В. Герасімава,[557] правамерна вылучыць як дадзены этап: 1939—1944 гг., так і наступныя два асноўныя перыяды кнігавыдання на гэтым этапе, цесным чынам звязаныя з ваеннымі падзеямі: першы — з пачаткам Другой сусветнай вайны — 1 верасня 1939 г. — 22 чэрвеня 1941 г. (пачатак Вялікай Айчыннай вайны); другі — з поўнай акупацыяй БССР — чэрвень—жнівень 1941 г. — ліпень 1944 г. (канчатковае вызваленне БССР).

Яшчэ да пачатку Другой сусветнай вайны, да жніўня 1939 г., у нямецкіх планах ваенных аперацый супраць Польшчы была ў тым ліку і арганізацыя на беларускіх і ўкраінскіх тэрыторыях Рэчы Паспалітай дыверсійных дзеянняў, адным з якіх з'ўляўся друк для насельніцтва адпаведнай прапагандысцкай літаратуры на беларускай і ўкраінскай мовах.

Тэрыторыя перастаўшай палітычна існаваць у верасні 1939 г. Польскай дзяржавы пераўтварылася ў акупіраваную зону, названую немцамі Генеральная губерня. Беласточчына адышла да Заходняй Беларусі. У Вільні журналістамі з Мінска было арганізавана кароткатэрміновае выданне газеты «Беларуская Праўда», у якой знайшлі адлюстраванне ідэі мясцовай інтэлігенцыі (А. Луцкевіч) аб далучэнні Вільні да БССР[558]. Аднак па дамове паміж урадамі СССР і Літвы Вільня і Віленшчына павінны былі адыйсці да Літоўскай дзяржавы. З 28 кастрычніка 1939 г. да 17—23 чэрвеня 1940 г. у Вільні яшчэ працягвалі дзейнасць беларускія грамадскія арганізацыі — Беларускае Навуковае Таварыства, Беларускі Цэнтр, газета «Крыніца» («Krynica»). З абвяшчэннем у 1940 г. Літоўскай ССР, частка беларусаў, як і літоўцаў, вымушаны былі эмігрыраваць.

Значная колькасць беларусаў апынулася разам з польскімі ваеннапалоннымі ў нямецкіх лагерах. Для ваеннапалонных ваеннае міністэрства Германіі арганізавала выданне газет на розных мовах, сярод якіх з'явілася і беларускамоўная «Раніца» (пачала выдавацца ў Берліне са снежня 1939 г.). У апошнім квартале 1939 г. выдавецтва ваеннага міністэрства «Die Wehrmacht» выпусціла беларускамоўную кнігу Ота Лемана «Нямецкія салдаты», якая стала, як адзначае Ю. Туронак, першым падобным выданнем у вызначаны перыяд пад кантролем нямецкіх акупацыйных улад.

Беларуская эміграцыя паступова пачала ствараць уласныя грамадскія арганізацыі, беларускія камітэты самапомачы (БКС) у

Берліне, Празе, Варшаве, дзе разгортвалася і кнігавыдавецкая дзейнасць. Беларускае выдавецтва ў Празе вясной 1941 г. выпускае «Падручнік нямецкага языка для Беларусаў» Пятра Бакача (надрукаваны ў нямецкай друкарні «Bernard und Graefe»). У 1941 г. у Празе таксама выходзілі некаторыя беларускія выданні пад грыфам «Карэспандэнцыйных курсаў беларусаведы» (рэдакцыя курсаў была створана ў 1940 г.). Вядомы чатыры выданні «Курсаў» мовазнаўчай і гістарычнай тэматыкі, якія былі прызначаны для беларускіх эмігрантаў у Францыі, Генеральным губернатарстве, Германіі. Праўда, некаторыя з падрыхтаваных кніг, як, напрыклад, тры арыфметычныя задачнікі Зоф'і Дабранскай, якія былі ініцыяваны і падтрыманы БКС у Варшаве, выйшлі пазней: адзін — у 1942 г. у Празе, два — у 1943 г. у Мінску і адзін — у Рызе. Вясной 1941 г. у Берліне БКС, а менавіта група Ф. Акінчыца, ідэолага беларускіх нацыянал-сацыялістаў, выдала дзве брашуры «Шляхом барацьбы Беларусі з Москвою» і «Як створым нашую сілу» пад псеўданімам У. Верас. Мяркуецца, што выпуск брашур быў ужо інспіраваны нямецкімі службамі[559].

На тэрыторыі Заходняй Беларусі, далучанай да БССР, пачалася саветызацыя новых беларусаў. Пачаўся масавы наплыў кніжных і перыядычных выданняў: толькі часткова на беларускай мове, а ў асноўным — на рускай, пастаўляемых з СССР. Акруговыя і раённыя рэдакцыі газет, якія сталі выдавацца на беларускай і рускай мовах, таксама папаўняліся персаналам з СССР.

У 1933—1940 гг. у БССР развіваецца ўстойлівая тэндэнцыя да штогадовага скарачэння выпуску кніжных выданняў на беларускай мове [табл. 2] і далейшая ідэалагізацыя кніжнай справы.

У залежнасці ад тэрыторыі, дзе разгортвалася выдавецкая дзейнасць, правамерна вылучыць наступныя выдавецкія плыні: на акупіраванай немцамі тэрыторыі Беларусі — *акупацыйны друк*[560], а таксама *падпольны і партызанскі друк*; на неакупіраванай тэрыторыі СССР — *тылавы друк*; па-за межамі БССР і СССР — *эміграцыйны друк*. Акрамя таго, некаторыя даследчыкі вылучаюць таксама, грунтуючыся на ідэалагічнай прыкмеце і з улікам геапалітычных умоў выдання (акупіраваная і неакупіраваная тэрыторыя) і цэнзурных абмежаванняў (легальны і нелегальны друк), *савецкі* і *несавецкі друк*[561].

## Акупацыйны друк

Вызначаецца як легальны друк на акупіраванай тэрыторыі, які кантраляваўся акупацыйнымі ўладамі. Пасля таго, як нямецкія войскі занялі Беларусь, на ўсім яе абшары было ўведзена ваеннае кіраванне: цэнтральная частка Беларусі ўваходзіла ў Генеральны камісарыят «Беларусь», поўдзень Беларусі (Брэст, Пінск, Гомель) быў уключаны ў склад Генеральнага камісарыята «Украіна», Беласточчыну і частку сучаснай Гродзенскай вобласці далучылі да Усходняй Прусіі, адміністрацыйнай адзінкі Трэцяга рэйха, усходняя Беларусь увайшла ў тылавы раён групы армій «Цэнтр»[562].

З цягам часу ў заходняй частцы Беларускай генеральнай акругі ваеннае кіраванне было заменена на грамадзянскае, у адрозненне ад усходняй (Полацк, Віцебск, Магілёў, Бабруйск, Смаленск, Бранск), якая да канца акупацыі заставалася ў зоне ваеннага кіравання. Форма акупацыйнага рэжыму, як адзначае Ю. Туронак, была вызначальным фактарам магчымасці выдавецкай працы, якая заставалася прэрагатывай цывільнай улады і, як і за савецкім часам, аказалася сканцэнтраванай галоўным чынам у Мінску. Дзяржаўнай мовай на абшары Остланду ўводзілася нямецкая, з дапушчэннем мясцовай ў кожнай з генеральных акруг.

З ліпеня 1941 г. у Мінску пачала дзейнасць Мінская гарадская ўправа і падпарадкаваная ёй друкарня, а таксама было заснавана Краёвае выдавецтва «Менск», галоўнай задачай якога стала забеспячэнне выпуску «Менскай газэты», а не кніг[563], бо адзінай сферай зацікаўлення нямецкай адміністрацыйнай улады была ідэалагічная прапаганда. Паўстала пытанне аб мове друкаванага слова. Рэдакцыя не пагаджалася з усходнебеларускім «бальшавіцкім» правапісам, што ў сваю чаргу патрабавала неадкладна вырашыць праблему правапісу. З гэтай мэтай Краёвае выдавецтва «Менск» атрымала дазвол на выданне «Беларускага правапісу» Б. Тарашкевіча, якое было ажыццёўлена ў канцы верасня 1941 г. (тыраж 20 тыс. экз.). Гэта была першая кніга, выпушчаная на тэрыторыі акупіраванай Беларусі на беларускай мове. У названым выдавецтве яна засталася адзіным кніжным выданнем, а, пачынаючы з 16 кастрычніка 1941 г., калі выдавецтва было падпарадкавана Мінскаму гарадскому камісарыяту, пазней аддзелу прэсы Генеральнага камісарыята




*Вокладка кнігі Л. Случаніна «Рагнеда». Вільня, 1944 г.*

Беларусі, скончылася «незалежнае» яго існаванне. «Менская газэта» была перайменавана ў «Беларускую газэту». Уся выдавецкая справа на акупіраванай тэрыторыі Беларусі стала кантралявацца германскім Генеральным камісарыятам Беларусі.

У кастрычніку 1941 г. у Мінску для нагляду за працай школ быў створаны Школьны інспектарат (у складзе Генеральнага камісарыята), які выдаў 13 праграм навучання на беларускай і нямецкай мовах па геаграфіі, гісторыі, грамадазнаўстве, матэматыцы, музыцы і спевах, прыродазнаўстве, ручной працы, маляванню, фізіцы, хіміі, фізічнай культуры. Ва ўмовах недахопу школьных падручнікаў праграмы разам з часопісам «Беларуская школа» (са студзеня да снежня 1942 г. выдаваўся Інспектаратам у дзвюх частках: для настаўнікаў і для вучняў) сталі асноўнымі метадычнымі дапаможнікамі для школьнага навучання. За першы год працы Інспектарату было падрыхтавана каля 20 падручнікаў (на кірыліцы), якія апрацоўваліся ў Мінску, Варшаве, Вільні. Аўтарскіх прапаноў было, як адзначае Ю. Туронак, дастаткова, толькі яны засталіся амаль не рэалізаванымі[564]. Адной з прычын быў загад міністра акупіраваных усходніх зямель А. Розенберга ад 25 чэрвеня 1942 г. аб паступовым увядзенні лацінкі ў народныя школы Беларусі[565].

Спрабавала займацца выдавецкай дзейнасцю Беларуская народная самапомач (БНС) — адзіная дазволеная акупацыйнымі ўладамі грамадская арганізацыя ў Беларусі. Вядома, што БНС выдала дзве кнігі Я. Станкевіча — «Крыўя—Беларусь у мінуласьці» і «Лемантар пераходны з лацініцы на кірыліцу» ў Мінску і трэцюю — «Беларускі лемантар "Зорка"» ў Баранавічах (усе ў 1942 г.). На пачатку 1943 г. дзейнасць БНС у галіне кнігавыдання была забаронена.

У канцы кастрычніка — пачатку лістапада 1942 г. было заснавана Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі (ВШПЛМ, размяшчалася на вул. Камсамольскай, 13 — вул. Алеся Гаруна ў гады вайны, дзе таксама быў Школьны інспектарат і БНС). Кіраўніком і цэнзарам быў прызначаны Ёзаф Сівіца (сілезскі немец, валодаў польскай і беларускай мовамі).

Першай кнігай выдавецтва, якая выйшла ў канцы 1942 г. лацінкай быў «Biełaruski lemantar» П. Кісяля, дырэктара адной з мінскіх школ (першае выданне было толькі частковым і заканчвалася на літары «Д», праз год зроблена дапоўненае перавыданне). Забарона акупацыйных улад карыстацца ў беларускіх школах савецкімі падручнікамі і адсутнасць іншых выклікалі актывізацыю працы над новымі падручнікамі, якіх выйшла ў выдавецтве 10 выданняў (6 — на лацініцы, 1 — разам на кірыліцы і лацініцы, 3 — на кірыліцы). Сярод аўтараў падручнікаў П. Кісель, А. Лёсік, Я. Станкевіч, З. Дабранская, П. Шырынскі, М. Завусцінскі, Б. Тарашкевіч. Усяго за 1942—1944 гг. ВШПЛМ выдала 24 кнігі, з іх на кірыліцы вядома 16 назваў. Асобнымі выданнямі, як на кірыліцы, так і на лацініцы быў надрукаваны «Беларускі правапіс» (Менск, 1943), «Biełaruski pravapis» (Вільня, 1944) А. Лёсіка.

Друк кніг ВШПЛМ ажыццяўляўся ў большасці ў друкарні Мінскага выдавецкага і друкарскага таварыства. Аднак некаторыя кнігі і брашуры друкаваліся ў Вільні: вядома 8 кніг, тры з якіх выйшлі ў друкарні «Аўшра» — гэта Наталлі Арсенневай «Сягоньня. Вершы 1941—1943» (1944), Тодара Лебяды «Песьні выгнаньня» (1944), Лявона Случаніна «Рагнеда. Паэма» (1944), астатнія без пазначэння друкарні. Адно кніжнае выданне надрукавана ў Рызе — «Мае песьні. Зборнік лірыкі» Алеся Салаўя, якое выпусціла друкарня «Рота» ў 1944 г.

Выдавецкі рэпертуар ВШПЛМ прадстаўлены ў першую чаргу школьнымі падручнікамі: букварамі, граматыкамі, арыфметычнымі

задачнікамі, а таксама зборнікамі фальклорных песень, народных казак, сцэнічных твораў, зборнікамі паэзіі і апавяданняў. Па аднаму перакладному выданню выйшла ў ВШПЛМ рэлігійнай і ваеннай тэматыкі (на кірыліцы). Сярод навукова-папулярных выданняў — «Беларусь учора і сяньня» Я. Найдзюка (Мінск, 1944), даведачных — «Маленькі слоўнічак фразэолёгічны» Я. Станкевіча (Мінск, 1944). Напачатку выданні ВШПЛМ фінансаваліся Генеральным камісарыятам, але пасля выдавецтва стала нават прыносіць прыбытак і існавала самастойна. Выпуск кожнай кнігі адзначаўся ў мясцовай прэсе: у «Беларускай газэце», «Голасе вёскі». Аўтарам сістэматычнай і каштоўнай інфармацыі, якая дазволіла ўдакладніць выхадныя дадзеныя шэрагу беларускіх выданняў таго часу, з'яўляўся Я. Найдзюк[566].

Большая частка выданняў ВШПЛМ выйшла ў апошнія месяцы акупацыі: снежні 1943 г. — чэрвені 1944 г., таму, відавочна, што толькі нязначная іх колькасць была распаўсюджанай. Што тычыцца выдадзеных падручнікаў, то іх выкарыстанне ў школах, па той самай прычыне, напэўна, было мінімальным, хаця тыражы некаторых дасягалі 100, 50, 30 тыс. экз. Выпуск некаторых выданняў, падрыхтаваных ВШПЛМ, не быў ажыццёўлены з-за эвакуацыі выдавецтва перад наступленнем Чырвонай Арміі — «Беларускі тэатр», «Беларускае мастацтва» У. Сядуры (здадзены ў друк на пачатку 1944 г.), п'еса Т. Лебяды «Загубленае жыцьцё», чытанка П. Кісяля, рэлігійныя працы ксяндза І. Бобіча.

Як адзначае Ю. Туронак, «у адрозненне ад газет і часопісаў, выданне кніг на абшары Генеральнай акругі Беларусь, як і на іншых тэрыторыях Остланду, не было строга цэнтралізавана», выпуск кніг дазваляўся розным установам, згуртаванням ці асобам пасля атрымання адпаведнай згоды генеральнага або акруговага камісарыята. На кожнае друкаванае выданне павінен быў быць адпаведны дазвол. Пэўную прыватную выдавецкую ініцыятыву па выпуску рэлігійнай літаратуры на беларускай мове спрабаваў ажыццяўляць ксёндз Станіслаў Глякоўскі, выкарыстоўваючы для друку як лацінку, так і кірыліцу. Такім выданнем з'явіўся «Кароткі малітаўнік для беларусаў-каталікоў» (Менск, 1941), які С. Глякоўскі выпусціў асобнымі брашурамі на лацініцы і на кірыліцы. Яшчэ адной надрукаванай ксяндзом брашурай стаў «Karotki katechizm dla biełarusaŭ-katalikoŭ» і адзінай, дзе было пазначана месца, год выдання, выдавец і друк — «Менская гарадская друкарня»[567].

Сярод акупацыйных рэлігійных выданняў на беларускай мове, як указвае Я. Найдзюк, быў і малітоўнік для баптыстаў, выпушчаны прэсвітэрам Дзекуць-Малеем у Мінску[568]. У аддзеле рэдкіх кніг Беларускага універсітэта культуры і мастацтваў захоўваецца яшчэ адно рэлігійнае выданне, прызначанае для праваслаўных жыхароў Беларусі, богаслужэнне для якіх адбывалася на царкоўнаславянскай мове — «Краткий молитвослов» (Борисов: Воскресенский Собор, 1943 г.).

Вядома аб выданні яшчэ 4 кніг, якія выйшлі ў Генеральнай акрузе Беларусь. Так, пры падтрымцы Слуцкага акруговага камісарыята ў снежні 1943 г. у Слуцку выйшаў зборнік вершаў мясцовых аўтараў «Песьняры Случчыны»; пры падтрымцы Саюза беларускай моладзі ў Мінску надрукаваны дзве брашуры — «Фабіян Акінчыц. Ягонае жыцьцё і думкі» (1943) і «Юнацкі сьпеўнік» (1944). Адной з кнігавыдавецкіх ініцыятыў стала выданне ў Мінску рэдакцыяй часопіса «Новы шлях» вясной 1943 г. сцэнічнага твора Ф. Аляхновіча «Круці, ня круці — трэба памярці». Вясной 1944 г. былі падрыхтаваны рэдакцыяй газеты «Голас вёскі» і здадзены ў друк 6 кніг папулярнай сельскагаспадарчай тэматыкі, пра лёс якіх нічога не вядома.

Усяго за тры гады акупацыі ў Генеральнай акрузе Беларусь выйшла звыш 50 назваў легальных кніжных выданняў [табл. 5]

**Беларускія акупацыйныя выданні (1941—1944)** *Табліца 5*

| Год | Усяго | Месца выдання | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Мінск | Баранавічы | Барысаў | Слуцк |
| 1941 | 17 | 17 | | | |
| 1942 | 8 | 7 | 1 | | |
| 1943 | 18 | 16 | | 1 | 1 |
| 1944 | 10 | 10 | | | |
| Усяго | 53 | 50 | 1 | 1 | 1 |

Выяўлена 19 назваў беларускамоўных выданняў, выпушчаных нямецкімі выдаўцамі ў Рызе, Мінску, Берліне, якія, у асноўным, прызначаліся для палітычнай прапаганды.

Беларускія кніжныя выданні выходзілі таксама ў легальным друку з дазволу нямецка-фашысцкіх улад у Вільні (3 кнігі), Рызе (13), Беластоку (1), Варшаве (4), Празе (2), Берліне (17). Цалкам дадзеныя выданні могуць мець статус акупацыйных (Вільня ўваходзіла ў склад Ге-




*Сатырычны лісток «Партызанская дубінка». 1942 г.*

неральнай акругі Літва, Рыга — Генеральнай акругі Латвія, Варшава — Генеральнага губернатарства, іншыя — у адміністрацыйныя адзінкі Трэцяга рэйха); і адначасова эмігранцкіх. Спрэчнасць пытання ў тым, што некаторыя тэрыторыі ў Літве, Латвіі, Польшчы з'яўляліся этнаграфічнымі землямі Беларусі. Аднак трэба прызнаць, што ўжо на той час беларусы на іх былі нацыянальнай меншасцю. Нават у Вільні, значным кнігавыдавецкім цэнтры Заходняй Беларусі, «беларуская грамада апынулася ў становішчы ледзь не замежнай эмігранцкай групоўкі з абмежаванымі сувязямі з насельніцтвам»[569]. Таму разгляд беларускамоўнай выдавецкай прадукцыі, якая выйшла ў Літве, Латвіі, Польшчы, Германіі, Чэхіі адпаведна падаецца ў падраздзеле, прысвечаным эміграцыйнаму друку.

Паводле «Альфабэтнага каталёгу кніг і брашур» за 1939—1944 гг., складзенага Ю. Туронкам і змешчанага ў яго працы «Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939—1944)», улічана 117 беларускіх акупацыйных выданняў[570], што выйшлі не толькі на тэрыторыі Беларусі. З іх звыш 20% застаюцца яшчэ не адшуканымі, не выяўленымі de vizu, апісанне якіх праводзілася на падставе звестак з тагачасных перыядычных выданняў: «Беларуская газэта» (Мінск), «Голас вёскі» (Мінск), «Раніца» (Берлін), «Новая дарога» (Беласток) і інш.[571] Аўтар лічыць, што колькасць падобных выданняў можа быць яшчэ большай за кошт, напрыклад, не выяўленых нямецкіх беларускамоўных прапагандысцкіх брашур, якія выпускаліся афіцыйным органам нямецкай прапаганды «Vineta» (на сёння іх вядома і выяўлена Ю. Туронкам 13 назваў), а таксама патрабуюць уліку календары, рэлігійныя і іншыя выданні.

На акупіраванай тэрыторыі Беларусі нямецкімі ваеннымі ўладамі, як адзначыў С. Жумар, былі распаўсюджаны і каля 900 назваў лістовак, каля 100 легальных перыядычных выданняў на беларускай (74), рускай, украінскай і нямецкай мовах[572], якія названаму даследчыку ўдалося ўлічыць у паказальніку «Библиография оккупационных периодических изданий, выходивших на территории Белоруссии в 1941—1944 гг.» (Мінск, 1995 г.) і разгледзець у манаграфіі «Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны» (Мінск, 1996 г.). Сярод беларускамоўных газет буйнейшай была «Менская (Беларуская) газэта» (з ліпеня 1941 г.), а таксама «Голас вёскі», «Беларускае слова», «Баранавіцкая газэта», «Газэта Случчыны», «Новы шлях», «Новая дарога», «Наша праца», часопіс «Жыве Беларусь» і інш. На беларускай і нямецкай мовах друкаваўся афіцыйны орган акупацыйных улад «Урадавы Веснік генеральнага камісара Беларусі» (Мінск), на нямецкай мове выходзіла газета «Misker Zeitung» («Мінскер цайтунг»), тыраж якой у 2—3 разы перавышаў тыраж «Менскай (Беларускай) газэты». Акрамя афіцыйных матэрыялаў у перыядычным друку публікаваліся творы беларускіх гісторыкаў, этнографаў, пісьменнікаў, у якіх закраналіся пытанні развіцця культуры, асветы, навукі, беларускай мовы і інш.[573] Некаторыя журналісты, супрацоўнікі выдавецтваў і друкарняў мелі цесныя сувязі з падполлем і партызанскім рухам (А. Іваш, Г. Коўшык, А. Савіч, С. Якаўлева, Р. Мурашка, А. Матусевіч і інш.).

Фарміраванне нацыянальнай свядомасці, аднаўленне незалежнай беларускай дзяржаўнасці — былі асноўнай матывацыяй выдавецкай дзейнасці ў гэты час шэрагу беларускіх дзеячаў нацыянальнальнага адраджэння. Аднак ідэйная машына нацысцкай Германіі была непараўнальна мацнейшая: і для яе беларусы патрэбны былі толькі на пэўны час, тады можна было ім дазволіць карыстацца сваёй мовай, друкам, але адначасова і выкарыстоўваць іх у сваіх мэтах.

## Падпольны і партызанскі друк

Нелегальны друк, які ажыццяўляўся на акупіраванай тэрыторыі. Падпольны савецкі друк[574] на акупіраванай тэрыторыі Беларусі адзначаўся ў гарадах, мястэчках і нават вёсках, партызанскі — быў сканцэнтраваны ў лясах, на месцах дыслакацыі партызанскіх атрадаў і злучэнняў[575]. Асноўнай задачай падпольнага і партызанскага друку была мабілізацыя народа на барацьбу з ворагам — фашызмам, падтрымка савецкіх патрыятычных пачуццяў, накіраваных на вызваленне ад акупантаў, інфармаванне аб зверствах фашыстаў і перамогах Чырвонай Арміі.

Для арганізацыі друку на акупіраванай тэрыторыі ў падпольных партыйных арганізацыях і партызанскіх атрадах ствараліся саматужныя, паходныя або перасоўныя друкарні, якія ўзнікалі на аснове рэштkаў ацалелых і заканспіраваных партыйных друкарняў. Некаторыя партызанскія друкарні былі створаны дзякуючы захопу тыпаграфскага абсталявання ў фашыстаў — напрыклад, у Клецку і Любані[576]. Выкарыстоўваліся і магчымасці легальных друкарняў, якія дзейнічалі з дазволу немцаў. У пачатку 1943 г. з савецкага тылу пачалі дастаўляцца спецыяльна распрацаваныя партатыўныя друкарскія машыны. Адна з такіх машын была сканструявана механікам былой Гомельскай фабрыкі «Палесдрук» Ф. Пільціенка. Гэта была плоскадрукарская машына вагой 16 кг фарматам у $^{1}/_{8}$ друкаванага аркуша. Пазней яна, як і партатыўная машына маскоўскага інжынера Н. Новікава, была ўдасканалена да фармату ў ¼ друкаванага аркуша. У Маскве ж была арганізавана для беларускіх партызан і падпольшчыкаў і іх вытворчасць. Усяго за 1943—1944 гг. на тэрыторыю акупіраванай Беларусі было перапраўлена 185 такіх машын з камплектамі шрыфтоў, 150 тон газетнай паперы і да 100 чалавек наборшчыкаў і друкароў[577].

Асноўнай і найбольш аператыўнай прадукцыяй падпольных і партызанскіх выдаўцоў былі лістоўкі. Першапачаткова яны з'явіліся ў рукапіснай і машынапіснай форме. Так, ужо з 15 жніўня 1941 г. яны аб'явіліся ў Полацку, а затым і ў іншых населеных пунктах пачаліся іх выраб і распаўсюджанне. Лістоўкі сталі адным з самых дзейсных сродкаў барацьбы падпольшчыкаў Мінска. Так, вядома аб іх друку на канспіратыўнай кватэры падпольшчыка, супрацоўніка гарадской мінскай друкарні М. Воранава. Друкам і распаўсюджаннем лістовак займаліся мінскія падпольшчыкі І. Кабушкін, В. Казачонак і інш.[578] Адной




*Вокладка брашуры Ф. Канстанцінава «Герой Савецкага Саюза Хвядос Смалячкоў». 1943 г.*

з першых была лістоўка пад назвай «Да насельніцтва Беларусі» (верасень 1941 г.). Прызначаліся лістоўкі не толькі розным катэгорыям беларускага насельніцтва, але і нямецкім салдатам і тым, хто супрацоўнічаў з фашыстамі. Усяго за перыяд Вялікай Айчыннай вайны ЦК КП(б)Б, абкомамі і райкомамі партыі было выпушчана 1 201 160 экз. лістовак і брашур. Як адзначаецца даследчыкамі, толькі ў Брэсцкай вобласці падпольшчыкі выдалі і распаўсюдзілі 300 тыс. экз. газет і лістовак, выробленых тыпаграфскім спосабам і 200 тыс. экз. лістовак — на пішучай машынцы[579].

У фондзе Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны захоўваецца самая вялікая ў краіне калекцыя партызанскіх выданняў. Значная колькасць падпольных і партызанскіх выданняў, у тым ліку лістовак, захоўваецца ў буйнейшых бібліятэках Беларусі (Цэнтральная навуковая бібліятэка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь). У 2009 г. НББ сумесна з Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ажыццявіла праект электроннага выдання «Падпольны і партызанскі друк Беларусі», у якім прадстаўлены электронныя копіі падпольнага і партызанскага друку — лістоўкі, часопісы, газеты, арыгіналы якіх захоўваюцца ў фондах НББ, Музея Вялікай Ачыннай вайны, Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

Сярод іх — сатырычны лісток «Партызанская дубінка», газеты — «Раздавім фашысцкую гадзіну», «За Савецкую Беларусь», «За свабодную Беларусь» і інш.

Фонд ЦНБ НАНБ па дадзенай тэматыцы прадстаўлены факсімільным выданнем падпольных і партызанскіх газет, часопісаў, лістовак перыяду Вялікай Айчыннай вайны «І паўстаў народ...» (Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П.Броўкі». Мінск, 2005 г.). Зборнік уключае у тым ліку нумары газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» і газет падпольных райкомаў і абкомаў КП(б)Б (прыведзены спіс 163 такіх газет і бюлетэняў газетнага фармата).

Дзейсным сродкам змагання з ворагамі была наглядная прапаганда — гэта плакат, газета-плакат, сатырычны лісток, якія адлюстраваны ў выданні «Вялікая Айчынная вайна: 1941—1945: Плакат. Агітплакат. Газета-плакат. Сатырычны лісток» (Мінск, 1985), дзе змешчана факсіміле асобных нумароў газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну», сатырычнага лістка «Партызанская дубінка», плаката «Радзіма-маці заве!».

У падпольным і партызанскім друку важнае месца займаў выпуск газет і часопісаў. Першыя падпольныя перыядычныя выданні з'явіліся ў канцы 1941 г. У маі — верасні 1942 г. у мінскай падпольнай тыпаграфіі, створанай напрыканцы 1941 г., быў наладжаны друк газеты «Звязда» — органа Мінскага гаркома КП(б)Б. Выйшла 4 нумары. У падпольнай друкарні працавалі бацька і сын Воранавы, У. Амельянюк, В. Сайчык, В. Нікіфараў, некаторыя з іх загінулі. У выпуску газет вызначыліся падпольныя групы Віцебскага, Рудзенскага, Чэрвенскага, Бярэзінскага, Кіраўскага, Клічаўскага партыйных камітэтаў, якія ўжо ў 1942 г. прыступілі да іх выдання. На 1943 г. на акупіраванай тэрыторыі Беларусі быў арганізаваны нелегальны друк 134 савецкіх газет, у іх ліку адной рэспубліканскай газеты — «Чырвоная змена», 6 абласных газет (віцебскай, магілёўскай, беластоцкай, пінскай, палескай, вілейскай), шэрага газетных выданняў буйнейшых партызанскіх фарміраванняў[580].

Па розных бібліяграфічных дадзеных у гады Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі падпольшчыкі і партызаны выпусцілі ад 163 да 190 назваў газет[581] і каля 90 часопісаў[582]. Колькасныя прыярытэты былі за партыйнымі газетамі — 155 выданняў (137 — раённыя, 9 — абласныя, 5 — гарадскія, 3 — міжраённыя, 1 — рэспубліканская). Падпольных камсамольскіх газетных выданняў налічвалася 7 (3 — абласныя, 2 — рэспубліканскія, па аднаму міжраённаму і раённаму). Зафіксавана 7 друкаваных партызанскіх газет (3 — брыгад, 2 — злучэнняў, 1 — палка, 1 — атрада), а таксама 6 — падпольных антыфашысцкіх груп[583]. З іх 157 назваў перавыдадзены факсімільна[584].

Не паддаюцца ўліку і, напэўна, могуць яшчэ з'явіцца новыя знаходкі партызанскай рукапіснай перыёдыкі і баявых лісткоў. Першай спробай падрабязнай характарыстыкі падобных рукапісных выданняў з'яўляецца манаграфія Г. Кнацько[585], у якой прыводзіцца спіс 87 назваў (237 нумароў) дайшоўшых да нашага часу часопісаў з пазначэннем года выхаду, колькасці нумароў, выдаючага органа, выдаўца, месца сённяшняга захоўвання. Паводле гэтай працы, першыя нумары рукапісных часопісаў з'явіліся ў Магілёўскай вобласці на пачатку 1942 г. і распаўсюджваліся на працягу ўсіх гадоў акупацыі (да 1944 г.). Гэта былі як рукапісныя, так і друкаваныя на машынцы выданні, звычайна ў адным асобніку, выкананыя як самаробныя альбомы ці сшыткі рознага фармата і аб'ёму. Па змесце вылучаюцца літаратурныя, палітычныя і сатырычныя (ілюстраваныя) выданні, якія адлюстроўвалі жыццё і барацьбу пэўнага атрада ці брыгады, фарміравання.

Вядома аб нелегальным выданні на тэрыторыі акупіраванай Беларусі і 21 назвы кніг і брашур, аўтарамі якіх у большасці сваёй былі партызаны.: В. Кулікоў (апавяданні і вершы — «Им тут не быть»), Л. Абах («Партызанская зорка»), Я. Ракаў (пад псеўд. Я. Мрамараў — «Бессмертный советский народ», «Лебединая песня», «Расти мальчуган», «Отомсти, белорус!»), А. Міхайлаў («Паэзія вайны»), В. Скараходаў («Вершы байца»), Я. Крайнік (пад псеўд. Л. Лясная — «Лілея», «Паход фашысцкіх звяроў. Паэма»), Е. Аўсянкін (паэма — «Отец-патриот»), У. Саблін (вершы і песні — «Мститель») і інш. У выхадных дадзеных можна было знайсці незвычайныя звесткі: як сведчыў зборнік «Мститель» рускага пісьменніка У. Sабліна, які выйшаў у друкарні газеты «Бальшавіцкі сцяг» — органа Рудзенскага падпольнага раённага камітэта КП(б)Б, выхадныя звесткі гэтага выдання пазначаны наступным чынам: «Май 1944. Лес каля Мінска».

Партызанскія друкарні выпусцілі некалькі зборнікаў твораў розных партызанскіх аўтараў. Так, у пачатку 1943 г. быў выдадзены зборнік «Железняк» (аднайменнай партызанскай брыгады «Жалязняк» Мінскага злучэння). Партызаны Вілейскай вобласці — калектыў рэдакцыі і друкарні Вілейскага абкома КП(б)Б — падрыхтавалі зборнік вершаў «Стихи

→
*Газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну». Май 1942 г.*

СМЕРЦЬ НЯМЕЦКІМ АКУПАНТАМ!

Прачытай і перадай другому

# РАЗДАВІМ ФАШЫСЦКУЮ ГАДЗІНУ

№ 45 Газета-плакат, выданне ЦК КП(б) Беларусі Май 1942 г.




## ЗА СМЕРЦЬ, ЗА СЛЁЗЫ, ЗА ГОРА І ПАКУТЫ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ!

Пакаленне звяроў жорсткіх і крывяжэрных, страціўшых і чэсць і сумленне, і нават чалавечае аблічча, выхаваў людаед Гітлер. У наш прыгожы край раптоўна ўварвалася дзікая зверападобная арда, ап'янёная крывёй і лёгкай нажывай у Еўропе.

Страшныя разбурэнні, дзікі гвалт, грабёж, нечуваныя пакуты і гора, смерць і знявагу — вось што прынеслі фашысты беларускаму народу. Гэта яны, людаеды, каты і вешацелі апаганілі нашу зямлю, залілі родную Беларусь крывёю і агнём, называючы свае крывавыя справы «новым парадкам».

У гэтым нумары мы публікуем фотадакументы аб зверствах і жахлівых злачынствах, якія робяць гітлераўцы ў нашых вёсках і гарадах.

Нельга без жахлівасці глядзець на знявечаныя дзіцячыя трупы, на іх васковыя твары, якія нядаўна ззялі дзіцячай нявіннай усмешкай, чые звонкія галасы радавалі сэрца, чый смех асвятляў наша жыццё.

Кожны фотадакумент патрасае душу, аблівае сэрца крывёю і напаўняе незгасальнай нянавісцю.

Няма і не можа быць літасці праклятым дзетазабойцам! Фашысты захацелі адняць у нас самае дарагое, адняць нашу будучыню — нашых дзяцей. Няхай яны на кожным кроку сустракаюць смерць і бязлітаснае знішчэнне. Няхай загіне ад нашых меткіх удараў фашысцкая брыдота. Няхай спапялеюць нямецкія ваякі ад нашай ярасці, помсты і нянавісці!

РАЗДУШЫЦЬ І СЦЕРЦІ З ТВАРУ ЗЯМЛІ ЖАХЛІВУЮ ФАШЫСЦКУЮ ГАДЗІНУ!

*Раздавім фашысцкую гадзіну. № 45 (май 1942 года).*

партызан и партизанок Вилейской области», у які ўвайшлі 22 вершы пятнаццаці аўтараў. Партызанская друкарня брыгады «Стары» (Барысаўска-Бягомльская партызанская зона) у 1943 г. надрукавала нават публіцыстычны твор «Партызанская вайна ў Беларусі»[586].

Папулярнымі выданнямі ў партызан былі кніжкі-песеннікі: «На партызанскі лад» (выдадзена летам 1943 г. рэдакцыяй «Бальшавіцкага сцяга» — органа Рудзенскага падпольнага РК КП(б)Б), «Сборник фронтовых и партизанских песен» (1944 г. — рэдакцыяй «Сялянскай газеты» — органа Вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б; Бягомльскім падпольным РК КП(б)Б), «Сборник песен и частушек о Великой Отечественной войне» (люты 1944 г. — Беластоцкім падпольным абкомам ЛКСМБ). Асаблівае значэнне мела патрыятычная тэматыка, дух барацьбы, што надоўга падаўжала жыццё выданняў. Такой кніжкай быў, напрыклад, зборнік пад назвай «Паход фашысцкіх звяроў. Паэма», аўтар — пухавіцкая настаўніца Яніна Крайнік, падпольшчыца, партызанка (псеўданім Лілія Лясная), які перавыдаваўся пяць разоў агульным тыражом 5 тыс. экзэмпляраў.

Удалося ў партызанскіх друкарнях выдаць і некалькі твораў беларускіх пісьменнікаў, як асобная кніга выйшла паэма Я. Коласа «Адплата», якую надрукавалі брыгады імя Панамарэнкі і імя Чапаева. 30 лістапада 1943 г. друкарня Слуцкай падпольнай раённай газеты «Народны мсцівец» выдала тыражом у 1000 экз. кнігу вершаў А. Астрэйкі «Слуцкі пояс» з прадмовай сакратара райкома І. Канановіча. Вядомы рэдактар выдання — М. Дастанка (рэдактар газеты Любанскага падпольнага РК КП(б)Б), наборшчыкі — Любоў Куляшова, Любоў Шаўчук, Уладзімір Канановіч і Мікалай Торхаў, мастакі-афарміцелі — партызаны Аляксандр Залатой і Аляксандр Бяляеў, якія выразалі на кляновых кубіках літары-застаўкі для вершаў, а для вокладкі здабылі чырвоную фарбу, для сшывання аркушаў — медны дрот, паперу дасталі ў слуцкай нямецкай друкарні[587]. Сёння два экзэмпляры кнігі захоўваюцца ў фондзе Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Невялікія тыражы і ваенны час не лепшым чынам паўплывалі на захаванасць кніжак-партызанак. Можна меркаваць, што іх рэальная колькасць была ўсё ж большай, аднак не дайшла да нашага часу, ці застаецца яшчэ не адкрытай.

Поўны ўлік і аналіз літаратуры на нямецкай, польскай, украінскай, рускай мовах, якая выходзіла на акупіраванай тэрыторыі Беларусі, як легальна, так і нелегальна яшчэ чакае свайго даследчыка.

## Тылавы савецкі друк

Друк, які ажыццяўляўся на неакупіраванай тэрыторыі СССР, у савецкім тыле, у эвакуацыі. Па сваім прызначэнні быў накіраваны: 1) — для перакідкі праз лінію фронту і нелегальнага распаўсюджвання на акупіраванай тэрыторыі; 2) — для фронту (у тым ліку для беларусаў-франтавікоў); 3) — для легальнага ўжытку і распаўсюджвання на неакупіраванай тэрыторыі СССР[588].

У першыя дні вайны падчас бамбардзіровак была разбурана амаль уся паліграфічна-выдавецкая база Беларусі. Значна пацярпела мінская друкарня «Звязда», у якой выходзіла большасць рэспубліканскіх газет, рэдакцыі якіх былі эвакуіраваны спачатку ў Гомель («Савецкая Беларусь», «Чырвоная змена», «Звязда»), а потым у г. Чырвонакамск Пермскай вобласці (РСФСР). Да 18 жніўня 1941 г. на тэрыторыі БССР дзейнічала Гомельская фабрыка «Палесдрук», пасля — з 19 жніўня — паліграфісты сфарміравалі цягнік-друкарню (начальнік — З. Матуз, які пасля вайны ўзначаліў Дзяржаўнае выдавецтва БССР) для ажыццяўлення выдавецкай дзейнасці ў прыфрантавой паласе[589]. У цягніку-друкарні выпускалася газета «Савецкая Беларусь» на беларускай і рускай мовах, сатырычны лісток «Партызанская дубінка» (як дадатак да газеты з 1942 да студзеня 1943 г., часопіс — да красавіка 1943 г.), газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» (з 5 ліпеня 1941 г. да мая 1945 г. выйшаў 141 нумар) і інш., якія распаўсюджваліся на фронце і на акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

Шэраг перыядычных выданняў БССР у час вайны перастаў выдавацца, а тыя, што апынуліся ў эвакуацыі не раз мянялі сваё месца друку. Так, газета «Савецкая Беларусь» друкавалася ў Арле, Казані (1941), Маскве (1942). У час вайны ў савецкім тыле з'явіліся і новыя перыядычныя выданні, як, напрыклад, газета «За Савецкую Беларусь» на беларускай мове, якая выдавалася ўпраўленнем палітычнай прапаганды Заходняга фронту і прызначалася для насельніцтва Беларусі (рэдактар М. Лынькоў), «За свабодную Беларусь» — орган палітупраўлення Калінінскага фронту (рэдактар І. Гурскі). Названыя газеты выдаваліся да кастрычніка 1943 г. Для партызанаў Віцебшчыны ў Маскве друкавалася абласная «Віцебская газета» (з чэрвеня 1942 г.). На старонках беларускіх тылавых газет змяшчаліся публіцыстычныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, К. Чорнага, П. Панчанкі, П. Глебкі, І. Гурскага, маскоўскіх пісьменнікаў

А. Суркова, У. Вішнеўскага, І. Эрэнбурга і інш.[590]

Не здолела эвакуіравацца з Беларусі Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Маёмасць выдавецтва, дакументы, рукапісы засталіся ў Мінску і былі знішчаны. Толькі ў кастрычніку 1942 г. у Маскве дзейнасць Дзяржаўнага выдавецтва БССР (у той час мела назву «Савецкая Беларусь») была ўзноўлена. У выдавецтве працавалі дзве рэдакцыі — палітычнай літаратуры (узначальваў Пятро Глебка) і мастацкай літаратуры (узначальваў І. Гурскі). Пасаду галоўнага рэдактара займалі Кандрат Крапіва, потым — Пятрусь Броўка.

У 1943 г. выдавецтвам было выпушчана 29, а ў 1944 г. — 41 назва кніг і брашур, сярод якіх «Вялікая Айчынная вайна Савецкага Саюза» І. Сталіна (тыражом 50 тыс. экз.), серыя брашур (6 назваў па 30 тыс. экз. кожная) пра беларусаў — Герояў Савецкага Саюза Л. Даватара, Ц. Бумажкова, М. Сільніцкага, М. Гастэлу, К. Заслонава, В. Лабанка, зборнікі «Молодежь Белоруссии в боях за Родину», «Ничего не забудем, ничего не простим» і інш.[591] З твораў мастацкай літаратуры былі выдадзены кнігі «Суд у лесе» і «Голас зямлі» Якуба Коласа, «Янук Сяліба» Максіма Танка, «Сцяг брыгады» Аркадзя Куляшова, «Дарога вайны» Пімена Панчанкі, вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі і інш. У гэтым жа годзе выдавецтва прыступіла да выдання падручнікаў для школ Беларусі.

Акрамя кніжных выданняў у выдавецтве выпускаўся часопіс «Блакнот агітатара-партызана» — орган ЦК КП(б)Б (1943), плакаты, лістоўкі, газеты, у тым ліку «Партызанская дубінка» (тры нумары па 15 тыс. экз.)[592]. Паліграфічныя работы выдавецтва замаўляла ў маскоўскіх друкарнях «Правда», «Красный пролетарий», «Известия», «Молодая гвардия». Выдавецкая прадукцыя распаўсюджвалася сярод беларусаў у савецкім тыле, на фронце і на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Каб лягчэй было арганізаваць сялянства на вызваленых тэрыторыях рэспублікі, Наркамат земляробства БССР выдаў у Маскве ў 1944 г. «Прыкладныя нормы выпрацоўкі і ацэнкі работ у працаднях для калгаснікаў БССР»[593].

Асобныя навуковыя выданні АН БССР выйшлі ў 1943 г. у Ташкенце (УзССР), дзе ўстанова знаходзілася ў эвакуацыі. Пад рэдакцыяй Якуба Коласа была надрукавана кніга «Памяці Янкі Купалы». У цэнтральных і рэспубліканскіх выдавецтвах СССР на беларускай мове і ў перакладзе на рускую мову выходзілі творы такіх беларускіх аўтараў, як Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, Э. Самуйлёнак, П. Броўка, А. Астрэйка і інш. Былі спецыяльна падрыхтаваны выданні, прызначаныя практычна для ўсіх нацыянальнасцей СССР — «Ваенная прысяга» (1941). «Айчынная вайна савецкага народа супраць фашысцкіх захопнікаў» (1942) была надрукавана на 27 мовах, у тым ліку і на беларускай[594].

На тэрыторыю акупіраванай Беларусі была арганізавана перапраўка вялікай колькасці палітычнай і мастацкай літаратуры, газет, лістовак і іншых выданняў на рускай мове, якія выкарыстоўваліся для палітычнай работы. Па некаторых дадзеных у 1942—1943 гг. у тыл ворага было адпраўлена больш за 5 млн. газет[595], 655 тыс. плакатаў, 23 млн. экз. лістовак, кніг і брашур, а з 1 студзеня па 15 мая 1944 г. — 135 400 экз. палітычнай і мастацкай літаратуры[596]. Значная колькасць тылавых выданняў друкавалася на беларускай мове. Так, напрыклад з 140 назваў лістовак 1942 г., якія прызначаліся для жыхароў акупіраванай тэрыторыі, 102 — былі на беларускай мове[597].

Суадносіны беларускамоўнага і рускамоўнага савецкага кнігавыдання ў 1942—1945 гг., па падліках В. Герасімава, «склалі адпаведна 88% (233 назвы) і 12% (27 назваў)»[598], калі перадваеннае становішча па мове кніжных выданняў у БССР выглядала амаль 50% на 50% [табл. 6].

Цалкам жа статыстыка кніжных выданняў Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны, як і іх тэматыка-тыпалагічны склад патрабуюць больш глыбокага і рознабаковага вывучэння. Для нагляднага прыкладу прывядзём звесткі, паказаныя В. Герасімавым у артыкуле «Друк Беларусі 1941—1945 гг. у фондах Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь як аб'ект бібліяграфічнай і культурнай ідэнтыфікацыі» ў выглядзе параўнальнай табліцы [табл. 6]:

Кніга, перыядычны друк, лістоўкі, якія выходзілі і распаўсюджваліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі, засведчылі аб складаных палітычных і ідэалагічных умовах, у якіх давялося выжываць беларускаму народу, яго культуры, мове. Друкаванае і рукапіснае слова ў гады вайны паказала сваю сапраўдную сілу, якая была магутнейшым сродкам змагання, нацыянальнага існавання і ідэалагічнага ўздзеяння[602].

**Статыстычны ўлік кніжных выданняў выдавецтваў БССР на неакупіраванай тэрыторыі за 1941—1945 гг.**

*Табліца 6*

| Гады выдання | Ежегодники книги СССР, 1941—1945[599] | Летапіс друку БССР: Кнігі і брашуры, выпушчаныя выдавецтвамі БССР за 1941—1945 гг.[600] | | Друк Беларускай ССР. 1918—1965[601] | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мова | бел. і пер. з бел. на мовы народаў СССР | бел. | рус. | бел. | рус. | інш. |
| 1941 | 9 | – | – | 162 | 108 | 36 |
| 1942 | 27 | | | – | – | – |
| 1943 | 19 | | | 20 | 3 | – |
| 1944 | 19 | | | 38 | 3 | – |
| 1945 | 33+48 | | | 148 | 21 | – |
| Усяго | 155 | 200 | 26 | 368 | 135 | 36 |

# НОВАЕ НАПАЎНЕННЕ КНІЖНАЙ ПРАСТОРЫ (1945—1991 ГГ.)

З вызваленнем Беларусі, якое пачалося ўжо ў 1943 г. і завяршылася да канца ліпеня 1944 г., на тэрыторыі рэспублікі пачалася праца па аднаўленні выдавецкай і паліграфічнай сферы. За гады вайны была амаль цалкам знішчана паліграфічная база Беларусі. З 200 даваенных прадпрыемстваў часткова ацалелі Дом друку (Мінск), некаторыя абласныя і гарадскія друкарні. У другой палове 1944 г. пачалася рээвакуацыя з Масквы ў Мінск ***Дзяржаўнага выдавецтва БССР***. У Маскве засталася толькі апаратыўная група выдавецтва ў складзе 14 чалавек (пад кіраўніцтвам галоўнага рэдактара П. Глебкі) для заканчэння выпуску падручнікаў і іншых выданняў, здадзеных у маскоўскі друк.

1944 г. для кнігавыдавецкай галіны быў адзначаны і стварэннем Упраўлення па справах паліграфіі і выдавецтваў пры СНК БССР, у падпарадкаванне якога трапляла ўся выдавецка-паліграфічная галіна рэспублікі. Аднак Дзяржаўнае выдавецтва пэўны час, з канца 1945 г. да 29 жніўня 1949 г., падпарадкоўвалася непасрэдна СНК БССР[603]. Выдавецкай справе, як дзейснаму сродку і галоўнай зброі камуністычнага выхавання народных мас, надавалася адна з галоўных роляў у шэрагу пастаноў ЦК партыі па ідэалагічных пытаннях, прынятых у 1945—1948 гг.

Дзяржвыдавецтва БССР да 1947 г. заставалася адзіным дзеючым выдавецтвам рэспублікі, на якое ўскладалася задача выпуску самай разнастайнай літаратуры: палітычнай, мастацкай, сельскагаспадарчай і асабліва неабходнай вучэбнай. У структуры выдавецтва былі адпаведна вылучаны наступныя аддзелы — палітычны, навукова-тэхнічны, сельскагаспадарчы, вучэбна-педагагічны, мастацкай, юнацка-дзіцячай літаратуры, аддзел мастацкага афармлення і тэхнічная рэдакцыя. Ужо на пачатак 1945/1946 навучальнага года выдавецтва выпусціла 39 назваў падручнікаў на беларускай мове тыражом 2385 тыс. экз., у тым ліку 21 назва тыражом 1220 тыс. экз. была падрыхтавана аддзяленнем выдавецтва ў Маскве[604]. Галоўнае месца ў кнігавыдавецкім рэпертуары адводзілася выпуску твораў класікаў марксізму-ленінізму. Так, у адпаведнасці з Пастановай ЦК КП(б)Б ад 24 кастрычніка 1946 г. «Аб выданні поўнага збору твораў У. І. Леніна на беларускай мове з IV рускага выдання» (у 35 тамах, тыраж 50 тыс. экз.) Дзяржаўнае выдавецтва БССР прыступіла да яго рэалізацыі (выданне завершана ў 1951 г.), а з 1 жніўня 1950 г. — да першага выдання на беларускай мове «Капітала» К. Маркса і шэрага іншых твораў К. Маркса, Ф. Энгельса і У. Леніна на беларускай мове. Партыя сачыла, каб на беларускай мове рэгулярна з'яўляліся творы яе савецкіх кіраўнікоў: у Аляксея Касыгіна, напрыклад, было выдадзена 9 беларускіх кніг, у Леаніда Брэжнева — 67.

У 1947 г. узнаўляецца дзейнасць ***Выдавецтва АН БССР***, а таксама некаторых рэдакцыйна-выдавецкіх аддзелаў ВНУ рэспублікі, як, напрыклад, выдавецтва Беларускага сельскагаспадарчага інстытута, якія павінны былі разгарнуць выдавецкую дзейнасць па прапагандзе перадавога вопыту ў навукова-тэхнічнай і сельскагаспадарчай галінах, поспехаў калгаснага будаўніцтва.

Перад пісьменнікамі краіны таксама былі пастаўлены задачы камуністычнага выхавання беларускай моладзі. Адным з першых праектаў Дзяржвыдавецтва ў гэтым кірунку стала падрыхтоўка і выпуск ў 1947 г. «Кастрычніцкай серыі» мастацкай літаратуры, прысвечанай 30-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі, у якой выйшлі творы Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, К. Чорнага, М. Лынькова, Э. Самуйлёнка, А. Куляшова, П. Броўкі, М. Танка, П. Глебкі, П. Панчанкі, Я. Маўра, М. Машары і інш., створаныя за гады савецкай улады. У 1948 г. выдавецтва выпусціла зборнік пад рэдакцыяй Я. Маўра «Ніколі не забудзем», аўтарамі якога з'яўляліся беларускія дзеці — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. Паступова ваенная і партызанская тэматыка па запатрабаванні партыйных органаў займаюць усё большае месца ў рэпертуары выдавецтва. Адначасова ў гэты час выходзяць і некаторыя творы беларускай класічнай літаратуры — В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Багдановіча, Я. Купалы, З. Бядулі, Я. Коласа і інш. У 1947 г. з'яўляюцца і першыя саюзныя ўзнагароджанні за творы беларускай мастацкай літаратуры, якімі сталі паэма «Хлеб» і вершы «Думы пра Маскву», «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаяць...», «Спатканне» Петруся Броўкі, за якія аўтар быў узнагароджаны Сталінскай прэміяй.

Нягледзячы на тое, што з 1950 г. назіраецца павелічэнне выпуску навукова-тэхнічнай, эканамічнай, сельскагаспадарчай і мастацкай літаратуры, асабліва перакладаў




*Зборнік «Ніколі не забудзем», Мінск, 1948 г.*

з рускай мовы, засноўваюцца такія серыі, як «Бібліятэчка стаханаўца», «Бібліятэчка калгасніка», дзейнасць шэрага выдавецтваў у гэты час жорстка крытыкуецца з боку партыі. З іншага боку, партыя часам была ініцыятарам вельмі сумніўных праектаў, якія засталіся ў памяці хіба што дзякуючы старым кнігам. Як прыклад прыгадаем выдадзеную Белдзяржвыдавецтвам па заказу Упраўлення сельскагаспадарчай прапаганды (было такое ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі БССР) кнігу В. Прузана «Вопыт атрымання высокіх ураджаяў карэнняў кок-сагызу [калгас «Маяк сацыялізму» Рудзенскага раёна]» (Мінск, 1951).

Выключна важнае месца адводзілася партыяй вучэбнай літаратуры (выпускала Дзяржвыдавецтва). Яе сістэматычна не хапала ў пасляваенных школах Беларусі, а тэрміны выхаду былі запозненымі і не супадалі з пачаткам навучальнага года. У пасляваенныя гады ў беларускім кнігавыданні адчуваўся востры недахоп ілюстраванай дзіцячай літаратуры, які быў выкліканы слабай пасляваеннай паліграфічнай базай, адсутнічала дзіцячая гістарычная кніга. Кантралюючыя органы прызнавалі нездавальняючым стан працы ў выдавецтве АН БССР, выданні якога «не адпавядалі высокаму ідэйна-тэарэтычнаму ўзроўню»[605]. Вырашыць праблемныя пытанні ў галіне выпуску вучэбнай і навуковай літаратуры закліканы былі новастворaныя выдавецтвы — ***Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва БССР*** (заснавана ў 1951 г.) і ***Выдавецтва БДУ*** (1953). Першае, сфарміраванае на аснове рэдакцыі вучэбна-педагагічнай літаратуры Дзяржвыдавецтва БССР, забяспечвала выпуск школьных падручнікаў, вучэбна-метадычнай літаратуры для настаўнікаў, а таксама пачало выданне мастацкай літаратуры ў серыі «Школьная бібліятэка». У мэтах павелічэння выпуску кніг для дзяцей, а таксама нотна-музычнай літаратуры ў 1956 г. прымаюцца адпаведныя загады на ўзроўні Міністэрства культуры СССР (створана ў 1953 г.).

У пачатку 1950-х гг. адбываецца рэарганізацыя органаў кіравання кніжнай справай рэспублікі: у 1950 г. ствараецца сектар паліграфіі, выдавецтваў і кніжнага гандлю ў аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б, а Галоўнае ўпраўленне па справах паліграфічнай прамысловасці, выдавецтваў і кніжнага гандлю (дзейнічала пры Савеце Міністраў БССР) ў 1953 г. увайшло ў склад новастворанага Міністэрства культуры БССР (МК БССР), на базе якога арганізаваны Галоўнае ўпраўленне выдавецтвамі (Галоўвыдат) і Галоўнае ўпраўленне кніжным гандлем (Галоўкнігагандаль)[606]. Асноўная ўвага Галоўвыдата МК БССР сканцэнтравалася на ўкараненні перспектыўных і гадавых тэматычных планаў у дзейнасць выдавецтваў і кантролі за іх выкананнем. Пачынаючы з 1955 г. першыя беларускія выданні прымаюць удзел у міжнародных кніжных выстаўках у Варшаве і Лейпцыгу.

З адкрыццём у 1956 г. Паліграфічнага камбіната імя Я. Коласа ў Мінску — буйнейшага паліграфічнага прадпрыемства БССР, беларускае кнігавыданне атрымала магчымасць павысіць аператыўнасць і якасць сваёй працы, што дазволіла на адпаведным узроўні прадстаўляць кніжную прадукцыю рэспублікі на штогадовым Усесаюзным конкурсе па вылучэнні 50 лепшых па мастацкім афармленні і паліграфічным выкананні кніг (праводзіўся з 1956 г. па рашэнні МК СССР) і на Рэспубліканскім конкурсе на лепшае афармленне кнігі па мастацкай і дзіцячай літаратуры і на лепшы плакат (праводзіўся з




*Вокладка кнігі «Сто тысяч стрэл». Мінск, 1958 г.*

1960 г. па рашэнні МК БССР). БССР упершыню была адзначана на Усесаюзным конкурсе ў 1959 г., лаўрэатам якога стала выданне Дзяржвыдавецтва «Сто тысяч стрэл».

Сярод масавых тыражных выданняў БССР 1950—1960-х гг. — кнігі грамадска-палітычнай тэматыкі. Так, пасля XX з'езду КПСС (люты 1956 г.), які развянчаў культ асобы, галоўным кірункам у выдавецкай дзейнасці стала прапаганда рашэнняў з'езду. У 1957 г. у сувязі з 40-годдзем Кастрычніцкай рэвалюцыі выходзіць значная колькасць зборнікаў дакументаў, масавай і папулярнай літаратуры па вызначанай тэме. Садзейнічалі папаўненню рэпертуару навукова-тэхнічнай і сельскагаспадарчай літаратуры і новастворанныя рэдакцыйна-выдавецкі аддзел у Беларускім політэхнічным інстытуце (у 1957 г.), а таксама выдавецтва Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (у 1958 г.). На базе рэдакцыі сельскагаспадарчай літаратуры Дзяржвыдавецтва БССР і выдавецтваў Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР і Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў 1961 г. сфарміравана адзінае спецыялізаванае ***Выдавецтва сельскагаспадарчай літаратуры*** («Сельгасвыдат БССР»)[607].

Асабліва вызначальным для беларускага кнігавыдання ў 1960-я гг. стаў выпуск шматтомных збораў твораў беларускай мастацкай літаратуры: Я. Коласа (у 12 тамах, 1961—1964 гг.), Я. Купалы, К. Крапівы (у 4 тамах, 1963—1964 гг.), П. Броўкі (у 4 тамах, 1965—1966), І. Шамякіна (у 5 тамах, 1965—1966). Аднаўляўся і павялічваўся склад Саюза пісьменнікаў БССР, які ў 1965 г. налічваў 304 членаў (у параўнанні з 1940 г., калі пасля рэпрэсій у складзе было толькі 37 членаў)[608].

Па-ранейшаму значнае месца ў папаўненні кнігавыдавецкага рэпертуару рэспублікі мастацкай літаратурай займала Дзяржаўнае выдавецтва БССР, якім быў ажыццёўлены выпуск твораў В. Быкава («Жураўліны крык», 1960), І. Шамякіна («Трывожнае шчасце», 1960), І. Мележа («Людзі на балоце», 1962), Я. Брыля («Птушкі і гнёзды», 1964), У. Караткевіча («Каласы пад сярпом тваім», 1968) і інш. У 1959 г. былі выдадзены 22 першыя






*Тытульны ліст кнігі С. Дзяргая «Чатыры стыхіі». Мінск, 1962 г.*

кнігі беларускіх пісьменнікаў А. Бажко, А. Капусціна, Р. Барадуліна і інш. За зборнік вершаў «А дні ідуць...» П. Броўкі, выдадзены Дзяржвыдавецтвам у 1962 г., яго аўтар, быў узнагароджаны Ленінскай прэміяй.

Лепшыя мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў, выйшаўшыя з друку, адзначаліся і спецыяльнымі літаратурнымі прэміямі імя Я. Купалы і імя Я. Коласа. Сярод ўзнагароджаных названымі літаратурнымі прэміямі творы У. Дубоўкі, А. Макаёнка, І. Мележа (у 1962 г.), С. Дзяргая, К. Кірыенкі, Я. Брыля, В. Быкава (у 1963 г.), М. Аўрамчыка, А. Вялюгіна, П. Пестрака (у 1964 г.), І. Новікава, М. Лужаніна (у 1965 г.)[609].

У верасні 1963 г. у адпаведнасці з пастановай ЦК КПБ і СМ БССР «Аб упарадкаванні выдавецкай справы ў рэспубліцы і павышэнні ролі выдавецтваў у гаспадарчым і культурным будаўніцтве» ад 21 верасня 1963 г. пачалася маштабная рэарганізацыя, якая закранула як органы кіравання галіной, так і самі выдавецтвы. Для рэгулявання і кіравання выдавецкай дзейнасцю ў рэспубліцы быў створаны ***Дзяржаўны камітэт СМ БССР па друку*** (з 1978 г. — Дзяржаўны камітэт БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю, з 1995 г. — Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку). У выніку рэарганізацыі сеткі рэспубліканскіх выдавецтваў была вызначана спецыялізацыя кожнага з іх, а таксама выдавецтвы атрымалі новыя назвы.

Выдавецтва ***«Беларусь»*** (былое Дзяржаўнае выдавецтва БССР) заставалася універсальным выдавецтвам, аднак арыентаваным у першую чаргу на выпуск грамадска-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай літаратуры. Спецыялізацыя выдавецтва «***Навука і тэхніка***» (былое Выдавецтва АН БССР) вызначалася ў галіне навуковай і тэхнічнай літаратуры. Дзейнасць выдавецтваў ***«Народная асвета»*** (былое Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства культуры БССР), ***«Вышэйшая школа»*** (створана ў 1961 г. на базе Выдавецтва БДУ і рэдакцыйна-выдавецкага аддзела, мела назву Выдавецтва Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафе-




*І. Мележ. Людзі на балоце. Мінск, 1962 г.*

сійнай адукацыі БССР) была скіравана на забяспячэнне выпуску вучэбнай літаратуры як для агульнаадукацыйнай школы, так і для вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Атрымалі новыя назвы спецыялізаванае сельскагаспадарчае выдавецтва ***«Ураджай»*** (былое Выдавецтва сельскагаспадарчай літаратуры Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР) і выдавецтва ***«Полымя»*** (былое газетна-часопіснае Выдавецтва Міністэрства культуры БССР, заснаванае ў 1950 г.), спецыялізацыя якога вызначалася выпускам газет і часопісаў, каталогаў, рэкламна-інфармацыйнай прадукцыі, нарматыўных дакументаў па дамоўленасці з заказчыкамі. Выдавецтва ЦК КПБ ***«Звязда»*** заставалася газетна-часопісным выдавецтвам, дзейнічала выдавецтва ***«Статыстыка»***.

За Кніжнай палатай БССР захоўвалася права на выпуск кніжных летапісаў друку і некаторай бібліятэчна-бібліяграфічнай прадукцыі, а за Інстытутам навукова-тэхнічнай інфармацыі Дзяржаўнага камітэта СМ БССР па каардынацыі навукова-даследчых работ — права на выпуск экспрэс-інфармацыі і іншых інфармацыйных матэрыялаў і лістовак на ратапрынце[610].

На канец 1963 г. у БССР існавала 8 дзяржаўных выдавецтваў, выдавецкай дзейнасцю займаліся таксама навуковыя, навучальныя ўстановы, міністэрствы і ведамствы і іншыя дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі.

У 1965 г. на душу насельніцтва прыходзілася каля 3 выдадзеных кніг (у 1940 г. — 1,1). Рост колькасці назваў і тыражоў грамадска-палітычнай, сацыяльна-эканамічнай, мастацкай, навукова-тэхнічнай, сельскагаспадарчай і іншай літаратуры тым не менш не задавальняў чытацкія інтарэсы. Кніжны дэфіцыт, які заставаўся на працягу існавання савецкай улады, прапагандысцкая ідэалогія тлумачыла высокімі духоўнымі і маральнымі патрабаваннямі савецкіх людзей, якія жылі ў самай чытаючай краіне свету.

Разам з ростам колькасці выпускаемай кніжнай прадукцыі ў рэспубліцы з году ў год падае ўдзельная вага беларускамоўнай кніжнай прадукцыі і назіраецца, асабліва з




*К. Крапіва. Збор твораў у 4 тамах. Том 3. Мінск, 1956 г.*

1954 г., інтэнсіўнае папаўненне выдавецкага рэпертуару рускамоўнай кнігай [табл. 7].

Статыстыка ў моўным разрэзе па відах і тэматыцы выданняў за 1945—1965 гг., як і за 1971—1990 гг. адсутнічае. Аднак, што тычыцца мастацкай літаратуры, у тым ліку і дзіцячай, выдадзенай у 1946—1965 гг., агульная колькасць якой складае 2570 назваў, то ў яе складзе беларускай літаратуры налічвалася 1547 назваў (60,2%), рускай — 681 (26,5%), народаў СССР — 153 (6%), замежнай — 189 (7,3)[612]. Інтэрнацыянальны характар беларускай мастацкай літаратуры даволі шырока прапагандаваўся і асвятляўся. Як, напрыклад, тое, што за 1959—1965 гг. кнігі беларускіх пісьменнікаў 197 раз выдаваліся ў перакладзе на мовы народаў СССР: П. Броўкі — 16 разоў, І. Шамякіна — 11, Я. Брыля — 10, В. Быкава — 8, М. Танка і І. Мележа — па 6, Я. Коласа — 5. Творы Я. Купалы за 1917—1965 гг. выйшлі на 17 нацыянальных мовах 136 разоў тыражом звыш 4 млн. экз., Я. Коласа — выходзілі 54 разы[613]. Планавы выпуск перакладных твораў замежнай мастацкай літаратуры кантраляваўся і насіў строга дазіраваны характар.

**Моўны склад кніжных выданняў БССР (1945—1965)**[611] *Табліца 7*

| Год | На бел. мове ў % | На бел. мове | На рус. мове | На іншых | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1945 | 87,6 | 148 | 21 | — | 169 |
| 1946 | 79,5 | 206 | 52 | 1 | 259 |
| 1947 | 73 | 195 | 71 | 1 | 267 |
| 1948 | 56,6 | 288 | 219 | 2 | 509 |
| 1949 | 60,9 | 277 | 177 | 1 | 455 |
| 1950 | 56,7 | 349 | 267 | — | 616 |
| 1951 | 49,5 | 321 | 326 | 1 | 648 |
| 1952 | 55 | 375 | 307 | — | 682 |
| 1953 | 52,9 | 320 | 285 | — | 605 |
| 1954 | 58,4 | 428 | 305 | — | 733 |
| 1955 | 38,8 | 260 | 410 | — | 670 |
| 1956 | 37,9 | 281 | 461 | — | 742 |
| 1957 | 42,3 | 393 | 535 | — | 928 |
| 1958 | 40,1 | 478 | 709 | 4 | 1191 |
| 1959 | 43,3 | 571 | 744 | 2 | 1317 |
| 1960 | 26,5 | 425 | 1175 | 2 | 1602 |
| 1961 | 26,7 | 437 | 1197 | 4 | 1638 |
| 1962 | 27,5 | 444 | 1163 | 5 | 1612 |
| 1963 | 22 | 356 | 1247 | 13 | 1616 |
| 1964 | 17,5 | 341 | 1587 | 18 | 1946 |
| 1965 | 15,3 | 295 | 1631 | 5 | 1931 |

Статыстычныя дадзеныя, змешчаныя ў зборніку «Друк Беларускай ССР, 1966—1970» (Мінск, 1972), з'яўляюцца адзінай афіцыйнай крыніцай з савецкага часу, на падставе якой можна паказаць удзельную вагу пэўных відаў і тэматыку выданняў у моўным разрэзе[614]. Так, у 1966—1970 гг. найбольшыя колькасныя комплексы беларускамоўнай кніжнай прадукцыі па мэтавым прызначэнні складалі наступныя віды выданняў: мастацкая літаратура (444 назвы — 79% ад агульнай колькасці выдадзенай мастацкай літаратуры); вучэбная (426 — 44,9%); праграмная і метадычная (277 — 13,3%); масава-палітычная (200 — 33,4%); навуковая (159 — 12,7%); даведачная (88 — 9,7%). Рускамоўныя кніжныя выданні размеркаваліся так: вытворчыя і інструктыўныя (2347 — 98,7%); праграмныя і метадычныя (1794 — 86,3%); навуковыя (1091 — 87%); даведачныя (800 — 88,4%); вучэбныя (498 — 52,5%); масава-палітычныя (391 — 65,3%).

Калі асноўная частка беларускамоўнай вучэбнай літаратуры выходзіла для агульнаадукацыйных школ — 400 назваў (87%), то рускамоўнай — для вышэйшай школы — 311 (88,1%). Асноўная частка афіцыйных дакументаў выдавалася таксама на рускай мове — 297 назваў (92,2%). У якіх жа відах выданняў быў прыярытэт беларускамоўнай кнігі — гэта мастацкая (79%) і дзіцячая літаратура (65,6% — 261 назва), а таксама вучэбныя выданні для школы (87%).

Вызначым для прыкладу, тэматычныя прыярытэты ў моўным разрэзе выданняў за 1966—1970 гг. Так, асноўныя колькасныя групы беларускамоўных выданняў выглядаюць наступным чынам: мастацкая літаратура (682 назвы — 74,9% ад агульнай колькасці выдадзе-

**Моўны склад кніжных выданняў БССР (1966—1990)[616]** *Табліца 8*

| Год | На бел. мове ў % | На бел. мове | На рус. мове | На іншых | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| мовах | Усяго | 148 | 21 | — | 169 |
| 1966 | 23,7 | 333 | 1406 | 2 | 1741 |
| 1967 | 23,3 | 337 | 1444 | 3 | 1790 |
| 1968 | 30,8 | 449 | 1460 | 17 | 1926 |
| 1969 | 26,8 | 422 | 1575 | 11 | 2008 |
| 1970 | 25,1 | 431 | 1718 | 25 | 2174 |
| 1971 | 16,1 | 419 | 2135 | 44 | 2598 |
| 1972 | 15,5 | 400 | 2142 | 36 | 2578 |
| 1973 | 17,6 | 463 | 2137 | 36 | 2636 |
| 1974 | 14,1 | 438 | 2614 | 50 | 3102 |
| 1975 | 16,2 | 476 | 2405 | 60 | 2941 |
| 1976 | 16,7 | 416 | 2002 | 71 | 2489 |
| 1977 | 16,9 | 393 | 1853 | 84 | 2330 |
| 1978 | 15,2 | 397 | 2156 | 65 | 2618 |
| 1979 | 14,5 | 408 | 2340 | 58 | 2806 |
| 1980 | 12,3 | 371 | 2548 | 90 | 3009 |
| 1981 | 12,1 | 385 | 2713 | 83 | 3189 |
| 1982 | 13,5 | 394 | 2456 | 73 | 2923 |
| 1983 | 11,9 | 388 | 2762 | 114 | 3264 |
| 1984 | 11,6 | 380 | 2758 | 126 | 3264 |
| 1985 | 11,5 | 393 | 2931 | 107 | 3431 |
| 1986 | 12 | 381 | 2688 | 113 | 3182 |
| 1987 | 12,5 | 375 | 2507 | 119 | 3001 |
| 1988 | 13,7 | 407 | 2437 | 118 | 2962 |
| 1989 | 14,8 | 440 | 2437 | 103 | 2980 |
| 1990 | 15,4 | 435 | 2307 | 81 | 2823 |

най мастацкай літаратуры); культура, асвета, навука (239 — 23,6%); прыродазнаўства, матэматыка (198 — 25%); грамадска-палітычная і сацыяльна-эканамічная літаратура (187 — 13%); мовазнаўства (150 — 47,8%); літаратуразнаўства (139 — 84,2%). Рускамоўныя выданні прадстаўлены: грамадска-палітычная і сацыяльна-эканамічная літаратура (1237 назваў — 86,6%); тэхніка, прамысловасць, транспарт, сувязь, камунальная справа (2433 — 98,9%); сельская гаспадарка (822 — 93,7%); культура, асвета, навука (768 — 75,8%); прыродазнаўства, матэматыка (578 — 73%); ахова здароўя, медыцына (356 — 96,5%)[615].

Тэматычныя прыярытэты беларускамоўных выданняў 1966—1970 гг. адпаведна вызначаюцца ў мастацкай літаратуры, літаратуразнаўстве і мовазнаўстве. За рускамоўнымі выданнямі застаецца астатняя вызначаная тэматыка, якая ахоплівала амаль усе сферы жыццядзейнасці краіны: палітыку, эканоміку, тэхніку, сельскую гаспадарку, медыцыну, культуру. Падобная карціна ў кнігавыдавецкай сферы БССР захоўвалася практычна да 1990 г. [табл. 8].

Актывізацыя выдання твораў беларускай мастацкай і даведачнай літаратуры звязана з адкрыццём у другой палове 1960-х — 1970-я гг. новых выдавецтваў. У снежні 1966 г. прынята рашэнне аб стварэнні ***Галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі*** пры АН Беларусі (1967 г., з 1980 г. — выдавецтва). Упершыню рашэнне аб выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі было прынята старшынёй ЦВК СССР і БССР А. Чарвяковым і першым сакратаром ЦК КП(б)Б М. Гікала ў сярэдзіне 1930-х гг. Мелася выдаць 10 тамоў, галоўным рэдактарам быў прызначаны прэзідэнт Акадэміі навук П. Горын, яго намеснікамі — акадэмікі С. Вальфсон, Ц. Бурстын і Н. Мешчаракоў. Быў распрацаваны і выдадзены асобнымі выпускамі праект слоўніка. На гэтым справа спынілася — былі рэпрэсіраваны кіраўнікі, якія прымалі рашэнне аб выданні энцыклапедыі.

У 1966 г. узначаліць энцыклапедыю першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў прапанаваў паэту Петрусю Броўку, з якім ён сябраваў: «За новую справу Пётр Усцінавіч узяўся з усім энтузіязмам. Дамогся таго, каб замест 8 тамоў энцыклапедыі запланавалі 12, каб быў пабудаваны асобны будынак, стварае высокапрафесійны калектыў...»[617].

У 1972 г. было створана спецыялізаванае выдавецтва ***«Мастацкая літаратура»***, якое вылучылі з некалькіх рэдакцый выдавецтва «Беларусь». У гэты час заснаваны такія серыі па выданні мастацкай літаратуры, як «Беларускі раман», «Бібліятэка беларускай прозы», «Бібліятэка беларускай драматургіі», «Бібліятэка беларускай аповесці» і інш.

У 1977 г. афіцыйны статус кніжнага выдавецтва набывае ***«Полымя»***.

У 1981 г. злучэннем рэдакцый «Мастацкай літаратуры» і «Народнай асветы» ствараецца новае выдавецтва — ***«Юнацтва»***. Адным з кірункаў дзейнасці новага выдавецтва стала падрыхтоўка дзіцячай літаратуры на замежных мовах, па заказах замежных фірм. У 1970—1980-я гг. беларускія выданні экспанаваліся ў 102 краінах свету[618].

Для кнігавыдання БССР характэрна тэндэнцыя, якая пачала складвацца яшчэ ў XIX ст. — гэта канцэнтрацыя выдавецкай актыўнасці ў Мінску ў параўнанні з такімі рэгіёнамі, як Гродна, Віцебск, Магілёў і інш. У савецкі час у Мінску, сталіцы БССР, былі заснаваны і дзейнічалі ўсе дзяржаўныя выдавецтвы рэспублікі На долю рэгіянальнага друку ў сярэднім прыпадала ад 7,6 да 4,1% [табл. 9—10].

На 1991 г. Мінску належала больш за 95% ад усёй колькасці выдадзеных найменняў кніг і брашур краіны [табл. 10] і 99% іх тыражу.

**Выпуск кніг і брашур па тэрытарыяльнай прыкмеце (1966—1970)[619]** *Табліца 9*

| Год | Колькасць кніжнай прадукцыі па назвах | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Месца выдання | Мінск | Брэст | Віцебск | Гомель | Гродна | Магілёў | Іншыя |
| 1966 | 1572 | 15 | 23 | 64 | 10 | 11 | 46 |
| 1967 | 1674 | 5 | 16 | 53 | 5 | 1 | 36 |
| 1968 | 1787 | 7 | 16 | 68 | 7 | 4 | 37 |
| 1969 | 1845 | 2 | 14 | 69 | 10 | 17 | 51 |
| 1970 | 2046 | 10 | 18 | 43 | 8 | 18 | 31 |
| Усяго | 8924 | 39 | 87 | 297 | 40 | 51 | 201 |
| Усяго ў % | 92,6 | 0,4 | 0,9 | 3,1 | 0,4 | 0.5 | 2,1 |

Важкі ўклад у развіццё нацыянальнага кнігавыдання зрабілі створаныя ў выдавецтве «***Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі***» першая ў Беларусі універсальная 12-томная «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» (1969—1975 гг.; Дзяржаўная прэмія БССР 1976 г.), персанальныя энцыклапедыі, прысвечаныя Янку Купалу і Францыску Скарыне, шэраг рэгіянальных галіновых і тэматычных энцыклапедычных выданняў, у іх ліку 5-томная «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» (1984—1987 гг.), 5-томная «Энцыклапедыя прыроды Беларусі» (1983—1986 гг., адзначана медалём ЮНЕП). Па рэкамендацыі ЮНЕСКА падрыхтаваны першы ў свеце 7-томны «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (1984—1988 гг., Дзяржаўная прэмія БССР 1990 г.). Важнай падзеяй было ажыццяўленне выдавецкага праекта па зборы і факсімільным ўзнаўленні Біблії Ф. Скарыны (3 тамы, 1990—1991 гг.).

Фундаментальныя выданні па граматыцы беларускай мовы, гісторыі беларускай літаратуры, беларускага тэатра, дзяржавы і права Беларусі выпусціла выдавецтва ***«Навука і тэхніка»***, у іх ліку 6-томная «Гісторыя беларускага мастацтва» (1987—94 гг.). З 1970 г. у выдавецтве прыступілі да выпуску шматтомнага навуковага выдання беларускага фальклору «Беларуская народная творчасць» (выдадзена больш за 40 тамоў).

Прыярытэтным кірункам выдавецтва ***«Мастацкая літаратура»*** быў выпуск




*Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Том 12. Мінск, 1975 г.*

**Выпуск кніг і брашур па тэрытарыяльнай прыкмеце (1981—1990)**[620] *Табліца 10*

| Год | Колькасць кніжнай прадукцыі па назвах | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Месца выдання | Мінск | Мінская вобл. | Брэст і вобл. | Віцебск і вобл. | Гомель і вобл. | Гродна і вобл. | Магілёў і вобл. |
| 1981 | 3047 | 6 | 3 | 14 | 77 | 10 | 32 |
| 1982 | 2763 | 3 | 1 | 15 | 78 | 18 | 45 |
| 1983 | 3100 | 7 | 1 | 15 | 70 | 33 | 38 |
| 1984 | 3110 | 3 | 4 | 14 | 76 | 14 | 43 |
| 1985 | 3303 | 1 | 8 | 11 | 43 | 26 | 39 |
| 1986 | 3087 | 1 | 4 | 11 | 30 | 21 | 28 |
| 1987 | 2933 | 2 | 2 | 5 | 26 | 10 | 23 |
| 1988 | 2890 | – | 7 | 4 | 24 | 9 | 28 |
| 1989 | 2869 | 3 | 13 | 10 | 32 | 14 | 39 |
| 1990 | 2665 | 3 | 12 | 10 | 46 | 29 | 58 |
| Усяго | 29767 | 29 | 55 | 109 | 502 | 184 | 373 |
| Усяго ў % | 95,9 | 0,1 | 0,2 | 0,4 | 1,6 | 0,6 | 0,1 |

→ *Тытульны ліст выдання «Кніга Беларусі. Зводны каталог». Мінск, 1986 г.*

ГОСУДАРСТВЕННАЯ ОРДЕНА ТРУДОВОГО КРАСНОГО ЗНАМЕНИ
БИБЛИОТЕКА БССР имени В. И. ЛЕНИНА
БЕЛОРУССКАЯ СОВЕТСКАЯ ЭНЦИКЛОПЕДИЯ




# СВОДНЫЙ КАТАЛОГ



МИНСК
ИЗДАТЕЛЬСТВО «БЕЛОРУССКАЯ СОВЕТСКАЯ ЭНЦИКЛОПЕДИЯ»
имени ПЕТРУСЯ БРОВКИ
1986

ДЗЯРЖАЎНАЯ ОРДЭНА ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЦЯГА
БІБЛІЯТЭКА БССР імя У. І. ЛЕНІНА
БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ




# ЗВОДНЫ КАТАЛОГ



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
імя ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1986

*Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мінск, 1987 г.*




*П. Броўка. Збор твораў у 4 тамах. Том 1. Мінск, 1987 г.*




збораў твораў і выбраных твораў беларускіх пісьменнікаў, іх літаратурнай спадчыны, кніг па літаратурзнаўстве і крытыцы, а таксама твораў пісьменнікаў народаў СССР і замежных краін. Упершыню выйшлі факсімільныя выданні М. Багдановіча, Я. Купалы, М. Танка і інш. З 1989 г. пачаты выпуск беларускамоўнай 100-томнай серыі «Скарбы сусветнай літаратуры». Па дадзеных дзяржаўнай кніжнай статыстыкі сярод выпушчаных выданняў беларускай мастацкай літаратуры большасць складаюць кнігі Я. Коласа (216), Я. Купалы (130), А. Якімовіча (102), М. Лынькова (93), М. Танка (82).

Звод дзіцячай літаратуры складаюць шматтомныя выданні выдавецтва ***«Юнацтва»***, якое спецыялізавалася на выпуску дзіцячай беларускай і сусветнай класікі, твораў сучасных майстроў мастацкага слова, навукова-пазнавальнай літаратуры на беларускай, рускай і іншых мовах. Сярод найбольш значных выданняў — 15-томная «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР» (1981—94 гг., Дзяржаўная прэмія 1996 г.).

Падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, метадычныя і дыдактычныя выданні для агульнаадукацыйнай школы, навукова-папулярную і даведачную літаратуру, кнігі па гісторыі Беларусі, мастацтве і архітэктуры, краязнаўстве выпускалі выдавецтвы ***«Народная асвета»***, ***«Вышэйшая школа»***, ***«Універсітэцкае»*** і інш.

На 1.1.1991 г. у Беларусі дзейнічалі 11 дзяржаўных выдавецтваў [табл. 11].

Усяго за перыяд існавання БССР (1919—1991 гг.) дзяржаўнымі выдавецтвамі было выпушчана 106 352 назвы кніг і брашур тыражом 1 426 164 тыс. экз. Найбольшая колькасць найменняў выйшла ў 1985 г. — 3 431 экз., адначасова ў 1985 г. беларускамоўная кніга мела самую нізкую ўдзельную вагу — 11,5% [табл. 8]. У кнігавыданні БССР з году ў год назіралася памяншэнне выпуску кніг на беларускай мове. Калі ў 1930 г. у БССР выданне кніг на беларускай мове складала 88,4% (1170 назваў тыражом 7842,4 тыс. экз.), на яўрэйскай — 5% (66 назваў тыражом 307,8 тыс. экз.), на рускай — 4,2% (56 назваў 147,1 тыс. экз.), на іншых мовах — 2,4% (31 назва тыражом 131 тыс. экз.), то ў 1990 г. на рускай мове выдадзена 81,7% (2307 назваў тыражом 44 793 тыс. экз.), на беларускай — 15,4% (435 назваў тыражом 9238,3 тыс. экз.), на іншых мовах — 2,9% (81 назва тыражом 877,5 тыс. экз.)[621].

Аднак кнігавыданне БССР, у распараджэнні якога ў 1970-я гг. была адладжаная сістэма з 10 спецыялізаванымі выдавецтвамі, 70 буйнейшымі паліграфічнымі

прадпрыемствамі, больш чым 500 кніжнымі магазінамі і 1100 кіёскамі па ўсёй рэспубліцы, не магло задаволіць чытацкі попыт.

Беларускае кніжнае мастацтва для розных жанраў літаратуры 1960-х — сярэдзіны 1990-х гг. развівалася пераважна па агульных стылістычных прынцыпах, у рэчышчы адзіных тэндэнцый. Якасна новы этап, абумоўлены развіццём выяўленчага мастацтва і літаратуры, выразна выявіўся ў пачатку 1960-х гг. Новыя рысы кніжнай графікі праявіліся ў значным пашырэнні графічных сродкаў выразнасці. Крыху пазней, у 1970-я гг., мастацка-практычны вопыт стаў набываць сістэмнасць і ўпарадкаванасць. Пашырыўся комплексна-канструктыўны метад афармлення, беларуская кніга набыла рысы адметнасці і ансамблевага адзінства. Асноўным фактарам існавання гэтых асаблівасцей было тое, што да 1981 г. (год утварэння выдавецтва «Юнацтва») кніжнае афармленне мастацкай літаратуры для ўсіх узроставых груп было сканцэнтравана ў адным выдавецтве («Мастацкая літаратура»).

Да сярэдзіны 1980-х гг. у Беларусі склалася адметная еўрапейская школа кніжнай графікі са сваімі выразнымі прыкметамі, вобразна-графічная дэкаратыўнасць стала больш адметнай у афармленні беларускіх кніжных выданняў. Такія мастакі, як М. Селяшчук, У. Савіч, Б. Забораў, В. Славук і інш. выкарыстоўвалі шмат у чым універсальныя мастацкія метады і прыёмы афармлення розных жанраў літаратуры. Разам з тым працавалі мастакі, якія актыўна выяўлялі дыферэнцыраванасць падыходаў пры афармленні (Г. Паплаўскі, А. Кашкурэвіч, В. Шаранговіч і інш.). Гарманічнае спалучэнне розных падыходаў адлюстроўвае разнастайнасць беларускага кніжнага мастацтва 1960 — сярэдзіны 1990-х гг.[622]

**Выданне кніг у БССР асобнымі выдавецтвамі за час іх існавання** *Табліца 11*

| № п/п | Выдавецтвы, якія дзейнічалі на 1.1.1991 г. | Дата заснавання | Усяго выдадзена кніг і брашур | |
|---|---|---|---|---|
| | | | назвы | тыраж (тыс. экз.) |
| 1. | «Беларускі Дом друку» (да 1922 г. — выдавецтва «Звязда») | 1917 | 250 | 9212 |
| 2. | «Беларусь»<br>— Дзяржаўнае выдавецтва БССР (1921—1963) | 1921 | 21 913 | 370 969 |
| 3. | «Навука і тэхніка»<br>– рэдакцыйна-выдавецкі аддзел Інбелкульта (1924—1926);<br>– выдавецтва Інбелкульта (1926—1932);<br>– Выдавецтва АН БССР (1932—1963) | 1924 | 5358 | 22 122 |
| 4. | «Полымя»<br>— з 1977 г. — кніжнае выдавецтва | 1950 | 4242 | 92 384 |
| 5. | «Народная асвета»<br>— Вучэбна-педагагічнае выдавецтва БССР (1951—1963) | 1951 | 7656 | 341 494 |
| 6. | «Універсітэцкае»<br>— Выдавецтва БДУ (1953—1962, 1967—1984) | 1953 | 2017 | 21 907 |
| 7. | «Вышэйшая школа» (з 1961 г.) | 1953 | 4613 | 74 516 |
| 8. | «Ураджай»<br>— Выдавецтва сельскагаспадарчай літаратуры (1961—1963) | 1961 | 3888 | 60 702 |
| 9. | «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя П. Броўкі»<br>— Галоўная рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыклапедыі АН БССР (снежань 1966—1980);<br>— Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» (1980—1991) | 1967 | 214 | 11 875 |
| 10. | «Мастацкая літаратура» | 1972 | 3511 | 155 020 |
| 11. | «Юнацтва» | 1981 | 1313 | 120 126 |

→ *Разварот кнігі «The Greedy Rich Man» з малюнкамі М. Селешчука.*





fisherman, "I'll try my luck just once more." He cast the line and caught so amazing a fish he had never seen in all his life — how large she was and all silvery. To see this wonderful fish was to marvel! And how happy it made him! He was about to stuff the fish into his bag, when all of a sudden she spoke up in a human voice:

"Don't kill me, good man, let me go back into the lake."

The fisherman thought of his own children and said:

"I can't let you go — I am hungry myself and it's a long time since my children have had anything to eat. How can I return home empty-handed?"

"If you are so poor, I'll help you," the fish said. "Put your hand into my mouth and take a gold ring there."

The fisherman thought a while and said:

"I'm afraid you can bite my hand off!"

"Oh! Don't be afraid! I won't bite it off!"

The fisherman plucked up his courage, stuck his hand into the mouth of the fish and pulled out the gold ring.

## Перыёдыка пасля Другой сусветнай вайны

Ад моманту вызвалення Беларусі ў 1944 г. сістэма газет і часопісаў Беларусі ствралася практычна нанава[623]. Падчас вайны на тэрыторыі БССР выдавалася вялікая колькасць партызанскіх газет, але ні друкарні, ні калектывы гэтых рэдакцый не гатовы былі да выпуску штодзённых газет. Таму ў тэрміновым парадку пасля вызвалення чарговай адміністрацыйнай адзінкі там будавалася друкарня, і газета запускалася ў вытворчасць. Так, першы нумар газеты «Советская Белоруссия», які выйшаў у Мінску, датуецца канцом ліпеня 1944 г. Хутчэй за ўсё, спачатку для выдання такіх газет выкарыстоўваліся франтавыя перасоўныя друкарні. Аднатыпным стаў і воблік газеты — з-за новага друкарскага абсталявання газеты выходзілі альбо фарматам газеты «Правда» (блізкім да сучаснага фармату А2), або ў палову (ці ў чвэрць) гэтага фармату.

У 1945 г. адноўлены часопісы «Беларусь» і «Бальшавік Беларусі», утвораны часопіс гумару і сатыры «Вожык» (у 1945 г. выйшла 5 нумароў, з 1948 г. «Вожык» стаў двухтыднёвікам). У 1946 г. працягнулася выданне часопіса для жанчын, але ён называўся ўжо не «Работніца і калгасніца Беларусі», як у 1931—1941 гг., а «Работніца і сялянка». Савецкая статыстыка паказала, што ў 1917—1949 гг. выйшла 224 розныя беларускія часопісы, з якіх у Мінску — 181, у Гомелі — 21, у Віцебску — 18, у Горках Магілёўскай вобласці — 11, у Бабруйску — 6, у Клімавічах — 3, у Оршы — 3, у Смаленску, Шклове і Магілёве — па 1-ым[624].

З пачатку 1945 г. на тэрыторыі БССР існавала сістэма рэспубліканскіх газет, асаблівасцю якой было паралельнае выданне газет адной і той жа тэматыкі на рускай і беларускай мове:

2 партыйныя газеты — «Звязда» і «Советская Белоруссия»,

2 камсамольскія — «Чырвоная змена» і «Сталинская молодежь»,

2 піянерскія — «Піянер Беларусі» і «Зорька»,

сялянская — «Калгасная праўда» (са снежня 1947 г. паралельна з ёй выдавалася газета «Колхозная правда» на рускай мове),

ваенная — «Во славу Родины» (да 1947 г. называлася «Красноармейская правда» і друкавалася ў Бабруйску),

літаратурная — «Літаратура і мастацтва»,

педагагічная — «Настаўніцкая газета».

Тая самая карціна назіралася і сярод абласных газет — многія з іх выходзілі паралельна на рускай і беларускай мове. Так, у Баранавічах паралельна выдаваліся газеты «Чырвоная звязда» і «Красная звезда»; у Брэсце — «Зара» и «Заря», у Гродне — «Гродзенская праўда» і «Гродненская правда»; у Маладзечне — «Крестьянская газета» і «Сялянская газета»; у Пінску — «Полесская правда» і «Палеская праўда»; у Полацку — «Сцяг камунізма» і «Большевистское знамя». Гэтыя газеты выходзілі 5 разоў на тыдзень кожная, і выдаткі на іх выданне былі даволі значнымі.

Пасля вайны ў Беларусі перасталі выдавацца газеты на польскай і яўрэйскай мовах. Па меры ўзнаўлення прамысловасці і інфраструктуры БССР аднанавіліся шматтыражныя газеты, якія не выходзілі падчас вайны.

У 1951—1952 гг. выдаваліся дзве спартыўныя газеты — «Фізкультурнік Беларусі» і «Физкультурник Белоруссии». У Мінску пачала выдавацца абласная газета «Мінская праўда».

У 1950 г. пры кожнай раённай машынна-трактарнай станцыі (МТС) пачалі выдавацца свае газеты. Гэта прывяло да значнага павелічэння колькасці выданняў. У 1950 г. колькасць газет, выдаваных у Беларусі, дайшла да 337. Узровень гэтых «нізавых» выданняў быў невысокі, бо ў кожным раёне павінна была выдавацца не толькі газета райкома КПБ, але і газеты буйных калгасаў і саўгасаў, а таксама газета МТС. Карэспандэнтаў для такой колькасці выданняў не хапала, і выходзіла маса аднайменных, падобных адна на адну газет, доля карыснай інфармацыі ў якіх была вельмі нязначнай. Так, газеты МТС з назвай «Калгаснае жыццё» выдаваліся ў Ганцавічах, Докшыцах, Івацэвічах, Лынтупах, Ружанцы.

У 1953—1954 гг. газеты МТС спынілі сваё існаванне, што адразу адбілася на колькасці выданняў. Калі ў 1950 г. іх было 337, то ў 1954 — 216. Цікава, што разам з скарачэннем колькасці выданняў, гадавы тыраж іх вырас з 152 802 тыс. экз. у 1950 г. да 228 924 тыс. экз у 1954 г.

У 1955 г. у Берліне пачала выдавацца газета «Голас Радзімы» Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой. У 1960 г. рэдакцыя гэтай газеты была перанесена ў Мінск, галоўнымі пытаннямі, якія ў ёй асвятляліся, былі жыццё Беларусі і яе культура.

Наступная буйная рэарганізацыя газетнай сістэмы БССР прыйшлася на 1962 г. Як немэтазгодныя, былі скарочаны шматлікія газеты, якія выдаваліся паралельна на дзвюх мовах. З-за рэформы адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення таксама былі рэарганізаваны і многія раённыя газеты.

Пасля рэарганізацыі з цэнтральных газет засталіся:

партыйныя — «Звязда» і «Советская Белоруссия»,

камсамольскія — «Чырвоная змена» і «Знамя юности» (былая «Сталинская молодежь»),

піянерскія — «Піянер Беларусі» і «Зорька»,

па пытаннях культуры і мастацтва — «Літаратура і мастацтва» і «Голас Радзімы»,

сялянскія — «Сельская газета» (былая «Колхозная правда», аднайменная газета на беларускай мове закрыта),

педагагічная — «Настаўніцкая газета»,

спартыўная — «Физкультурник Белоруссии» (аднайменная газета на беларускай мове была закрыта).

З абласных газет былі закрыты: брэсцкая «Зара», у Гродне — «Гродзенская праўда», пасля ўзбуйнення абласцей перасталі існаваць баранавіцкая газета «Знамя коммунизма» (былая «Красная звезда») і пінская «Полесская правда».

Нягледзячы на няўхільны рост гадавых тыражоў (з 323 586 тыс. экз. у 1960 г. да 665 108 у 1970 г.), дынаміка ліквідацыі беларускіх газет была прагрэсіруючай: у 1960 г. у БССР выдавалася 194 газеты, з іх 154 на беларускай мове і 45 на рускай, у 1970 г. — 172 газеты, з іх 130 на беларускай і 43 на рускай. Па тыражах карціна выглядала яшчэ цікавей: у 1960 г. на беларускай мове выходзіла 150 мільёнаў экзэмпляраў газет у год, на рускай — 174 мільёны, у 1970 г. на беларускай мове выдавалася 243 мільёны экзэмпляраў, на рускай — 422 мільёны. І з цягам часу розніца паміж тыражамі газет на беларускай і рускай мовах толькі ўзмацнялася.

У 1970 г. да рэспубліканскіх была далучана газета «Железнодорожник Белоруссии» (газета ўпраўлення Беларускай чыгункі, якая з 1936 па 1953 г. выдавалася ў Гомелі) і газета МУС БССР «На страже Октября». З абласных газет выдаваліся шэсць: «Заря» у Брэсце, «Віцебскі рабочы» ў Віцебску, «Гомельская праўда» ў Гомелі, «Гродненская правда» ў Гродне, «Мінская праўда» ў Мінску і «Магілёўская праўда» ў Магілёве. У Мінску пачынаюць выходзіць дзве гарадскія газеты «Вечерний Минск» і «Вячэрні Мінск». З 1974 г. у газеты «Вечерний Минск» з'явіўся рэкламны дадатак.

Сістэма рэспубліканскіх газет БССР не мянялася да канца 1989 г., калі да рэспубліканскіх газет дадалася штотыднёвая прафсаюзная газета «Праца» на беларускай мове. Сістэма абласных газет таксама заставалася нязменнай, толькі ў 1986 г. практычна кожная абласная газета пачала выдаваць рэкламныя дадаткі па прыкладзе «Вячэрняга Мінска».

## Неўміручы інстытут цэнзуры

У пару «хрушчоўскай адлігі» ў Мінску пад грыфам «Рассылаецца па спісу. Экз. №__» выйшаў цэнзурны спіс, які ў значнай частцы ўключаў выданні, якія ўжо былі выдалены з грамадскага ўжытку паводле папярэдніх загадаў і практычна адсутнічалі ў бібліятэках і ў беларускім букіністычным кнігагандлі[625]. Ён большай часткай (на 95%) складзены з даваенных выданняў: кнігі 1918—1929 гг. — 217 назваў, кнігі выдадзеныя ў 1930—1939 — 147 назваў, кнігі 1940—1949 гг. — 6 назваў, выданні 1950—1959 гг. — 14 назваў. Усяго 328 кніг на беларускай, 35 на рускай, 17 на яўрэйскай і 4 на польскай мовах. Аднак і такая, на першы погляд «запозненая» забарона прыносіла свае вынікі, служыла «тонкай зачысткай», пазбаўляла магчымасці карыстацца кнігай там, дзе гэта яшчэ было магчыма.

*А. Бембель. Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс. Лондан, 1985 г.*



выражанага непадцэнзурнага самвыдату ў БССР адзначаецца ў 1971 — пачатку 1973 г., першынцам якога стаў Наваполацкі рукапісны часопіс «Блакітны ліхтар», які выпускалі студэнты-літаратары[627]. Вядомы таксама такія машынапісныя перыядычныя выданні, як літаратурны часопіс «Мілавіца» (Мінск, 1974—1976 гг.), грамадска-палітычныя — «Аб усім, што баліць» (або «Гутаркі». Мінск, 1975—1976 гг.); «Люстра дзён» (Еўе, 1979—1980 гг.); «Бурачок» (Мінск, 1986—1987 гг.).

У сярэдзіне 1970-х гг. самвыдат быў скіраваны, у асноўным, на капіраванне раней выйшаўшых кніг па гісторыі і культуры Беларусі, папулярным «самвыданнем» была ананімная на той час паэма «Сказ пра Лысую гару». Паступова на старонках самвыдату з'яўляюцца палемічныя артыкулы, выкрывальніцкія вершы, гістарычныя даследаванні, якія па-новаму асэнсоўвалі мінулае Беларусі. У гэты час адбываецца і ўдасканаленне тэхнікі самвыдату: пачынае выкарыстоўвацца ксеракс. Аднак тыражы самвыдавецкіх выданняў заставаліся вельмі малымі — 10—30 экз. Сярод першых аб'ёмных кніжных выданняў неабходна назваць факсімільнае выданне на ратапрынце «Падручнага расейска-крыўскага (беларускага) слоўніка» В. Ластоўскага (Коўна, 1924), якое было здзейснена ў 1982 г. у Наваполацку.

У пачатку 1980-х гг. дзякуючы беларускаму самвыдату адбываецца знаёмства з беларускімі эміграцкімі выданнямі — мастацкай літаратурай, гісторыка-культуралагічнымі працамі, рэлігійнымі выданнямі, якія шляхам капіравання распаўсюджваюцца сярод пэўнага кола інтэлігенцыі. У 1985 г. у Лондане выйшла і першае, як адзначаюць даследчыкі, беларускае дысідэнцкае выданне — «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» А. Бембеля.

Значнага маштабу дасягнуў у 1981—1990 гг. беларускі пазацэнзурны друк у Польшчы. Беластоцкі даследчык В. Харужы выявіў каля 50 назваў такіх выданняў (брашур, перыядычных выданняў, спеўнікаў, лістовак і інш.), якія мелі агульны тыраж больш за 20 тыс. экзэмпляраў[628].

У часы «перабудовы», асабліва з 1988 г., выпуск непадцэнзурнай перыёдыкі ў Беларусі ўсё больш актывізуецца і набірае моц. На пачатку 1990-х гг. у Беларусі налічвалася ўжо звыш 50 назваў нефармальных часопісаў і газет[629]. Шэраг суб'ектаў самвыдата сталі пазней прыватнымі выдавецтвамі.

## Бібліятэкі ў Савецкай Беларусі

Пасля ўтварэння БССР рэспубліка пачала культурнае (у тым ліку бібліятэчнае) будаўніцтва практычна з чыстага аркуша. У 1921 г. у сталіцы была заснавана навуковая бібліятэка Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1922 г. яна была пераўтворана ў аб'яднаную Беларускую дзяржаўную і універсітэцкую бібліятэку з функцыямі нацыянальнай бібліятэкі: атрымлівала і захоўвала абавязковы экзэмпляр, вяла міжнародны кнігаабмен. Істотным і якасным яе папаўненнем на самым пачатку (у 1922 г.) стала асабістая бібліятэка акадэміка Яўхіма Карскага. Я. Карскі быў запрошаны ў Мінск для працы ў Беларускім універсітэце (у ім бачылі будучага рэктара), аднак з мінчанамі агульнай мовы не знайшоў і вярнуўся ў Петраград. Кнігі яго (каля 3 тысяч) засталіся ў Мінску, у бібліятэку таксама паступіла шмат рэдкіх выданняў з зачыненых падчас Першай сусветнай і савецка-польскай войнаў і рэарганізаваных устаноў (у тым ліку навучальных). Ад 1926 г. галоўная бібліятэка краіны стала называцца Беларускай дзяржаўнай бібліятэкай (з 1932 г. — імя У. Леніна), а універсітэт пачаў збіраць сваю асобную бібліятэку (адчынілася ў 1931 г.).

Другая па велічыні і значнасці бібліятэка Беларусі заснавана ў 1925 г. пры Інстытуце беларускай культуры. У 1929 г. Інбелкульт быў пераўтвораны ў Акадэмію навук, адначасова ў склад АН увайшла яго бібліятэка. Асновай гэтага кнігазбору стала калекцыя кніг Браніслава Эпімах-Шыпілы, якую ён перадаў АН у 1929 г. — больш за 5 тысяч тамоў, пераважна па беларусазнаўстве.

У 1933 г. на аснове фондаў падручных бібліятэк Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР, Савета Народных Камісараў, Дзяржплана і асобных наркаматаў быў створаны філіял Дзяржаўнай бібліятэкі БССР пры Доме ўрада (з 1936 г. — Урадавая бібліятэка). Перад вайной яна мела ўжо каля 250 тыс экз. кніг, газет і часопісаў.

Штуршок для стварэння сеткі масавых бібліятэк у Беларусі як адной з рэспублік СССР даў Першы Усесаюзны з'езд бібліятэкараў 1924 г., на якім з праграмным дакладам «Ленінізм і бібліятэчная работа» выступіў Леў Троцкі. Хуткім часам былі таксама арганізаваны бібліятэкі ў абласных цэнтрах: у 1925 г. — у Віцебску, у 1928 г. — у Магілёве, у 1933 г. — у Гомелі.

Працай з бібліятэкарамі Беларусі займаўся Народны камісарыят асветы рэспублікі. Па яго ініцыятыве з 20 снежня 1931 г. па 3 студзеня 1932 г. у Мінску прайшла Першая ўсебеларуская канферэнцыя-курсы, на якую было камандзіравана каля 40 бібліятэчных работнікаў з розных раёнаў БССР. У рэзалюцыях канферэнцыі былі пастаўлены задачы змагацца супраць ідэалагічна-варожых буржуазных плыняў у бібліятэчнай справе, дэкларавалася, што бібліятэка павінна стаць цэнтрам камуністычнай прапаганды і ўцягвання шырокіх працоўных мас у сацыялістычнае будаўніцтва. Бібліятэка павінна весці паслядоўную рашучую барацьбу з адхіленнямі ад генеральнай лініі партыі. Канферэнцыя паставіла задачу: давесці кніжны фонд бібліятэк на працягу 1932 г. у горадзе да 2 кніг і ў вёсцы да 1 кнігі на душу насельніцтва. Адначасова канстатавалася, што «бібліотэкі яшчэ засьмечаны варожаю, шкоднаю і ідэолёгічнанявытрыманаю літаратураю. Органам нарасьветы і загадчыкам бібліотэк з удзелам мясцовых партыйных, савецкіх і грамадскіх організацый, прыцягнуўшы марксысцкія навуковыя і спэцыяльныя сілы, а таксама чытачоў, трэба разгарнуць сыстэматычную праверку і ачыстку бібліотэк — перш-на-перш масавых»[630]. Асаблівая ўвага канферэнцыі была звернута на арганізацыю аддзелу тэхнікі Дзяржаўнай бібліятэкі, які павінен абслугоўваць вытворчасць і прасоўваць тэхнічную кнігу, практычна выконваць лозунг пра авалоданне тэхнікай. Вырашана было стварыць пры Дзяржаўнай бібліятэцы цэнтр рэкамендацыйнай бібліяграфіі, які б заняўся выданнем анатаваных рэкамендацыйных бюлетэняў і спісаў. Канферэнцыя вітала выданне Дзяржаўным выдавецтвам Беларусі разам з Дзяржаўнай бібліятэкай спецыяльнага часопіса «Кніга — масам».

Значны ўплыў на развіццё бібліятэк БССР мела пастанова ЦВК СССР 1934 г. «Пра бібліятэчную справу ў Саюзе ССР». Камуністычная партыя ўсведамляла вялікую сілу друкаванага слова і кантралявала карыстанне гэтым рэсурсам, з аднаго боку разбудоўваючы сетку бібліятэк для пашырэння пісьменнасці і адукаванасці грамадства, з другога боку — трымаючы пад кантролем рэпертуар чытання пераважнай большасці насельніцтва. Бібліятэкі пастаянна праходзілі чыстку фондаў, з іх выдаляліся «шкодныя» кнігі, напісаныя рэпрэсіраванымі «ворагамі народа». Пасля далучэння да БССР Заходняй Беларусі былі створаны абласныя бібліятэкі ў Брэсце і Гродна.

Усяго на пачатак 1941 г. у БССР працавалі 4172 масавыя бібліятэкі з кніжным фондам больш за 5 млн. экз. і больш за 500 навуковых бібліятэк з кніжным фондам амаль 5 млн. экз. У вайну пераважная большасць гэтага кніжнага фонду была страчана.

У час Другой сусветнай вайны фонды Дзяржаўнай бібліятэкі Беларусі былі вывезены акупантамі ў Германію, пасля вайны частка іх вернута, у тым ліку вярнулася асабістая бібліятэка Я. Карскага (зараз налічвае 2474 экз. кніг і часопісаў; каля 500 адзінак страчаны ў вайну). Кніжны фонд папаўняўся за кошт абавязковага экзэмпляра СССР і на 1983 г. склаў больш за 6 млн. экз. Індывідуальна камплектаваўся Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг, збіраючы ў сваіх фондах еўрапейскія і беларускія стардрукі, сюды паступілі рукапісы Я. Коласа, Ц. Гартнага, К. Каганца, кнігі акадэміка Я. Грота, этнографа М. Янчука і інш.

Бібліятэцы Акадэміі навук у 1956 г. было прысвоена імя Якуба Коласа. На 1983 г. яе кніжны фонд складаў каля 3 млн. экз. Тут зберагаюцца асобнымі фондамі бібліятэка Адама Багдановіча, Паўла Беркава, частка бібліятэкі Радзівілаў. У аддзеле рукапісаў захоўваюцца асабістыя матэрыялы пісьменнікаў Я. Брыля, М. Гарэцкага, Ю. Гаўрука, П. Глебкі, Л. Геніюш, У. Дубоўкі, У. Караткевіча, М. Лынькова, А. Пальчэўскага, мастака Я. Драздовіча, этнографа С. Сахарава, гісторыка М. Улашчыка і інш.

Да 1950 г. колькасна аднавіла фонд Урадавая бібліятэка, у 1983 г. яна мела больш за 1 млн. экз. адзінак захавання. У 1950 г. агульны фонд і колькасць бібліятэк перавысілі даваенны ўзровень. Асноватворнымі дакументамі развіцця бібліятэк рэспублікі сталі пастановы ЦК КПСС 1959 г. «Аб стане і мерах паляпшэння бібліятэчнай справы ў краіне» і «Аб павышэнні ролі бібліятэк у камуністычным выхаванні працоўных і навукова-тэхнічным прагрэсе» (1974). На пачатку 1983 г. у БССР працавала каля 17 тыс. бібліятэк з агульным фондам каля 20 млн. экз.

# ЗАКОН ЗАМАЦОЎВАЕ СВАБОДУ ДРУКУ

Абнаўленне і адначасова адраджэнне сістэмы беларускага кнігавыдання пачало праяўляцца ў перыяд «перабудовы», асабліва ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гг., калі ў Беларусі пачынаюць узнікаць першыя прыватныя выдавецкія структуры, як, напрыклад, мінская «Тэхналогія». Прынятае Дзяржкамітэтам СССР 12 чэрвеня 1990 г. Закона СССР «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», у якім былі замацаваны свабода друку і адмена цэнзуры; права на заснаванне сродкаў масавай інфармацыі рознымі грамадскімі, кааператыўнымі, рэлігійнымі арганізацыямі, асобнымі грамадзянамі і замацаваны прынцып, што дзейнасць у галіне друку будзе насіць не дазвольны, а рэгістрацыйны характар, — значна паспрыяла дэмакратызацыі кнігавыдання і хуткаму яго развіццю[631]. Праўда, на пачатку прыватныя беларускія кампаніі вымушаны былі ствараць сумесныя расійска-беларускія і іншыя прадпрыемствы і арганізацыі, набываць ISBN у расійскіх выдавецтваў за 10% кошту тыражу (Нацыянальнае агенцтва па міжнароднай стандартнай нумарацыі кніг Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі прыступіла да сваёй дзейнасці 15.2.1993 г.). Аднымі з першых прыватных выдавецтваў сталі мінскія кампаніі «Эрыдан», «Беларуская асацыяцыя дэтэктыўнага, прыгодніцкага і палітычнага рамана», «Акварыус», «Паліфакт», дзейнасць якіх адзначаецца ўжо з 1990 г. У кнігавыданні Беларусі, адпаведна і Мінска, з часу атрымання рэспублікай незалежнасці правамерна вылучыць тры этапы: 1991—1996 гг.; 1997—2001 гг. і 2002—2010 гг.




*Вокладка кнігі з малюнкамі В. Славука. М. Танк. Журавель і Чапля. Мінск, 1998 г.*

# ЗАДАВАЛЬНЯЮЧЫ МАСАВЫ ПОПЫТ (1991—1996 ГГ.)

1991—1996 гг. — першы этап новага беларускага кнігавыдання, які можна ахарактарызаваць як этап дэманапалізацыі дзяржаўнага кнігавыдання, яго раздзяржаўлення, арганізацыі дзейнасці выдавецтваў прыватнага характару і структурных змен у выдавецкай сферы. Першыя ліцэнзіі на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь былі выдадзены 22 чэрвеня 1992 г.[632] Усяго за 1992 г. ліцэнзіі атрымалі 240 суб'ектаў прыватнага гаспадарання, а за перыяд з 1992 па 1997 г. ліцэнзаванай выдавецкай дзейнасцю ў Беларусі мелі права займацца 1456 выдаўцоў і выдавецтваў, сярод якіх з'явіўся і шэраг рэгіянальных прыватных выдавецкіх арганізацый. Аднак карціна працэнтнага размяркавання колькасці назваў выдадзенай кніжнай прадукцыі і яе тыражу паміж пэўнымі рэгіёнамі Беларусі мела зусім нязначныя змены [табл. 4].

Са стратай дзяржаўнай манаполіі на кнігавыданне ўзнікла рэальная канкурэнцыя паміж выдавецтвамі. 10 дзяржаўным выдавецтвам і 17 ведамасным выдаючым арганізацыям прыйшлося сапернічаць з не адной сотняй прыватных і акцыянерных фірм, кампаній, малых прадпрыемстваў, якія даволі актыўна ўключыліся ў кнігавыдавецкі працэс. Узнікненне недзяржаўных выдавецтваў, заснаваных на розных формах уласнасці, а таксама атрыманне права на выдавецкую дзейнасць шэрагам устаноў (навуковых, вучэбных) і грамадскіх арганізацый паспрыяла абнаўленню і ажыўленню кніжнай справы Беларусі. Гэта быў этап актыўнага перавыдання нацыянальнай кніжнай спадчыны — з аднаго боку, а з другога — задавальненне патрэб кніжнага рынку, дзе дзейнічала кан'юнктура масавага чытацкага попыту. А на той час

**Удзельная вага кнігавыдавецкай прадукцыі Мінска ў агульным кнігавыдавецкім патоку Беларусі** *Табліца 4*

| Асноўныя этапы (гады) | Выдадзена ў Беларусі | | Выдадзена ў Мінску | | Мінск у % | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | назвы | тыраж (тыс.экз.) | назвы | тыраж (тыс.экз.) | назвы | тыраж |
| 1991–1996 | 18 082 | 425 740 | 16 297 | 418 639 | 90,2 | 98,4 |
| 1991 | 2 432 | 52 911 | 2 313 | 52 469 | 95,1 | 99,2 |
| 1992 | 2 364 | 71 940 | 2 159 | 71 077 | 91,3 | 98,8 |
| 1993 | 2 926 | 98 351 | 2 534 | 95 928 | 86,6 | 97,5 |
| 1994 | 3 346 | 80 606 | 2 991 | 79 195 | 89,4 | 98,2 |
| 1995 | 3 205 | 62 859 | 2 868 | 61 553 | 89,5 | 97,9 |
| 1996 | 3 809 | 59 073 | 3 432 | 58 417 | 90,1 | 98,9 |
| 1997–2001 | 33 098 | 307 591 | 28 964 | 303 496 | 87,5 | 98,6 |
| 1997 | 5 331 | 67 632 | 4 654 | 66 985 | 87,3 | 99 |
| 1998 | 6 073 | 60 022 | 5 109 | 59 097 | 84 | 98,5 |
| 1999 | 6 064 | 63 305 | 5 313 | 62 646 | 87,6 | 99 |
| 2000 | 7 686 | 61 627 | 6 812 | 60 766 | 88,6 | 98,6 |
| 2001 | 7 944 | 55 005 | 7 076 | 54 002 | 89 | 98,2 |
| 2002–2007 | 60 017 | 266 369 | 50 749 | 258 789 | 84,6 | 97,2 |
| 2002 | 7 753 | 44 251 | 6 747 | 43 125 | 87 | 97,5 |
| 2003 | 9 148 | 48 410 | 7 885 | 47 011 | 86,2 | 97,1 |
| 2004 | 8 198 | 31 623 | 6 836 | 30 434 | 83,4 | 96,2 |
| 2005 | 10 784 | 40 286 | 9 010 | 39109 | 83,5 | 97 |
| 2006 | 11 569 | 52 021 | 9 778 | 50 724 | 84,5 | 97,5 |
| 2007 | 12 565 | 49 778 | 10 493 | 48 387 | 83,5 | 97,2 |

існаваў проста велізарны кніжны попыт, створаны яшчэ савецкім дэфіцытам. Таму ў гэты перыяд у Беларусі колькасць назваў выпушчанай кніжнай прадукцыі ўзрасла больш чым у паўтара раза: з 2432 у 1991 г. да 3809 экз. у 1996 г. [табл. 5; дыягр. 1, 2]. Павялічвалася і доля беларускамоўнага кнігавыдання, сярэдняя лічба якога па назвах склала ў гэты час 21,3%, а 1993 г. даў найвышэйшыя паказчыкі — 26,9% [табл. 5; дыягр. 3, 4].

Менавіта дзякуючы актыўнай выдавецкай дзейнасці прыватных выдавецтваў у 1993 г. у кнігавыданні Беларусі былі дасягнуты і самыя высокія паказчыкі па тыражы — гэта 98 млн. 351 тыс. экз. У параўнанні з Расіяй, дзе дзяржаўныя і прыватныя выдавецтвы выйшлі на лічбу 50:50 толькі ў 1995 г., Беларусь мела падобныя вынікі ўжо на 1992 г.[633] У наступныя гады адбывалася павелічэнне долі недзяржаўнага кнігавыдання і, наадварот, — памяншэнне дзяржаўнага (з 42,8% у 1991 г. да 16,4% у 1996 г.). Такім чынам, выдавецкая сфера краіны ўжо на першым этапе зведала значнае рэфармаванне. Беларусь стала першай сярод былых рэспублік СССР (апярэдзіўшы Расію і Украіну), дзе была створана рынкавая сістэма ў кнігавыданні і сфарміраваліся два ўмоўна самастойныя патокі выдавецкай прадукцыі — кнігі дзяржаўных і недзяржаўных выдавецтваў[634].

Першы этап абноўленай сістэмы кнігавыдання прынёс для Беларусі ў 1991—1996 гг. 18 082 назвы кніжнай прадукцыі, тыраж якой склаў 425 млн. 740 тыс. экз. Доля дзяржаўнага сектара на дадзеным этапе склала 28% (па назвах) і 40% (па тыражы); недзяржаўнага адпаведна — 30% і 55% [табл. 1]. Іншыя арганізацыі з правам выдавецкай дзейнасці выпусцілі 7681 назву (42%) тыражом 21 млн. 904 тыс. экз. (5%).

Што тычыцца дзяржаўных выдавецтваў, то як сведчыць аналіз дынамікі выпуску кніг і брашур за 1991—1996 гг. — гэта быў даволі складаны перыяд у іх дзейнасці. Штогод адзначаўся спад практычна ўсіх асноўных паказчыкаў: назваў — з 1041 у 1991 г. да 523

**Удзельная вага беларускамоўных выданняў у агульным кнігавыдавецкім патоку Беларусі**

*Табліца 5*

| гады | Усяго выдадзена | | на аднаго жыхара | Беларускамоўныя выданні ад усёй выдадзенай кніжнай прадукцыі (%) | | Беларускамоўныя выданні дзяржаўных выдавецтваў (%) | | Беларускамоўныя выданні недзяржаўных выдавецтваў (%) | | Беларускамоўныя выданні іншых арганізацый (%) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | назвы | тыраж (тыс. экз.) | | назвы | тыраж | назвы | тыраж | назвы | тыраж | назвы | тыраж |
| 1991 | 2 432 | 52 911 | 5,4 | 17,5 | 18,9 | 84 | 99 | – | – | – | – |
| 1992 | 2 364 | 71940 | 7,3 | 23,3 | 17,1 | 75,6 | 95 | 1,5 | 4 | 22,9 | 1 |
| 1993 | 2 926 | 98 351 | 10 | 26,9 | 18,7 | 63 | 82 | 9,5 | 15,5 | 27,5 | 2,5 |
| 1994 | 3 346 | 80 606 | 8,2 | 23,8 | 21,1 | 58,4 | 91,2 | 8,4 | 7,6 | 33,2 | 1,2 |
| 1995 | 3 205 | 62 859 | 6,4 | 20,6 | 19,9 | 54,5 | 79,2 | 14,1 | 18,4 | 31,4 | 2,4 |
| 1996 | 3 809 | 59 073 | 6 | 15,7 | 14,9 | 46,7 | 71,6 | 16,4 | 27,3 | 36,9 | 1,1 |
| 1997 | 5 331 | 67 631 | 6,5 | 12,8 | 8,1 | 46 | 74,5 | 20,1 | 19,2 | 33,9% | 6,3 |
| 1998 | 6 073 | 60 021 | 5,9 | 13,3 | 11,8 | 43,7 | 77,5 | 19,2 | 19 | 37,1 | 3,5 |
| 1999 | 6 064 | 63 305 | 6,3 | 10,7 | 8,1 | 39,4 | 78,4 | 18,7 | 15 | 41,9 | 6,6 |
| 2000 | 7 686 | 61 627 | 6,9 | 9,9 | 9,6 | 33,8 | 67,8 | 24 | 22 | 42,2 | 10,2 |
| 2001 | 7 944 | 55 005 | 5,5 | 11,1 | 11,8 | 38 | 75,4 | 26,7 | 15,4 | 35,3 | 9,1 |
| 2002 | 7 753 | 44 251 | 4,5 | 9,7 | 9,5 | 30,2 | 66,7 | 35,5 | 26,2 | 34,3 | 7,1 |
| 2003 | 9 148 | 48 410 | 4,9 | 9,4 | 7,1 | 26,8 | 46 | 40,9 | 43 | 32,3 | 11 |
| 2004 | 8 198 | 31 623 | 3,2 | 11,2 | 8,5 | 21,2 | 35,8 | 42 | 42,8 | 36,8 | 21,5 |
| 2005 | 10 784 | 40 286 | 4,4 | 9,2 | 6,7 | 19,7 | 29,1 | 42,9 | 53,3 | 37,4 | 17,6 |
| 2006 | 11 569 | 52 000 | 5,3 | 7,1 | 8,8 | 24,7 | 48,9 | 46,1 | 26 | 29,2 | 25,1 |
| 2007 | 12 565 | 49 778 | 5,1 | 7,6 | 7,6 | – | – | – | – | – | – |

у 1996 г.; тыражу — з 37, 5 млн. экз. у 1991 г. да 11, 4 млн. экз. у 1996 г. Агульная колькасць супрацоўнікаў амаль усіх дзяржаўных выдавецтваў таксама скарачалася (у сярэднім амаль у 2 разы). У выдавецтве «Полымя» наогул пасля скарачэння засталася толькі дзесятая частка ад ранейшага складу калектыву і толькі выдавецтву «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» ўдалося ў гэты час захаваць колькасць сваіх супрацоўнікаў[635].

Некаторая фінансавая падтрымка кнігавыдання з дзяржбюджэту гарантавала адносную стабільнасць дзяржаўным выдавецтвам. Менавіта дзякуючы дзяржзаказам на вучэбную і вучэбна-метадычную літаратуру для ўсіх форм адукацыі ім удавалася выжываць ва ўмовах цяжкага сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. З дзяржаўнага бюджэту ў гэты перыяд датавалася таксама беларускамоўная літаратура (у памеры 50% сабекошту), да 75% — дзіцячая. У 1996 г. было наладжана 100-працэнтнае фінансаванне літаратуры для камплектавання фондаў публічных бібліятэк, а таксама серыі «Школьная бібліятэка». Таму, зразумела, што на вядучых пазіцыях у сектары дзяржаўнага кнігавыдання былі такія выдавецтвы, як «Народная асвета», «Мастацкая літаратура», «Навука і тэхніка», «Вышэйшая школа», кожнае з якіх мела сваю спецыялізацыю і забяспечвала выпуск асноўнай беларускай вучэбнай, навуковай, навукова-папулярнай і мастацкай літаратуры [табл. 1].

Выдавецтвам ***«Народная асвета»*** за перыяд з 1991 да 1996 г. было выпушчана 1019 назваў кніг тыражом 25 млн. 325 тыс. экз. Гэта былі ў асноўным падручнікі, вучэбна-метадычная, даведачная, навукова-папулярная літаратура для агульнаадукацыйных школ;

**Вынікі дзейнасці вядучых выдавецтваў Мінска ў 1991–1996 гг.** *Табліца 1*

| № п/п | Выдавецтвы | Колькасць назваў | у % | Тыраж (тыс. экз.) | у % |
|---|---|---|---|---|---|
| I. | Дзяржаўныя | 4983 | 28 | 168 млн. 792 тыс. экз. | 40 |
| 1. | «Народная асвета» | 1019 | 20,4 | 25 325 | 15 |
| 2. | «Мастацкая літаратура» | 706 | 14,2 | 8 675 | 5 |
| 3. | «Навука і тэхніка» | 596 | 12 | 2 677 | 1,6 |
| 4. | «Вышэйшая школа» | 530 | 10,6 | 13 226 | 7,8 |
| 5. | «Полымя» | 485 | 9,7 | 13 040 | 8,9 |
| 6. | «Юнацтва» | 419 | 8,4 | 21 220 | 12,6 |
| 7. | «Ураджай» | 350 | 7 | 8 581 | 5 |
| 8. | «Беларусь» | 349 | 7 | 15 882 | 9,4 |
| 9. | «Універсітэцкае» | 293 | 5,9 | 5 431 | 3,2 |
| 10. | «Беларуская Энцыклапедыя» | 157 | 3,2 | 5 776 | 3,4 |
| II. | Недзяржаўныя | 5418 | 30 | 235 млн. 044 тыс. экз. | 55 |
| 1. | «Харвест» (1995—1996) | 789 | 14,6 | 19 360 | 8,2 |
| 2. | «Пікорп» (1992—1996) | 362 | 6,7 | 28 067 | 12 |
| 3. | «Мет» (1992—1996) | 237 | 4,4 | 14 606 | 6,2 |
| 4. | «Эрыдан» | 176 | 3,3 | 15 865 | 6,7 |
| 5. | «Сервег» (1993—1996) | 176 | 3,3 | 5 721 | 2,4 |
| 6. | «Белфаксиздатгруппа» | 87 | 1,6 | 6 650 | 2,8 |
| 7. | «Паліфакт» | 81 | 1,5 | 6 768 | 2,9 |
| 8. | «Амалфея» | 71 | 1,3 | 365 | 0,2 |
| 9. | «Сказ» (1993—1996) | 70 | 1,3 | 3 685 | 1,6 |
| 10. | «Папуры» (1994—1996) | 69 | 1,3 | 1 625 | 0,7 |
| 11. | «Аракул» | 66 | 1,2 | 5 851 | 2,5 |
| 12. | «Кніжны Дом» (1994—1996) | 63 | 1,2 | 1 993 | 0,8 |
| 13. | «Тэхналогія» (1993—1996) | 28 | 0,5 | 64 | 0,03 |

*Вокладка зборніка «Скарыніч». Вып. 1—3. Мінск, 1991—1997 гг.*

*Кніга серыі «Галасы беларускага замежжа». Я. Юхнавец. Сны на чужыне. Мінск, 1994 г.*







наглядныя дапаможнікі; кнігі па педагогіцы і псіхалогіі для настаўнікаў, выхавацеляў школ і дашкольных устаноў, бацькоў; а таксама мастацкая літаратура. Самай вядомай серыяй выдавецтва з'яўляецца «Школьная бібліятэка». У 1991 г. у выдавецтве прыступілі да ажыццяўлення праектаў па факсімільным выданні шэрага твораў забытай спадчыны культуры Беларусі. Так, серыю «Беларуская мова: гісторыя і сучаснасць» адкрыла «Беларуская граматыка» Б. Тарашкевіча. Наступнымі выданнямі серыі сталі зборнікі «Жывая спадчына» (1992) і «Слова беларускае» (1994) пад рэдакцыяй прафесара А. Міхневіча; у 1993 г. выйшаў «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча (узноўленае выданне 1925 г.); якія вярталі чытачу незаслужана забытыя імёны, што знаходзіліся ў спецсховах.

Асноўным кірункам у дзейнасці выдавецтва ***«Мастацкая літаратура»***, якое за вызначаны перыяд выпусціла 706 назваў кніг тыражом 8 млн. 675 тыс. экз., было выданне твораў, збораў твораў і выбраных твораў выдатных беларускіх пісьменнікаў, аўтараў айчыннай і замежнай літаратуры; кніг па літаратуразнаўстве. Большасць выданняў мастацкай літаратуры выходзіла на беларускай мове ў такіх серыях, як «Бібліятэка беларускай паэзіі» (з 1972 г.), «Бібліятэка замежнай прозы» (з 1983 г.), «Спадчына» (з 1989 г.), «Скарбы сусветнай літаратуры» (з 1989 г.), «Бібліятэка беларускай класікі» (з 1990 г.), «Літаратурныя помнікі Беларусі» (з 1991 г.), «Галасы беларускага замежжа» (з 1994 г.). У пачатку 1990-х гг. выдавецтва актыўна займалася выпускам кніг літаратурна-гістарычнага і гісторыка-публіцыстычнага зместу У. Калесніка, А. Каўкі, Г. Кісялёва, Ю. Лабынцава, А. Ліса, А. Мальдзіса, К. Цвіркі. У 1993 г. «Мастацкая літаратура» ажыццявіла першае асобнае выданне даследавання пра рукапісныя кнігі Беларусі М. Нікалаева «Палата кнігапісная». Надзённым пытанням гісторыі нацыянальнай літаратуры і культуры, духоўнага развіцця беларускага народа былі прысвечаны зборнікі «Шляхам гадоў» (вып. 1—4, 1990—1994 гг.), «Скарыніч» (вып. 1—3, 1991—1997 гг.), пытанням гісторыі — зборнік «З гісторыяй на «Вы»» (вып. 1—3, 1991—1994 гг.). У 1994 г. упершыню на беларускай мове былі надрукаваны помнікі старажытнабеларускай літаратуры, якія належалі да жанраў жыцій і хаджэнняў — гэта «Кніга жыцій і хаджэнняў» у серыі «Літаратурныя помнікі Беларусі». Сярод найбольш значных выданняў — 15-томная «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР» (1981—1994 гг.; Дзяржаўная прэмія Беларусі 1996 г.), факсімільныя выданні М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, Н. Арсенневай і інш.

***«Навука і тэхніка»*** — выдавецтва, якое пачынала сваю дзейнасць як рэдакцыйна-




*Помнікі філасофскай думкі Беларусі XVII — першай паловы XVIII ст. Мінск, 1991 г.*




*Вокладка кнігі «Музычны тэатр Беларусі. 1960—1990». Мінск, 1993 г.*

выдавецкі аддзел Інбелкульта, а пасля, з 1932 г. — «Выдавецтва АН БССР» і, нарэшце, з 1963 г. — самастойнае дзяржаўнае прадпрыемства «Навука і тэхніка», у 1991—1996 гг. выпусціла 596 назваў кніг тыражом 2 млн. 677 тыс. экз. Гэта была навуковая і навукова-папулярная літаратура па філасофіі, гісторыі, эканоміцы, гісторыі дзяржавы і права, мастацтвазнаўстве, этнаграфіі і фальклоры, філалогіі, тэхніцы; мастацкая літаратура. Асноўнымі серыямі выдавецтва былі «Беларуская народная творчасць», «Нашы славутыя землякі», «Чалавек і асяроддзе», «Навука — вытворчасці» і іншыя. Найбольш значныя выданні выдавецтва — гэта «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» (14 выпускаў, 1982—1996 гг.); «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (8 тамоў, 1978—1993 гг.); «Гісторыя беларускага мастацтва» (6 тамоў, 1987—1994 гг.), «Наша ніва» (факсімільнае выданне, 1992 г., вып. 1; 1996 г., вып. 2), «Музычны тэатр Беларусі» (4 тамы, 1990—1997 гг.; Дзяржаўная прэмія Беларусі 1998 г.), поўныя зборы твораў М. Багдановіча і М. Лынькова і інш. Усяго за перыяд дзейнасці «Навукі і тэхнікі» выйшла амаль 6 тыс. назваў кніг і брашур агульным тыражом каля 25 млн. экз. У 1996 г. на базе выдавецтва было створана выдавецтва «Беларуская навука».

Акрамя выдавецтва «Народная асвета» адносна высокую планку тыражу сваіх выданняў утрымлівалі выдавецтвы «Вышэйшая школа» і «Юнацтва». Створанае ў маі 1961 г. на аснове выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта і рэдакцыйна-выдавецкага аддзела Выдавецтва Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесійнай адукацыі БССР у верасні 1963 г. атрымала назву ***«Вышэйшая школа»***.

Асноўны кірунак у выдавецкай дзейнасці — гэта выпуск падручнікаў, вучэбна-метадычных і практычных дапаможнікаў па розных галінах; а таксама навуковай, навукова-папулярнай, даведачнай літаратуры для студэнтаў, выкладчыкаў ВНУ, навучэнцаў сярэдне-спецыяльных устаноў; мастацкай літаратуры. Найбольш значнымі выданнямі з'явіліся выданні «Францыск Скарына: беларускі гуманіст, асветнік, першадрукар», «Откуда есть и пошел букварь» М. Батвінніка (1983), «История архитектуры Белоруссии» У. Чантурыя і А. Воінава і інш. У 1991—1996 гг. «Вышэйшая школа» выдала 530 назваў кніг, тыраж якіх склаў 13 млн. 226 тыс. экз. Кнігі выдавецтва перавыдаваліся ў Балгарыі, Венгрыі, Галандыі, ЗША, Іране, Італіі, Польшчы, Фінляндыі, Японіі, экспартаваліся больш чым у 100 краін свету.

Выдавецтва ***«Юнацтва»***, заснаванае ў Мінску ў студзені 1981 г. на базе рэдакцый выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Народная асвета», займалася выданнем літаратурна-мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры для дзяцей і юнацтва на 16 мовах для чытачоў

*→ Старонка факсімільнага выдання газеты «Наша ніва». Мінск, 1992 г.*

Год 1. Вильня 10/23 листопада (ноября) 1906 г. №1.

# Наша Нива

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМИ

ВЫХОДЗИЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ рускими и польскими литэрами.

Адрэс рэдакции и администрации: Вильня, Большая Погулянка д. № 17.

Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

Цэна з перэсылкою и дастаукою да хаты: на 1 год—3 руб., на 6 месяцоу—1 руб. 50 кап., на 3 мес.—75 кап., на 1 мес.—25 кап. Без дастауки и перэсылки: на 1 год—2 р. 40 к., на 6 мес.—1 р., 20 к. на 3 мес.—60 кап., на 1 мес.—20 к. За границаю: на 1 год—4 руб., на 6 мес.—2 руб., на 3 мес.—1 руб. Перэмена адрэсу—20 кап.

Абъяуления прымаюцца на паследняй страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукописы и корэспонденции, прысыланые у рэдакцию, мусиць быць чытэльна написаны з праудзиваю фамильею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна также надписаць прозвищэ разомъ з фамильею, кали незахочэце, каб была надрукавана ваша праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакции.

*Вильня 10 (23) листопада (ноябра).*

Пачынаючы выдаваць беларускую газэту „Наша Нива“, хочэм трохи пагаварыць з усими, каму у той чы иншы способ залежыць на нашай працы, хочэм адкрыць свае думки, каб усе магли нас пазнаць.

„Наша Нива“ будзе другой беларускай газэтой—першая газэта „Наша Доля“ не жывець: яна была надта нядоуго, блиснула як маланка и згинула гдзесьци. Разумеем мы, як важна цяпер беларуская газэта, разумеем, якую вялику работу яна можэ зрабиць. И дзеля таго мы будзем старацца, каб наша газэтка заглянула усюды, каб папала яна и пад стрэху беднай курной хаты мужыка-беларуса. Не думайце, што мы хочэм служыць тольки ци панам, ци адным мужыкам. Не, николи не! Мы будзем служыць *усему беларускаму скрыуджэнаму народу*, пастараемся быць люстром жыцця, каб ад нас, як ад люстра, свет падау у цёмнасць... Мы будзем браць усё ад усих и, злажыушы у парадок, зноу аддаваць. Ведайце добра, што „Наша Нива“ газэта не рэдакции, але усих беларусоу и усих тых, хто им спагадае. Кожны мае права быць выслуханым на страницах нашэй газэты и керавать ёю, тольки каб было разумне. Мы з сваей стараны будзем старацца, *каб усе беларусы*, што ня ведають, хто яны ёсць,—*зразумели, что яны беларусы и людзи*, каб пазнали свае права и памагли нам у нашэй рабоци.

Ня будзем писаць громка. Будзем спакойне, цьверда кидаць усим прауду у вочы, пастараемся быць церпеливыми и панаваць над сабою: нехай халодны розум моцна трымае у сваих руках гарачэе сэрца..

А цяпер прызываем усих тых, хто разумее нашы цэли, адчувае тое, што мы чуем, и захочэ нам памагчы:

*Падтрымайце нас у рабоци, што цяпер пачынаецца!*







*Кніга серыі «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР». Скарбы старога Тоомаса.*

*Кніга серыі «Бібліятэка дзіцячага сада». Гарошак. Беларуская народная казка.*

110 краін. З выдавецтвам актыўна супрацоўнічалі беларускія дзіцячыя пісьменнікі, з якімі «Юнацтва» наладжвала сустрэчы з чытачамі, літаратурныя канферэнцыі. Толькі за 1996 г. выдавецтва ўдзельнічала ў 20 кніжных выстаўках, сярод якіх чатыры — міжнародныя (Маскоўская, Мінская, Варшаўская, у Франкфурце-на-Майне). Акрамя «Школьнай бібліятэкі» выдавецтва было вядома такімі серыямі, як «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР» (1983—1994), «Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры» (з 1991 г., у 10 тамах), «Бібліятэка замежнай дзіцячай літаратуры» (з 1992 г., у 30 тамах). Папулярнасцю ў чытачоў карысталіся кнігі выдавецтва, выпушчаныя ў серыях «Казка за казкай», «Бібліятэка прыгод і фантастыкі», «Мая першая кніжка», «Зрабі сам», «Знайка», «Эўрыка», «Бібліятэка дзіцячага сада», «Бібліятэка навукова-пазнавальнай літаратуры», «Залаты ключык», «Бацькаўшчына». У 1991—1996 г. у параўнанні з іншымі дзяржаўнымі выдавецтвамі «Юнацтва» мела адзін з вышэйшых паказчыкаў па тыражы (21 млн. 220 тыс. экз.), які, праўда, трымаўся за кошт вынікаў кнігавыдання 1991—1994 гг. Колькасць выпушчаных кніг за адпаведны перыяд склала 419 назваў. Да 90% найменняў выдавецтва з'яўляліся дзяржзаказам, затрымка фінансавання якога ў 1995—1996 гг. прынесла «Юнацтву» значныя страты. У 1997—2001 гг. назіраўся далейшы спад у дзейнасці «Юнацтва» — гэта ўжо 274 назвы тыражом 1 млн. 905 тыс. экз. Выдавецтва падтрымлівала нацыянальную культуру, выдаючы каля 80% кніг на беларускай мове. У 2002 г. выйшлі апошнія 13 назваў кніг выдавецтва тыражом 41 тыс. экз.

Што тычыцца выдання беларускамоўнай мастацкай літаратуры, то і «Мастацкая літаратура», і «Юнацтва», якія яшчэ ў 1989 г. выпускалі 40% усіх дзяржаўных тыражоў і 21% найменняў, пачынаючы з 1995—1996 гг. усё ж значна скарацілі выданне кніг на беларускай мове. У 1994 г. было надрукавана 215 назваў мастацкай літаратуры (у тым ліку і для дзяцей) тыражом 2 млн. 21 тыс. экз., а ў 1995 г. — гэта 162 назвы тыражом 1 млн. 339 тыс. экз., у 1996 г. — адпаведна 157 назваў тыражом 1 млн. 137 тыс. экз. Цалкам за 1995 г. дзяржаўныя выдавецтвы скарацілі выпуск беларускамоўнай мастацкай літаратуры на 22% па назвах і на 37% па тыражу. У наступны год адбылося чарговае памяншэнне на 30% па назвах і на 60% па іх тыражы.

Нягледзячы на складаную эканамічную сітуацыю, дзяржаўныя выдавецтвы менавіта ў гэты перыяд распачалі шэраг цікавых

*В. Ластоўскі. Кароткая гісторыя Беларусі. Мінск, 1992 г.*




выдавецкіх праектаў, якія вызначаліся сваёй грунтоўнасцю і актуальнасцю. Да прыкладу, сярод іх выпуск такіх энцыклапедычных выданняў, як «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» (з 1993 г., у 6 тамах), «Беларуская мова» (1994), «Беларуская энцыклапедыя» (з 1996 г., у 18 тамах), выдаўцом якіх выступіла ***«Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі»***. Прадаўжаўся ў гэты час і выпуск распачатага ў 1985 г. названым выдавецтвам шматтомнага серыйнага выдання энцыклапедычнага характару гісторыка-дакументальных хронік раёнаў і гарадоў Беларусі «Памяць». Да 1998 г. выйшла больш за 20 кніг.

Масавымі тыражамі ў краіне выйшлі зборы і асобныя выданні твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, К. Чорнага, П. Броўкі, П. Глебкі, К. Крапівы, М. Лынькова, А. Куляшова, П. Панчанкі, В. Быкава, Я. Брыля, І. Шамякіна і іншых.

Перавыданнем твораў беларускіх краязнаўцаў XIX ст. занялося выдавецтва ***«Полымя»***. Так, у 1991 г. выйшла кніга М. Федароўскага «Люд беларускі. Вяселле», у 1992 г. — П.М. Шпілеўскага «Путешествие по Полесью и белорусскому краю». Адным з першых выдавецтва звярнула ўвагу і на выданне кніг па гісторыі таго ці іншага рэгіёна Беларусі. Пэўнай з'явай сталі працы З.В. Шыбекі і С.Ф. Шыбека «Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада» (1994), М.Я. Нікіфароўскага «Странички из недавней старины города Витебска» (1995). У выдавецтве былі заснаваны такія серыі, як «Гарады Беларусі», «Горад і наваколле», «Горад-пабрацім», «Нашы славутыя землякі», «Помнікі беларускага дойлідства». Асноўную частку рэпертуару выдавецтва складалі навукова-папулярныя, даведачныя, інфармацыйна-рэкламныя, выданні для вольнага часу, краязнаўчай, спартыўнай тэматыкі, літаратура па ахове здароўя, а таксама календары; падручнікі і кнігі серыі «Школьная бібліятэка». Карысталася папулярнасцю серыя кніг «В помощь абитуриенту». Выходзіла ў выдавецтве і літаратура для інвалідаў па зроку. Кнігі вызначаліся сваім мастацка-паліграфічным афармленнем. У 1991—1996 гг. у выдавецтве выйшла 485 назваў кніг і брашур тыражом 13 млн. 40 тыс. экз.; у 1997—2001 гг. адпаведна — 484 назвы і 1 млн. 412 тыс. экз. У 2002 г. былі выпушчаны апошнія 48 назваў кніг тыражом 84 тыс. экз.

Да перавыдання унікальных кніг па гісторыі звярнуліся і ў дзяржаўным кніжным







*Тытульны ліст кнігі «Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX стагоддзя». Мінск, 2001 г.*

выдавецтве ***«Універсітэцкае»*** — гэта ў 1992 г. «Кароткая гісторыя Беларусі» В. Ластоўскага (узноўленае выданне 1910 г.); «История России в портретах по столетиям» (1903); «Бояре Романовы и воцарение Михаила Фёдоровича» П.Г. Васенкі (1913). Хаця асноўным кірункам у дзейнасці выдавецтва быў усё ж выпуск вучэбнай, вучэбна-метадычнай, навуковай, навукова-папулярнай і даведачнай літаратуры для ВНУ. Выдавала «Універсітэцкае» таксама міжведамасныя рэспубліканскія зборнікі навуковых прац, разнастайныя тэматычныя зборнікі па беларускай мове і літаратуры, гісторыі. У выдавецтве была ажыццёўлена публікацыя цікавых прац па філасофіі, юрыспрудэнцыі, медыцыне, псіхалогіі, літаратуразнаўстве і мовазнаўстве. Адны з вядомейшых выданняў выдавецтва — «Заходняя Русь, IX—XIII стст.» Э.М. Загарульскага (1998), «Міфы старажытнасці» Г.В. Штоля (1999), «Філасофія культуры: Уводзіны ў тэарэтычную культуралогію» М.І. Крукоўскага (2000). Асноўнымі серыямі «Універсітэцкага» былі «Пад знакам вечнасці», «Повязь вякоў», «Экалогія душы», «Універсітэт — школе», «Са скарбніц беларускай культуры», «Сучасная беларуская мова», «Беларускі фальклор у сучасных запісах», «Славянскія мовы», «Студэнцкая бібліятэка», «Гісторыя зарубежнай літаратуры», «Незвычайнае ў звычайным». Так, у серыі «Повязь вякоў» у 1998 г. былі выдадзены кнігі А.К. Сержпутоўскага «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў» і «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў». Выдавецтва мела і серыі па выданні мастацкай літаратуры: «Галактика» — серыя навуковай фантастыкі; «Забытые приключения» — серыя прыгодніцкай літаратуры. У 1991—1996 гг. выпусціла 293 назвы кніг і брашур тыражом 5 млн. 431 тыс. экз., а ў 1997—2001 гг. — 225 назваў тыражом 2 млн. 535 тыс. экз. 2002 год стаў апошнім у дзейнасці выдавецтва: выпушчана 20 назваў кніг тыражом 123 тыс. экз.

Выдавецтва ***«Ураджай»*** з сярэдзіны 1990-х гг. далучылася да дзяржаўнага праекта выдання гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». А з 1998 г. у выдавецтве наладзілі нават выпуск кніг па гісторыі культуры, мастацтва і архітэктуры, літаратуры, усеагульнай гісторыі. Асноўнай спецыялізацыяй выдавецтва заставаўся выпуск літаратуры для патрэб сельскай гаспадаркі вучэбнага, вучэбна-метадычнага, навуковага, навукова-папулярнага і даведачнага характару. Тым не менш у гэты перыяд у выдавецтве была звернута большая

ўвага на беларусазнаўчую тэматыку, гісторыю развіцця асобных галін сельскай гаспадаркі, сельскагаспадарчай навукі, адукацыі, на змены ў аграрнай палітыцы, на развіццё розных сістэм прыродакарыстання, на гісторыю вёскі і сялянскага побыту, народныя традыцыі, духоўную спадчыну і ролю выдатных асоб у гістарычных працэсах краіны. Так, аднымі з апошніх і унікальных выдавецкіх праектаў сталі «Беларусь у малюнках Напалеона Орды» (2001) і «Мінск незнаёмы. 1920—1940» І. Куркова (2002). У 1991—1996 гг. «Ураджай» выдаў 350 назваў кніг і брашур тыражом 8 млн. 581 тыс. экз.; у 1997—2001 гг. — 332 назвы тыражом 2 млн. 540 тыс. экз.; у 2002 — 36 назваў тыражом 240 тыс. экз.

Цалкам кніжны рэпертуар дзяржаўнага кнігавыдання, сканцэнтраванага ў сталіцы краіны, у 1991—1996 гг. меў наступныя тэматычныя прыярытэты:

літаратура па асвеце і педагогіцы (1130 назваў, тыраж 76 732 тыс. экз.),

мастацкая літаратура (830 назваў, тыраж 20 590 тыс. экз.),

дзіцячая літаратура (590 назваў, тыраж 29 524 тыс. экз.),

палітычная і сацыяльна-эканамічная літаратура (543 назвы, тыраж 7518 тыс. экз.),

літаратура па тэхніцы (478 назваў, тыраж 13 376 тыс. экз.).

Вядучыя пазіцыі па відах выданняў займалі:

вучэбныя выданні (1389 назваў, тыраж 79 187 тыс. экз.),

літаратурна-мастацкія (830 назваў, тыраж 20 590 тыс. экз.),

навуковыя (622 назвы, тыраж 829 тыс. экз.),

выданні для дзяцей і юнацтва (590 назваў, тыраж 29 524 тыс. экз.),

даведачныя выданні (429 назваў, тыраж 10 412 тыс. экз.).

Вызначыць падобную карціну ў сектары недзяржаўнага кнігавыдання па адпаведных выдавецкіх прадпрыемствах за 1990—1991 гг., а таксама па іх тэматыка-відавых характарыстыках намнога складаней з-за прабелаў у беларускай кніжнай статыстыцы па друку. Аднак, нават па тых дадзеных, якія ёсць у нашым распараджэнні, сярод лідэраў недзяржаўнага кнігавыдання можна вызначыць такія мінскія выдавецтвы, як «Эрыдан» (пачатак дзейнасці з 1990 г.), «Паліфакт» (з 1990 г.), «Мет» (з 1991 г.), «Аракул» (з 1991 г.), «Амалфея» (з 1991 г), «Пікорп» (з 1992 г.), «Сервег» (з 1993 г.), «Сказ» (з 1993 г.) [табл. 1].

Зніжэнне выпуску беларускамоўнай прадукцыі, характэрнае для сістэмы дзяржаўнага кнігавыдання, мела процілеглыя вынікі ў сектары недзяржаўных выдавецтваў, дзе паказчыкі падняліся адпаведна на 46% па назвах і на 85% па тыражы (па выніках 1996 г.) [табл. 5]. Тым не менш у патоку недзяржаўнага кнігавыдання беларускамоўная прадукцыя складала ў 1993—1996 гг. ад 10 да 16%. Сярод актыўных кнігавыдаўцоў беларускамоўных твораў — НВК «Тэхналогія», ВКП «Асар», НФК «Экаперспектыва», ТАА «Аракул», БВК «Хата», ВКП «Жаскон»[636] і інш. Напрыклад, кампанія «Тэхналогія» вызначылася сваёй спецыялізацыяй па выпуску ў асноўным выданняў на беларускай мове па філасофіі, рэлігіі, гісторыі, культуры, эканоміцы.

У 1996 г. грамадская арганізацыя «Міжнародны фонд ***«Беларускі кнігазбор»*** распачала унікальны праект па выпуску залатой бібліятэкі Беларусі, шматтомнага выдання ўсяго лепшага і самага важнага, што было створана на беларускай зямлі з пачатку пісьменства і да сучаснасці, а таксама перакладаў твораў рускіх, польскіх і іншых пісьменнікаў, прысвечаных Беларусі. Першай кнігай у серыі «Мастацкая літаратура» сталі «Выбраныя творы» Я. Чачота. Былі запланаваны таксама другая серыя «Беларускага кнігазбору» — «Гісторыка-літаратурныя помнікі» і трэцяя — «Замежная літаратура». З 1996 да 2006 г. выйшла больш 30 назваў кніг з вызначаных серый. Цалкам своеасаблівы дамашні універсітэт беларусазнаўства павінен складацца 180 назваў.

У кніжным патоку выданняў недзяржаўных выдавецтваў у 1993—1995 гг. вядучым галінова-тэматычным кірункам была літаратура па адукацыі і асвеце — 30,3% («Экаперспектыва», Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, «Аракул», «Асар», «Жаскон»).

22,4% складала мастацкая літаратура (у асноўным на рускай мове, што залежала ад кан'юнктуры камерцыйнага рынку). Выключэннем быў вопыт выдавецкай суполкі «Маркетынг» па выданні ў 1994 г. серыі «З сабой у дарогу» твораў такіх беларускіх аўтараў, як Я. Колас, Я. Маўр, І. Мележ, Я. Скрыган, К. Чорны, Я. Брыль, А. Васілевіч, М. Гарэцкі, Г. Далідовіч. Асноўная частка мастацкай літаратуры 1995 г. — гэта творы І. Шамякіна, Т. Шаўчэнкі, А. Пісарыка, І. Карэнды, І. Басецкага, А. Усені, А. Зэкава, В. Івашына, М. Трафімава, У. Бельскага, У. Ліпскага, В. Якавенкі.

Невялікую колькасць складалі беларускамоўныя творы для дзяцей, хоць дзіцячая літаратура ў кнігавыдавецкім патоку гэтага перыяду займала трэцяе месца. Цікавыя праекты ў галіне развіцця дзіцячай кнігі мелі такія




*Кніга серыі «Скарбы сусветнай літаратуры». У. Шэкспір. Санеты. Трагедыі. Мінск, 1989 г.*

недзяржаўныя выдавецтвы, як «Кавалер», «Мет», «Сказ», «Алкіона», «Паліфакт», «Асар», «Еўрапейская кніга». Аднак гэта была ў асноўным рускамоўная літаратура. Сярод недзяржаўных выдавецтваў выпускам кніг для дзяцей на беларускай мове займаліся «Сталкер», «PICORP», «Талер», «Еўрапейская кніга», «Асар», «Хата», «Лазурак», «Белая Русь», «Родны кут» і інш. Адной з тэндэнцый у дзейнасці недзяржаўных выдавецкіх структур стала супрацоўніцтва са спецыялізаванымі дзяржаўнымі выдавецтвамі «Юнацтва», «Вышэйшая школа», «Мастацкая літаратура»[637].

Адзінкавыя назвы складалі кнігі недзяржаўных выдавецтваў на беларускай мове па філасофіі, псіхалогіі, прыродазнаўчых і прыкладных навуках, мастацтве і краязнаўстве.

Сярод вядучых недзяржаўных выдавецкіх прадпрыемстваў 1991—1996 гг., якія займаліся выпускам вучэбных, даведачных, навукова-папулярных і літаратурна-мастацкіх выданняў — «PICORP», «Мет», «Сервег», «Белфаксиздатгруппа», «Сказ», «Аракул» і «Амалфея» [табл. 1].

Для задавальнення чытацкага попыту і адначасова атрымання хуткага прыбытку большасць недзяржаўных выдавецкіх прадпрыемстваў і арганізацый з правам выдавецкай дзейнасці Мінска сканцэнтраваліся на выданні дэтэктыўнай, прыгодніцкай мастацкай літаратуры, фантастыкі, а таксама дысідэнцкай, палітычнай і сацыяльна-эканамічнай літаратуры, раней недаступнай або забароненай. Так, шматпрофільнае выдавецтва ***«Эрыдан»***, створанае ў Мінску ў кастрычніку 1990 г. як Літаратурна-выдавецкае агенцтва музычнага таварыства БССР і ў лютым 1992 г. пераўтворанае ў выдавецка-паліграфічную кампанію, упершыню на тэрыторыі былога СССР выпусціла творы І. Бродскага (зборнік вершаў «Назидание»; 1991 г., самы поўны 2-томнік збору вершаў, п'ес і празаічных эсэ «Форма времени», 1992), кнігу А. Меня «Смертию смерть поправ» (1990). Выйшлі таксама такія кнігі, як «Звезда адмирала Колчака» — раман У. Максімава (1991), ажыццёўлена рэпрынтнае выданне серыі «Чтение мыслей», афортаў беларускага мастака-графіка С. Балянка (1990). Вядомасць і камерцыйны поспех прынесла выдавецтву серыя «Фантокрим-экстра», у якой выйшлі шматтомныя зборы твораў Дж. Чэйза, А. Крысці, Р. Говарда, К. Саймака, Р. Хайн-

лайна і іншых сусветна прызнаных майстроў дэтэктыва і фантастыкі. Карысталіся папулярнасцю і такія серыі, як «Гангстерский детектив», «Фантастика, приключения, детектив». Акрамя таго «Эрыдан» стаў выдаўцом першага часопіса фантастыкі «Фантакрым-MEGA» на рускай мове, штомесячніка «Фантакрим-пресс» («Невероятный мир»), часопісаў «Кэмпо» і «Фантакрим-экспресс», газет «Фемида», «Польский рынок» і «Восточный рынок». Да 1996 г. «Эрыдан» — вядучая недзяржаўная выдавецкая кампанія Мінска і Беларусі, здолеўшая развіць і асвоіць розныя кірункі выдавецкай дзейнасці, скіраваныя на задавальненне шырокага попыту масавага чытача і запаўненне дэфіцыту на кніжным рынку не толькі Беларусі, але і Расіі. У 1992 г. выдавецтвам быў выпушчаны паралельна на рускай і англійскай мовах даведнік «Кто издаёт книги в Республике Беларусь», дзе ўпершыню была сабрана і сістэматызавана даволі падрабязная інфармацыя пра дзяржаўныя і недзяржаўныя выдавецтвы і арганізацыі з правам выдавецкай дзейнасці. Каштоўнасць уключанага матэрыялу павышалася тым, што ў ім змяшчаўся паказальнік выдавецтваў па іх уладальніцкай прыналежнасці, а ў афармленні выдання былі выкарыстаны фірменныя знакі выдавецкіх арганізацый, многіх з якіх сёння ўжо не існуе. У 1996 г. на старонках газеты выдавецтва «Фемида» ўпершыню ў Беларусі з'явіўся аналітычны артыкул А.С. Патупы, падрыхтаваны да міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Недзяржаўная выдавецкая дзейнасць у Беларусі» (Мінск, 3—4 кастрычніка 1996 г.) пра стан беларускага кнігавыдання, дзе параўноўваліся не толькі дзяржаўны і недзяржаўны кнігавыдавецкія патокі, але матэрыял падаваўся ў параўнанні з кнігавыданнем у Расіі і Украіне, выказваліся прапановы па выхаду з крызіснай сітуацыі ў кнігавыданні Беларусі 1995—1996 гг. Аднак, нават аналітычныя даследаванні кнігавыдавецкай дзейнасці Беларусі, добрае веданне стану і перспектыў яго развіцця не абаранілі выдавецтва ад яго распаду. У 1997—1998 г. выйшла 11 апошніх выданняў «Эрыдана» і кампанія спыніла сваю дзейнасць. Усяго выдавецтва «Эрыдан» за час сваёй дзейнасці (паводле афіцыйнай статыстыкі) выпусціла 240 назваў кніг і брашур тыражом 23 млн. 277 тыс. экз.

Адным з «грандаў» у сферы новага беларускага недзяржаўнага кнігавыдання 1991—1996 гг. быў творча-вытворчы цэнтр на правах малога прадпрыемства ***«Паліфакт»***, зарэгістраваны ў снежні 1990 г. Выдавецкая дзейнасць «Паліфакта» была накіравана на выпуск архіўных і рукапісных матэрыялаў; кніг па краязнаўстве і гісторыі помнікаў культуры; мастацкай і публіцыстычнай літаратуры. Шэраг першых выдавецкіх праектаў кампанія ажыццяўляла з часопісамі «Знамя» і «Дружба народов», малымі прадпрыемствамі «Референдум», «Майнор-Саветик», ВАА «Паблісіці» і інш. Сярод першых выданняў — «Как стать бизнесменом» С. Жызніна і У. Крупнова (1990), «Лик — лицо — личина» Э. Невядомага (1990), «Искусство любви: Исследование природы любви» Э. Фрома (1990), «Империя Кремля» А. Аўтарханава (1991), «О смысле познания» А. Белага (1991 — упершыню ўзноўленае выданне: Петраград, 1922 г.), «Золотые россыпи (Чекисты в Париже)» У. Вінічэнкі (1991), «О душевной сущности ребёнка» К. Гейдэнбранда, «Письма Милене» Ф. Кафкі (абодва 1991), «Домашний доктор: медицинский справочник для всех» (1992) і інш. Першыя серыі «Паліфакта» — «Экспресс-книга», «Открытый университет», «Библиотечка «Домовой»» і «Встречная мысль» (рэпрынтнае выданне пратапопа Фамы Хопка «Основы православия»). Акрамя таго заслужаны аўтарытэт «Паліфакту» прынеслі нотна-музычныя выданні, якія выдаваліся ў сярэдзіне 1990-х гг. сумесна з Нацыянальным тэатральна-канцэртным аб'яднаннем «Беларуская капэла» ў серыі «Музыка старажытных сядзіб» («Музыка сям'і Ельскіх», 1995). Усяго ў 1990—1996 г. выдавецтва выпусціла 81 назву кніжнай прадукцыі тыражом 6 млн. 768 тыс. экз.

Сярод вядучых недзяржаўных выдавецкіх прадпрыемстваў 1991—1996 гг., якія займаліся выпускам вучэбнай, даведачнай, навукова-папулярнай і мастацкай літаратуры для дарослых і дзяцей — «Пікорп» (за 1991—1996 гг. выдадзена 362 назвы, тыраж — 28 млн. 67 тыс. экз.); «Мет» (237 назваў кніг, тыраж — 14 млн. 606 тыс. экз.); «Сервег» (176 назваў, тыраж — 5 млн. 721 тыс. экз.); «Белфаксиздатгруппа» (87 назваў, тыраж — 6 млн. 650 тыс. экз.); «Сказ» (70 назваў, тыраж — 3 млн. 685 тыс. экз.); «Аракул» (66 назваў, тыраж — 5 млн. 851 тыс. экз.) і «Амалфея» (71 назва, тыраж — 365 тыс. экз.).

Росквіт недзяржаўнага кнігавыдання і яго магутны ўсплёск у пачатку 1990-х гг. быў выкліканы з аднаго боку высокай чытацкай запатрабаванасцю перыяду «перабудовы», якой спрыяла дэмакратызацыя грамадства, свабода слова і друку, хваля выкрыцця, адкрытасці і даступнасці раней забароненай інфармацыі; з другога — гэта перыяд адносна танных затрат

на выдавецкую дзейнасць (на паперу, друк, крэдыты), невысокай канкурэнцыі. Такім чынам, пры дэфіцыце на запатрабаваную кніжную прадукцыю і шырокім рынку збыту недзяржаўная выдавецкая дзейнасць атрымала актыўнае і даволі эфектыўнае развіццё. Гэта паспрыяла і таму, што ў 1994 г. была створана Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў (БелАКК), якая разам з выдавецкім таварыствам «Завігар» заснавала газету «Книжный мир» (1997 — 2002), што прыйшла на змену газетам «Книга и мы» (1995—1998, заснавальнік — мінскае гарадское прадпрыемства «Белсаюздрук») і «Кнігарня» (1988—1995, заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Савет дырэктараў выдавецтваў, Кнігагандлёвая фірма «Белкніга»). З 1994 г. у Мінску пачала праводзіцца штогадовая Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш «Кнігі Беларусі», адным з арганізатараў якой з'яўляецца буйнейшая ў рэспубліцы кнігагандлёвая недзяржаўная кампанія «Макбел». З 1994 г. бярэ пачатак Рэспубліканскае свята «Дзень беларускага пісьменства і друку» — своеасаблівы штогадовы агляд кнігавыдавецкай дзейнасці Беларусі, дасягненняў беларускай кнігі.

У 1995 г. Дзяржаўны камітэт па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю быў перайменаваны ў Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, які прадоўжыў кіраванне і кантроль за кнігавыдавецкай справай у краіне, а таксама нарматворчую працу ў гэтай галіне. 13 студзеня 1995 г. Вярхоўным Саветам быў прыняты Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь №3515-XII (дзейнічае і сёння ў рэдакцыях ад 7.6.1996 № 438-XIII, ад 8.1.1998 № 134-З, ад 9.7.1999 № 285-З, ад 13.12.1999 № 337-З, ад 29.6.2006 № 137-З).

Тым не менш беларускае кнігавыданне як недзяржаўнае, так і дзяржаўнае ў 1995—1996 гг. не пазбегла крызіснай сітуацыі і значнага спаду па ўсіх паказчыках, адныміі з важнейшых прычын якіх сталі сацыяльна-эканамічныя — рост цэн на паліграфічныя паслугі і матэрыялы, адсутнасць інвестыцый у вытворчую сферу, недаступнасць крэдытавання, спад пакупніцкай здольнасці насельніцтва, падатковы ўціск. У 1996 г. перастала існаваць не толькі дзяржаўнае выдавецтва «Навука і тэхніка», але і шэраг недзяржаўных выдавецтваў, якія валодалі правам выдавецкай дзейнасці, рэзка знізілі або перасталі займацца выдавецкай дзейнасцю. Сярод недзяржаўных выдавецкіх прадпрыемстваў і арганізацый Беларусі ў рэальным выдавецкім працэсе ўдзельнічала крыху больш за 80 (з 1456) і гэта былі ў асноўным толькі сталічныя выдаўцы або выдавецтвы. Некаторыя з іх выжывалі за кошт арганізацыі сумесных расійска-беларускіх прадпрыемстваў, выкарыстоўваючы больш танныя, чым у Расіі, паліграфічныя магчымасці Беларусі (Беларускага дома друку, Мінскай фабрыкі каляровага друку і інш.), як, напрыклад, выдавецтва «Харвест», створанае ў 1994 г. Толькі за 2 гады сваёй выдавецкай дзейнасці (1995—1996) яно пабіла ўсе рэкорды па колькасці выдадзенай прадукцыі, якая склала 789 назваў, і выйшла на другое месца сярод недзяржаўных выдавецтваў па тыражах [табл. 1].

# НЕБЯСПЕКА РЫНКАВЫХ АДНОСІН (1997—2001 ГГ.)

З 30 мая 1997 г. у Беларусі ўступіла ў дзеянне новае «Палажэнне аб парадку выдачы і выкарыстання ліцэнзій на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці», у адпаведнасці з якім з ліпеня таго ж года пачалася перарэгістрацыя ўсіх выдавецтваў краіны. Да канца 1997 г. перарэгістрацыю прайшло 140 выдаўцоў, у 1998 г. было выдадзена яшчэ 215 ліцэнзій, у 1999 г. — 64, у 2000 г. — 56[638]. У 2001 г. у Беларусі валодалі правам выдавецкай дзейнасці 409 суб'ектаў гаспадарання (дзяржаўных, недзяржаўных, змешанай уласнасці). Значную долю сярод кнігавыдаўцоў Беларусі складалі разнастайныя міністэрствы, ведамствы, установы (навукі і адукацыі), камітэты і іншыя арганізацыі з правам выдавецкай дзейнасці, большасць з якіх знаходзілася менавіта ў сталіцы.

У 1997—2001 гг. цалкам па Беларусі было выдадзена 33 098 назваў кніг і брашур тыражом 307 млн. 591 тыс. экз. У 1997—2001 гг. у Мінску выйшла 28 964 назвы кніг і брашур, што ў агульным кнігавыдавецкім патоку Беларусі адпавядала 87,5%, а гэта ніжэй на 2,7%, чым за 1991—1996 гг. [табл. 4]. Аднак, калі вылучыць штогадовыя працэнтныя паказчыкі Мінска па колькасці назваў выдадзенай кніжнай прадукцыі, то можна адзначыць, што ў 1997—2001 гг. у Мінску назіралася стабільнае павелічэнне выпуску кніг і брашур па назвах (у параўнанні з 1991 г. рост на 67,3%). Што тычыцца тыражу выдадзенай у Мінску кніжнай прадукцыі, то ён склаў за 1997—2001 гг. 98,6% ад усёй колькасці тыражу па краіне [табл. 4]. Параўнаўшы паказчыкі па тыражы 2001 г. з 1991 г., неабходна адзначыць, што рост тыражу ў мінскіх выдавецтвах зусім нязначны, толькі на 2,9%. А ў 2000 і асабліва ў 2001 г. адбывалася яго даволі істотнае паніжэнне. Некаторы рост можна адзначыць толькі ў 1997 і 1999 гг., што адпавядала агульнай карціне кнігавыдання Беларусі гэтага часу [дыягр. 2]. Цалкам паказчыкі тыражу мінскіх кніжных выданняў за 1991—1996 гг. і 1997—2001 гг. амаль не адрозніваюцца [табл. 4].

На аднаго жыхара рэспублікі ў 2001 г. прыходзілася 5,6 выдадзеных кніг і брашур (у 1996 г. было 6,2) [табл. 5]. Памяншалася таксама ўдзельная вага беларускамоўнай кніжнай прадукцыі. Так, у 2001 г. кнігі на беларускай мове склалі па колькасці назваў — 11,1%; па тыражы — 11,8%. Для параўнання ў 1996 г. гэта былі адпаведна — 15,7% і 14,9% [табл. 5].

З 2001 г. кіраўніцтва выдавецкай справай стала ажыццяўляць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Своеасаблівай рысай развіцця кнігавыдання ў Беларусі з'явіўся актыўны ўплыў на гэты працэс дзяржавы, што выражалася ў дзяржаўным рэгуляванні рынку кніжнай прадукцыі, а таксама ў выпуску сацыяльна значнай літаратуры. Сярод адпаведных дзеянняў дзяржавы вылучаюцца два кірункі падтрымкі кнігавыдання ў рэспубліцы: прамое фінансаванне выпуску асобных сацыяльна значных выданняў (субсідыі для дзяржаўных патрэб) і розныя ільготы і прэферэнцыі падатковага і іншага характару (ускосная падтрымка)[639]. На выпуск літаратуры для дзяржаўных патрэб з дзяржаўнага бюджэту штогод выдзялялася ад 1 да 1,5 млн. долараў. Найбольш паказальным з'яўляецца фінансаванне доўгатэрміновых выдавецкіх праектаў такіх, як хронікі «Памяць» (1985—2007), 18-томная «Беларуская энцыклапедыя» (1996—2004), серыя «Школьная бібліятэка» (1996—2002, з 2005). Частка тыражу сацыяльна значнай літаратуры Міністэрствам інфармацыі накіроўвалася бясплатна ў бібліятэкі. Так, за 1996—2003 гг. бібліятэкі атрымалі больш за 300 назваў выданняў агульным тыражом 740 тыс. экз. Дзяржавай фінансаваўся выпуск вучэбнай літаратуры (120—150 назваў штогод), у іх ліку шрыфтам Брайля. На працягу многіх гадоў былі дазволены ільготы ў выглядзе вызвалення ад аплаты падаткаў на прыбытак, якімі маглі карыстацца тыя выдавецтвы, якія выпускалі літаратуру на беларускай мове. Ад падаткаў на дабаўленую вартасць вызвалялася дзіцячая літаратура. З сярэдзіны 2000 г. да 1 студзеня 2002 г. у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзейнічалі ільготы на выданне, вытворчасць і рэалізацыю кніжнай прадукцыі, звязанай з адукацыяй, навукай і культурай. На жаль, яны насілі толькі кароткачасовы характар і былі адменены на пачатку 2002 г.

На 2001 г. у Беларусі працягвалі дзейнасць 10 дзяржаўных выдавецтваў: «Беларуская навука» (з 1996 г.), «Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі», «Беларусь», «Вышэйшая школа», «Мастацкая літаратура», «Народная асвета», «Полымя», «Універсітэцкае», «Ураджай» і «Юнацтва», а таксама «Беларускі Дом друку» і «Дом прэсы» (з 1996 г.). У параўнанні з папярэднім этапам (1991—1996) у сектары дзяржаўных выдавецтваў працягваўся працэс

паніжэння іх долі ўдзелу ў выпуску кніжнай прадукцыі краіны: па колькасці назваў — на 16,6%; па тыражы — на 22,4% [табл 1, 2].

Найбольшыя галінова-тэматычныя комплексы ў выдавецкім рэпертуары дзяржаўных выдавецтваў у 1997—2001 гг. складалі:

літаратура па асвеце і педагогіцы (1460 назваў, тыраж 39 млн. 726 тыс. экз.);

дзіцячая літаратура (654 назвы, тыраж 6 млн. 324 тыс. экз.);

мастацкая літаратура (275 назваў, тыраж 703 тыс. экз.);

медыцынская літаратура (232 назвы, тыраж 1 млн. 532 тыс. экз.);

палітычная і сацыяльна-эканамічная літаратура (230 назваў, тыраж 1 млн. 248 тыс. экз.).

Лідэрства сярод дзяржаўнай кніжнай прадукцыі вызначанага перыяду па мэтавым прызначэнні (па відах выданняў) займалі:

вучэбныя і вучэбна-метадычныя выданні (1884 назвы, тыраж 41 млн. 431 тыс. экз.);

выданні для дзяцей і юнацтва (654 назвы, тыраж 6 млн. 324 тыс. экз.);




*Беларуская энцыклапедыя ў 18 тамах. Том 1. Мінск, 1996 г.*

**Вынікі дзейнасці вядучых выдавецтваў Мінска ў 1997–2001 гг.**

*Табліца 2*

| № п/п | Выдавецтвы | Колькасць назваў | у % | Тыраж (тыс. экз.) | у % |
|---|---|---|---|---|---|
| I. | Дзяржаўныя | 3635 | 11 | 53 млн. 120 тыс. экз. | 17,3 |
| 1. | «Народная асвета» | 549 | 15 | 31 429 | 59 |
| 2. | «Полымя» | 484 | 13 | 1 412 | 2,7 |
| 3. | «Вышэйшая школа» | 458 | 12,6 | 5 155 | 9,7 |
| 4. | «Ураджай» | 332 | 9 | 2 540 | 4,8 |
| 5. | «Беларуская навука» | 303 | 8,3 | 904 | 1,7 |
| 6. | «Юнацтва» | 274 | 7,5 | 1 905 | 3,6 |
| 7. | «Мастацкая літаратура» | 241 | 6,6 | 1 676 | 3.2 |
| 8. | «Беларусь» | 237 | 6,5 | 4 048 | 7,6 |
| 9. | «Універсітэцкае» | 225 | 6,2 | 2 535 | 4,8 |
| 10. | «Беларуская Энцыклапедыя» | 147 | 4 | 1 385 | 2,7 |
| II. | Недзяржаўныя | 18406 | 55,6 | 243 млн. 776 тыс. экз. | 79,3 |
| 1. | «Харвест» | 7289 | 39,6 | 106 240 | 43,6 |
| 2. | «Папуры» | 505 | 2,7 | 6 009 | 2,5 |
| 3. | «Кніжны Дом» | 397 | 2,2 | 6 403 | 2,6 |
| 4. | «Амалфея» | 264 | 1,4 | 1 405 | 0,6 |
| 5. | «Юніпрэс» | 141 | 0,8 | 1 304 | 0,5 |
| 6. | «Тэхналогія» | 128 | 0,7 | 172 | 0,07 |
| 7. | «Чатыры чвэрці» | 60 | 0,3 | 98 | 0,04 |
| 8. | «Кавалер Паблішэрс» | 45 | 0,2 | 397 | 0,2 |

літаратурна-мастацкія выданні (275 назваў, тыраж 573 тыс. экз.);

даведачныя (237 назваў, тыраж 1 млн. 609 тыс. экз.);

навуковыя (162 назвы, тыраж 165 тыс. экз.);

навукова-папулярныя выданні (139 назваў, тыраж 670 тыс. экз.).

У адрозненне ад дзяржаўных выдавецтваў, якія ўсё больш і больш здавалі свае пазіцыі, недзяржаўныя, нягледзячы на памяншэнне ў сваіх шэрагах колькасці ліцэнзаваных прадпрыемстваў, наадварот, усё актыўней заваёўвалі кніжны рынак Беларусі. Так, у 1997—2001 гг. у краіне рэальнай выдавецкай дзейнасцю займалася каля 130 прыватных выдавецтваў, якія выдалі агульнай колькасцю 18 406 назваў кніг і брашур тыражом 243 млн. 776 тыс. экз., што склала адпаведна 55,6% і 79,3% [табл. 2]. Асноўная частка кнігавыдавецкай прадукцыі ў недзяржаўным сектары належала:

мастацкай літаратуры (5452 назвы, тыраж 68 млн. 303 тыс. экз.);

палітычнай і сацыяльна-эканамічнай літаратуры (2962 назвы, тыраж 28 млн. 446 тыс. экз.);

дзіцячай літаратуры (2504 назвы, тыраж 63 млн. 746 тыс. экз.);

літаратуры па асвеце і педагогіцы (2242 назвы, тыраж 30 млн. 879 тыс. экз.);

літаратуры па тэхніцы (1359 назваў, тыраж 14 млн. 309 тыс. экз.).

Па відах выданняў гэта адпаведна былі:

літаратурна-мастацкія (5454 назвы, тыраж 68 млн. 476 тыс. экз.);

вучэбныя і вучэбна-метадычныя (3262 назвы, тыраж 35 млн. 066 тыс. экз.);

выданні для дзяцей і юнацтва (2503 назвы, тыраж 63 млн. 541 тыс. экз.);

навукова-папулярныя (2154 назвы, тыраж 24 млн. 361 тыс. экз.);

выданні для вольнага часу (1389 назваў, тыраж 24 млн. 699 тыс. экз.).

Даволі значны працэнт кнігавыдавецкай прадукцыі ў 1997—2001 гг. выпусцілі так званыя іншыя арганізацыі з правам выдавецкай дзейнасці. Праўда, іх удзельная вага ў беларускім кнігавыданні ў параўнанні з 1991—1996 гг. крыху панізілася і склала ў працэнтных лічбах 33,4% па назвах і 3,4% па тыражы, што адпаведна менш на 9% і 3,7%, чым на папярэднім этапе. Хоць па колькасці назваў выдадзеных кніг і брашур іншымі арганізацыямі назіраўся рост з 7681 (у 1991—1996 гг.) да 11057 (у 1997—2001 гг.), чаго не скажаш па тыражы, які з 21 млн. 904 тыс. экз. панізіўся да 10 млн. 695 тыс. экз. Галінова-тэматычныя прыярытэты кніжнай прадукцыі ў адрозненне ад дзяржаўных і недзяржаўных выдавецтваў уяўлялі наступную карціну:

палітычная і сацыяльна-эканамічная літаратура (1968 назваў, тыраж 1 млн. 617 тыс. экз.);

літаратура па асвеце і педагогіцы (1488 назваў, тыраж 2 млн. 907 тыс. экз.);

тэхнічная літаратура (1379 назваў, тыраж 620 тыс. экз.);

літаратура па прыродазнаўчых навуках (888 назваў, тыраж 247 тыс. экз.);

медыцынская літаратура (774 назвы, тыраж 315 тыс. экз.).

Найбольшыя відавыя комплексы, як і ў дзяржаўным кнігавыданні, складалі вучэбныя і вучэбна-метадычныя выданні (4340 назваў, тыраж 3 млн. 684 тыс. экз.).

Асноўным адрозненнем стаў прыярытэт выданняў па выпуску:

навуковых (1785 назваў, тыраж 469 тыс. назваў),

вытворчых (894 назвы, тыраж 656 тыс. экз.),

даведачных (611 назваў, тыраж 448 тыс. экз.),

інфармацыйных (269 назваў, тыраж 198 тыс. экз.).

Скасаванне ільгот, якія існавалі для вытворчасці і рэалізацыі кніжнай прадукцыі, ва ўмовах агульнага з Расіяй кніжнага рынку і наяўнасць у нашых суседзяў істотнай дзяржаўнай падтрымкі не толькі аказала ўздзеянне, якое дэстабілізавала працу выдавецтваў Беларусі, але і стварыла сур'ёзныя перашкоды для руху беларускай кнігі на знешнія рынкі. Дзеянне ў Расійскай Федэрацыі ў 1995—2001 гг. Федэратыўнага Закона «Аб дзяржаўнай падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі і кнігавыдання», які прадугледжваў ільготы падатковага, мытнага, валютнага і іншага рэгулявання выдавецкай дзейнасці, а да 2005 г. — зніжаная стаўка падаткаў на дабаўленую вартасць (ПДВ) да 10% пры рэалізацыі кніг па адукацыі, навукі і культуры (у той час у Беларусі яна складала 20%) — спрыялі стабілізацыі расійскага кнігавыдання і яго значнаму пад'ёму, а таксама запаўненню кніжнага рынку Беларусі літаратурай з Расіі (да 90%). У такіх умовах беларускія выдаўцы ўсё больш страчвалі сваю канкурэнтаздольнасць[640], а ўзаемаадносіны з дзяржавай набывалі супярэчлівы характар.

# ЛЕПШ МЕНШ — ДЫ ЛЕПШ? (2002—2007 ГГ.)

Вынікі кнігавыдавецкай дзейнасці ў Беларусі за 2002 г. у параўнанні з 2001 г. засведчылі значны яе спад па ўсіх паказчыках [дыягр. 4, 5]. Колькасць назваў выпушчаных кніг і брашур паменшылася на 2,4%, тыраж — на 19,6%. Найбольшыя страты панеслі менавіта дзяржаўныя выдавецтвы, выпуск кніжнай прадукцыі ў якіх панізіўся проста катастрафічна: па колькасці назваў — на 23,2% і па тыражы — на 31,2% [табл. 3]. Зменшыўся на 7,9% узровень рэнтабельнасці дзяржаўных выдавецтваў. Найбольшы ўзровень рэнтабельнасці мелі ў 2002 г. выдавецтвы «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» — 22,2% і «Вышэйшая школа» — 19,8%, а самы нізкі — «Мастацкая літаратура» (14,3%). На падзенне паказчыкаў у сектары дзяржаўнага кнігавыдання паўплывала і праведзеная рэарганізацыя дзяржаўных выдавецтваў[641]. Так, у ліпені 2002 г. былі рэарганізаваны шляхам зліцця наступныя выдавецтвы: «Універсітэцкае» і «Вышэйшая школа» — зараз «Вышэйшая школа»; «Юнацтва» і «Мастацкая літаратура» — зараз «Мастацкая літаратура»; «Ураджай», «Полымя» і «Беларусь» — зараз «Беларусь».

Знізіліся паказчыкі і недзяржаўных прадпрыемстваў: колькасць назваў — на 0,7%, тыраж — на 15,8%. Назіралася падзенне тыражу і ў сектары іншых арганізацый з правам выдавецкай дзейнасці — на 33,6%.

Далейшае падзенне паказчыкаў адбывалася ў выпуску кніг на беларускай мове: па назвах — на 8,5%; па тыражы — на 33,1% [табл. 5; дыягр. 3, 4]. Значнае зніжэнне беларускамоўнага выдання ізноў даваў дзяржаўны сектар: па назвах — на 17,5%, па тыражы — на 43%. Паменшыліся і колькасныя паказчыкі выпуску кніг на беларускай мове сярод іншых арганізацый з правам выдавецкай дзейнасці: па назвах — на 11%, па тыражы — на 49,6%. Дадатная дынаміка ў галіне беларускамоўнага кнігавыдання адзначалася толькі ў дзейнасці недзяржаўных выдавецтваў, якія павялічылі выпуск беларускамоўных кніг па назвах на 22,4% і па тыражы — на 11,9% [табл. 5].

Не вызначаліся стабільнасцю 2003 і 2004 гг. Сур'ёзнымі стрымліваючымі фактарамі заставаліся зацягнуты працэс прыняцця новых нарматворчых дакументаў па стаўцы падаткаў на кніжную прадукцыю, звязаную з адукацыяй, навукай і культурай; неуніфікаванасць падатковага заканадаўства Беларусі і Расіі ў галіне кнігавыдання. Негатыўнае ўздзеянне мела і ўвядзенне падаткаў з продажу на імпартуемую кніжную прадукцыю (ад 5 да 15%). Асабліва абвастрылася праблема ва ўмовах скарачэння субсідавання сацыяльна значнай літаратуры з дзяржбюджэту і нерытмічнага паступлення гэтых сродкаў, у той час, калі намаганні большасці дзяржаўных выдаўцоў былі скіраваны ў асноўным на выпуск літаратуры, фінансаванай з дзяржбюджэту.

14.7.2003 г. быў зацверджаны Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 17 «Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці», у адпаведнасці з якім Міністэрства інфармацыі пачало ажыццяўляць перарэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання, што займаліся выдавецкай дзейнасцю. На працягу 2004 і 2005 гг. перарэгістрацыя практычна была завершана. У 2004 г. ліцэнзіі на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці атрымалі 442 юрыдычныя і фізічныя асобы; у 2005 г. — яшчэ 85 і на 1 студзеня 2006 г. ліцэнзаванай выдавецкай дзейнасцю мелі права займацца 540 суб'ектаў гаспадарання. За 2006 г. колькасць выдавецкіх арганізацый у Беларусі павялічылася і дасягнула 612. Дадзеная тэндэнцыя працягвала захоўвацца на працягу 2007 г. (на канец 2007 г. — 662)[642].

Усяго за перыяд 2002—2007 гг. у Беларусі выйшла 60 017 назваў кніг і брашур тыражом 266 млн. 369 тыс. экз. [табл. 5]. Асноўную частку кніжнага рэпертуару складалі выданні недзяржаўных прадпрыемстваў і іншых арганізацый з правам выдавецкай дзейнасці — 94,4% назваў і 89% тыражу. Адпаведна 5,6% выпуску назваў і 11% тыражу належала пяці дзяржаўным выдавецтвам[643]: «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», «Беларусь», «Вышэйшая школа», «Мастацкая літаратура», «Народная асвета», а таксама «Выдавецкаму дому «Беларуская навука»», «Беларускаму Дому друку» і «Дому прэсы» [табл. 3].

Прыярытэтнымі галінова-тэматычнымі кірункамі ў агульным патоку кнігавыдавецкай прадукцыі Беларусі 2002—2007 гг. былі:

адукацыя і выхаванне (12 727 назваў, тыраж 88 млн. 463 тыс. экз.);

мастацкая літаратура (9 394 назвы, тыраж 59 млн. 320 тыс. экз.);

медыцына (4 149 назваў, тыраж 14 млн. 232 тыс. экз.);

мастацкая і пазнавальная літаратура для дзяцей (3 869 назваў, тыраж 35 млн. 37 тыс. экз.);

філалогія (3 164 назвы, тыраж 5 млн. 178 тыс. экз.).

**Вынікі дзейнасці вядучых выдавецтваў Мінска ў 2002–2007 гг.** *Табліца 3*

| № п/п | Выдавецтва | Колькасць назваў | у % | Тыраж (тыс. экз.) | у % |
|---|---|---|---|---|---|
| I. | Дзяржаўныя | 3 369 | 5,6 | 29 млн. 543 тыс. экз. | 11 |
| 1. | «Народная асвета» | 1 216 | 36 | 17 237 | 58,3 |
| 2. | «Вышэйшая школа» | 698 | 20,7 | 4 152 | 14,5 |
| 3. | «Мастацкая літаратура» | 424 | 12,6 | 2 248 | 7,6 |
| 4. | «Беларуская навука» | 405 | 12 | 350 | 1,2 |
| 5. | «Беларусь» | 267 | 7,97 | 2 391 | 8,1 |
| 6. | «Беларуская Энцыклапедыя» | 143 | 4,2 | 507 | 1,7 |
| II. | Недзяржаўныя | 40 599 | 67,6 | 233 млн. 060 тыс. экз. | 83,7 |
| 1. | «Харвест» | 14 622 | 36 | 110 096 | 49,4 |
| 2. | «Аверсэв» | 1 434 | 3,5 | 15 229 | 6,8 |
| 3. | «Папуры» | 1 385 | 3,4 | 13 059 | 5,9 |
| 4. | «Сучасны літаратар» | 1 145 | 2,8 | 11 326 | 5,1 |
| 5. | «Кніжны Дом» | 1 141 | 2,8 | 15 422 | 6,9 |
| 6. | «Юніпрэс» | 1 008 | 2,5 | 6 974 | 3,1 |
| 7. | «ТэтраСістэмс» | 625 | 1,5 | 2 430 | 1,1 |
| 8. | «Амалфея» | 401 | 1 | 978 | 0,4 |
| 9. | «Тэхналогія» | 119 | 0,3 | 113 | 0,05 |
| 10. | «Чатыры чвэрці» | 96 | 0,2 | 76 | 0,03 |
| 11. | «Кавалер Паблішэрс» | 61 | 0,2 | 256 | 0,1 |

Актывізавалася выданне літаратуры па філасофіі і псіхалогіі (2533 назвы, тыраж 12 млн. 948 тыс. экз.). Характэрную карціну кніжнай прадукцыі адлюстроўваюць вынікі 2006 г. Так, асноўнае месца ў тэматычным рэпертуары дзяржаўных выдавецтваў займалі выданні па грамадскіх навуках — 56,8%; мастацкая літаратура — 13,4%; прыкладныя навукі, медыцына і тэхніка — 11,8%; матэматыка і прыродазнаўчыя навукі — 3,7%; геаграфія і гісторыя — 3,5%. Адпаведна, найбольшыя галінова-тэматычныя комплексы кніжнай прадукцыі, выпушчанай недзяржаўнымі і іншымі выдавецкімі арганізацыямі, складаюць таксама грамадскія навукі — 32%; прыкладныя навукі, медыцына і тэхніка — 21,7%; мастацкая літаратура — 19,9%; літаратура па філасофіі і псіхалогіі — 4,8%; па філалогіі — 3,8%; матэматыцы і прыродазнаўчых навуках — 3,6%.

Вядучыя пазіцыі ў кнігавыдавецкім патоку 2002—2007 гг. па мэтавым прызначэнні мелі выданні:

вучэбныя (23 341 назва, тыраж 87 млн. 989 тыс. экз.);

літаратурна-мастацкія (8611 назваў, 41 млн. 730 тыс. экз.);

навуковыя (6304 назвы, тыраж 1 млн. 893 тыс. экз.);

навукова-папулярныя (4935 назваў, тыраж 30 млн. 424 тыс. экз.);

выданні для дзяцей і юнацтва (4054 назвы, тыраж 36 млн. 421 тыс. экз.);

даведачныя (3925 назваў, тыраж 13 млн. 269 тыс. экз.);

вытворча-практычныя выданні (3529 назваў, тыраж 8 млн. 651 тыс. экз.).

Вызначаныя прыярытэты склаліся менавіта дзякуючы выпушчаным кніжным выданням у сектары недзяржаўных выдавецтваў і іншых арганізацый з правам выдавецкай дзейнасці. Так, па выніках 2006 г., у выпуску літаратуры па мэтавым прызначэнні сярод вызначаных выдавецтваў пераважалі вучэбныя і вучэбна-метадычныя (38%), літаратурна-мастацкія (15,2%), навуковыя (8,5%), навукова-папулярныя (8,3%), даведачныя выданні (6,9%), выданні для дзяцей і юнацтва (6,6%), вытворча-практычныя (6,2%). Крыху іншыя акцэнты ў выдавым комплексе кніжных выданняў дзяржаўных выдавецтваў (па выніках 2006 г.): вучэбныя і вучэбна-метадычныя выданні (59,7%), навуковыя (12,2%), літаратурна-мастацкія (7%), для дзяцей і юнацт-




*Разварот кнігі В. Гурскага «Кучараўчык». Мінск, 2004 г.*

ва (6,8%), навукова-папулярныя (5,8%), даведачныя (5%), афіцыйныя (1,4%).

На беларускай мове за 2002—2007 гг. выйшла 5299 назваў кніг і брашур тыражом 21 млн. 573 тыс. экз. Сярэдняя лічба выпуску беларускамоўных выданняў ад агульнай колькасці кніжнай прадукцыі за вызначаны час складае 9% назваў і 8% тыражу. Самыя нізкія паказчыкі па назвах (7,1%) — у 2006 г., а па тыражы (7,6%) — у 2007 г. [табл. 5; дыягр. 3, 4]. Асноўную частку беларускамоўнай кніжнай прадукцыі склалі кнігі недзяржаўных і іншых арганізацый з правам выдавецкай дзейнасці.

Найбольш актыўнай дзейнасцю ў Беларусі ў 2002—2007 гг. займалася 270 выдавецкіх прадпрыемстваў, якія выпусцілі ад трох і звыш таго кніг і брашур. Хоць асноўная частка кніжнай прадукцыі выйшла ў Мінску, у параўнанні з папярэднімі этапамі назіралася далейшае памяншэнне сярэдняй ўдзельнай вагі кніжнай прадукцыі сталіцы ў агульным кнігавыдавецкім патоку Беларусі: па назвах на 2,9%, па тыражы на 1,4% [табл. 4]. Дадзеныя лічбы сведчаць пра некаторы рост кнігавыдавецкай актыўнасці ў іншых рэгіёнах Беларусі.

У Мінску, як і па ўсёй Беларусі склалася даволі стабільная дынаміка росту колькасці назваў кнігавыдавецкай прадукцыі. Так, калі ў 2001 г. Мінск папоўніў кніжны рынак Беларусі 7076 назвамі новых кніг, то ў 2007 г. іх колькасць налічвала 10 493 назвы, што на 32,6% больш. Дадзеную тэндэнцыю можна адзначыць ужо пачынаючы з 1993 г., у параўнанні з якім адпаведныя паказчыкі сталічных выданняў 2007 г. павялічыліся ў чатыры разы. Што тычыцца тыражу мінскай кнігавыдавецкай прадукцыі, то тут пасля 1993 г. склалася адваротная сітуацыя — колькаснага спаду амаль у два разы. Нават у параўнанні з 2001 г. агульны тыраж кніжнай прадукцыі Мінска 2007 г. упаў на 10,4%. [табл. 4; дыягр. 1, 2].

Рэальныя змены, якія адбыліся ў сучасным беларускім кнігавыданні, знайшлі яскравае пацвярджэнне і ў структуры кнігавыдавецкага рэпертуару Беларусі, дзе разам з вучэбнымі і вучэбна-метадычнымі выданнямі, усё большае месца пачынаюць займаць навуковыя і навукова-папулярныя выданні (разам каля 63% ад усіх надрукаваных кніг і брашур). Назіраецца павелічэнне выпуску сацыяльна значнай літаратуры. Навуковыя і адукацыйныя установы, якія маюць уласную выдавецка-




*М. Раманюк. Беларускія народныя крыжы. Мінск, 2000 г.*

паліграфічную базу і большасць з якіх размяшчаецца ў сталіцы, займаюцца выданнем вучэбных і навуковых прац, манаграфій. Звычайна гэта малатыражная літаратура, аднак колькасць назваў падобных выданняў мае ўстойлівую тэндэнцыю да пашырэння. Так, па выніках 2006 г. лідзіруючае становішча сярод такіх устаноў заняў Беларускі дзяржаўны універсітэт (158 назваў, тыраж 29,6 тыс. экз.); 2007 г. — Беларускі нацыянальны тэхнічны універсітэт (160 назваў)[644].

Сярод лідэраў дзяржаўнага кнігавыдання — выдавецтва ***«Народная асвета»***, якое займала вядучыя пазіцыі апошнія 25 гадоў. За гады сваёй дзейнасці выпусціла больш за 10,5 тыс. назваў кніг агульным тыражом звыш 450 млн. экз. У 1997—2001 гг. колькасць выданняў склала 549 назваў тыражом 31 млн. 429 тыс. экз.; у 2002—2006 гг. — 989 назваў кніг тыражом 14 млн. 377 тыс. экз. Пачынаючы з 2004 г. «Народнай асвеце» ўдаецца штогод выпускаць у сярэднім больш за 200 назваў падручнікаў, дапаможнікаў, рабочых сшыткаў, хрэстаматый, дыдактычных і метадычных матэрыялаў, слоўнікаў, навукова-папулярнай і даведачнай літаратуры на 6 мовах. Кніжнае выдавецтва спецыялізуецца на выпуску вучэбных і літаратурна-мастацкіх выданняў. На паліграфічнай базе фабрыкі «Красная звезда», дзе створаны спецыялізаваны участак, выдае вучэбную і мастацкую літаратуру рэльефна-кропкавым шрыфтам Брайля для дзяцей-інвалідаў па зроку; працягвае серыю «Школьная бібліятэка» (узноўлена ў 2005 г.), выданні якіх з'яўляюцца сацыяльна значнымі і поўнасцю фінансуюцца дзяржавай. Асноўным заказчыкам і фінансістам выдавецтва выступае Міністэрства адукацыі, для якога «Народная асвета» выпускае падручнікі для агульнаадукацыйных і спецыяльных школ — 120—150 найменняў штогод. Аднымі з лепшых выданняў выдавецтва з'яўляюцца «Ілюстраваная гісторыя старажытнай Беларусі» М.М. Чарняўскага (1997), «Ці ведаеце вы гісторыю сваёй краіны?» (1998), «Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI—XV стст.)» (1998), «Кандрат Крапіва: Постаць і творы» А. Сабалеўскага (2003), «Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці» І. Навуменкі (2003), «Беларуская мова. 10 клас» (1999), «Моя Родина — Беларусь» (2003), «Святое Пісанне для дзяцей» (2005), фотаальбомы пра жыццё і творчасць Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, К. Чорнага, І. Шамякіна. Сярод лепшых вучэбных выданняў 2003 г. — падручнік «Франция. 8—11 клас»; 2004 г. — «Биология. 8 класс» Л. Камлюк.

Прыярытэтны кірунак па выданні вучэбнай, навуковай і навукова-папулярнай літаратуры падтрымліваюць «Вышэйшая школа» і Выдавецкі дом «Беларуская навука».

У чэрвені 2000 г. дзяржаўнае кніжнае выдавецтва ***«Вышэйшая школа»*** набыло статус Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства, а ў 2002 г. у яго склад увайшло выдавецтва «Універсітэцкае». У 1997—2001 гг. «Вышэйшая школа» выдала 458 назваў кніг тыражом 5 млн. 155 тыс.; у 2002—2006 гг. — 564 назвы тыражом 3 млн. 585 тыс. экз. Усяго за перыяд сваёй дзейнасці выпусціла звыш 6 тыс. назваў кніг агульным тыражом больш за 96 млн. экз. Спецыялізацыю «Вышэйшай школы» вызначаюць вучэбныя і даведачныя выданні для ўстаноў вышэйшай, сярэдне-спецыяльнай, прафесійна-тэхнічнай, агульнай сярэдняй адукацыі, дашкольных устаноў. Сярод вучэбных, навуковых, навукова-папулярных і даведачных выданняў кнігі па фізіцы, матэматыцы, радыёэлектроніцы, вылічальнай тэхніцы, машынабудаванні, будаўніцтве, архітэктуры, эканоміцы, фінансах, біялогіі, меды-




*Тытульны ліст кнігі А. Воінава «Гісторыя архітэктуры Беларусі». Кн. 2. Мінск, 1987 г.*

цыне, сацыялогіі, гісторыі, мастацтве, літаратуразнаўстве, мовазнаўстве. У выдавецтве выходзяць вучэбныя і даведачныя выданні на англійскай, нямецкай, французскай і іспанскай мовах. Лепшыя з кніг «Вышэйшай школы» адзначаны дыпломамі Рэспубліканскага конкурсу «Мастацтва кнігі». Так, у намінацыі «Лепшае вучэбнае выданне 2005 года» на 46-м Рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі» лепшай прызнана серыя вучэбных дапаможнікаў для дзяцей ад 3 да 5 гадоў «Мир детства». Змястоўнасцю і якасцю мастацкага афармлення вызначаецца фотаальбом «Палессе. Ад Буга да Убарці» (2005).

Выдавецкі дом ***«Беларуская навука»***, які быў створаны ў 1996 г. на базе выдавецтва «Навука і тэхніка», у кастрычніку 2000 г. таксама набыў статус Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства. З красавіка 2005 г. у назву былі ўнесены змены і замест выдавецтва «Беларуская навука» з'явіўся «Выдавецкі дом «Беларуская навука»». За 1996—2001 гг. выдаў 303 назвы кніг тыражом 904 тыс. экз.; за 2002—2006 гг. — 311 назваў тыражом 299 тыс. экз. (у 2006 г. — 92 назвы кніг тыражом 39 тыс. экз.). Усяго ж на рахунку выдавецтва 614 назваў кніг тыражом 1 млн. 203 тыс. экз. У асноўным гэта навуковыя, навукова-папулярныя, вучэбныя, даведачныя, масава-палітычныя, літаратурна-мастацкія і выданні для вольнага часу. Выдаецца таксама літаратура на еўрапейскіх мовах. Выдавецтва працягвае такія шматтомныя серыі навуковых выданняў «Навукі і тэхнікі», як «Беларуская народная творчасць» (выдаецца з 1970 г.), «Беларусы» (з 1995 г.). Сярод кніг фундаментальныя працы па гісторыі беларускага мастацтва, тэатра, кіно, літаратуры, дзяржавы і права Беларусі, археалогіі, этнаграфіі і фальклоры, граматыкі беларускай мовы; слоўнікі і манаграфіі пра жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў, якія адлюстроўваюць дзейнасць навуковых інстытутаў НАН Беларусі, навукова-даследчых устаноў неакадэмічнага профілю, шэрага вучэбных устаноў. У выдавецтве выйшлі такія выданні, як «Актавая кніга полацкага магістрата 1650 г.: зборнік дакументаў» (2006); тэматычны слоўнік «Чалавек» (2006); «Беларусы» (т. 4—9, 2001—







*Вокладка кнігі М. Батвінніка «Азбука на ўсе часы» Мінск, 2003 г.*

*Вокладка кнігі А. Разанава «Танец з вужакамі». Мінск, 1999 г.*

2006); «Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX стст.» (т. 1, 2006); «Збор твораў» у 13 тамах М. Танка (2006); «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» (вып. 15—26, 1996—2006); бібліяграфічны даведнік «Працы Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАН Беларусі (1981—2005)» (2006); «Слоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмінаў: тапаграфія, гідралогія» І. Яшкіна (2005); «Этымалагічны слоўнік» (т. 9—10, 2004—2005); «Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI — первой половины XIX в.: средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм» Ю. Чантурыя (2005); «Жылі-былі класікі» Г. Кісялёва (2005); «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў» (2001), «Гісторыя кінамастацтва Беларусі» (т. 1—3, 2001—2004), «Метрыка Вялікага княства Літоўскага» (2003), «Азбука на ўсе часы» М. Батвінніка (2003), «Клиническая фитотерапия и онкология» У. Корсуна і К. Траскунова (2003) і інш. Запатрабаванасць выданняў «Беларускай навукі» пацвярджае іх перавыданне — гэта «Па слядах аднаго міфа» М. Ермаловіча (3-е выд. — 2001, 4-е выд. — 2002); «Барока ў беларускай культуры і мастацтвазнаўстве» (2-е выд. — 2001, 3-е выд. — 2005), «Старабеларускія граматыкі: Да праблемы агульна-філалагічнай цэласнасці» А. Яскевіч (1-е выд. — 1996, 2-е выд. — 2001), «Туровская земля IX—XIII вв.» П.Ф. Лысенкі (2-е выд. — 2001), «Збор твораў» М. Багдановіча (у 3-х тамах, 1-е выд. — 1991—1995; 2-е выд. — 2001), «Змітрок Бядуля» І. Навуменкі (2-е выд. — 2004); «Анталогія даўняй беларускай літаратуры XI — першай паловы XVIII ст.» (2-е выд. — 2005); «Уладзімір Караткевіч: жыццё і творчасць» А. Вераб'я (2-е выд. — 2005); «Шлях да Беларусі» У. Мархеля (2-е выд. — 2003) і інш. «Лепшым навуковым выданнем 2005 года» на 46-м Рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі» стаў першы том «Архітэктуры Беларусі. IX—XIV стст.» (т. 1—4). Дзякуючы ўдзелу кніг выдавецтва ў Маскоўскім, Варшаўскім, Іерусалімскім, Франкфурцкім міжнародных кірмашах, геаграфія іх распаўсюджання пашыраецца: Канада, ЗША, Польшча, Францыя, Германія, Кітай і інш. «Беларускай навукай» працягваецца выданне таксама часопісаў «Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» (з 1940 г., у 7 серыях), «Доклады Национальной академии наук Беларуси» (з 1957 г.), газеты «Веды» (з 1979 г.). З 2003 г. у выдавецтве пачаў выходзіць навуковы часопіс «Наука и инновации», а з 2006 г. — «Аграрная экономика». Выдавецтва валодае ўласным участкам аператыўнай паліграфіі.

Асноўным дзяржаўным выдаўцом беларускай мастацкай літаратуры і літаратуры для дзяцей і юнацтва з'яўляецца выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства ***«Мастацкая літаратура»***. Аднак, нягледзячы на вызначаную спецыялізацыю па выпуску твораў мастацкай літаратуры на беларускай, рускай, англійскай і іншых мовах, выдавецтва займаецца выданнем навуковай, навукова-папулярнай, вытворча-практычнай, вучэбнай, масава-палітычнай і даведачнай літаратуры. У 2002 г. да «Мастацкай літаратуры» было далучана выдавецтва «Юнацтва». У 1997—2001 гг. «Мастацкая літаратура» выпусціла 241 назву кніг і брашур агульным тыражом 1 млн. 676 тыс. экз.; у 2002—2006 гг. — 337 назваў кніг тыражом 1 млн. 750 тыс. экз. Усяго за час дзейнасці «Мастацкай літаратуры» выйшла каля 5 тыс. назваў кніг і брашур агульным тыражом каля 200 млн. экз. Асаблівы гонар выдавецтва — зборы твораў Я. Купалы, К. Крапівы, М. Танка, В. Быкава, І. Шамякіна. Значнае месца займае і выданне вучэбнай літаратуры гуманітарнага кірунку, серыі «Школьная бібліятэка». Асабліва плённым па выпуску кніг пісьменнікаў XIX — першай паловы XX ст. быў для выдавецтва 2001 г., калі выйшлі творы М. Багдановіча, Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Лучыны. Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь адзначаны пераклад У. Скарынкіна «Боскай камедыі» Дантэ (1997, Нацыянальная прэмія Італіі 1998 г.; Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Я. Купалы 2000 г.), «Бабчын» М. Мятліцкага (1996), «Явар з калінаю» (1994) і «Арляк і зязюля» (1998) М. Кусянкова, якія выйшлі ў «Мастацкай літаратуры». З выдавецтвам супрацоўнічаюць мастакі-графікі А. Цароў, М. Казлоў, В. Латышаў, М. Купава, П. Драчоў, С. Чарановіч, В. Масцераў, А. Бетанава, П. Калінін, В. Буцько, В. Губараў, І. Бокій і інш.

У 1998 г. выдавецтвам заснаваны такія папулярныя серыі, як «Беларуская проза XX стагоддзя» і «Беларуская паэзія XX стагоддзя» (а зараз і XXI стагоддзя); у 2003 г. — «Беларусь літаратурная». Творчы падыход вызначае «Мастацкую літаратуру» пры распрацоўцы чарговых новых серый. Адна з іх — «Мастакі Беларусі», якую ў 2005 г. адкрыла выданне «Віктар Альшэўскі. Уражанне раўнавагі, альбо Лесвіца ўверх». Дзіцячаму чытачу прапанаваны з 2005 г. серыі «Твае гарады, Беларусь», у якой выйшла папулярная кніга «Я — мінчанін» (2005), серыі «Казка за казкай» і «Зямля мая». У серыі «Жыццяпіс вялікіх князёў літоўскіх» убачыла свет арыгінальнае выданне — «Міндаўг. Пачатак гаспадарства» А. Краўцэвіча (2005); у серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі» ў 2005 г. выйшлі кнігі, прысвечаныя народным мастакам Беларусі Яўгену Чамадураву і Леаніду Шчамялёву. Цікавыя праекты выдавецтва — серыі «Дэбют» і «Зямля мая», у якіх друкуюцца кнігі маладых таленавітых беларускіх пісьменнікаў. У 2005 г. чытачы змаглі пазнаёміцца з творчасцю Ю. Каляды, Р. Малахоўскага, Н. Кучмель. Тытул «Лепшага выдання года» за 2004 г. атрымала кніга «Владимир Мулявин. Нота судьбы»; за 2005 г. — «Віктар Альшэўскі. Уражанне раўнавагі, альбо Лесвіца ўверх». Сярод дыпламаваных кніг — «Санеты» Я. Купалы (2002), «Кніга пра расліны» (2004), «Кучараўчык» В. Гурскага (2004), «Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!: успаміны, інтэрв'ю, эсэ» (2005, серыя «Жыццё знакамітых людзей Беларусі»). Вышэйшай узнагародай конкурсу «Мастацтва кнігі» — Дыпломам імя Францыска Скарыны — адзначана выданне ў 2-х кнігах «Память со слезами на глазах: песни о Великой Отечественной войне» і «1418 дней Великой Отечественной войны: хронология событий», аб'яднаных футлярам пад назвай «Победа» (мастакі А.Б. Пятроў і У.А. Рагалевіч, 2005).

У 2006 г. выдавецтвамі «Мастацкая літаратура», «Народная асвета» і Мінскай фабрыкай каляровага друку ажыццёўлены выпуск электронных выданняў: творы Я. Коласа «На ростанях. Новая зямля» (на 2-х кампакт-дысках у серыі «Бібліятэка школьніка»); электронная версія падручніка «Геаграфія» і мультымедыйны дадатак да альбома выяўленчага мастацтва «Андрей Смоляк».

Высокі ўзровень падрыхтоўкі галіновых і універсальных энцыклапедый, слоўнікаў вызначае выдавецтва ***«Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі»***, якое спецыялізуецца на выданні даведачнай літаратуры. Акрамя таго, рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства (з верасня 2000 г.) выконвае не толькі функцыі выдавецкай арганізацыі, але і навукова-даследчага інстытута шырокага інфармацыйнага профілю. Выпускае таксама афіцыйную, навукова-папулярную, вучэбную і мастацкую літаратуру, выданні для вольнага часу. У 1997—2001 гг. выпусціла 147 назваў кніг і брашур тыражом 1 млн. 385 тыс. экз.; у 2002—2006 гг. — 130 назваў кніг тыражом 469 тыс. экз. Усяго за час сваёй выдавецкай дзейнасці выдала звыш 600 назваў агульным тыражом каля 20 млн. экз.

Найбольш маштабнымі праектамі «Беларускай Энцыклапедыі» сталі выданне ў 1996—




*Вокладка энцыклапедыі «Рэспублика Беларусь». Том 1. Мінск, 2005 г.*

2004 гг. 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі»; у 1993—2003 гг. — 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»; у 2002—2003 гг. — 2-томнай «Тэатральнай энцыклапедыі»; у 2005—2006 гг. — 2-томных энцыклапедый «Вялікае княства Літоўскае» і «Беларускі фальклор»; у 2005 г. — «Спартыўнай энцыклапедыі Беларусі», энцыклапедычных даведнікаў па абласцях і раёнах Беларусі, гісторыі, сусветнай культуры, рэлігіі, геаграфіі, жывёльным свеце, ваеннай справе і інш. У 2005 г. выдавецтва выпусціла заключны том серыі гісторыка-дакументальных хронік «Памяць» — «Памяць Беларусі», а ўсяго ў выдавецтве іх было падрыхтавана 42 кнігі. Выдадзены таксама чацвёрты том кнігі «Памяць. Мінск» (2006). На пачатку новага тысячагоддзя «Беларуская Энцыклапедыя» заснавала некалькі новых серый — гэта «Гарады і вёскі Беларусі» (з 2004 г.); «Гісторыя Беларусі ў дакументах, манаграфіях, літаратурных помніках» (з 2005 г.); «Помнікі гістарычнай думкі Беларусі» (з 2006 г.). У апошняй выйшлі два тамы «Беларусаў» Я. Карскага (2006). У 2005 г. пачалася рэалізацыя чарговага маштабнага праекта, які стаў своеасаблівым «пашпартам» нашай краіны, — гэта 7-томная энцыклапедыя «Республика Беларусь» на рускай мове (у 2005—2006 гг. выйшлі т. 1—3), якая стала пераможцам III міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў-удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў у жніўні 2006 г., атрымаўшы дыплом III ступені ў намінацыі «Садружнасць». Яшчэ адно выданне выдавецтва было адзначана дыпломам II ступені ў намінацыі «Мае універсітэты» — гэта 2-томнік «Беларускі фальклор». Некаторыя з кніг выдавецтва на рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі» прызнаны «Лепшымі выданнямі года» — гэта «Красная книга Республики Беларусь» (2004), энцыклапедыя «Вялікае княства Літоўскае» (2005). У намінацыі «За ўвасабленне нацыянальнай тэмы» ў 2005 г. перамаглі яшчэ дзве кнігі выдавецтва — «Гарады і вёскі Беларусі. Гомельская вобласць» (т. 1) і «Старинные усадьбы Берестейщины» А. Федарука. Да 40-годдзя з часу заснавання БелЭн выдавецтвам падрыхтавана кніга «Імя Петруся Броўкі Беларуская Энцыклапедыя» (2005).

Старэйшае з дзяржаўных выдавецтваў ***«Беларусь»***, якое атрымала такую назву ў 1963 г., з чэрвеня 2000 г. з'яўляецца рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам і спецыялізуецца на выпуску масава-палітычнай, навукова-папулярнай, літаратурна-мастацкай, даведачнай, вытворча-практычнай, вучэбнай літаратуры. Адзін з прыярытэтных кірункаў — выданне кніг і альбомаў па выяўленчым мастацтве, фотаальбомаў, паштовак, плакатаў, календароў. Тэматыка выданняў ахоплівае сацыягуманітарную і прававую сферы, тэхніку, медыцыну, музыку, гісторыю і культуру Беларусі, замежных краін. У свой час на базе выдавецтва было створана некалькі выдавецтваў: у 1951 г. — «Народная асвета», у 1961 г. — «Ураджай», у 1972 г. — «Мастацкая літаратура». А вось у 2002 г. «Беларусь» аб'яднала пад сваёй выдавецкай маркай «Полымя» і «Ураджай». У 1997—2001 гг. выпусціла 237 назваў кніг і брашур тыражом 4 млн. 48 тыс. экз.; у 2002—2006 гг. — 219 назваў кніг тыражом 2 млн. 282 тыс. экз. Усяго за час дзейнасці ў «Беларусі» было выдадзена каля 23 тыс. назваў кніг і брашур агульным тыражом каля 400 млн. экз. Канцэптуальна новай падачай матэрыялу і сучасным мастацка-графічным афармленнем вызначаецца новая серыя навукова-папулярных выданняў «Беларусі» «Мастацкія скарбы

Беларусі», у рамках якой толькі ў 2005 г. выйшлі 4 кнігі. Для жыхароў рэспублікі і замежных гасцей у выдавецтве сістэматычна выпускаюцца ў свет прадстаўнічыя фотаальбомы: «Мінск» (2003, 2005, 2006), «Пад небам Беларусі» А. Клешчука (2003, 2005), «Паазер'е — краіна жыцця» (2005), «Скарбы прыроды Беларусі» (2003, 2005), у якіх асноўнае месца займаюць фотаздымкі, а тэкст змяшчаецца на некалькіх мовах (беларускай, рускай, англійскай). На 45-м рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі» выдавецтва атрымала дыплом за «Лепшае выяўленчае выданне», якім стаў альбом «Нацыянальны мастацкі музей Беларусі» (2004). У 2006 г. выдавецтва падрыхтавала і выпусціла фотаальбом і камплект паштовак «Напалеон Орда. З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі», прымеркаваны да 200-годдзя з дня нараджэння таленавітага сына беларускай зямлі.

Бясспрэчным лідэрам кнігавыдання Беларусі па колькасці назваў і па тыражы з'яўляецца недзяржаўнае выдавецкае прадпрыемства ***«Харвест»***, якое пачынаючы з 1995 г. не ўступае свае пазіцыі ніводнаму выдавецтву і з кожным годам нарошчвае свае паказчыкі, пакідаючы далёка ззаду сваіх канкурэнтаў. Штомесяц выдавецтва выпускае больш за 250 найменняў кніг — гэта руская і замежная класіка, сучасная проза, дэтэктывы і вострасюжэтная літаратура, сентыментальная проза, фантастыка і фэнтэзі, дзелавая літаратура; кнігі па мастацтве; падарункавыя альбомы, у іх ліку даведачная, навукова-папулярная, вучэбная, літаратурна-мастацкая, для вольнага часу і літаратура для дзяцей, якая адрозніваецца высокай якасцю выканання, што пацвярджаюць шматлікія ўзнагароды кніг выдавецтва на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах. На 45-м рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі—2005» «Харвест» атрымаў 9 узнагарод за свае выданні. Дыплом I ступені быў прысуджаны пяці выданням — гэта «Всемирная история», «Ордена и медали СССР» і тры малафарматныя выданні «Драгоценные камни», «500 шедевров русского искусства», «Японская лирика». Акрамя таго, «Всемирная история» стала яшчэ «Лепшым навукова-папулярным выданнем», а «Ордена и медали СССР» — «Лепшым энцыклапедычным выданнем»; «500 шедевров русского искусства» адзначаны «За высокую культуру масавай кнігі»; «Лепшым даведачным выданнем» стала яшчэ адно выданне — гэта «Весь мір. Страны и столицы». У 2006 г. «Харвест» выдаў 3358 назваў кніг тыражом 24 млн. 856 тыс. экз., што складае адпаведна 29% і 47,8% у агульным патоку выдавецкай прадукцыі недзяржаўнага сектара. Узнагародамі адзначаны «Евангелие для самых маленьких», «Бронетанковая техника СССР Второй мировой войны 1939—1945» і «Боевые вертолеты мира», якія атрымалі Дыпломы I ступені. У намінацыі «Лепшае выяўленчае выданне 2006 года» дыпламантамі сталі кнігі-малюткі «Шедевры русской иконописи», «Леонардо да Винчи», «Славянская мифология» ў афармленні А. Хацкевіч, надрукаваныя ў ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».




*Вокладка энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае». Том 2. Мінск, 2004 г.*

Адным з фактараў камерцыйнага поспеху выдавецтва з'яўляецца яго сумесная праца з вядучымі расійскімі партнёрамі («АСТ», «Астрель», «Хранитель» і інш.) і арыентаванасць на расійскі рынак, дзе асаблівай папулярнасцю карыстаюцца серыі «Харвеста»: «Военно-историческая библиотека», «Philosophy», «Все знания для успеха», «Воспоминания», «Мемуары» і «Казино». Усяго за 2002—2006 гг. «Харвест» выпусціў 11 087 назваў




*Вокладка кнігі «Напалеон Орда. З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі». Мінск, 2006 г.*

кніг тыражом 87 млн. 144 тыс. экз. Іншыя недзяржаўныя выдавецтвы, якія па паказчыках стаяць за «Харвестам», выпускаюць кніжнай прадукцыі ў дзесяткі разоў менш і па назвах і па тыражах. Сярод іх такія мінскія выдавецтвы, як «Папуры» (у 2002—2006 г. — 1121 назва тыражом 10 млн. 418 тыс. экз.), «Аверсэв» (1098 назваў тыражом 11 млн. 795 тыс. экз.), «Сучасны літаратар» (1017 назваў тыражом 9 млн. 848 тыс. экз.), «Кніжны Дом» (972 назвы тыражом 12 млн. 957 тыс. экз.), «Юніпрэс» (892 назвы тыражом 5 млн. 981 тыс. экз.), «ТэтраСістэмс» (506 назваў тыражом 2 млн. 150 тыс. экз.).

На кніжным рынку Беларусі і бліжняга замежжа добра вядома прадукцыя мінскага выдавецкага таварыства ***«Папуры»***. Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Папуры», якое было зарэгістравана ў верасні 1992 г., адным з першых недзяржаўных выдавецтваў у Беларусі пачало масавы выпуск перакладной літаратуры (з англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай моў), што і вызначыла асноўны кірунак спецыялізацыі прадпрыемства. За 1994—1996 гг. было выпушчана 69 назваў кніг і брашур тыражом 1 млн. 625 тыс. экз.; за 1997—2001 гг. адпаведна 505 назваў тыражом 6 млн. 9 тыс. экз.; за 2002—2006 гг. — 1121 назва тыражом 10 млн. 418 тыс. экз. Аднымі з першых серый выдавецтва былі «Здароўе без лекаў», «Бібліятэка школьніка і абітурыента», «Сіла вашай падсвядомасці», «Тайнае жыццё жывёл». У апошнюю ўвайшло звыш 20 невялікіх па аб'ёме тамоў, сярод якіх «Дагістарычныя жывёлы», «Рэдкія жывёлы», «Уздоўж марскога ўзбярэжжа», «У пустынях», «Жывёлы-будаўнікі», «На ферме», «У акіяне», «За горадам», «На мяжы знікнення» і інш., галоўнай адметнасцю якіх стала пазнавальнасць, высокі ўзровень паліграфічнага афармлення і невысокі кошт. Шырокай папулярнасцю карыстаюцца кніжныя серыі «Папуры», якія выдавецтва працягвае і сёння, «Багаты тата» (з 1998 г.), «Здароўе ў любым узросце» (з 1998 г.), «Поспех» (з 1998 г.), «Здаровае і разумнае дзіця» (з 2003 г.), «Здароўе і альтэрнатыўная медыцына» (з 2005 г.). Усяго ў выдавецтве налічваецца да 35 кніжных серый. Асноўнай тэматыкай у кнігавыдавецкім рэпертуары з'яўляецца бізнес, медыцына, мастацтва, рэлігія, псіхалогія, адукацыя і выхаванне, пазнавальная літаратура і развіваючыя гульні для дзяцей і інш. Як сваім мастацкім афармленнем, так і змястоўным напаўненнем вызначаюцца энцыклапедыі выдавецтва — «Музычныя інструменты свету», «Свет жывёл», «Ілюстраваная гісторыя зброі». У рэйтынгу папулярных выданняў выдавецтва кнігі для маленькіх мастакоў — «1-2-3 малюнак. Хатнія жывёлы. Крок за крокам» Ф. Левіна (2002) і для тых, хто хоча навучыцца маляваць — «Адкрыйце ў сабе мастака» Б. Эдвардса (2004), а таксама навукова-папулярнае выданне для шырокага кола чытачоў — «Багаты тата, бедны тата» Р. Кійасакі, Ш. Лектар (2005, 1-е выд. — у 2001).

Кнігі з лагатыпам выдавецкага таварыства ***«Аверсэв»*** таксама добра знаёмыя ў Беларусі. Гэтае мінскае выдавецтва, створанае ў 1994 г., зарэкамендавала сябе як адно з вядучых прадпрыемстваў у галіне выпуску вучэбнай і вучэбна-метадычнай літаратуры. Выдавецтвам створана каля 20 грунтоўных серый высакакласных вучэбных выданняў — «Школьнікам, абітурыентам, вучням», «Экзамены», «Рабочыя сшыткі», а таксама «Бібліятэка настаўніка», «У дапамогу лагапеду», «Чароўная шкатулка», «Чароўны свет слоў», «Говорящий карандашик», «Дыдактычныя матэрыялы», «Калі ласка ў свет англійскай мовы», «Падручнік вышэйшай школы», «Займальныя







*Дапаможнікі для школьнікаў выдавецтва «Аверсэв». 2000-я гг.*

практыкаванні па падрыхтоўцы дзіцяці да пісання», «Карткі-заданні», «Ад слова да слова», «Першыя ўрокі», «Развіваючае навучанне для дашкалят», «Разумныя кнігі для самых маленькіх», «Урок у пачатковай школе», «Школа граматнага пісьма». Аўтарамі кніг выдавецтва «Аверсэв» з'яўляюцца вядомыя ў краіне педагогі, метадысты, прафесіяналы з вялікім вопытам работы. Дапаможнікі вылучаюцца вялікім аб'ёмам інфармацыі па кожнай тэме, дакладнай сістэмай і арганізацыяй матэрыялу, даступным стылем выкладання. Кнігі выдавецтва прызначаюцца для выкладчыкаў агульнаадукацыйных школ, гімназій і ліцэяў, школьнікаў, навучэнцаў, абітурыентаў, студэнтаў, а таксама арыентаваны на дзяцей, пачынаючы з 1-гадовага ўзросту, і іх бацькоў. Арыгінальнасцю вызначаюцца навучальныя гульні для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Падручнікі па замежнай мове ўкамплектаваны касетамі і дыскамі, якія запісаны носьбітамі мовы. Аўтарытэт кніжнай прадукцыі выдавецтва пацвярджаецца грыфамі «Дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь» і «Рэкамендавана Навукова-метадычнай установай «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь», якія маюць большасць яго выданняў. Кнігі выдавецтва «Аверсэв» пастаянна ўдзельнічаюць у рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі». Так, за поспехі, дасягнутыя ў мастацка-тэхнічным выкананні, вучэбна-метадычны камплект «Magic Box 2» узнагароджаны спецыяльным Дыпломам у намінацыі «Лепшае вучэбнае выданне 2003 года», «Русско-белорусский словарь — Беларуска-рускі слоўнік» (слоўнік-перавёртыш) — Дыпломам III ступені (2003). Дыплом I ступені і званне «Лепшае вучэбнае выданне 2004 года» набыў вучэбна-метадычны камплект «Magic Box 3». У 2005 г. вучэбна-метадычны камплект «Magic Box 4» і серыя кніг «Русский язык. Словарно-орфографические упражнения» для 2, 3, 4-га класаў узнагароджаны Дыпломам II ступені ў намінацыі «Лепшае вучэбнае выданне». У 2007 г. серыя кніг «Беларуская мова. Чароўны сшытак» для 2, 3, 4-га класаў і «Bücherwurm» узнагароджаны Дыпломам III ступені ў намінацыі «Лепшае вучэбнае выданне», а выданне «Пачынаем разумець і гаварыць» — Дыпломам III ступені ў намінацыі «Лепшая дзіцячая кніга».

У 1997—2001 гг. выдавецтва ажыццявіла выпуск 157 назваў выданняў тыражом 2 млн. 352 тыс. экз.; у 2002—2006 гг. — 1098 назваў тыражом 11 млн. 795 тыс. экз.

Выданнем кніг у сферы адукацыі і асветы займаецца і выдавецтва ***«Юніпрэс»***, якое




*Вокладка кнігі А. Жлуткі «Міндаў, кароль Літовіі». Мінск, 2005 г.*

працуе на кніжным рынку Беларусі пачынаючы з 1999 г. Кніжная прадукцыя выдавецтва — гэта літаратура, прызначаная для дашкольнага ўзросту, для вучняў пачатковай і сярэдняй школы, абітурыентаў і студэнтаў, настаўнікаў і бацькоў, якая ахоплівае разнастайныя галіны ведаў: гісторыю, рускую мову і літаратуру, беларускую мову і літаратуру, хімію, матэматыку, біялогію, замежныя мовы, геаграфію, фізіку, інфарматыку, астраномію, музыку, медыцыну і інш. За час сваёй дзейнасці «Юніпрэс» стварыў 25 выдавецкіх серый, сярод якіх найбольшым попытам карыстаюцца такія, як «Рабочыя сшыткі», «Гатовыя хатнія заданні», «Вучэбна-метадычны дапаможнік», «Навучанне і развіццё», «Усё для школы», «Для школьнікаў і абітурыентаў», «Дапаможнік для настаўнікаў, бацькоў, вучняў», «Цэнтралізаванае тэсціраванне». Акрамя вучэбнай і вучэбна-метадычнай літаратуры выдавецтва выпускае навукова-папулярныя, даведачныя і выданні для вольнага часу. На 46-м рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі» «Хатнія расліны» (2005) выдавецтва атрымалі ўзнагароду ў намінацыі «Выдавецкі дэбют». За 1999—2001 гг. прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Юніпрэс» выдала 141 назву кніг тыражом 1 млн. 304 тыс. экз.; за 2002—2006 гг. — 829 назваў тыражом 5 млн. 981 тыс. экз. Па выніках выпуску кніжнай прадукцыі ў 2006 г. выдавецтва ўвайшло ў дзесятку лідзіруючых прадпрыемстваў Беларусі.

Адным з буйнейшых прыватных прадпрыемстваў Мінска і Беларусі з'яўляецца выдавецтва ***«Кніжны Дом»***. Прадпрыемства заснавана ў 1994 г. і з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком такіх расійскіх выдавецтваў у Беларусі, як «Владос», «Гелеос», «Мозаика-Синтез». За час сваёй выдавецкай дзейнасці выпусціў каля 1500 найменняў кніг агульным тыражом звыш 15 млн. экз.: у 1994—1996 гг. — гэта адпаведна 63 назвы тыражом 1 млн. 993 тыс. экз.; у 1997—2001 гг. — 397 назваў тыражом 6 млн. 403 тыс. экз. Сярод выданняў «Кніжнага Дома» фундаментальныя энцыклапедыі і даведнікі, навукова-папулярныя выданні па эканоміцы, праве, медыцыне, рэлігіі, сацыялогіі, філалогіі; маляўнічыя выданні для дзяцей і літаратурна-мастацкія творы для дарослых. «Кніжны Дом» мае шэраг разнастайных і працяглых кнігавыдавецкіх праектаў — гэта такія папулярныя серыі, як «Здароўе вашай сям'і», «Парады дзіцячага доктара», «Лечымся самі», «Вытокі здароўя», «Дамашні доктар», «Гамеапатыя для ўсіх». Некаторыя з выданняў паўтараюцца да 5—6 разоў, напрыклад — «Усё пра дзіця першых трох год жыцця» С. Зайцава (у 2007 г. — 5-е выд.), «NSP: даведнік па біялагічна актыўных дабаўках у ежу…» (у 2007 г. — 6-е выд.). У 2006—2007 гг. выдавецтва значную ўвагу ўдзяляла выпуску літаратуры рэлігійнай тэматыкі. Так, у серыі «Рэлігіі свету» ў 2006 г. выйшлі — «Каталіцтва», «Праваслаўе», «Пратэстантызм», «Будызм», «Індуізм», «Іслам», «Іудаізм», «Хрысціянства», «Язычніцтва», а ў серыі «Народныя традыцыі» — «Малітваслоў». У 2007 г. у серыі «Свет энцыклапедый» выйшла энцыклапедыя «Рэлігія». Важкае месца ў рэпертуары «Кніжнага Дома» займаюць даведнікі («Грамадзянскае права» В. Падгрушы, «Працоўнае заканадаўства», «Юрыдычная служба прадпрыемства» — усе ў 2003 г.), падручнікі і вучэбныя дапаможнікі па праве: «Канстытуцыйнае правасуддзе» (2003), «Гісторыя дзяржавы і права замежных краін» В. Сажынай (2005), «Гандлёвае права» Н. Станкевіч (2005), «Усеагульная гісторыя







*Разварот партытуры оперы А.Г. Радзівіла «Фауст». Мінск, 2006 г.*

дзяржавы і права» Д. Тагунава (2005), «Канстытуцыйнае права замежных краін» Г. Васілевіча (2006), «Фінансавае права» А. Піліпенкі (2006, 2007), «Міжнароднае прыватнае права» В. Ціхіні (2007) і інш. У выдавецтве выходзяць і шматлікія кніжныя серыі для дзяцей: «Краіна цудаў», «Вялікія казачнікі свету», «Любімыя казкі», «Казачная хатка», «Казкі», «Малышок», «Матылёк: вершы малышам», «Кроха», «Магічнае вока», «Скарбонка парад», «Казкі рускіх пісьменнікаў», «Рускія чароўныя казкі», «Казкі для самых маленькіх». Не засталіся па-за ўвагай школьнікі і абітурыенты, для якіх у выдавецтве таксама ёсць серыі — гэта «Школьны курс», «Рэпетытар», «Тэсты», «Англійскую мову вучым разам», «Экспрэс-курс». Выданні для вольнага часу «Кніжны Дом» збірае ў серыях «Сучасны дэтэктыў», «Вялікая кніга парад», «Я пазнаю свет», «Школа спецназа», «Супершанс» і інш. Выданні «Кніжнага Дома» неаднаразова атрымлівалі высокія ўзнагароды рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў «Мастацтва кнігі».

Больш за 20 гадоў (заснаваны ў 1988 г.) існуе ў Мінску навукова-вытворчы кааператыў ***«Тэхналогія»***, які займаецца выпускам у асноўным навуковай, даведачнай, навукова-папулярнай, вучэбнай літаратуры. Супрацоўнічае з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі, Беларускім дзяржаўным універсітэтам, Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэтам, Беларускім фондам фундаментальных даследаванняў, з некаторымі замежнымі партнёрамі з Германіі і Польшчы і інш. Вынікам супрацоўніцтва стаў шэраг навуковых манаграфій, даведнікаў, падручнікаў, выданняў серый «Менеджмент», «Асновы прадпрымальніцтва», «Эканамічная адукацыя», «Сучасная эканамічная адукацыя», «Адкрытае грамадства», «Нашы славутыя землякі», а таксама перакладаў з англійскай і французскай моў на беларускую кніг па

Замак меў тры баявыя ярусы, адзіныя ў Вялікім княстве Літоўскім машыкулі (навясныя байніцы), «варавыя вокны», адкуль на галовы ворагаў ляцелі камяні і лілася гарачая смала. Сцены і вежы былі густа прарэзаны гарматнымі і ружэйнымі байніцамі.

Прыкметай адыходу ад суровых гатычных традыцый у абарончых збудаваннях стала наданне замку статусу загараднай рэзідэнцыі князёў Радзівілаў. У канцы XVI — пачатку XVII стагоддзяў на замкавым двары з'явіўся трохпавярховы палац. Узведзены ў стылі рэнесансу, ён меў больш за 40 выдатна аздобленых пакояў. Паркетныя падлогі, цудоўныя печы з рэльефнай кафлі,



эканоміцы, філасофіі, сацыялогіі, паліталогіі, гісторыі, культуралогіі. Сярод іх «Гістарычныя ўводзіны ў філасофію навукі» Дж. Лоўзі (1995), «Сучасная культурная антрапалогія» М. Говарда (1996), «Эканоміка» Дж. Бэрдшоу (1996), «Гісторыя эканамічнай думкі» А. Дэні (1996), «Сацыялогія» Э. Гідэнса (2003), «Гісторыя і сацыяльная тэорыя» П. Бэрка (2003) і інш. У 1997 г. у выдавецтве былі выдадзены матэрыялы першай на постсавецкай прасторы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Недзяржаўная выдавецкая дзейнасць у Беларусі: гісторыя і сучаснасць», якая праходзіла ў Беларускім універсітэце культуры 3—4 кастрычніка 1996 г., а ў 2003 г. — «Слоўнік выдавецкіх і паліграфічных тэрмінаў: ангельска-беларускі, беларуска-ангельскі».

Заслугоўваюць увагі і выданні «Тэхналогіі» ў галіне адраджэння гістарычна-культурнай спадчыны, такія як «Aurea mediocritas: Кніжна-пісьмовая культура Беларусі» І. Саверчанкі (1998), «Мастацтва беларускіх старадрукаў (XVI—XVIII стст.)» В. Шматава (2000), «Міндаў, кароль Літовіі, у дакумэнтах і сьведчаньнях» А. Жлуткі (2005), якія станавіліся лепшымі выданнямі на рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі», факсімільнае выданне «Нашай нівы» (2000, 2003), клавір оперы А. Радзівіла «Фауст» (2006), «Старажытныя ліцьвіны: мова, паходжаньне, этнічная прыналежнасьць» П. Урбана (2001, 2003), «Беларусы ў генетычнай прасторы: антрапалогія этнасу» А. Мікуліча (2005) ды інш. У 1991—1996 гг. «Тэхналогія» выдала 28 назваў кніг тыражом 64 тыс. экз.; у 1997—2001 гг. адпаведна 128 назваў тыражом 172 тыс. экз.; у 2002—2006 гг. — 105 назваў тыражом 102 тыс. экз.

Развівае традыцыі беларускай кніжнай культуры выдавецкае таварыства ***«Кавалер Паблішэрс»***, якое было арганізавана ў Мінску ў 1991 г. Выдавецтва адно з нямногіх, што працуе ў класічным стылі кніжнага мастацтва з выкарыстаннем нацыянальнага каларыту, заўсёды кіруецца прынцыпам прыярытэтнасці мастацкай канцэпцыі афармлення кожнага выдання як цэласнага твора «мастацтва кнігі». Практычна ўсе кнігі выдавецтва сталі лаўрэатамі рэспубліканскіх конкурсаў «Мастацтва кнігі». Пяць з іх — «Хоббит, или Туда и обратно» Дж. Толкіна (1996), «Сем цудаў Беларусі» У. Ягоўдзіка (1999), «Мальчик-с-пальчик» Я. Грыма (1999), «Буря» (2000), «Чудесная избушка» (2001) — атрымалі званне «Лепшае выданне года», дзесяткі — дыпломы, сярод іх — «Аповесць мінулых гадоў: старонкі летапісу» (1999), «Песня пра паход Ігаравы» ў перакладзе Я. Купалы (2003). Кнігі выдавецкага таварыства «Кавалер Паблішэрс» з поспехам экспанаваліся на Міжнародных выстаўках-кірмашах у Франкфурце-на-Майне, Балонні, Празе, Варшаве. З 1997 г. выдавецтва сумесна з БелАКК арганізуе рэспубліканскі конкурс-выстаўку «Мастак і Кніга», дзе заснавала свой спецыяльны дыплом «Чароўны матылёк» за ілюстрацыі да дзіцячых выданняў. З выдавецтвам супрацоўнічаюць такія беларускія мастакі, як В. Валынец, М. Байрачны, В. Славук, У. Вішнеўскі, М. Казлоў, П. Татарнікаў, Ю. Алісевіч, І. Гардзіёнак, Б. Праказаў, Д. Сінюгін і інш. Асноўныя прыярытэты ў выдавецкай дзейнасці «Кавалер Паблішэрс» — літаратурна-мастацкія і вучэбныя выданні для дзяцей на рускай, беларускай, англійскай і нямецкай мовах, якія выходзілі ў серыях «Малышам пра малышоў», «Казачная Шэкспірыяда», «Руская народная казка» і інш. Сапраўднай падзеяй у выдавецкай дзейнасці Беларусі сталі выданні з серыі «Сем цудаў Беларусі», распачатай у 1999 г., — гэта зборнікі гістарычных нарысаў на беларускай мове пра старажытную і сярэдневяковую Беларусь, заснаваныя на легендарным уяўленні аб мінулым беларускай зямлі і прызначаныя дзіцячаму чытачу: «У гасцях у вечнасці» (2001), «Званы Нямігі» (2002), «За наміткай гісторыі» (2003), «Адвечны покліч Радзімы» (2005), «Славутыя родам сваім» (2006). Мастацкае афармленне кніг выканаў П. Татарнікаў, мастак-графік з Беларусі, удастоены вышэйшай еўрапейскай узнагароды ў галіне кніжнай ілюстрацыі «Залаты яблык» (Югаславія, 2001) за ілюстрацыі да зборніка беларускіх народных казак «Царэўна ў падземным царстве». Кнігі серыі «Сем цудаў» за сваё мастацкае аздабленне атрымалі Дыпломы І ступені рэспубліканскага конкурсу «Мастацтва кнігі». Паліграфічнае выкананне серыі было ажыццёўлена на Мінскай фабрыцы каляровага друку.

Для дарослых «Кавалер Паблішэрс» заснаваў серыі «Новы раман новага веку», «Новыя імёны новага веку», «Кавалерыя». Традыцыйна выдавецтва займаецца афармленнем плакатаў, паштовак і іншага выяўленчага матэрыялу, у тым ліку для Дзён беларускага пісьменства. За 1997—2001 гг. у выдавецтве выйшла 45 назваў кніг тыражом 397 тыс. экз.; у 2002—2006 гг. — 56 назваў тыражом 242 тыс. экз.

Сярод спецыялізаваных выдавецтваў Мінска і заснаваная ў 1991 г. ***«Амалфея»*** — адно са старэйшых беларускіх прыватных выдавецкіх прадпрыемстваў. Вядучым кірункам яго дзей-

*← Малюнак з кнігі А. Бутэвіча «Званы Нямігі». Мінск, 2002 г.*

*→ Кніга серыі «Сем цудаў Беларусі». А. Бутэвіч. За наміткай гісторыі. Мінск, 2003 г.*

насці з'яўляецца прававая літаратура, напрыклад, «Каментарый да Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь» (4 выданні), «Узоры дагавораў, якія выкарыстоўваюцца ў гаспадарчай дзейнасці з каментарыямі» (9 выданняў), «Юрыдычны даведнік работніка па кадрах» (3 выданні) і інш. На аснове архіўных дакументаў, навуковых і вучэбных выданняў падрыхтавана «Гісторыя дзяржавы і права Расіі ў дакументах і матэрыялах. 1930—1990 гг.» І. Кузняцова (2003); першым у Беларусі стаў «Комментарий к Уставу железнодорожного транспорта общего пользования» (2004). У 2002 г. упершыню ў Беларусі «Амалфея» выпусціла электронныя кнігі «Падаткі — 2002», «Працоўны кантракт наймальніка з работнікам», якія з'яўляюцца зборнікамі нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, «Амалфея» займаецца выданнем кніг па эканоміцы («Слоўнік эканамічных і прававых тэрмінаў»), на замежных мовах («Практычная граматыка англійскай мовы» Н. Карпышавай, В. Янушкова, 2002). За 1991—1996 гг. «Амалфея» выпусціла 71 назву кніг і брашур агульным тыражом 365 тыс. экз.; у 1997—2001 гг. — 264 назвы тыражом 1 млн. 405 тыс. экз.; у 2002—2006 гг. — 290 назваў тыражом 780 тыс. экз.

У 1993 г. у Мінску пачало працу выдавецтва ***«Чатыры чвэрці»***, якое абрала для сябе асноўным кірункам у дзейнасці выпуск нотнамузычнай літаратуры. Сумесна з арганізатарамі разнастайных міжнародных музычных фестываляў, Міністэрствам культуры, Інстытутам праблем культуры рыхтаваліся як асобныя музычныя творы, так і зборнікі, падручнікі, выдавецкія камплекты да правядзення фестываляў. Аднак мастацтвазнаўчая тэматыка, адлюстраваная ў такіх выданнях, як «Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага» А. Залускага (1999), ілюстраваны альбом «Веткаўская ікона» Г. Нячаевай (2003), «Беларускае мастацтва дваццатага стагоддзя» (2003), «Зайграйце, музыкі!: рэпертуарны зборнік для фальклорных калектываў» У. Грома (ч. 1—2, 1998), «Ларыса Пампееўна Александроўская: дакументальны тэатральны раман: у 7 дзеях з пралогам і эпілогам» А. Ладыгінай (2002), «Твары і лёсы: партрэт XVIII — пачатку XX ст. у зборах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі» Н. Марчанкі і К. Зелянога (2002), зборнік «Расставайтесь любя» Ю. Чурко (2003) і інш., стала займаць усё больш значнае месца ў працы выдавецтва. З 1993 г. «Чатыры чвэрці» прыступіла да распрацоўкі серыі «Нашы духоўныя каштоўнасці» (у 12 выпусках), мастацкае афармленне якой узяў на сябе вядомы беларускі мастак-графік У. Васюк. Выйшла 5 альбомаў — «Праваслаўныя святы» (1995), «Праваслаўнае дойлідства» (1995), «Крыж — краса царквы» (1996), «Прападобная Ефрасіння Полацкая» (1997), «Праваслаўныя манастыры Беларусі» (2003). За дадзены праект выдавецтва было ўдастоена ў 1996 г. высокай адзнакі — прэміі «За духоўнае адраджэнне». У 1998 і 2001 гг. выдавецтва ажыццявіла два выданні «Азбукі Праваслаўя». Для пазашкольнага выхавання, арганізацыі вольнага часу дзяцей выдавецтва «Чатыры чвэрці» арганізавала выпуск кніг у серыі «У дапамогу педагогу-арганізатару», у якой выйшлі тры выпускі. У рэпертуары выдавецтва ёсць кнігі фальклорна-этнаграфічнай, гісторыка-культурнай, рэлігійнай тэматыкі. Цалкам жа інтарэсы выдаўцоў знаходзяцца ў сферы культуры: аўтэнтычнай, духоўнай, адраджэнне якой — галоўны прыярытэт выдавецтва. У 1994—1996 гг. «Чатыры чвэрці» выпусціла 6 назваў кніг і брашур тыражом 17 тыс. экз.; у 1997—2002 гг. — 60 назваў тыражом 98 тыс. экз.; у 2002—2006 гг. — 75 назваў тыражом 65 тыс. экз. На 45-м рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі» Дыплом І ступені атрымала кніга-альбом выдавецтва «Успамін пра горад. Гісторыя Мінска ў фатаграфіях з калекцыі Васіля Каляды».

Рэкламна-выдавецкая фірма ***«Каўчэг»*** з моманту свайго стварэння ў 1990 г. таксама адным з кірункаў у дзейнасці вызначыла выпуск рэкламна-інфармацыйных і нотных зборнікаў беларускіх кампазітараў І. Лучанка, М. Фінберга. Выйшлі такія выданні, як «Восіп Казлоўскі. 1757—1851» В. Дадзіёмавай (1995), кніга Гая дэ Пікарды «Царкоўная музыка на Беларусі. 989—1995» (1995), нотныя зборнікі Н. Гілевіча і Я. Паплаўскага і інш. У выдавецтве быў рэалізаваны і шэраг праектаў выдання мастацкай літаратуры ў паэтычнай серыі «Ковчег» (Д. Строцаў, Ф. Аксёнцаў, А. Казанцава, Ю. Цыбін, Т. Сапач, А. Глобус, М. Мерман і інш.). Да афармлення кніг прыцягваліся такія мінскія мастакі, як А. Дарохін, А. Глобус, Л. Вольскі, У. Цэслер. У выдавецтве сістэматычна выходзілі матэрыялы міжнародных «Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў», прысвечаных Дням славянскага пісьменства і культуры (VII—X), а ў серыі «У дапамогу духоўнай асвеце» з'явілася выданне «Чытачу Свяшчэннага пісання» (2002). За час сваёй дзейнасці, у 1991—2006 гг. «Каўчэг» выпусціў 76 назваў кніг і брашур тыражом 161 тыс. экз.

Выдавецтвы «Чатыры чвэрці» і «Каўчэг» сталі аднымі з першых, якія далучыліся да

адраджэння праваслаўнага кнігавыдання. Праўда, яшчэ ў 1990—1993 гг. пачыналі сваю працу першынцы кнігавыдання праваслаўнага кірунку — гэта Выдавецкі аддзел Беларускага Экзархата, Брацтва ў гонар Віленскіх мучанікаў, Брацтва ў імя Архістраціга Міхаіла; прыватныя выдавецтвы «Праваслаўная абшчына» і «Світак», а з 1995 г. — «Вінаград», «Праменні Сафіі» і «Праваслаўная ініцыятыва» — усе мінскія выдавецтвы. На першых пазіцыях рэлігійнага кнігавыдання стаіць выдавецтва Беларускага Экзархата, якое актыўна займаецца выпускам праваслаўнай літаратуры ў Беларусі. З 1996 г. з'яўляюцца ў друку і грунтоўныя духоўна-асветныя кнігі выдавецтва «Харвест», з 2006 г. — «Кніжны Дом». Рэлігійнай тэматыцы былі прысвечаны некаторыя выдавецкія праекты дзяржаўных выдавецтваў: «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», «Беларусь», «Народная асвета», «Полымя», «Ураджай». За 1988—2006 гг. у Беларусі выйшла звыш 2500 назваў кніг рэлігійнай (хрысціянскай) тэматыкі. Выдавецкай дзейнасцю ў Мінску займаюцца таксама рымска-каталіцкая парафія святога Сымона і святой Алены, Саюз евангельскіх хрысціян-баптыстаў, Біблейскае таварыства і інш., што стала яшчэ адной з праяў сучаснага кнігавыдання Беларусі.

Адзінкавымі паасобнікамі вымяраецца выдавецкая дзейнасць (2001—2010 гг.) мастака Ю. Малаша з Заслаўя. Аднак яго кнігі нельга зблытаць з ніякімі іншымі — гэта суцэльна маляваныя ад рукі «лубочныя» выданні: «Покліч Рагнеды», «Рагвалодавы ўнукі», «Дзівосны лубок», «Вольная Беларусь», «Беларуская народная міфалогія» і інш., для якіх ён выкарыстоўвае ўласныя малюнкі і каліграфію, а таксама малюнкі вядомых беларускіх мастакоў А. Кіш і Я. Драздовіча.

У выдавецкім рэпертуары Беларусі пэўнае месца займаюць і спецыяльныя электронныя выданні і аўдыёкнігі. Выдавецтва ***«Інва-сэрвіс»*** на працягу больш чым 15 гадоў рэалізуе праекты для навучання дзяцей з парушэннямі зроку, ствараючы гукавыя кнігі. Выкарыстоўваючы спецыяльную рэдакцыйна-выдавецкую сістэму «Чтец», якая дазваляе адаптаваць любую друкаваную кнігу да яе моўнага аналага за дастаткова кароткі час, кампанія падрыхтавала гукавую бібліятэку рускай літаратуры з больш чым 400 творамі для школьнага навучання, аўдыёпадручнік па гісторыі і інш.

Рэальныя змены, якія адбыліся ў сучасным беларускім кнігавыданні, знайшлі яскравае пацвярджэнне ў структуры кнігавыдавецкага рэпертуару Беларусі, дзе разам з вучэбнымі і вучэбна-метадычнымі выданнямі ўсё большае месца пачынаюць займаць навуковыя і навукова-папулярныя выданні (разам каля 63% ад усіх надрукаваных кніг і брашур). Назіраецца павелічэнне выпуску сацыяльна значнай літаратуры, задавальненне грамадскага попыту на кнігу. Навуковыя і адукацыйныя ўстановы, якія маюць уласную выдавецка-паліграфічную базу і большасць з якіх размяшчаецца ў сталіцы, займаюцца выданнем вучэбных і навуковых прац, манаграфій уласных аўтараў. Звычайна гэта малатыражная літаратура, аднак колькасць назваў падобных выданняў мае ўстойлівую тэндэнцыю да пашырэння. Так, па выніках 2006 г. лідзіруючае становішча сярод такіх устаноў заняў Беларускі дзяржаўны універсітэт (158 назваў, тыраж 29,6 тыс. экз.).

На 16.7.2007 г. у Мінску налічвалася 511 выдавецтваў і іншых выдавецкіх арганізацый з правам выдавецкай дзейнасці, а гэта азначала, што ў сталіцы было сканцэнтравана да 84%




*Вокладка фотаальбома А. Клешчука «Пад небам Беларусі». Мінск, 2003 г.*




*Вокладка кнігі І. Саверчанкі «Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі». Мінск, 1998 г.*

ад усіх кнігавыдавецкіх прадпрыемстваў Беларусі. Інстытуцыйную структуру мінскіх кнігавыдавецтваў складалі дзяржаўныя выдавецтвы (5), дзяржаўныя паліграфічныя прадпрыемствы (4), дзяржаўныя прадпрыемствы і арганізацыі (64), дзяржаўныя ўстановы адукацыі (35), НАН Беларусі (12), дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі (10) — усяго 130 (25,4%); прыватныя прадпрыемствы (93), індывідуальныя прадпрымальнікі (54), недзяржаўныя вучэбныя ўстановы (7), недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі (6) — усяго 160 (31,3%); прадпрыемствы і арганізацыі са змешанай дзяржаўнай, калектыўнай і прыватнай уласнасцю (1), прадпрыемствы і арганізацыі са змешанай формай уласнасці, выключаючы дзяржаўную (181), замежныя суб'екты гаспадарання (2) — усяго 185 (36,1%); грамадскія (16), рэлігійныя (10) і іншыя арганізацыі (11) — усяго 37 (7,2%)[645].

Аднак не ўсе зарэгістраваныя выдавецкія структуры Беларусі аднолькава ўдзельнічалі ў кнігавыдавецкім бізнесе. Так, на працягу 2006 г. права выдаваць друкаваную прадукцыю выкарысталі 376 суб'ектаў гаспадарання з 612, або 61,4%. З іх больш за 3 тыс. назваў (у тым ліку з удзелам замежных выдаўцоў) выпусціла выдавецтва «Харвест»; ад 300 да 400 назваў — «Белы вецер» (г. Мазыр); ад 200 да 300 — 3 выдавецтвы («Аверсэв», «Папуры» і «Народная асвета»); ад 100 да 200 — 12 выдавецтваў, у тым ліку дзяржаўнае «Вышэйшая школа»; ад 50 да 100 — 27 выдавецтваў, у тым ліку «Мастацкая літаратура», «Беларусь», «Выдавецкі Дом «Беларуская навука»»; ад 10 да 50 — 101 выдавецтва, у тым ліку «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі»; ад 1 да 10 — 231 выдавецтва. Большасць усіх выдавецкіх арганізацый складаюць сярэднія і пераважна дробныя прадпрыемствы, якія выпускаюць на працягу года ад адной да пяцідзесяці адзінак выдавецкай прадукцыі.

З ростам колькасці невялікіх выдавецтваў і іх пастаяннай ратацыяй у 2002—2007 гг. яскрава праявілася яшчэ адна тэндэнцыя — канцэнтрацыя кніжнай вытворчасці ў адным або некалькіх буйнейшых выдавецтвах, якім, напрыклад, з'яўляецца выдавецтва «Харвест», якое штомесяц выпускае больш за 250 назваў кніг. Іншыя недзяржаўныя выдавецтвы Беларусі, якія па паказчыках стаяць за «Харвестам», выпускаюць кніжнай прадукцыі ў дзесяткі раз менш і па назвах, і па тыражах [табл. 2—3]. Сярод іх такія мінскія выдавецтвы, як «Папуры», «Аверсэв», «Сучасны літаратар», «Кніжны Дом», «Юніпрэс», «ТэтраСістэмс».

# НА ЭТАПЕ ЭКАНАМІЧНАГА КРЫЗІСУ 2008—2010 гг.: ТЭНДЭНЦЫІ І ПРАГНОЗЫ

На пачатак 2009 г., паводле дадзеных Міністэрства інфармацыі, у Беларусі было зарэгістравана 804 выдаўцы. Аднак удзел кожнага з іх у актыўнай выдавецкай дзейнасці не аднолькавы. У апошнія гады склалася такая тэндэнцыя, што толькі 50% выдаўцоў ад агульнай колькасці зарэгістраваных рэальна ўдзельнічае ў кнігавыданні. Так, у 2009 г. гэта лічба склала 403, або 51%, 115 з якіх выпусцілі ўсяго 1—2 назвы кніг за год. Выдавецкая дзейнасць набывае для некаторых арганізацый і прадпрыемстваў толькі спадарожны характар, а з развіццём сучасных тэхналогій паліграфіі і выдавецкай справы, лічбавых спосабаў друку становіцца даступнай нават непрафесіяналу.

На працягу 2005—2009 гг. лідэрам кнігавыдання ў Беларусі было выдавецтва «Харвест». Так, у 2009 г. яго выдавецкая прадукцыя склала 22% ад агульнай колькасці кніг па назвах і 44,3% ад тыражу. У параўнанні з 2008 г. адпаведныя паказчыкі ўсё ж знізіліся: на 7% па назвах і каля 8% па тыражы. Большую частку выдавецкай прадукцыі «Харвеста» — 87,5% па назвах і 91,7% па тыражы — гэта кнігі, якія выйшлі пры ўдзеле замежных, расійскіх выдавецкіх кампаній.

Сярод іншых выдавецтваў лепшыя колькасныя паказчыкі мелі такія выдавецтвы, як прыватныя — «Аверсэв» і «Папуры», дзяржаўныя — «Народная асвета», «Вышэйшая школа». Стабільнасцю ў кнігавыдавецкай дзейнасці адзначаўся Нацыянальны інстытут адукацыі, які ў 2009 г. выпусціў 178 назваў кніг тыражом 4,4 млн. экз. Асноўную прадукцыю складалі вучэбныя выданні, выкананыя па дзяржаўным заказе.

Крызісныя з'явы ў эканоміцы закранулі і кнігавыдавецкую сферу, у якой назіралася падзенне адпаведных колькасных паказчыкаў. Паводле афіцыйных звестак у 2008 г. у Беларусі надрукавана 13 210 назваў кніг тыражом 55,4 млн. экз., у 2009 г. — 12 885 назваў кніг агульным тыражом 52,8 млн. экз. Сярэдні тыраж адной кнігі склаў 4,1 тыс. экз., а на 100 жыхароў было выпушчана больш за 550 кніг. У суадносінах з паказчыкамі 2008 г. колькасць назваў кніжнай прадукцыі паменшылася на 2,5% і на 4,7% яе сукупны гадавы тыраж. У 2008 г. адзначаўся некаторы рост па назвах — на 1,1% і наадварот: спад па тыражы — на 4,2%.

У 2009 г. малатыражныя выданні (500 экз.) склалі больш за 43,8% — гэта літаратура, якая не мае шырокага распаўсюджання на рынку: ведамасная, вузаўская, вытворчая. У тым ліку — навуковыя выданні: манаграфіі, навуковыя зборнікі, матэрыялы канферэнцый і інш. Адначасова агульная колькасць назваў навуковых кніг узрасла на 30%. Спад жа сярэдняга тыражу навуковага кнігавыдання за дзесяцігоддзе склаў 77,3%.

Тыражом звыш 100 000 экз. выпускаліся ў асноўным кнігі «брэндавых» замежных аўтараў: Стэфані Маер, Дэна Браўна, Міхаіла Велера, якія выдавалі буйнейшыя выдавецтвы, здольныя набыць правы на дадзеныя выданні. Сярод шматтыражных выданняў школьныя падручнікі выдавецтваў «Народная асвета» і «Нацыянальны інстытут адукацыі», выпуск якіх ажыццяўляўся па дзяржаўным заказе.

У відавой структуры кнігавыдання на працягу шэрага апошніх гадоў першае месца займалі вучэбныя і вучэбна-метадычныя выданні: у 2009 г. гэта больш трэці ўсяго аб'ёму выпуску кніг і па колькасці назваў (38,9%), і па тыражы (42,4%). Значную частку складалі і літаратурна-мастацкія выданні: па колькасці назваў — 14%, па тыражы — 30%.

У 2009 г. 85,4% кніг Беларусі надрукавана на рускай мове, а беларускамоўнае кнігавыданне засталося практычна на ўзроўні 8,5%.

У першым паўгоддзі 2010 г. у параўнанні з аналагічным перыядам 2009 г. колькасць назваў выпушчаных выданняў паменшылася на 12,5% і больш чым на 20% — тыраж кніжнай прадукцыі. Тэндэнцыя памяншэння выпуску кніг у першым паўгоддзі 2010 г. назіралася таксама ў Расіі: на 8,6% па колькасці кніг і на 17,2% па тыражы і ва Украіне: на 10,1% і 18, 9% адпаведна[646].

Тэндэнцыя паніжэння паказчыкаў выпуску кніжнай прадукцыі ў 2010 г. з аднаго боку — рэакцыя на спад эканомікі, а з другога боку, магчыма, — пачатак працэсу аптымізацыі нацыянальнага кнігавыдання.

# БЕЛАРУСКАЯ КНІГА Ў СВЯТЛЕ ВЫСТАВАК І СУЧАСНЫХ ТЭХНАЛОГІЙ

Працягваючы нацыянальныя традыцыі, беларуская кніга імкнецца да задавальнення сучасных патрабаванняў да мастацкага і паліграфічнага афармлення. Гэтаму спрыяюць рэспубліканскія і міжнародныя конкурсы, выстаўкі і кірмашы, у якіх яна ўдзельнічае. У 2006 г. лаўрэатам і пераможцам рэспубліканскага конкурсу «Мастацтва кнігі» акрамя традыцыйных дыпломаў (імя Ф. Скарыны) стаў уручацца Ганаровы знак-сімвал «Залаты фаліянт». Выдавецтва «Беларускі Дом друку» заснавала іменную Ганаровую грамату «Нашчадкам Скарыны» Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу «Кнігі Беларусі». З 1997 г. выдавецкае таварыства «Кавалер Паблішэрс» сумесна з БелАКК арганізуе рэспубліканскі конкурс-выстаўку «Мастак і Кніга», дзе таксама заснавала свой спецыяльны дыплом «Чароўны матылёк» за ілюстрацыі да дзіцячых выданняў. Выдавецтва праводзіць значную работу і па азнаямленні з беларускай дзіцячай кнігай далёка за межамі Беларусі. У 2005 г. на 57-м кніжным кірмашы ў Франкфурце-на-Майне такія мінскія выданні 2004 г., як «Уладзімір Мулявін. Нота лёсу» («Мастацкая літаратура»), «Нетры. Нязведанае» М. Башлакова і М. Барздыкі (рэдакцыйна-выдавецкі аддзел Мінскай фабрыкі каляровага друку) увайшлі ў 100 лепшых кніг свету.

Усё большае развіццё ў сучасным кнігавыданні Беларусі атрымліваюць інфармацыйныя і камунікацыйныя тэхналогіі, якія дазваляюць забяспечваць узаемадзеянне ўсіх суб'ектаў кніжнага рынку — выдавецтваў, кнігарняў, бібліятэк і інш. — ад выкарыстання навейшай камп'ютэрнай тэхнікі да стварэння электронных кніг і іх распаўсюджання праз уласныя сайты і інтэрнет-магазіны, якімі валодаюць, да прыкладу, мінскія выдавецтвы «Аверсэв», «Амалфея», «Папуры», «ТэтраСістэмс», «Тэхналогія», «Харвест», «Юніпрэс», «Беларуская Энцыклапедыя», «Вышэйшая школа», «Народная асвета» і інш. У Беларусі рэалізуюцца і праекты па стварэнні гукавых кніг. Так, мінскае таварыства «Інва-сэрвіс», выкарыстоўваючы спецыяльную рэдакцыйна-выдавецкую сістэму, падрыхтавала гукавую бібліятэку рускай літаратуры з больш чым 400 творамі для школьнага навучання, аўдыёпадручнік па гісторыі і інш. У 2006 г. падобныя электронныя выданні былі выпушчаны пры ўдзеле Нацыянальнай бібліятэкі і пры падтрымцы Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА — гэта падручнікі «Говорящая электронная библиотека» і «Электронная библиотека — школьникам», якія ўключаюць поўныя тэксты твораў беларускай і рускай літаратуры, у тым ліку творы для абавязковага і самастойнага чытання. Да выпуску аўдыёкніг маюць дачыненне і такія недзяржаўныя выдавецтвы, як «Аверсэв», «Харвест».

Разам з фарміраваннем новай выдавецкай сістэмы вызначыўся і характэрны кірунак, які адпавядае сусветным кнігавыдавецкім тэндэнцыям, — на змену колькаснай мадэлі прыходзіць якасная, пры якой развіццё кнігавыдання ажыццяўляецца пераважна за кошт пашырэння рэпертуару [табл. 4]. Адпаведна ў той самы час назіраецца паніжэнне агульнага тыражу[647]. Праўда, вынікі, напрыклад, за 2006 г. па тыражы паказваюць некаторы яго пад'ём (крыху не дацягнуў да 1991 г.), што можа з'яўляцца сведчаннем пэўных фінансавых цяжкасцей у галіне кнігавыдання, калі толькі за кошт тыражу магчыма дасягнуць пэўнай рэнтабельнасці вытворчасці [табл. 5].

Сёння як ніколі ўзрастае роля статыстычных даследаванняў у галіне кнігавыдання ўнутры краіны, абмену інфармацыяй на міжнародным узроўні, чым актыўна займаецца Нацыянальная кніжная палата (НКП) Беларусі. Вынікі дзяржаўнай статыстыкі друку штогод публікуюцца ў статыстычным зборніку «Друк Беларусі», дзе даецца характарыстыка выдавецкай дзейнасці па тэматычных раздзелах, мэтавым прызначэнні, мовах, жанрах, выдавецтвах, а таксама па тэрытарыяльнай прыкмеце (асобна вылучаюцца агульныя статыстычныя паказчыкі па г. Мінск). Аднак усё ж застаецца даволі сур'ёзная праблема паўнаты інфармацыі аб выйшаўшых выданнях як у Беларусі, так і за яе межамі (Беларусь у сусветным друку). Пэўная частка кніжнай прадукцыі, якая ствараецца на тэрыторыі Беларусі, друкуецца ў Расіі, Польшчы, Літве, Украіне. Не ўсе надрукаваныя недзяржаўнымі выдавецкімі арганізацыямі ў Беларусі кнігі трапляюць для абавязковай рэгістрацыі ў НКП. Адным з прыкладаў такога становішча з'яўляецца ўлік рэлігійных выданняў. Так, паводле дзяржаўнай рэгістрацыі ў 1988—2006 гг. у Беларусі было надрукавана звыш 2500

назваў кнігі і брашур адпаведнай тэматыкі. Аднак незарэгістраванымі засталіся яшчэ 538 друкаваных адзінак (і гэта толькі праваслаўныя выданні)[648].

Стан развіцця сучаснага кнігавыдання Беларусі, беларуская кніга як з'ява ў сусветнай кніжнай культуры патрабуюць адпаведнага навуковага забеспячэння. Дадзеныя праблемы прыцягваюць усё большую ўвагу даследчыкаў-кнігазнаўцаў і кнігавыдаўцоў. Так, у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў гэтым пытанням надавалася асаблівая ўвага, пра што сведчаць праведзеныя міжнародныя навуковыя форумы і выдадзеныя паводле іх матэрыялы — гэта міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі «Недзяржаўная выдавецкая дзейнасць у Беларусі: гісторыя і сучаснасць» (3—4 красавіка 1996 г.), «Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры» (7—8 лютага 2006 г.). Сведчаннем цікавасці да азначаных пытанняў стала арганізаваная 22—23 сакавіка 2007 г. «Саюзам выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку» (створаны па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі ў снежні 2006 г.) міжнародная канферэнцыя выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў кніг і друкаваных СМІ «Печатный рынок Беларуси в контексте стран СНГ и Балтии. Экспертные оценки и стратегии успеха». У 2006 г. па заказе Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Цэнтрам сацыялагічных і палітычных даследаванняў БДУ было праведзена поўнамаштабнае даследаванне сітуацыі на кніжным рынку[649]. Задавальненне чытацкіх запатрабаванняў, шырокая падтрымка і стымуляванне чытацкай актыўнасці ў Беларусі разглядаюцца як праблемы, ад вырашэння якіх залежыць дабрабыт нацыі. Аднак на долю пакупкі беларускамоўных выданняў прыходзіцца толькі 3,5%, што сведчыць аб нізкай матывацыі і адсутнасці цікавасці да беларускай кнігі або аб тым, што беларускамоўная літаратура недастаткова прадстаўлена на рынку. Дадзенае пытанне з'яўляецца вострым для беларускамоўнай кнігі, але тычыцца і іншай выдавецкай прадукцыі Беларусі. Для паспяховага прафіліравання выдавецкай дзейнасці выдавецтвам неабходна інфармацыя аб мэтавых групах спажыўцоў, цэннаснай арыентацыі і г.д.

Нават ва ўмовах, калі пераважваюць электронна-віртуальныя зносіны, чытанне кніг застаецца важнейшым паказчыкам узроўню культуры і маральна-этычнага стану грамадства. У вырашэнні шэрага праблем у галіне беларускага кнігавыдання не дастатковым з'яўляецца выкарыстанне аднаго толькі адміністрацыйнага рэсурсу, такога як «Праграма развіцця галіны друку і масавай інфармацыі на 2006—2010 гг.» (зацверджана ў 2006 г. Міністэрствам інфармацыі), бо якасны выпуск запатрабаванай сацыяльна значнай літаратуры, жорсткая эканомія бюджэтных сродкаў і нават перабудова маркетынгавай палітыкі, накіраванай на перспектыўнае планаванне і аператыўную рэалізацыю выпушчанай прадукцыі, не вырашаюць цалкам дадзенае пытанне. Неабходна фарміраванне асобай інфраструктуры, закліканай кансалідаваць інтэлектуальны і творчы патэнцыял, накіраваны як на рэпрадуцыраванне і трансляцыю ведаў: навуковыя даследаванні, падрыхтоўка адпаведных спецыялістаў, культурна-асветніцкая дзейнасць, так і на актывізацыю ўкаранення ў практыку вынікаў інавацыйных падыходаў, развіццё міжнародных сувязей і кніжнага бізнесу Беларусі. Толькі ў гэтым выпадку можна будзе казаць аб сапраўды якаснай мадэлі беларускай кніжнай справы, у якой Мінск застаецца вядучым цэнтрам нацыянальнага кнігавыдання, выконваючы і важнейшую місію цэнтра інтэграцыі выдавецкай сістэмы Беларусі ў сусветную інфармацыйную супольнасць.

* Табліцы і дыяграмы складзены паводле статыстычных дадзеных з выданняў Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі: Друк Беларусі, 1991—2000: ст. зб. Мінск, 2002; Друк Беларусі, 2001: ст. зб. Мінск, 2002; Друк Беларусі, 2002: ст. зб. Мінск, 2003; Друк Беларусі, 2003: ст. зб. Мінск, 2004.; Друк Беларусі, 2004: ст. зб. Мінск, 2005; Друк Беларусі, 2005: ст. зб. Мінск, 2006; Друк Беларусі, 2006: ст. зб. Мінск, 2007; Друк Беларусі, 2007: ст. зб. Мінск, 2008.




Дыяграма 1 — Дынаміка выпуску кніжнай прадукцыі ў Мінску па колькасці назваў (1991—2007)




Дыяграма 2 — Дынаміка выпуску кніжнай прадукцыі ў Мінску па тыражы (1991—2007)




Дыяграма 3 — Дынаміка выпуску беларускамоўнай кніжнай прадукцыі ў Беларусі па колькасці назваў (1991—2007)




Дыяграма 4 — Дынаміка выпуску беларускамоўнай кніжнай прадукцыі ў Беларусі па тыражы (1991—2007)

В.М. Бялявіна, Л.В. Ракава

# ЖАНОЧЫ КАСЦЮМ НА БЕЛАРУСІ



КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА БЕЛАРУСІ

# БІБЛІЯТЭКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ

Пасля набыцця Рэспублікай Беларусь суверэнітэту была захавана і атрымала далейшае развіццё сістэма бібліятэк, пабудаваная ў часы СССР. У XXI стагоддзі бібліятэкі краіны функцыяніруюць ва ўмовах глабальных працэсаў інфарматызацыі грамадства і стварэння інфраструктуры для адзінай інфармацыйнай прасторы.

Агульнае рэгуляванне і кіраванне бібліятэчнай справай у краіне здзяйсняе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання, мясцовыя распарадчыя і выканаўчыя органы, якія маюць у сваім падпарадкаванні бібліятэкі, вызначаюць сістэму кіравання сеткай падпарадкаваных ім бібліятэк, забяспечваюць гарантаванае фінансаванне камплектавання, захаванасць фондаў і рэалізацыю правоў грамадзян рэспублікі на бібліятэчнае, інфармацыйнае і даведачна-бібліяграфічнае абслугоўванне.

Правядзенне мэтанакіраванай бібліятэчнай палітыкі на дзяржаўным узроўні ўключае, перш за ўсё, развіццё і ўдасканаленне галіновага заканадаўства. Нарматыўным дакументам у бібліятэчнай сферы з'яўляецца Закон Рэспублікі Беларусь ад 22 сакавіка 1995 г. «Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь», які вызначае прававыя, эканамічныя, сацыяльныя, арганізацыйныя асновы бібліятэчнай справы ў краіне, рэгулюе ўзаемаадносіны бібліятэк з дзяржавай, фізічнымі і юрыдычнымі асобамі ў мэтах задавальнення інфармацыйных, культурных, навуковых і іншых запатрабаванняў грамадства. У законе вызначаны асноўныя прынцыпы арганізацыі бібліятэчнай справы і дзейнасці бібліятэк, абавязкі дзяржавы ў галіне бібліятэчнай справы, віды бібліятэк, захаванне і выкарыстанне гісторыка-культурных каштоўнасцей у галіне бібліятэчнай справы, кірункі ўзаемадзеяння бібліятэк і ўзаемавыкарыстання інфармацыйных рэсурсаў, правы на бібліятэчнае, інфармацыйнае і даведачна-бібліяграфічнае абслугоўванне. Апошнюю (5-ю) рэдакцыю Закон атрымаў у 2008 г. У сувязі з наданнем Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі статусу інфармацыйнага і сацыякультурнага цэнтра і значнага пашырэння яе функцый, істотна зменены артыкул 23 «Нацыянальная бібліятэка Беларусі».

Дакументам, якія вызначаюць парадак, агульныя прынцыпы арганізацыі, размяшчэння і дзейнасці бібліятэк на тэрыторыі рэспублікі, стварэння сеткі бібліятэк, з'яўляецца «Палажэнне аб арганізацыі сукупнай сеткі бібліятэк Рэспублікі Беларусь» (зацверджана міністрам культуры 29 верасня 1993 г.). Названы дакумент абавязковы для выканання рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, мясцовымі распарадчымі і выканаўчымі органамі ўлады і іншымі заснавальнікамі бібліятэк.

Адным з базавых з'яўляецца дакумент «Тыпавыя правілы карыстання бібліятэкамі ў Рэспубліцы Беларусь» (зацверджаны Пастановай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 5 жніўня 2008 г.). «Тыпавыя правілы» распаўсюджваюцца на бібліятэкі Рэспублікі Беларусь незалежна ад іх падпарадкаванасці




←
*Кніга серыі «Культурная спадчына Беларусі». В. Бялявіна, Л. Ракава. Жаночы касцюм на Беларусі. Мінск, 2007 г.*

*Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі. Том 2. Мінск, 2010 г.*

і форм уласнасці і з'яўляюцца асновай для распрацоўкі бібліятэкамі па ўзгадненні з заснавальнікам правілаў карыстання бібліятэкай. Дакумент рэгламентуе ўзаемаадносіны карыстальнікаў і бібліятэкі ў працэсе бібліятэчнага, інфармацыйнага, даведачна-бібліяграфічнага і сацыякультурнага абслугоўвання. У апошняй рэдакцыі дакумента (2008) значна пашыраны пералік правоў і абавязкаў карыстальнікаў бібліятэкі, у тым ліку непаўналетніх карыстальнікаў, а таксама людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі.

Бібліятэчныя фонды дзяржаўных бібліятэк з'яўляюцца агульнанацыянальным набыткам і ахоўваюцца дзяржавай. Таму абавязковай для ўжывання ў бібліятэках рэспублікі з'яўляецца «Інструкцыя па ўліку і захаванасці бібліятэчных фондаў у Рэспубліцы Беларусь» (зацверджана Загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 28 жніўня 1998 г. № 300). Дадзеная інструкцыя ўстанаўлівае адзіныя правілы ўліку і захаванасці дакументаў, якія складаюць бібліятэчны фонд, незалежна ад статусу бібліятэкі, яе ведамаснай прыналежнасці, арганізацыйна-тэхналагічных асаблівасцей і г.д.

Важным дакументам для камплектавання фондаў бібліятэк рэспублікі з'яўляецца «Палажэнне аб абавязковым бясплатным экзэмпляры дакументаў» (зацверджана Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 3 верасня 2008 г.). Гэтым палажэннем устанаўліваецца сістэма абавязковага бясплатнага экзэмпляра дакументаў у Рэспубліцы Беларусь і вызначаюцца віды дакументаў, якія адносяцца да абавязковага бясплатнага экзэмпляра, парадак іх рассылкі, размеркавання і выкарыстання, пералік атрымальнікаў абавязковага бясплатнага экзэмпляра дакументаў, правы, абавязкі, адказнасць іх вытворцаў, атрымальнікаў і карыстальнікаў.

Вялікае значэнне мае таксама «Інструкцыя аб парадку ажыццяўлення ўнутрырэспубліканскага дакументаабмену і пераразмеркавання дакументаў» (зацверджана Пастановай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 2008 г.). Мэта інструкцыі — упарадкаваць і ўсталяваць адзіныя правілы арганізацыі працы па выкарыстанні сукупнага фонду бібліятэк краіны шляхам абмену і пераразмеркавання дублетных і няпрофільных дакументаў паміж бібліятэкамі незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці.

Нарматывы па колькасці супрацоўнікаў і іх нагрузкі ў публічных бібліятэках Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь вызначаюцца ў «Тыпавых штатах цэнтралізаваных бібліятэчных сістэм Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь» (зацверджаны Загадам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 8 студзеня 1996 г.). Гэты дакумент прымяняецца пры складанні і зацвярджэнні штатных раскладаў бібліятэк у рамках зацверджаных фондаў заработнай платы. Нарматывы нагрузкі супрацоўнікаў бібліятэк разлічваюцца зыходзячы з паказчыкаў колькасці карыстальнікаў і кнігавыдач. У мэтах удасканалення прававога поля, у якім функцыяніруюць бібліятэкі рэспублікі, нарматыўныя прававыя дакументы галіны пастаянна пераглядаюцца і актуалізуюцца. Дзейсным інструментам рэгулявання дзейнасці бібліятэк з'яўляецца стандартызацыя. Зараз у Рэспубліцы Беларусь дзейнічае каля 70 стандартаў па інфармацыі, бібліятэчнай і выдавецкай справе і больш за 60 міжнародных стандартаў (ІСО).

Дзяржаўная падтрымка галіны культуры, у тым ліку бібліятэк, здзяйсняецца шляхам распрацоўкі і рэалізацыі мэтавых праграм. Так, на ўдасканаленне і развіццё бібліятэчнай галіны быў накіраваны шэраг заданняў Дзяржаўнай праграмы інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь на 2003—2005 гг. і на перспектыву да 2010 г. «Электронная Беларусь»; галіновых праграм «Захаванне і развіццё культуры Рэспублікі Беларусь на перыяд 2006—2010 гг.» і «Інфарматызацыя галіны культуры на 2005 г. і на перыяд да 2010 г.». Стратэгічныя для бібліятэчнай галіны мэты і мерапрыемствы па іх рэалізацыі ўключаны ў праект Дзяржаўнай праграмы «Культура Беларусі» (2011—2015 гг.) і праект Дзяржаўнай праграмы развіцця інфармацыйнага грамадства ў Рэспубліцы Беларусь на 2011—2015 гг.

У кіраванні бібліятэчнай справай рэспублікі актыўны ўдзел прымае рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Беларуская бібліятэчная асацыяцыя» (створана ў 1992 г.), якая аб'ядноўвае на добраахвотных пачатках спецыялістаў рэспублікі ў вобласці бібліятэчнай справы і інфармацыі. Членамі ББА з'яўляецца каля 1,5 тыс. чалавек. Для ўдасканалення каардынацыі дзейнасці бібліятэк рознай ведамаснай прыналежнасці ў рэспубліцы функцыяніруе Рэспубліканскі бібліятэчны Савет (створаны ў 1999 г.) і Савет бібліятэк Беларусі па інфармацыйным узаемадзеянні (створаны ў 2009 г.).

Для спецыялістаў бібліятэчнай галіны ў рэспубліцы выпускаецца шэраг прафесійных перыядычных выданняў. Прафесійны перыядычны друк прадстаўлены навуковымі зборнікамі і часопісамі («Бібліятэчны веснік»,




*Вокладка кнігі Б. Лазукі «Гісторыя беларускага мастацтва». Том 1. Мінск, 2007 г.*

«Здабыткі», «Бібліятэчны свет», «Бібліятэка прапануе» і інш.).

У Беларусі сфарміравалася і дзейнічае бібліятэчная сістэма, якая ўключае каля 9300 публічных і спецыяльных бібліятэк з агульным аб'ёмам фонду звыш 200 млн. экз. Яны размеркаваны па розных міністэрствах і ведамствах. Самымі шматлікімі з'яўляюцца сеткі бібліятэк Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі: на іх долю прыходзіцца адпаведна 42% і 41% усіх бібліятэк. Бібліятэкі рэлігійных канфесій складаюць 8,3% агульнай колькасці, грамадскіх аб'яднанняў і саюзаў — 3%, Міністэрства аховы здароўя — 2%, Міністэрства прамысловасці — 1%.

Функцыя каардынацыйнага і метадычнага цэнтра рэспубліканскага значэння як для публічных, так і для спецыяльных бібліятэк краіны ўскладзена на Нацыянальную бібліятэку Беларусі (заснавана ў 1922 г.), якая ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь», з'ўляецца «рэспубліканскім інфармацыйным і сацыякультурным цэнтрам, рэспубліканскім

цэнтрам аўтаматызаванай інфармацыйна-бібліятэчнай сістэмы, рэспубліканскім галіновым цэнтрам па культуры і мастацтве, нацыянальным цэнтрам міжбібліятэчнага абанемента, цэнтрам унутрырэспубліканскага дакументаабмену і пераразмеркавання дакументаў, навукова-даследчай установай па бібліятэказнаўстве, бібліяграфазнаўстве, кнігазнаўстве, міжгаліновым дэпазітарыем, дэпазітарыем матэрыялаў ААН і іншых міжнародных арганізацый».

Фонд НББ складае каля 9 млн. экз. дакументаў, у тым ліку — 3,6 млн. кніг (з іх звыш 71 тыс. экз. — фонд рэдкіх, старадрукаваных выданняў і рукапісаў), 2,8 млн. экз. часопісаў і выданняў, якія працягваюцца, 16 тыс. карт, 83 тыс. нотных выданняў, 119 тыс. выяўленчых дакументаў. З 1990 г. бібліятэка актыўна камплектуе фонд электронных дакументаў на CD, DVD і інш. носьбітах (звыш 3,5 тыс. экз. на 2010 г.). У новым будынку НББ, адкрыццё якога адбылося ў 2006 г., яе прыярытэтным кірункам дзейнасці стала прадастаўленне карыстальнікам доступу да сеткавых электронных інфармацыйных рэсурсаў (ЭІР), якія бібліятэка набывае ў вядучых сусветных вытворцаў. НББ генерыруе і ўласныя ЭІР. Аб'ём электроннага каталога НББ складае звыш 4,3 млн. запісаў і практычна цалкам адлюстроўвае фонд бібліятэкі. Акрамя гэтага, НББ фарміруе фактаграфічныя, паўнатэкставыя і інш. базы дадзеных (БД), якія ўтрымліваюць больш за 4,5 млн. запісаў, а з 2005 г. — Электронную бібліятэку (ЭБ), якая ўтрымлівае поўныя тэксты дакументаў і будзе пакладзена ў аснову будучай Нацыянальнай электроннай бібліятэкі. Зараз ЭБ НББ утрымлівае звыш 85 тыс. электронных копій дакументаў. НББ з'яўляецца агульнадаступнай бібліятэкай, якая задавальняе патрабаванні грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў як у рэспубліцы, так і за мяжой. Абслугоўвае чытачоў (карыстальнікаў) у 19 чытальных залах і ў аддаленым рэжыме (з дапамогай службы міжбібліятэчнага абанемента і дастаўкі дакументаў, інтэрнэт-партала). У 2010 г. колькасць карыстальнікаў НББ склала звыш 181 тыс., з іх практычна кожны пяты наведвае бібліятэку ў аддаленым рэжыме. З моманту пераезду ў новы будынак штогадовая колькасць наведванняў бібліятэкі перавышае 3,5 млн., пры гэтым больш паловы наведванняў здзяйсняюцца ў аддаленым рэжыме. Штогадовая выдача дакументаў — каля 3 млн. экз.

Сетка публічных бібліятэк Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з'яўляецца самай шматлікай і налічвае 3851 бібліятэку, сярод якіх Нацыянальная бібліятэка Беларусі і 6 абласных. На 2,4 тыс. жыхароў прыходзіцца адна публічная бібліятэка. На рэспубліканскім узроўні сетку публічных бібліятэк узначальвае Нацыянальная бібліятэка Беларусі, на абласным узроўні — абласныя універсальныя бібліятэкі, на раённым (гарадскім) узроўні — цэнтральныя бібліятэкі раёнаў (гарадоў). Сетка публічных бібліятэк кожнага раёна (горада) сфарміравана і функцыянiруе з улікам колькасці і шчыльнасці насельніцтва ў адпаведнасці з дзеючымі ў рэспубліцы нарматывамі. Раённыя, гарадскія і сельскія публічныя бібліятэкі задавальняюць інфармацыйныя запатрабаванні жыхароў сваіх населеных пунктаў. Сеткі маюць адзіны фонд і даведачна-бібліяграфічны апарат. Цэнтралізаваны працэсы камплектавання і апрацоўкі літаратуры. Агульнае кіраўніцтва, фарміраванне фонду і каталагізацыю здзяйсняе цэнтральная бібліятэка. Бібліятэкі-філіялы канцэнтруюць сваю ўвагу, у асноўным, на абслугоўванні карыстальнікаў. Зараз у рэспубліцы працуе 132 бібліятэчныя сеткі, кожная ў сярэднім мае 20—30 філіялаў. Асноўную частку (83%) складаюць бібліятэкі, якія знаходзяцца ў сельскай мясцовасці.

Сукупны фонд дзяржаўных публічных бібліятэк складае звыш 67 млн. экз. дакументаў. Іх паслугамі карыстаецца каля 4 млн. чалавек (амаль кожны другі жыхар рэспублікі), якім штогод выдаецца каля 71 млн. экз. дакументаў.

У апошнія гады атрымала развіццё інфармацыйна-бібліятэчнае абслугоўванне ў электронным асяроддзі. Бібліятэкі рэспублікі фарміруюць электронныя каталогі і базы дадзеных. Значная колькасць электронных інфармацыйных рэсурсаў, што генерыруюць бібліятэкі, прадстаўлена ў сетцы Інтэрнет — гэта робіць іх даступнымі для жыхароў не толькі Беларусі, але і замежных краін. Укараненне новых інфармацыйных тэхналогій ператварыла бібліятэкі ў найважнейшыя інфармацыйныя цэнтры краіны. На пачатак 2010 г. 38% публічных бібліятэк прадастаўлялі аўтаматызаваныя працоўныя месцы для карыстальнікаў. Кожная пятая сельская бібліятэка камп'ютарызавана і падключана да сеткі Інтэрнет.

З мэтай рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі, накіраванай на захаванне і развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый на працягу 2005—2010 гг. у Беларусі было адкрыта каля 1000 бібліятэк аграгарадкоў, абсталяваных па апошнім слове тэхнікі. Для абслугоўвання жыхароў маланаселеных пунктаў у рэспубліцы функцыянiруе 52 бібліобусы.

З мэтай забеспячэння вольнага доступу грамадзян да прававой інфармацыі з 2000 г. пры публічных бібліятэках ствараецца сетка публічных цэнтраў прававой інфармацыі. Ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі працуе больш за 400 такіх цэнтраў, кожны трэці з якіх знаходзіцца ў сельскай мясцовасці. Іх паслугамі карыстаецца каля 65 тыс. жыхароў краіны. У сістэме дзяржаўных публічных бібліятэк працуе каля 9 тыс. спецыялістаў, больш як трэць іх мае вышэйшую адукацыю.

У адпаведнасці з адміністрацыйным дзяленнем у рэспубліцы налічваецца 6 абласных бібліятэк, якім прысвоены імёны славутых расійскіх літаратараў і палітыкаў: Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага, Віцебская абласная бібліятэка імя У.І. Леніна, Гомельская абласная універсальная бібліятэка імя У.І. Леніна, Мінская абласная бібліятэка імя А.С. Пушкіна, Магілёўская абласная бібліятэка імя У.І. Леніна (выключэннем з'яўляецца Гродзенская абласная навуковая бібліятэка, якая носіць імя стваральніка сучаснага беларусазнаўства акадэміка Я.Ф. Карскага). Абласныя бібліятэкі знаходзяцца ў ведамстве абласных упраўленняў культуры. Яны фарміруюць, захоўваюць і падаюць у карыстанне жыхарам абласцей найбольш поўны універсальны збор дакументаў. Абласныя бібліятэкі з максімальнай поўнасцю збіраюць краязнаўчую літаратуру, якая адлюстроўвае прыродна-геаграфічныя, сацыяльна-эканамічныя, культурныя, дэмаграфічныя і іншыя рэгіянальныя асаблівасці, а таксама выданні мясцовага друку. У іх фондах сканцэнтравана больш за 4,7 млн. экз. Штогод яны абслугоўваюць каля 267 тыс. карыстальнікаў, якім праз сістэму абанементаў і чытальных залаў выдаецца звыш 5,1 млн. розных відаў дакументаў. З дапамогай оптавалаконных каналаў сувязі абласныя бібліятэкі злучаны ў адзіную карпаратыўную сетку з НББ, рэспубліканскімі галіновымі бібліятэкамі і бібліятэкамі вышэйшых навучальных устаноў. Абласныя бібліятэкі выконваюць функцыі каардынацыйных і навукова-метадычных цэнтраў, а таксама навукова-даследчых цэнтраў у галіне бібліятэчнай справы для сеткі публічных бібліятэк вобласці.

Для задавальнення прафесійных і іншых спецыфічных (навуковых, вытворчых, навучальных) запатрабаванняў карыстальнікаў у рэспубліцы сфарміравана сістэма спецыяльных бібліятэк. Гэта сеткі бібліятэк Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, ВНУ, школ і сярэдніх навучальных устаноў, навукова-тэхнічных, медыцынскіх, сельскагаспадарчых бібліятэк, бібліятэк органаў улады, а таксама спецыяльныя бібліятэкі, не аб'яднаныя ў сеткі. У 2010 г. у рэспубліцы налічвалася больш за 5 тыс. спецыяльных бібліятэк (55% бібліятэк краіны) з сукупным фондам каля 130 млн. экз. (65% бібліятэчных фондаў краіны).

Узаемадзеянне спецыяльных бібліятэк здзяйсняюць рэспубліканскія галіновыя бібліятэкі. Яны валодаюць самым поўным у рэспубліцы фондам дакументаў па адпаведным профілі, з'яўляюцца галіновымі бібліяграфічнымі цэнтрамі, а таксама дэпазітарыямі па адпаведнай галіне ведаў і галіновымі цэнтрамі Міжбібліятэчнага абанемента (МБА). Рэспубліканскія галіновыя бібліятэкі выконваюць функцыю каардынацыйных і метадычных цэнтраў для бібліятэк сваёй сеткі.

У сістэму бібліятэк Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ўваходзіць каля 12 бібліятэк інстытутаў і Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Іх сукупны фонд складае звыш 8 млн. экз. За выключэннем ЦНБ НАН Беларусі бібліятэкі сеткі фарміруюць вузкаспецыялізаваныя фонды навуковай літаратуры ў адпаведнасці з профілем навуковага інстытута, які яны абслугоўваюць. Характэрнай асаблівасцю фондаў бібліятэк НАН з'яўляецца малая экзэмплярнасць, а таксама вялікая колькасць спецыяльных часопісаў і выданняў на замежных мовах. Карыстальнікамі бібліятэк сеткі з'яўляюцца, у асноўным, супрацоўнікі НАН, навукоўцы, якія працуюць у іншых установах і арганізацыях, выкладчыкі і студэнты ВНУ.

Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (заснавана ў 1925 г.) — адна з найбуйнейшых бібліятэк краіны. Яе універсальны па ўтрыманні фонд складае каля 5 млн. экз., у тым ліку каля 1 млн. замежных выданняў. У складзе фонду бібліятэкі адна з самых каштоўных у рэспубліцы калекцыя рукапісаў, старадрукаваных і рэдкіх выданняў (звыш 16 тыс. экз.). ЦНБ з'яўляецца цэнтральнай для бібліятэк сеткі і як метадычны цэнтр здзяйсняе каардынацыю і кааперацыю дзейнасці ўсіх бібліятэк сеткі. Як адзін з нацыянальных бібліяграфічных цэнтраў ЦНБ стварае шэраг баз дадзеных па сваім профілі і падае іх карыстальнікам як на электронных, так і традыцыйных носьбітах. Бібліятэка з'яўляецца таксама навукова-даследчай арганізацыяй, якая праводзіць даследаванні ў сферы бібліятэказнаўства, гісторыі кнігі і інфармацыйных тэхналогій.

Сетку бібліятэк вышэйшых навучальных устаноў складаюць галоўным чынам бібліятэкі

ВНУ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, а таксама бібліятэкі ВНУ іншых міністэрстваў і ведамстваў і бібліятэкі камерцыйных ВНУ. Дзейнасць гэтых бібліятэк накіравана на задавальненне інфармацыйных запатрабаванняў выкладчыкаў і студэнтаў, звязаных з навучальнай і навукова-даследчай дзейнасцю. У 2010 г. у Рэспубліцы Беларусь функцыяніравалі 53 дзяржаўныя і камерцыйныя ВНУ. Сукупны фонд іх бібліятэк складаў каля 20 млн экз., 40% з якіх — вучэбныя выданні.

Каардынацыйным і метадычным цэнтрам бібліятэк ВНУ з'яўляецца Фундаментальная бібліятэка Беларускага дзяржаўнага універсітэта (заснавана ў 1921 г.). Зараз Фундаментальная бібліятэка БДУ — гэта звыш 2 млн. экз. універсальнага фонду айчыннай і замежнай літаратуры; больш як 26 тыс. карыстальнікаў; 1 млн. 851 тыс. штогадовай дакументавыдачы. Штогод бібліятэка набывае звыш 50 тыс. экз. новых выданняў, атрымлівае 1077 найменняў айчынных і замежных перыядычных выданняў, вядзе міжнародны кнігаабмен са 136 навуковымі і навучальнымі арганізацыямі з 24 краін свету.

Сетка бібліятэк агульнаадукацыйных школ, устаноў прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, сацыяльна-педагагічных цэнтраў, устаноў пазашкольнага выхавання і адукацыі, устаноў павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў па профілі, раённых і гарадскіх аддзелаў адукацыі з'яўляецца другой па велічыні ў Беларусі. У яе складзе звыш 3800 бібліятэк, якія задавальняюць інфармацыйныя патрабаванні выкладчыкаў, навучэнцаў, слухачоў адукацыйных устаноў рэспублікі ў навучальнай і метадычнай літаратуры. Сукупны фонд сеткі налічвае звыш 65 млн. экз. дакументаў. Яго характэрнай асаблівасцю з'яўляецца вялікая колькасць шматэкземплярных навучальных выданняў. Каардынацыйным і метадычным цэнтрам дадзенай сеткі бібліятэк з'яўляецца Навукова-педагагічная бібліятэка Галоўнага інфармацыйна-аналітычнага цэнтра Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, які створаны ў 1965 г. НПБ — сховішча педагагічнай літаратуры, нацыянальных падручнікаў і праграм, інфармацыйна-бібліяграфічны цэнтр у галіне педагогікі і адукацыі, навукова-метадычны цэнтр для бібліятэк агульнаадукацыйных устаноў. Спецыялізаваны фонд НПБ налічвае больш за 300 тыс. экз., 75% якога — выданні па педагогіцы і адукацыі. Карыстальнікамі бібліятэкі з'яўляецца больш за 7 тыс. спецыялістаў у галіне адукацыі, сярод якіх навукоўцы, настаўнікі, студэнты і навучэнцы педагагічных ВНУ, вучылішчаў, каледжаў і інш. Сярэднегадавая выдача дакументаў складае больш за 100 тыс. экз.

→ *Вокладка фотаальбома «Навагрудак». Мінск, 2009 г.*

У сетку навукова-тэхнічных бібліятэк уваходзяць бібліятэкі, якія функцыяніруюць на прадпрыемствах розных галін вытворчасці. Асноўнае іх прызначэнне заключаецца ў задавальненні інфармацыйных патрэб жыхароў рэспублікі, звязаных з вытворчай сферай, а таксама правядзеннем навуковых даследаванняў. Сетка бібліятэк такога тыпу найбольш дынамічная, бо стварэнне, рэарганізацыя і ліквідацыя кнігазбору залежыць ад эфектыўнасці дзейнасці прадпрыемстваў, у структуры якіх яны створаны. Зараз сетка навукова-тэхнічных бібліятэк Беларусі ўключае звыш 220 навукова-тэхнічных бібліятэк, 70% з іх — гэта бібліятэкі прамысловых прадпрыемстваў, 21% — бібліятэкі навукова-даследчых, праектных інстытутаў, 8% — іншых арганізацый навукова-тэхнічнай сферы. Сукупны фонд сеткі складае больш за 25 млн. экз. Каардынацыйны і метадычны цэнтр сеткі НТБ — Рэспубліканская навукова-тэхнічная бібліятэка (створана ў 1977 г.). РНТБ знаходзіцца ў падпарадкаванні Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях Рэспублікі Беларусь. Фонд РНТБ утрымлівае звыш 25 млн. экз. і з'яўляецца найбуйнейшым у краіне. РНТБ з'яўляецца рэспубліканскім дэпазітарыем айчыннай і замежнай літаратуры па тэхніцы, тэхналогіі, эканоміцы прамысловасці і сумежных галінах, дзяржаўным сховішчам патэнтавай дакументацыі рэспублікі. Каля 80% фонду бібліятэкі захоўваецца на мікрафільмах і мікрафішах. Асноўную частку фонду (каля 75%) складаюць дакументы на замежных мовах. Гэтым інфармацыйным патэнцыялам РНТБ штогод карыстаецца звыш 160 тыс. наведвальнікаў, 2 тыс. калектыўных абанементаў (прадпрыемстваў і ўстаноў краіны), якім аддаецца ў карыстанне каля 3 млн. дакументаў і іх копій. З 1994 г. створаны і функцыяніруюць на правах філіялаў РНТБ абласныя навуковатэхнічныя бібліятэкі ў Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродне і Магілёве.

Аснову сеткі медыцынскіх бібліятэк рэспублікі складаюць бібліятэкі лячэбных, лячэбна-прафілактычных, санаторна-аздараўленчых цэнтраў (бальніц, дыспансераў, клінічных і рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтраў, санаторыяў, пансіянатаў, шпіталяў) і іншых устаноў медыцынскага профілю (дамоў-інтэрнатаў, цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі), адукацый-

# НАВАГРУДАК

## NOVOGRUDOK NOWOGRÓDEK

*фотаальбом*

Мінск «БЕЛАРУСЬ» 2009

ных устаноў і ўстаноў па павышэнні кваліфікацыі і перападрыхтоўцы медыцынскіх работнікаў. Дзейнасць медыцынскіх бібліятэк накіравана на задавальненне інфармацыйных запатрабаванняў навукоўцаў і спецыялістаў у галіне медыцыны і аховы здароўя, а таксама студэнтаў і навучэнцаў спецыялізаваных устаноў адукацыі. У 2010 г. у Беларусі налічвалася звыш 150 медыцынскіх бібліятэк з сукупным фондам каля 4,5 млн. экз. Рэспубліканская навуковая медыцынская бібліятэка (створана ў 1940 г.) з'яўляецца каардынацыйным і метадычным цэнтрам для сеткі медыцынскіх бібліятэк і знаходзіцца ў падначаленні Міністэрства аховы здароўя. Бібліятэчны фонд налічвае каля 900 тыс. экз., пераважная большасць якіх (99%) — выданні па медыцыне і сумежных галінах. Са студзеня 1995 г. бібліятэка стала Цэнтрам дэпазітарнага захоўвання Сусветнай арганізацыі аховы здароўя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Штогод бібліятэка абслугоўвае каля 20 тыс. індывідуальных і калектыўных карыстальнікаў.

У сетку сельскагаспадарчых бібліятэк рэспублікі, якая налічвае звыш 80 бібліятэк, уваходзяць бібліятэкі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў (заводаў, камбінатаў, выпрабавальных станцый), галіновых навукова-даследчых інстытутаў, адукацыйных устаноў і ўстаноў павышэння кваліфікацыі па профілі. Мэтай іх дзейнасці з'яўляецца задавальненне патрабаванняў спецыялістаў у інфармацыі па пытаннях аграпрамысловага комплексу. Сукупны фонд сеткі налічвае каля 6 млн. экз. Беларуская сельскагаспадарчая бібліятэка імя І.З. Лупіновіча (створана ў 1960 г.) — каардынацыйны і метадычны цэнтр бібліятэк АПК Беларусі. Бібліятэка ўваходзіць у склад Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, фонд складае звыш 500 тыс. экз. дакументаў. Прыярытэтным кірункам дзейнасці бібліятэкі ў апошнія гады з'яўляецца фарміраванне электронных інфармацыйных рэсурсаў па профілі. У бібліятэцы падтрымліваюцца і папаўняюцца больш за 40 бібліяграфічных, рэфератыўных, фактаграфічных, паўнатэкставых баз дадзеных, у якіх утрымліваецца звыш 20 млн. запісаў і мільёны старонак поўных тэкстаў.

Да сеткі бібліятэк органаў улады адносяцца бібліятэкі дзяржаўных (заканадаўчых, распарадчых і выканаўчых) органаў і арганізацый, падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь. У якасці рэспубліканскага метадычнага і каардынацыйнага цэнтра для гэтых бібліятэк выступае Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь. Прэзідэнцкая бібліятэка (заснавана ў 1933 г. як Урадавая бібліятэка) знаходзіцца ў структуры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і абслугоўвае Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Адміністрацыю Прэзідэнта, Нацыянальны сход, Савет Міністраў, Канстытуцыйны Суд, Вярхоўны Суд і іншыя рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы. Індывідуальнымі карыстальнікамі бібліятэкі, акрамя супрацоўнікаў вышэйназваных арганізацый, з'яўляюцца спецыялісты розных галін вытворчасці, а таксама студэнты і выкладчыкі ВНУ. Прэзідэнцкая бібліятэка мае фонд дакументаў агульным аб'ёмам 1,5 млн. экз., у якім асноўнае месца займае літаратура па праве, эканоміцы і палітыцы. Бібліятэка валодае найбольш поўнай у Беларусі калекцыяй заканадаўчых актаў рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады, а таксама нарматыўных прававых дакументаў замежных краін. Штогод бібліятэка абслугоўвае каля 39 тыс. індывідуальных і калектыўных карыстальнікаў. Інфармацыйна-бібліятэчнае абслугоўванне здзяйсняецца таксама ў філіялах бібліятэкі: у Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Выканаўчым камітэце СНД.

# БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: ПЫТАННІ ТЭРМІНАЛОГІІ

Беларусаў, якія па розных прычынах жывуць за межамі сваёй Бацькаўшчыны, даследчыкі вызначаюць тэрмінамі «беларуская эміграцыя», «беларуская дыяспара».

У больш дакладным значэнні за абагульняючы тэрмін прынята **«беларускае замежжа»**[650], якое ствараюць:

1) беларускае «сумежжа» — беларусы, якія пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь, але паблізу яе граніц і, як правіла, на сваіх аўтахтонных тэрыторыях (частка Беласточчыны ў Польшчы, Віленшчыны ў Літве, Латгаліі ў Латвіі, Пскоўшчыны, Смаленшчыны і Браншчыны ў Расіі, Чарнігаўшчыны і Ноўгарад-Севершчыны ва Украіне);

2) беларускае бліжняе замежжа — беларусы былых рэспублік СССР;

3) беларускае дальняе замежжа — беларусы іншых краін Еўропы, Азіі, Амерыкі і Аўстраліі.

Значную ролю ў жыцці беларусаў-эмігрантаў адыгрывала выдавецкая дзейнасць: у захаванні нацыянальнай ідэнтычнасці і нацыянальнай спадчыны.

***Гістарыяграфія і крыніцы.*** У канцы 1980-х — пачатку 1990-х гг. у друку Беларусі сталі з'яўляцца працы, прысвечаныя розным аспектам гісторыі беларускай эміграцыі, у тым ліку і выдавецкай дзейнасці. Адным з першых, хто звярнуўся да гэтага пытання, быў В. Кіпель. У сваім даследаванні «Беларусы ў ЗША» (Мінск, 1993) ён сістэматызаваў і прадставіў унікальны матэрыял па гісторыі фарміравання і дзейнасці беларускай эмігранцкай супольнасці ў ЗША. Асаблівы інтарэс прадстаўляюць такія раздзелы, як «Выдавецкая справа. Беларусіка ў сродках масавай інфармацыі» і «Роля амерыканскіх бібліятэк, навуковых і вучэбных устаноў у прапагандзе беларускай спадчыны». Аўтар закрануў у сваёй працы выдавецкую дзейнасць беларусаў не толькі ў ЗША, але і ў іншых краінах. Вынікам карпатлівай шматгадовай працы З. і В. Кіпеляў стала выйшаўшая ў 2003 г. бібліяграфія «Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе. Асобныя выданьні»[651]. Сярод улічаных 4180 асобных выданняў за перыяд з першай паловы XIX ст. да 2003 г. — кнігі, брашуры, адбіткі, аднаразовыя перыядычныя выданні, лістоўкі, карты, плакаты, паштоўкі, канверты, маркі, якія на 90% прадстаўлялі калекцыю друкаваных выданняў беларускай дыяспары, перададзеную Кіпелямі Славянскаму аддзелу Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі. Наступным бібліяграфічным выданнем стаў каталог «Беларускі друк на Захадзе. Пэрыёдыка» (2004)[652], а ў 2006 г. было ажыццёўлена перавыданне адзначаных бібліяграфічных прац у адным аб'ёмным томе «Беларускі друк на Захадзе: бібліяграфія»[653]. Складальнікі паспрабавалі дапоўніць папярэднія выданні (больш чым 100 новымі пазіцыямі, у тым ліку па 2005 г. уключна), сканцэнтраваўшы асноўную ўвагу на выяўленні новай беларускай друкаванай прадукцыі за межамі Беларусі. Пад тэрмінам «беларускі друк на Захадзе» разумелася друкаваная прадукцыя, якая стваралася беларусамі, беларускімі арганізацыямі, цэрквамі, установамі на беларускай і небеларускай мовах (англійскай, нямецкай, французскай, рускай і інш.). Аднак гэта былі не толькі эмігранцкія выданні, але і выданні, якія мелі адносіны да беларускай культуры і нацыі, якія выпускаліся рознымі замежнымі арганізацыямі; а таксама некаторыя выданнні Місіі БССР у ААН і прадстаўніцтва БССР у ЮНЕСКА, неулічаныя ў «Летапісе друку БССР». Былі зарэгістраваны і перавыданні эмігрантаў-беларусаў на Радзіме. Складальнікі стварылі каштоўную крыніцу па гісторыі эміграцыі і яе кніжнай культуры.

Асобным раздзелам у манаграфіі Н. Гардзіенка «Беларусы ў Аўстраліі. Да гісторыі дыяспары»[654] выдзелены «Беларускі друк у Аўстраліі», а ў дадатку ўключана бібліяграфія беларускага і беларусазнаўчага друку ў Аўстраліі.

→
*Вокладка кнігі В. Кіпеля і З. Кіпель «Беларускі друк на Захадзе. Бібліяграфія». Нью-Йорк; Варшава, 2006 г.*

KIPEL
KIPEL

BELARUSIAN PUBLISHING IN THE WEST

VITAUT KIPEL · ZORA KIPEL



*A Bibliography*






*Вокладка кнігі В. Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі». Коўна, 1926 г.*

Абагульненне, як і збор, улік і бібліяграфаванне друкаванай спадчыны беларускай эміграцыі за мяжой пачалося яшчэ Т. Грыбам (ад імя Беларускага Архіва) у 1920-х гг. у Празе, Я. Станкевічам (Крывіцкае таварыства) у Германіі ў 1940-х гг., М. Паньковым (ад імя Усебеларускага архіва) у 1950-х гг. і дырэкцыяй Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў ЗША[655], куды ў 1953 г. увайшла Беларуская бібліяграфічная служба (была створана ў 1946 г. на першай нарадзе беларускіх кніжнікаў у Ольдэнбургу ў Германіі)[656].

У свой час немалаважную ролю ў зборы інфармацыі аб беларускіх замежных выданнях адыгралі такія перыядычныя выданні, як «Беларус», «Аб'еднаньне», «Божым Шляхам», «Бацькаўшчына», «Беларускі голас», «Полацак», якія сістэматычна паведамлялі пра найбольш значныя беларускія выданні. Асобныя бібліяграфічныя матэрыялы публікуюцца і сёння на старонках такіх выданняў, як «Ніва» (Польшча), «Запісы» і «Беларус» (ЗША)[657] і інш.

Друкаваныя выданні беларускага замежжа складаюць важную частку агульнабеларускай культуры[658].

З 1991 г. спадчына беларускай эміграцыі змагла актыўна і арганічна ўліцца ў навукова-культурны кантэкст жыцця Беларусі. Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі выклікала павелічэнне колькасці даследаванняў гісторыі Бацькаўшчыны за мяжой. Намаганнямі вучоных «бліжняга» замежжа (з Масквы) і Беларусі быў наладжаны выпуск літаратурна-мастацкага штогодніка «Скарыніч» (вып. 1, 1991; вып. 2, 1993). У новым ці абноўленым беларускім замежным друку папулярызаваліся дасягненні сучаснай гістарычнай думкі ўсходняй дыяспары: «Наша Ніва» (Вільня), «Сьвітанак» (Рыга), «Шляхам Скарыны» (Масква) і інш. Нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне садзейнічала актывізацыі вучоных заходняй дыяспары. Быў заснаваны часопіс «Полацак» (у Кліўлендзе, 1991—1997 гг.), на старонках якога друкаваліся даследаванні гісторыкаў Беларусі і замежжа. Пачаў выходзіць часопіс «Прамень» (у Манфале, з 1993 г.). Навуковыя артыкулы прадстаўнікоў беларускай дыяспары друкаваліся на старонках спецыяльных гісторыка-культурных зборнікаў «Здабыткі: дакументальныя помнікі Беларусі», «Вяртанне», «Беларусіка=Albaruthenica», «Кантакты і дыялогі».

У 1990 г. у Мінску была заснавана міжнародная грамадская арганізацыя «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», адной з галоўных задач якой стала выданне пісьмовай спадчыны замежных суайчыннікаў. У межах дзяржаўнай палітыкі нацыянальнага Адраджэння і зацверджанай Саветам Міністраў дзяржаўнай праграмы «Беларусы ў свеце» (1993) выпуск твораў ажыццяўлялі дзяржаўныя выдавецтвы «Мастацкая літаратура» (заснавана серыя «Галасы замежжа»), «Навука і тэхніка», «Беларусь», «Полымя» і інш. З'явіліся сумесныя выдавецкія праекты з замежнымі аб'яднаннямі.

Найбольшымі калекцыямі друкаванай прадукцыі, перададзенай беларускімі эмігрантамі ў Беларусь, валодае Нацыянальная бібліятэка Беларусі (каля 2 тыс. назваў). Зборам падобных матэрыялаў займаўся і Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны (бібліятэка цэнтра расфарміравана ў 2006 г.). Некаторыя выданні захоўваюцца ў кніжных зборах такіх міжнародных арганізацый, як «Бацькаўшчына», Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (МАБ), а таксама ў прыватных зборах.

# З НАДЗЕЯЙ НА ВЯРТАННЕ (1920—1939 ГГ.)

Сістэматычны друк беларускай эміграцыі адзначаецца з 1920-х гг. у Латвіі і Літве. Спажыўцамі друкаванай прадукцыі ў пераважнай большасці з'яўляліся аўтахтонныя беларусы, якія жылі на тэрыторыях, адышоўшых да гэтых краін. У сакавіку 1920 г. зроблена спроба выдання беларускага ілюстраванага часопіса ў Латвіі «На чужыне» (выйшаў адзін нумар). Для падтрымкі беларускіх школ і гімназій у Латвіі было заснавана Беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына». Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы Латвіі распачаў кнігавыдавецкую дзейнасць і выпусціў чытанку для дзяцей «Зорка» А. Смоліч (1922), а Люцынская беларуская гімназія — зборнік «Ластаўка» (1924)[659]. Улады Латвіі ў 1924—1925 гг. праявілі сябе з негатыўнага боку, арганізаваўшы судовы «Беларускі працэс» і закрыўшы шэраг беларускіх школ і таварystваў. У падтрымку беларускага руху ў Латвіі ствараліся новыя культурна-асветныя таварыствы, такія як «Рунь», «Беларуская Хата», «Араты», «Асвета», «Культура і праца», Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Таварыства беларускіх настаўнікаў (выдавала часопіс «Школа і жыццё», 1930 г.), Беларускае цэнтральнае пазыкова-ашчаднае таварыства (выдавала сельскагаспадарчы часопіс «Гаспадар», 1926 г.), Таварыства беларускай моладзі (выдавала часопіс «Пагоня», 1928 г.), Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства і інш.




*Вокладка кнігі «Першы крок. Зборнік вершаў маладых беларускіх паэтаў у Латвіі». Рыга, 1926 г.*

У чэрвені 1925 г. у Рызе пачала выпускацца газета «Голас Беларуса» (1925—1930). Адукацыйна-асветніцкі кірунак мелі часопіс «Беларуская школа ў Латвіі» (1926—1929, 1931—1933), а таксама часопіс Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі «Школьная праца».

У 1925 г. беларуская арганізацыя ў Латвіі — Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў — заснавала серыю выданняў «Бібліятэка беларуса-выбаршчыка», у якой выйшлі 15 кніг: «Беларускі працэс у Латвіі» (1925), «Першы крок: зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі» (1926), «Вялікае апрашчэнне ці вялікае ўдасканаленне?» А. Галынца (псеўданім А. Цвікевіча) (1926)[660] і інш.

У 1926—1934 гг. дзейнічала Беларускае выдавецкае таварыства ў Латвіі. На яго ліку каля 20 назваў кніг і брашур, сярод якіх п'еса-казка Ф. Аляхновіча «У лясным гушчары» (1932), апавяданне В. Вальтэра «Леснікова сена» (1932), навукова-папулярны нарыс З. Даўгялы «Літоўская Метрыка» і яе каштоўнасць для вывучэння мінуўшчыны Беларусі» (1933) і інш.

Пасля 1934 г., калі ўлада ў Латвіі перайшла да К. Ульманіса, выдавецкая дзейнасць беларусаў у Латвіі была амаль згорнута.

На пачатку 1920-х гг. адзначана выдавецкая дзейнасць беларусаў і ў сталіцы Літвы Коўне. Усяго за перыяд 1919—1926 гг. у Літве выйшла звыш 30 розных беларускіх кніг (у асноўным — падручнікі, слоўнікі, некаторыя з якіх па дамоўленасці з Беларускім Навуковым Таварыствам у Вільні прызначаліся для беларускіх школ на тэрыторыі Польшчы[661]). 15 выданняў былі надрукаваны на сродкі Міністэрства Беларускіх Спраў у Коўне. Дзякуючы дзейнасці В. Ластоўскага і падтрымцы літоўскага ўрада[662] выпускаўся таксама часопіс «Крывіч» (1923—1927) і некаторыя іншыя выданні.

У ковенскай друкарні Сакалоўскага і Лана выйшла кніга В. Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі», якая змяшчала звыш 1000 апісанняў беларускіх рукапісных і друкаваных кніг і дакументаў і была прымеркавана да святкавання 400-годдзя беларускага друку ў 1925 г.[663] Значнай з'явай нацыянальнай



1.

Новы ПРАМЕНЬ

ПРАГА 1926

# Новы ПРАМЕНЬ

ЧАСОПІСЬ ПАСТУПОВАГА СТУДЭНЦТВА

Выданьне непэрыядычнае

ПРАГА ЛІСТАПАД 1926 № 1.

НАВАЛЬНІЦА.

Маланка бліщча, брат!
Грамадзкі гром грыміць!
Напэўна пойдзе град.
Пяруны стануць біць.

Навальна хмара йдзе.
У паветры пахне гар...
Глядзі: вунь дзе — нядзе
Пачаўся ўжо пажар!

Званы трывогу б'юць —
Гром хочуць заглушыць.
Сюды туды снуюць,
Крычаць: «Ту... Ту...

Пажарнікі! — сьвінец
Давай!.. Ста... ...
— Дарма. З канца ў канец
Абойме ўсё пажар!..

*Д.*



*Вокладка і старонка часопіса беларускіх студэнтаў у Празе «Новы прамень». Прага. 1926 г. № 1.*

культуры ў эміграцыі быў ковенскі беларускі часопіс «Крывіч», на старонках якога шэраг матэрыялаў быў прысвечаны гісторыі беларускай кніжнай культуры. У 1924 г. у ковенскай друкарні А. Бака В. Ластоўскі выпусціў «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік», у 1925 г. — «Летапісец Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага». Да 1926 г. у Коўне В. Ластоўскім было надрукавана звыш дзесятка падручнікаў і арыгінальных беларускіх кніг[664].

У перыяд паміж Першай і Другой сусветнымі войнамі сапраўдным цэнтрам беларускай эміграцыі стала Прага, дзе пачаўся друк часопісаў, інфармацыйных лістовак. Аднымі з найстарэйшых эміграцыйных перыядычных выданняў з'яўляюцца часопісы «Перавясла» (1923) і «Беларускі Студэнт» (1923), якія выдаваліся ў Празе беларускімі студэнтамі. У 1926 г. быў выпушчаны альманах «Замежная Беларусь» (кн. 1). Сярод значных пражскіх публікацый — працы па гісторыі Беларусі В. Захаркі (1926), П. Крэчэўскага (1926). У маі 1925 г. у Празе было створана Беларускае (Крывіцкае) Культурнае Таварыства імя Францішка Скарыны. У 1927 г. у Празе быў таксама арганізаваны Беларускі Навуковы кабінет, кіраўніком якога з'яўляўся Т. Грыб. Праз год з'явіўся Беларускі Замежны Архіў (заснаваны М. Вяршыніным), які стаў лідэрам у галіне збірання беларусікі. Пасля смерці М. Вяршыніна архіў узначаліў Т. Грыб.

У 1920-я гг. былі заснаваны Беларускае выдавецтва ў Латвіі, Беларускі выдавецкі цэнтр у Літве, выдавецтва імя Ф. Скарыны ў Празе. У Рызе, Коўне друкаваліся такія беларускія перыядычныя выданні, як «Крывіч», «Часопіс», «Беларускі сьцяг» і інш. Асобныя беларускамоўныя выданні, а таксама календары выходзілі ў Аргенціне.

# БЕЛАРУСКАЕ КНІГАДРУКАВАННЕ Ў ЗАМЕЖЖЫ Ў ЧАС ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ (1939—1945 ГГ.)

Беларускае кнігадрукаванне на Захадзе адзначаецца і ў час Другой сусветнай вайны. У канцы 1939 г. у Берліне пачала выходзіць газета «Раніца» (да 1945 г.), рэдакцыя якой прычынілася да некалькіх кніжных выданняў.

Выдавецкай дзейнасцю ў Берліне займаўся Беларускі камітэт самапомачы, які выпусціў 8 кніг. Аднымі з першых выданняў сталі «Сымон-музыка» Я. Коласа і зборнік вершаў Л. Геніюш «Ад родных ніў», друк якіх быў ажыццёўлены ў 1942 г. у Празе[665]. У 1942—1944 гг. пад грыфам БКС з'явіліся яшчэ 6 выданняў: 5 лацінкай — «Беларусь у песнях», «Гісторыя Беларусі ў картах», «25 сакавіка», «Калядныя песьні», зборнік беларускіх песень «Пад гоман вясёлы» і адно на кірыліцы — «Тэстамэнт» У. Жылкі[666].

У 1944 г. у Берліне была заснавана і такая серыя, як «Народная бібліятэчка», у якой выйшла 8 кніг.

Некалькі беларускамоўных выданняў убачылі свет у Празе ў 1942—1943 гг. — гэта «Арыфмэтыка» З. Дабранскай (1942) і «Беларускія (крывіцкія) песьні для соля, дуэту, квартэту...» В. Русака (1943).

У Літве ў Вільні з сакавіка 1942 г. выдавалася штотыднёвая газета «Беларускі голас» і выйшлі тры кнігі, адна з якіх — «25-лецьце Беларускае гімназіі ў Вільні 1919—1944» змяшчала друкаваныя кірыліцай і лацінкай тэксты, падрыхтавана кіраўніцтвам гімназіі ў 1944 г.

Значным кнігавыдавецкім асяродкам для беларусаў у ваенны час была Латвія. Усяго вядома 13 выданняў, выпушчаных у Рызе з лістапада 1942 г. да мая 1944 г., 10 з якіх — беларускія народныя песні і рамансы з нотамі, адно — «Статут Беларускага аб'яднання ў Латвіі», адно — чытанка «Беларуская школа» і апошняе — кніга для дзяцей «Камарочак» з ілюстрацыямі А. Бяльцовай[667].

Не менш чатырох рэлігійных выданняў на беларускай мове для праваслаўных выпусціла ў 1942—1943 гг. Царкоўнае брацтва імя св. Юр'я пры беларускай парафіі ў Варшаве. Найбольшыя тыражы мелі «Беларускі праваслаўны малітвеньнік», а таксама «Беларускі праваслаўны патэрык», прысвечаны гісторыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі[668].







*Вокладка кнігі В. Кіпеля «Беларусы ў ЗША». Мінск, 1993 г.*

*Вокладка кнігі А. Латышонка «Ад белых русінаў да беларусаў». Беласток, 2007 г.*

# ЗАХАВАЦЬ ПАМЯЦЬ: ВЯДУЧЫЯ ВЫДАВЕЦКІЯ ЦЭНТРЫ

У значна большых памерах разгарнулася беларускае кнігадрукаванне на эміграцыі пасля Другой сусветнай вайны, калі ў Заходняй Еўропе апынуліся каля 100 тыс. беларусаў. Беларускія лагеры для перамешчаных асоб знаходзіліся ў Заходняй Германіі і Аўстрыі. У Заходняй Германіі беларусамі выпускаўся рукапісны ілюстраваны «Штодзённы крывіцкі лісток» (выйшлі 99 нумароў), потым часопіс змяніў назву на «Ліхтар» і выйшлі яшчэ 43 нумары. Найбольш працяглым выданнем стала газета «Бацькаўшчына», якая выпускалася ў 1947—1966 гг. у Мюнхене (выйшлі 637 нумароў). У 1945—1946 гг. у аўстрыйскім Зальцбургу выходзіў літаратурна-гістарычны часопіс «Пагоня».

Шмат беларусаў пражывала і ў Англіі, Францыі, Італіі, менш — у Бельгіі, Даніі і іншых заходнееўрапейскіх краінах. У лагерах для перамешчаных асоб былі арганізаваны школы, таварыствы, грамадска-палітычныя згуртаванні. Была наладжана і выдавецкая справа. Узніклі такія выдавецкія суполкі, як «Крыніца», «Шыпшына» і інш.

Найбольшую колькасць сярод друкаванай прадукцыі ў пасляваенны час займалі мастацкія творы — М. Сяднёва, М. Кавыля, Н. Арсеньевай, А. Салаўя, М. Вярбы і інш., а таксама творы беларускіх класікаў.

Выдавалася таксама вучэбна-дапаможная літаратура, падручнікі для беларускіх школ.

Значнае месца ў кнігавыдавецкім патоку беларускай эміграцыі займалі рэлігійныя выданні: малітоўнікі, рэлігійна-філасофская літаратура, спеўнікі. Найбольш літаратуры выдадзена ў 1946—1948 гг. Выдавецтва «Бацькаўшчына» (1947—1966) большую частку сваёй літаратуры выпусціла ў пачатку 1950-х гг.

Цэнтрамі беларускага кнігадрукавання ў Заходняй Германіі сталі лагеры для перамешчаных асоб у Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, Ватэнштэце, Остэргофене.

У 1946 г. пачаўся беларускі друк у Рыме, калі выйшаў кірылічны малітоўнік для беларусаў «Божым шляхам». Пазнейшы друк у Італіі быў амаль выключна лацінкай. Асноўнае беларускае выдавецтва ў Італіі — гэта рэдакцыя часопіса «Зьніч» (1948—1972), дзе выйшла шмат рэлігійных і мастацкіх кніг.

У Англіі беларускі друк пачаўся ў 1947 г., але выдаваліся ў асноўным часопісы і інфармацыйная літаратура пра Беларусь — лістоўкі, невялікія брашуры. Кнігавыданне ў Англіі адзначаецца з 1950-х гг., калі пачаў сваю працу Беларускі рэлігійны цэнтр у Лондане. Створанае ў 1954 г. Англа-беларускае таварыства ў Лондане выдавала часопіс «The Journal of Beyelorussian Studies» (1965—1988), у якім змяшчаліся артыкулы па гісторыі, палітыцы, іншых праблемах жыцця беларускага народа.

У Францыі цэнтрам беларускага кнігадруку быў Парыж, дзе Беларуская рэлігійная місія надрукавала некалькі грунтоўных манаграфій на беларускай мове. У Бельгіі амаль выключна выходзілі перыядычныя выданні.

Да канца 1940-х гг. беларускае кнігавыданне ў Заходняй Еўропе ў сувязі з перасяленнем эмігрантаў за акіян значна скарацілася (акрамя Вялікабрытаніі і Германіі). Эстафету ў 1950—60-х гг. падхапілі Аўстралія, Канада, ЗША, Аргенціна.

Найбольшая колькасць выдавецкіх цэнтраў узнікла ў ЗША:

— у 1949 г. у Нью-Йорку заснаваны Беларускі выдавецкі фонд;

— на пачатку 1950-х гг. узнікла Беларускае выдавецтва М. Прускага ў Гранд-Рапідзе, штат Мічыган, якое друкавала выданні для моладзі, біяграфіі выдатных беларускіх дзеячаў, мастацкія творы, успаміны і інш.;

— фонд Я. Пятроўскага;

— выдавецтва У. Пелясы;

— выдавецтва Янкі Золака;

— у 1954 г. — друкарня «Пагоня» (выдавала падручнікі, чытанкі, карты і інш.);

— на пачатку 1960-х гг. заснавана Беларускае выдавецкае таварыства ў Саўт-Рыверы і Беларуская выдавецкая сябрына ў Чыкага (дзейнічала да канца 1970-х гг.);

— на пачатку 1960-х гг. — выдавецтва «Заранка» ў Нью-Йорку (выдавала вучэбную і адукацыйна-асветніцкую літаратуру, дзейнічала да 1972 г.);

— у канцы 1960-х гг. — выдавецтва «Родны край» у Трэнтане, штат Нью-Джэрсі (выдавала кароткія літаратурна-мастацкія творы, легенды, рэлігійную літаратуру);

— у 1975 г. — Беларускае выдавецтва «Час» (дзейнічала да сярэдзіны 1980-х гг.);

— у 1989 г. у Гановеры, штат Пенсільванія, заснавана выдавецтва W&D (выдавала англамоўную інфармацыйную літаратуру пра Беларусь);

— у 1951 г. у Нью-Йорку быў заснаваны Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНІМ);

— Крывіцкае (Беларускае) навуковае таварыства Ф. Скарыны наладзіла выпуск навуковалітаратурнага часопіса «Веда» (1951—1954) і кніг па гісторыі і культуры Беларусі;

— створаная ў Нью-Йорку Фундацыя імя П. Крэчэўскага спрыяла вывучэнню і публікацыі беларускай спадчыны.

Важным цэнтрам навуковых сіл беларускіх эмігрантаў у Заходняй Еўропе стаў Мюнхен, дзе пачаў працу самастойны аддзел БІНІМа (1955—1966). З сярэдзіны 1950-х гг. беларускія даследчыкі ўдзельнічалі ў рабоце Інстытута па вывучэнні СССР, створанага ў 1950 г. у Мюнхене савецкімі эмігрантамі. У межах яго праграм былі апублікаваны «Беларускія зборнікі», шэраг прац, падрыхтаваных беларускімі даследчыкамі на эміграцыі.

У 1960—1980-я гг. з'явіліся новыя культурна-навуковыя цэнтры: Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Таронта (Канада, з 1967 г.), Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны (Лондан, з 1971 г.), Інстытут беларусаведы ў Ляймене (Германія, з 1983 г. выдаваў «Весткі»), Фонд імя Льва Сапегі (Нью-Йорк, з 1975 г.), Беларускі дапамагова-адукацыйны фонд (Хайнсвіл, Фларыда, з 1976 г.), Фонд імя І. Любачкі (Нью-Йорк, з 1977 г.), якія заахвочваюць даследаванні па гісторыі і культуры Беларусі, спрыяюць публікацыі іх вынікаў.

*Табліца 1*

**Размеркаванне колькасці назваў выданняў кніжнай прадукцыі па гадах**

| Год | Колькасць выданняў (назваў) |
|---|---|
| 1991 | 53 |
| 1992 | 52 |
| 1993 | 67 |
| 1994 | 50 |
| 1995 | 63 |
| 1996 | 62 |
| 1997 | 68 |
| 1998 | 52 |
| 1999 | 60 |
| 2000 | 68 |
| 2001 | 45 |
| 2002 | 47 |
| 2003 | 47 |
| 2004 | 28 |
| 2005 | 22 |
| 2006 | 36 |
| 2007 | 19 |
| Усяго за 1991—2007 | 839 |

За перыяд з 1991 па 2007 гг. выйшла звыш 830 назваў кніг і брашур, а таксама 62 назвы перыядычных выданнняў, што складае ад агульнай колькасці надрукаванага беларускімі эмігрантамі (пачынаючы з XIX ст.) каля 20% і 15% адпаведна. Найбольш плённымі для кнігавыдання былі 1993 г. — 67 назваў, 1995 г. — 63, 1996 г. — 62, 1997 г. — 67, 2000 г. — 68. З пачатку новага тысячагоддзя (2001) назіраецца тэндэнцыя памяншэння колькасці назваў, якія выходзілі ў друку беларускага замежжа [табл. 1] і адначасова рост сумесных выдавецкіх праектаў Беларусі і беларускага замежжа. Каля 100 назваў кніжнай прадукцыі былі выпушчаны як сумесныя выдавецкія праекты, напрыклад, Нью-Йорка і Мінска (13 выд.); Лондана і Нью-Йорка (5 выд.); Лондана і Беластока (5 выд.); Варшавы і Мінска (3 выд.); Парыжа, Манрэаля і Будапешта (3 выд.); Вільні і Нью-Йорка (3 выд.); Нью-Йорка і Беластока (2 выд.) і г.д.

Буйнейшыя выдавецкія цэнтры эмігрантаў з Беларусі размяшчаюцца ў ЗША, Вялікабрытаніі, Канадзе, Германіі, Францыі, Аўстраліі і іншых краінах [табл. 2].

Найбольш плённай за гісторыю эміграцыі стала дзейнасць выдавецтва ***Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва*** (БІНІМ; з 1951 г.), якое, не маючы сваёй уласнай паліграфічнай тэхнікі, рыхтуе кнігі да выдання і друкуе сваю прадукцыю ў розных прыватных беларускіх і небеларускіх друкарнях. Асноўным выданнем Інстытута сталі «Запісы» (з 1952 г.). Зборнік стаў сістэматычным навуковым органам Інстытута. Выходзіў у Нью-Йорку і Мюнхене (у 1952—1999 гг. выдадзены 24 тамы). Асноўная фінансавая падтрымка выданню аказвалася з Фундацыі імя П. Крэчэўскага (ЗША). З 2002 г. «Запісы» друкуюцца ў Мінску.

Інстытутам выдаваліся таксама літаратурнамастацкі часопіс «Конадні» (1954—1963), інфармацыйны — «Абежнік» (1953—1969). З 1955 г. выдавецтва Інстытута прыступіла да выдання кніг. Былі заснаваны такія серыі, як «Бібліяграфічная серыя» (з 1985 г. выйшлі 8 грунтоўных бібліяграфічных прац[669]); «Гісторыя эміграцыі» (з 1994 г. — 3 кнігі); «Беларускія паэты і пісьменнікі» (з 1979 г., 11 кніг). У 2005 г. з'явілася новая серыя — «Гісторыя беларускага рэлігійнага жыцця».

*Табліца 2*

**Цэнтры беларускага кнігавыдання за мяжой**

| Краіна (горад) | Колькасць назваў кніжнай прадукцыі, выдадзенай у 1991—2007 гг. |
|---|---|
| **ЗША** | **227** |
| — Нью-Йорк | 105 |
| — Саўт-Рывер | 25 |
| — Вашынгтон | 21 |
| — Чыкага | 11 |
| — Гейнсвіл | 8 |
| — Кліўленд | 7 |
| — Міннеапаліс | 4 |
| — іншыя (ад 1 да 3 выд.) | 46 |
| **Вялікабрытанія** | **105** |
| — Лондан | 95 |
| — іншыя (ад 1 да 3 выд.) | 10 |
| **Польшча** | **81** |
| — Беласток | 54 |
| — Варшава | 21 |
| — іншыя | 6 |
| **Канада** | **73** |
| — Таронта | 36 |
| — Атава | 12 |
| — Беры | 9 |
| — іншыя | 9 |
| **Германія** | **53** |
| — Мюнхен | 13 |
| — Кёльн | 9 |
| — Берлін | 9 |
| — іншыя | 22 |
| **Францыя** | **27** |
| — Парыж | 26 |
| **Аўстралія** | **21** |
| — Сідней | 13 |
| — Адэлаіда | 5 |
| — Мельбурн | 3 |
| **Украіна** | **21** |
| — Львоў | 21 |
| **Літва** | **18** |
| — Вільня | 18 |
| **Чэхія** | **16** |
| — Прага | 15 |
| **Ізраіль** | **8** |
| — Тэль-Авіў | 4 |
| — Іерусалім | 3 |
| — іншыя | 1 |
| **Швецыя** | **6** |
| — Стакгольм | 4 |
| — іншыя | 2 |

Усяго ў 1991—2007 гг. было выдадзена каля 50 назваў кніг і брашур. Прыярытэтнае месца ў выдавецкім рэпертуары займае гістарычная і бібліяграфічная тэматыка. Важным кірункам з'яўляецца выданне мастацкай і філалагічнай літаратуры; выданняў, прысвечаных культуры Беларусі і беларускай эміграцыі. З 2000 г. амаль усе выдавецкія праекты БІНІМа ажыццяўляюцца як сумесныя: з Мінскам, Варшавай, Вільняй, Беластокам.

Буйнейшым навукова-культурным цэнтрам у Еўропе з'яўляецца ***Беларуская бібліятэка і музей імя Ф.Скарыны*** ў Лондане (з 1971 г.), дзе сабраны багацейшыя кніжныя і архіўныя зборы беларускай эміграцыі. Бібліятэка стала навуковым цэнтрам для вучоных беларусазнаўцаў з розных краін свету, што знайшло адлюстраванне (за перыяд 1992 — 2004 гг.) у 10 асобных кніжных выданнях, 7 з якіх выйшлі ў выдавецтве ***«Божым шляхам»***[670].

Выдавецтва «Божым шляхам» дзейнічае ў Лондане з 1957 г. Яго асноўным выданнем у 1957—1980 гг. быў аднайменны грамадска-рэлігійны і літаратурна-гістарычны часопіс на беларускай мове. Выдавецтва спецыялізуецца на выданні рэлігійнай літаратуры, у тым ліку прысвечанай гісторыі хрысціянства, хрысціянскай царквы, царкоўнага будаўніцтва, рэлігійных адносін у Беларусі і інш.

***Англа-Беларускае Таварыства***, заснаванае пры Згуртаванні беларусаў Вялікабрытаніі, рэгулярна выдавала на англійскай мове штогоднік навуковых артыкулаў «The Journal of Byelorussian Studies» — «Часопіс беларускіх даследаванняў» (1965—1988). У другой палове 1990-х гг. былі надрукаваны два тамы «Occasional Papers in Belarusian Studies» — «Аказійных матэрыялаў з беларускіх даследаванняў» (1995). У 1995 заснаваны штоквартальны часопіс таварыства «The Belarusian Cronicle» — «Беларуская хроніка», які падае панарамны агляд падзей, звязаных з англа-беларускімі сувязямі»[671].

Кніжныя выданні беларускіх эмігрантаў выходзяць таксама ў ***Чэхіі***, ***Польшчы***, ***Літве*** і іншых краінах. У Польшчы актыўнай выдавецкай дзейнасцю займаецца Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», на ліку якога больш за 50 назваў апублікаваных твораў мастацкай літаратуры. У 1990 г. заснавана серыя «Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Выдавецкай дзейнасцю ў Беластоку займаецца Праграмная рада штотыднёвіка «Ніва», у Варшаве — выдавецтва «Беларускіх Ведамасьцяў». Больш запатрабаванай стала ў апошні час выдавецкая база Літвы, дзе дзейнічаюць такія выдавецкія цэн-

тры, як «Таварыства беларускай культуры ў Літве», «Выдавецтва беларусаў Літвы «Рунь», «Наша будучыня» і інш. Напрыклад, у 2000—2002 гг. у выдавецтве «Рунь» выйшлі ў свет 8 выданняў серыі «Партрэты віленчукоў», прысвечаныя вядомым дзеячам беларускага адраджэння.

Сярод навейшых выданняў у ***Германіі*** — штоквартальнік «Belarus—News» («Навіны з Беларусі»), які выдаецца з 1998 г. на нямецкай мове. У ім аналізуецца развіццё падзей у Беларусі і даецца навейшая бібліяграфічная інфармацыя пра Беларусь, змешчаная ў нямецкіх газетах і Інтэрнэце. Асобныя выданні выходзяць у Мюнхене, Кёльне, Берліне.

У 1996 г. у ***Францыі*** было заснавана Таварыства па развіцці даследаванняў, інфармацыі і культуры Беларусі, асноўным выданнем якога з'яўляецца штоквартальны бюлетэнь «Perspectives biélorussiennes» («Беларускія перспектывы»). Значнай падзеяй у 1997 г. было выданне манаграфіі «Гутарым па-беларуску. Мова і культура» — «Parlons biélorussien. Langue et culture»[672]. Трэба адзначыць у апошні час і дзейнасць парыжскага выдавецтва «L'Harmattan», у якім з 2000 г. пачаты выпуск серыі «Collection Biélorussie» («Беларуская калекцыя»), прысвечанай гісторыі і культуры Беларусі[673].

*Табліца 3*

**Тэматыка кнігавыдавецкага рэпертуару ў беларускім замежжы**

| **Тэматыка выданняў** | **Колькасць (назв.)** |
|---|---|
| **Гісторыя**, у тым ліку | **234** |
| – Этналогія | 3 |
| **Грамадска-палітычная**, у тым ліку | **200** |
| – Палітыка | 65 |
| **Рэлігія** | **165** |
| **Мастацкая літаратура** | **63** |
| **Мастацтва і мастацтвазнаўства**, у тым ліку | **41** |
| – Музыка | 2 |
| **Культура** | **33** |
| **Сацыяльна-эканамічная** | **33** |
| **Інфармацыйна-бібліяграфічная**, у тым ліку | **29** |
| – Бібліяграфія | 17 |
| **Мовазнаўства** | **17** |
| **Літаратуразнаўства** | **11** |
| **Адукацыя** | **3** |
| **Медыцына** | **3** |
| **Бібліятэказнаўства** | **2** |
| **Фальклор** | **2** |
| **Права** | **2** |
| **Філасофія** | **1** |

У тэматыцы сучаснага выдавецкага рэпертуару беларускай эміграцыі вядучае становішча займае гістарычная (234 назвы), грамадска-палітычная (200 назваў), рэлігійная (165 назваў), мастацкая (63 назвы) і мастацтвазнаўчая літаратура (39 назваў) [табл. 3].

Даследчыкі ў эміграцыі асэнсоўвалі гісторыю і сучаснае жыццё свайго народа з пазіцый нацыянальных інтарэсаў, абгрунтоўвалі канцэптуальна сваю трактоўку гістарычнага развіцця Беларусі. Значная роля ў гэтым працэсе належыць выданням мемуарнага, дакументальнага характару. Першай навуковай англамоўнай кнігай, якая прадстаўляла пункт гледжання беларускай эміграцыі на гісторыю Беларусі, стала выданне «Belarus at a Crossaroads in History» Я. Запрудніка (1993)[674]. У 1996 г. пераклад гэтай кнігі і яе выданне былі двойчы ажыццёўлены ў Беларусі. Асобныя выданні носяць яскрава выражаны краязнаўчы характар і прысвечаны родным мясцінам у Беларусі. Шэраг выданняў прадстаўляюць гісторыю беларускай эміграцыі. Выдаваліся таксама вучэбныя дапаможнікі.

На англійскай і рускай мовах публікаваліся матэрыялы па гісторыі яўрэяў Беларусі.

Прадметам шэрагу гістарычных даследаванняў стала гісторыя беларускай кнігі і кнігадрукавання. У некаторых выданнях разглядаецца гісторыя бібліятэчных збораў Беларусі.

Да 1995 г. прыярытэтным кірункам у групе грамадска-палітычных выданняў заставаліся тэмы Чарнобыльскай катастрофы, дапамогі ахвярам катастрофы і абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Публікаваліся таксама дакументы Рады БНР. Змены палітычнай сітуацыі ў Беларусі ўнеслі змены ў рэпертуар грамадска-палітычных выданняў. Дадзеныя выданні нярэдка мелі характар мемарандумаў, заяў, зваротаў і заклікаў да сусветнай супольнасці ў барацьбе за падтрымку апазіцыі ў Беларусі.

Значную ролю ў кансалідацыі і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў за мяжой адыграла царква: Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква (БАПЦ; Нью-Йорк, Бруклін, Чыкага, Таронта, Манрэаль), а таксама Беларуская каталіцкая місія ўсходнеславянскага (візантыйскага) абраду (Лондан), Беларуская Каталіцкая Царква (Чыкага), выдавецкая дзейнасць якіх накіравана на распаўсюджанне

рэлігійных тэкстаў на нацыянальнай мове[675]. Сярод спецыялізаваных выдавецтваў, якія выпускаюць рэлігійную літаратуру, — «Божым шляхам» (Вялікабрытанія) і «Царкоўны Пасланец» (ЗША). У 2002 г. у ЗША БАПЦ выдала ў перакладзе В. Сёмухі на беларускую мову «Біблію. Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету». Некаторыя выданні БАПЦ былі выдадзены сумесна з мінскім выдавецтвам «Тэхналогія» ў серыі «Бібліятэка беларускай дыяспары» — «Парэміі» (1992), «Архірэйская Служба на Літургіі» (1993), «Ліція» (1993), «Службоўнік» (1994). Акрамя богаслужэбнай літаратуры ў рэпертуар рэлігійных выданняў уваходзяць кнігі па гісторыі царквы і рэлігійнага руху.

Мастацкая літаратура беларускай эміграцыі — гэта важнейшы складнік яднання дыяспары, зберажэння і развіцця мовы, нацыянальных традыцый, нацыянальнай ідэі. У кніжным багажы мастацкія выданні ўяўляюць сабой багатую творчую спадчыну. Сярод вядомых беларускіх пісьменнікаў пасляваеннай эміграцыі, асобныя творы якіх былі апублікаваны ў 1991—2007 гг., — У. Дудзіцкі, Н. Арсеньева, А. Адамовіч, В. Тумаш, Я. Пятроўскі, Я. Юхнавец, К. Акула і інш.

Але пачынаючы з 1995 г. у літаратурным руху беларускай эміграцыі адзначаецца пэўны спад[676]. Таму, відаць, можна сказаць, што наступае этап пераасэнсавання спадчыны беларускай эміграцыі.

Асноўнай мовай выданняў беларускай эміграцыі з'яўляецца беларуская (49,8%). У статыстыцы выкарыстання іншых моў вядучае становішча займаюць англійская (29,6%), нямецкая (8,3%), польская (4,4%) і французская (4,2%) мовы [табл. 4]. Даволі значная частка перыядычных выданнняў 1991—2006 гг. выходзіла на англійскай; беларускай і англійскай; французскай; французскай і беларускай; нямецкай; нямецкай і беларускай; беларускай і ўкраінскай мовах — усяго 24 назвы. Амаль усе беларускамоўныя перыядычныя выданні друкуюцца кірыліцай — 37 (толькі адно — лацініцай).

У 1995—2010 гг. у Беларусі былі рэалізаваны сумесныя з беларусамі замежжа выдавецкія праекты: серыя «Бібліятэка часопіса «Беларускі гістарычны агляд» (выдадзена 7 назваў кніг па гісторыі беларускай эміграцыі); спецыяльныя выпускі часопіса «ARCHE пачатак»; серыі кніжных выданняў газеты «Наша ніва» — Бібліятэка «Вострая брама» і «Кнігарня «Наша ніва»; праекты «Інстытута Беларусістыкі» ў Вільні і іншыя прыватныя індывідуальныя ініцыятывы. У 2004 г. заснавана кніжная серыя «Бібліятэка «Бацькаўшчыны», у якой выйшла 15 выданняў. Выданні распаўсюджваюцца і ў электронным фармаце на сайце «Бацькаўшчыны». З 2007 г. «Бацькаўшчына» выпускае інфармацыйны бюлетэнь «Беларусы ў свеце» (распаўсюджваецца ў 25 краінах свету, у тым ліку ў электронным выглядзе). З 2002 г. у Мінску выдаецца зборнік амерыканскай беларускай дыяспары «Запісы» БІНІМа, рэдкалегію якога складаюць літаратары-беларусы з Рэспублікі Беларусь і ЗША. Па падліках даследчыкаў у Беларусі за 1995—2005 гг. выйшла больш за 60 выданняў літаратуры беларускага замежжа[677].

Дзякуючы друкаваным і электронным выданням даследчыкі атрымліваюць магчымасць знаёміцца з беларускай эміграцыйнай думкай.

Сёння друкаваная спадчына беларускай эміграцыі — гэта тая інфармацыйная прастора, якая выконвае сваю асноўную функцыю, — захаванне нацыянальнай ідэнтычнасці ва ўсё больш глабалізаваным свеце.

За доўгія гады існавання ў выгнанні беларуская эміграцыйная кніга і друк склаліся як унікальная з'ява беларускай культуры, якая патрабуе глыбокага і рознабаковага даследавання.

*Табліца 4*

**Колькасць кніжных выданняў беларускага замежжа па моўнай прыкмеце, у тым ліку і выданні на некалькіх мовах**

| Год | беларуская | англійская | нямецкая | польская | французская | руская | іншыя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1991 | 30 | 19 | 2 | 2 | 1 | | |
| 1992 | 34 | 16 | 1 | | | | 1 (чэш.) |
| 1993 | 35 | 23 | 2 | 1 | 2 | 1 | |
| 1994 | 27 | 15 | 3 | | 5 | | |
| 1995 | 25 | 26 | 1 | 1 | 7 | | 1 (чэш.)<br>1 (швед.) |
| 1996 | 24 | 13 | 4 | 2 | 6 | | 1 (італ.)<br>1 (чэш.) |
| 1997 | 41 | 24 | 3 | 1 | 2 | | 1 (італ.)<br>1 (швед.)<br>2 (чэш.)<br>1 (іўр.)<br>2 (укр.) |
| 1998 | 22 | 14 | 12 | 2 | 2 | 3 | 1 (венгер.) |
| 1999 | 19 | 22 | 14 | 1 | 1 | 1 | 1 (швед.)<br>1 (славен.) |
| 2000 | 24 | 30 | 7 | 2 | 2 | 1 | 1 (галанд.)<br>1 (фламанд.) |
| 2001 | 21 | 6 | 9 | 3 | 4 | 3 | |
| 2002 | 29 | 14 | 6 | 5 | 3 | 1 | |
| 2003 | 15 | 12 | 6 | 4 | | | |
| 2004 | 15 | 10 | | 3 | | | 1 (швед.) |
| 2005 | 19 | 1 | | | | 1 | |
| 2006 | 27 | 2 | | 5 | | 1 | 1 (чэш.) |
| 2007 | 12 | 1+1 | | 5 | | | |
| **Усяго** | **419** | **249** | **70** | **37** | **35** | **12** | **19** |

# ЗАЎВАГІ

[1] *Jocher A.* Obraz bibliograficzno-historyczny literatury i nauk w Polsce, od wprowadzenia do niej druku po rok 1830 włącznie [...]. T. 1—3. Wilno, 1840—1857.

[2] *Mostowska z Radziwiłłow A.* Nie zawsze tak się czyni, iak się mówi: Powieść białoruska przez stoletnią damę opowiadana. Wilno, 1806. S. 1.

[3] *Комиссарова Е.В.* Редкие белорусские издания XIX в. в Славянском фонде БАН // Белорусский сборник: ст. и материалы по истории и культуре Белоруссии. Санкт-Петербург, 2002. Вып. 2. С. 227.

[4] *Żukowski W.* Polacy i Białorusini. Wilno, 1907. S. 24.

[5] *Нікалаеў М.В.* Беларускі Пецярбург. Санкт-Пецярбург, 2009. С. 137.

[6] Паказальна ў гэтым сэнсе, што першае выданне акадэмічнага «Русско-белорусского словаря» пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі з'явілася ў год смерці Сталіна, а наступнае — праз 29 гадоў, у год смерці Брэжнева. Для параўнання: на працягу 1990-х гг. гэты фундаментальны твор вытрымаў пяць выданняў.

[7] *Шторх А.К., Аделунг Ф.П.* Систематическое обозрение литературы в России в течение пятилетия, с 1801 по 1806 год. Ч. 1. Санкт-Петербург, 1810. С. 1.

[8] *Сопиков В.С.* Опыт российской библиографии, или Полный словарь сочинений и переводов, напечатанных на славенском и российских языках. Ч. 1. Санкт-Петербург, 1813. С. 16—17.

[9] *Умецкая Е.С.* Источники изучения истории белорусской книги начала XIX в. // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Минск, 1981. С. 86.

[10] Каталог коллекции Russica. Произведения и документы на иностранных языках, имеющие отношение к России. Т. 1—2. М., 2004.

[11] *Василевская М.А.* 1) Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия: библиогр. указ. на иностранных языках. Ч. 1—2. Минск, 1980—1983; 2) Белоруссия в печати XVIII столетия: библиогр. указ. на иностранных языках. Минск, 1985.

[12] *Benjacob J.* Thesaurus librorum Hebraicorum tam impressorum quam manu scriptorum = Bibliographie der gesammten hebraeischen Literatur mit Einschluss der Handschriften (bis 1868). Wilna, 1880.

[13] *Кельнер В.Е., Эльяшевич Д.А.* Литература о евреях на русском языке. 1890—1947. Книги, брошюры, оттиски статей, органы периодической печати: библиогр. указ. Санкт-Петербург, 1995; *Кельнер В.Е.* Литература о евреях на русском языке. 1890—1953. Книги, брошюры, оттиски статей: доп. к библиогр. указ. Санкт-Петербург, 2004.

[14] *Шибанов П.П.* Антикварная книжная торговля: кат. книг старых и новых. № 36. М., 1890; *Лихачев Н.П.* Каталог летучих изданий и их перепечаток. Манифесты, указы и другие правительственные распоряжения в определенных изданиях и перепечатках. Санкт-Петербург, 1895.

[15] *Иваск У.Г.* Частные библиотеки в России. Ч. 1—2. Санкт-Петербург, 1911—1912; *Radziszewski F.* Wiadomość historyczno-statystyczna o znakomitszych bibliotekach i archiwach publicznych i prywatnych, tak niegdyś byłych jako i obecnie istniejących w krajach dawną Polskę składających, a mianowicie: w Królestwie Polskiem, Galicyi, W. Ks. Poznańskiem i zachodnich guberniach Państwa Rossyjskiego. Kraków, 1875; *Chwalewik E.* Zbiory polskie. Archiwa, biblioteki, gabinety, galerie, muzea i inne zbiory pamiątek przeszłości w ojczyźnie i na obczyźnie w porządku alfabetycznym według miejscowości ułożone. T. 1—2. Warszawa, 1926—1927.

[16] [*Jelski A.*] Białoruska literatura i bibliografia // Wielka encyklopedia powszechna ilustrowana. Warszawa, 1892. T. 8.

[17] *Карский Е.Ф.* Белорусы. Т. 1—3. Варшава; М.; Петроград, 1903—1922.

[18] *Туронак Ю.* Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2008. С. 278—372.

[19] Гл.: *Доўнар Л.І.* Развіццё кнігавыдавецкай дзейнасці ў Мінску (1795—1917): кнігазнаўчы аспект: аўтарэф. дыс. на атрыманне вучонай ступені кандыдата педагагічных навук. Мінск, 2005.

[20] Напрыклад, у часопісе «Наш край» за 1927 г. у №№ 8—9 быў змешчаны артыкул Г. Перліна «Да гісторыі яўрэйскага друку на Беларусі». Аўтарам прыводзяцца лічбы выданняў беларуска-яўрэйскіх друкарняў 1783—1837 гг., указваецца колькасць выданняў на яўрэйскай мове з 1807 да 1837 гг., якія выйшлі ў Беларусі.

[21] *Голенченко Г.Я.* Библиографический список белорусских старопечатных изданий XVI—XVIII вв. Минск, 1961.

[22] *Зайцев В.К.* Книгопечатание в Белоруссии после Скорины // Докл. к IX конференции молодых ученых Белорусской ССР (Минск, нояб. 1967 г.). Минск, 1967.

[23] *Збралевич Л.И.* 1) Местные издания Белоруссии и некоторые вопросы их изучения // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. Минск, 1970. Вып. 1; 2) Научно-просветительская книга в Белоруссии во второй половине XVIII — первой четверти XIX в. // Книга в Белоруссии. Книговедение, источники, библиография. Минск, 1983. Вып. 2; 3) К вопросу изучения истории белорусской книги // Из истории науки и техники Белоруссии. Минск, 1988.

[24] *Умецкая Е. С.* История книгопечатания в Белоруссии в первой четверти XIX века (1801—1832): автореф. дис. на соискание ученой степени кандидата исторических наук. Минск, 1977.

[25] *Калубовіч А.* Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. Т. [1]. Мюнхен; Лондан, 1974—1975; Т. 2. Кліўленд, 1978.

[26] *Бярозкіна Н.Ю.* Гісторыя кнігадрукавання Беларусі (XVI — пачатак XX ст.). Мінск, 1998; 2 выд. Мінск, 2000.

[27] Гл., напрыклад: Недзяржаўная выдавецкая дзейнасць у Беларусі: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы Міжнар. навукова-практычнай канф. (Мінск, 3—4 кастр. 1996 г.). Мінск, 1997; Матэрыялы Першых кнігазнаўчых чытанняў (Мінск, 15 верас. 1998 г.). Мінск, 2000; Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры: зб. навуковых арт. Ч. 1—2. Мінск, 2006.

[28] *Біч М.В.* Гісторыя Беларусі: канец XVIII ст. — 1917 г. Мінск, 1993. С. 55—60.

[29] *Киркор А.К.* Вильно // Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Санкт-Петербург; М., 1882. Т. 3. Ч. 1. С. 116 (Живописная Россия); *Петраускене И.* Библиотека Вильнюсского университета. Вильнюс, 1970; *Brensztejn M.* Bibljoteka uniwersytecka w Wilnie do roku 1832. Wilno, 1925.

[30] Цензоры Вильно XIX и начала XX века. (Материалы для библиографического справочника) // Белорусский сборник: ст. и материалы по истории и культуре Белоруссии. Санкт-Петербург, 2005. С. 210.

[31] *Доўнар Л.* Кнігі, выдадзеныя ў Расейскай імперыі // Роднае слова. 2006. № 8. С. 36.

[32] *Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. Мінск, 1996. С. 136.

[33] *Шлюбскі А.* Адносіны расійскага ураду да беларускай мовы ў XIX в. // Зап. аддзелу гуманітарных навук. Мінск, 1928. Т. 1, кн. 2. Працы клясы філёлёгіі. С. 303—337.

[34] *Герасімаў В.М.* Гісторыя цэнзуры друку на Беларусі: стагоддзе за стагоддзем // Матэрыялы Першых кнігазнаўчых чытанняў (Мінск, 15 верас. 1998 г.). Мінск, 2000. С. 23—34.

[35] Прадвесце адраджэння // Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў. Мінск, 2007. Т. 2. С. 72.

[36] *Біч М.В.* Беларускае адраджэнне ў XIX — пачатку XX ст.: гістарычныя асаблівасці, узаемаадносіны з іншымі народамі. Мінск, 1993. С. 9.

[37] Прадвесце адраджэння... С. 96.

[38] Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, z dołączeniem pierwotwornych w mowie Sławiano-Krewickiej. Wilno, 1844. S. VII.

[39] Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idyotyzmy, w mowie Sławiano-Krewickiej, s postrzeżeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846. S. 32.

[40] Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мінск, 1977. С. 182.

[41] Як сведчыць Я. Янушкевіч, выдаўцом быў старэйшы сын Юзафа Адам (бацька памёр у 1838 г.). Гл.: *Янушкевіч Я.* Выдаўцы Завадскія // Роднае слова. 2006. № 8. С. 123.

[42] *Янушкевіч Я.* Кнігі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, або Наш Скарына XIX стагоддзя // Там жа. С. 124.

[43] Прадвесце адраджэння... С. 208.

[44] Тамсама.

[45] Кніга Беларусі 1517—1917: зводны кат. Мінск, 1986. С. 231.

[46] Тамсама. С. 255—258.

[47] *Гадлеўскі В.* Стагодьдзе новага беларускага друку (Да 100-х угодкаў выхаду ў сьвет беларускай катэхізмоўкі) // Калосьсе. Беларускі літаратурна-навуковы часапіс. Год I. Вільня, 1935. Кн. 3. С. 165—168.

[48] Прадвесце адраджэння... С. 69—70.

[49] Тамсама. С. 305.

[50] Заняпад і адраджэнне: беларуская літаратура XIX ст. Мінск, 2001. С. 320—330.

[51] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя. Мінск, 1971. С. 16.

[52] Прадвесце адраджэння... С. 302.

[53] Кніга Беларусі 1517—1917... С. 266.

[54] Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. Т. 3. М., 1958. С. 1018—1019.

[55] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова... С. 51.

[56] *Туронак Ю.* Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 22.

[57] *Ластоўскі В.* Выбраныя творы. Мінск, 1997. С. 415.

[58] *Туронак Ю.* Мадэрная гісторыя... С. 28—29.

[59] *Ластоўскі В.* Выбраныя творы... С. 415.

[60] *Туронак Ю.* Мадэрная гісторыя... С. 29.

[61] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова... С. 101.

[62] *Доўнар Л.* Кнігі Францішка Багушэвіча // Роднае слова. 2006. № 8. С. 78.

[63] *Біч М.В.* Беларускае адраджэнне ў XIX — пачатку XX ст. ... С. 14.

[64] *Wasilewski L.* Litwa i Białoruś: przeszłość — terazniejszość — tendencje rozwojowe. Kraków, 1912. S. 164.

[65] *Сакалова М.* «Народная воля» // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1999. Т. 5. С. 284.

[66] *Радзік Р.* Пецярбургскі «Гоман» як пачынальнік беларускай нацыянальнай ідэі ў XIX стагоддзі // Нацыянальныя пытанні: матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый». 1 сесія — 21—25 мая. 2 сесія — 4—7 снеж., Мінск, 2000. Мінск, 2001. С. 85 (Беларусіка=Albaruthenica, кн. 22).

[67] Назва гуртка пададзена паводле апошніх даследаванняў Ю. Туронка. Гл.: *Туронак Ю.* Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. Мінск, 2006. С. 46.

[68] *Туронак Ю.* Вацлаў Іваноўскі... С. 36—37. На с. 38—39 выдання змешчаны тэкст адозвы ў перакладзе на беларускую мову.

[69] Тамсама. С. 40.

[70] *Жылуновіч З.* Эволюцыя беларускае кніжкі // Полымя. 1925. № 1. С. 117—135.

[71] *Туронак Ю.* Вацлаў Іваноўскі... С. 49.

[72] Тамсама. С. 49—51.

[73] Тамсама.

[74] Тамсама.

[75] *Кайрыс С.* З маіх успамінаў пра Цётку // На суд гісторыі: Успаміны. Дыялогі. Мінск, 1994. С. 14—15.

[76] *Siemakowicz M.* Polityka władz rosyjskich, niemieckich i polskich wobec szkolnictwa białoruskiego w latach 1903—1922 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1997. S. 23—48.

[77] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова... С. 163.

[78] *Туронак Ю.* Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. Мінск, 2006. С. 62—63.

[79] *Доўнар Л.І.* Выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» // Роднае слова. 2006. № 8. С. 82—83.

[80] *Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў (1903—1928). Успаміны аб працы першых палітычных арганізацыяў: Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, Беларуская Сацыялістычная Грамада. Вільня, 1928. С. 32—33.

[81] *Кайрыс С.* З маіх успамінаў... С. 14.

[82] *Туронак Ю.* Вацлаў Іваноўскі... С. 56.

[83] *Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў... С. 35.

[84] *Александровіч С.* Гісторыя і сучаснасць: літаратурна-крытыч. арт. Мінск, 1968. С. 213.

[85] *Смалянчук А.* Беларуская ідэя ў кантэксце нацыястваральных працэсаў у Еўропе (пачатак XX стагоддзя) // Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя: матэрыялы IV Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў кантэксце культур Еўрапейскіх краін», Мінск, 6—9 чэрв. 2005 г. Мінск, 2006. С. 305 (Беларусіка=Albaruthenica, кн. 28).

[86] Наша Ніва. 1906. 10 ліст. (№ 1). С. 1.

[87] *Александровіч С.* Гісторыя і сучаснасць... С. 223.

[88] *Вітан К.* «Наша ніва» і Іван Луцкевіч // На суд гісторыі: Успаміны. Дыялогі. Мінск, 1994. С. 61.

[89] Наша Ніва. 1908, 11 вер. (№ 19). С. 5.

[90] *Кайрыс С.* З маіх успамінаў... С. 15.

[91] *Смалянчук А.* Беларуская ідэя... С. 306—307.

[92] *Біч М.* Беларускае Адраджэнне ў XIX — пачатку XX ст. ... С. 16.

[93] *Вітан К.* «Наша ніва» і Іван Луцкевіч... С. 62—64.

[94] *Александровіч С.* Гісторыя і сучаснасць... С. 249.

[95] *Вітан К.* «Наша ніва» і Іван Луцкевіч... С. 65.

[96] *Доўнар Л.І.* Віленскія выдавецтвы // Роднае слова. 2006. № 8. С. 94.

[97] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова... С. 143—144.

[98] З аб'яў газеты «Наша Ніва» ( № 2 за 17 ліст. 1906 г.; № 8 за 11 сак. 1908 г.).

[99] *Туронак Ю.* Мадэрная гісторыя... С. 191.

[100] Белорусское общество в Петрограде по оказанию помощи пострадавшим от войны. 1916—1918. Межархивный справочник. Минск, 2008.

[101] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из архива Министерства народного просвещения. Т. 1—4. Санкт-Петербург, 1893—1902. Т. 1. Санкт-Петербург, 1893. С. XVI.

[102] *Кеппен П.* Библиографические листы. 1825. № 25. Стлб. 415.

[103] *Гринченко Н.А.* Цензоры Вильно... С. 210—211.

[104] Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zesz. 5. Wielkie księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959. S. 15; Сборник материалов для истории просвещения... Т. 4. Вып. 1. Санкт-Петербург, 1902. Стлб. 366.

[105] Сборник материалов для истории просвещения... Т. 2. Санкт-Петербург, 1902. Стлб. 657—658.

[106] *Шалькевіч В.Ф.* Віленскі універсітэт // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1994. Т. 2. С. 288.

[107] Сборник материалов... Т. 2. Стлб. 661—662. Т. 3. Стлб. 681.

[108] *Шалькевіч В.Ф.* Віленскі універсітэт... С. 288.

[109] *Шулькина Г.* Виленское типографическое общество // Bibliotekinié-kystis ir bibliografija klausimai. Вильнюс, 1962. Т. 2. С. 147—162.

[110] *Чепене К., Петраускене И.* Издания типографии Вильнюсской академии, 1576—1805: библиогр. Вильнюс, 1979.

[111] *Шулькина Г.Я.* Роль Виленского университета в развитии книгоиздательского и книготоргового дела в первой трети XIX века // Труды Ленинградского института культуры. Ленинград, 1967. Т. 18. С. 283—299.

[112] *Семенников В.П.* Литературная и книгопечатная деятельность в провинции в конце XVIII — начале XIX веков. Санкт-Петербург, 1911. С. 4.

[113] НГАБ. Ф. 299. Воп. 1. Спр. 207. Арк. 98.

[114] *Доўнар Л.І.* Мінская губернская друкарня (Паводле архіўных матэрыялаў) // Матэрыялы Трэціх Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў «Кніга Беларусі: Повязь часоў» (Мінск, 16—17 верас. 2003 г.): матэрыялы канф. Мінск, 2005. С. 189—196.

[115] НГАБ. Ф. 265. Арк. 29—31.

[116] Тамсама. Арк. 305 адв.

[117] Тамсама. Арк. 25.

[118] *Умецкая Я.С.* Віцебская губернская друкарня // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1994. Т. 2. С. 323.

[119] *Пушкін І.* Магілёўская губернская друкарня // Там жа. Мінск, 1999. Т. 5. С. 19.

[120] Гродзенская губернская друкарня // Там жа. Мінск, 1996. Т. 3. С. 125.

[121] Крыніцай да вывучэння яе дзейнасці можа быць архіўны фонд матэрыялаў канцылярыі віленскага губернатара ў Літоўскім гістарычным архіве ў Вільні (ф. 380).

[122] *Виноградов А.А.* Путеводитель по городу Вильне и его окрестностям. Со многими рисунками и новейшим планом, составленным по Высочайше конфирмованному. Ч. 1—2. Вильна, 1908. С. 103.

[123] *Мархель У.І.* «Кур'ер Віленьскі» як крыніца для вывучэння гісторыі культуры Беларусі (1860—1862 гг.) // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. Минск, 1972. Вып. 2. С. 121—138.

[124] *Шибеко З.В.* «Обзоры» губерний как вид публикаций статистических материалов по истории Белоруссии (1875—1914 гг.) // История книги, источниковедение и библ. дело. Минск, 1984. С. 114—115.

[125] *Бярозкіна Н.Ю.* Гісторыя кнігадрукавання Беларусі... С. 99—100.

[126] Кніга Беларусі 1517—1917… С. 207—208.

[127] *Kadulska I.* Akademia Połocka. Ośrodek kultury na Kresach 1812—1820. Gdańsk, 2004. S. 308.

[128] *Самайлюк Т.А.* Выдавецкая дзейнасць ордэна езуітаў у Вялікім княстве Літоўскім XVIII ст. Полацкая друкарня езуіцкай акадэміі (1787—1820) // Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры: зб. навук. арт.: у 2 ч. Мінск, 2006. Ч. 1. С. 127—131.

[129] *Kaczorowski W., Sękowski R.* Drukarnia połocka w latach 1787—1820. Problemy badawcze i proba odtworzenia produkcji wydawniczej // Jezuicka ars historica: prace ofiarowane księdzu professorowi Ludwikowi Grzebieniowi SJ. Kraków, 2001. S. 228—229.

[130] *Умецкая Е.С.* История книгоиздательской деятельности Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX века: [деп. рукопись]. Минск, 1990. С. 277. Деп. в ИНИОН АН СССР, № 42400, от 13.7.1990; *Мальдзіс А.* Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі // Книга, библ. дело и библиография в Белоруссии. Минск, 1974. С. 134.

[131] Тамсама. На с. 88—89 вызначаны агульны лік падручнікаў — 200 назваў.

[132] Паводле *Kaczorowski W., Sękowski R.* Drukarnia połocka w latach 1787—1820... S. 232—234.

[133] *Умецкая Я.С.* Выданні на рускай мове: XIX — пачатак XX ст. // Кніга Беларусі, 1517—1917: зводны кат. Мінск, 1986. С. 278.

[134] ПСЗРИ. Т. 20. 1775—1780 гг. Санкт-Петербург, 1830. С. 434.

[135] *Tyszkiewicz K.* Pomniki rytownictwa krajowego. Oddział 1. Odciski z blach mniejszych, znajdujących się w bibliotece Łohojskiej Konstantego hrabi Tyszkiewicza. Wilno, 1858. S. 10.

[136] *Янушкевіч Я.* Выдаўцы Завадскія // Роднае слова. 2006. № 8. С. 123; *Cybulski R.* Józef Zawadzki — księgarz, drukarz, wydawca. Wrocław, 1972.

[137] *Корнилов И.П.* Русское дело в Северо-Западном крае. Материал для истории Виленского учебного округа преимущественно в Муравьевскую эпоху. Санкт-Петербург, 1901. С. 368.

[138] *Умецкая Е.С.* Из истории распространения книги в Белоруссии в начале XIX в. (1801—1832 гг.) // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Минск, 1980. С. 55.

[139] *Корнилов И.П.* Русское дело в Северо-Западном крае… С. 358, 369.

[140] «Wiadomosci Brukowe». Wybor artykulow. Wrocław; Warsawa; Kraków, 1962. S. 55.

[141] *Estreicher K.* Bibliografia polska. Część 1. XIX stólecie. (A—F). Kraków, 1870—1882. T. 1. 1872. 523, 48, III s.; T. II. 1874. 634 s.; T. 3. 1876. V, 608 s.; T. 4. 1878. IV, 629 s.; T. 5. 1870. 335 s.; T. 6. 1881. II, 577 s.; T. 7. 1882. 292 s.; Część 2. Chronologicznie zestawienie. 1800—1870. Kraków, 1885—1890. T. 10. 1885. VIII, 489, XXVIII s.; T. 11. 1890. IV, 400, 187 s.

[142] Materjały do dziejów literatury i oświaty na Litwie i Rusi. Z archiwum drukarni i księgarni Jozefa Zawadzkiego w Wilnie. Z lat 1805—1865. T. 1. Wilno, 1835.

[143] *Умецкая Е.С.* История книгоиздательской деятельности Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX века: [деп. рукопись]. Минск, 1990. С. 44.

[144] *Караў Дз.* Кіркор // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1997. Т. 4. С. 180.

[145] *Зямкевіч Р.* Адам Ганоры Кіркор (біягр.-бібліягр. нарыс у 25-летнюю гадавіну смерці). Вільня, 1911. С. 6.

[146] Тамсама. С. 7.

[147] ЦГА Літвы. Ф. 378 (1836). Спр. 1543. Арк. 199.

[148] *Пяткевіч А.М.* Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне. [Варшава], 2002. С. 39.

[149] *Умецкая Е.С.* История книгоиздательской деятельности Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX века: [деп. рукопись]. Минск, 1990. С. 45.

[150] *Grycezowa A.* Historyja książki i bibliotek oraz ich stan obecny w Polsce. Warszawa, 1959. S. 125.

[151] *Бярозкіна Н.Ю.* Гісторыя кнігадрукавання Беларусі... С. 80.

[152] Звесткі з рукапіснага тытульнага аркуша друкаванай кнігі «Samobójstwo czyli skutki wyniosłosci i uwiedzenia». РНБ, калекцыя «Россіка», шыфр 13.16.8.49.

[153] *Narbutt J.* Krotki rys pierwiastkowy Narodu Litewskiego z różnych dawnych autorów zebrany. Grodna, 1820.

[154] Краткая еврейская энциклопедия. Т. 4. Иерусалим, 1988. С. 378—381.

[155] *Бацяеў В., Доўнар Л.* Талмуд // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 2001. Т. 6, кн. 1. С. 497; *Сяльверстава-Куль С.* Гарадзенскі друкар Зымель Нахімовіч // Форум. Мінск, 1996. № 4. С. 38—40.

[156] *Abramowicz L.* Cztery wieki drukarstwa w Wilnie (1525—1925). Wilno, 1925. S. 108.

[157] *Кісялёў Г.* Радаводнае дрэва: Каліноўскі — эпоха — наступнікі. Мінск, 1994. С. 181.

[158] *Доўнар Л.* Не спяшайцеся залічваць да страчанага: мінскія нотныя выданні XIX ст. // Гісторыя выдавецкай дзейнасці ў Польшчы і Беларусі ў XVI—XX стагоддзях: зб. навук. арт. Мінск, 2003. С. 99—108.

[159] *Подлипский А.* Из истории книгоиздательства… С. 46.

[160] *Хмяльніцкая Л.* А.П.Сапуноў

[161] *Бярозкіна Н.Ю.* Гісторыя кнігадрукавання Беларусі... С. 102—103.

[162] *Умецкая Е.С.* Книга в Гродно (1861—1900 гг.) // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Минск, 1993. Вып. 14. С. 87.

[163] *Бярозкіна Н.Ю.* Гісторыя кнігадрукавання Беларусі... С. 118.

[164] Тамсама. С. 95.

[165] *Доўнар Л.* Кнігадрукаванне ў Брэсце // Берасцейскія кнігазборы. Брэст, 2010.

[166] [Кат.]. — Брест-Литовск, 1911. [12] с. (Брест. Евр. б-ка). На обл. загл.: Б-ка И. Рыбацкого в Брест-Литов-

ске. — КБ. С. 383. № 1036. — РНБ, РДБ, ЦНБ НАНБ (Фр 98 — м/ф).

[167] *Александровіч С. Х.* Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя. Мінск, 1971. С. 52.

[168] Тамсама. С. 56.

[169] *Слука А.Г.* Беларуская журналістыка: вуч. дап. Ч. 1. Мінск, 2000. С. 134.

[170] *Бонч-Асмалоўскі А.І.* Эпоха 1905 году // Полымя. 1925. № 6. С. 177.

[171] Тамсама. С. 187.

[172] Устав Минского музыкального товарищества. Минск, 1880. С. 5—6.

[173] *Довнар Л.И.* Минские издания на идиш и деятельность «Verlag Kultur» // Белорусский текст: от рукописи к электрон. книге (К Дню белорусской письменности, сент. 2008): [Электрон. рэсурс]: материалы Междунар. электрон. конференции // Институт славяноведения РАН, НАН Беларуси, ЦНБ им. Якуба Коласа; Электрон. дан. М., 2008. Рэжым доступу http://www.belrus-seminar2008.narod.ru/index.htm.

[174] *Zieńkiewicz T.* Polskie życie literackie w Mińsku w XIX i na początku XX wieku (do roku 1921). Olsztyn, 1997. С. 91.

[175] *Makowski W.* Wspomnienia starego księgarza na tle 52-letnich osobistych przeżyć. Młodym kolegom po fachu. Cz. 4. 1915—1920 // Przegląd Księgarski. Warszawa, 1925. № 20. S. 520.

[176] *Życka L., Łęska M.* Działalność popowstaniowa polaków ziemi Mińskiej: (materiały i wspomnienia). Warszawa, 1939. S. 182.

[177] *Умецкая Я.С.* Выданні на рускай мове, XIX — пачатак XX ст. // КБ. С. 289.

[178] *Ватацы Н.Б.* Выданні на беларускай мове, XIX — пачатак XX ст. // КБ. С. 198.

[179] Назва «Witolorauda» напісанай па-польску паэмы Ю. Крашэўскага складзена з імя Вітаўт і літоўскага слова rauda (ад raudoti — «плакаць»).

[180] Периодическая печать // Республика Беларусь: энцикл. Минск, 2005. Т. 1. С. 470.

[181] *Слука А.Г.* Беларуская журналістыка: вуч. дап. Ч. 1. Мінск, 2000. С. 60.

[182] *Пазднякоў В.* Газета // Вялікае княства Літоўскае: энцыкл. Мінск, 2005. Т. 1. С. 480.

[183] *Слука А.Г.* Беларуская журналістыка... С. 60.

[184] *Пазднякоў В.* Кур'ер Літэўскі // Вялікае княства Літоўскае: энцыкл. Мінск, 2006. Т. 2. С. 169.

[185] *Пазднякоў В.* Газэты Віленьске // Там жа. Мінск, 2005. Т. 1. С. 481.

[186] *Пазднякоў В.* Газэта Гродзеньска // Там жа. Мінск, 2005. Т. 1. С. 480.

[187] *Пазднякоў В.* Газэты Народова Віленьска // Там жа. Мінск, 2005. Т. 1. С. 480.

[188] *Скрабоцкі Я.* Авізы Гродзеньске // Там жа. Мінск, 2005. Т. 1. С. 200.

[189] *Саламевіч Я.* Календары // Там жа. Мінск, 2006. Т. 2. С. 19.

[190] Тамсама.

[191] *Мальдзіс А.І.* Календары, выдадзеныя ў Беларусі ў XVIII ст. // Книговедение в Белоруссии. Минск, 1977. С. 65—68.

[192] Браты Ром (выдавецтва і друкарня ў Вільні на тагачаснай Царкоўнай вуліцы, 2, рог Глухога завулка), друкавалі на рускай, польскай, літоўскай і яўрэйскай мовах (манаполія ў Расіі да 1862 г.); выдавецтва і друкарня А. Сыркіна ў Вільні у 1860-я гг. знаходзіліся на Нямецкай вуліцы.

[193] *Булгак Я.* Край дзіцячых гадоў. Мінск, 2004. С. 284.

[194] Прадвесце адраджэння... С. 113.

[195] *Rouba N.* Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilno, S.a. [1909]. S. 3.

[196] Pamiętnik magnetyczny wileński. № 1—12. Wilno, 1816—1818.

[197] Тамсама. № 1. Wilno, 1816. S. 77—83.

[198] *Слука А.Г.* Беларуская журналістыка... С. 76.

[199] Прадвесце адраджэння... С. 114.

[200] Тамсама. С. 115.

[201] *Слука А.Г.* Беларуская журналістыка… С. 86.

[202] Тамсама. С. 100.

[203] Тамсама. С. 120—133.

[204] *Радик Р.* Петербургские народники — творцы современной белорусской национальной идеи // Белорусский сборник. Санкт-Петербург, 2005. Вып. 3. С. 75—86.

[205] *Говін С.В.* Канфесійны друк Беларусі. Мінск, 2008. С. 47—57.

[206] Тамсама. С. 57.

[207] *Слука А. Г.* Беларуская журналістыка... С. 161.

[208] Газеты Беларусі 1776—1975: бібліягр. паказ. Мінск, 2003.

[209] *Слука А. Г.* Беларуская журналістыка... С. 193.

[210] Тамсама. С. 196.

[211] Тамсама. С. 221.

[212] Белорусское общество в Петрограде по оказанию помощи пострадавшим от войны. 1916—1918: межархивный справ. Минск, 2008.

[213] [*Пржецлавский О.А.*] Калейдоскоп воспоминаний Ципринуса (псевдоним). Вып. 1. М., 1874. С. 68 друг. паг.

[214] *Рейтблат А.И.* Видок Фиглярин. Письма и агентурные записки Ф.В. Булгарина в III Отделение. М., 1998. С. 301.

[215] *Мохначева М.П.* Журналистика в контексте наукотворчества в России XVIII—XIX вв. М., 1998. С. 160—161.

[216] Несколько замечаний на последнюю польскую революцию. Санкт-Петербург, 1831. С. 58.

[217] Тамсама. С. 63—70.

[218] Collectanea z dziejopisow Tureckich rzeczy do historyi Polskiey sluzących. T. 1—2. Warszawa, 1824—1825.

[219] Рэцэнзія на кнігу Кацэбу пра Свідрыгайлу. *Сенковский О.* Собрание соч. Т. 6. С. 45.

[220] *Гарэцкі М.* Гісторыя беларускае літаратуры. Мінск, 1992. С. 198.

[221] Маяк. 1843. Т. 9, кн. 18. С. 33—38. Передрукавана ў кн.: Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мінск, 1977. С. 8—12.

[222] *Рейтблат А.* Булгарин и Сенковский: ранний период взаимоотношений // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе: зб. да 75-годдзя праф. Адама Мальдзіса. Мінск, 2007. С. 206.

[223] *Рейтблат А.И.* Видок Фиглярин. Письма и агентурные записки Ф.В.Булгарина в III Отделение. М., 1998. С. 122.

[224] *Лемке М.* Николаевские жандармы… С. 303.

[225] Тарас на Парнасе. Народная паэма. Мінск, 1993. С. 15. Гэты фрагмент дазволіў удакладніць дату напісання паэмы: антыгогалеўскі фельетон Булгарына з разборам кнігі П.Куліша «Спроба біяграфіі Гогаля», надрукаваны ў «Паўночнай пчале» ў 1854 г. Гл.: *Букчын С.У.* Час нацыянальнага пошуку // Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей. Кніга 1. Мінск, 1993. С. 402.

[226] *Матяш С.А.* О европейском и русском источниках «Бородина» Лермонтова // РЛ. 1992. № 3. С. 112—121.

[227] *Нікалаеў М.* Беларускі Пецярбург. Санкт-Пецярбург, 2009. С. 90—91.

[228] *Kułakowski I.* Wspomnienia Piotrogrodu. SPB., 1836.

[229] *Баренбаум И.Е.* Иосафат Огрызко. (1826—1890). Очерк лит.-изд. деятельности. М., 1964.

[230] *Шерих Д.Ю.* Голос родного города. Очерк истории газеты «Санкт-Петербургские ведомости». Санкт-Петербург, 2001. С. 140—150.

[231] *Brensztejn M.* Adam-Honory Kirkor wydawca, redaktor i wlasciciel drukarni w Wilnie od roku 1834 do 1867. Wilno, 1930.

[232] Как возникла газета «Новое время» (страничка из истории публицистики) // Вестник всемирной истории. 1899. Декабрь. № 1. С. 156—159.

[233] Филарета митрополита московского и коломенского творения. М., 1994. С. 347.

[234] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 3. Канец XVIII — пач. XX ст. Мінск, 1989. С. 108.

[235] *Сидоров А.А.* История оформления русской книги. М.; Ленинград, 1946. С. 212—213.

[236] *Рынкевіч У.* Ад віленскай майстэрні пачатак: да 200-годдзя беларускай прафесійнай графікі // Мастацтва. 2005. № 2. С. 47.

[237] *Рынкевіч У.* Пачынальнік вучонага гравёрства на Беларусі. Жыццё і творчасць Міхала Падалінскага // Роднае слова. 2004. № 8. С. 86—87.

[238] *Дробаў Л.Н.* Графіка Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзя. Мінск, 2000. С. 24.

[239] *Рынкевіч У.* Ад віленскай майстэрні... С. 47.

[240] *Кісялёў Г.* Радаводнае дрэва: Каліноўскі — эпоха — наступнікі. Мінск, 1994. С. 181.

[241] Тамсама.

[242] *Кісялёў Г.* Радаводнае дрэва... С. 182.

[243] *Дробов Л.Н.* Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Минск, 1974. С. 308.

[244] *Stolzman M.* Nigdy od ciebie miasto... Dzije kultury wileńskiej lat międzypowstaniowych (1832—1863). Olsztyn, 1987. S. 203.

[245] Тамсама. S.194.

[246] Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мінск, 1977. С. 82.

[247] *Доўнар Л.* Вобразы, родныя па духу жыцця і творчасці: мастацтва афармлення беларускай кнігі XIX — пач. XX ст. // Роднае слова. 2007. № 8. С. 80—86.

[248] *Дробаў Л.Н.* Графіка Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзя. Мінск, 2000. С. 19—23.

[249] *Мороз Д.* Первый иллюстратор // Свіцязь: альманах библиофилов Белоруссии. Минск, 1989. С. 175.

[250] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя. Мінск, 1971. С. 128—129.

[251] *Орлова М.* Искусство Советской Белоруссии. М., 1960. С. 145.

[252] *Бабук В.А.* Выдавецкая дзейнасць Віленскай навучальнай акругі па матэрыялах Аддзела рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі // Белорусский сборник: ст. и материалы по истории и культуре Белоруссии. Санкт-Петербург, 1998. Вып. 1. С. 129—130.

[253] Пачынальнікі... С. 34.

[254] *Березкина Н.Ю.* Роль печати в распространении научных знаний в Белоруссии, 1861—1917 гг. Минск, 1990. С. 25—26.

[255] Гісторыя беларускага мастацтва... С. 370.

[256] Тамсама.

[257] *Жылуновіч З.* Эволюцыя беларускае кніжкі // Полымя. 1925. № 1. С. 118.

[258] Тамсама.

[259] *Батвіннік М.* Азбука на ўсе часы. Мінск, 2003. С. 204.

[260] Гісторыя беларускага мастацтва... С. 375.

[261] *Жылуновіч З.* Эволюцыя беларускае кніжкі // Полымя. 1925. № 1. С. 119—120.

[262] Гісторыя беларускага мастацтва... С. 380.

[263] Тамсама. С. 376.

[264] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова... С. 146.

[265] Кніга Беларусі, 1517—1917... Мінск, 1986. С. 230—231.

[266] Тамсама. С. 241.

[267] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова... С. 238.

[268] Тамсама.

[269] Тамсама. С. 141.

[270] У 1859 г. К. Касовіч у справаздачы аб наведвальніках бібліятэкі зрабіў такі запіс: «…Не схавалася ад майго назірання адна асоба, гэта бабулька старэчых гадоў, са зморaным і хваравітым тварам; вёў яе чыноўнік сын, малады чалавек гадоў 25-ці з медалём на Уладзімірскай ленце, з чаго раблю выснову, што яны прыежджыя. З размовы паміж імі відаць, што яны з беларускіх губерняў. Глянуўшы на гэтую няшчасную развaліну, можна падумаць: «навошта гэта ж яна прыцягнулася сюды?» Але не. Гэтыя сын і маці, што наведалі ўчора Бібліятэку, хіба не лепшае склалі ёй упрыгожанне ў гэты дзень, калі Бібліятэка красуецца перад Грамадствам: сын прывёў сюды маці, якой дні ўжо палічаны на зямлі, для таго,

